УДК 947.6“17/18”
ББК 63.3(4 Беи)
С65

Рэкамендавана да выдання:
Навуковай радай Інстытута гістарычных даследаванняў Беларусі ЕГУ
(пратакол № 2 ад 31 мая 2009 г.);
Рэдакцыйна-выдавецкім саветам ЕГУ
(пратакол № 10 ад 26 жніўня 2009 г.)

Рэцэнзенты:
*Смілавіцкі Л.Л.*, доктар гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік
Цэнтра дыяспары пры Тэль-Авіўскім універсітэце;
*Кіштымаў А.Л.*, кандыдат гістарычных навук, дацэнт
Інстытута прадпрымальніцтва і парламентарызму

Навуковы рэдактар:
*Шыбека З.В.*, доктар гістарычных навук, прафесар

EUROPEAN HUMANITIES UNIVERSITY
EHUTF TRUST FUND

Выданне здзейснена пры фінансавай падтрымцы Трastавага фонду
Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта

**Іна Соркіна**

С65 Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. – Вільня : ЕГУ, 2010. – 488 с.

ISBN 978-9955-773-33-7.

У манаграфіі комплексна даследуюцца мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. На падставе прац айчынных і замежных аўтараў, архіўных дакументальных крыніц, картаграфічных матэрыялаў, мемуараў, перыядычнага друку аналізуюцца пытанні, звязаныя з палажэннем мястэчак у структуры населеных пунктаў Беларусі, асаблівасцямі іх функцыяніравання, сацыяльна-дэмаграфічнай, этнаканфесійнай сітуацыі, роляй гэтых паселішчаў у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Беларусі ў азначаны перыяд.

Кніга будзе цікавая і карысная для навукоўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, усіх, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі.

**УДК 947.6“17/18”**
**ББК 63.3(4 Беи)**

**ISBN 978-9955-773-33-7**

# Змест

# Content

*Маёй маці Ліне Антонаўне Вайкуль*
*і светлай памяці бацьку*
*Валерыю Міхайлавічу Пуставому*
*прысвячаю гэтую кнігу*

# Уводзіны

Мястэчкі займалі своеасаблівае месца ў гістарычнай сістэме паселішчаў Беларусі. Яны вялі сваю гісторыю з XIV–XV стст. і адыгрывалі надзвычай важную ролю ў развіцці беларускіх зямель, выконваючы адмысловыя эканамічныя, адміністрацыйныя і культурныя функцыі. Мястэчкі, як паселішчы пераходнага стану паміж вёскай і горадам, арганічна паяднален ў сабе ўклад вясковага і гарадскога жыцця, побыт селяніна і гараджаніна. Для свайго часу мястэчка – гэта, магчыма, самы дасканалы і гарманізаваны тып паселішчаў. Яно – паміж вёскай і горадам, не адарванае ад іх, а таму спалучае ўсё лепшае з двух бакоў – і здаровы дух прыроды, і здабыткі гарадской цывілізацыі.

Паколькі мястэчкі ўвабралі ў сябе рысы як вёскі, так і тыповага гандлёва-рамесніцкага асяродка, яны найбольш поўна адлюстроўвалі асаблівасці станаўлення эканамічнага горада ў эпоху Сярэднявечча, яго нятоеснасць гораду сучаснаму. Як першая стадыя эвалюцыі ад вёскі да горада, мястэчкі дазваляюць прасачыць генезіс, прычыны і ўмовы ўзнікнення буйных гарадскіх цэнтраў. Урэшце, мястэчкі аказвалі велізарнае ўздзеянне на фарміраванне эканамічнага, палітычнага і культурнага аблічча Беларусі на працягу ўсяго перыяду іх функцыяніравання.

Мястэчкі цікавыя і тым, што поліэтнічнасць іх насельніцтва абумоўлівала шматнацыянальны характар местачковай культуры. У мястэчках суіснавалі як мінімум два культурныя асяродкі – габрэйскі і беларускі. У многіх мястэчках меліся польскія, татарскія, рускія і нямецкія асяродкі. Тут сутыкаліся і ўзаемадзейнічалі розныя веры (праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая, пратэстанцкая, іудзейская, ісламская), этнасы (беларусы, палякі, габрэі, татары, рускія), мовы (беларуская, польская, ідыш, руская). Мястэчка выступала як унікальная форма спакойнага, талерантнага прадуцыравання і сужыцця некалькіх нацыянальных культур, як спецыфічная

лабараторыя іх інтэнсіўных узаемасувязей і ўзаемаўзбагачэння, выпрацоўкі на гэтай аснове своеасаблівага феномена – поліэтнічнай, поліканфесійнай, полілінгвістычнай местачковай культуры[1]. Часцей за ўсё культурны ландшафт мястэчка ўяўляў сабою перапляценне, сімбіёз трох культур – артадаксальнай габрэйскай, шляхецкай польскай (ці ліцвінскай) і сялянскай беларускай. У адзіным працэсе функцыяніравання гэтых паселішчаў узаемадзейнічалі розныя этнасы. Гэта стварала своеасаблівасць гаспадарчага і сацыяльна-культурнага жыцця, непаўторную атмасферу сусвету мястэчка, унікальныя формы зносін паміж людзьмі. Мястэчка, такім чынам, – вельмі цікавы культурна-гістарычны феномен нашага мінулага. Даследаванне гэтых паселішчаў дае унікальную магчымасць зазірнуць у своеасаблівы местачковы сусвет, адчуць непаўторныя атмасферу і каларыт, што ствараліся на тым міжцывілізацыйным памежжы, якое ўяўляла сабой кожнае поліэтнічнае і поліканфесійнае мястэчка.

Храналагічныя межы даследавання ахопліваюць канец XVIII – першую палову XIX ст. У 1772–1795 гг. у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя Беларусі апынулася ў складзе абсалютысцкай Расійскай імперыі. Гэта адбілася на лёсе ўсяго насельніцтва, аказала ўплыў на ўсе бакі яго жыцця, а таксама на развіццё гарадоў і мястэчак Беларусі. Верхняй мяжой даследавання можна лічыць 1860 г., які завяршае гісторыю дарэформеннай, феадальнай Расіі. Працэсы, звязаныя з буржуазнымі рэформамі, развіццём капіталістычнай эканомікі, у тым ліку чыгуначнага транспарту, істотна паўплывалі на функцыяніраванне мястэчак і даюць падставы для датавання пачаткам 60-х гг. XIX ст. новага этапу ў гісторыі гэтых паселішчаў. Выкарыстанне ў дадзенай манаграфіі матэрыялаў больш ранняга ці позняга часу, якія выходзяць за межы 1772 – 1860 гг., абумоўлена неабходнасцю паказаць вытокі ці наступствы той ці іншай гістарычнай з'явы альбо падзеі.

На перыяд канца XVIII – першай паловы XIX ст. прыпадаюць працэсы развіцця капіталістычных адносінаў, трансфармацыі традыцыйнага феадальна-прыгонніцкага грамадства ў прынцыпова новую якасць – індустрыяльную цывілізацыю. З аднаго боку, завяршаўся працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкага ладу як у горадзе, так і ў вёсцы; з другога – складваліся перадумовы для зацвярджэння капіталістычнага спосабу ў прамысловай і сельскага-

[1] Рагойша, В. Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава) / В. Рагойша // На шляхах да ўзаемаразумення. Беларусіка. Кн.15. Мінск, 2000. С. 62.

спадарчай вытворчасці. Гэтыя перамены, безумоўна, адбіваліся на ўсіх сферах сацыяльна-эканамічнага жыцця беларускіх мястэчак. Разам з гэтым самі мястэчкі набывалі значэнне генератара і носьбіта тых новых працэсаў, якія адыгралі ролю ў разлажэнні феадалізму і фарміраванні капіталістычнага ўкладу.

На сацыяльна-эканамічнае развіццё мястэчак у разглядаемы перыяд паўплываў фактар знаходжання ў эканамічна адсталай Расіі, якая ўвасабляла сабой даганяючы тып мадэрнізацыі, дзе перажыткі даўніны выяўляліся найбольш моцна, эканамічныя рэформы праводзіліся са спазненнем, непаслядоўна. Гэта не магло не адбіцца на тэмпах, формах і выніках як мадэрнізацыі беларускіх зямель у цэлым, так і працэсаў развіцця гарадскіх паселішчаў у прыватнасці. З. Шыбека паказаў, што ў складзе Расіі мясцовыя гарады трапілі ў яшчэ больш складаныя ўмовы развіцця, чым раней, што не спрыяла росквіту гарадскіх цэнтраў. Аднак рост гарадоў не прыпыняўся. Іх функцыю выконвалі непрызнаныя гарады – мястэчкі. Урбанізацыя набывала неафіцыйны характар[2].

Моцная дэфармацыя урбанізацыйных працэсаў на тэрыторыі Беларусі адбывалася і ў сувязі з гвалтоўным высяленнем габрэяў царскім урадам з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі. У выніку палітыкі штучнай "урбанізацыі" габрэяў у заходніх губернях фарміраванне гарадскога насельніцтва Беларусі ішло не столькі эканамічным, колькі адміністрацыйным шляхам.

Перыяд канца XVIII – першай паловы XIX ст. цікавы таму, што ўрадавыя абмежавальныя меры (увядзенне "мяжы аселасці", высяленне габрэяў з сельскай мясцовасці) прывялі не толькі да канцэнтрацыі габрэяў у гарадах і мястэчках, але і да кансервацыі традыцыйнай габрэйскай культуры і ўкладу жыцця. Мястэчка пераўтварылася ў асяродак габрэйскай гісторыі рэгіёна, культурнай творчасці габрэяў. У той жа час многія мястэчкі, якія былі цэнтрамі магнацкіх латыфундый і шляхецкіх маёнткаў, выступалі і асяродкамі шляхецкай (польскай ці ліцвінскай) культуры. У акрэслены час на тэрыторыі Беларусі і іншых землях заходняй паласы Расіі адбывалася канчатковая крышталізацыя новай і дастаткова спецыфічнай сацыякультурнай мадэлі мястэчка, чаго, відаць, не назіралася на іншых землях былой Рэчы Паспалітай, дзе дзейнічаў іншы комплекс палітычных і сацыяльна-эканамічных фактараў.

---

[2] Шыбека, З.В. Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет. Курс лекцый / Захар Шыбека. Вільня, 2009. С. 117–125.

Геаграфічныя межы даследавання вызначаны тэрыторыяй сучаснай Беларусі. У асобных выпадках, калі рабіць падлікі па сучасных межах рэспублікі складана, прыводзіцца матэрыял па ўсіх мястэчках пяці заходніх губерняў Расіі, куды ўваходзілі землі Беларусі. Для паказу некаторых агульных тэндэнцый развіцця мястэчак альбо пэўных цікавых фактаў прыцягваліся і сюжэты з гісторыі мястэчак, якія сёння апынуліся па-за палітычнымі межамі Беларусі.

Такім чынам, вывучэнне мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. уяўляецца надзвычай актуальным і важным. Між тым айчынная гістарыяграфія гэтай тэмы даволі сціплая: абагульняючых прац на сённяшні дзень увогуле няма. Сацыяльна-эканамічнае развіццё мястэчак у дадзены перыяд у айчыннай гістарыяграфіі даследавалася, як правіла, у агульнагарадскім рэчышчы; культурнае развіццё засталося па-за межамі ўвагі даследчыкаў, імі разглядаліся толькі асобныя бакі гэтай праблемы.

Новым перспектыўным накірункам даследаванняў становіцца сёння вывучэнне гісторыі асобных мястэчак. Лакальная гісторыя набывае навуковы характар, паўаматарскае краязнаўства ператвараецца ў прафесійную рэгіяналістыку. Пра гэта сведчыць шэраг кніг, выдадзеных у апошнія гады ў Беларусі, дзе мікрагісторыя канкрэтных мястэчак створана на падставе грунтоўнага фундаменту гістарычных крыніц (як, напрыклад, праца Германа Брэгера пра Хацюкова), новых метадалагічных падыходаў (даследаванне Сяргея Данскіх, прысвечанае Шчучыну). Своеасаблівымі энцыклапедыямі гісторыі габрэйскага жыцця, цесна звязанага з жыццём іншых народаў, агульнымі гістарычнымі працэсамі, з'яўляюцца кнігі, прысвечаныя Рэчыцы (Алберт Кагановіч) і Тураву (Леанід Смілавіцкі).

Пры напісанні дадзенай манаграфіі аўтар абапіралася на дасягнуты ўзровень навуковых ведаў па вывучаемай тэме: на працы айчынных (Юрый Бохан, Афроім Карпачоў, Анатоль Люты, Валянціна Чапко, Захар Шыбека, Андрэй Кіштымаў, Вячаслаў Швед, Максім Болбас, Мікалай Раманоўскі, Мікалай Улашчык, Яўген Анішчанка, Вольга Сабалеўская, Уладзімір Пасэ, Аляксандр Лакотка і інш.) і замежных (Ежы Ахманьскі, Станіслаў Александровіч, Ванда Рэвеньская, Джон Кліер, Дэвід Фішман, Шауль Штампфер, Леанід Смілавіцкі, Альберт Кагановіч, Ала Сакалова і інш.) даследчыкаў, якія закранулі пэўныя аспекты ўзнятай праблемы.

Крыніцазнаўчую базу даследавання склалі матэрыялы разнастайных статыстычных зборнікаў, выдадзеных ў Расійскай імперыі, перыядычнага друку, навуковых выданняў дакументаў

па гісторыі Беларусі, архіўныя матэрыялы. Сярод крыніц галоўнае месца займаюць дакументы фондаў рэспубліканскіх архіваў: Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску і Гродне (НГАБ, НГАБ у Гродне). Істотна папаўняюць базу даследавання дакументы Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва (РДГА) у Санкт-Пецярбургу, Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (РДАСА) і Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (ДАРФ) у Маскве, Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве (AGAD), Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы (ДГА Літвы), Цэнтральнага архіва гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме, Аддзелаў рукапісаў навуковай бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта і Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Літвы, а таксама Аддзелаў рукапісаў бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве, Ягелонскага універсітэта. Многія архіўныя дакументы ўпершыню ўведзены ў навуковы ўжытак.

У манаграфіі зроблена спроба шырокага комплекснага даследавання мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст., падсумаваны погляды гісторыкаў на дадзеную праблему, абагулены вядомыя звесткі, прыведзены новыя матэрыялы і высновы, якія дазваляюць паўней зразумець ролю і пазіцыю мястэчак у нашай гісторыі. Нягледзячы на ўсе намаганні аўтара, шматграннасць вывучаемай праблемы, нявычарпанасць крыніц робяць яе адкрытай для далейшых даследаванняў.

Напісанне і выданне гэтай кнігі стала вынікам падтрымкі і дапамогі з боку шэрага ўстаноў, а таксама маіх калег і сяброў, якім хочацца выказаць словы шчырай удзячнасці. Я многім абавязана Гродзенскаму дзяржаўнаму універсітэту імя Янкі Купалы, на гістарычным факультэце якога я вучылася і працую. Мая даўняя зацікаўленасць гісторыяй мястэчак звязана з тэматыкай дыпломнага і дысертацыйнага даследаванняў, навуковым кіраўніком якіх з'яўляўся Іван Платонавіч Крэнь. Праца ў архівах Польшчы, Літвы, Расіі, Ізраіля стала магчымай дзякуючы падтрымцы Цэнтра навуковых работнікаў і выкладчыкаў іудаікі ў ВНУ “Сэфер” (Масква); касы імя Юзафа Мяноўскага Фонду падтрымкі навукі (Варшава); Нямецкага гістарычнага інстытута ў Варшаве; Амерыканскай асацыяцыі навуковых арганізацый (ACLS). Падчас маіх стажыровак у Варшаве маімі кансультантамі былі Элеанора Бергман, Барбара Стэмпнеўская-Холзэр, Юрый Гардзееў; у Маскве – Вікторыя Мачалова, Вольга Бялова, Ірына Сяргеева, Аляксандр Лакшын, Дзмітрый Фельдман, Валерый Дымшыц, Ала Сакалова; у Іерусаліме – Шауль Штампфер, Ілля Лур'е, Рыгор Казоўскі, Аркадзій Зельцер. Даўнія навуковыя і

сяброўскія кантакты звязваюць мяне з навуковым рэдактарам кнігі Захарам Шыбекам, афіцыйнымі рэцэнзентамі Андрэем Кіштымавым і Леанідам Смілавіцкім, якія сваімі каштоўнымі парадамі дапамаглі ў дапрацоўцы манаграфіі. Я вельмі ўдзячна за слушныя заўвагі і пажаданні ўсім удзельнікам абмеркавання рукапісу маёй працы: Вользе Сабалеўскай, Юрыю Гардзееву, Ліліі Коўкель, Сяргею Токцю, Віталю Карнелюку, Валянціну Голубеву, Ірыне Раманавай, Генадзю Семянчуку і Ірыне Кітурцы. Дзякую Сяргею Харэўскаму за дапамогу ў мастацкім афармленні кнігі, а Таццяне Казак – за пераклад на англійскую мову зместу і рэзюмэ. Выказваю шчырую ўдзячнасць кіраўніцтву ЕГУ і асабліва дырэктару Інстытута гістарычных даследаванняў Беларусі Аляксандру Смаленчуку, бо іх падтрымка зрабіла магчымым выданне гэтай кнігі.

E-mail аўтара: ina.sorkina@gmail.com

# 1. Гістарыяграфія і крыніцы

## 1.1. Гістарыяграфія

Здаецца, такая цікавая і заманлівая з’ява нашай гісторыі, як мястэчкі, павінна прыцягваць да сябе ўвагу навукоўцаў. Аднак спецыяльных даследаванняў пра мястэчкі Беларусі няшмат. Пачнём гістарыяграфічны агляд праблемы з аналізу ***прац беларускіх і польскіх вучоных***, прысвечаных менавіта мястэчкам.

Грунтоўна вывучаў беларускія і літоўскія мястэчкі XV–XVII стст. польскі гісторык С. Александровіч, якому належыць шэраг выдадзеных у 1961–1970 гг. публікацый, прысвечаных генезісу і сацыяльна-эканамічнаму развіццю гэтых паселішчаў[1]. Пазней даследчык звярнуўся і да культурных аспектаў функцыяніравання беларускіх мястэчак[2]. Аўтар прааналізаваў прычыны, умовы і шляхі ўзнікнення мястэчак на землях Вялікага Княства Літоўскага, фарміраванне іх насельніцтва, гандлёвыя функцыі, рамесніцкія заняткі жыхароў. Акрамя таго, С. Александровічам вызначаны найбольш характэрныя рысы мястэчак, якія адрознівалі іх ад вёсак і ад гарадоў. Даследчык прапанаваў уласную класіфікацыю населеных пунктаў гарадскога тыпу ў залежнасці ад ступені заселенасці.

Першае спецыяльнае даследаванне пра мястэчкі з’явілася ў Беларусі толькі ў 1994 г. – дысертацыйная праца Ю. Бохана, прысве-

---

[1] Aleksandrowicz, S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII w. / S. Aleksandrowicz // Rocznik Białostocki. T.1. Białystok, 1961. S. 63–130; Aleksandrowicz, S. Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) / S. Aleksandrowicz // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Adama Mickiewicza. Historia. Z. 6. Poznań, 1964. S. 23–54; Aleksandrowicz, S. Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i w I połowie XVII w. / S. Aleksandrowicz // Rocznik dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1966. S. 35–67; Aleksandrowicz, S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. / S. Aleksandrowicz // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7. S. 47–108.

[2] Aleksandrowicz, S. Rola miast i miasteczek w przemianach kulturalnych i językowych na ziemiach Białorusi w XVI–XVIII w. / S. Aleksandrowicz // Наш Радавод. Кн. 7. Гродна, 1996. С. 243–248.

чаная мястэчкам вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV–XVIII стст.[3] На прыкладзе разглядаемага рэгіёна аўтар высветліў становішча мястэчак у структуры гарадскіх пасяленняў Беларусі XV–XVIII стст., усебакова прааналізаваў іх сацыяльна-эканамічнае развіццё, планіроўку і матэрыяльную культуру. На жаль, даследаванне Ю. Бохана не апублікавана.

У 1998 г. у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі аўтар дадзенай кнігі абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме развіцця мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.[4]

У сувязі з актывізацыяй даследаванняў лакальнай гісторыі ў Беларусі створаны цікавейшыя гістарычныя нарысы шэрага мястэчак[5]. Праца С. Данскіх пра Шчучын вылучаецца наватарскім падыходам да гістарычна-краязнаўчых даследаванняў: аўтар стварае “дынамічна-экзістэнцыяльна-антрапалагічную” мадэль развіцця Шчучына[6]. Г. Брэгер зрабіў грунтоўнае даследаванне гісторыі Хацюкова[7]. Калектывам аўтараў (пры найбольшым укладзе Сяргея Токця) на шырокай крыніцазнаўчай базе напісана праца, прысвечаная 500-гадовай гісторыі Скідзеля[8].

Асобныя аспекты развіцця беларускіх мястэчак разглядаюцца ў агульнагарадскім рэчышчы ў працах гісторыкаў-урбаністаў: З. Капыскага, А. Грыцкевіча, А. Карпачова, В. Чапко, А. Лютага, З. Шыбекі, Е. Ахманьскага і інш.

Сацыяльна-эканамічнай дзейнасці беларускіх гарадоў XVI–XVIII стст. прысвечаны манаграфіі З. Капыскага і А. Грыцкевіча[9]. Ня-

---

3 Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV–XVIII ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): Дыс. … канд. гіст. навук / Ю.М. Бохан. Мінск, 1994.

4 Соркіна, І.В. Роля мястэчак у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: Дыс. … канд. гіст. навук / І.В. Соркіна. Гродна, 1998 (навуковы кіраўнік – прафесар Іван Платонавіч Крэнь); дадзеная кніга істотна адрозніваецца ад рукапісу дысертацыі: значна пашырана крыніцазнаўчая база і бібліяграфія, выкарыстаны 10-гадовы досвед далейшага даследавання праблемы мястэчак.

5 Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш / М. Скобла. Мінск, 1999; Камінскі, А. Пад хвалямі Крэўскага мора / А. Камінскі. Маладзечна, 2002 і інш.

6 Данскіх, С.У. Наш Шчучын / С.У. Данскіх. Гродна, 2001.

7 Брэгер, Г. Хацюкова. Гісторыя невялікага паселішча / Г. Брэгер. Мінск, 2001.

8 Скідзель. 500 год гісторыі / І. Барысаў, М. Дзелянкоўскі, А. Вашкевіч, Д. Люцік, Я. Лялевіч, З. Сямашка, С. Токць. Гродна, 2008.

9 Копысский, З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI–XVII вв.) / З.Ю. Копысский. Минск, 1966; Копысский, З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. / З.Ю. Копысский. Минск, 1975; Грицкевич, А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI – XVIII вв. /

гледзячы на тое што асноўная ўвага ўдзяляецца буйным і сярэднім гарадам, закранаецца праблема мястэчак, іх спецыфіка. Даследчыкі прыводзяць звесткі аб рамесніцкіх і сельскагаспадарчых занятках местачкоўцаў, гандлёвых сувязях, колькасці рамесніцкіх спецыяльнасцей, колькасці двароў, прававым статусе, а таксама павіннасцях жыхароў і некаторых іншых момантах становішча і дзейнасці шэрага мястэчак.

Некаторыя пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця мястэчак, асабліва іх гандлёвай дзейнасці, закранаў у рамках агульнага вывучэння беларускіх гарадоў XVII–XVIII стст. А. Карпачоў[10]. Асобны параграф яго вялікай працы прысвечаны параўнальнаму аналізу горада і мястэчка, пошуку спецыфічных рыс апошняга.

Да пытання аб спецыфіцы мястэчак у параўнанні з горадам звярталіся польскія гісторыкі Е. Ахманьскі[11] і З. Кулееўская-Тапольская[12].

Нягледзячы на тое што даследаванні С. Александровіча, Е. Ахманьскага, З. Кулееўскай-Тапольскай, Ю. Бохана, З. Капыскага, А. Грыцкевіча, А. Карпачова датычаць перыяду Вялікага Княства Літоўскага, многія іх матэрыялы і высновы (трактоўка паняцця "мястэчка", характарыстыка іх функцый і асаблівасцей развіцця ў XV–XVIII стст.) актуальныя для вывучэння эвалюцыі мястэчак у часы знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі.

У манаграфіі В. Чапко[13] даследуецца сацыяльна-эканамічнае развіццё гарадоў Беларусі ў першай палове XIX ст., значная ўвага пры гэтым удзяляецца мястэчкам. На думку даследчыцы, яны адыгрывалі прыкметную ролю ў гаспадарчым жыцці, і таму іх вывучэнне з'яўляецца неад'емнай часткай даследавання гісторыі развіцця гарадоў.

Шмат увагі аналізу сацыяльна-эканамічнага жыцця беларускіх мястэчак канца XVIII – першай паловы XIX ст. удзяліў А. Люты[14]. У яго

А.П. Грицкевич. Минск, 1975.

[10] Карпачев, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в.: Дис. … доктора ист. наук / А.М. Карпачев. Минск, 1970.

[11] Ochmański, J. W kwestii agrarnego charakteru miast Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI w. / J. Ochmański // Studia historica. W 35-lecie pracy naukowej Henryka Łowmańskiego. Warszawa, 1958.

[12] Kulejewska-Topolska, Z. Nowe lokacje miejskie w Wielkopolsce od XVI do końca XVIII w. / Z. Kulejewska-Topolska. Poznań, 1964.

[13] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. (экономическое развитие) / В.В. Чепко. Минск, 1981.

[14] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. / А.М. Лютый. Минск, 1987.

працы грунтоўна даследавана гарадское насельніцтва Беларусі, яго сацыяльны і нацыянальны склад, крыніцы папаўнення і павіннасці, усебакова прааналізаваны гандаль, рамесніцкая і мануфактурная вытворчасць. Важнае значэнне мае зробленая даследчыкам выснова аб тым, што некаторыя мястэчкі па ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця і нават па знешнім выглядзе не адрозніваліся ад гарадоў.

Аляксей Вішнеўскі разгледзеў асобныя бакі сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускіх гарадоў у 30–50-я гг. XIX ст[15]. Ён закранае і некаторыя аспекты развіцця мястэчак: павіннасці мястэчковага насельніцтва, адыходныя промыслы, гандаль і мануфактурную вытворчасць.

Кароткую характарыстыку мястэчак заходніх губерняў Расійскай імперыі ў дарэформенны перыяд утрымлівае праца Паўла Рындзюнскага[16]. Гісторык звярнуў увагу на галоўнае адрозненне паміж горадам і мястэчкам, якое заключалася ў рознай гаспадарча-прававой аснове: мястэчкі пераважна былі прыватнаўласніцкімі і ўлада памешчыкаў замяняла спецыфічныя гарадскія ўстановы.

У манаграфіі З. Шыбекі "Гарады Беларусі (60-я гг. XIX – пачатак XX ст.)"[17] прадметам вывучэння з'явіліся не толькі гарады, але і мястэчкі. На аснове разнастайных фактычных матэрыялаў і шырока выкарыстаных матэматыка-статыстычных метадаў даследавання аўтар высвятляе спецыфіку мястэчак у сістэме паселішчаў Беларусі, іх ролю ў сферы прадпрымальніцтва і гандлю, значэнне мястэчак у эканамічнай апецы горада над вёскай. Асаблівую цікавасць уяўляюць прапанаваныя даследчыкам класіфікацыя мястэчак у залежнасці ад іх велічыні і ступені набліжанасці да афіцыйных гарадоў, механізм узаемадзеяння паміж мястэчкамі гарадскога тыпу, эканамічная тыпалогія мястэчак і яе рэгіянальныя асаблівасці. Матэрыялы даследавання З. Шыбекі дазваляюць убачыць далейшую эвалюцыю мястэчак у парэформенны перыяд, параўнаць яе з папярэдняй эпохай.

Асобныя аспекты гаспадарчага развіцця мястэчак закранаюцца ў працах, прысвечаных эканамічнай гісторыі Беларусі. У даследаваннях А. Кіштымава з пазіцый эканамічнай мэтазгоднасці

---

15 Вишневский, А.Ф. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в период кризиса феодализма (30–50-е гг. XIX в.): Дис. ... канд. ист. наук: 07.00.02. / А.Ф. Вишневский. Минск, 1973.

16 Рындзюнский, П.Г. Городское гражданство дореформенной России / П.Г. Рындзюнский. М., 1958.

17 Шыбека, З.В. Гарады Беларусі (60-я гг. XIX – пачатак XX ст.) / З.В. Шыбека. Мінск, 1997.

і магчымасцей узважана аналізуецца эканамічная палітыка самаўладдзя, прыводзяцца абгрунтаваныя доказы эканамічнай самадастатковасці Беларусі, паказваюцца канкрэтныя поспехі прадпрымальніцкай дзейнасці, у тым ліку і ў мястэчках[18]. Праблема местачковай прамысловасці часткова адлюстравана ў манаграфіях М. Раманоўскага[19] і М. Болбаса[20]. Даследаванні В. Мерзляка[21], Ф. Адашчыка[22], М. Шаўчэні[23], В. Шведа[24] дапамагаюць ахарактарызаваць местачковы гандаль. Асаблівую цікавасць уяўляе манаграфія В. Шведа, прысвечаная функцыяніраванню рынку Беларусі ў 1830–1850-я гг. Пры асвятленні стану кірмашовай, развозна-разноснай, базарнай і стацыянарнай форм гандлю, знешніх і міжрэгіянальных гандлёвых сувязей беларускіх губерняў аўтар удзяліў пэўную ўвагу мястэчкам.

Вывучэнню сельскагаспадарчых заняткаў насельніцтва мястэчак дапамагаюць манаграфічныя даследаванні М. Улашчыка[25], В. Чапко[26], П. Казлоўскага[27]. У працы М. Улашчыка ёсць і цікавая інфармацыя пра барацьбу сялян шэрага мястэчак Гродзенскай губерні за вяртанне

---

[18] Киштымов, А.Л. Экономика Белоруссии XIX – начала XX в.: государственная политика и частная инициатива / А.Л. Киштымов // Экономическая история России XIX–XX вв.: современный взгляд. М., 2000. С. 132–145; Киштымов, А.Л. Экономические достижения Беларуси в XIX – начале XX в. / А.Л. Киштымов // Гісторыя Беларусі ў еўрапейскім кантэксце. Мінск, 2002. С. 22–52; Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П. Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 20–27; Кіштымаў, А. Дубровенская гадзіннікавая мануфактура / А. Кіштымаў // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Дубровенскага раёна. Кн. 1. Мінск, 1997. С. 156–157 і інш.

[19] Романовский, Н.П. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII – первая половина XIX в.) / Н.П. Романовский. Минск, 1966.

[20] Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861) / М.Ф. Болбас. Минск, 1966.

[21] Мерзляк, В.И. Внутренняя торговля Белоруссии конца XVIII – первой трети XIX в. / В.И. Мерзляк. Минск, 1991.

[22] Адащик, Ф.И. Ярмарочная торговля в городах и местечках Белоруссии в первой половине XIX в. / Ф.И. Адащик // Веснік БДУ. Серыя III. 1983. № 1. С. 11–12.

[23] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі (у канцы XVIII – першай трэці XIX ст.): Дыс. … канд. гіст. навук / М.М. Шаўчэня. Гродна, 2003.

[24] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии в период кризиса феодализма (1830–1850-е гг.) / В.В. Швед. Гродно, 1995.

[25] Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии / Н.Н. Улащик. М., 1965.

[26] Чепко, В.В. Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в. / В.В. Чепко. Минск, 1966.

[27] Козловский, П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. / П.Г. Козловский. Минск, 1982.

мяшчанскага статуса, якi яны страцiлi пасля далучэння Беларусi да Расiйскай iмперыi, а таксама пра развiццё местачковага гандлю i прамысловасцi.

Каштоўны фактычны матэрыял для даследавання гаспадаркi i культуры мястэчак утрымлiвае праца польскага навукоўца Рамана Афтаназы, якi зрабiў падрабязнае апiсанне маёнткаў былой Рэчы Паспалiтай, у тым лiку i тых, што месцiлiся ў беларускiх мястэчках[28].

На жаль, за межамi ўвагi даследчыкаў засталiся культурныя аспекты функцыянiравання мястэчак, у гiстарычнай лiтаратуры знайшлi адлюстраванне толькi некаторыя з iх. Культурнае жыццё мястэчак Беларусi з другой паловы XVIII ст. да 1820-х гг. часткова адлюстравана ў манаграфii Святланы Куль-Сяльверставай[29]. Высветлiць адукацыйна-асветнiцкую ролю мястэчак можна з дапамогай такiх калектыўных выданняў, як “Нарысы гiсторыi народнай асветы i педагагiчнай думкi ў Беларусi” (Мiнск, 1968) i “Асвета i педагагiчная думка Беларусi са старажытных часоў да 1917 г.” (Мiнск, 1985), а таксама даследаванняў У. Пасэ[30], Андрэя Самусiка[31], Л. Коўкель[32], Мiкалая Нiкалаева[33], В. Цыбулi[34], Юзэфа Лукашэвiча[35], Данiэля Бавуа[36] i Ле-

[28] Aftanazy, R. Materiały do dziejów Rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. T. I–IV. Warszawa, 1987.

[29] Куль-Сяльверстава, С.Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў i культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускiх землях (другая палова XVIII – 1820-я гады) / С.Я. Куль-Сяльверстава. Мiнск, 2000.

[30] Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в.: Дис. … канд. ист. наук / В.С. Поссе. Минск, 1963.

[31] Самусiк, А.Ф. Навучальныя ўстановы ў паўсядзённым жыццi гарадоў заходняй i цэнтральнай Беларусi ў апошняй трэцi XVIII ст. / А.Ф. Самусiк // Гарады Беларусi ў кантэксце палiтыкi, эканомiкi, культуры: зб. навук. арт. / ГрДУ iмя Я.Купалы; рэдкал.: I.П.Крэнь [i iнш.]. Гродна, 2007. С. 250–254 i iнш.

[32] Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX wieku / L. Kowkiel // Przegląd Wschodni. T. VII. Zeszyt 4 (28). S. 1229–1256; Коўкель, Л.I. Прыватныя бiблiятэкi Гродзеншчыны (канец 18 – пачатак 20 ст. ) / Л.I. Коўкель // Шлях у навуку: Матэрыялы навук. канф. Мiнск, 1997. С. 80–84.

[33] Нiкалаеў, М.В. Аблiчча сярэдневяковай бiблiятэкi: кнiгазборы Сапегаў / М.В. Нiкалаеў // Мастацтва Беларусi. 1985. № 7. С. 64–67.

[34] Цыбуля, В.А. Прыватныя бiблiятэкi, архiвы i музеi Беларусi / В.А. Цыбуля // Помнiкi гiсторыi i культуры Беларусi. 1982. № 3. С. 36–38; Цыбуля, В.А. Манастырскiя i царкоўныя бiблiятэкi ў Беларусi / В.А.Цыбуля // Помнiкi гiсторыi i культуры Беларусi. 1970. № 3. С. 50–51.

[35] Łukaszewicz, J. Historia szkół w Koronie i w Wielkim Księstwie Litewskim / J. Łukaszewicz. T. 1–4. Poznań, 1849–1851.

[36] Beauvois, D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. 1803–1832 / D. Beauvois. T. 2. Rzym–Lublin, 1991.

шэка Заштаўта[37]. Тэатральнае і музычнае жыццё часткова разглядаецца ў абагульняючай працы "Гісторыя беларускага тэатра" (Т. 1. Мінск, 1983).

Праблему архітэктурна-планіровачнага развіцця мястэчак закрануў А. Лакотка, які даследаваў беларускае народнае дойлідства і нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры[38]. Ён прааналізаваў тапаграфічныя і камунікацыйныя фактары, што спрыялі ўзнікненню і развіццю мястэчак, а таксама ўплывалі на структуру іх планіроўкі. Аўтар зрабіў спробу даць тыпалагічную класіфікацыю беларускіх мястэчак XIX – пачатку XX ст. на аснове геаграфічнага, планіровачнага і гістарычнага крытэрыяў. Агульныя заканамернасці планіровачнага развіцця мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў канцы XV–XVIII стст. і планіроўку 12 канкрэтных мястэчак гэтага рэгіёна разгледзеў Ю. Бохан[39]. Да праблемы планіроўкі і забудовы мястэчак Панямоння звяртаўся Валерый Шаблюк[40]. Значная ўвага архітэктурнаму абліччу мястэчак Беларусі ўдзеленая ў працах У. і Ю. Чантурыяў[41]. Планіроўку паўночна-заходніх беларускіх гарадоў і мястэчак разглядала польская даследчыца Ванда Рэвеньская[42]. Архітэктура гарадоў і часткова мястэчак Магілёўскай губерні канца XVIII – першай паловы XIX ст. знайшла адлюстраванне ў працы Інэсы Слюньковай[43].

З пункту гледжання метадалогіі даследавання, а таксама пэўнага фактычнага матэрыялу ўяўляюць цікавасць манаграфія

---

37 Zasztowt, L. Kresy. 1832–1864. Szkolnictwo na ziemiach litewskich i ruskich dawnej Rzeczypospolitej / L. Zasztowt. Warszawa, 1997.

38 Локотко, А.И. Белорусское народное зодчество: середина XIX–XX вв. / А.И. Локотко. Минск, 1991; Лакотка, А.І. Пад стрэхамі прашчураў / А.І. Лакотка. Мінск, 1995; Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры / А.І. Лакотка. Мінск, 1999.

39 Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): Дыс. ... канд. гіст. навук / Ю.М. Бохан. Мінск, 1994.

40 Шаблюк, В.У. Забудова прынёманскіх мястэчак у 16–18 ст. / В.У. Шаблюк // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 1995. № 6. С. 242–256.

41 Чантурия, В.А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии / В.А. Чантурия. Минск, 1986; Чантурия, Ю.В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI – первой половины XIX в. / Ю.В. Чантурия. Минск, 2005.

42 Reweńska, W. Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. Położenie topograficzne, rozpłanowanie / W. Reweńska. Wilno, 1938; Reweńska, W. Bereza Kartuska: Wybrane rozdziały z antropogeografii miasteczka / W. Reweńska. Wilno, 1934; Reweńska, W. Z antropogeografii Brasławia / W. Reweńska. Kraków, 1934.

43 Слюнькова, И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII – середины XIX в. / И.Н. Слюнькова. Минск, 1992.

Юзафа Казімірскага[44], артыкулы Барбары Стэмпнеўскай-Холзэр[45] і калектыўныя працы, прысвечаныя польскім мястэчкам XIX–XX стст.[46]

Такім чынам, у беларускай і польскай гістарыяграфіі традыцыйна аддаецца перавага вывучэнню найперш буйных і сярэдніх гарадоў. Амаль ва ўсіх названых вышэй працах мястэчкі не з'яўляюцца прадметам спецыяльнага вывучэння, а таму знаходзяцца на перыферыі інтарэсаў і ўвагі даследчыкаў. У сувязі з гэтым недастаткова распрацаваны такія праблемы, як дзяржаўныя заканадаўча-прававыя акты наконт мястэчак, этнаканфесійны і сацыяльны склад насельніцтва, адрозненні паміж гаспадаркамі местачковага селяніна і вясковага, пераемнасць у развіцці мястэчак і інш. Амаль зусім адсутнічаюць навуковыя даследаванні па культурных аспектах жыццядзейнасці мястэчак.

Паколькі гісторыю мястэчак Беларусі немагчыма аддзяліць ад гісторыі габрэяў, то асобную групу літаратуры, выкарыстанай для напісання дадзенай манаграфіі, склалі ***працы па гісторыі габрэйскага народа*** ва Усходняй Еўропе. Дапамагаюць пры іх выяўленні і вывучэнні спецыялізаваныя бібліяграфічныя паказальнікі[47] і гістарыяграфічныя даследаванні А. Лакшына[48].

Адна з першых прац па гісторыі габрэяў Расійскай імперыі з'явілася ў 80-я гг. XIX ст. Гэта манаграфія Мікалая Галіцына[49]. На старонках выдання ёсць статыстычныя звесткі аб эканамічным становішчы, колькасці габрэйскага насельніцтва беларускіх губерняў у XIX ст. У пачатку XX ст. у часопісе "Еврейская старина" былі апублікаваныя даследаванні аднаго з найбольш вядомых даследчыкаў гісторыі габрэяў Расійскай імперыі Сямёна Дубнова[50].

---

[44] Kazimierski, J. Miasta i miasteczka na Podlasiu (1808–1914): Zabudowa – ludność – gospodarka / J. Kazimierski. Warszawa, 1994.

[45] Stępniewska-Holzer, B. Miasta i miasteczka na Witebszczyźnie w 19 w. / B. Stępniewska-Holzer // Biuletyń Historii Pogranicza. 2002. T. 3 і інш.

[46] Miasteczka polskie: Z dziejów formowania się społeczności. Kielce, 1992; Miasteczko polskie w XIX–XX w. jako zjawisko kulrurowo-obyczajowe. Kielce, 1998.

[47] Матэрыялы да бібліяграфіі па вывучэнні яўрэйскага насельніцтва мястэчак Беларусі // Наш край. 1928. № 2; Рутберг, Н.И. Евреи и еврейский вопрос в литературе советского периода: хронологически-тематический указатель литературы, изданной за 1917–1991 гг. на русском языке / Н.И. Рутберг, И.Н. Пидевич. М., 2000.

[48] Локшин, А. Иудаика в России: русско-еврейская история и ее исследователи / А. Локшин // Евреи в Российской империи XVIII–XIX вв. М.; Иерусалим, 1995. С. 5–27; Локшин, А. История евреев России в современной зарубежной историографии / А. Локшин. М., 1998.

[49] Голицин, Н.Н. История русского законодательства о евреях: в 2 т. / Н.Н. Голицин. СПб., 1886.

[50] Дубнов, С.М. Судьбы евреев в России в эпоху западной "первой эмансипации"

Пазней яго працы выйшлі асобным 5-томным выданнем[51]. Аўтарамі аўтарытэтных кніг па гісторыі габрэяў Расіі з'яўляюцца таксама Юлій Гесэн[52] і Ілля Аршанскі[53]. Некаторы фактычны матэрыял, а таксама агульныя палажэнні і вывады гэтых выданняў уяўляюць цікавасць для дадзенага даследавання. Пэўную ролю для напісання кнігі адыграла і навукова-папулярнае выданне Фелікса Кандэля[54].

Праблема крыніцазнаўства і гістарыяграфіі гісторыі габрэяў у Расіі, некаторыя аспекты гістарычнага развіцця габрэйскага насельніцтва Украіны і Беларусі разглядаюцца ў зборніках навуковых прац, падрыхтаваных і выдадзеных Пецярбургскім габрэйскім універсітэтам[55]. Шэраг матэрыялаў па гісторыі габрэяў Расійскай імперыі, карысных для дадзенай працы, апублікавана ў зборніках матэрыялаў штогадовых канферэнцый па іудаіцы, якія праводзяцца ў Маскве Цэнтрам навуковых работнікаў і выкладчыкаў іудаікі ў ВНУ "Сэфер" і адлюстроўваюць стан "навук аб габрэйстве" на постсавецкай прасторы[56].

Пачынаючы з 1990-х гг. назіраецца актывізацыя даследаванняў гісторыі габрэяў Беларусі. Сваю ролю ў гэтым адыгралі зборнікі артыкулаў "Евреи Беларуси. История и культура", якія выдаюцца з 1997 г. у Мінску.

Асобныя бакі гісторыі габрэяў Беларусі даследаваў Я. Анішчанка: дынаміку габрэйскага насельніцтва мястэчак на ўсходзе Беларусі ў

(1789–1815) / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1912. Вып.1. Т. 5. С. 3–11; Дубнов, С.М. Отголоски минувшего века / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1909. Вып. 1–2. Т. 1. С. 302–305; Дубнов, С.М. Евреи в России в эпоху европейской реакции / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1912. Вып. 3. Т. 5. С. 274–279; СПб., 1913. Вып. 1. Т. 6. С. 23–50.

[51] Дубнов, С.М. Всеобщая история еврейского народа: в 5 т. / С.М. Дубнов. СПб., 1914.

[52] Гессен, Ю. История еврейского народа в России / Ю. Гессен. М.; Иерусалим, 1993.

[53] Оршанский, И.Г. Евреи в России: очерки и исследования / И.Г. Оршанский. СПб., 1872.

[54] Кандель, Ф. Очерки времен и событий: из истории российских евреев: в 3 ч. Ч. 2: 1772–1882 / Ф. Кандель. Иерусалим, 1990.

[55] История евреев в России: труды по иудаике / отв. редактор Д.А. Эльяшевич. СПб., 1993; История евреев на Украине и в Белоруссии: труды по иудаике / отв. редактор Д.А. Эльяшевич. СПб., 1994 і інш.

[56] Напрыклад, матэрыялы канферэнцый 2007 г. ("зімовай" 14-й і "летняй" 12-й маладзёжнай) апублікаваны ў 3 частках, праблемам гісторыі габрэяў прысвечана першая з іх: Проблемы еврейской истории. Ч. 1: Материалы научных конференций Центра "Сэфер" по иудаике 2007 г. М., 2008. Асобнай кнігай выйшлі матэрыялы секцыі, прысвечанай палявым даследаванням габрэйскіх абшчын: Штетл, XXI век: Полевые исследования / сост. В.А. Дымшиц, А.Л. Львов, А.В. Соколова. СПб., 2008.

канцы XVIII ст., вынікі фінансавай рэвізіі кагалаў Гродзенскай губерні ў пачатку XIX ст., устанаўлене "мяжы габрэйскай аселасці" і інш[57].

Вельмі карыснымі для вывучэння гісторыі мястэчак Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. з'яўляюцца публікацыі В. Сабалеўскай[58], а таксама яе дысертацыйнае даследаванне ("Габрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: лад жыцця і культура"[59]); кніга і артыкулы Эмануіла Іофе[60]; дысертацыі Іны Герасімавай ("Еврейское образование в Белоруссии в XIX – начале XX в. и отношение к нему российского самодержавия") і Юліі Функ ("Еврейская благотворительность в Беларуси в XIX – начале XX в. и источники ее исследования"); праца Соф'і Кузняевай[61]. Дапамагаюць пры вывучэнні архітэктуры мястэчак Беларусі публікацыі даследчыцы А. Сакаловай[62] з Пецярбурга і Э. Бергман з Варшавы[63]. Пры вывучэнні традыцыйнай габрэйскай сістэмы адукацыі не абыйсціся

---

57 Анішчанка, Я.К. Камеральнае апісанне – крыніца па сацыяльна-эканамічнай гісторыі ўсходняй Беларусі (1772–1774) / Я.К. Анішчанка // Весці АН БССР. Сер. гум. навук. 1988. № 3. С. 71–78; Анішчанка, Я.К. Падрыхтоўка да ўвядзення рысы аселасці ў Беларусі / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гум. навук. 1993. № 1. С. 62–70; Анішчанка, Я.К. Яўрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVIII ст. паводле ўрадавага ўліку (крыніцазнаўчыя аспекты) / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гум. навук. 1993. № 4. С. 59–68; Анішчанка, Я.К. Фінансавая рэвізія кагалаў Гродзенскай губерні ў пачатку XIX ст. і яе вынікі / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гум. навук. 1995. № 1. С. 45–53; Анищенко, Е.К. Черта оседлости (Белорусская синагога в царствование Екатерины II) / Е.К. Анищенко. Минск, 1998.

58 Соболевская, О. Недоверие как продукт незнания: бытовой антисемитизм в Беларуси (конец 18 – середина 19 в.) / О. Соболевская // Свой или чужой? Евреи и славяне глазами друг друга: сб. статей. Вып. 11. М., 2003. С. 376–385; Сабалеўская, В.А. Сацыяльныя змены ў асяроддзі беларускіх габрэяў (канец XVIII – першая палова XIX ст.) / В.А. Сабалеўская // Евреи Беларуси. История и культура. Сб. статей. Вып. 5. Минск, 2000 і інш.

59 Дысертацыя В. Сабалеўскай стала асновай яе кнігі ў сааўтарстве з У. Ганчаровым: Соболевская, О. Евреи Гродненщины: жизнь до Катастрофы / О. Соболевская, В. Гончаров. Донецк, 2005.

60 Иоффе, Э.Г. Страницы истории евреев Беларуси / Э.Г. Иоффе. Минск, 1996; Иоффе, Э. Историография евреев Беларуси досоветского периода / Э.Г. Иоффе // Материалы 10-й ежегодной Международной междисциплинарной конференции по иудаике. Ч. 1. М., 2003. С. 391–402 і інш.

61 Кузняева, С. Еврейские общины Беларуси в конце XVIII – начале XX в. / С. Кузняева. Минск, 1998.

62 Соколова, А. Архитектура штетла в контексте традиционной культуры / А. Соколова // Лукин В., Соколова А., Хаймович Б. Сто еврейских местечек Украины. Исторический путеводитель. Вып. 2.: Подолия. СПб., 2000. С. 55–84.

63 Bergman, E. The rewir or Jewish district and the eyruv / E. Bergman // Studia Judaica 5. 2002. № 1 (9).

без даследаванняў ізраільскага гісторыка Ш. Штампфера[64], музычнага жыцця мястэчак – без публікацый Зіновія Столяра з Малдовы, Ніны Сцяпанскай і Дзмітрыя Сляповіча з Беларусі[65].

Значным укладам у даследаванне лёсу габрэйскага насельніцтва Расійскай імперыі ў 1772–1825 гг. стала манаграфія англа-амерыканскага вучонага Дж. Кліера[66]. Трансфармацыі габрэйскага грамадства ў перыяд Расійскай імперыі прысвечана даследаванне Ісаака Левітаца[67], толькі ў часы Мікалая І – Міхаіла Станіслаўскага[68].

Цікавым і арыгінальным даследаваннем гісторыі мадэрнізацыі габрэйскага жыцця ў Расіі (на прыкладзе гісторыі габрэяў Шклова) з'яўляецца манаграфія Д. Фішмана[69]. Значнае дасягненне ў вывучэнні гісторыі асобных габрэйскіх абшчын – даследаванні А. Кагановіча[70] і Л. Смілавіцкага[71], у якіх паказваюцца заканамернасці і асаблівасці эканамічнага, культурнага, рэлігійнага, побытавага жыцця габрэяў Рэчыцы і Турава на фоне становішча ў іншых мястэчках і гарадах рэгіёна, аналізуюцца дэмаграфічныя і сацыяльныя змены ў мястэчках, вызначаюцца адносіны габрэяў з навакольным насельніцтвам і

64 Штампфер, Ш. Хедерное образование, знание Торы и поддержание социального расслоения в традиционном еврейском обществе восточно-европейской диаспоры / Ш. Штампфер // Еврейская школа. 1993. Январь – март. С. 53–64; Штампфер, Ш. Дифференциация по половому принципу и женское еврейское образование в Восточной Европе в XIX в. / Ш. Штампфер // Еврейское образование. 2001. № 2. С. 119–146; і інш.

65 Столяр, З. Музыка еврейского местечка / З. Столяр // Материалы Восьмой ежегодной междунар. междисциплин. конф. по иудаике. Ч. 2. М., 2002. С. 243–247; Степанская, Н. Еврейская музыка в исполнении белорусских народных музыкантов: к проблеме переинтонирования / Н. Степанская // Свой или чужой? Евреи и славяне глазами друг друга. Сб. статей. М., 2003. С. 423–433.
Слепович, Д. Славянские влияния на еврейскую музыкальную традицию в Восточной Европе в XVIII–XX вв. / Д. Слепович // Свой или чужой? Евреи и славяне глазами друг друга. Сб. статей. М., 2003. С. 404–421.

66 Клиер, Дж. Д. Россия собирает своих евреев: Происхождение еврейского вопроса в России: 1772–1825. / Дж. Д. Клиер. М.; Иерусалим, 2000.

67 Levitats, I. The Jewish community in Russia, 1772–1844 / I. Levitats. New York, 1970; Levitats, I. The Jewish community in Russia, 1844–1917 / I. Levitats. Jerusalem, 1981.

68 Stanislawski, M. Tsar Nicholas I and the Jews: The transformation of Jewish Society in Russia: 1825–1855 / M. Stanislawski. Philadelphia, 1983.

69 Fishman, D. Russia's first Modern Jews: The Jews of Shklov. N.Y., 1995.

70 Каганович, А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии / А. Каганович. Иерусалим, 2007.

71 Смиловицкий, Л. Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья / Л. Смиловицкий. Иерусалим, 2008.

ўладамі. Феномен штэтла (у перакладзе з мовы ідыш "штэтл" азначае "мястэчка") дапамагаюць паўней зразумець і іншыя выданні[72].

Асобную групу літаратуры, выкарыстанай у дадзеным даследаванні, складаюць кнігі, выдадзеныя ў XIX – пачатку XX ст., якія ўтрымліваюць звесткі аб мястэчках Беларусі пераважна краязнаўчага і статыстычнага характару. Гэта, перш за ўсё, праца Адама Кіркора[73], а таксама Е. Зяблоўскага[74], М. Сталпянскага[75]. Кароткія даведкі аб мястэчках ёсць у выданнях Міхаіла Балінскага і Тыматэўша Ліпінскага[76], Юзафа Лахніцкага[77], Іосіфа Ярашэвіча[78], Аляксандра Дзембавецкага[79], а таксама ў 14-томным "Геаграфічным слоўніку Польскага каралеўства" (звесткі пра гарады і мястэчкі Беларусі для гэтага энцыклапедычнага выдання былі напісаны Аляксандрам Ельскім)[80]. Канстанцін Тышкевіч у сваёй кнізе, прысвечанай Віліі і яе берагам, прыводзіў некаторыя звесткі аб найбольш значных надвілейскіх населеных пунктах[81]. Працы Чэслава Янкоўскага[82], Аляксея Сапунова

---

72 Zborowski, M. Life is with people: The Culture of the Shtetl / M. Zborowski. New York, 1952; Roskes, Diane K., Roskes, David G. The shtetl book: An introduction to East European Jewish Life and Lore / Diane Roskes, David Roskes. INC, 1979; Miron, Dan. The image of the Shtetl and other studies of modern Jewish literary imagination / Dan Miron. New York, 2000; The Shtetl: Image and Reality. Papers of the Second Mendel Friedman International Conference on Yiddish. University of Oxford, 2000; The Shtetl: New Evaluations / ed. Steven T. Katz. New York, 2007; Sztetł – wspólne dziedzictwo: szkice z dziejów ludności żydowskiej Europy Środkowo-Wschodniej / red. Artur Markowski i Wojciech Śleszyński. Białystok, 2003; The Shtetl: Myth and Reality // Polin. Studies in Polish jewry. Vol.17. / ed. by Antony Polonsky. Oxford 2004; Haumann, H. Historia Żydów w Europie Środkowej i Wschodniej / H. Haumann. Warszawa, 2000. і інш.

73 Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении / под ред. П. Семенова. Т. 3: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизвед. изд. 1882 г. Минск, 1994.

74 Зябловский, Е. Землеописание Российской империи для всех состояний. Ч. 6. СПб., 1810.

75 Столпянский, М. Девять губерний Западно-русского края. СПб., 1866.

76 Baliński, M., T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym / M. Baliński, T. Lipiński. T. III. Warszawa, 1846.

77 Lachnicki, J. E. Statystyka gubernii Litewsko-Grodzieńskiey / J. E. Lachnicki. Wilno, 1817.

78 Jaroszewicz, I. Materiały do statystyki i etnografii gubernii Grodzieńskiey / I. Jaroszewicz. Wilno, 1848.

79 Дембавецкий, А.С. Опыт описания Могилёвской губернии / А.С. Дембовецкий. Могилёв, 1884.

80 Słownik geograficzny Krolewstwa Polskiego i innych krain słowiańskich. T. 1–14. Warszawa, 1880–1897.

81 Tyszkiewicz, K. Wilija i jej brzegi / K. Tyszkiewicz. Drezno, 1871

82 Jankowski, Cz. Powiat Oszmiański / Cz. Jankowski. Cz. 1–4. Peterburg, 1896–1900.

і В. Друцкага-Любецкага[83] ўтрымліваюць гістарычна-краязнаўчыя апісанні населеных пунктаў Ашмянскага, Дзісенскага і Вілейскага ўездаў. Цікавы статыстычны матэрыял аб мястэчках Ваўкавыскага ўезда ёсць у працы Валыняка (Я. Гіжыцкага)[84].

Прыведзены гістарыяграфічны агляд не ахоплівае ўсіх праблем, якія маюцца ў асвятленні гісторыі мястэчак у беларускай і замежнай літаратуры. У адпаведных раздзелах манаграфіі праводзяцца гістарыяграфічныя мікрадаследаванні спрэчных пытанняў.

## 1.2. Крыніцы

Крыніцы, што склалі аснову даследавання, можна падзяліць на дакументальныя, картаграфічныя, апавядальныя, а таксама матэрыялы перыядычнага друку, якія з'яўляюцца комплекснай крыніцай і аб'ядноўваюць усе віды крыніц і іх жанры[85].

***Апублікаваныя дакументальныя крыніцы*** складаюцца з матэрыялаў афіцыйных выданняў і навуковых гістарычных публікацый.

Адным з галоўных афіцыйных выданняў з'яўляецца "Полное собрание законов Российской империи", у двух выпусках якога ўтрымліваюцца заканадаўчыя акты царскага ўрада даследуемага перыяду[86]. Заканадаўчую палітыку царызму ў адносінах да габрэяў дапамагаюць высветліць такія выданні, як "Полный хронологический сбор законов и положений, касающихся евреев"[87] і "Руководство к русским законам о евреях"[88].

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі перад мясцовай адміністрацыяй, гаспадарчымі, ваеннымі і навуковымі органамі і арганізацыямі была пастаўлена практычная (часта з фіскальных ці ваенных меркаванняў) задача вывучэння краю. Таму невыпадкова, што ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. з'яўляецца вялікая колькасць разнастайных статыстычных зборнікаў.

[83] Сапунов, А. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А. Сапунов, В. Друцкий-Любецкий. Витебск, 1896.

[84] Wołyniak, Z przesłości powiatu Wołkowyskiego / Z. Wołyniak. Kraków, 1905.

[85] Ходзін, С.М. Крыніцы гісторыі Беларусі (гісторыка-генетычнае і кампаратыўнае вывучэнне) / С.М. Ходзін. Мінск, 1999.

[86] Полное собрание законов Российской империи. Собрание 1-е. Т. 19–43. СПб., 1830; Собрание 2-е. Т. 1–13. СПб., 1830–1862.

[87] Полный хронологический сбор законов и положений, касающихся евреев. 1619–1863 / сост. Леванда. СПб., 1874.

[88] Руководство к русским законам о евреях / сост. М.И. Мыш. СПб., 1914.

Перш за ўсе неабходна назваць матэрыялы камеральных і эканамічных заўваг да тапаграфічных карт, складзеных афіцэрамі Генеральнага штаба ў канцы XVIII ст. Да іх адносяцца “Камеральна-эканамічныя і эканамічныя заўвагі Магілёўскага намесніцтва”, “Тапаграфічнае апісанне Мінскай губерні”, “Эканамічныя камеральныя заўвагі Мінскай губерні”[89]. Яны ўтрымліваюць звесткі аб колькасці мястэчак, сацыяльным складзе і павіннасцях іх насельніцтва, эканамічным развіцці. Аднак згаданыя крыніцы маюць свае абмежаванні і недарэчнасці, на што ўказвае Я. Анішчанка. Гэта было ўлічана пры выкарыстанні іх у дадзеным даследаванні.

Значна папоўнілі крыніцазнаўчую базу па вывучаемай праблеме матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расійскай імперыі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба ў сярэдзіне 50-х гг. XIX ст., якія ўтрымліваюць разнастайныя факты па сацыяльна-эканамічным, а часткова і культурным развіцці беларускіх мястэчак у дарэформенны перыяд[90].

Некаторыя звесткі аб насельніцтве, сацыяльным становішчы і эканамічным развіцці мястэчак ёсць у “Ваенна-статыстычным аглядзе Расійскай імперыі”[91], а таксама ў выданні “Гарадскія пасяленні Расійскай імперыі”[92]. У статыстычных аглядах стану гарадоў, выдадзеных на працягу разглядаемага перыяду, асноўная ўвага ўдзяляецца губернскім, уезным і пазаштатным гарадам, звесткі аб мястэчках сустракаюцца вельмі рэдка[93].

Пры вывучэнні ролі мястэчак у сістэме адукацыі Беларусі аўтар звярталася да матэрыялаў выданняў: “Сборник материалов для истории просвещения в России”,[94] “Сборник постановлений по Мини-

[89] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА). Ф.1350. Воп. 312. Адз. зах. 48–52, 91–97.

[90] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч. 1–2. СПб., 1863; Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 1–2. СПб., 1864; Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния / А. Корева. СПб., 1861.

[91] Военно-статистическое обозрение Российской империи: в 17 т. Т. 8, 9. СПб., 1848–1852.

[92] Городские поселения в Российской империи: в 3 т. СПб., 1860–1863.

[93] Статистическое изображение городов и посадов Российской империи по 1825 г. СПб., 1830; Экономическое состояние городских поселений Европейской России в 1861–1862 гг. Ч. 1. СПб., 1863.

[94] Сборник материалов для истории просвещения в России: в 4 т. Т. 1, 2. СПб., 1893–1897.

стэрству народного просвещения”[95], “Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce”[96].

У манаграфіі выкарыстаны апублікаваныя ў савецкі час зборнікі дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі перыяду позняга феадалізму. Пры гэтым улічваўся іх археаграфічны і крыніцазнаўчы аналіз, зроблены ў працах А. Ігнаценкі, З. Капыскага, М. Улашчыка[97].

Для даследавання развіцця прамысловасці ў мястэчках пэўнае значэнне маюць дакументы, змешчаныя ў зборніку “Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму”[98]. Нягледзячы на тое што многія дакументы зборніка супярэчлівыя і адсутнічае адзіны прынцып адбору звестак, тут маецца значны фактычны матэрыял аб развіцці рамеснай і мануфактурнай вытворчасці ў мястэчках, а таксама аб колькасці мястэчак і местачковага насельніцтва, наяўнасці ў яго складзе купцоў, развіцці гандлю.

Другі том зборніка “Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі” змяшчае разнастайныя дакументы за 1770–1903 гг. з фондаў архіваў Віцебска, Гомеля, Магілёва, Мінска, Ленінграда і Масквы[99]. Архівы Гродна і Вільні ў той перыяд былі недаступны гісторыкам, і таму адчуваецца недахоп дакументаў па гісторыі заходніх рэгіёнаў Беларусі. Зборнік утрымлівае дакументы, якія дапамагаюць высветліць падатковае становішча жыхароў мястэчак у канцы XVIII ст., палітыку царскага ўрада ў дачыненні да габрэйскага насельніцтва, развіццё прамысловасці і гандлю ў мястэчках у канцы XVIII – першай палове XIX ст. Аднак многія дакументы аб прамысловым і гандлёвым развіцці ў дарэформенны перыяд запазычаны з папярэдняга выдання.

Новыя архіўныя даныя, у тым ліку і з фондаў архіваў Гродна і Вільні, былі ўключаны ў мнагатомнае выданне дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі эпохі феадалізму[100]. Перыяд з канца

95 Сборник постановлений по Министерству народного просвещения. Т. 1. СПб., 1875.

96 Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. T. X. Kraków, 1904.

97 Игнатенко, А.П. Введение в историю БССР: периодизация, источники, историография / А.П. Игнатенко. Минск, 1965; Копысский, З.Ю. Сборники документов по истории Белоруссии, изданные в БССР (1921–1971) / З.Ю. Копысский // Археографический ежегодник за 1974 г. М., 1975; Улащик, Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода / Н.Н. Улащик. М., 1973.

98 Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізма: у 2 ч. Мінск, 1934.

99 Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772–1903). Т. 2. Мінск, 1940.

100 Белоруссия в эпоху феодализма: сборник документов и материалов: в 4 т.

XVIII ст. да 1861 г. асвятляецца ў 3-м і 4-м тамах. Яны змяшчаюць фактычны матэрыял па эканамічным развіцці мястэчак, павіннасцях і падатках насельніцтва, а таксама некаторыя звесткі аб культурным развіцці мястэчак Беларусі.

У працы выкарыстаны інвентары ўладання Смаргонь 1788 г. і графства Цімкавічы 1761 г., якія адлюстраваны ў выданні "Інвентары магнацкіх уладанняў Беларусі ў канцы XVII–XVIII стст."[101]. Тут ёсць звесткі аб колькасці насельніцтва мястэчак Смаргонь і Цімкавічы, яго павіннасцях, занятках, а таксама аб забудове і планіроўцы мястэчак.

Цікавыя для дадзенага даследавання дакументы і матэрыялы сустрэліся ў хрэстаматыі па гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. (укладальнік і навуковы рэдактар А. Смалянчук)[102]. У прыватнасці, яны дапамагаюць пры асвятленні прававога становішча насельніцтва прыватнаўласніцкіх мястэчак.

***Архіўныя дакументальныя матэрыялы***, якія паслужылі асновай для дадзенага даследавання, былі пачэрпнуты з фондаў гістарычных архіваў і рукапісных аддзелаў бібліятэк Беларусі, Польшчы, Літвы, Расіі і Ізраіля.

Галоўнае месца ў крыніцазнаўчай базе займаюць дакументы фондаў рэспубліканскіх архіваў: *Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску і Гродне* (*НГАБ і НГАБ у Гродне*).

Асаблівую каштоўнасць для вывучэння сацыяльна-эканамічнага развіцця мястэчак Беларусі ўяўляюць матэрыялы фондаў канцылярыі Мінскага (ф.295), Віцебскага (ф.1430), Магілёўскага (ф.2001), Гродзенскага (ф.1) грамадзянскіх губернатараў. У гэтых фондах сканцэнтраваліся звесткі аб колькасці насельніцтва мястэчак, размеркаванні яго па сацыяльных групах, прававым і маёмасным становішчы, развіцці местачковых промыслаў, рамяства, ведамасці аб прамысловых прадпрыемствах і абаротах капіталаў на местачковых кірмашах і г.д. Важнай крыніцай з'яўляюцца справаздачы губернатараў, змешчаныя ў названых фондах. Да справаздач звычайна прыкладаліся статыстычныя ведамасці, якія пацвярджалі даныя тэкставай справаздачы. У гэтых ведамасцях утрымліваецца багаты фактычны матэрыял аб эканамічным развіцці мястэчак. Яшчэ

Минск, 1959–1979.

[101] Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Сморгонь. Минск, 1977; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Тимковичи. Минск, 1982.

[102] Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах. Хрэстаматыя / уклад., навуковы рэдактар А.Ф. Смалянчук. Вільня, 2007.

больш differently рознабаковай і насычанай інфармацыяй крыніцай з’яўляюцца “Матэрыялы да справаздач губернатараў”. Тут знайшлі месца справаздачы ўезных спраўнікаў, дзе найбольш поўна прадстаўлены разнастайныя звесткі аб мястэчках.

Блізкія па характары звесткі знаходзяцца таксама ў фондах канцылярый Віцебскага, Магілёўскага і Смаленскага генерал-губернатараў (ф.1297), Мінскага (ф.299) і Гродзенскага (ф.2) губернскіх праўленняў. Статыстычныя матэрыялы па шырокім коле пытанняў, звязаных з развіццём эканомікі, асветы, сацыяльных працэсаў і інш., утрымліваюцца ў фондах Мінскага (ф.21), Віцебскага (ф.2502), Гродзенскага (ф.14) губернскіх статыстычных камітэтаў.

Асаблівае значэнне маюць інвентары – гаспадарчыя апісанні феадальных уладанняў у XVI – першай палове XIX ст. Яны з’яўляюцца найбольш каштоўнай і масавай крыніцай па сацыяльна-эканамічнай гісторыі, краязнаўстве, дэмаграфіі, этнаграфіі, мовазнаўстве Беларусі. Большасць інвентароў утрымліваюць наступныя элементы: 1) тытульны ліст; 2) апісанне панскага двару і гаспадаркі; 3) апісанні мястэчак і вёсак, якія ўваходзілі ў склад дадзенага маёнтка (мястэчкі апісваліся па вуліцах)[103]; 4) апісанні павіннасцей усіх груп насельніцтва. Інвентары з’яўляюцца важнай комплекснай крыніцай, якая дае даволі поўнае ўяўленне аб многіх баках сацыяльна-эканамічнага жыцця мястэчак, а таксама аб іх забудове і планіроўцы. Аднак многія інвентары мястэчак не ўтрымліваюць звестак аб габрэйскім насельніцтве, і таму нават на падставе гэтай найбольш поўнай і дакладнай крыніцы скласці абсалютна поўную карціну развіцця мястэчак вельмі складана.

Інвентары канца XVIII ст. захаваліся ў фамільных фондах князёў Радзівілаў (ф.694), Любамірскіх (ф.3258) і інш. Інвентарныя апісанні першай паловы XIX ст. можна падзяліць на дзве групы: інвентары першай трэці XIX ст. і абазвязковыя інвентары сярэдзіны 40-х – пачатку 50-х гг. XIX ст. Інвентароў першай групы захавалася ў архівах Беларусі вельмі мала. У НГАБ у Гродне іх маецца больш, і яны сабраны ў асобны фонд “Калекцыя інвентароў” (ф.1143), у якім знаходзяцца таксама інвентары канца XVII–XVIII стст. Інвентароў, складзеных у другой палове 40-х – 50-х гг. XIX ст., захавалася больш. Інвентарная рэформа ператварыла іх з неафіцыйных унутраных гаспадарчых дакументаў у абавязковыя дзяржаўныя акты, якія рэгулявалі адносіны паміж памешчыкамі і прыгоннымі сялянамі. Інвентары гэтага перыяду, акрамя згаданых фондаў, захаваліся ў фондах Віцебскага, Мінскага,

[103] *Малюнкі 1, 2.*

Магілёўскага, Гродзенскага губернскіх камітэтаў для складання і разгляду інвентароў памешчыцкіх маёнткаў (ф.2635, 142, 2221 НГАБ, ф. 96 НГАБ у Гродне), Мінскай палаты дзяржаўных маёмасцей (ф.27), Гродзенскага губернскага праўлення земляробства і дзяржаўных маёмасцей (ф.31). Характарыстыку інвентароў як гістарычнай крыніцы ўтрымліваюць публікацыі М. Улашчыка, П. Казлоўскага і В. Чапко, В. Голубева [104].

Матэрыялы па гісторыі навучальных устаноў у мястэчках Беларусі знаходзяцца ў фондах Папячыцеля Беларускай навучальнай акругі (ф.3158), Дырэкцый народных вучылішч Віцебскай (ф.2507), Магілёўскай (ф.2254) і Мінскай (ф.458) губерняў.

Многія архіўныя матэрыялы *Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва (РДГА) у Санкт-Пецярбургу* дубліруюць даныя НГАБ у Мінску і Гродне, аднак асобныя фонды значна дапаўняюць базу крыніц па даследуемай тэме. Вялікі фактычны матэрыял даюць фонды межавога дэпартамента сената. Так, у “Эканамічных заўвагах да атласаў” беларускіх губерняў (ф.350, воп. 312) ёсць звесткі аб мястэчках Беларусі: колькасці і сацыяльным складзе насельніцтва, памерах дзяржаўных падаткаў, развіцці гандлю, наяўнасці прамысловых прадпрыемстваў і паштовых станцый і інш. Звесткі аб сацыяльна-эканамічным развіцці мястэчак Беларусі ўтрымліваюцца таксама ў фондах Аддзялення мануфактур экспедыцыі дзяржаўнай гаспадаркі МУС (ф.16), Галоўнага ўпраўлення мануфактур МУС (ф.17), Дэпартамента мануфактур і ўнутранага гандлю (ф.18), Камітэта міністраў (ф.1263), Канцылярыі генерал-пракурора (ф.1374), Дэпартамента паліцыі МУС (ф.1286), Гаспадарчага дэпартамента МУС (ф.1287), Цэнтральнага статыстычнага камітэта (ф.1290) і інш. Пры даследаванні местачковых навучальных устаноў выкарыстаныя матэрыялы фонду Дэпартамента народнай асветы (ф.733).

Дакументы, што праліваюць святло на асобныя бакі гісторыі мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст., утрымліваюцца ў фондах “Сенат і Сенацкія ўстановы” (ф.248), “Справы аб Польшчы і Літве” (ф.12), “Унутранае кіраванне” (ф.16), “Эканамічныя заўвагі

---

[104] Улащик, Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода / Н.Н. Улащик. М., 1973; Козловский, П.Г. Инвентари и хозяйственные документы магнатских владений Белоруссии XVI–XVIII вв. и инвентари помещичьих имений первой половины XIX в. как исторический источник / П.Г. Козловский, В.В. Чепко // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Минск, 1964. С. 24–42; Голубев, В.Ф. Источники по землевладению и землепользованию крестьян Белоруссии в XVI–XVIII вв. / В.Ф. Голубев // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1987. № 6.

да планаў Магілёўскай і Полацкай губерняў" (ф.1355) *Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (РДАСА)* у Маскве, а таксама ў фондзе III аддзялення Канцылярыі Яго Імператарскай Вялікасці (ф.109) *Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (ДАРФ)* у Маскве.

Крыніцазнаўчую базу пры вывучэнні беларускіх мястэчак Віленскай губерні складалі дакументы *Дзяржаўнага гістарычнага архіва (ДГА) Літвы*, змешчаныя ў фондах Канцылярыі Віленскага грамадзянскага губернатара (ф.380), Канцылярыі Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатара (ф.378), Віленскага губернскага праўлення (ф.381), Віленскага губернскага статыстычнага камітэта (ф.388), Упраўлення Віленскай навучальнай акругі (ф.567) і інш. Частка дакументаў, пераважна інвентары мястэчак, была пачэрпнута з *Аддзелаў рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага універсітэта* і *Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Літвы.*

Гісторыю мястэчак Беларусі дапамагаюць даследаваць матэрыялы *Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве (Archiwum Główne akt dawnych – AGAD)*. Тут утрымліваюцца дакументы органаў улады і ўстаноў зямель Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, а таксама родавыя архівы Радзівілаў, Патоцкіх, Браніцкіх, Панятоўскіх, Тызенгаўзаў і інш. Асноўны масіў дакументальных матэрыялаў па праблеме мястэчак Беларусі сканцэнтраваны ў фондзе "Archiwum Radziwiłłów". Гэта шматлікія інвентарныя апісанні ўладанняў князёў Радзівілаў. Аўтарам выяўлены і часткова вывучаны інвентары болей за 70 мястэчак Беларусі XVI–XIX стст. Па многіх мястэчках захаваліся інвентары за розныя гады, што дазваляе прасачыць дынаміку насельніцтва ў асобных мястэчках з XVI па XIX ст.

Базу крыніц папоўнілі і дакументы аддзелаў рукапісаў наступных бібліятэк Кракава: *Biblioteki Jagiellońskiej, Biblioteki Czartoryskich, Naukowej Biblioteki PAU i PAN.* У рукапісным аддзеле Ягелонскай бібліятэкі ўвагу прыцягнуў збор Яна Прэкера, які ўтрымлівае "Матэрыялы па гісторыі гарадоў і мястэчак Літвы і Жмудзі" (6320, 6321, 6322), дзе ёсць копіі і арыгіналы дакументаў па гісторыі гарадскіх паселішчаў гэтага рэгіёна. Рукапісны аддзел бібліятэкі ПАУ і ПАН у Кракаве захоўвае багатыя матэрыялы, якія паходзяць з "Archiwum Ogińskich", тут знаходзяцца крыніцы па гісторыі ўладанняў Агінскіх, у тым ліку многіх мястэчак Беларусі: Бешанковічы, Чачэрск, Глыбокае, Высокае, Мір, Моталь, Лагішын, Быцень і інш. Сярод рукапісаў бібліятэкі Чартарыйскіх найбольшае значэнне для дадзенага дасле-

давання мелі інвентары Шклова, Валожына, Новай Мышы, Стоўбцаў канца XVIII ст.

Пошук крыніц па тэме даследавання вёўся таксама ў *Цэнтральным архіве гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме (The Central Archives for the History of the Jewish People (Jerusalem, Israel))*. У фондах гэтага архіва сабраная каштоўная калекцыя дакументаў і па гісторыі габрэяў беларускіх земель. Аснову збору складаюць юрыдычна завераныя копіі крыніц, узятых з розных архіваў многіх краін свету, у тым ліку Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы.

Пры даследаванні планіроўкі і забудовы мястэчак выкарыстоўваліся ***картаграфічныя матэрыялы*** (планы і карты мястэчак), выяўленыя ў НГАБ у Гродне: у фондах Гродзенскага губернскага праўлення (ф.2) і будаўнічага аддзялення пры ім (ф.8), Гродзенскай губернскай чарцёжнай (ф.11), Гродзенскага губернскага ўпраўлення земляробства і дзяржаўных маёмасцей (ф.31). Багатыя картаграфічныя матэрыялы – планы мястэчак маюцца ў AGAD у Варшаве (фонд "Zbor kartograficzny").

У статыстычных зборніках, дакументальных матэрыялах, выдадзеных у XIX–XX стст., архіўных крыніцах звестак аб мястэчках дастаткова, але яны часам вельмі фрагментарныя і значна бяднейшыя ў параўнанні з данымі аб гарадах. У дакументах справаводства губернскіх адміністрацый сустракаецца шмат супярэчнасцей і недакладнасцей. Дэмаграфічныя статыстычныя звесткі, асабліва аб габрэях, толькі часткова адлюстроўвалі рэальную сітуацыю. Улады не мелі дакладных даных аб колькасці габрэяў з-за іх высокай мабільнасці, імкнення да ўхілення ад фіскальна-падатковага кантролю. Акрамя таго, часта мяшчане і купцы, прыпісаныя да гарадоў, жылі ў мястэчках. Непаўната дакументальнай крыніцазнаўчай базы не дазваляе стварыць агульную статыстыку па ўсіх мястэчках Беларусі.

Сярод ***апавядальных крыніц***, выкарыстаных для напісання кнігі, галоўнае месца належыць мемуарам.

Перыяд XIX ст. характарызуецца своеасаблівай модай на мемуарную літаратуру. У гэты час была створана вялікая колькасць успамінаў, дзённікаў, нататак падарожнікаў. Гэта так званыя "крыніцы асабістага паходжання". У цэнтры твораў мемуарнай літаратуры знаходзіцца асоба аўтара. Грамадскія падзеі і з'явы ў іх паказаны праз яго суб'ектыўнае ўспрыманне. Аднак мемуары, нягледзячы на суб'ектыўны характар, з'яўляюцца вельмі каштоўнай гістарычнай крыніцай. Дзякуючы ім мы можам паглядзець на мінулае вачыма яго

сучаснікаў. Мемуары дазваляюць адчуць дух вывучаемай эпохі, лад мыслення і пачуццяў людзей мінулага.

У мемуарнай літаратуры XIX ст. знайшлі адлюстраванне розныя аспекты гісторыі мястэчак Беларусі. Асабліва важную ролю мемуары адыгрываюць пры вывучэнні праблем "паўсядзённасці". Творы мемуарнай літаратуры дапамагаюць адказаць на шэраг пытанняў: што ўяўляла сабой штодзённае жыццё людзей у мястэчку; чым былі напоўнены шараговыя і святочныя дні; як складваліся ўзаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп местачковага насельніцтва.

Мемуарную літаратуру, у якой асвятляюцца розныя бакі жыцця ў мястэчках Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст., можна ўмоўна падзяліць на некалькі груп. Першую групу складаюць *успаміны, напісаныя непасрэдна местачковымі жыхарамі* і прысвечаныя апісанню гэтых паселішчаў. Яны дазваляюць найбольш поўна, панарамна ўявіць карціну штодзённага жыцця нашых мястэчак. Да гэтай групы адносяцца мемуары паэта, публіцыста, літаратуразнаўцы і педагога Абрама Паперны, якія прысвечаны м. Капыль Слуцкага ўезда[105]; успаміны пра Капыль заснавальніка новай габрэйскай літаратуры на ідыш Мендэле Мойхер-Сфорыма[106]; успаміны "простага габрэя" (як называе сябе сам аўтар) Эхэзкеля Коціка пра м. Камянец-Літоўск Брэсцкага ўезда[107]. Названыя творы апісваюць 40–50-я гг. XIX ст. Іх аўтары належаць да прадстаўнікоў габрэйскага насельніцтва мястэчак. Мемуары габрэяў XIX ст. адлюстроўваюць жыццё далёка не ўсіх слаёў гэтай супольнасці. Мы чуем голас адукаваных людзей, здольных да рэфлексіі і пісьмовага выкладання яе вынікаў. Прадстаўнікі найбольш традыцыйных слаёў успамінаў не пісалі. Аднак і з гэтай агаворкай мемуары А. Паперны, Мендэле Мойхер-Сфорыма, Коціка – вельмі каштоўныя крыніцы. Аўтары апісваюць свае родныя мястэчкі з усёй разнастайнасцю іх насельнікаў і ўстаноў, побыту і звычаяў, вераванняў і ўяўленняў, узаемаадносін унутры габрэйскай абшчыны і габрэяў з негабрэямі.

---

[105] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910.

[106] Менделе Мойхер Сфорим. История одной жизни: воспоминания писателя // Еврейский мир. 1909, январь – май.

[107] Котик, Е. Воспоминания / Е. Котик; пер. М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm – Дата доступу: 05.05.2009.

Успаміны прадстаўнікоў негабрэйскага насельніцтва мястэчак сустракаюцца рэдка, датычаць яны, як правіла, 20–30-х гг. XX ст. Аднак калі ўлічыць павольнасць працэсаў мадэрнізацыі ў мястэчках, доўгае захаванне тут элементаў традыцыйнага жыцця, то інфармацыя з успамінаў пра мястэчкі міжваеннага перыяду будзе карыснай і для даследавання мястэчак больш ранняга перыяду. Асаблівую цікавасць уяўляюць мемуары публіцыста, вядомага дзеяча беларускай дыяспары ў ЗША Васіля Стомы-Сініцы, прысвечаныя м. Лужкі Дзісенскага ўезда міжваеннага перыяду[108]. Аўтар пераносіць нас у сваю *terra incognita:* не Бермудскі – а беларускі трохкутнік “царква – касцёл – сінагога”, у якім адбываецца бясконцы спектакль жыцця. Тут і задзёрты ўгару шляхецкі вус, дранка на сняданак, доўгі габрэйскі лапсардак, шумны кірмаш на рынку… У прадмове да ўспамінаў В. Стомы-Сініцы выдаўцы падкрэслілі, што яны не асмеліліся рэдагаваць, правіць мову аўтара, “каб не парушыць, не разбурыць яе непаўторнага рэльефу, тонкай, натуральнай фактуры. Польскае слова, расійскае, габрэйскае… нібы нітачкі, што лёгка ўплятаюцца ў яркую незабыўную тканіну, з якой сшыта моўная адзежына твора, – помнік шматмоўнай местачковай культуры Беларусі”[109].

Успаміны пра сваё роднае мястэчка пакінуў і Сяргей Грахоўскі, карэнны палескі местачковец, вядомы беларускі паэт. Ён апісаў м. Глуск Бабруйскага ўезда міжваеннага перыяду, маляўніча перадаў местачковы дух, каларыт местачковага побыту[110].

Да першай групы разглядаемай мемуарнай літаратуры можна аднесці і “Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану” графа Леана Патоцкага[111]. Кніга апісвае буйныя магнацкія рэзідэнцыі канца XVIII – першай трэці XIX ст.: Свіслач, якая належала графам Тышкевічам, Дзярэчын і Ружаны, якія былі ва ўладанні князёў Сапегаў, Нясвіж князёў Радзівілаў, Ляхавічы за часамі гетмана М. Масальскага. Тут ёсць звесткі і аб стане саміх мястэчак, напрыклад апісваюцца іх знешні выгляд, кірмашы, культурнае жыццё і інш.

Другую групу мемуарнай літаратуры, у якой ёсць інфармацыя пра мястэчкі Беларусі, складаюць *запіскі падарожнікаў*. Яны таксама заснаваны на памяці і фіксаваліся пераважна ў выглядзе дзённікавых запісаў ці ўспамінаў альбо іх спалучэння.

---

108 Стома-Сініца, В. Маё мястэчка / В. Стома-Сініца // Полымя. 1998. № 8, 9, 10, 12.

109 Там жа. № 9. С. 181.

110 Грахоўскі, С. Мястэчка, мястэчка… Элегія / С. Грахоўскі // Полымя. 1992. № 2.

111 Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі / укл., прадмова, камент. А.М. Філатавай; пер. з польскай І.У. Саламевіча. Мінск, 1997.

Значнае месца займаюць мястэчкі Беларусі на старонках нарысаў "Путешествие по Полесью и белорусскому краю", якія сталі візітнай карткай вядомага публіцыста і літаратара Паўла Шпілеўскага. Упершыню гэта праца была апублікавана ў 1853–1855 гг. у някрасаўскім "Современнике". У 1992 г. "Путешествие"... было перавыдадзена ў Мінску з прадмовай і каментарыямі С. Кузняевай. Тут мы знаходзім звесткі пра местачковыя кірмашы і рамёствы, архітэктуру і планіроўку, побыт насельніцтва[112].

Гісторыі беларускіх гарадоў і мястэчак, побыту і фальклору насельніцтва Беларусі прысвяціў сваю кнігу "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" (1853 г.) выдатны польска-беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч)[113]. "Вандроўкі..." – самы яркі празаічны твор У. Сыракомлі. Ён дзеліцца ўражаннямі пра дарагія сэрцу мясціны – Мір, Нясвіж, Стоўбцы, Свержань, Койданаў і інш. Чытач з неаслабнай увагай сочыць за тым далёкім падарожжам паэта, з цікавасцю аглядае тагачасныя мястэчкі і вёскі, зазірае ў простую сялянскую хату, дворык шляхты, велічныя палацы і замкі магнатаў, паглыбляецца разам з аўтарам у сівую даўніну краю, радуецца сустрэчы з жывымі, па-майстэрску намаляванымі вобразамі вядомых гістарычных асоб і простых, але не менш цікавых людзей. Праз хроніку гарадоў і мястэчак У. Сыракомля разгортвае перад намі ўсю гісторыю Беларусі. Надзвычай цікавыя старонкі, прысвечаныя культурнаму жыццю краю. Такім чынам, "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" У. Сыракомлі – выдатная крыніца, дзе ёсць важныя звесткі па шматлікіх пытаннях нашай гісторыі і культуры, у тым ліку і гісторыі мястэчак Беларусі.

Каштоўнай крыніцай па гісторыі мястэчак сярэдзіны XIX ст. з'яўляецца праца гісторыка, краязнаўцы, вайсковага тапографа і статыстыка Міхаіла Без-Карніловіча "Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся"[114]. Кніга пабачыла свет у 1855 г., факсімільнае выданне было зроблена ў Мінску ў 1995 г. М. Без-Карніловіч у 1831–1847 гг. кіраваў тапаграфічнай экспедыцыяй у

---

112 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992.

113 Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, дaслед. гісторыі, звычаяў / У. Сыракомля; пер. з польскай мовы, прадм., камент. К. Цвіркі. Минск, 2002.

114 Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии / М.О. Без-Корнилович. Справочное издание факсимильного типа. Минск, 1995.

Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай губернях, Беластоцкай вобласці. Згаданая кніга стала вынікам не толькі гэтай экспедыцыі, але і працы ў дзяржаўных, манастырскіх, прыватных архівах. Пад Беларуссю аўтар разумеў толькі Віцебшчыну і Магілёўшчыну, астатнюю тэрыторыю лічыў Літвой. М. Без-Карніловіч змясціў інфармацыю пра гісторыю гарадоў і мястэчак, іх сучасны стан: колькасць і склад насельніцтва, яго заняткі, кірмашы, прамысловыя прадпрыемствы, знешні выгляд.

Надзвычай цікавымі з’яўляюцца нататкі Ф. Воінава, дзе апісваецца яго падарожжа па Мінскай губерні ў 1865–1866 гг.[115] Аўтар не толькі занатаваў тое, што бачыў, але і прывёў гістарычныя даведкі пра населеныя пункты, якія праязджаў. Ф. Воінаў апроч іншага пакінуў і шмат назіранняў наконт узаемаадносін паміж габрэямі і беларусамі.

Мястэчкі і іх габрэйскае насельніцтва сталі прадметам апісання ў серыі нарысаў пад назвай “Поездка на Литву”, апублікаванай на старонках часопіса “Восход” у 1894 г. Аўтар іх – Мардэхай Бэн-Амі (габрэйскі пісьменнік, сапраўднае імя Марк Рабіновіч). Тут знайшлі адлюстраванне сюжэты жыцця габрэйскіх абшчын мястэчак Літвы і Беларусі[116].

Названыя творы мемуарнай літаратуры з’яўляюцца каштоўнымі крыніцамі па гісторыі сацыяльна-эканамічнага, культурнага і часткова грамадска-палітычнага развіцця мястэчак Беларусі ў XIX – першай трэці XX ст. У іх знаходзяцца дэтальныя апісанні камічных і трагічных бакоў мястэчковага жыцця, свят і будняў, спецыфічнага жыццёвага ладу насельніцтва. Усе гэтыя мемуарныя творы аб’ядноўваюць пачуццё гумару, трапнасць назіранняў, каларытнасць тыпажаў, рамантычныя, настальгічныя перажыванні аўтараў. Яны даюць унікальную магчымасць зазірнуць у своеасаблівы мястэчковы сусвет, адчуць яго непаўторную атмасферу і каларыт.

Важнай крыніцай па гісторыі Беларусі, у тым ліку і мястэчак, з’яўляецца ***перыядычны друк*** XIX – пачатку XX ст.: “Журнал Министерства внутренних дел”, “Журнал мануфактур и торговли”, “Журнал Министерства народного просвещения”, газеты “Губернские ведомости”, “Виленский вестник”, а таксама “Памятные книжки губерний”, “Dzieje dobroczynności”, “Tygodnik illustrowany” і інш. У гэтых выданнях друкаваліся матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, краязнаўстве, эканоміцы, статыстыцы, культуры, народнай асвеце

---

[115] Путевые записки ст. сов. Ф.Д. Воинова, или Воспоминания о пребывании его в Минской губернии с февраля 1865 по 1 мая 1866 г. СПб., 1891.

[116] Бен-Ами. Поездка на Литву // Восход. 1894. Кн. 2–11.

і інш., асвятляліся падзеі з жыцця населеных пунктаў беларускіх губерняў.

Каштоўнай крыніцай па гісторыі мястэчак з'яўляецца "Наша Ніва", штотыднёвая беларуская грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая і літаратурна-мастацкая газета, што выдавалася ў Вільні з 10 (23) лістапада 1906 г. па 7 (20) жніўня 1915 г. Найбольшая колькасць матэрыялаў пра мястэчкі Беларусі змяшчалася ў аператыўна-інфармацыйнай рубрыцы "З Беларусі і Літвы". На яе старонках утрымліваецца разнастайная інфармацыя аб палітычным, сацыяльна-эканамічным, культурным жыцці насельніцтва мястэчак Беларусі, якая дапамагае ўявіць панараму штодзённага жыцця нашых мястэчак не толькі пачатку XX ст., але і ранейшага часу[117].

Гісторыі гэтых унікальных паселішчаў знайшлі адлюстраванне і на старонках часопіса "Наш край" – органа створанага ў 1923 г. Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры, які выдаваўся штомесячна ў Мінску з кастрычніка 1925 г. па кастрычнік 1930 г. Аналіз публікацый "Нашага краю", прысвечаных мястэчкам Беларусі, дазваляе зрабіць выснову, што ў другой палове 1920-х гг. мястэчкі вывучаліся самымі разнастайнымі сіламі, усебакова, комплексна і планамерна[118]. Некаторыя матэрыялы "Нашага краю" выкарыстаны для дадзенага даследавання.

Крыніцамі па гісторыі габрэйскага насельніцтва мястэчак з'яўляюцца часопісы "Восход" і "Еврейская старина"[119]. Часопіс "Восход" (з № 11 за 1899 г. "Книжки Восхода») выдаваўся ў 1881–1906 гг., рэдактарам яго быў Арон (Адольф) Ландау, з № 8 за 1899 г. – М. Сыркін. Часопіс прысвячаўся гісторыі, грамадскаму жыццю і літаратуры габрэяў. "Еврейская старина" выходзіла ў пачатку XX ст. пад агульнай рэдакцыяй С. Дубнава. Практычна ўсе апублікаваныя артыкулы асвятлялі пытанні гісторыі, этнаграфіі і прававога становішча габрэяў Расійскай імперыі. Гэта было першае ў Расіі на-

---

[117] Соркіна, І.В. Мястэчкі Беларусі на старонках "Нашай нівы" (1906–1908 гг.) / І.В. Соркіна // Беларусь у эпоху рэвалюцыйных узрушэнняў: Да 100-годдзя выхаду ў свет газеты "Наша ніва": матэрыялы Рэсп. навук.-тэарэт. канф., г. Мінск, 10 лістап. 2006 г. Мінск, 2006. С. 194–198.

[118] Соркіна, І. Праблемы мястэчак Беларусі на старонках часопіса "Наш край" (другая палова 1920-х гадоў) / І. Соркіна // Гістарычны альманах. Т. 10. Гродна, 2004. С. 141–150.

[119] Дапамогу ў пошуку неабходных матэрыялаў аказваюць выданні: "Восход" "Книжки Восхода". Роспись содержания. 1881–1906 гг. / сост. А.Р. Румянцев; предисл. В.Е. Кельнера. СПб., 2001; "Еврейская старина". Указатель статей за 6 лет (1909–1914). Пт., 1919.

вуковае перыядычнае выданне, якое спецыялізавалася ў галіне габрэйскай гісторыі.

***

Гістарыяграфічны агляд і аналіз крыніц па даследуемай праблеме дазваляе зрабіць наступныя высновы. На сённяшні момант у айчыннай гістарыяграфіі традыцыйна аддаецца перавага вывучэнню найперш буйных і сярэдніх гарадскіх пасяленняў. Аналіз асобных бакоў развіцця мястэчак, пераважна сацыяльна-эканамічнага, адбываецца, як правіла, у агульнагарадскім рэчышчы. Сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. не з'яўлялася прадметам спецыяльнага вывучэння. У шматлікай літаратуры пэўныя аспекты гэтай праблемы толькі закранаюцца. Гістарычная навука, асабліва замежная, мае значныя набыткі ў даследаванні гісторыі габрэйскіх абшчын, штэтла, аднак мястэчка як тып паселішча і як пэўная гістарычная з'ява застаецца недастаткова вывучаным.

У той жа час намі выяўлены багаты фактычны матэрыял пра мястэчкі, які ўтрымліваюць краязнаўчыя і статыстычныя выданні XIX – пачатку XX ст., архіўныя крыніцы, мемуары, перыядычны друк. Наяўная база крыніц (друкаваных і рукапісных) дазваляе паглыбіць даследаванні гістарычных працэсаў, што адбываліся ў мястэчках Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Разнастайнасць назапашаных ведаў па гісторыі мястэчак таго часу выклікае неабходнасць іх сістэматызацыі і падагульнення, а таксама дае магчымасць рэканструяваць жыццядзейнасць мястэчак у дастаткова поўным аб'ёме. Таму мэтай дадзенага даследавання стане комплекснае вывучэнне мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мяркуецца паказаць іх спецыфіку як паселішчаў пераходнага тыпу паміж вёскай і горадам, раскрыць асаблівасці развіцця ў гэтых населеных пунктах эканомікі, сацыяльна-дэмаграфічнай сітуацыі і культуры. Праўда, вычарпальна асвятліць некаторыя пытанні з-за недахопу звестак не заўсёды магчыма.

Дадзеная кніга з'яўляецца вынікам даследавання складанай і шматграннай праблемы ролі мястэчак у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. на аснове наяўных крыніц і прац гісторыкаў, у якіх закранаюцца асобныя аспекты гэтай тэмы.

# 2. Агульная характарыстыка мястэчак і ўмовы іх развіцця ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.

## 2.1. Азначэнне паняццяў “мястэчка”, “штэтл”

Асноўныя тэрміналагічныя праблемы, якія ўзнікаюць пры даследаванні гісторыі гарадскіх паселішчаў Беларусі, датычаць ужывання паняццяў і тэрмінаў “горад”, “мястэчка”, “гарадскія паселішчы” альбо “паселішчы гарадскога тыпу”. У гістарычнай літаратуры няма агульнапрынятых азначэнняў гэтых паняццяў. Найбольш дыскусійным з’яўляецца тэрмін “мястэчка”.

Праблема азначэння паняцця “мястэчка”, яго спецыфікі ў параўнанні з іншымі паселішчамі (вёскай і горадам) займае значнае месца ў даследаваннях шэрага гісторыкаў. У выніку пошуку найбольш характэрных рыс мястэчка ў навуковай літаратуры яно паўстае як населены пункт, які адрозніваўся ад горада меншай колькасцю і складанасцю структуры насельніцтва, адсутнасцю абарончых збудаванняў, большай ступенню аграрнасці; ад сяла і вёскі – наяўнасцю сталага гандлю і рамяства, большай культурнай і адміністрацыйнай значнасцю, а таксама большай складанасцю планіроўкі і забудовы[1].

Адносна перыяду канца XVIII – першай паловы XIX ст. А. Кіштымаў характарызуе спецыфіку мястэчак наступным чынам: ад вёсак іх адрознівала права на вядзенне гандлю, рамёстваў і кірмашовую дзейнасць, ад гарадоў – адсутнасць сістэмы гарадскога самакіравання і гарадскіх правоў для мястэчковага насельніцтва[2].

---

1 Лакотка, А. Мястэчка / А. Лакотка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 251; Лакотка, А. Мястэчка / А. Лакотка // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 11. Мінск, 2000. С. 79–80; Цітоў, В.С. Мястэчка / В.С. Цітоў // Народная культура Беларусі: энцыкл. давед. Мінск, 2002. С. 248; Гуркоў, У. Мястэчка / У. Гуркоў // Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя. Мінск, 1989. С. 332 і інш.

2 Кіштымаў, А.Л. Гарады і мястэчкі / А. Кіштымаў // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) . Мінск, 2005. С. 129.

Абгрунтаванне характэрных асаблівасцей мястэчак, якія адрозніваюць іх ад гарадоў і вёсак, прыводзілася ў праграме вывучэння гэтых паселішчаў, распрацаванай Цэнтральным бюро краязнаўства, створаным у 1923 г. пры Інстытуце беларускай культуры. Адзначалася, што з эканамічнага пункту погляду мястэчка характарызуецца больш павольным тэмпам развіцця ў параўнанні з горадам, што накладала адбітак некаторай інертнасці на яго агульны ўклад. Ад вёскі мястэчка адрозніваецца разнастайнасцю заняткаў насельніцтва – побач з земляробствам у ім шырока распаўсюджаны розныя рамёствы і формы гандлю, пасрэдніцтва, крэдытавыя аперацыі і да т.п. З пункту погляду культурна-гістарычнага мястэчка характарызуецца разнастайнасцю свайго нацыянальнага складу – галоўным чынам перавагай габрэйскага насельніцтва[3]. Складальнік гэтай праграмы Г. Аляксандраў, абгрунтоўваючы неабходнасць усебаковага вывучэння мястэчка, адзначаў, што мястэчка цікавае з трох бакоў: 1) разнастайнасцю заняткаў насельніцтва; 2) павольным тэмпам свайго развіцця; 3) нацыянальным складам. “У мястэчках перакрыжоўваюцца самыя разнастайныя эканамічныя і нацыянальныя інтарэсы, а ў нас зусім няма матэрыялаў, якія характарызавалі б гэта скрыжаванне горада і вёскі, габрэйскай і беларускай культуры”, – заключаў Аляксандраў[4].

Звычайна гісторыкі адносяць мястэчкі побач з гарадамі да паселішчаў гарадскога тыпу ці проста да гарадскіх паселішчаў (А. Карпачоў, З. Капыскі, А. Грыцкевіч, Ю. Бохан, Е. Ахманьскі, С. Александровіч і інш.). Так, А. Карпачоў, зыходзячы з колькасці і сацыяльнага складу насельніцтва (наяўнасць купцоў, мяшчан-рамеснікаў), адносіць да ліку гарадскіх пасяленняў Беларусі ў канцы XVIII ст. 39 гарадоў і 399 мястэчак. Даследчык прызнаваў у якасці важнейшага крытэрыя размежавання горада і мястэчка лічбу ў 300 дымоў і падкрэсліваў сувязь паміж памерамі гарадскіх пасяленняў і ўзроўнем іх гандлёва-прамысловага развіцця. У якасці дадатковых паказчыкаў залічэння населеных пунктаў да гарадоў А. Карпачоў разглядаў іх адміністрацыйна-палітычнае становішча і наяўнасць самакіравання па магдэбургскім праве. Аднак даследчык падкрэслівае, што падзяленне гарадскіх пасяленняў Беларусі на гарады і мястэчкі з’яўляецца ўмоўным, таму што канкрэтнае выву-

---

[3] Аляксандраў, Г. Праграма вывучэння мястэчка / Г. Аляксандраў // Наш край. 1928. № 2 (29). С. 45.

[4] Наш край. 1927. № 11 (26). С. 43.

чэнне асобных мястэчак можа выявіць у іх больш гарадскіх рыс, чым у некаторых населеных пунктах, аднесеных да гарадоў[5].

3. Капыскі вылучае чатыры катэгорыі гарадоў і да апошняй залічвае мястэчкі, якія складаліся менш чым з 300 дымоў[6]. З падобным колькасным вызначэннем дымоў у мястэчку пагаджаўся А. Грыцкевіч[7]. Абодва даследчыкі прымалі таксама ў якасці адметнай рысы мястэчак перавагу сельскагаспадарчых заняткаў.

Найбольш разгорнутую структуру спецыфічных рыс мястэчка прапанаваў Е. Ахманьскі[8].

1. Адметная гаспадарчая структура: у мястэчках большасць насельніцтва займалася, як правіла, сельскай гаспадаркай.

2. Адметная грамадская структура: адсутнасць у мястэчках падзелу на патрыцыят і паспаліцтва.

3. Адметныя гаспадарчыя функцыі: пасрэдніцтва паміж моцным гаспадарчым асяродкам – горадам і сельскім рэгіёнам, абслугоўванне камунікацыйнага руху.

4. Галоўны элемент, які адрознівае горад ад мястэчка, – засяленне: у мястэчку налічвалася некалькі ці некалькі дзесяткаў дымоў (не больш за 150 ці 1000 жыхароў, калі лічыць 6–6,5 чалавека на дым).

С. Александровіч выдзяляе тры групы населеных пунктаў гарадскога тыпу ў залежнасці ад ступені заселенасці.

1. Мястэчкі – 150 дымоў ці 1050 жыхароў пры сярэдняй колькасці 7 чалавек у дыме.

2. Найвялікшыя мястэчкі – 151–250 дымоў ці 1051–1750 жыхароў.

3. Гарады – больш за 250 дымоў ці 1750 жыхароў[9].

На думку С. Александровіча, адным з галоўных крытэрыяў мястэчка, які адрознівае яго ад горада і набліжае да вёскі, з'яўляецца перавага сельскагаспадарчых заняткаў местачкоўцаў. Цікавым падаецца меркаванне гісторыка аб спецыфіцы структуры рынку мястэчка як асноўным фактары яго адметнасці: рынак мястэчка ахопліваў

---

5 Карпачёв, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII – XVIII в.: Дис. ... доктора ист. наук: / А.М. Карпачёв / Минск, 1969. С. 83, 91.

6 Копысский, З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI–XVII вв.) / З.Ю. Копысский. Минск, 1975. С. 27.

7 Грицкевич, А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. / А.П. Грицкевич. Минск, 1975. С. 9, 37.

8 Ochmański, J. W kwestii agrarnego charakteru miast Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI w. / J. Ochmański // Studia historica. W 35-lecie pracy naukowej Henryka Łowmańskiego. Warszawa, 1958. S. 294.

9 Aleksandrowicz, S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI – I połowie XVII w. / S. Aleksandrowicz // Rocznik Białostocki. 1961. I. S. 65.

толькі бліжэйшыя ваколіцы, а рынак горада складаўся ў залежнасці ад яго гаспадарчага значэння з некалькіх дзесяткаў і больш лакальных рынкаў мястэчак і малых гарадоў. У той жа час С. Александровіч акцэнтуе ўвагу на немагчымасці ўсталявання дакладнай мяжы паміж горадам і мястэчкам, сцвярджаючы, што многія мястэчкі ўяўлялі сабой этап эвалюцыі ад мястэчка да горада.

З. Кулееўская-Тапольская адпаведна колькасці жыхароў дзеліць польскія гарады канца XVIII ст. на чатыры катэгорыі. Гарады 4-й катэгорыі мелі менш за 300 дымоў, насельніцтва іх займалася сельскай гаспадаркай. Даследчыца называе такія гарады мястэчкамі, аднак адзначае, што многія з іх былі развітымі цэнтрамі рамяства і гандлю[10].

Такім чынам, пры аналізе структуры населеных пунктаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV–XVIII стст. большасцю сучасных даследчыкаў традыцыйна прапануюцца два галоўных крытэрыя спецыфікі мястэчка: невялікая, не больш за 300 дымоў, заселенасць і аграрны характар мястэчка, недаразвітасць яго гандлёвай і рамесніцкай дзейнасці. Лакальная гаспадарчая і адміністрацыйная значнасць разглядаецца, як правіла, у якасці дадатковых рыс спецыфікі мястэчак. Падкрэсліваецца пераважна аграрны характар мястэчак, што аргументуецца земляробствам як асноўнай дзейнасцю большасці местачкоўцаў, фактычна выключае іх з шэрага чыста гарадскіх пасяленняў, прымушаючы разглядаць іх як пераходную ступень ад вёскі да горада.

Цікавай падаецца трактоўка мястэчка Ю. Боханам. На падставе крытэрыяў адміністрацыйнай і гаспадарчай значнасці ён разглядае мястэчка XV–XVIII стст. (на прыкладзе мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны) як драбнейшы населены пункт гарадскога тыпу, малы горад, эканамічны ўплыў якога абмяжоўваўся невялікімі сельскагаспадарчымі раёнамі, якія не мелі, як правіла, іншых гарадскіх пасяленняў і адміністрацыйным цэнтрам якіх ён звычайна з'яўляўся[11].

Некаторыя даследчыкі не адносілі мястэчкі да пасяленняў гарадскога тыпу, лічылі іх сельскімі, звяртаючы ўвагу на вельмі слабае развіццё ў іх негарадскіх заняткаў (Павел Баброўскі, Мацей Любаўскі, Павел Рындзюнскі і інш.). Так, П. Баброўскі разглядаў мястэчкі разам

---

[10] Kulejewska-Topolska, Z. Nowe lokacje miejskie w Wielkopolsce od XVI do końca XVIII w./ Z. Kulejewska-Topolska. Poznań, 1964. S. 51.

[11] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV–XVIII стст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): Дыс. ... канд. гіст. навук / Ю.М. Бохан. Мінск, 1994. С. 33.

з пазаштатнымі гарадамі як сельскія пасяленні, падкрэсліваючы мізэрнасць развіцця ў іх гарадскіх элементаў. Аднак прызнаваў, што некаторыя асаблівасці мястэчак і пазаштатных гарадоў адрознівалі іх ад чыста земляробчых паселішчаў. У гарадах і мястэчках сканцэнтравана ўсё габрэйскае насельніцтва, якое займалася гандлем і промысламі. З другога боку, усё хрысціянскае насельніцтва мястэчак і пазаштатных гарадоў займалася земляробствам. Такім чынам, мястэчкі і пазаштатныя гарады, на думку П. Баброўскага, аб'ядноўвалі ў сабе два элементы – прамысловы і земляробчы, што і складала іх адметнасць[12]. М. Любаўскі прапанаваў тэзіс аб мястэчках як своеасаблівых "прамысловых вёсках", які ён вылучыў на той падставе, што местачкоўцы займаліся рамяством і гандлем пабочна, у той час як асноўным іх заняткам заставалася сельская гаспадарка[13]. П. Рындзюнскі не адносіў мястэчкі да гарадскіх пасяленняў на той падставе, што большасць мястэчак былі прыватнаўласніцкімі і ўлада памешчыкаў замяняла спецыфічныя гарадскія ўстановы. На думку даследчыка, якія б знешнія прыкметы не супадалі ў мястэчак з гарадамі, усё ж іх гаспадарча-прававая аснова адрознівалася ад гарадской. Аднак, адзначае Рындзюнскі, сярод мястэчак і гарадоў існавалі пераходныя формы. Некаторыя мястэчкі па аб'ёме гаспадарчага прадпрымальніцтва ўладальніка і часткі насельніцтва, а таксама па наяўнасці ў іх органаў дзяржаўнай адміністрацыі, якія ў пэўнай ступені абмяжоўвалі ўладу памешчыкаў, блізка падыходзілі да горада[14].

Асобныя гісторыкі разглядалі мястэчкі ў якасці пераходнага звяна ад вёскі да горада, адзначаючы іх прамежкавае становішча і перапляценне ў іх гарадскіх і сельскіх рыс (Мітрафан Доўнар-Запольскі, Уладзімір Гуркоў і інш.). Так, М. Доўнар-Запольскі лічыў, што памылкова ўключаць у склад гарадскіх пасяленняў мястэчкі. Ён разглядаў мястэчкі ў якасці пераходнага звяна ад вёскі да горада[15].

На нашу думку, пры трактоўцы паняцця "мястэчка" трэба шукаць спецыфіку мястэчак у параўнанні і з вёскай, і з горадам, а таксама ўлічваць асаблівасці развіцця мястэчак у часы Вялікага Княства Літоўскага і перыяд Расійскай імперыі.

---

[12] Бобровский, П.В. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П.В. Бобровский. СПб., 1863. Ч. 1. С. 479–482.

[13] Цыт. па: Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны... С. 25.

[14] Рындзюнский, П.Г. Городское гражданство дореформенной России / П.Г. Рындзюнский. М., 1958. С. 310.

[15] Доўнар-Запольскі, М.В. Гісторыя Беларусі / М.В. Доўнар-Запольскі. Мінск, 1994. С. 323.

Аналіз ужывання тэрміна “мястэчка” ў XVI–XVIII стст. дазволіў гісторыкам (А. Грыцкевіч, С. Александровіч, Ю. Бохан) зрабіць выснову аб адсутнасці строгай рэгламентацыі пры выкарыстанні тэрмінаў “мястэчка” і “места”. Аднак падобная тэрміналагічная адвольнасць і недакладнасць дапускалася ў тыя часы толькі ў дачыненні да горада і мястэчка, паміж якімі не бачылася прынцыповай розніцы і якія залічваліся ў адну групу населеных пунктаў, але ніколі – у дачыненні да мястэчка і вёскі, паміж якімі праводзілася дакладная мяжа. І тут можна цалкам пагадзіцца з меркаваннем Ю. Бохана: калі мястэчка кардынальна адрозніваецца ад вёскі сваім статусам сталага асяродка гандлёвага абмену, то адрозненні паміж мястэчкам і большым горадам зводзяцца да ўзроўню колькасных, галоўным чынам у выглядзе памераў тэрыторыі, на якую распаўсюджваўся іх гаспадарчы і адміністрацыйны ўплыў[16].

Толькі ў апошняй чвэрці XVIII ст. узнікла адносна дакладная трактоўка мястэчка. У пастанове Варшаўскага сойма аб генеральным падымным за 1775 г. усе гарадскія пасяленні Рэчы Паспалітай падзяляліся на тры групы: “гарады вялікія”, “гарады меншыя” і “мястэчкі”. Сцвярджалася, што “пад мястэчкамі трэба разумець такія, каторыя адным земляробствам жывуць і меней як 300 дымоў налічваюць”[17]. Гэтая трактоўка аказала значны ўплыў на разуменне спецыфікі мястэчак большасцю сучасных даследчыкаў эпохі феадалізму. Таму пры аналізе структуры гарадскіх паселішчаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай ў XV–XVIII стст. З. Капыскі, А. Грыцкевіч, А. Карпачоў і інш. прапануюць два галоўных крытэрыя спецыфікі мястэчка: невялікая, не больш за 300 дымоў, заселенасць і аграрны характар мястэчка, недаразвітасць яго гандлёвай і рамесніцкай дзейнасці.

Заканадаўства Расійскай імперыі не давала пэўнага і дакладнага вызначэння статуса горада. Не існавала і агульнапрынятага паняцця мястэчка. Гэта былі паселішчы, невядомыя раней Расіі (расійскія пасады, якія былі падобныя на беларускія мястэчкі ў сэнсе пераходнага стану паміж вёскай і горадам, усё ж не мелі габрэйскага насельніцтва і рэдка з’яўляліся прыватнаўласніцкімі). Да 1860 г. мястэчка вызначалася як гандлёва-прамысловы цэнтр без умацаванняў, заселены пераважна габрэямі на тэрыторыі, далучанай у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай[18]. Аднак імперскае заканадаўства ў адных выпадках

[16] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны… С. 33.

[17] Цыт. па: Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны... С. 28.

[18] Миронов, Б.Н. Социальная история России периода империи (XVIII – начало XX в.) / Б.Н. Миронов. Т. 1. СПб., 1999. С. 283.

адносіла мястэчкі да гарадскіх паселішчаў, а ў іншых – да сельскіх. Адна і тая ж мясцовасць у афіцыйных дакументах называлася то мястэчкам, то сялом, то вёскай. Нават праз 7–8 дзесяцігоддзяў пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі царскія ўлады так і не вызначыліся, што рабіць з мястэчкамі. У перыяд падрыхтоўкі гарадской рэформы 1870 г., калі збіралася інфармацыя пра мястэчкі, чыноўнікі канстатавалі супярэчнасць заканадаўства наконт гэтых паселішчаў: “По существующим узаконениям местечки относятся частию к городским, частию к сельским поселениям, так по Уставу строительному местечки сравнены с селами и деревнями; по правилам же об устройстве полиции в некоторых местечках учреждается особое городское полицейское управление. По положению 9 февраля 1865 г. о пошлинах за право торговли и промыслов местечки отнесены к разряду городских поселений; равно же Положениями о налоге в пользу казны с недвижимых имуществ (1 января 1863 г. и 4 октября 1866 г.) местечки облагаются этим налогом наряду с городами и посадами”[19].

У 80-х гг. XIX ст. адносіны ўрада да вызначэння мястэчак сталі больш адказнымі, што дыктавалася неабходнасцю дакладнага размежавання гарадскіх і сельскіх паселішчаў у сувязі з уступленнем у дзеянне “Часовых правілаў” ад 3 мая 1882 г., якія забаранялі габрэям зноў сяліцца і набываць нерухомую маёмасць па-за межамі гарадоў і мястэчак. Мястэчкамі прызнаваліся тыя паселішчы, якія побач з афіцыйнай назвай мелі мяшчанскае кіраванне і дзе збіраўся падатак з нерухомай маёмасці. Аднак усё ж агульнапрынятага і бясспрэчнага паняцця мястэчка юрыдычна так і не было выпрацавана. Статус яго тлумачыўся па-рознаму, у залежнасці ад тых інтарэсаў, якімі кіраваліся ўлады.

Акрамя таго, у канцы XVIII – пачатку XX ст. адбываўся працэс паступовага “размывання” сярэднявечных мястэчак. Яны гублялі свой традыцыйны статус і ранейшую аднатыповасць. Адны з іх апускаліся да становішча звычайных сельскіх паселішчаў. Іншыя захоўвалі сваю класічную функцыю эканамічнага абслугоўвання на лакальных рынках пераважна тых панскіх і сялянскіх гаспадарак, якія з цяжкасцю пераходзілі на прадпрымальніцкі лад. Частка мястэчак здолела ўзняцца на ўзровень гарадоў. Інтэнсіўнасць працэсу “размывання” мястэчак вызначалася зменамі ў сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краі і палітыкай царызму ў дачыненні да мястэчак.

[19] Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. V. СПб., 1879. С. 153.

Такім чынам, калі мястэчкі Беларусі часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай амаль без выключэнняў можна ўпэўнена адносіць да гарадскіх паселішчаў, то мястэчкі ў перыяд Расійскай імперыі характарызаваліся вялікай разнастайнасцю тыпаў. Многія мястэчкі па сваёй ролі ў эканамічным і культурным развіцці Беларусі стаялі на ўзроўні гарадоў, і таму іх правамерна адносіць да катэгорыі “гарадскіх паселішчаў”. У той жа час існавалі мястэчкі, якія амаль што не адрозніваліся ад сельскіх населеных пунктаў. Пад назвай “мястэчка” хаваліся як буйныя гандлёва-прамысловыя цэнтры, якім не хапала толькі афіцыйнага гарадскога статуса, так і звычайныя сельскія паселішчы. У беларускай гістарыяграфіі на гэта першымі звярнулі ўвагу В. Чапко і А. Люты. Так, В. Чапко адзначыла, што шэраг мястэчак (Зэльва, Свіслач, Косава, Ружаны, Смаргонь, Мір, Карэлічы, Бешанковічы, Асвея, Валожын, Налібокі, Глыбокае, Урэчча, Лагішын, Любяшоў, Парычы, Крычаў, Дуброўна, Любавічы, Жлобін, Шклоў) па сваім значэнні ў гандлі, наяўнасці прамысловых прадпрыемстваў, колькасці насельніцтва пераўзышлі некаторыя ўезныя гарады[20]. А. Люты разглядае мястэчкі ў якасці асобнага тыпу пасяленняў, аднак лічыць, што частку з іх можна аднесці да пасяленняў гарадскога тыпу. Да такой катэгорыі даследчык адносіць мястэчкі, якія з’яўляліся не толькі гандлёвымі цэнтрамі, але і цэнтрамі развіцця рамеснай і мануфактурнай вытворчасці. Важнае значэнне мае зробленая А. Лютым выснова аб тым, што некаторыя мястэчкі Беларусі па сваім значэнні ў развіцці гандлю і рамяства, наяўнасці прамысловых прадпрыемстваў, колькасці насельніцтва і нават па знешнім выглядзе стаялі на ўзроўні гарадоў, а іншы раз і пераўзыходзілі іх[21].

На вялікую разнастайнасць тыпаў мястэчак звяртае ўвагу і З. Шыбека. Даследчык праводзіць класіфікацыю мястэчак па ступені іх набліжанасці да гарадоў[22]. Але пра гэта будзе сказана ніжэй.

Для таго каб лепш зразумець палажэнне мястэчак у сістэме населеных пунктаў Беларусі і ступень іх уключанасці ў структуру гарадскіх паселішчаў, варта разглядаць іх у двух аспектах – як тып пасяленняў са спецыфічнымі эканамічнымі, культурнымі і адміністрацыйнымі функцыямі, які нараджаецца з мясцовых патрэб, і малы горад (мястэчка) як стадыя росту. Любы, нават самы дробны горад, што ўзнік

[20] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. / В.В. Чепко. Минск, 1981. С. 10.

[21] Лютый, А. М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. / А.М. Лютый. Минск, 1987. С. 19, 148.

[22] Шыбека, З.В. Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX ст.) / З.В. Шыбека. Мінск, 1997. С. 80.

першапачаткова як лакальны цэнтр, з самага пачатку існавання быў скіраваны на ўзбуйненне і пашырэнне сфер свайго ўплыву. Мястэчкі, якія паспяхова спраўляліся з гэтай задачай, перарасталі ў сярэднія, а ў выключных выпадках і буйныя гарады. Праўда, у часы Расійскай імперыі тут узнікалі цяжкасці з набыццём афіцыйнага гарадскога статуса. З другога боку, некаторыя мястэчкі занепадалі і станавіліся сёламі ці вёскамі. Іншыя – заставаліся дробнымі паселішчамі аграрнага характару са слаба развітымі рамяством і гандлем. Такая разнастайнасць вызначалася ўсім комплексам канкрэтна-гістарычных умоў.

Намнога складаней вызначыцца з першым аспектам – мястэчка як тып населенага пункта. На наш погляд, пры вызначэнні паняцця “мястэчка”, акрамя крытэрыяў гаспадарчай і адміністрацыйнай значнасці, неабходна звярнуцца і да крытэрыя культурнай ролі мястэчак. Нельга не прыгадаць тут важнасць камунікацыйнай функцыі мястэчак у інтэграцыйных працэсах на беларускіх землях, на што звярнуў увагу Ігар Углік. На працягу ўсяго перыяду функцыяніравання гэтых паселішчаў яны з’яўляліся своеасаблівымі кантактнымі зонамі для сялянства навакольных вёсак, насельніцтва самога мястэчка, а таксама гандлёвых людзей з гарадоў і іншых мястэчак. У інтэграцыйным аспекце мястэчка выступала як кансалідуючы цэнтр групы навакольнага сельскага насельніцтва ў сістэме нівеліруючых працэсаў больш высокага таксанамічнага ўзроўню. Кантактнаму аб’яднанню жыхароў значнай навакольнай тэрыторыі садзейнічалі не толькі эканамічныя функцыі мястэчак, але і адміністрацыйныя, рэлігійныя і культурна-асветніцкія. Такім чынам, мястэчкі адыгрывалі важную ролю ў інтэнсіфікацыі непасрэдных (асабістых) кантактаў паміж людзьмі, якія з’яўляюцца дзейсным сродкам распаўсюджання сінхроннай этнакультурнай інфармацыі і забеспячэння інтэграванасці этнасу[23].

Мястэчкі, такім чынам, мэтазгодна разглядаць як асобны тып паселішчаў, нятоесных ні вёсцы, ні гораду, які выконваў функцыі эканамічнага, адміністрацыйнага, камунікацыйнага, культурнага цэнтра параўнальна невялікіх сельскіх раёнаў, якія, як правіла, не мелі гарадоў. Мястэчкі арганічна спалучалі рысы і сельскіх, і гарадскіх паселішчаў. Гэта праяўлялася ў гаспадарчых занятках, структуры

---

[23] Углік, І.Р. Камунікацыйная функцыя мястэчак цэнтральнай Беларусі ў інтэграцыйных працэсах на беларускіх землях у дарэвалюцыйны перыяд / І.Р. Углік // Быт і культура беларусаў: Тэзісы дакладаў навук. канф. Мінск, 1984. С. 34–35.

насельніцтва, архітэктуры, што будзе паказана ў наступных раздзелах. Цікава адзначыць, што паводле даследаванняў беларускага этнографа Лідзіі Малчанавай адзенне местачковага насельніцтва ўяўляла сабой арганічны сплаў гарадскога і сельскага касцюма[24]. Спецыфіка мястэчак шмат у чым вызначалася гэтым скрыжаваннем горада і вёскі.

Наступны важны момант, на які трэба звярнуць увагу, звязаны з канцэнтрацыяй у гарадскіх паселішчах Беларусі габрэйскага насельніцтва, што было абумоўлена вядомым комплексам прычын. Гарады і мястэчкі нашага краю паступова пераўтварыліся ў асяродкі габрэйскай гісторыі і культуры рэгіёна. У сувязі з гэтым падаецца неабходным увядзенне ў беларускую гістарыяграфію, у прыватнасці ва урбаністыку, тэрміна “штэтл”, які шырока выкарыстоўвае іудаіка і які трывала замацаваўся ў нашых суседзяў: у польскай, украінскай, расійскай і літоўскай гістарыяграфіях.

У перакладзе з мовы ідыш “штэтл” ці “штэтлэх” азначае “мястэчка”. Гэта магло быць мястэчка як з 500, так і з 20 000 жыхароў. Маленькія мястэчкі называліся ласкава “штэйтэле”. Тэрмін “штэтл” трапіў на старонкі навуковай літаратуры даўно. Адна з першых прац, якая прысвечана гэтаму паняццю і лічыцца класікай, – кніга Марка Збароўскага і Элізабэт Херцаг[25]. Класічным апісаннем штэтла з’яўляецца і праца Дыяны і Дэвіда Роскесаў[26]. Сёння існуе шмат літаратуры аб штэтле і шмат трактовак гэтага паняцця[27]. З усіх шматлікіх спроб даць азначэнне тэрміну “штэтл” можна вылучыць наступныя:

- усялякае паселішча ва Усходняй Еўропе, дзе жылі габрэі;
- паселішча, большасць насельніцтва якога складалі габрэі і якое мела габрэйскае аблічча;
- асобны соцыум, які выразна адрозніваўся ад акаляючага насельніцтва мовай, гаспадарчымі заняткамі, рэлігіяй, культурай;

---

24 Малчанава, Л.А. Адзенне насельніцтва беларускіх мястэчак (XIX – пачатак XX ст.) / Л.А. Малчанава // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1981. № 2.

25 Zborowski, M., Life is with people: The Culture of the Shtetl / M. Zborowski, E. Herzog. New York, 1952.

26 Roskes, Diane K. The shtetl book: An introduction to East European Jewish Life and Lore / Diane K. Roskes, David G.Roskes. INC, 1979.

27 Пра дыскусію вакол паняцця “штэтл” больш падрабязна гл. у: Львов, А. Штетл в XXI в. и этнография постсоветского еврейства / А. Львов // Штетл, XXI век: Полевые исследования. СПб., 2008. С. 9–26.

- частка горада, у якой кампактна жылі габрэі (габрэйскі квартал)[28].

Цікавым, на наш погляд, з'яўляецца тлумачэнне паняцця "штэтл" Дж. Кліерам, які разглядае "штэтл" як эканамічна-культурную зону, што аб'ядноўвала габрэяў паміж сабой, а таксама габрэяў і хрысціян[29]. Нам падаецца найбольш слушнай трактоўка "штэтла", прапанаваная Э. Бергман. Яна вызначае "штэтл" *як габрэйскую фізічную і духоўную прастору ў польскім (беларускім, украінскім, літоўскім) мястэчку*[30]. Гэтая прастора ўспрымалася традыцыйнай габрэйскай свядомасцю ў побытавым, рэлігійным і містычным планах у адпаведнасці з галахічнымі ўяўленнямі, народнымі звычаямі і мясцовымі традыцыямі.

Заўважым, што вельмі часта паняцці "штэтл" і "мястэчка" атаясамліваюцца. З гэтым нельга пагадзіцца. Бо тады губляецца негабрэйскае насельніцтва мястэчак. Атаясамліванне паняццяў "штэтл" і "мястэчка" прыводзіць да недарэчнасцей. Так, у артыкуле Леі Альтшулер, прысвечаным м. Вішнева, чытаем: "Местечком называлось небольшое селение полугородского типа, возникшее в Польше в XV–XVI вв., которое, как правило, связано было с приглашением евреев местным феодалом для занятий в экономическо-посреднической деятельности"[31]. Але з гэтага пачынаўся "штэтл", а не "мястэчка". Генезіс мястэчак быў звязаны не толькі з гэтымі, але і з іншымі працэсамі, што працякалі на землях Вялікага Княства Літоўскага ў XV–XVI стст.[32] Паняцце "мястэчка" шырэй за паняцце "штэтл", "мястэчка" ўключае "штэтл" як сваю частку. Гэтая частка, як правіла, дамініравала, асабліва ў XIX – пачатку XX ст., але не заўсёды. Існавалі нават мястэчкі, дзе габрэяў увогуле не было.

---

[28] Гончаров, В. Еврейские местечки юго-восточной Украины XIX – начала XX в.: социально-экономический аспект / В. Гончаров // Sztetł – wspólne dziedzictwo: szkice z dziejów ludności żydowskiej Europy Środkowo-Wschodniej / red. Artur Markowski i Wojciech Śleszyński. Białystok, 2003. S. 110–111.

[29] Klier, John D. What exactly was a Shtetl? / John D. Klier // The shtetl: Image and Reality. Papers of the Second Mendel Friedman International Conference on Yiddish. University of Oxford, 2000. S. 26.

[30] Дадзенае азначэнне было прапанавана Э. Бергман на адной з кансультацый аўтара з ёй у красавіку 2003 г. падчас навуковай стажыроўкі ў Польшчы, якая адбылася дзякуючы "Fundacji Popierania Nauki Kasy im. J. Mianowskiego".

[31] Альтшулер, Л. Вишнёво: краеведческий очерк / Л. Альтшулер // Евреи Беларуси: История и культура. Минск, 1998. С. 163.

[32] Соркіна, І.В. Складанне сеткі мястэчак на беларускіх землях (XV – пачатак XX ст.) / І.В. Соркіна // Шляхі развіцця інтэлекта і творчасці маладых: Матэрыялы рэспубліканскай навук.-практ. канф. Гродна, 2001. С. 212–217.

Напрыклад, інвентары м. Грэск Слуцкага ўезда ў першай палове XIX ст. не фіксуюць ніводнага габрэйскага двара. Так, у 1832 г. тут налічвалася 105 двароў, з іх "халупных" – 8, "ляснічых" – 4, астатнія 93 двары належалі мяшчанам-хрысціянам[33]. Пражыванне габрэяў у м. Жыровічы было забаронена ў часы Яна Казіміра (1648–1668 гг.). Па гэтым дакуменце, які захоўваўся яшчэ ў канцы XIX ст., габрэям не дазвалялася нават спыняцца тут на начлег, а падчас праезду праз мястэчка яны мусілі ісці пешшу, з непакрытай галавой і басанож[34]. Аднак у XIX ст. габрэі ў Жыровічах хоць і ў малой колькасці, але жылі: у 1829 г. крыніцы фіксуюць 3 габрэйскія двары[35]. З другога боку, можна прывесці прыклад мястэчка, дзе жылі адны габрэі. Па афіцыйных звестках за 1880 г., м. Захарына Мсціслаўскага ўезда было заселена аднымі габрэямі: 311 мужчын і 390 жанчын[36]. Гэта рэдкі выпадак, калі мястэчка ўяўляла сабой штэтл і гэтыя паняцці цалкам супадалі.

Калі ж мястэчкі Беларусі сталі пераважна габрэйскімі па складзе насельніцтва? У пісьмовых крыніцах звесткі пра местачковых габрэяў сустракаюцца з канца XVI ст. Спачатку іх колькасць была нязначнай і абмяжоўвалася адной ці некалькімі асобамі, звычайна арандатарамі корчмаў. Шматлікія разбуральныя войны, што пачаліся ў сярэдзіне XVII ст., прывялі наш край да дэмаграфічнай і гаспадарчай катастрофы. Асабліва трагічнай была вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг., у якой гарадское жыхарства Беларусі ацалела толькі на 45%[37]. Беларускае мяшчанства было амаль вынішчана, і ўзніклы вакуум пачало запаўняць габрэйскае насельніцтва. У XVIII ст. колькасць габрэяў у гарадах і мястэчках прыкметна ўзрастае, і яны складаюць значную частку іх насельніцтва.

Мясцовыя арыстакраты, зацікаўленыя ў гаспадарчым аднаўленні маёнткаў, росце гандлю і рамёстваў, запрашалі габрэяў у свае паселішчы ў абмен на гарантыю бяспекі, свабоды гандлю і веравызнання, а таксама аўтаномнае абшчыннае самакіраванне. Так, у 1736 г. Крыштаф Завіша, уладальнік Смілавічаў, каб "горад быў больш людным і забудаваным добрымі дамамі", выдаў прывілей смілавіцкім габрэям, у якім гарантаваў свабоду рэлігійнага жыцця, заняткаў і г.д. У дакуменце адзначалася, што такімі вольнасцямі і правамі карыстаюцца і іншыя габрэі ў каралеўскіх і шляхецкіх га-

33 AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1299.
34 Słownik geograficzny Krolewstwa Polskiego. T. 14. Warszawa, 1895. S. 897.
35 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 4. Адз. зах. 646. Арк. 56–170.
36 Мстиславский, С. Евреи в Могилевской губернии: историко-статистический очерк / С. Мстиславский // Восход. 1886. Кн. 10. С. 3.
37 Сагановіч, Г. Невядомая вайна: 1654–1667. / Г. Сагановіч. Мінск, 1995. С.130, 139.

радах і што ў выпадку павялічвання колькасці габрэяў у Смілавічах яшчэ больш будуць павялічаныя і іх вольнасці[38]. Спрыяў пасяленню габрэяў у сваім мястэчку і новы ўладальнік (з 1774 г. ) Чачэрска граф Захар Чарнышоў. Для габрэяў была прапанавана тэрыторыя на ўзбярэжжы ракі Чачоры, дзеля іх былі пабудаваны на сродкі графскай гаспадаркі 4 малельні, з якіх адна – каменная[39]. На сродкі Радзівілаў была пабудавана мураваная сінагога ў Клецку. Паводле сведчання А. Ельскага, у пачатку 1880-х гг. "на франтоне гэтай пабудовы захаваліся толькі рэшткі радзівілаўскіх гербаў, але ж гарачай удзячнасці клецкіх габрэяў час, як бачна, так лёгка не знішчыў"[40]. Пратэкцыя ўладальніка садзейнічала і засяленню габрэямі Лагойска: у 1808 г. Пій Тышкевіч для павялічвання сваіх прыбыткаў знайшоў неабходным пашырэнне гандлю і з гэтай мэтай з Барысава вызваў 4 габрэйскія сям'і, якім надаў некаторыя прывілеі. Лік габрэяў з кожным годам павялічваўся, яны сталі прыбываць з розных месцаў і патроху папаўняць панскую казну[41].

Уладальнік мястэчка меў справу толькі з абшчынным праўленнем – кагалам, які збіраў падаткі, арганізоўваў рэлігійнае жыццё, сацыяльную дапамогу, падтрымліваў парадак у мястэчку, вяршыў суд і здзяйсняў карныя функцыі (цялесныя пакаранні, адлучэнне ад сінагогі – херэм). Такая сістэма дазваляла габрэю існаваць у сваім асяроддзі і мала сутыкацца са знешнім светам[42].

Канчатковая крышталізацыя сацыякультурнай мадэлі мястэчка адбывалася пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Гэтыя паселішчы сталі пераважна габрэйскімі ў выніку мерапрыемстваў царскага ўрада па гвалтоўным высяленні габрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі, пра што гаворка пойдзе ў наступным раздзеле.

Роля габрэяў у аднаўленні гарадоў і мястэчак Беларусі – у фарміраванні гарадской забудовы, арганізацыі і развіцці мясцовай вытворчасці, рамесных і гандлёвых промыслаў – з'яўляецца бясспрэчнай. Вопыт гарадскога жыцця (габрэі – носьбіты "гарадской цывілізацыі" на працягу 2,5 тыс. гадоў), веданне эканамічных рэалій,

---

38 Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме. НМ 2/7945.3.

39 Ганжын, А. Мястэчка Чачэрск Гомельскай акругі / А. Ганжын // Наш край. 1927. № 1. С. 60.

40 Ельскі, А. Гарады і мястэчкі / А. Ельскі // Выбранае / уклад. Н. Мазоўка, У. Казбярук. Мінск, 2004. С. 282.

41 Самцэвіч, В. Мястэчка Лагойск (Менскай акругі) / В. Самцэвіч // Наш край. 1928. № 4. С. 28–29.

42 Roskes, Diane K., Roskes, David G. The shtetl book: An introduction to East European Jewish Life and Lore. INC, 1979. P. 181–184, 187–188.

дзелавыя і асабістыя сувязі, прадпрымальнасць, узаемная падтрымка пераўтваралі габрэйскую абшчыну ў самаарганізуючае ядро гарадской гаспадаркі. Габрэйская абшчына, нават калі яна і не складала пераважную большасць местачковага насельніцтва, вызначала жыццё мястэчка менавіта як гарадскога паселішча. У адрозненне ад Заходняй Еўропы, дзе ў часы сярэднявечча габрэі жылі ў гета і не маглі ўплываць на культуру і архітэктуру горада, у Беларусі – нават у большай ступені, чым у іншых рэгіёнах былой Рэчы Паспалітай, – менавіта габрэі былі кансалідуючым пачаткам, вызначалі твар і дух мястэчка[43]. Гэта добра ілюструюць сведчанні сучаснікаў. Так, А. Паперна, апісваючы цэнтральнае размяшчэнне ў Капылі габрэйскіх пляцаў, адзначыў: "Ввиду такого видного места, занимаемого евреями, а также вследствие их сравнительной многочисленности и свойственной торговому люду вообще и евреям в особенности подвижности, Копыль на первый взгляд производил впечатление чисто еврейского города"[44]. У. Сыракомля занатаваў адносна Міра: "Габрэі, як звычайна, – найбольш рухавая і найбольш шумная частка местачкоўцаў, якая да таго ж часцей за ўсіх трапляе на вока"[45].

Расійскія меры прывялі да канцэнтрацыі габрэяў у гарадах і мястэчках і, як вынік гэтага, да кансервацыі традыцыйнай габрэйскай культуры і ўкладу жыцця. У габрэйскім местачковым асяроддзі яскрава выявіліся і старанна захоўваліся рэлігійная сістэма адукацыі, векавыя традыцыі і каштоўнасці. Габрэйская абшчына жыла сваім адасобленым жыццём па законах *Галахі*[46]. У той жа час сам вобраз традыцыйнай культуры паступова цярпеў істотныя змены, звязаныя са з'яўленнем і развіццём хасідызму, а таксама з распаўсюджаннем ідэй габрэйскага асветніцтва – *Гаскалы*.

Тым не менш мястэчка для габрэяў адыграла такую ж ролю ў захаванні традыцыйнай культуры, як вёска для беларусаў. Яно стала для габрэяў уласным "асяроддзем пражывання". Паступова фарміравалася ўяўленне аб мястэчку як малой габрэйскай радзіме,

---

[43] Метельская, Н. Мир еврейских местечек Беларуси вчера и сегодня. Проблемы изучения / Н. Метельская // Дубновские чтения: Материалы 1-й Международной научной конф. "Наследие С. Дубного и изучение истории евреев в странах СНГ и Балтии", Могилёв, 17–19 октября 2000 г. / сост.-ред. И.П. Герасимова, Г.И. Рутман. Минск, 2001. С. 130.

[44] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910. С. 6.

[45] Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах... С. 207.

[46] *Галаха* – нарматыўная частка яўрэйскага рэлігійнага законавучэння, якая рэгламентуе рэлігійнае, сямейнае і грамадзянскае жыццё.

"Ізраілі ў выгнанні". У "Кароткай габрэйскай энцыклапедыі" мястэчкі (у сэнсе "штэтл") параўноўваюцца з астраўкамі цэласнага габрэйскага сусвету ў акіяне чужой цывілізацыі[47].

Цікава адзначыць, што рост колькасці габрэяў г. Рэчыца ў першай трэці XIX ст. і змена ў сувязі з гэтым побытавага ўкладу яе жыхароў сталі падставай для даследчыка гісторыі Рэчыцы А. Кагановіча называць гэты населены пункт менавіта мястэчкам, а не горадам. Характэрныя рысы мястэчка (штэтла) Рэчыца захоўвала да 1941 г., таму А. Кагановіч у сваёй кнізе называе яе горадам толькі ў тых выпадках, калі размова ідзе пра адміністрацыйны статус, а мястэчкам – калі разглядаюцца сацыяльна-культурныя аспекты[48].

***

Мястэчкі царскага перыяду, калі пачалася іх трансфармацыя ў сувязі з фарміраваннем капіталістычнага рынку, мэтазгодна разглядаць як асобны тып пасяленняў, нятоесных ні вёсцы, ні гораду, якія выконваў функцыі эканамічнага, адміністрацыйнага, камунікацыйнага, культурнага цэнтра параўнальна невялікіх сельскіх раёнаў, якія, як правіла, не мелі гарадоў. Некаторыя мястэчкі па сваёй ролі ў эканамічным і культурным развіцці Беларусі стаялі на ўзроўні гарадоў, і таму іх правамерна адносіць да катэгорыі "гарадскіх пасяленняў". У той жа час існавалі мястэчкі, якія амаль што не адрозніваліся ад сельскіх пасяленняў.

Беларусь у разглядаемы час у выніку палітыкі царызму, накіраванай на высяленне габрэяў з вёсак, стала краем габрэйскіх мястэчак, у кожным з якіх была арганізаваная абшчына са сваімі традыцыйнымі інстытуцыямі, якія рэгулявалі штодзённае абшчыннае жыццё. Наяўнасць рэлігійна-культурнай адасобленасці і духоўна-сацыяльнай аўтаноміі габрэйскіх абшчын у мястэчках выклікае неабходнасць ужывання тэрміна "штэтл", пад якім трэба разумець габрэйскую фізічную і духоўную прастору ў беларускім (польскім, украінскім, літоўскім) мястэчку. А наяўнасць штэтла выступае галоўнай асаблівасцю беларускага мястэчка канца XVIII – першай паловы XIX ст.

---

47 Краткая еврейская энциклопедия. Т. 5. Иерусалим, 1990. С. 320.

48 Каганович, А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии / А. Каганович. Иерусалим, 2007. С. 7.

## 2.2. Колькасць і тыпалогія мястэчак, іх месца ў структуры паселішчаў Беларусі

Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі на іх стваралася новая сістэма гарадскіх адміністрацыйных цэнтраў. Змяніўся статус многіх пасяленняў. Шэраг мястэчак сталі ўезнымі ці пазаштатнымі гарадамі – Бабінавічы, Вілейка, Гарадок, Докшыцы, Дрыса, Ігумен, Копысь, Лепель, Стары Быхаў, Сураж, Сянно, Чавусы і інш. Адначасова такія гарады былога Вялікага Княства Літоўскага, як Бешанковічы, Браслаў, Дуброўна, Клецк, Капыль, Крычаў, Ляхавічы, Ушачы, Шарашова, Шклоў, былі пераведзены ў катэгорыю мястэчак як адміністрацыйна непатрэбныя імперыі. Новыя гарады ўзнікалі на аснове пераважна дзяржаўных мястэчак, каб пазбегнуць залежнасці ад буйных землеўладальнікаў[49]. Сярод прыватнаўласніцкіх мястэчак, якія станавіліся ўезнымі гарадамі паводле ўказа Кацярыны II ад 3 мая 1795 г., былі Нясвіж, Слуцк, Давыд-Гарадок, Паставы. Аднак ва ўказе прадпісвалася: “Между тем приложить старание, помянутыя местечки приобресть в казну нашу покупкою или променом, или иными благопристойными и для казны выгодными сделками… В случае же неудобности в том изыскать из казённых селений другие, к превращению в уездные города способные”[50].

Вызначэнню дакладнай колькасці мястэчак у часы знаходжання Беларусі ў Расійскай імперыі перашкаджае не толькі недахоп звестак, але і частыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя змены канца XVIII – пачатку XIX ст., у выніку якіх населеныя пункты мянялі свой статус. Уезнымі гарадамі спачатку з’яўляліся Давыд-Гарадок (1795–1796), Паставы (1793–1796), Шклоў (1773–1777), Гомель (1773–1777), пазней яны сталі мястэчкамі. Гомель меў статус мястэчка да 1852 г. Докшыцы з уезнага горада (1793–1797) былі пераведзены ў пазаштатны, а пасля – у мястэчка. Акрамя таго, на працягу разглядаемага перыяду змянялася эканамічнае становішча многіх мястэчак: адны з іх развіваліся хуткімі тэмпамі, уздымаліся і часам атрымлівалі статус гарадоў (Горкі, Гомель); другія – занепадалі і пераходзілі на статус сёл ці вёсак; іншыя заставаліся дробнымі паселішчамі аграрнага характару са слаба развітым рамяством і гандлем.

Колькасць мястэчак не была пастаяннай яшчэ і таму, што, як было паказана вышэй, нават у сярэдзіне XIX ст. не існавала дакладнага вызначэння паняцця “мястэчка”. Гэта былі паселішчы, невядо-

---

49 Шыбека, З.В. Гарады Беларусі... С. 46.

50 Сборник документов, касающихся административного устройства северо-западного края при императрице Екатерине II. 1792–1796. Вильна, 1903. С. 42–43.

мыя раней Расіі. Імперскае заканадаўства ў адных выпадках адносіла мястэчкі да гарадскіх паселішчаў, а ў іншых – да сельскіх. Адна і тая ж мясцовасць у афіцыйных дакументах называлася то мястэчкам, то сялом, то нават вёскай.

З'явілася шмат новых мястэчак, ператвораных з вёсак і сёл. Буйныя землеўладальнікі Беларусі мелі магчымасць засноўваць мястэчкі без асобнага на тое дазволу з боку вярхоўнай улады яшчэ з XVI ст. (з 1588 г.). Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі царскі ўрад, каб задобрыць мясцовых землеўладальнікаў, прызнаваў мястэчкамі практычна ўсе паселішчы, якія прэтэндавалі на гэтае званне. Даравальнай граматай дваранству (1785 г.) права заснавання мястэчак распаўсюджвалася на ўсіх прадстаўнікоў першага стану Расіі.

Указ сената ад 26 кастрычніка 1810 г. дазваляў памешчыкам пераводзіць свае сёлы і вёскі на статус мястэчак з мэтай продажу ў іх віна, што забаранялася ў вёсках. Для гэтага дастаткова было толькі дазволу губернатара [51].

Асабліва пачасціліся выпадкі заснавання новых мястэчак у сувязі з гвалтоўным высяленнем габрэяў з сельскай мясцовасці. Многія памешчыкі, каб не пазбавіцца пасрэдніцкіх паслуг габрэяў, пераводзілі звычайныя паселішчы ў сваіх уладаннях на ступень мястэчак і тым памнажалі іх колькасць, асабліва ў 20-х гг. XIX ст. Фонды губернскіх адміністрацый утрымліваюць вялікую колькасць спраў аб падобных прашэннях памешчыкаў[52]. Справа часам даходзіла да кур'ёзаў. Так, у 1825 г. было заснавана мястэчка Мальта (Рэжыцкі ўезд Віцебскай губерні). Падчас агляду губерні віцебскі губернатар быў вельмі здзіўлены: новаўтворанае "мястэчка" складалася з трох будынкаў – карчмы і дзвюх лазняў[53]. 16 сакавіка 1826 г. Віцебскі, Магілёўскі, Смаленскі і Калужскі генерал-губернатар дакладваў у Міністэрства ўнутраных спраў: "Со времени высылки евреев из деревень в города и местечки поступают ко мне весьма часто представления от гражданских губернаторов Витебской и Могилёвской губерний о дозволении помещикам учреждать в имениях местечки. Хотя помещики таковым исканиям придают благовидность, якобы стараются распространить промышленность и торговлю посредством учреждения ежегодных ярмарок, но легко проникнуть в истинную

51 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С.18–19.
52 НГАБ. Ф. 1297. Воп. 1. Адз. зах. 879, 884, 1629, 11015, 14739.
53 Там жа. Адз. зах. 879, арк. 7.

цель таковых заведений – доставление евреям места жительства, за которое они предлагают весьма значительную плату”[54].

У 1852 г. міністр унутраных спраў прадпісваў губернатарам, каб “ходатайства помещиков об учреждении местечек рассматривались со строгой разборчивостью, тщательно соображались с местными обстоятельствами и удовлетворялись только в тех случаях, когда последует от того несомненная польза для местной торговли и промышленности”[55]. Зразумела, што гэта распараджэнне выконвалася не заўсёды. І. Зяленскі прывёў спіс 114 мястэчак Мінскай губерні 1859 г. і адзначыў, што многім з іх прысвоена такая назва “без всякого законного основания, вследствие одного только произвола знатных и богатых владельцев, самовольно переименовавших многие селения в местечки”[56]. Па звестках А. Карэвы, у Віленскай губерні налічвалася 189 мястэчак, з іх толькі 9 (Мерач і Жыжморы ў Трокскім, Смаргонь і Крэва ў Ашмянскім, Шчучын і Эйшышкі ў Лідскім, Свір у Свянцянскім, Мядзель у Вілейскім і Глыбокае ў Дзісенскім уездзе) былі дастаткова заселенымі і адпавядалі статусу мястэчка, а ўсе астатнія – не болей чым вёскі, заселеныя габрэямі[57].

Па адзначаных прычынах статыстычныя звесткі аб колькасці мястэчак супярэчлівыя і недакладныя. Напрыклад, паводле “Тапаграфічнага апісання Мінскай губерні” канца XVIII ст., у Мінскай губерні налічвалася 123 мястэчкі (у Вілейскім – 20, Мінскім і Ігуменскім уездах – па 16, Слуцкім – 13, Рэчыцкім і Барысаўскім – па 12, Бабруйскім – 11, Мазырскім – 9, Пінскім і Дзісенскім – па 7)[58]. Паводле “Статыстычных звестак аб стане Мінскай губерні 1835 г.”, тут было 119 мястэчак[59]. У 1850 і 1854 гг. у Мінскай губерні (ужо пасля тэрытарыяльна-адміністрацыйных змен 1842 г., калі яна ад Гродзенскай атрымала Навагрудскі ўезд (20 мястэчак), а аддала Віленскай губерні Вілейскі (20 мястэчак) і Дзісенскі (7 мястэчак) уезды), паводле гадавых справаздач губернатара, было 96 мястэчак[60]. Згодна са спісамі населеных мясцовасцей, складзеных па распараджэнні

---

54 РДГА. Ф. 1287. Воп. 5. Адз. зах. 1127. Арк. 2.

55 НГАБ. Ф.1430. Воп. 1. Адз. зах. 23838. Арк. 1.

56 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. Ч. 1–2. СПб., 1864. Ч. 2. С. 655.

57 Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 704.

58 РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 12 адв. 157.

59 НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 512. Арк. 56.

60 Там жа. Адз. зах. 1077. Арк. 90.

МУС у 1859 г., на тэрыторыі Мінскай губерні аказалася 114 мястэчак[61].

Са сказанага вышэй вынікае, што, па-першае, сама па сабе дынаміка колькасці мястэчак без уліку яе прычын не можа служыць паказчыкам інтэнсіўнасці эканамічнага развіцця краю, па-другое, немагчыма дакладна падлічыць усе мястэчкі Беларусі ў разглядаемы перыяд. Менавіта таму ў гістарычнай літаратуры сустракаюцца розныя даныя аб іх колькасці.

Найбольш поўную, хаця і не бясспрэчную, карціну дынамікі колькасці мястэчак у беларускіх губернях з канца XVIII да сярэдзіны XIX ст. стварыў А. Люты[62]. Паводле яго падлікаў, з канца XVIII ст. да сярэдзіны XIX ст. колькасць мястэчак у Беларусі павялічылася з 287 да 383. Большыя лічбы сустракаюцца ў даследаваннях А. Карпачова (у канцы XVIII ст. – 398 мястэчак[63]), М. Болбаса (у 1833 г. – 460, у 1859 г. – 498[64]). Па звестках З. Шыбекі, у 1863 г. Міністэрства ўнутраных спраў правяло рэвізію мястэчак: на беларускіх землях іх аказалася 418[65]. На рост колькасці мястэчак, акрамя названых вышэй фактараў, паўплывала і тое, што гэта быў кароткі перыяд росквіту рачных камунікацый перад з’яўленнем чыгунак, калі новыя мястэчкі былі запатрабаванымі як важныя камунікатары тавараў на мясцовым рынку.

Найбольшая колькасць мястэчак (амаль 1/3) знаходзілася на тэрыторыі Мінскай губерні. Але і па займаемай плошчы гэта была самая вялікая губерня. Менш за ўсё налічвалася мястэчак у беларускіх уездах Віцебскай губерні. Рэгіянальныя асаблівасці мела і дынаміка колькасці мястэчак. Найбольш высокімі тэмпамі росту лічбы гэтых паселішчаў вылучалася Магілёўская губерня (на 100%). Затым ішлі Гродзенская (на 52%) і беларускія ўезды Віленскай (на 40%) губерні.

Зразумець гэтую дынаміку дапамагае інфармацыя пра сетку мястэчак у Беларусі ў папярэднюю эпоху. Гэтая сетка таксама была нераўнамернай. З. Капыскі на карце Тамаша Макоўскага (1613 г.) налічыў на беларускіх землях 272 мястэчкі, 109 з іх знаходзіліся ў басейне Нёмана, 62 – у басейне Дняпра, 55 – Заходняй Дзвіны, 42 – Прыпяці, 4 – Буга. А на карце ВКЛ 1665 г., па падліках даследчыка,

---

[61] Спісы мястэчак Мінскай і іншых губерняў прыведзены ў *табліцах 1–5*.

[62] *Табліца 6.*

[63] Карпачёв, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. ... С. 108.

[64] Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.) / М.Ф. Болбас. Минск, 1966. С. 39.

[65] Шыбека, З.В. Гарады Беларусі… С. 79.

на тэрыторыі Беларусі адзначаны 315 мястэчак, з іх 147 – у басейне Нёмана[66]. Па звестках А. Карпачова, у другой палове XVIII ст. ва ўсходняй частцы Беларусі (да 1772 г.) – 81 мястэчка, на захадзе і ў цэнтры (у пачатку 1790-х г.) – 317[67]. Мястэчкі – вынік эканамічнай мадэрнізацыі і вестэрнізацыі беларускіх зямель у складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Гэтыя паселішчы парадзіла транзітная Беларусь. Яны выкліканы да жыцця таварызацыяй сельскай гаспадаркі і патрэбамі гандлю з Захадам. Сетка мястэчак была шчыльнейшай у найбольш развітых у эканамічных адносінах рэгіёнах Беларусі, на што, у сваю чаргу, паўплывалі геаграфічныя фактары. Становіцца больш зразумелым значны рост мястэчак у першай палове XIX ст. на Магілёўшчыне. Тут памешчыкі імкліва кампенсавалі мізэрнасць колькасці мястэчак ва ўсходнім рэгіёне Беларусі ў мінулым.

Пры вывучэнні беларускіх мястэчак неабходна зыходзіць з разумення таго, што мястэчкі ўяўлялі сабой надзвычай складаную і шматгранную з’яву. Яны характарызаваліся вялікай разнастайнасцю тыпаў.

Тыпалогія мястэчак праводзіцца па некалькіх крытэрыях:

- паводле прыналежнасці да пэўнага віду ўладання;
- у адпаведнасці з велічынёй;
- па ступені набліжанасці да афіцыйных гарадоў (ці па ўзроўні горадаўтварэння);
- у залежнасці ад эканамічнай функцыі-дамінанты;
- паводле камунікацый (шляхоў зносін) і ландшафтнай прывязкі;
- па рысах прыналежнасці урбаністычнай забудовы да стылявых прымет пэўных гістарычных эпох.

***Паводле прыналежнасці да пэўнага віду ўладання*** мястэчкі падзяляліся на дзяржаўныя (“каралеўскія”, “казённыя”), прыватнаўласніцкія, царкоўныя. Большасць мястэчак былі прыватнаўласніцкімі. Так, у другой палове XVIII ст. сярод 276 мястэчак, у адносінах да якіх вядома іх прыналежнасць да пэўнага віду ўладання, прыватнаўласніцкіх было 212 (77%)[68]. У Гродзенскай губерні, па даных на 1807 г., сярод 86 мястэчак 74 былі ўладальніцкімі, 9 – дзяржаўнымі, 3 – духоўнымі[69]. У 1835 г. у Мінскай

---

[66] Копысский, З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. ... С. 206.

[67] Карпачёв, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. ... С. 108.

[68] Там жа. С. 91.

[69] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.1. Адз. зах.100. Арк. 28–30.

губерні налічвалася 110 мястэчак, у тым ліку 92 памешчыцкіх і 18 дзяржаўных. У пяці беларускіх губернях к канцу 30-х гг. XIX ст. толькі 15,5% мястэчак былі казённымі, усе астатнія належалі прыватным асобам[70]. У пачатку 60-х гг. XIX ст. 82,5% мястэчак Беларусі стаялі на памешчыцкіх землях[71].

***У адпаведнасці з велічынёй*** мястэчкі можна ўмоўна падзяліць на чатыры групы: мястэчкі-сёлы, дробныя, вялікія, буйныя. Колькасная мяжа паміж гэтымі групамі залежыць ад адпаведнага храналагічнага перыяду. Для другой паловы XIX – пачатку XX ст. З. Шыбека прапаноўвае наступныя лічбы: мястэчкі-сёлы (да 500 жыхароў), дробныя (ад 500 да 2000), вялікія (ад 2000 да 5000), буйныя (больш 5000)[72].

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. большасць мястэчак былі невялікімі па колькасці жыхароў пасяленнямі. У канцы XVIII ст. на адно мястэчка ў сярэднім прыходзілася каля 630 жыхароў, пры гэтым на захадзе і ў цэнтры Беларусі – каля 620, а на ўсходзе – каля 670 чалавек[73]. Сярэдняя колькасць жыхароў у мястэчках Беларусі ў 1833 г. была каля 800 чалавек (у гарадах – 3700)[74], у 1859 г. – каля 1000[75]. Хоць на ўсходзе Беларусі мястэчкі былі размешчаны радзей, але затое яны былі буйнейшыя ў параўнанні з мястэчкамі заходняй і цэнтральнай частак. На тэрыторыі Усходняй Беларусі буйныя мястэчкі ў асноўным былі размешчаны ў яе паўднёвай і цэнтральнай частках. У Заходняй і Цэнтральнай Беларусі больш за ўсё буйных мястэчак было ў Брэсцкім і Ваўкавыскім уездах. Наяўнасць буйных мястэчак у Падняпроўі абумоўлівалася інтэнсіўным рачным гандлем з Украінай, а ў Панямонні і Пабужжы – з Цэнтральнай і Заходняй Еўропай (напрыклад, росту мястэчак Брэстчыны спрыяў выхад праз рэкі да марскога порту Гданьск).

Зразумела, што рэальная колькасць жыхароў многіх мястэчак рэзка адрознівалася ад сярэдніх паказчыкаў. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1859 г. былі такія вялікія мястэчкі, як Давыд-Гарадок (629 двароў), Любяшоў (531 двор), Глуск (430 двароў), Клецк (418 двароў) і інш. У той жа час у м. Ляды налічвалася ўсяго 9 двароў, а ў

---

70 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 18.
71 Шыбека, З.В. Гарады Беларусі… С. 38.
72 Там жа. С. 79.
73 Карпачёв, А. М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. … С. 108.
74 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 46.
75 Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.) ... С. 38.

Дудзічах – 5[76]. Буйнымі з'яўляліся некаторыя мястэчкі Магілёўскай губерні, колькасць насельніцтва якіх пераўзыходзіла колькасць насельніцтва некаторых уезных гарадоў. Так, у 1784 г. насельніцтва м. Любавічы складала 8595 чалавек, у 1845 г. Дуброўны – 7195, у 1854 г. Шклова – 11 565. У Гродзенскай губерні ў 1829 г., з аднаго боку, існавалі такія вялікія мястэчкі, як Камянец-Літоўск (2876 жыхароў), Мір (1995), Ружаны (1323), Мілейчыцы (1208), Зэльва (1103), Дывін (1389) і інш., а з другога боку – маленькія мястэчкі-сёлы: Палонка (95), Ражанка (89), Лапеніца (65) і інш. У Віцебскай губерні вялікімі з'яўляліся мястэчкі Бешанковічы (у 1838 г. – 2295 жыхароў), Чашнікі (2795), Усвят (2142), у той жа час у сямі мястэчках Дрысенскага ўезда Віцебскай губерні ў 1838 г. налічвалася ўсяго 4216 чалавек[77].

Звернемся да такой каштоўнай крыніцы, як статыстычныя звесткі аб мястэчках паўночна-заходніх губерняў Расійскай імперыі, якія былі сабраны ў канцы 1860-х гг., калі рыхтавалася новае "Гарадавое палажэнне", прынятае ў 1870 г. Гэтыя матэрыялы дазваляюць падлічыць сярэдні паказчык колькасці насельніцтва ў мястэчках Беларусі (880 чалавек), паказаць рэгіянальныя асаблівасці іх шчыльнасці і заселенасці[78].

Беларускія ўезды *Віленскай* губерні здзіўляюць шматлікасцю дробных мястэчак: іх было 122 з сярэдняй колькасцю жыхароў каля 350. Найбольш буйныя мелі насельніцтва ад 1000 да 2000 чалавек; іх было ўсяго 12: Маладзечна, Куранец, Даўгінава, Ілля, Глыбокае, Астрына, Васілішкі, Вішнева, Гальшаны, Смаргонь, Крэва, Валожын[79]. Невялікімі былі мястэчкі *Віцебскай* губерні: у сярэднім 570 чалавек на адно мястэчка. Буйнейшымі з'яўляліся Чашнікі (3001 чалавек), Бешанковічы (2523), Асвея (1933), Яновічы (1170). Іншыя мелі менш за 1000 чалавек. Сярэдняя колькасць насельніцтва ў мястэчках *Магілёўскай* губерні – 1285 чалавек. Найвялікшымі былі Шклоў (9399), Дуброўна (5088), Ветка (4506), Крычаў (3914), Хаславічы (3329), Краснаполле (2847), Бялынічы (2559), Ляды (2413), Шумячы (2318). Нязначна адставалі ад магілёўскіх мястэчкі *Гродзеншчыны*: 1210 жыхароў у сярэднім на адно мястэчка. Больш за 2000 жыхароў мелі толькі Шарашова (4356), Камянец (3719), Дывін (2706), Мотальь (2659), Крынкі (2641), Ружаны (2264). Сярэдні паказчык па *Мінскай* губерні – 1083 чалавекі на мястэчка. Больш за 2000 чала-

---

[76] *Табліца 4.*

[77] НГАБ. Ф.2254. Воп.1. Адз. зах. 32. Арк. 27; Адз. зах. 284. Арк. 15; Ф.1430. Воп. 1. Адз зах. 7951. Арк. 327–342; НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп.3. Адз. зах. 536. Арк. 30–54.

[78] *Табліца 7.*

[79] *Табліца 5.*

век налічвалася ў Давыд-Гарадку (4631), Міры (4273), Глуску (2957), Капылі (2783), Стоўбцах (2579), Петрыкаве (2562), Тураве (2343), Лоеве (2243)[80].

Скарыстаўшы крытэрыі З. Шыбекі, правядзём класіфікацыю мястэчак канца 1860-х гг. па велічыні[81]. Мястэчак-сёл было 173 (ці 46,3%), дробных – 174 (46,7%), вялікіх – 24 (6,5%), буйных – 2 (0,5%). Толькі Магілёўская губерня ўтрымлівала буйныя мястэчкі (звыш 5 тыс. чалавек): Шклоў, Дуброўна. Па астатніх паказчыках Магілёўская і Мінская губерні былі вельмі падобныя. Удзельная вага вялікіх мястэчак (ад 2 да 5 тыс. чалавек) была найбольшай у беларускіх уездах Гродзенскай губерні. Але разам узятыя буйныя і вялікія мястэчкі Магілёўшчыны выводзілі яе на першае месца па колькасці мястэчак, якія мелі звыш 2 тыс. жыхароў. Па колькасці і долі мястэчак-сёл лідзіравала тэрыторыя беларускіх уездаў Віленскай губерні. Вялікім гэты паказчык быў і ў Віцебскай губерні. А найменшы працэнт мястэчак-сёл мела Гродзенская губерня. Як бачна, найслабейшыя пазіцыі па ўзроўні заселенасці мястэчак мелі беларускія ўезды Віленскай і Віцебскай губерняў. Але ў Віленскай губерні гэта кампенсавалася велізарнай шчыльнасцю сеткі гэтых паселішчаў. Перавага маленькіх мястэчак у гэтым рэгіёне склалася здаўна і тлумачыцца залішняй іх канцэнтрацыяй, што нараджала надзвычай моцную канкурэнцыю, а таксама моцным уздзеяннем буйных гарадоў (Вільні і Мінску), вакол якіх шчыльнасць мястэчак была найбольшай.

Такім чынам, мястэчкі ў разглядаемы перыяд па памерах былі вельмі разнастайнымі. З прыведзеных даных вынікае, што немагчыма ўстанавіць дакладную верхнюю мяжу засялення мястэчак. Яшчэ раз падкрэслім, што назву “мястэчка” мелі як буйныя гандлёва-прамысловыя цэнтры, якім не хапала толькі афіцыйнага гарадскога статуса, так і звычайныя сельскія паселішчы. Аднак можна з упэўненасцю сцвярджаць, што колькасці насельніцтва мястэчак адпавядаў узровень развіцця гандлёва-прамысловай дзейнасці ў іх і, увогуле, наяўнасці гарадскіх рыс.

Як паказваюць падлікі сярэднестатыстычнай колькасці мястэчковага насельніцтва, тыповае мястэчка Беларусі разглядаемага перыяду мела ад 630 да 1000 жыхароў. Урбаністычныя працэсы рэалізоўваліся тут у “малых” формах, у выглядзе невялікіх мястэчак, якія не здолелі эвалюцыянiраваць не толькі ў гарады, але і буй-

---

[80] Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. V. СПб., 1879. С. 82–102.

[81] *Табліца 7.*

ныя мястэчкі. Адной з прычын гэтага з’яўлялася імкненне кожнага феадала ва ўмовах пашырэння таварна-грашовых адносінаў да заснавання ўласнага “места” як прыдатку маёнтка, механізму атрымання ад яго найбольшага прыбытку. Акрамя таго, актывізацыя ўтварэння памешчыкамі мястэчак была выклікана забаронай габрэям пражывання па-за гарадамі і мястэчкамі. У выніку стваралася такая шчыльнасць гарадскіх паселішчаў, якая да максімуму звужала сферу іх гаспадарчага ўплыву. Другой прычынай досыць густой сеткі дробных мястэчак на беларускіх землях было моцнае гаспадарчае ўздзеянне буйных гарадоў, дзейнасць якіх патрабавала найбольшай уключанасці сельскага насельніцтва ў рыначны абарот. А гэта забяспечвалася максімальнай шчыльнасцю пасрэднікаў-мястэчак.

***У залежнасці ад ступені набліжанасці мястэчак да афіцыйных гарадоў*** З. Шыбека падзяляе іх на: 1) мястэчкі-сёлы (менш за 500 жыхароў); 2) уласна мястэчкі (налічвалі 500 жыхароў, але мелі не больш паловы занятых па-за сельскай гаспадаркай); 3) мястэчкі гарадскога тыпу (мелі больш за 500 чалавек і пераважна неземляробчы характар)[82].

Паспрабуем, наколькі дазваляюць крыніцы, правесці падобную класіфікацыю ў дачыненні да мястэчак першай паловы XIX ст.[83]. Ускосна вылучыць мястэчкі гарадскога тыпу дапамагаюць звесткі аб этнічным складзе насельніцтва: пераважна неземляробчы характар мелі тыя мястэчкі, дзе большасць жыхароў складалі габрэі. Паводле прыблізных падлікаў, у Беларусі першай паловы XIX ст. пераважалі ўласна мястэчкі, потым ішлі мястэчкі гарадскога тыпу, мястэчак-сёл было найменш. Аднак па губернях гэтыя суадносіны мяняліся. Найбольш мястэчак гарадскога тыпу размяшчалася ў Магілёўскай і Гродзенскай губернях, тут яны пераўзыходзілі па колькасці мястэчкі-сёлы. Пераважная большасць мястэчак Віцебскай губерні набліжалася да сельскіх паселішчаў. Мінская губерня вылучалася значнай перавагай уласна мястэчак, а мястэчак-сёл тут было больш, чым мястэчак гарадскога тыпу. На жаль, зрабіць падобныя падлікі па Віленскай губерні з-за недахопу звестак немагчыма. Тут да мястэчак гарадскога тыпу можна аднесці Валожын, Налібокі, Смаргонь, Даўгінава, Глыбокае, Вішнева, Паставы[84]. Найбольш поўную карціну

---

82 Шыбека, З.В. Гарады Беларусі… С. 80.

83 *Табліца 8.*

84 Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 731–747.

колькасці і рэгіянальных асаблівасцей размяшчэння мястэчак-сёл можна ўявіць пры дапамозе звестак канца 1860-х гг.[85]

У цэлым па Беларусі налічвалася прыблізна каля 100 мястэчак гарадскога тыпу. На поўначы беларускага краю (Віцебская губерня і Дзісенскі ўезд Віленскай губерні) іх было 7; на поўдні (Пінскі, Мазырскі і Рэчыцкі ўезды Мінскай губерні) – 8; у цэнтры (астатнія ўезды Мінскай губерні) – 14; на захадзе (Гродзенская губерня і астатнія беларускія ўезды Віленскай губерні) – 35; на ўсходзе (Магілёўская губерня) – 36. Такім чынам, урбанізаванасць мястэчак Беларусі (у сэнсе іх набліжанасці да гарадоў) павялічвалася ад цэнтра ў двух накірунках – на захад і на ўсход.

Працэс "размывання" сярэднявечных мястэчак, які выразна назіраўся ў парэформенны перыяд, на што ўказвае З.Шыбека[86], пачаўся яшчэ ў першай палове XIX ст. Асабліва інтэнсіўна ён прасочваўся ў Віцебскай губерні, дзе мястэчкі станавіліся звычайнымі сельскімі паселішчамі.

Цалкам праваерна ў дачыненні да вывучаемага часу сцвярджэнне З. Шыбекі аб неадпаведнасці прававога становішча мястэчак гарадскога тыпу і эканамічнай ролі, якую яны адыгрывалі на мясцовым рынку. Гэтыя мястэчкі не мелі гарадскога самакіравання і камунальнай гаспадаркі, ды і магчымасці сфарміраваць іх без дазволу ўрада. Затое некаторыя з іх, нароўні са значнымі афіцыйнымі гарадамі, мелі функцыю комплекснага ўздзеяння на бліжэйшае наваколле. Аднак мястэчкі ў разглядаемы перыяд былі выключаны з горадаўтваральных працэсаў, бо юрыдычна адмяжоўваліся ад гарадоў, арганізаваных у адпаведнасці з расійскім заканадаўствам, і не атрымлівалі законнай падставы набываць гарадскі статус.

***У залежнасці ад эканамічнай функцыі-дамінанты*** сярод мястэчак гарадскога тыпу вылучаюцца прамысловыя, гандлёва-прамысловыя і гандлёвыя паселішчы. Прамысловым, напрыклад, з'яўлялася м. Ружаны, дзе паспяхова развівалася суконная, палатняная, гарбарная вытворчасць. Прамысловая функцыя была вядучай таксама ў эканамічнай дзейнасці Ізабеліна, Хомска, Косава, Шарашова, Азёраў, Бярозы Гродзенскай губерні; Крычава, Горак, Дуброўны, Канічаў, Прапойска, Свяцілавічаў, Хоцімска Магілёўскай губерні; Лагойска, Урэчча, Гарадка, Смілавічаў, Глыбокага Мінскай губерні. Да гандлёвых мястэчак можна аднесці Зэльву, Бешанковічы, Свіслач, Асвею, Хаславічы, Чашнікі, Стоўбцы, Лоеў і інш. Гандлёва-

---

[85] *Табліца 7.*

[86] Шыбека, З.В. Гарады Беларусі... С. 82.

прамысловы характар насіла эканамічная дзейнасць большасці мястэчак гарадскога тыпу, у тым ліку Гомеля, Шклова, Любавіч, Чачэрска, Антопаля, Высока-Літоўска, Міра, Песак, Глуска, Веткі, Смаргоні, Маладзечна, Васілішак, Даўгінава і інш. Матэрыял аб эканамічнай арыентацыі мястэчак змяшчаецца ў адпаведных раздзелах і дадатках працы.

Развітыя гандаль і прамысловасць набліжалі мястэчкі па эканамічнай значнасці да гарадоў. Аднак гарадская прамысловасць і гандаль заўсёды шматгаліновыя. Таму толькі шматгаліновая прадпрымальніцтва надавала мястэчкам рысы эканамічнага жыцця, характэрныя для гарадоў. Больш за адну галіну прамысловай вытворчасці мелі Крычаў, Шклоў, Дуброўна, Хоцімск, Горкі, Гомель, Прапойск, Раманава, Ізабеліна, Ружаны, Шарашова, Азёры, Бяроза, Шыдловец, Смаргонь, Трабы, Беразіно, Глыбокае, Гарадок, Лагойск, Раванічы.

Прамысловае развіццё мястэчак мела рэгіянальныя асаблівасці. Больш паспяхова яны набывалі прамысловы характар у Магілёўскай і Гродзенскай губернях. Прычым у канцы XVIII ст. лідзіруючай у гэтых адносінах з'яўлялася Магілёўшчына, дзе мястэчковая прамысловасць атрымала новыя імпульсы для развіцця. К канцу вывучаемага перыяду на першае месца па прамысловай функцыі выйшлі мястэчкі Гродзеншчыны.

Вядучае месца ў гаспадарчай дзейнасці мястэчак займаў гандаль. Менавіта ён з'яўляўся галоўным фактарам, які ўплываў на фарміраванне іх аблічча як спецыфічных, нятоесных вёсцы і блізкіх да гарадоў пасяленняў. Па сваёй гандлёвай ролі нават самае дробнае мястэчка ўсё ж узвышалася над звычайнымі населенымі пунктамі. Гандлёвы характар мела і большасць мястэчак гарадскога тыпу. Асабліва важнай гандлёвая роля мястэчак выступала на поўдні і поўначы беларускага краю, што абумоўлівалася камунікацыйнымі цяжкасцямі азёрнага і палескага раёнаў.

Мястэчкі ўзвышаліся над вёскамі не толькі ў эканамічных, але і ў культурных адносінах. Асабліва выразна гэта праяўлялася ў іх адукацыйна-асветніцкай ролі. Існавалі мястэчкі, якія выдзяляліся найперш менавіта гэтым: Баруны, Беразвечча, Валынцы, Жыровічы, Касцюковічы, Лужкі, Лыскоў, Любяшоў, Ляды, Маладзечна, Паставы, Свіслач, Талачын, Ушачы, Халопенічы, Шчучын. Матэрыял аб адукацыйна-асветніцкай функцыі мястэчак змяшчаецца ў адпаведным раздзеле кнігі.

Адзначым, што з цягам часу мястэчкі маглі мяняць свае функцыянальныя асаблівасці. Прыкладам можа быць Шчучын[87], які ў XVIII – першай трэці XIX ст. у якасці галоўнай меў культурна-асветніцкую функцыю, увасабленнем якой сталі калегіум і школа піяраў ды жаночая школа сясцёр міласэрнасці. Пасля скасавання кляштара піяраў (1832) і спынення актыўнай дзейнасці канвента сясцёр міласэрнасці (1842–1843) мястэчка змяніла свой профіль. Дзейнасць Ф. Друцкага-Любецкага (будаўніцтва паштовага і гасцінага дамоў, крамаў) паспрыяла таму, што Шчучын стаў выконваць у першую чаргу гаспадарчую функцыю, увасабленнем якой варта лічыць вядомыя ў Панямонні шчучынскія кірмашы ды гандлёвую плошчу з 40 крамамі[88].

Тыпалогія мястэчак праводзіцца і па іх архітэктурна-планіровачных рысах, што знайшло адлюстраванне ў даследаваннях А. Лакоткі[89]. ***Камунікацыі*** (шляхі зносін) вызначалі такія планіровачныя тыпы мястэчак, як аднавулічныя і многавулічныя. ***Паводле ландшафтнай прывязкі*** яскрава вызначаюцца берагавыя (некаторыя даследчыкі класіфікуюць іх як партовыя, прыкладамі могуць быць Новы Свержань, Масты, Петрыкаў, Стоўбцы і інш.), сухадольныя (Нягневічы, Рубяжэвічы, Дзярэчын, Жалудок і інш.) і балотныя (Ваўкалата, Дывін, Тураў і інш.) мястэчкі. ***Па рысах прыналежнасці урбаністычнай забудовы да стылявых прымет пэўных гістарычных эпох*** мястэчкі можна падзяліць на гатычныя (Іўе, Ракаў, Івянец, Целяханы і інш.), барочныя (Шчучын, Паставы, Лужкі і інш.), ампірныя (Шклоў, Чачэрск і інш.). Падрабязней пра гэта гаворка пойдзе ніжэй, у адпаведным раздзеле кнігі.

Напрыканцы стварэння агульнай характарыстыкі мястэчак звернем увагу на іх *месца ў сістэме населеных пунктаў Беларусі*, таму што ізаляванае вывучэнне мястэчак не дазваляе дастаткова поўна зразумець спецыфіку гэтых паселішчаў. Значную ўвагу праблеме ўзаемадзеяння паміж вёскамі, мястэчкамі і гарадамі ўдзяліў у сваіх даследаваннях З. Шыбека[90].

Разглядаемы час быў яшчэ перыядам аграрнага грамадства: жыццё абсалютнай большасці насельніцтва віравала ў сельскіх паселішчах. Так, у 1796 г. у гарадах пражывала толькі 3,5% насельніцтва Беларусі,

---

[87] Данскіх, С.У. Наш Шчучын / С.У. Данскіх. Гродна, 2001. С. 67, 188.

[88] *Малюнак 3.*

[89] Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры / А.І. Лакотка. Мінск., 1999. С. 133–143.

[90] Шыбека, З.В. Гарады Беларусі… С. 68–98; Шыбека, З.В. Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет. Курс лекцый / З. Шыбека. Вільня, 2009.

у 1861 г. – 10%. Гарады і мястэчкі былі выключна рэдкай з'явай сярод шматтысячных сельскіх населеных пунктаў Беларусі. Мястэчкі адыгрывалі надзвычай важную эканамічную ролю – выступалі пасрэднікамі паміж гарадамі і сельскай мясцовасцю. Асабліва вялікае значэнне набывалі мястэчкі гарадскога тыпу. Яны мелі функцыю комплекснага ўздзеяння на бліжэйшае наваколле, якое выяўлялася найперш у інтэнсіўных гандлёвых сувязях з вёскай. Фернан Брадэль адзначаў: "Усялякі гарадок жыве толькі дзякуючы таму, што яго базары, кірмашы, службы, плошчы прыносяць карысць навакольным вёскам і вёсачкам. Непарыўна звязаны з вёскамі і дапаўняючы іх, гарадок выцягвае сродкі існавання (і апраўдвае само існаванне), толькі ўступаючы ў шматлікія зносіны са знешнім светам"[91]. Такім светам, дзеля якога і існуе мястэчка, з'яўляецца сялянскі свет.

Мястэчкі гарадскога тыпу мелі зоны ўплыву (ці арэалы), якія расцягваліся ўздоўж рэк ці сухапутных шляхоў зносін. Дакладную велічыню арэалаў мястэчак канца XVIII – першай паловы XIX ст. вызначыць з-за недахопу звестак немагчыма. Можна меркаваць, што "сфера ўплыву" кожнага мястэчка на навакольную тэрыторыю вагалася ад 5 да 10 км. Селянін павінен быў за адзін дзень наведаць мястэчка, вырашыць свае справы і вярнуцца дахаты. У апісанні многіх местачковых кірмашоў і таргоў указвалася: "Ярмарки эти собирают жителей из близлежащих селений с разными деревенскими продуктами"[92]. Кірмашы і таргі наведвалі таксама купцы суседніх мястэчак. Так, на кірмаш м. Родня прыязджалі з г. Клімавічы і мястэчак Крычаў, Шумячы, Касцюковічы і Забычанне. На буйныя местачковыя кірмашы з'язджаліся купцы з розных гарадоў, у тым ліку расійскіх, украінскіх губерняў і замежжа. Напрыклад, на шклоўскіх кірмашах бывалі купцы з Масквы, Тулы, Вязьмы, Даргабужа, Смаленска, Тарапца, Чарнігава, Магілёва, Вільні, Мінска і розных мястэчак беларускіх губерняў[93]. Такім чынам, многія мястэчкі Беларусі мелі ўстойлівыя гандлёвыя сувязі не толькі з бліжэйшым наваколлем, але і з вельмі аддаленымі мясцінамі.

У адпаведнасці з велічынёй сваіх арэалаў і магчымасцю падпарадкавання менш дробных паселішчаў З. Шыбека вылучае мястэчкі першаснага звяна, якія падпарадкоўваліся мястэчкам сярэдняга звяна, што імкнуліся да вышэйшага звяна, складзенага ўжо пераважна з афіцыйных гарадоў. Мястэчкі першаснага звяна не валодалі якасцю

[91] Цыт. па: Данскіх, С.У. Наш Шчучын / С.У. Данскіх. Гродна, 2001. С. 79.
[92] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 715. Арк. 65.
[93] Там жа. Адз. зах. 313. Арк. 97; Адз. зах. 719. Арк. 160.

падпарадкавання. Мястэчкі сярэдняга звяна падпарадкоўвалі сабе менш значныя, але і самі падпарадкоўваліся больш буйным. Важнымі гандлёвымі вузламі на мясцовым рынку былі мястэчкі з сярэдняга звяна. Часам яны пераўзыходзілі па сваёй гандлёвай ролі афіцыйныя гарады.

Амаль усе мястэчкі знаходзіліся ў непасрэднай або апасродкаванай сувязі з гарадамі. Сетка мястэчак, такім чынам, забяспечвала распаўсюджванне гарадскога ўплыву на вялікія тэрыторыі. Паводле вобразнага параўнання З. Шыбекі, калі гарады былі артэрыямі, то мястэчкі – капілярамі рыначнага арганізму беларускага краю. Праз мястэчкі буйныя гарады трансфармавалі свой палітычны і культурны ўплыў на навакольныя сельскія паселішчы.

З-за нешматлікасці афіцыйных гарадоў іх эканамічныя функцыі бралі на сябе не толькі мястэчкі, але і асобныя буйныя сёлы, слабоды, чыгуначныя станцыі (у другой палове XIX – пачатку XX ст.). Горад і вёску звязваў ланцужок паселішчаў, у якім гарадскія рысы паступова нарасталі, а вясковыя памяншаліся. Гэты ланцужок З. Шыбека пабудаваў наступным чынам: вёскі – сёлы – ваколіцы – калоніі – слабоды – чыгуначныя станцыі – мястэчкі – гарады[94]. У першай палове XIX ст. у гэтым ланцужку месца чыгуначных станцый займалі рачныя прыстані.

Па ланцужку "вёска – мястэчка – горад" з сельскай мясцовасці ў гарадскія цэнтры перакачваліся лепшыя сродкі і сілы. Пры гэтым важна падкрэсліць, што вытворчая структура мястэчак найбольш адпавядала вытворчай структуры вёсак. Яны дапаўнялі адна адну. Складваліся своеасаблівыя "тандэмы" "мястэчка – вёска", нібы цагліны для будучага нацыянальнага рынку. Гэты эканамічны "тандэм" падняў шэраг мястэчак, такіх як Быцень, Глуск, Ілья, Лоеў, Азёры, Паставы, Прапойск, Свіслач, Смілавічы, Хоцімск, Ветка, Глыбокае, Давыд-Гарадок, Дуброўна, Крычаў, Ляхавічы, Мір, Ружаны, Смаргонь, Шклоў і інш., да ўзроўню гарадоў[95]. Але намаганні, што прыкладалі жыхары мястэчак для гандлёва-прамысловага і культурнага ўздыму сваіх паселішчаў, не знаходзілі падтрымкі ва ўрадавых колах.

Па меры ідустрыялізацыі ўзрастала і значэнне для вёскі гарадоў. Эканамічная залежнасць вёскі ад горада выяўлялася ў збыце сельскагаспадарчай прадукцыі, набыцці неабходных фабрыкатаў, крэдытаў. Мястэчкі ўзмацнялі гэтую залежнасць. Такім чынам, механізм

94 Шыбека, З.В. Гарады Беларусі… С. 93.

95 Шыбека, З.В. Беларускія і яўрэйскія грамады мястэчак Беларусі ў працэсе горадаўтварэння (1861–1904) / З.В. Шыбека // Беларусіка. Кн.4. Мінск, 1995. С.76.

узаемадзеяння гарадоў, мястэчак і вёсак у Беларусі быў тыповым для грамадства, якое пачынала індустрыялізавацца. Горад узрастаў за кошт вёскі, але і цывілізаваў яе, абапіраючыся на даволі густую сетку мястэчак.

***

На працягу канца XVIII – першай паловы XIX ст. адбываўся рост колькасці мястэчак на беларускіх землях. Пры гэтым часткова нівеліравалася нераўнамернасць размяшчэння сеткі мястэчак, што склалася ў папярэднюю эпоху. Найбольшая дынаміка павялічвання мястэчак была на Магілёўшчыне. Гэтым кампенсавалася мізэрнасць колькасці гэтых паселішчаў ва ўсходнім рэгіёне Беларусі ў мінулым.

У сярэднім мястэчкі Беларусі разглядаемага перыяду мелі ад 630 да 1000 жыхароў. Урбаністычныя працэсы рэалізоўваліся ў “малых” формах, у выглядзе невялікіх мястэчак. Яны паступова страчвалі сваю ранейшую аднатыповасць. Разнастайнасць мястэчак дазваляе праводзіць спробы іх класіфікацыі па шэрагу крытэрыяў.

Мястэчкі былі цесна ўплецены ў сістэму паселішчаў Беларусі, вядучае месца ў якой займалі гарады і мястэчкі гарадскога тыпу. Мястэчкі (і не толькі гарадскога тыпу) выконвалі важную ролю камунікацыйных пасрэднікаў паміж гарадскімі цэнтрамі і вёскамі. Колькасна пераважалі сельскія населеныя пункты, у якіх вíравала жыццё асноўнай масы насельніцтва. Гарады і мястэчкі гарадскога тыпу ўяўлялі сабой невялічкія астраўкі, але яны былі каманднымі.

Тэрмінам “мястэчка” абазначаецца вельмі цікавая і надзвычай складаная з’ява, таму немагчыма даць яе адназначную трактоўку і поўнасцю раскрыць усе бакі жыцця гэтых паселішчаў.

## 2.3. Палітыка царызму ў дачыненні да мястэчак і іх насельніцтва

Перш чым пачаць характарыстыку новых умоў функцыяніравання мястэчак пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі, узгадаем асноўныя вехі іх гістарычнага развіцця ў папярэднюю эпоху.

У гісторыі беларускіх мястэчак часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай выразна праглядаюцца тры этапы.

***1.*** *XV – першую палову XVII ст.* можна акрэсліць як час актыўнага станаўлення і экстэнсіўнага развіцця мястэчак на беларускіх землях. Узнікненне мястэчка як з’явы супадае з інтэнсіфікацыяй феадальнага спосабу вытворчасці, цэнтралізацыяй Беларуска-літоўскай дзяржавы. Спрыяльная эканамічная і палітычная сітуацыя, якая

склалася на нашых землях, садзейнічала колькаснаму і якаснаму росту гарадскіх паселішчаў, прычым колькаснае іх прырошчванне адбывалася менавіта за кошт мястэчак. К сярэдзіне XVII ст., па падліках З. Капыскага, на беларускіх землях было 37 гарадоў і 425 мястэчак[96]. Большасць гарадоў склаліся да XVI ст. Значыць, XVI – першая палова XVII ст. былі часам імклівага развіцця ў Беларусі мястэчак, гэтаму садзейнічала скасаванне Статутам ВКЛ 1588 г. абмежаванняў на заснаванне мястэчак прыватнымі асобамі. Дадзены перыяд нават можна назваць часам беларускага местачковага "буму". Масавае ўзнікненне мястэчак сведчыла аб далейшым развіцці вытворчых сіл і таварна-грашовых адносін у феадальным грамадстве. Складанне сеткі мястэчак абумоўлівалася тыповымі для урбанізацыйных працэсаў прычынамі – патрэбай у трывалых пунктах гандлёвага абмену паміж сельскагаспадарчымі і рамесніцкімі вытворцамі. Ажыццяўленне гэтага абмену і ўцягванне сельскагаспадарчага насельніцтва вёскі ў рыначны абарот з'яўлялася галоўнай функцыяй мястэчка, якая лічыцца класічнай. Таму XV – першая палова XVII ст. – час станаўлення і росквіту "класічных" (ці "ўласна") мястэчак. Пазней, асабліва ў XIX ст., назіраецца працэс "размывання" сярэднявечных мястэчак.

Апроч галоўнай функцыі асяродкаў гандлёвага абмену, мястэчкі ў гэты час абслугоўвалі камунікацыйны рух. Адначасова праходзіў працэс утварэння местачковага рамяства за кошт сельскага і дворскага рамяства. Гэты перыяд вызначаецца таксама росквітам функцыяніравання феадальных замкаў, якія разам з неўмацаванымі ўладальніцкімі сядзібамі выступалі ў якасці аднаго з асноўных спажыўцоў местачковага рамяства, генетычна звязанага з забеспячэннем патрэб феадала. Гаспадарчая значнасць мястэчак на гэтым этапе не змагла перарасці лакальныя рынкі.

***2.*** *Другая палова XVII – першая палова XVIII ст.* – час глыбокага эканамічнага заняпаду беларускага краю ў цэлым і мястэчак у прыватнасці, выкліканага шматлікімі разбуральнымі войнамі. Шматгадовыя ваенныя дзеянні, палітыка суцэльнага спусташэння зямлі і вываду палонных прывялі Беларусь да дэмаграфічнай і гаспадарчай катастрофы, на стагоддзе адкінулі яе назад. "Татальная дэструкцыя", – так вызначаў стан грамадства таго часу Генадзь Сагановіч. Глабальныя наступствы той катастрофы рэзка змянілі лёс беларускага этнасу. Гарады і мястэчкі, што пастулова аднаўляліся, былі ўжо

[96] Копысский, З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. / З.Ю. Копысский. Минск, 1975. С. 10.

іншыя, мелі іншае аблічча. Менавіта ў тую эпоху закладваліся вытокі феномену небеларускасці гарадскіх паселішчаў Беларусі, які канчаткова паўстаў на працягу XIX – пачатку XX ст.

***3.*** *Другая палова XVIII ст.* – перыяд эканамічнага, палітычнага і культурнага ажыўлення і ўздыму Рэчы Паспалітай у надзвычай складаных унутры- і знешнепалітычных абставінах. Для беларускіх мястэчак гэта быў час аднаўлення і інтэнсіфікацыі ў развіцці. Адбывалася скарачэнне ўдзельнай вагі местачкоўцаў, занятых у абслугоўванні камунікацыйнага руху. Назіраецца колькасны і якасны рост местачковага рамяства, а таксама пераарыентацыя яго на рынак. Пры асобных мястэчках узнікаюць прамысловыя прадпрыемствы, прадукцыя якіх разыходзілася далёка за межамі лакальных рэгіёнаў. Купцы некаторых мястэчак удзельнічалі не толькі ў рэгіянальным, але і далёкасягаючым гандлі, у тым ліку замежным. Імкнучыся забяспечыць сваім мястэчкам дадатковыя прывілеі і тым самым паправіць эканамічную сітуацыю, паспрыяць іх засяленню жыхарамі іншых гарадоў, павялічыць іх жыццяздольнасць ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі паміж шматлікімі “местамі”, уладальнікі дамагаюцца для некаторых з іх самакіравання па магдэбургскім праве, што юрыдычна замацоўвае іх паўнапраўны гарадскі статус. Усё гэта знайшло сваё адлюстраванне ў характары матэрыяльнай культуры мястэчак, якая ўсё больш набліжаецца да гарадской. У адпаведным накірунку адбываецца і планіровачнае развіццё мястэчак, многія з якіх набываюць дастаткова развітую плошчава-вулічную структуру. Мястэчкі Беларусі, такім чынам, пастунова страчвалі сваю сярэднявечную аднатыповасць. Іх эканамічная дзейнасць станавілася ўсё больш разнастайнай, ускладняліся і іншыя бакі функцыяніравання гэтых паселішчаў.

У развіцці мястэчак перыяду Вялікага Княства Літоўскага пераважалі працэсы, што працякалі натуральна, пад уздзеяннем тагачасных сацыяльна-эканамічных фактараў. Дзяржаўная ўлада спрабавала рэгуляваць гэтыя працэсы ці фіксавала, пацвярджала тое, што ўжо стала рэчаіснасцю. Яна асабліва не ўмешвалася ў жыццё мястэчак. Усё вырашалі прыватныя ўладальнікі.

Істотную трансфармацыю мястэчкі зведалі ў перыяд знаходжання нашага краю ў складзе Расійскай імперыі. З канца XVIII ст. у развіцці мястэчак прасочваюцца новыя тэндэнцыі. Разам з тым далейшую эвалюцыю атрымалі тыя з’явы і працэсы, якія ў папярэднюю эпоху толькі пазначыліся і не спрацавалі належным чынам.

У канцы XVIII ст. пасля далучэння ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай беларускіх зямель да Расійскай імперыі царскія ўлады сутыкнуліся з паселішчамі, раней невядомымі ў Расіі, – мястэчкамі. Гэта адмоўна паўплывала на прававое становішча мястэчак і іх жыхароў, якое істотна змянілася, нягледзячы на тое што царскі ўрад, як паказаў Я. Анішчанка, афішыраваў сваю легітымнасць, правапераемнасць і кансерватыўна-юрыдычны лібералізм да існуючага грамадскага ладу, пра што, у прыватнасці, сведчыць захаванне да 1840 г. Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.[97] Пагаршэнне прававога становішча мястэчак між іншым тлумачыцца і непрыязнымі адносінамі да іх расійскіх улад. Гэтыя паселішчы, якія ў большасці знаходзіліся ва ўласнасці мясцовых абшарнікаў, разам з прыватнаўласніцкімі гарадамі лічыліся “чужымі рускаму жыццю”. Мястэчкі ўяўлялі новую з’яву для расійскага заканадаўства, і гэта было неспрыяльным для іх развіцця. У часы Расійскай імперыі функцыяніраванне мястэчак знаходзілася пад моцным уздзеяннем палітыкі царызму. Адносіны царскага ўрада да мястэчак фактычна абумоўліваліся яго аграрнай і нацыянальнай палітыкай, а таксама палітыкай у галіне горадаўтварэння.

Значна ўскладніла развіццё мястэчак ***палітыка расійскага ўрада ў дачыненні да габрэяў***.

У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладай Расіі апынулася самае вялікае ў свеце габрэйскае насельніцтва. Для кіравання новanaбытым “незразумелым” народам расійскія ўлады ўзаконілі існаванне кагалаў (1776), дазволілі габрэям запісацца ў гарадскія саслоўі – мяшчанства і купецтва (1779), абклалі іх удвая большымі падаткамі ў параўнанні з прадстаўнікамі гарадскіх саслоўяў хрысціянскага веравызнання (1794)[98], увялі сумна вядомую “мяжу габрэйскай аселасці” (1791–1794), забаранілі пражыванне і прадпрымальніцкую дзейнасць у сельскай мясцовасці. Найбольшы ўплыў на развіццё мястэчак Беларусі мелі высяленні габрэяў у гарады і мястэчкі.

Прааналізуем асноўныя заканадаўчыя меры і ініцыятывы цэнтральных і мясцовых улад па “эвакуацыі” сёл і вёсак ад габрэяў, іх рэалізацыю ў беларускіх губернях; сфармуліруем прычыны беспаспяховасці дадзенай абмежавальнай палітыкі і яе наступствы для развіцця мястэчак.

---

[97] Анішчанка, Я.К. Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Серыя гум. навук. 1994. № 2.

[98] Городовое положение с принадлежащими к оному узаконениями с 1785 по апрель 1817 г. СПб., 1817. С. 69.

Бясконцую эпапею з перасяленнем габрэяў у гарады і мястэчкі выклікала барацьба расійскіх улад з “піцейным” промыслам габрэяў. Як вядома, на рубяжы XVIII–XIX стст. вытворчасцю і продажам алкагольных напояў займаліся самыя розныя саслоўі грамадства: дваране, духавенства, мяшчане і нават сяляне. Гэта былі “ўсеагульныя” заняткі, аднак рашаючая роля, безумоўна, належала памешчыкам. Памешчыцкае вінакурэнне ў Беларусі існавала стагоддзямі, дасягнуўшы свайго найвышэйшага росквіту ў першай палове XIX ст., асабліва пасля вынаходніцтва паравога спосабу вытворчасці спірту. У Гродзенскай губерні, напрыклад, у 1845 г. налічвалася 626 вінакурных заводаў, было выраблена 1 219 945 вёдзер гарэлкі[99]. Вінакурэнне складала асноўны артыкул прыбыткаў памешчыкаў. Для прасоўвання спіртнога да спажыўца была створана гіганцкая сетка піцейных устаноў, пераважна корчмаў. У Гродзенскай губерні ў 1814 г. іх было 7080[100]. Гарэлку сялянам прапаноўвалі на кожным кроку, пры гэтым не толькі за грошы, але і ў крэдыт, у абмен на зерне, птушку і г.д. Многія памешчыкі нават вызначалі абавязковую колькасць алкагольных напояў, якую селянін павінен быў выпіць за год, у іншым выпадку з яго спаганяўся кошт гэтай нормы грашыма[101]. Усе надзвычайныя работы ў памешчыка аплочваліся гарэлкай ці квіткамі ў карчму (у тым выпадку, калі памешчык знаходзіў патрэбным разлічыцца за іх). Спойванне народа памешчыкамі ў разглядаемы перыяд набывае характар сацыяльнай эпідэміі. Пры такой сістэме гарэлка стала адным з важнейшых элементаў эксплуатацыі сялян памешчыкамі. Аднак воляй гістарычных лёсаў менавіта габрэі сталі ў руках пануючага саслоўя сродкам гэтай эксплуатацыі. Габрэй засланіў сабою фактычнага гаспадара вёскі, у тым ліку і вінакурні і карчмы, – памешчыка. Канцэнтрацыя габрэяў у дробным арандатарстве, асабліва ў гандлі спіртным, вельмі кідалася ў вочы.

Зразумела, што габрэйскае арандатарства і шынкарства ўзнікла ў выніку комплексу гістарычных фактараў, галоўным з якіх быў існуючы ў Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі сацыяльна-эканамічны ўклад. Аднак расійскі ўрад, ігнаруючы сутнасць праблемы, упарта спрабаваў адхіліць габрэяў ад гандлю спіртнымі напоямі ў вёсках шляхам высялення іх адтуль. Менавіта на габрэяў

---

[99] Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии / Н.Н. Улащик. М., 1965. С. 267.

[100] Lachnicki, J. Statystyka gubernii Litewsko-Grodzienskiey / J. Lachnicki. Wilno, 1817. S. 61.

[101] Цярохін, С.Ф. У фокусе канкрэтнага факта: праўда і мана пра ап’яняльныя напіткі / С.Ф. Цярохін. Мінск, 1988. С.110.

спісвалі катастрафічнае становішча вёскі. Габрэяў абвінавачвалі ў спойванні сялян, эксплуатацыі сельскага насельніцтва і ў заняпадзе сялянскага дабрабыту. Нельга не пагадзіцца з ацэнкай вядомага габрэйскага гісторыка Ю. Гесэна: "Во имя престижа существующего порядка евреи выставляются единственными виновниками всех бед; с целью оставить неприкосновенным этот порядок делается попытка коренным образом преобразовать поспешными, крутыми мерами еврейскую жизнь – только ее одну – при сохранении других окружающих ее условий"[102]. Вельмі трапна адзначыў і Х. Карабкоў: "Еврейское шинкарство – продукт бесправия – сделалось агитационным средством для сохранения этого бесправия"[103].

Забарона габрэям жыхарства і піцейнага промыслу ў сёлах і вёсках беларускага краю практыкавалася на працягу амаль усяго разглядаемага перыяду. Прывядзём кароткі агляд гэтых заканадаўчых мер.

Гісторыя высяленняў зарадзілася ў 1782 г. Калі расійскі ўрад упершыню звярнуўся да перасялення часткі насельніцтва з уездаў у гарады, ён менш за ўсё меў на ўвазе габрэяў. Указ ад 7 лютага 1782 г. (разасланы 31 студзеня 1783 г.) прадугледжваў, каб усе купцы і мяшчане, якія пражывалі ва ўездах, былі пераселены ў гарады[104]. Пасля дазволу габрэям запісацца ў гарадскія саслоўі (указ ад 7 студзеня 1779 г.) амаль усе яны запісаліся ў мяшчанства і купецтва. Аднак гэта была фармальнасць, бо габрэі, прыпісаныя да гарадоў, працягвалі заставацца ва ўездах. Па падліках Я. Анішчанкі, прыблізна 70% габрэяў усходнебеларускіх губерняў стабільна пражывалі ў сельскай мясцовасці[105]. Напрыклад, у Полацкім намесніцтве колькасць габрэяў, якія запісаліся ў купецтва і мяшчанства, складала 7426 душ мужчынскага полу, з іх у мястэчках і вёсках пражывалі 5449[106]. Такім чынам, мера па высяленні мяшчан і купцоў з сельскай мясцовасці ў гарады для хрысціянскага насельніцтва з'яўлялася прыватным абмежаваннем, а для габрэяў ператварылася ў агульнае прававое абмежаванне. Прыкладна каля 60 тыс. габрэяў, што пражывалі ва ўездах беларускіх губерняў, павінны былі адразу кінуць свае векавыя заняткі і месца-

[102] Гессен, Ю. Евреи в России / Ю.Гессен. СПб., 1906. С. 5.

[103] Коробков, Х. Экономическая роль евреев в Польше в конце XVIII в. / Х. Коробков // Еврейская старина. 1910. № 3. С. 355.

[104] Гессен, Ю. К истории выселений евреев из сел и деревень / Ю. Гессен // Книжки Восхода. 1903. Кн. IV. С.4.

[105] Анішчанка, Я.К. Яўрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVIII ст. паводле ўрадавага ўліку / Я.К. Анішчанка // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гум. навук. 1993. № 4. С. 67.

[106] РДАСА. Ф. 248. Воп. 126. Адз. зах. 5793. Арк. 119 адв.

жыхарства і на ўласныя сродкі перасяліцца ў гарады. Гэта, канешне, было немагчыма. Сенат указам ад 7 мая 1786 г. перапыніў высяленні: "…не следует записавшихся в купечество и мещанство, живущих в местечках и деревнях евреев безвременно селиться в городах принуждать, но по заплате каждым следующих податей, упражняться по уездам в промыслах и работах не запрещать, особливо когда нет для них в городах свободных под строение домов, да и неизвестно, могут ли они в городах найти себе пропитание"[107].

Пытанне аб высяленні габрэяў з сельскай мясцовасці было ўзнята зноў у верасні 1795 г. Для перасялення быў прызначаны тэрмін усяго ў адзін год. З-за немагчымасці ажыццяўлення высяленні зноў былі перапынены. Санкцыяніравала меру па высяленні габрэяў з сельскай мясцовасці, надало ёй заканадаўчую форму "Палажэнне аб габрэях" 1804 г., 34-ы артыкул якога абвяшчаў: "Никто из евреев <…> ни в какой деревне и селе не может содержать никаких аренд, шинков, кабаков и постоялых дворов ни под своим, ни под чужим именем, ни продавать в них вина и даже жить в них, под каким бы то видом ни было, разве проездом. Запрещение сие распространяется также на все шинки, постоялые дворы, или другие заведения, на большой дороге состоящие, кому бы они не принадлежали, обществам, или частным людям"[108].

Аднак знешнепалітычныя абставіны нечакана прыпынілі высяленні. Па загадзе Напалеона восенню 1806 г. з Парыжа па ўсіх краінах Еўропы пачалі рассылаць маніфест аб скліканні "вялікага Сінедрыёна". Гэта ініцыятыва Напалеона занепакоіла манархаў Прусіі, Аўстрыі і Расіі: яны меркавалі, што такім чынам ён прыцягне на свой бок прыгнечаных габрэяў у раёнах будучых ваенных дзеянняў. У лютым 1807 г. Аляксандр І прыпыніў высяленне габрэяў з вёсак. Пасля заключэння Тыльзіцкага мірнага дагавора да высяленчых мерапрыемстваў вярнуліся зноў. У кастрычніку 1807 г. з'явілася новае распараджэнне: выселіць габрэяў з вёсак на працягу трох гадоў. І зноў па зразумелых прычынах "эвакуацыя" сёл ад габрэяў зрывалася. Указам ад 29 снежня 1808 г. высяленні перапыняліся. Узнавіліся яны ўжо пасля вайны 1812 г.

11 красавіка 1823 г. чарговым забараняльным указам загадвалася прывесці ў дзеянне арт. 34 "Палажэння аб габрэях" 1804 г. і перасяліць габрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі да

[107] Мыш, М.И. Руководство к русским законам о евреях / М.И. Мыш. СПб., 1914. С. 117.

[108] Леванда, В.О. Полный хронологический сборник законов и положений, касающихся евреев / В.О. Леванда. СПб., 1874. С. 57–58.

1 студзеня 1825 г. Акрамя таго, эканамічная “дыета” станавілася для габрэяў яшчэ больш строгай: ім было забаронена ўтрымліваць у беларускіх губернях пошты і ездзіць па вёсках і сёлах для продажу тавараў. Звесткі аб выніках рэалізацыі гэтага ўказа па Віцебскай і Магілёўскай губернях наступныя. У 1823 г. у Віцебскай губерні габрэйскага насельніцтва было 17 811 мужчын і 15 105 жанчын, на працягу года ў гарады і мястэчкі перасялілася 3 699 мужчын і 3 952 жанчыны, а к 1825 г. – 17 907 чалавек абодвух полаў (ці 54%). У Магілёўскай губерні ў 1823 г. габрэяў налічвалася: 30 922 мужчыны і 32 496 жанчын, з якіх у гарады і мястэчкі перасялілася 6286 мужчын і 6506 жанчын, да 1825 г. колькасць пераселеных склала 35 535 чалавек абодвух полаў (ці 56%)[109].

Затрымка з поўным перасяленнем габрэйскага насельніцтва ў гарады і мястэчкі выклікала выданне новага ўказа ад 2 снежня 1827 г., у якім адзначалася, што перасяленне неабходна паскорыць і правесці спачатку па Гродзенскай губерні, заснаваўшы для гэтага ў г. Гродна камітэт.

“Палажэнне аб габрэях” 1835 г. суправаджалася ўказам ад 13 красавіка таго ж года аб прыпыненні высялення габрэяў з сёл і вёсак (з гэтага вынікала, што яно раней ці пазней будзе ўзноўлена). Габрэям не забаранялася арэнда, у тым ліку і піцейных устаноў, але ім не дазвалялася прадаваць сялянам спіртныя напоі ў доўг.

Мясцовыя ўлады часам трактавалі абмежавальныя законы адносна габрэяў занадта шырока, у выніку чаго адбываліся парушэнні існуючага заканадаўства. Так, магілёўскае губернскае начальства забараніла габрэям нават часовае знаходжанне ў сельскай мясцовасці: адлучкі з месцаў пастаяннага жыхарства па гандлёва-прамысловых справах, напрыклад для куплі хлеба і малацьбы яго на млынах, для заключэння кантрактаў з памешчыкамі і г.д. Памешчыкам жа прадпісвалася: “устранить всякие в селениях и деревнях с евреями сделки и условия и впредь оных не допускать ни под каким предлогом, а являющихся для этого евреев, задержав непременно отдавать полицейским служителям для отсылки чрез земский суд к водворению их на место постоянного жительства”[110].

Цыркуляры магілёўскага губернатара такога зместу з’явіліся 8 лютага і 4 сакавіка 1843 г. Магілёўскія габрэі 27 ліпеня 1843 г. накіравалі скаргу-прашэнне на імя шэфа жандармаў графа Бенкен-

[109] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С.43; НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 422. Арк. 114, 126.
[110] ДАРФ. Ф. 109. Воп. 18. Адз. зах. 127. Арк. 12.

дорфа, у якім скардзіліся: “Евреи, обитающие в губерниях Могилёвской и Витебской, выселенные из сёл и деревень, поселённые в городах и местечках, но общая торговля и промышленность их Положением 1835 г. им дозволена наравне с прочими сословиями не только в черте их оседлости, но даже за чертою в ограниченных тем Положением случаях. По Могилёвской губернии ныне воспрещен евреям выезд из мест их жительства для торговли и промышленности даже для покупки хлеба и других продуктов и молотьбы на мельницах, о чём все помещики, их управляющие и экономы письменно оповещены. Предлогом к сему поставлено воспрещение евреям проживать в сёлах и деревнях. Становым приставам, соцким и десятским предписано и всем крестьянам строго подтверждено где бы не оказались евреи вне города и местечка, тот час брать их и доставлять в земский суд. <...> и ныне евреи не только промышленники, но даже купцы, платящие гильдии, не могут выехать из черты города даже по трактам и тем крайне стеснены”[111].

Рэакцыя III Аддзялення Канцылярыі Яго Імператарскай Вялікасці на гэтыя звесткі была наступнай: “<...> принять немедленно меры к прекращению всякого недозволенного законом ограничения евреям в отлучках из городов в уезды по делам торговли и промышленности, отменив противное ему циркулярное предписание”[112].

Звернем увагу на цікавы факт, звязаны з указам ад 19 мая 1843 г. аб высяленні габрэяў на 50-вёрставую адлегласць ад мяжы. З гэтай нагоды з Вільні ў Пецярбург ад начальніка 4-й акругі корпуса жандармаў да шэфа ўсіх жандармаў Расійскай імперыі быў накіраваны ліст, у якім прыводзілася аргументацыя аб немагчымасці выканання гэтага ўказа (бо да высялення падлягалі каля 500 тыс. чалавек) і неэфектыўнасці барацьбы такім спосабам з кантрабандай (бо колькасць габрэяў, якія ёю займаюцца, вельмі вялікая). Складальнік гэтага паслання прапаноўваў даручыць самім габрэям кантраляваць, каб не было кантрабанды, пад пагрозай высялення ўсіх габрэяў з тых мястэчак, дзе будзе выкрыты кантрабандны гандаль: “Вникая в фантастическое стремление еврейского народа к самосохранению и сбережению общей его пользы, даже с принесением ей в жертву всех выгод частных, я не сомневаюсь, что предлагаемое здесь распоряжение может увенчаться успехом“[113].

---

[111] ДАРФ. Ф. 109. Воп. 18. Адз. зах. 127. Арк. 10.
[112] Там жа. Арк. 6.
[113] Там жа. Адз. зах. 136. Арк. 8–10.

15 жніўня 1845 г. былі прыняты агульныя правілы аб вырабе і продажу габрэямі гарачых напояў у тых месцах, дзе ім дазволена пастаяннае жыхарства. Урад упэўніўся, нарэшце, у немагчымасці паўсюднага высялення габрэяў з сёл і вёсак і проста забараніў ім піцейны промысел па-за гарадскімі паселішчамі. Адзін з даследчыкаў прававога становішча габрэяў Расійскай імперыі М. Мыш адзначаў: "Правила 1845 г. как будто были изданы для того, чтобы их постоянно нарушало само правительство под видом временной меры"[114]. Такім чынам, і гэтая забарона габрэям займацца піцейным промыслам у сельскай мясцовасці зрывалася як самім урадам для захавання казённых прыбыткаў, так і габрэямі, якія фактычна працягвалі мець уплыў на гандаль спіртнымі напоямі, выкарыстоўваючы падстаўных асоб па даверанасцях памешчыкаў.

Такім чынам, разглядаемыя абмежавальныя меры ўрада дапаўняліся разнастайнымі ініцыятывамі на месцах. Высяленчыя мерапрыемствы былі цесна звязаны з барацьбой з піцейным промыслам габрэяў. Менавіта габрэі ў разглядаемы перыяд сталі галоўнай мішэнню рэформы ў галіне вытворчасці і продажу спіртных напояў. І цэнтральныя, і мясцовыя ўлады праяўлялі крайнюю ў гэтым "заклапочанасць", у выніку якой габрэі аказваліся ў надзвычай цяжкім становішчы. Планы перасяленняў, што выклікалі поўны эканамічны хаос і людскія пакуты, канчаткова так і не былі рэалізаваны.

Комплекс прычын недастатковай паспяховасці разгледжаных мер заключаецца ў наступным.

Па-першае, неабходна адзначыць непаслядоўнасць і супярэчлівасць самой палітыкі ўрада у гэтай галіне.

Па-другое, мерам улад супрацьдзейнічалі памешчыкі. Парадокс палягае ў тым, што тыя ж памешчыкі выступалі і ў ролі ініцыятараў абмежавальных мер. Дастаткова прыгадаць даклад маршалкаў Мінскай губерні, накіраваны Паўлу І 13 ліпеня 1797 г.[115] ці пастанову гродзенскага дваранскага сходу ад 14 студзеня 1840 г. аб "выведении евреев из деревень и корчем и воспрещении им винокурения"[116].

У той жа час у архіўных фондах сустракаецца шэраг матэрыялаў, якія сведчаць аб тым, што многія памешчыкі імкнуліся захаваць габрэяў у сваіх маёнтках. Каб не пазбавіцца пасрэдніцкіх паслуг габрэяў, яны пераводзілі звычайныя паселішчы ў сваіх уладан-

[114] Мыш, М. Борьба правительства с питейным промыслом евреев в селах и деревнях / М. Мыш // Восход. 1881. Кн. IX. С. 7.

[115] Клиер, Дж.Д. Россия собирает своих евреев / Дж.Д. Клиер. М.; Иерусалим, 2000. С.151–153.

[116] НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп.20. Адз. зах. 1497. Арк. 5.

нях на ступень мястэчак і тым памнажалі іх колькасць, асабліва ў 20-х гг. XIX ст. Як ні зручна было землеўладальнікам выкарыстоўваць габрэяў для адводу вачэй урада ад сапраўднай прычыны бедстваў сялян, габрэі былі ім яшчэ болей патрэбныя як неабходная частка эканомікі краю. Пасля адступлення "навальніцы" памешчыкі працягвалі ўтрымліваць у сваіх уладаннях габрэяў і дапускалі іх да піцейнага промыслу. Гэта вызваляла памешчыкаў ад неабходнасці асабістага кантролю за арганізацыяй вырабу і продажу алкагольных напояў, пазбаўляла іх камерцыйнай рызыкі, дазваляла рэалізаваць лішкі збожжа і бульбы і забяспечвала пастаянны даход у наяўных грошах.

У ананімнай сакрэтнай "Записке о евреях, живущих в России", пададзенай у III Аддзяленне канцэлярыі Яго Імператарскай Вялікасці ў 1842 г., гаварылася, што ўсе без выключэння памешчыкі заходніх губерняў карыстаюцца пасрэдніцкімі паслугамі габрэяў, прыводзіліся аргументы аб выгадзе для памешчыкаў здаваць у арэнду корчмы, а таксама вінакурні і піваварні, млыны, сажалкі і інш. менавіта габрэям: "Помещик получал доход за содержание корчмы и проч. гораздо значительнейший, нежели всякий другой мог дать ему, ибо еврей оборотливее прочих и образ его жизни не требует больших расходов". У гэтай крыніцы ёсць таксама цікавыя назіранні аб тым, што замена у некаторых месцах габрэяў-карчмароў на іншых прыводзіць да шэрага "нязручнасцей": "в корчмах кроме водки уже ничего нельзя достать, и сам корчмарь всегда пьян, готов к драке, к шуму; мера эта отняла всякую возможность у земских властей близко надзирать за многими помещиками западных губерний. Еврей-корчмарь был зорким бдителем, ему известно было все, что происходило в помещичьем доме... о брожении умов помещиков и посессоров, о свиданиях и съездах..."[117].

Такім чынам, пазіцыя памешчыкаў у пытанні "супрацоўніцтва" з габрэямі не была адназначнай. Атрымае які-небудзь габрэй арэнду ці не, залежала "ад часу, абставін і месца", як сфармуляваў у 1769 г. адзін з землеўладальнікаў[118]. Аднак большасць памешчыкаў ахвотна карысталіся пасрэдніцкімі паслугамі габрэяў. Сітуацыя не змянілася і пасля далучэння зямель былой Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі, таму што пры іншых палітычных умовах заставаліся нязменнымі сацыяльна-эканамічныя фактары.

---

117 ДАРФ. Ф. 109. 1 экспедыцыя. Воп. 16. Адз. зах. 304. Арк. 24–25.

118 Hensel, J. Żydowski arendarz i jego karczma / J. Hensel // Kultura Żydów polskich XIX–XX w. Kielce, 1992. S. 85.

У якасці трэцяй прычыны, якая перашкаджала барацьбе ўлад з піцейным промыслам і пражываннем габрэяў у вёсках, адзначым добра вядомыя і шырока распаўсюджаныя факты хабарніцтва чыноўнікаў. І. Бікерман адзначаў: “Тут мы имеем дело с системой, точно придуманной для того, чтобы плодить подкуп и вымогательство… Одной из сил, поддерживающих еврейское бесправие, были те многочисленные агенты власти, которым такое положение доставляло исключительные выгоды”[119]. У рапарце чыноўніка гродзенскага губернскага праўлення Лазоўскага, накіраванага ў 1851 г. гродзенскаму губернатару Ховену, гаварылася, што “винная продажа никогда не выходила из рук евреев по деревням как Гродненской губернии, так и прочих губерний черты оседлости, и это неизбежно, в особенности если со стороны местных полицейских властей допущена бездеятельность или еще хуже потворство”[120].

Самая галоўная прычына цяжкасцей ажыццяўлення разглядаемых мер заключалася ў адсутнасці сродкаў на перасяленні як у саміх габрэяў, так і ва ўрада і немагчымасці для ўсіх габрэяў, пераселеных з сёл і вёсак, знайсці сродкі для існавання ў гарадах і мястэчках. Гэтую праблему М. Мыш называў “страўнікавым” пытаннем і сцвярджаў, што яно само па сабе здольнае паралізаваць дзеянне ўсялякага абмежавальнага закона[121]. Так змагаліся жыццё і закон. Жыццё пераварала закон, які супярэчыў яго патрэбнасцям, у фікцыю.

У выніку высяленчых мерапрыемстваў улад удзельная вага габрэяў сярод жыхароў гарадоў і мястэчак на працягу канца XVIII – першай паловы XIX ст. паступова павялічвалася, што пацвярджае як афіцыйная статыстыка, так і матэрыялы прыватнага ўліку (інвентары). Гэта будзе паказана ў адпаведным раздзеле.

Наступствам урадавых мер па высяленні габрэяў з сельскай мясцовасці з’явілася ненатуральная канцэнтрацыя габрэяў у гарадах і мястэчках, абвастрэнне канкурэнцыі паміж імі за сродкі да існавання. Аб жудаснай скучанасці местачковага насельніцтва сведчаць шматлікія скаргі і прашэнні, што захаваліся ў архіўных фондах. Так, габрэі м. Талачын у 1825 г. характарызавалі сваё становішча наступным чынам: “‹...› от большого стеснения в одном доме по два и более семейств крайнею бедностию наказаны так, что и дневного пропитания иметь не можем ‹...›”. У гэтым жа годзе габрэі м. Шклоў у

119 Бикерман, И. Черта еврейской оседлости / И. Бикерман. СПб., 1911. С. 125.

120 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 13. Адз. зах. 443. Арк. 31.

121 Мыш, М. Борьба правительства с питейным промыслом евреев в селах и деревнях / М. Мыш // Восход. 1881. Кн. VIII. С. 18.

прашэнні на імя імператара адзначалі: “Стеснение по городам и местечкам от переселения из деревень евреев, близкое к истреблению нас, дает нам смелость ‹...› просить себе спасения от предстоящей гибели еврейскому народу в белорусских губерниях”[122]. Канцэнтрацыя габрэйскага насельніцтва ў мястэчках узмацняла агульную беднасць местачковых жыхароў і паскарала працэс паўперызацыі мяшчанства.

Цесната фізічная і сацыяльная прысутнічала амаль у кожным мястэчку. Шчыльнае павуцінне сацыяльнага і этнаканфесійнага поля пераўтварала мястэчка ў зону жудаснага чалавечага напружання. Ішла штодзённая барацьба за існаванне, за пошук сродкаў для жыцця: “Экономика еврейских местечек была практической головоломкой, чем-то эфемерным и даже неправдоподобным. Еврейский бедняк высасывал себе пропитание из собственного пальца, и то, что ему попадало в желудок, было поистине скудно. Мелкая торговля почти без покупателей, вместо покупателей одни конкуренты. И такое же мелкое и даже ненужное совсем ремесло без всяких клиентов”[123]. Мардэхай Бэн-Амі, апісваючы сваю паездку ў Літву, з горкай іроніяй заўважыў: “…Я даже склонен думать, что обычай употреблять пищу евреи заимствовали у какого либо чужеземного народа, так как до сих пор он у них плохо принялся… Еврей ест, чтобы жить, а не живёт, чтобы есть, и любит не жизнь, а само существование”[124]. Агульнай асаблівасцю амаль усіх мястэчак і ўсіх местачковых габрэйскіх абшчын была беднасць, якая часам даходзіла да галечы. Па меркаванні І. Зяленскага, з 10 габрэйскіх сем’яў, што жылі рамяством, 8 “погружены в самую ужасающую нищету”[125]. Ва ўспамінах А. Паперны адзначана, што “совершенно неимущие жители составляли в каждой еврейской общине около 20%”[126].

Аднак, з другога боку, А. Кагановіч не без падстаў лічыць адміністрацыйнае высяленне габрэяў у гарадскія цэнтры ўдалым для ўлад урбанізацыйным праектам, які быў важнай перадумовай для развіцця эканомікі, што праявілася ў значным росце рамесных майстэрняў, дробных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў, узрастанні ролі гарадскога і местачковага базарнага гандлю. Безумоўна, габрэі ў выніку рэалізацыі высяленчых мерапрыемстваў

[122] НГАБ. Ф. 1297. Воп. 1. Адз.зах. 879. Арк. 8; Адз. зах. 460. Арк. 8.
[123] Еврейское местечко в революции. Л., 1926. С. 14.
[124] Бен-Ами. Поездка на Литву // Восход. 1894. Кн.8. С. 23; Кн. 9. С. 75.
[125] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России… С. 276.
[126] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910. С. 39.

улад панеслі вялікія выдаткі, але ў цэлым яны адносна хутка ачуньваліся ад гэтых негатыўных наступстваў[127].

Адбывалася пераарыентацыя эканамічнай дзейнасці габрэяў, трансфармацыя іх прафесійнай структуры. Калі раней асноўным спосабам заробку з'яўлялася эксплуатацыя даходных крыніц памешчыцкай гаспадаркі і звязаны з ёй пасрэдніцкі гандаль, то ў першым дзесяцігоддзі XIX ст. асноўны акцэнт эканамічнага жыцця габрэяў пераносіцца ў мястэчкі і гарады. Габрэі, такім чынам, занялі манапольнае становішча ў "неземляробчым" прадпрымальніцтве. Негабрэйскае насельніцтва гарадскіх паселішчаў страчвала свае былыя пазіцыі ў гандлёва-прамысловай дзейнасці.

Палітыка расійскіх улад па высяленні габрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі мела значныя негатыўныя наступствы для нацыятворчых працэсаў сярод беларусаў. Урбанізацыя, якая ўкшталтавала сучасныя нацыі і сучасныя нацыянальныя дзяржавы, на беларускіх землях ва ўмовах Расійскай імперыі абыйшла бокам беларусаў. Беларусы ператвараліся ў няпоўнаскладовую сялянскую нацыю з характэрнай неурбанізаванай ці недаурбанізаванай ментальнасцю. Феномен небеларускасці гарадоў Беларусі зафіксаваў перапіс 1897 г. Беларусаў у гарадах пражывала каля 109 тыс., ці крыху болей за 2%. Па сваім складзе гарады Беларусі былі габрэйска-рускімі. Удзельная вага беларусаў сярод гараджан складала 17%[128]. Беларусы запаўнялі сферу найму і гарадскога земляробства, у сферу ж кіравання і гандлёва-прамысловай дзейнасці амаль не ўваходзілі. Можна цалкам пагадзіцца з высновай Захара Шыбекі, што далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі мела шэраг адмоўных вынікаў, але, можа, самым трагічным было запавольванне і дэфармацыя урбаністычнага працэсу, які забяспечваў фарміраванне поўнаскладовай беларускай нацыі[129].

Неабходна яшчэ раз звярнуць увагу і на тое, што расійскія меры, якія прывялі да канцэнтрацыі габрэяў у гарадах і мястэчках, садзейнічалі кансервацыі ў іх традыцыйнай габрэйскай культуры і ўкладу жыцця, ператварэнню мястэчак у асяродак габрэйскай гісторыі і культуры.

На становішча мястэчак істотны ўплыў аказвала ***палітыка расійскіх улад у галіне горадаўтварэння ў Беларусі.***

---

[127] Каганович, А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии / А. Каганович. Иерусалим, 2007. С. 100.

[128] Шыбека, З.В. Гарады Беларусі ... С. 169.

[129] Шыбека, З.В. Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет / З.В. Шыбека. Вільня, 2009. С. 122.

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі прававое становішча насельніцтва мястэчак пагоршылася не толькі ў выніку ўвядзення абмежавальных законаў адносна габрэяў, але і ў выніку запрыгоньвання местачковых мяшчан. Спынімся на гэтым аспекце падрабязней.

Як вядома, у часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай не толькі гарады, але і многія мястэчкі Беларусі карысталіся самакіраваннем паводле магдэбургскага права, што юрыдычна замацоўвала іх паўнапраўны гарадскі статус. Па падліках А. Карпачова, у другой палове XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі было 438 гарадскіх паселішчаў: 39 гарадоў і 399 мястэчак. 38 мястэчак (ці амаль 10%) мелі самакіраванне паводле магдэбургскага права[130]. Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі магдэбургскае права тут было паслядоўна ліквідавана: у Магілёўскай і Пскоўскай губернях – у лістападзе 1775 г., у Мінскай – у маі 1795 г., у Слонімскай і Віленскай – у снежні 1795 г.[131] На гарады, якія яго мелі, і на мястэчкі, стаўшыя цэнтрамі ўездаў, пашыраліся прынцыпы расійскага гарадскога самакіравання паводле "Даравальнай граматы гарадам" 1785 г. Паводле ацэнкі А. Кіштымава, расійскія ўлады толькі завяршылі ліквідацыю састарэлых норм магдэбургскага права, народжанага пяць вякоў назад, бо гэты працэс быў распачаты ў 1776 г., калі сойм Рэчы Паспалітай пазбавіў многія гарады і мястэчкі магдэбургіі, захаваўшы яе толькі ў буйных ваяводскіх і павятовых цэнтрах, а таксама ў прыватнаўласніцкіх гарадах. Расійскія заканадаўчыя нормы "Даравальнай граматы..." больш адпавядалі эпосе, чым сярэднявечнае магдэбургскае права[132].

Жыхары большасці мястэчак, якія гарадскіх правоў не атрымалі, пераводзіліся ў катэгорыю сялян і нават раздаваліся прыватным уладальнікам. Праўда, у некаторых найбольш буйных мястэчках захоўваліся мяшчанскія грамады беларусаў (напрыклад, у Івянцы, Койданаве), якія падпарадкоўваліся муніцыпальным органам бліжэйшых гарадоў. Аднак большасць местачковых мяшчан-беларусаў пасля далучэння да Расіі была запрыгонена і аб'яднана ў сялянскія грамады. Такім чынам, жыхары шматлікіх

---

[130] Карпачев, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. ... С. 91.

[131] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т.5. Мінск, 1999. С. 6.

[132] Киштымов, А.Л. Экономическое наследие Речи Посполитой в народном хозяйстве Беларуси / А.Л. Киштымов // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы: Міжнародная навук. канф. (2006, Гомель) / Рэдкал.: Р.Р. Лазько (адк. рэд.) і інш. Гомель, ГДУ імя Ф. Скарыны, 2006. С.27–33.

мястэчак, якія раней знаходзіліся на становішчы "местаў", пасля ўключэння беларускіх зямель у склад Расіі страцілі статус мяшчан і ператварыліся ў прыгонных сялян – памешчыцкіх, калі мястэчка было прыватнаўласніцкім, і дзяржаўных, калі траплялі ў скарб.

Цікавай старонкай гісторыі мястэчак Беларусі з'яўляецца працяглая і ўпартая барацьба местачкоўцаў-беларусаў за вяртанне ім ранейшых правоў, пад якімі разумелася права асабістай свабоды (вызваленне ад прыгоннай залежнасці і вяртанне мяшчанскага статуса) і права на зямлю (пры правядзенні валочнай памеры ў сярэдзіне XVI ст. мястэчкі атрымалі ад дзяржавы пэўную колькасць зямлі, якую мяшчане лічылі сваёй уласнасцю). Прыклады барацьбы былых мяшчан за волю і зямлю ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. шматлікія: Дывін, Мальча, Мілейчыцы, Скідзель, Гарадзец, Камянец, Крошына, Масты, Воўпа, Крэва, Крынкі, Лагішын, Давыд-Гарадок, Капыль, Петрыкаў, Глуск і інш. Асабліва актыўнымі былі жыхары мястэчак Гродзенскай губерні, што падрабязна апісана ў даследаваннях М. Улашчыка[133], В. Карнелюка[134], С. Токця[135].

У некаторых мястэчках барацьба жыхароў за вяртанне ранейшых правоў пачалася на рубяжы XVIII–XIX стст. (Гарадзец[136] і Янішкі[137] Віленскай губерні; Маркава, Мядзель, Гайна, Пераброддзе, Парэчча, Гародна Мінскай губерні[138]). Так, жыхары м. Гайна ў чэрвені 1793 г. звярнуліся да мінскага губернатара з просьбай вызваліць іх ад паншчыны і іншых работ на карысць уладальніка, паколькі іх мястэчка "каралеўскае" і заселена вольнымі людзьмі. Губернатар распарадзіўся адмяніць адпрацовачныя павіннасці і пакінуць толькі чынш[139].

Значную актывізацыю гэтай барацьбы ў канцы першай чвэрці XIX ст. гродзенскі губернатар у рапарце ў сенат тлумачыў "дозволением всякому отыскивать личной свободы и данных привилегий,

---

[133] Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии...

[134] Карнялюк, В. З гісторыі барацьбы жыхароў мястэчка Крынкі за свае правы ў першай палове XIX ст. // Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2 (13–14). С. 29–34.

[135] Токць, С. Скідзель у складзе Расійскай імперыі (1795 – 1915) / С. Токць // Скідзель. 500 год гісторыі / І. Барысаў, М. Дзелянкоўскі, А. Вашкевіч і інш. Гродна, 2008. С. 39–40.

[136] ДГА Літвы. Ф. 378, агульны аддзел. 1802 г. Адз. зах. 2. Арк. 4.

[137] Аддзел рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі. Адз. зах. 6322. Арк. 84–87.

[138] РДАСА. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 758. Арк. 507 адв., 513 адв., 516 адв., 522 адв., 531 адв.

[139] Сборник документов, касающихся административного устройства северо-западного края при императрице Екатерине II. 1792–1796. Вильна, 1903. № 59, II. С. 165–166.

особливо с состояния, Высочайшим указом от 23 марта 1818 г."[140] Агульнай асаблівасцю гэтага руху былі спасылкі жыхароў мястэчак у прашэннях у розныя інстанцыі (у тым ліку ў сенат, на імя імператара, цэсарэвіча) на прывілеі манархаў Рэчы Паспалітай з поўнай упэўненасцю ў юрыдычнай сіле дадзеных крыніц права. Прывядзём некалькі прыкладаў.

Жыхары м. Мілейчыцы ў скарзе, пададзенай 13 кастрычніка 1824 г., пісалі, што яны "не были с самых древних времён в состоянии крестьян, не делали никаких господским дворам повинностей, а только единственно уплачивали в казну оброчную подать… пользовались ненарушимою свободою, преимуществом и выгодами, пожалованными грамотами от бывших королей польских"[141]. Местачкоўцы дабіваліся таксама вяртання ім забраных дваровым начальствам 120 валокаў зямлі (ворыва, сенажацей і лясоў), якімі здаўна валодалі[142].

Местачкоўцы Крынак у аналагічным прашэнні на імя цара ад 10 снежня 1820 г. спасылаліся на прывілеі Жыгімонта Старога, Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Уладзіслава IV, Яна Казіміра, Міхала Карыбута Вішнявецкага, Яна III Сабескага, Аўгуста III, Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У ліпені 1824 г. рашэнне сената анулявала сілу ранейшых прывілеяў, аднак у снежні 1825 г. сяляне Крынак зноў назвалі сябе мяшчанамі ў прашэнні на імя гродзенскага губернатара і скардзіліся на прымус да павіннасцей і паншчыны, якія супярэчылі іх прывілеяванаму становішчу. Вышэйпералічаныя прывілеі манархаў Рэчы Паспалітай зноў былі галоўным аргументам сялян у патрабаванні волі[143]. У 1827 г. Мацвей Мікласевіч і Мікалай Янісімавіч ад імя жыхароў Крынак падалі ў Варшаве на імя цэсарэвіча скаргу на маруднасць разгляду іх справы і прасілі абароны ад прыгнёту дваровага начальства. Да прашэння дадаваліся арыгіналы каралеўскіх прывілеяў. Але ўсё скончылася публічным цялесным пакараннем (па 15 удараў) названых крынкаўцаў за самавольную адлучку ў Варшаву[144].

Жыхары м. Дывін, патрабуючы пераводу ў мяшчане, указвалі, што падчас правядзення валочнай памеры ў 1566 г. Дывіну было выдзелена 53 валокі зямлі (каля 1060 дзесяцін), прадставілі прывілеі 1629, 1649, 1677, 1761 гг., паводле якіх жыхары Дывіна лічыліся

[140] РДГА. Ф. 1286. Воп. 2. Адз. зах. 254. Арк. 5 адв.
[141] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 1884. Арк. 325.
[142] Там жа. Адз. зах. 2259. Арк. 1.
[143] Там жа. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 60–61.
[144] Там жа. Воп. 2. Адз. зах. 2040. Арк. 1, 11, 11 адв.

мяшчанамі, а зямля была аддадзена ім у вечнае валоданне[145]. Улады рабілі захады, каб забраць арыгіналы прывілеяў у местачкоўцаў. Жыхары Дывіна скардзіліся, што кобрынская паліцыя "задержала у себя подлинную привилегию и прочие документы Дывинских мещан"[146]. Арыгіналы прывілеяў манархаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай захоўвалі і выкарыстоўвалі ў барацьбе за мяшчанскія правы і жыхары Камянца[147].

Дабіваліся вяртання свабоды і зямлі, адмаўляліся выконваць паншчыну на карысць княгіні Чацвярцінскай 32 жыхары м. Скідзель[148]. Некаторыя з іх змагаліся за волю ў прыватным парадку: у 1847 г. дабіўся вызвалення ад прыгоннай залежнасці кутнік Лявон Ванюкевіч[149].

Жыхары м. Крэва таксама неаднойчы ўздымалі пытанне пра аднаўленне сваіх гарадскіх правоў. У 1844 г. "избранный жителями местечка Крева поверенный предъявил иск о возведении местечка по прежнему на степень города, о восстановлении жителям оного прав и преимуществ городских обывателей и о предоставлении им всех принадлежащих местечку земель, лугов, леса и других угодий на праве городской собственности"[150]. У прашэнні гаварылася, што жыхары Крэва ўтрымлівалі мяшчанскае званне, нададзенае ім польскімі каралямі, да 1816 г., а пазней былі пераведзены ў сялянскае саслоўе. З 1834 г. местачкоўцы хадайнічалі аб аднаўленні іх у мяшчанстве. Па прашэнні 1844 г. рашэнне сената было наступнае: "Иск жителей м. Крево за уничтожением прав городских обывателей конституцией 1776 г. и Высочайшим указом 1798 г., а также за пропущением на отыскивание земель десятилетней давности, оставить без уважения"[151].

Барацьба насіла вельмі ўпарты і дастаткова масавы характар. Губернскае начальства канстатавала, што "дух, какой действует над жителями Дывина, есть общим и других соседних крестьян – а именно местечек Городца, Мальча, Логишина и прочих в окрестности находящихся"[152]. Выклікае павагу рашучасць і адзінства местачкоўцаў. Напрыклад, калі ў Мальчы былі арыштаваны 8 "за-

[145] НГАБ у Гродне. Ф. 1. 1. Адз. зах. 1355. Арк. 5, 6, 8, 11, 12, 14.
[146] Там жа. Арк. 69 адв.
[147] Там жа. Адз. зах. 1381. Арк. 11–12.
[148] Там жа. Воп. 2. Адз. зах. 1825.
[149] Токць, С. Скідзель у складзе Расійскай імперыі... С. 40.
[150] Городские поселения Российской империи. Т. 1. СПб, 1860. С. 188.
[151] Там жа.
[152] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 1355. Арк. 46.

чинщиков", то местачкоўцы "собравшись всем обществом, мужского и женского пола, разломали дверь в доме, где содержались арестованные, отбили оных у полицейских служителей"[153]. Пры разглядзе гэтых спраў чыноўнікі не аднойчы падкрэслівалі, што жыхары дзейнічаюць "всей громадою единогласно", у сувязі з чым пад падазрэнні ў падбухторванні траплялі святары местачковых прыходаў. Так, былі адхілены ад сваіх абавязкаў і пераведзены ў Брэсцкі базыльянскі кляштар уніяцкія святары Дывіна (Сіткевіч), Камянца (Яцкевіч і Яхімовіч)[154]. Для "усмирения в непослушании закореневших жителей местечек" улады найбольш актыўных з іх аддавалі ў рэкруты, выкарыстоўвалі ваенныя каманды, так званую "экзэкуцыю". Аднак местачкоўцы абскарджвалі і гэтыя дзеянні, часам паспяхова. Так, жыхары м. Мальча дабіліся ад Беластоцкага пяхотнага палка вяртання 140 руб. 25 кап. серабром за "перебор военными лицами мясной и винной порции"[155]. Пакаранні, што выносілі суды, былі дастаткова жорсткія. Напрыклад, па Мальчанскай справе 7 чалавек прыгаварылі да ссылкі на катаржную работу, астатніх – да публічных цялесных пакаранняў (ад 15 да 100 удараў)[156].

Справа аб адшукванні мяшчанскіх вольнасцей жыхарамі Мастоў мела наступную цікавую акалічнасць. У якасці іх "возмутителей" выступалі Якімчык і габрэй Мордух Гэцаліовіч, якія сабралі з местачкоўцаў грошы і паехалі ў Вільню спрыяць справе вызвалення ад прыгону мастоўскіх жыхароў. Па вяртанні адтуль вынаходлівы Мордух "собрав поселян мостовских объявил уже будто им вольность и вытребовав от них за то немалое количество денег, взял с собою ещё 10 мужиков, и неизвестно куда с ними отправился". Матывы такіх дзеянняў Мордуха ў перапісцы губернскіх чыноўнікаў тлумачыліся наступным чынам: "Возмутитель еврей Гецелиович под видом отыскания вольности поселянам из единою користию своего, а всего еще более с злобы на двор мостовский, коему он не малое число денег по акцизному откупу должен..."[157]. Зразумела, што лёс жыхароў Мастоў вырашаўся не ў Вільні, а ў Пецярбургу. Сенат, куды былі накіраваныя 7 прывілееў былых польскіх каралёў, высвятляў іх сапраўднасць: толькі 4 з прадстаўленых прывілееў былі знойдзены ў Літоўскай метрыцы.

---

153 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 1360. Арк. 324 адв.

154 Там жа. Адз. зах. 1355. Арк. 183.

155 Там жа. Адз. зах. 1360. Арк. 464–471.

156 Там жа. Арк. 425–426.

157 Там жа. Адз. зах. 2237. Арк. 1–1 адв.

Як бачым, жыхары мястэчак добра ведалі сваю гісторыю (тую яе частку, якая датычыла іх правоў), старанна захоўвалі прывілеі, выдадзеныя іх продкам вялікімі князямі літоўскімі і каралямі польскімі, і выкарыстоўвалі іх ва ўпартай барацьбе за асабістую свабоду і зямлю. Аднак расійскія ўлады, як правіла, адмаўлялі местачкоўцам у пацвярджэнні іх ранейшых правоў. У справах па Дывіну, Мальчы, Мілейчыц, Мастоў у якасці падставы для такой адмовы паслужыў факт скасавання гарадскіх правоў у 1776 г.: "Привилегии польскими королями наданные яко уничтоженные конституцией 1776 г. в настоящее время не могут иметь никакого действия"[158]. Рашэнне сената ад 28 сакавіка 1824 г., што датычыла м. Масты, мела і агульнае значэнне. У ім гаварылася: "Не предстоит никакого сомнения, что обыватели тех местечек должны производить все господские работы и всякие исправлять повинности наравне с крепостными крестьянами, ибо всемилостивейшее пожалование представляет всякому лицу над теми крестьянами право вотчинничества и вместе с тем владение и распоряжение по силе дворянской грамоты. А за сим, если которые жители городов и местечек имеют право отыскивать свободу или привилегии, то могут производить дело об оных установленным порядком, пребывая, однако, до разрешения о них дел в полном повиновении своих владельцев"[159]. Сенат спаслаўся тут на "Даравальную грамату дваранству" 1785 г. Такім чынам, менавіта гэты заканадаўчы дакумент, а не прывілеі манархаў Рэчы Паспалітай выступіў для расійскіх улад у ролі крыніцы права ў дадзенай сітуацыі. Гэты ўказ сената, нягледзячы на некаторыя агаворкі (права адшукваць свабоду), фактычна скасоўваў усе ранейшыя прывілеі мяшчан, ператвараў іх у прыгонных і пазбаўляў права іску, бо больш яскравых доказаў правоў на мяшчанскі статус, чым мелі жыхары мястэчак Гродзенскай губерні, наўрад ці можна было знайсці.

Выключэннем з правіла было рашэнне сената аб вызваленні жыхароў м. Янішкі з валодання Зубавых, якім мястэчка было падаравана Кацярынай II. На карысць местачкоўцаў прыняў рашэнне і Шавельскі ўезны суд аб спрэчнай зямлі ў колькасці 80 валокаў. Цікава адзначыць, што ў сваім прашэнні аб праве на асабістую свабоду і зямлю жыхары Янішак спасылаліся не толькі на прывілеі каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх 1616, 1620, 1665, 1718 і 1736 гг., але і на Маніфест Кацярыны II ад 27 сакавіка 1793 г., "которым обе-

[158] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 1355. Арк. 86; Адз. зах. 1884. Арк. 252.

[159] Там жа. Адз. зах. 1884. Арк. 253.

спечивалось каждому из тогдашних новых подданных Российского правительства ненарушимость права лица и собственности”[160].

Жыхары м. Лагішын пачалі барацьбу за свае правы ў 1794 г.[161] Указ сената ад 16 красавіка 1808 г. прадпісваў пакінуць у мяшчанскім званні жыхароў Лагішына і вызваліць іх ад улады памешчыка: “...по силе жалованных тем мещанам от королей польских привилегий и по тому, что они в счет утвержденных за помещиком Хоминским душ не входили”[162]. Суседнія памешчыкі спрабавалі адсудзіць землі лагішынскіх мяшчан, але сенат у 1828 г. зноў захаваў за імі іх правы. Гісторыя барацьбы жыхароў Лагішына за зямлю і мяшчанскі статус мела працяг і ў парэформенны перыяд. У 1870 г. улады пераявялі лагішынцаў у дзяржаўныя сяляне, канфіскаваўшы 2133 дзесяціны зямлі, якія на льготных умовах набыў мінскі губернатар У. Токараў за “бездакорную службу”, у прыватнасці за поспехі ў “абрусенні” Мінскай губерні. Пратэст жыхароў мястэчка ўвайшоў у гісторыю як Лагішынскае выступленне мяшчан 1874 г., яно з’яўлялася адным з найбуйнейшых у Беларусі другой паловы XIX ст. А жорсткая расправа над жыхарамі мястэчка выклікала пратэст у дэмакратычнай грамадскасці краіны. Рэвалюцыянер-анархіст П. Крапоткін назваў Лагішынскую справу адной з самых абуральных у гісторыі Расіі. Жыхары працягвалі дамагацца справядлівасці ў вышэйшых інстанцыях. У 1876 г. улады вярнулі мяшчанам адабраную зямлю[163].

Пашанцавала і некаторым іншым мястэчкам. Сенат указам ад 1 лютага 1831 г. прызнаў свабоднымі мяшчанамі і жыхароў м. Глуск: “312 мужского пола душ исключить по окладу из числа крестьян помещика Ивана Юдицкого и числить впредь в том же местечке мещанами. Для расправы в маловажных ссорах или тому подобных делах дозволить избрать войта с утверждением Бобруйского магистрата”. Сенат вызначыў, што мяшчане Глуска абавязаны плаціць уладальніку чынш за зямлю ў памеры, які існаваў да 1793 г., і забараніў павялічваць яго[164]. У 1833 г. пасля судовага працэсу, распачатага жыхарамі м. Капыль, суд прызнаў іх асабіста вольнымі, аднак зямля мястэчка заставалася памешчыцкай. Далей працягвалася ўжо доўгая і безвыніковая барацьба капылян за зямлю[165]. У 1836 г. местачкоўцы

[160] АР Ягелонскай бібліятэкі. Адз. зах. 6322. Арк. 84–87.

[161] АР Бібліятэкі ПАУ і ПАН у Кракаве. Адз. зах. 5760. Арк. 21–71.

[162] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 1355. Арк. 204.

[163] Крук, У. Лагішынскае выступленне мяшчан 1874 г. / У. Крук // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Мінск, 1997. С. 326.

[164] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 872. Арк. 3–6.

[165] Там жа. Ф. 175. Воп. 1. Адз. зах. 163. Арк. 3–5, 18–21.

Давыд-Гарадка былі вызвалены з прыгоннай залежнасці і пераведзены ў мяшчанскае званне. У 1848 г. дамагліся вяртання мяшчанскага статуса жыхары м. Петрыкаў[166]. Аднак у большасці выпадкаў падобныя прашэнні местачкоўцаў не задавальняліся.

Такім чынам, адзінапраўнага становішча местачковага насельніцтва ў разглядаемы перыяд не існавала. Мяшчане-хрысціяне, мяшчане-іудзеі, сяляне, з якіх складалася асноўная частка насельніцтва мястэчак, адрозніваліся прававым статусам, знаходзіліся ў рознай юрысдыкцыі. Царскі ўрад нічога не зрабіў, каб ліквідаваць нераўнапраўе мяшчанскіх і сялянскіх грамад мястэчак і стварыць тым самым прававую аснову для іх эвалюцыі ў бок гарадской грамады як супольнасці людзей з больш-менш роўнымі прававымі магчымасцямі. Мястэчкі юрыдычна адмяжоўваліся ад гарадоў і не атрымлівалі законнай падставы набываць гарадскі статус.

Аднак вывучэнне сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. дазваляе зрабіць выснову аб тым, што многія мястэчкі па шэрагу паказчыкаў – структуры насельніцтва, узроўні эканамічнага развіцця, культурна-асветніцкай ролі, знешнім выглядзе – не ўступалі гарадам і нават пераўзыходзілі некаторыя з іх. Такія мястэчкі маглі рэальна прэтэндаваць на афіцыйнае прызнанне горадам. Падобныя пытанні ўздымаліся, што знайшло адлюстраванне ў крыніцах. Так, у 1837 г., калі збіраліся звесткі пра канфіскаваныя маёнткі, гродзенская казённая палата знайшла магчымым пераўтварыць у гарады мястэчкі Дзятлава, Ружаны і Свіслач. Аднак гродзенскі грамадзянскі губернатар не падтрымаў гэтай ініцыятывы, адзначыўшы, што не бачыць патрэбы ў заснаванні новых гарадоў: “Ежели бы допустить обращение которого либо из помянутых местечек в город, в таком случае потребно было бы: а) с ущербом в получаемых теперь с конфискованных имений доходов отвести черту для выгона; б) устроить ратушу и особое полицейское управление с отнесением содержания оных на счет города; в) дать направление чрез новый город ходу почт и проч.”[167]. Заснаванне новых гарадоў патрабавала пэўных матэрыяльных і арганізацыйных намаганняў, што таксама адштурхоўвала чыноўнікаў ад падтрымкі горадаўтваральных працэсаў.

П. Рындзюнскі замаруджванне працэсу ўтварэння новых гарадоў у заходняй паласе Расіі праілюстраваў прыкладам лёсу жыхароў

[166] Городские поселения Российской империи. Т 3. СПб., 1863. С. 135, 137.

[167] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 4. Адз. зах. 663. Арк. 11–12.

м. Івянец, якія, будучы мяшчанамі ў часы ВКЛ, пасля далучэння да Расіі сталі прыгоннымі сялянамі, толькі ў 1860 г. дабіліся свабоды і вяртання мяшчанскага звання, а ў 1861 г. хадайнічалі аб пераўтварэнні мястэчка ў горад. Уладальніца – памешчыца Плевакова адмовіла даць дазвол на выкарыстанне яе зямель для "устройства особого участка". Прасіцелі лічылі сябе ўласнікамі зямлі, якая была незаконна захоплена памешчыкамі. Нягледзячы на тое што МУС і Міністэрства фінансаў былі схільныя задаволіць просьбу мяшчан, сенат вырашыў справу не на карысць жыхароў Івянца. Местачкоўцы былі вымушаны прасіць аб залічэнні іх у склад Навагрудскай мяшчанскай грамады. Як бачым, справа стварэння новага горада, якая ў прынцыпе насіла шырокі грамадскі характар, разглядалася ўрадам як прыватная маёмасная здзелка паміж уладальнікам тэрыторыі і людзьмі, якія яе засялялі. Паводле высновы П. Рындзюнскага, у гэтым яскрава праявілася няздольнасць бюракратычнага апарату самадзяржаўя ўлічыць глыбінныя сацыяльныя працэсы ў краіне, зразумець іх непазбежнасць і весці ў дачыненні да іх рэалістычную палітыку[168].

Цяжкасці, якія ўзнікалі на шляху ўтварэння гарадоў, прыводзілі да таго, што ў шэрагу выпадкаў працягвала захоўвацца такое ненармальнае становішча, калі цэнтрам уезда прызнавалася паселішча, якое па сваім гаспадарчым, грамадскім і культурным абліччы моцна адставала ад буйных населеных пунктаў, што знаходзіліся ў яго ўездзе, але не залічваліся да гарадоў. Найбольш яскравы прыклад для першай паловы XIX ст.: Беліца – Гомель.

***

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. функцыяніраванне мястэчак знаходзілася пад прэсінгам палітыкі царызму. Найбольш моцна на жыццё мястэчак і іх насельніцтва паўплывалі мерапрыемствы расійскага ўрада ў дачыненні да габрэяў, а менавіта высяленні іх з вёсак у гарадскія паселішчы. Гэта асноўны фактар дынамікі многіх бакоў развіцця мястэчак (дэмаграфічнага, эканамічнага, сацыяльнага, культурнага).

Значна ўскладніла развіццё мястэчак і палітыка царызму ў галіне горадаўтварэння. Запрыгоньванне мяшчан мястэчак, якія не трапілі ў лік новаствораных расійскімі ўладамі гарадоў, выклікала іх упартую барацьбу за вяртанне страчаных правоў на волю і зямлю, якой

[168] Рындзюнский, П.Г. Крестьяне и город в капиталистической России второй половины XIX в. / П.Г. Рындзюнский. М., 1983.

насычана ўся першая палова XIX ст. Мястэчкі былі выключаны з горадаўтваральных працэсаў, бо юрыдычна адмяжоўваліся ад гарадоў і не атрымлівалі законнай падставы набываць гарадскі статус. Непрызнанне царскім урадам правоў горада за паселішчамі, якія ўздымаліся да такога ўзроўню, стрымлівала тут фарміраванне гарадского абывацельства і пашырэнне культурна-асветніцкіх асяродкаў. Мястэчкі не сталі падмуркам для пашырэння сеткі беларускіх гарадоў у перыяд фарміравання рынкавых адносін. Губляўся патэнцыял горадаўтварэння, які закладваўся на працягу стагоддзяў[169].

## 2.4. Сацыяльна-эканамічныя фактары развіцця мястэчак

Не выклікае сумнення, што функцыяніраванне мястэчак у канцы XVIII – першай палове XIX ст. залежала ад агульнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краі, характарыстыку якой зробім праз аналіз асноўных тэндэнцый развіцця эканомікі.

Новая дзяржаўная прыналежнасць Беларусі азначала і новыя ўмовы для эканамічнага развіцця.

Нягледзячы на тое што дзяржавы, якія падзялілі Рэч Паспалітую, прынялі на сябе абавязак не перашкаджаць эканамічным сувязям яе былых зямель, што было пацверджана і рашэннямі Венскага кангрэса, на справе гэта не выконвалася. Больш за тое, частка Рэчы Паспалітай, якая ў выніку дасталася Расійскай імперыі, была яшчэ раз падзелена: Каралеўства Польскае атрымала асобны статус і мытную мяжу, якая праіснавала з 1822 па 1850 г., што было бар’ерам і значна ўскладняла эканамічныя сувязі беларуска-літоўска-ўкраінскага рэгіёна і цэнтральнай часткі былой Рэчы Паспалітай[170].

Беларусь паступова станавілася часткай агульнарасійскага рынку. Вялося інтэнсіўнае будаўніцтва і рэканструяванне водных і сухапутных шляхоў зносін. Будаваліся новыя сродкі зносін – параходы. Развівалася паштовая і тэлеграфная сувязь. Увядзенне адзіных мер даўжыні і вагі, абарона правоў вытворцаў шляхам дзяржаўнага зацвярджэння прамысловых клеймаў паклалі пачатак стандартызацыі – неад’емнай рысы індустрыяльнага грамадства.

---

[169] Шыбека, З.В. Гарады Беларусі... С. 45, 57.

[170] Киштымов, А.Л. Экономическое наследие Речи Посполитой в народном хозяйстве Беларуси / А.Л. Киштымов // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы: Міжнародная навук. канф. (2006, Гомель) / рэдкал.: Р.Р. Лазько (адк. рэд.) і інш. Гомель, 2006. С. 27–33.

Аднак, калі на пачатку XIX ст. у вядучых краінах Еўропы адбываўся пераход да індустрыяльнай цывілізацыі, у Расійскай імперыі па-ранейшаму панавала феадальна-прыгонніцкая сістэма. Для канца XVIII – першай паловы XIX ст. характэрны ўстойлівае пanаванне памешчыцкага землеўладання ў беларускіх губернях і вядучая эканамічная роля памешчыцкіх гаспадарак у аграрным сектары гаспадаркі Беларусі.

Галоўнай галіной эканомікі на беларускіх землях з'яўлялася сельская гаспадарка, аснову якой складала ворыўнае земляробства, што вялося на аснове прыгонніцтва з выкарыстаннем *трохпольнай* сістэмы і пераважна прымітыўных прылад працы. Ад эканамічных рэформ, якія праводзіліся на землях Беларусі ў другой палове XVIII ст. і былі накіраваны на інтэнсіфікацыю сельскагаспадарчай вытворчасці пры паслабленні павіннаснага ціску сялян, засталіся адныя ўспаміны.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. на гаспадарчае развіццё маёнткаў беларускіх памешчыкаў вызначальны ўплыў аказала кан'юнктура цэн на збожжа ў Заходняй Еўропе. Хуткае развіццё капіталізму ў эканоміцы Еўропы суправаджалася ростам колькасці насельніцтва і адпаведна павелічэннем попыту і росту цэн на збожжа. Гэтая сітуацыя была выкарыстана беларускімі памешчыкамі. З мэтай павелічэння аб'ёмаў продажу зерня за мяжу пашыраліся плошчы панскага заворвання за кошт сялянскіх надзелаў і сенажацей, але гэта прывяло да скарачэння колькасці жывёлы і адпаведна пагаршэння ўгнаення глебы.

У сувязі з рыначнымі патрабаваннямі ў першай палове XIX ст. адбываецца *спецыялізацыя* сельскай гаспадаркі асобных рэгіёнаў Беларусі: у Віцебскай, а таксама паўночных паветах Мінскай і Магілёўскай губерняў развівалася льнаводства; у цэнтральных і паўднёвых частках Мінскай і Магілёўскай губерняў – вырошчванне канопель і вытворчасць пянькі; у Гродзенскай губерні перавага аддавалася танкаруннай авечкагадоўлі. Ва ўсіх губернях была развіта вытворчасць збожжавых культур, з канца 1830-х гг. пачалі вырошчвацца цукровыя буракі. У Беларусі з'явіліся прадпрымальніцкія гаспадаркі, якія былі арыентаваны не толькі на вырошчванне сельскагаспадарчай сыравіны, але і на яе перапрацоўку. Шырока развівалася вінакурэнне.

Аднак адзінкавыя факты прымянення памешчыкамі ў сваіх маёнтках лепшай тэхнікі, наёмнай працы і шматпольных севазваротаў не маглі прывесці да істотных змен у арганізацыі сельскагаспадарчай

вытворчасці. Эканамічнае развіццё ў першай палове XIX ст. яскрава сведчыла, што спалучэнне прыгоннай працы з патрабаваннямі ўнутранага і знешняга рынку магло прынесці толькі часовыя прыбыткі. З цягам часу станавілася відавочным адначасовае збядненне як панскай, так і сялянскай гаспадарак. Гэта адбывалася з прычыны таго, што працаваць на ўласным надзеле пры паншчыне 12 дзён у тыдзень (6 мужчынскіх і 6 жаночых) у сялян не было часу, а праца на панскім ворыве была прымусовай і не выклікала ў селяніна зацікаўленасці ў яе выніках. Такім чынам, эканамічныя магчымасці феадальна-прыгонніцкай сістэмы былі вычарпаны, а формы яе арганізацыі і спосабы вядзення гаспадаркі не маглі канкурыраваць з капіталістычным спосабам вытворчасці.

Ва ўмовах крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы ўрад Мікалая I вымушаны быў шукаць выйсце з існуючага становішча. У 1837–1841 гг. у дзяржаўных уладаннях Беларусі былі праведзены мерапрыемствы, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай *рэформы Кісялёва*. Граф Павел Кісялёў быў міністрам дзяржаўных маёмасцей, і распрацаваная ім рэформа тычылася толькі дзяржаўных сялян, якія складалі пятую частку ўсяго сельскага насельніцтва Беларусі. Рэформа П. Кісялёва ў многім была падобнай на рэформу Антонія Тызенгаўза ў каралеўскіх сталовых эканоміях ВКЛ: тая ж мэта – павелічэнне даходаў скарбу, люстрацыя дзяржаўнай маёмасці, спыненне здачы дзяржаўных зямель у арэнду і ўвядзенне кіравання імі дзяржаўнай адміністрацыяй пры адначасовым павелічэнні ролі сялянскай абшчыны, удасканаленне форм і метадаў вядзення сельскай гаспадаркі – усё гэта мела месца ў дзяржаўных уладаннях на землях ВКЛ у другой палове XVIII ст. Але ў рэформах мелася адно вельмі значнае адрозненне: калі А. Тызенгаўз для павелічэння прыбыткаў скарбу аднавіў у эканоміях фальваркі і паншчыну, то ліквідацыя фальваркаў П. Кісялёвым і перавод сялян на чынш з'явіліся яскравым сведчаннем разумення міністрам дзяржаўных маёмасцей вычарпанасці магчымасцей феадальна-прыгонніцкай сістэмы і немагчымасці прагрэсіўнага развіцця сельскай гаспадаркі пры захаванні прымусовай працы асноўнага вытворцы. Калі ў другой палове XVIII ст. сяляне не прынялі рэформу А. Тызенгаўза і адказалі на яе масавымі ўцёкамі з каралеўскіх эканомій, то рэформа П. Кісялёва не выклікала сялянскіх пратэстаў, а, наадварот, прывяла да пэўнага павелічэння надзелаў дзяржаўных сялян (у беларускіх губернях у сярэднім на 45%), памяншэння іх павіннасцей (у сярэднім на 56%),

прадстаўлення сялянам пэўнай эканамічнай свабоды, што тым не менш спрыяла павелічэнню ўраджайнасці і дзяржаўных даходаў[171].

Становішча насельніцтва ў прыватнаўласніцкіх маёнтках таксама выклікала занепакоенасць улад. Рэформа П. Кісялёва не стала прыкладам для памешчыкаў. Кансерватыўныя памешчыкі працягвалі весці гаспадарку старым “дзедаўскім” спосабам і нічога не хацелі мяняць. У 40-я гг. XIX ст. Мікалай I некалькі разоў ствараў сакрэтныя камітэты з мэтай распрацоўкі мерапрыемстваў па сялянскім пытанні, але, баючыся страціць падтрымку дваранства, на рашучыя меры, якія б закраналі асновы феадальна-прыгонніцкай сістэмы, цар не ішоў.

Становішча сялян у прыватнаўласніцкіх маёнтках было вельмі цяжкім: вялікі памер паншчыны пры ўстанаўленні так званых *урокаў* – норм дзённага вырабатку, вялікія дадатковыя павіннасці (будаўніцтва ў панскім фальварку, дарожныя работы, вартавыя абавязкі), *згоны* – прыцягненне сялян да тэрміновых сельскагаспадарчых работ, акрамя паншчыны, праца сялян у падрадчыкаў на кантрактных умовах на сплаўных і будаўнічых работах і інш. Сяляне часта не ведалі дакладна ўсіх сваіх павіннасцей і выконвалі іх па загадзе ўласніка. Усё гэта выклікала сацыяльныя пратэсты сялян, якія праяўляліся, у першую чаргу, у масавых уцёках з маёнткаў.

З мэтай рэгулявання адносін паміж памешчыкамі і сялянамі і зняцця сацыяльнай напружанасці ў прыватнаўласніцкай вёсцы П. Кісялёў у 1840 г. прапанаваў увесці на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны абавязковыя *інвентары*, у якіх былі б зафіксаваны памеры сялянскіх надзелаў і вызначаны дакладныя нормы павіннасцей. Нягледзячы на тое што прапанаванае мерапрыемства, якое стала вядома як *інвентарная рэформа*, не закранала асноў феадальна-прыгонніцкай сістэмы, яно выклікала рэзкае непрыняцце з боку памешчыкаў. Складанне інвентароў, якое было ініцыявана дзяржавай, прыватныя ўласнікі расцанілі як умяшальніцтва ўрада ў іх асабістыя справы і наступленне на іх правы. Інвентарная рэформа ў памешчыцкай вёсцы правалілася, а крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы паглыбляўся.

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. аснову прамысловасці Беларусі складала рамесная і мануфактурная вытворчасць. Най-

---

171 Кітурка, І.Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII–XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця / І.Ф. Кітурка / пад рэд. В.Ф. Голубева. Гродна, 2003. С. 98–118; Кітурка, І.Ф. Гісторыя Беларусі: дапаможнік / І.Ф. Кітурка. Гродна, 2007. С. 118–123.

большыя эканамічныя поспехі былі дасягнуты ў сферы дваранскага прадпрымальніцтва. Значную ролю адыгрывала *вотчынная прамысловасць* памешчыкаў. Як правіла, вотчынныя мануфактуры перапрацоўвалі мясцовую сыравіну і былі заснаваны на бясплатнай працы прыгонных сялян.

У першай чвэрці XIX ст. новыя прадпрыемствы адкрывалі буйныя землеўласнікі, галоўным чынам расійскага паходжання. Намаганні дваран-прадпрымальнікаў гэтага часу нагадвалі рэформы А. Тызенгаўза ў апошнія гады Рэчы Паспалітай. Яны ўяўлялі сабой кангламераты розных мануфактур, арыентаваліся на патрэбы дзяржавы і вышэйшых колаў грамадства. Іх існаванне, як правіла, было не больш працяглым, чым жыццё іх уладальнікаў.

Другі перыяд дваранскага прадпрымальніцтва пачаўся з 1820-х гг. У ім актыўна ўдзельнічалі сярэднія і дробныя землеўладальнікі, шляхта мясцовага паходжання. Гэты перыяд характарызаваўся спецыялізацыяй вытворчасці, узнікненнем новых галін прамысловасці, укараненнем удасканаленага абсталявання і паравых машын, спалучэннем мануфактуры і фабрычных форм арганізацыі вытворчасці, цеснай сувяззю не толькі са знешнім, але і з унутраным гандлем.

Далейшае пашырэнне вытворчасці патрабавала новай энергетыкі, а ўдасканаленне тэхналогіі – непарыўнасці вытворчага працэсу. Прыйшоў час прамысловага перавароту, які сведчыў аб якасна новай ступені ў эвалюцыі эканомікі. Памешчыкі з'яўляліся галоўнымі ўласнікамі капіталу, і менавіта ў іх уладаннях былі заснаваны першыя на землях Беларусі прадпрыемствы фабрычнага тыпу: у 20-я гг. XIX ст. памешчык Пуслоўскі пабудаваў у мястэчках Хомск (Кобрынскі ўезд) і Косава (Слонімскі ўезд) дзве суконныя фабрыкі, на якіх выкарыстоўваліся паравыя рухавікі. Такім чынам, прыгонніцкая сельская гаспадарка спалучалася з арганізацыйна-тэхнічнымі формамі перадавой капіталістычнай індустрыі. Паводле вобразнага выказвання М. Улашчыка, маёнткі Пуслоўскіх уяўлялі сабой своеасаблівы камбінат, дзе сыравіна перараблялася ў розную прамысловую прадукцыю, якая мела шырокі рынак збыту[172].

Другарадную ролю ў агульным развіцці прамысловасці адыгрывалі эканамічныя намаганні купцоў і мяшчан. За адзінкавымі выключэннямі ім належалі дробныя і сярэднія прадпрыемствы. У той жа час у дарэформеннай Беларусі паступова ішоў працэс накаплення купецка-мяшчанскага капіталу. У гарадах і мястэчках

[172] Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы… С. 273–274.

былі распаўсюджаны пераважна рамесныя майстэрні, але змены ў іх арганізацыі сведчылі аб пачатку фарміравання капіталістычных адносін: былі ліквідаваны самастойнасць і замкнутасць цэхаў, узрасла колькасць рамесных спецыяльнасцей. Пры гэтым гарадская прамысловасць на пачатку XIX ст. не магла канкурыраваць з вотчыннай, паколькі выдаткі на яе арганізацыю былі значна большымі з-за неабходнасці аплочваць зямельныя ўчасткі, закупку сыравіны і працу наёмных рабочых. Існавала і яшчэ адна перашкода на шляху эфектыўнага развіцця гарадской прамысловасці — наяўнасць феадальна-прыгонніцкай сістэмы рабіла немагчымым стварэнне рынку свабоднай рабочай сілы.

Такім чынам, прамысловасць Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. была прадстаўлена прадпрыемствамі розных тыпаў (рамесныя майстэрні, мануфактуры, фабрыкі) і памераў (буйныя, сярэднія, дробныя), якія належалі прадстаўнікам розных саслоўяў (дваранам, купцам, мяшчанам). Розныя формы арганізацыі вытворчасці не супрацьстаялі адна адной, а мірна суіснавалі, займаючы сваю эканамічную нішу.

У другой чвэрці XIX ст. на тэрыторыі Беларусі назіраўся рост гарадоў і колькасці гарадскога насельніцтва. Працэс урбанізацыі ў гэты час быў звязаны не з развіццём прамысловасці і гандлю, а ў першую чаргу з існаваннем "мяжы габрэйскай аседласці" і перасяленнем габрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі, прычым колькасць апошніх у першай палове XIX ст. значна павялічылася, што было паказана ў папярэднім падраздзеле. Важнейшы паказчык урбанізацыйных працэсаў – рост гарадскога насельніцтва і ўдзельнай вагі гараджан сярод усяго насельніцтва (ступень урбанізацыі). З 1796 па 1861 г. насельніцтва 42 гарадоў Беларусі павялічылася з 79,1 тыс. да 319,9 тыс. чалавек (у 4 разы). Ступень урбанізацыі ў Беларусі змянілася наступным чынам: 1796 г. – 3,5%, 1861 г. – 10%[173].

Аднак рост гарадскога насельніцтва ў гэты час быў пераважна вынікам сістэмы абмежавальных законаў адносна габрэяў. У параўнанні з эпохай развітога феадалізму сярод стымулаў, якія абумоўлівалі эканамічнае развіццё гарадскіх паселішчаў у канцы XVIII – першай палове XIX ст., істотных змен не адбылося. Тым больш шэраг значных беларускіх гарадскіх паселішчаў, згубіўшы свой ранейшы ваяводскі статус – Полацк, Мсціслаўль ці статус магнацкіх сталіц – Нясвіж, Дзярэчын, Ружаны і так і не атрымаўшы

---

[173] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов... С. 32.

эканамічных стымулаў для свайго развіцця, пазбавіліся для свайго росту і адміністрацыйнай падтрымкі.

Прыватнаўласніцкі статус шэрага гарадоў, як правіла, таксама стрымліваў развіццё урбанізацыі ў беларускіх губернях. Спробы прыватных ўладальнікаў, у асноўным новых, з вышэйшых колаў расійскага дваранства, наладзіць эканамічнае жыццё падуладных гарадскіх пунктаў мелі частковы поспех (Крычаў, Чачэрск, Шклоў). Не падмацаваныя эканамічнымі рэаліямі спробы стварэння так званых “ідэальных” гарадскіх паселішчаў не мелі поспеху як у часы Рэчы Паспалітай (Гарадніца ў наваколлі Гродна і перабудова Паставаў А. Тызенгаўзам), так і пры Расійскай імперыі (перапланіроўка і новая забудова Чачэрска З. Чарнышовым). Нягледзячы на ўкладзеныя ў гэтыя праекты значныя сродкі, буйнымі цэнтрамі названыя населеныя пункты так і не сталі. Выключэннем з’яўляўся толькі Гомель, які непазнавальна быў пераўтвораны пры графе Мікалаі Румянцаве[174], а пазней, у другой палове XIX ст., атрымаў новыя імпульсы для свайго эканамічнага развіцця ў выніку чыгуначнага будаўніцтва, развіцця прамысловасці, крэдыту, гандлю.

Урбанізацыя, такім чынам, не стала адной з асноўных рыс развіцця грамадства, гарадскі рынак абслугоўваў у асноўным толькі гарадскія патрэбы, гарадская эканоміка не прэтэндавала на вядучае месца ў эканамічным жыцці Беларусі.

Развіццё гандлёвых адносін у канцы XVIII – першай палове XIX ст. характарызавалася нарастаннем стагнацыі сярэдневяковых форм гандлю, яго спецыялізацыяй і з’яўленнем новага тыпу ўдзельнікаў рынку, больш цесна звязаных з вытворчасцю. Гэта сведчыла аб заняпадзе натуральнай феадальнай гаспадаркі і развіцці капіталістычнага рынку.

Важную ролю ў пашырэнні гандлю працягвалі адыгрываць кірмашы, якія праводзіліся ў час рэлігійных свят. У Беларусі дзейнічала каля 270 кірмашоў. Каляндар кірмашовага гандлю ў параўнанні з папярэдняй эпохай не змяніўся. Спіс кірмашоў толькі дапаўняўся, ні адзін з іх не быў ліквідаваны ў адміністрацыйным парадку. Але з цягам часу павялічвалася роля стацыянарнага гандлю ў крамах гарадоў і мястэчак.

Захоўваліся і старыя вектары гандлёвай дзейнасці – па Заходняй Дзвіне на Рыгу, Нёману – на Кёнігсберг і Мемель, Заходняму Бугу –

[174] Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П. Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 20–27.

на Варшаву і Гданьск. Дапоўніў іх новы, украінскі вектар беларускага гандлю, які атрымаў значнае развіццё[175].

***

Феадальна-прыгонніцкая сістэма і палітыка расійскіх улад адносна гарадоў і мястэчак тармазілі і дэфармавалі урбанізацыйныя працэсы. У той жа час адной з галоўных тэндэнцый сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. з'яўлялася станаўленне капіталістычнага ўкладу ў нетрах феадалізму. Да Вялікіх рэформ 1860–1870-х гг. Беларусь можна акрэсліць як аграрнае грамадства з элементамі гандлёвага капіталізму. Да сярэдзіны XIX ст. практычна склаўся ўвесь "будаўнічы набор" для станаўлення індустрыяльнага грамадства. Праўда, розныя яго элементы іcнавалі хутчэй як патэнцыял, не выявіўшы ў поўнай меры свае магчымасці[176].

Развіццё капіталістычных адносін у Беларусі мела свае характэрныя рысы і нацыянальныя асаблівасці. Беларуская "мадэль" генезісу капіталізму рэалізавалася ва ўмовах адсутнасці ўласнай нацыянальнай дзяржавы і адпаведна ўласнай дзяржаўнай эканамічнай ініцыятыве. Затое ў Беларусі нараджалася новая сацыяльная катэгорыя – прадпрымальнікі – носьбіты прыватнай эканамічнай ініцыятывы, ключавыя постаці ў поспехах беларускай эканомікі. Эканамічныя рычагі кіравання краем дастаткова ўпэўнена трымалі ў сваіх руках мясцовыя прадпрымальнікі, што дазваляе рабіць выснову аб самадастатковасці развіцця беларускай эканомікі. Тэзіс аб Беларусі як "адсталай ускраіне" Расійскай імперыі безнадзейна састарэў. Насуперак стараням расійскіх улад поўнай "імперыялізацыі" Беларусі, як палітычнай, так і эканамічнай, не адбылося[177].

Гарады і гарадская эканоміка ў працэсе зараджэння капіталізму ў Беларусі выконвалі дапаможную ролю. Зыходнай базай для развіцця эканомікі, як і раней, з'яўлялася сельская гаспадарка і вёска. Горад абслугоўваў аграрны сектар, а не наадварот. Менавіта ў сельскай мясцовасці былі сканцэнтраваны эканамічная ініцыятыва,

---

[175] Киштымов, А.Л. Украинский вектор белорусской экономики (конец XVIII – начало XX в). / А.Л. Киштымов // Беларусь – Украіна: гістарычны вопыт узаемаадносін: Матэрыялы міжнар. навук. канф. (Мінск, 18–19 сакавіка 2003 г.). (Мінск): Інстытут гісторыі НАНБ, 2004. С. 176–182.

[176] Киштымов, А. Экономическая эволюция Беларуси в составе Российской империи: характеристика, тенденции, итоги / А. Киштымов // Наш Радавод. Кн. 8. Гродна, 1999. С. 250.

[177] Там жа С. 254.

асноўныя фінансавыя, сыравінныя і працоўныя рэсурсы. Пераважна па-за гарадамі (у мястэчках) разгортвалася і атрыманая ў спадчыну ад феадалізму гандлёвая дзейнасць у форме перыядычнага кірмашовага гандлю[178]. І не выпадкова. Мястэчкі найлепшым чынам адпавядалі аграрным запатрабаванням краю. Таму іх рост на глебе некаторага прагрэсу памешчыцкай гаспадаркі меў натуральны, эканамічны характар, а не толькі гвалтоўны, пазаэканамічны.

У цэлым можна з упэўненасцю сцвярджаць, што пасля далучэння да Расіі беларускія мястэчкі не мелі спрыяльных умоў для свайго развіцця. Царская палітыка ў дачыненні да мястэчак і яго насельніцтва супярэчыла запатрабаванням мясцовай эканомікі, тармазіла горадаўтваральныя працэсы на аснове мястэчак. Аднак у разглядаемы перыяд гэтыя унікальныя паселішчы нашага краю, нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасці, дэманстравалі сваю незвычайную жыццяздольнасць. Некаторае ажыўленне гарадскога жыцця ў мястэчках сведчыла аб пачатку трансфармацыі старой мадэлі эканомікі. Пачалася паступовая змена прыярытэтаў эканамічнага развіцця на карысць горада. Мястэчкі здолелі заняць сваю нішу ў эканоміцы краю і адыграць важную ролю ў мацаванні базы для індустрыялізацыі і урбанізацыі Беларусі, захаванні яе эканамічнай самадастатковасці. Не менш значнай была і роля мястэчак у культурным развіцці беларускага краю.

[178] Кіштымаў, А. Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль / А. Кіштымаў // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.). Мінск., 2005. С. 128.

# 3. Эканамічнае развіццё мястэчак

## 3.1. Транспарт

Мястэчкі выступалі важнымі камунікацыйнымі вузламі Беларусі. Многія з іх дзеля гэтага і былі заснаваны. Патрэбы, звязаныя з абслугоўваннем камунікацыйных шляхоў, а менавіта прадстаўленне начлегу, пракорму, рамонт вазоў, збруі і г.д., з'яўляліся фактарам, які спрыяў станаўленню шэрага мястэчак. Пры ўтварэнні мястэчак гэтай групы ў прывілеях выразна акрэсліваліся абавязкі жыхароў: догляд за дарогамі, будаўніцтва корчмаў і пастаялых двароў. Так, у рэвізорскім лісце на заснаванне м. Саколка на месцы аднайменнай вёскі, якая стаяла на шляху Гродна – Кнышын, акрамя арганізацыі гандлю жыхарам загадвалася будаваць заезныя дамы[1].

На важнейшых сухапутных шляхах, на скрыжаваннях, каля пераправаў і прыстаней размяшчаліся такія мястэчкі, як Мілейчыцы, Барань, Старобін, Нача, Стары і Новы Свержань, Стоўбцы, Свіслач, Петрыкаў, Лоеў, Зембін, Радашковічы, Маладзечна, Валожын і многія іншыя. Некаторыя з гэтага спісу з'яўляліся буйнымі транспартнымі вузламі. Напрыклад, такое значэнне Лоева вызначалася яго размяшчэннем у месцы ўпадзення р. Сож у Днепр, мястэчка мела буйную прыстань і пераправу праз Днепр, тут з правага на левы бераг Днядра пераходзіла паштовая дарога з Чарнігава ў Рагачоў. Суднаходства па вярхоўях Нёмана засяроджвалася на прыстані ў Стоўбцах, да якой гужавым транспартам падвозіліся тавары не толькі з Мінскай, але і Віленскай, Магілёўскай і Чарнігаўскай губерняў.

Роля сухапутных і водных шляхоў зносін у развіцці мястэчак Беларусі, бясспрэчна, была важнай. А мястэчкі і іх жыхары, у сваю чаргу, дапамагалі ў іх функцыяніраванні. Пакажам гэта на канкрэтных прыкладах.

Здаўна ролю галоўных камунікацыйных шляхоў адыгрывалі ***водныя*** артэрыі. У разглядаемы перыяд яны захавалі сваю важнейшую

---

[1] Гуркоў, У.С. Мястэчка / У.С. Гуркоў // Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя. Мінск, 1989. С. 332.

ролю ў развіцці гандлю. Вялося інтэнсіўнае будаўніцтва і рэканструяванне водных шляхоў зносін, што было працягам эканамічных ініцыятыў апошніх дзесяцігоддзяў існавання Рэчы Паспалітай. З 1799 г. пачаліся работы па рэканструкцыі Агінскага канала, у 1804 г. рух па ім аднавіўся. У 1805 г. пачаў працаваць Бярэзінскі канал. Была праведзена рэканструкцыя Каралеўскага ці Вялікага Пінскага канала, які з 1846 г. стаў называцца Днепра-Бугскім. У 1839 г. пачалася навігацыя па Аўгустоўскім канале. У выніку ў першай палове XIX ст. амаль усе буйныя рэкі Беларусі былі злучаныя штучнымі воднымі шляхамі. К пачатку 1860-х гг. даўжыня суднаходных шляхоў па пяці беларускіх губернях складала каля 4 тыс. км, а сплаўных – прыкладна ўдвая больш[2]. Грузаабарот водных шляхоў Беларусі узрастаў да сярэдзіны XIX ст. – пачатку шырокага чыгуначнага будаўніцтва.

Асабліва вылучалася сваімі воднымі шляхамі зносін Гродзенская губерня. Рэкі, якія працякалі па яе тэрыторыі, належалі тром рачным сістэмам: Нёманскай, Буга-Нараўскай, Прыпяцкай; першыя дзве сістэмы з іх прытокамі належалі Балтыйскаму басейну, апошняя – Чарнаморскаму. Усяго на тэрыторыі Гродзенскай губерні налічвалася 15 суднаходных (Нёман, Шчара, Буг, Мухавец і інш.) і 14 сплаўных рэк (Котра, Свіслач, Рось, Грыда, Іса, Рыта, Ясельда і інш.), праходзілі тры буйнейшыя водныя каналы (Днепра-Бугскі, Агінскі і Аўгустоўскі).

Сярод рэк Гродзенскай губерні Нёман вылучаўся рэгулярнай навігацыяй і выхадам у іншыя рачныя сістэмы. Даўжыня яго складала 1400 *вёрст*[3], непасрэдна па Гродзенскай губерні – 200 вёрст. Нёман з’яўляўся як суднаходнай, так і сплаўной ракой, галоўным гандлёвым вузлом губерні дзякуючы сваім шматлікім прытокам. Правыя і левыя прытокі Нёмана ўцягвалі ў гандлёвыя адносіны многія мястэчкі Гродзенскай губерні. Напрыклад, р. Зэльвянка (Зэльва) стала сплаўной для мястэчак Зэльва і Ружаны. У 1822 г. па ёй сплаўлялі лес на суму 41 846 руб. серабром[4].

У Гродзенскай губерні на Нёмане, Шчары, Заходнім Бугу і Мухаўцы было каля 30 прыстаней. Многія з іх размяшчаліся ў мястэчках: Мастоўская, Зэльвенская, Лунненская, Быценская, Сялецкая, Камя-

[2] Кіштымаў, А. Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль / А. Кіштымаў // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.). Мінск, 2005. С. 126.

[3] *Вярста* – даўняя адзінка вымярэння даўжыні (адлегласці) у сістэме мер ВКЛ, раўнялася прыблізна 1555 м; у XIX ст. ужывалася руская вярста, роўная 500 сажаням (213,36 м х 500 = 1066,8 м).

[4] Статистические сведения о Гродненской губернии. Гродно, 1905. С. 16.

нецкая, Уладаўская і інш. Буйнейшай была прыстань у Мастах. Тут, напрыклад, у 1857 г. былі загружаны і адпраўлены 53 судны, 201 плыт, на іх лоцманаў – 49, суднарабочых – 2154, сума грузу склала 219 312 руб.[5]

У Мінскай губерні на Бярэзіне, Нёмане, Прыпяці, Ясельдзе, Піне, Дняпры налічвалася каля 20 прыстаней, да буйнейшых адносіліся прыстані ў мястэчках Стоўбцы, Новы Свержань, Лоеў. У. Сыракомля пісаў, што "Свержань – гэта пункт, ад якога суднаходны Нёман пачынае несці на сваіх крутых хвалях літоўскія віціны, нагружаныя неапрацаванымі набыткамі нашай зямлі"[6]. На гэта ўказваў і П. Шпілеўскі: "Сверженъ считается складочным местом для товаров, пригоняемых сюда по Неману и Свислочи и отправляемых потом в Кролевец; в Сверженъ сплавливают из Белоруссии мачтовый и строевой лес, а из Полесья и польских губерний свозят щетину, пеньку, лён и шерсть"[7].

Па значнасці вылучалася Стоўбцаўская прыстань на р. Нёман. Тут меліся свірны і крамы для захоўвання тавараў. Адсюль сухапутным шляхам развозілі іх па Навагрудскім, Слуцкім, Мінскім, Бабруйскім і Барысаўскім уездам, па рацэ груз ішоў у м. Юрбург Віленскай губерні, а затым у Крулявец (Кёнігсберг). Напрыклад, у 1813 г. з прыстані ў Стоўбцах было адпраўлена ў Крулявец 32 віціны, 12 барак, 13 лодак і 161 плыт; у 1823 г. – 22 судны і 648 плытоў[8]. Вось як апісаў прыстань у Стоўбцах сярэдзіны XIX ст. (1853 г.) У. Сыракомля: "На мутным Нёмане стаяць віціны, пры якіх снуюць рабочыя альбо плытагоны – гэта, калі ехаць тут зімовай ці вясновай парою. Летам тут пуста і глуха. Але зімой і пад вясну, калі саннай дарогай лёгка перавозіць тавары, для адпраўкі ў Крулявец – што тут галасу, што людзей, што фур з усіх канцоў краіны і з усялякім таварам! Сустрэнеш тут і нашага селяніна са Случчыны і з Наваградчыны са збажыною, і палешука з адзінай, характэрнай для яго краю прадукцыяй – дзяругамі, і валыняніна з прыправамі, і беларуса з ільном ці пянькой, велікаруса з алеем. Усё гэта тутэйшыя віціны павінны забраць і завезці на спажытак немцам. А што мы будзем мець ад іх узамен? Некалькі сотняў

5 Бобровский, П. Материалы для географии и статистики Российской империи. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч. 1. СПб., 1863. С. 280.

6 Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах / У. Сыракомля // Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка. Мінск, 1993. С. 292.

7 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992. С. 91.

8 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 1. СПб., 1864. С. 215.

бочак селядцоў, некалькі дзесяткаў бочак віна і трохі грошай"[9]. У Стоўбцах налічвалася амаль 2000 жыхароў, палова з іх летам адпраўлялася ў Крулявец: "Габрэі як купцы і іх рознай ступені і найменння камісіянеры, мяшчане, як рулявыя і сплаўшчыкі. Летам пануе тут ціша і пустэча, восенню ж і зімою – рух і голас, характэрныя для збожжавай прыстані, дзе амаль цалкам гаспадараць дзеці Ізраіля"[10].

Значэнне Стоўбцаўскай і іншых прыстаней Беларусі асабліва ўзрасло ў часы Крымскай вайны, калі чарнаморскія парты былі блакіраваны і знешні гандаль ішоў у асноўным праз заходнюю мяжу. Вось, напрыклад, як апісваў Стоўбцы А. Кіркор: "В течение одного года местечко совсем преобразовалось, явились магазины, склады; свезено множество хлеба, льна, вина и т.д. Явилось около 20 оптовых промышленников, записавшихся в 1-ую гильдию, когда перед тем не было ни одного". Падобнае адбывалася таксама ў мястэчку Новы Свержань, дзе з'явіліся "купцы и негоцианты, множество разных торговцев и промышленников, торговая деятельность кипела, с каждым днем расширяясь и усиливаясь, сотни и тысячи подвод прибывали сюда с разных сторон и здесь продавались привезенные предметы, преимущественно хлеб, вино, лен, пенька и т.д. оптовым купцам или же заключались условия с транспортными промышленниками, отправлявшими эти продукты далее по Неману"[11]. За 1853–1856 гг. на прыстанях Мінскай губерні па р. Нёман (у Стоўбцах і Новай Свержані) грузілася 168 судоў, 15 плытоў і 1285 паўплытоў з таварам на 1575 тыс. руб., а разгрузілася 282 судны з вартасцю груза 475 888 руб.[12] Пасля заканчэння вайны грузаабароты Стоўбцаўскай і Свержанскай прыстаней сталі скарачацца да свайго звычайнага аб'ёму.

Прыстань у Лоеве ў 1836 г. загрузіла і адправіла па Дняпры ў Кацярынаслаўль, Крамянчуг, Кіеў, Херсон і Пераяслаўль 30 суднаў і 37 плытоў з "гарачым віном, рознымі вырабамі, смалою, пянькою". Акрамя таго, праз Лоеўскую прыстань у гэтым годзе прайшлі 612 суднаў і 510 плытоў, загружаных у іншых месцах[13].

---

9 Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах... С. 293.

10 Там жа. С. 296.

11 Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении / под ред. П. Семенова. Т. 3: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизвед. изд. 1882 г. Минск, 1994. С. 363.

12 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России... Ч. 1. С. 218.

13 НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 545. Арк. 7 адв.

Менш значнай па грузаабаротах, але жыццёва неабходнай для свайго рэгіёна была прыстань і паромная пераправа ў Тураве[14]: "Туровская пристань была устроена на высоком берегу и благодаря этому никогда не затапливалась. Разлив рек Горынь, Лань, Случь, Ствига, Птичь, впадающих в Припять в районе Турова, простирался на много километров и напоминал море. Островками в нем виднелись деревни, неделями отрезанные от внешнего мира. Единственным средством передвижения становились лодки"[15]. Рачны транспарт звязваў Тураў з Мазыром, Пінскам, Петрыкавым. Тураўская прыстань выконвала пагрузачна-разгрузачныя, размеркавальна-складскія функцыі. Яна збірала і адпраўляла мясцовую лясную, сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю (будаўнічы лес, дзёгаць, авёс, муку, лён, мяса, скуры, спірт, яблыкі, рыбу, ганчарны посуд і інш.), а прымала і размяркоўвала тыя тавары, якія мелі попыт мясцовага спажыўца (соль, цукар, бакалею, цэглу, жалеза і інш.).

У Магілёўскай губерні на Сожы, Дняпры, Бярэзіне, Друці было каля 20 прыстаней, значнымі з'яўляліся прыстані ў мястэчках Шклоў, Ветка і Крычаў. У 1824 г. па Сожы пачаў хадзіць першы параход. Адбылося гэта дзякуючы падтрымцы графам М. Румянцавым прапановы механіка Гомельскай эканоміі англічаніна Адама Сміта аб будаўніцтве паравой лесапільні і парахода. Усяго ў дарэформенны перыяд па рэках плавала 20 паравых суднаў[16].

У Віцебскай губерні на Заходняй Дзвіне было 14 прыстаней. Буйныя прыстані існавалі ў мястэчках Ула, Чашнікі, Бешанковічы. Па апісанні М. Без-Карніловіча, вясною на прыстані ў Бешанковічах спыняліся баркі, лодкі і плыты, якія плылі з гарадоў Белы, Парэчча, Віцебск у Рыгу, наймалі рабочых, лоцманаў, назапашваліся харчамі[17].

Абслугоўванне жыхарамі мястэчак сплаву – з'ява, распаўсюджаная ў той час. У "Ваенна-статыстычным апісанні Віцебскай губерні" за 1852 г. указвалася, што многія жыхары мястэчак Чашнікі, Бачэйкава і Бешанковічы адпраўляліся ў Смаленскую губерню ў гарады Белы і Парэчча "наниматься в лоцманы для провода барок с грузом по Двине через пороги, находящиеся за местечком Краславлем в г. Якобштадте. Со всех 3-х местечек собирается лоцманов и работни-

---

14 *Малюнак 4.*

15 Смиловицкий, Л. Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья / Л. Смиловицкий. Иерусалим, 2008. С. 137.

16 Кіштымаў, А. Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль... С. 123, 127.

17 Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии / М.О. Без-Корнилович. СПб., 1855. Справочное издание факсимильного типа. Минск, 1995. С. 115.

ков до 400. За провод барки с ценным товаром из г. Белого в Ригу лоцману платят от 40 до 50 руб. сер., а из Бешенкович до Риги – от 25 до 30 руб. сер. Работнику же, смотря по его силе и работе, 8, 10 и 15 руб. сер."[18]. Адыходныя промыслы местачкоўцаў, звязаныя з абслугоўваннем воднага камунікацыйнага руху, фіксуюць таксама інвентары. Так, сяляне м. Масты ў 1846 г. "нанимались на сплав на барках и плотах с платежом в месяц от 5 до 7 руб. серебром и более по опытности и способности, работали при нагрузке и выгрузке хлебов и разных купеческих товаров, при связке плотов нанимались для свозки материалов и т.п.". З гэтых крыніц местачкоўцы зараблялі штогод па 15–25 руб. серабром. Сяляне м. Скідзель займаліся сплавам хлеба па Нёману ў г. Кёнігсберг, атрымліваючы за гэта ад 10 да 12 руб. серабром за паўгода[19].

У многіх мястэчках развівалася будаўніцтва суднаў. У разглядаемы перыяд яны былі досыць разнастайнымі: віціны, баркі, паўбаркі, бярлінкі, баты, рускія лодкі, галеры, шкуны, габары і г.д. Найбольш буйнымі цэнтрамі суднабудаўніцтва ў першай палове XIX ст. з'яўляліся мястэчкі Дуброўна, Прапойск, Ветка, Лоеў, Радунь, Крычаў, Холмеч, Любеч, Камарын (у басейне Дняпра); мястэчкі Стоўбцы, Новы Свержань, Любча (у басейне Нёмана); мястэчкі Гарадзец, Целяханы, Пагост, Быцень, Тураў, Петрыкаў (на Прыпяці, на сістэмах Днепра-Бугскага і Агінскага каналаў); м. Бешанковічы (на Заходняй Дзвіне)[20]. Паводле звестак І. Зяленскага, лепшыя баркі будаваліся на Дняпры: каля Лоева, Любеча; баркі і паўбаркі выраблялі таксама жыхары Пагоста, Целяханаў, Турава і Петрыкава; м. Радунь славілася добрымі байдакамі; у Стоўбцах і Новым Свержані была наладжана вытворчасць віцінаў і батаў; м. Пясочнае ў вярхоўях Нёмана спецыялізавалася на вырабе плытоў[21].

Прыкладамі прыватнай прадпрымальніцкай ініцыятывы ў галіне суднабудаўніцтва могуць быць наступныя факты. У 1826 г. у Чашніках і Бешанковічах купец першай гільдыі Рапапорт і мешчанін Гурвіч пабудавалі па 4 баркі "наёмными людьми без всякого чертежа

---

18 Белоруссия в эпоху феодализма: сборник документов и материалов: в 4 т. Т. 3. Минск, 1961. С. 493.

19 НГАБ у Гродна. Ф.96. Воп.1. Адз. зах. 201. Арк.5; Адз. зах. 239. Арк. 30; Адз. зах. 126. Арк.26.

20 Бураковская, Н.И. Промыслы и ремесла белорусов в период разложения феодализма и утверждения капитализма (конец XVIII – XIX ст.) Дис. ... канд. историч. наук / Н.И. Бураковская. Минск, 1982. С. 95.

21 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России... Ч. 1. С. 215; Ч. 2. С. 124.

из пильного помещичьего лесу” і з рознымі таварамі сплавілі іх па Дзвіне ў Рыгу[22]. Гэтае прадпрыемства аказалася прыбытковым, таму ў 1830 г. Рапапорт такім жа чынам пабудаваў 11 барак[23].

Такім чынам, мястэчкі рабілі свой унёсак у складванне такой адметнасці Беларусі перыяду перавагі рачных камунікацый, як наяўнасць значнай колькасці суднабудаўнікоў. Многія з іх працавалі не толькі на патрэбы мясцовага рачнога флоту, але і чарнаморскага. У пачатку 80-х гг. XVIII ст. у Крычаве была заснавана верф для пабудовы суднаў (байдакоў, яхт, лодак). Тут жа функцыяніравалі парусная мануфактура і некалькі значных канатных прадпрыемстваў. У 1786 г. у Крычаве было пабудавана 13 яхт, 12 грузавых суднаў, якія прызначаліся для суправаджэння Кацярыны ІІ у яе паездцы па Дняпры[24]. Толькі ў 1789 г. у Херсон з Крычава было адпраўлена парусіны, канатаў, паклі і мачтавага дрэва на суму звыш 260 000 руб.[25] Акрамя крычаўскіх мануфактур, на патрэбы чарнаморскага флоту працавалі парусныя прадпрыемствы ў м. Хоцімск, палатняныя мануфактуры ў Гомелі, Горках, Шклове.

Сістэма ***сухапутных*** шляхоў уяўляла сабою дастаткова зладжанае цэлае. К сярэдзіне XIX ст. склалася асноўная канфігурацыя дарог, якія былі атрыманы ў спадчыну ад мінулай эпохі, але зменены ў адпаведнасці з новымі стратэгічнымі і эканамічнымі ўмовамі. Па спецыяльным прызначэнні іх можна падзяліць на паштовыя, гандлёвыя, ваенныя, этапныя (для перасылкі арыштантаў); па спосабе будовы – грунтовыя, шашэйныя, чыгуначныя (з другой паловы XIX ст.). Існавалі таксама зімовыя дарогі, якія значна скарачалі адлегласць і дазвалялі перавозіць на санях цяжкія грузы[26].

У Расійскай імперыі афіцыйна дарогі падзяляліся на пяць класаў. Дарогі першага (вышэйшага) класа ўтрымліваліся за кошт дзяржавы, другога – мясцовых павіннасцей, трэцяга – мясцовых памешчыкаў. Да чацвёртага класа адносіліся мясцовыя прасёлачныя дарогі, да пятага – палявыя і лясныя. Але клас дарогі не заўсёды быў надзейным паказчыкам яе транспартных вартасцей. Дарогі другога класа маглі быць горшыя за дарогі трэцяга класа. Да памешчыцкіх маёнткаў часам вялі добраўпарадкаваныя дарогі, якія адыходзілі ў бок ад запушчаных губернскіх. Вось як апісваў Л. Патоцкі дарогі, што

---

[22] НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 720. Арк. 43.

[23] Там жа. Адз. зах. 2659. Арк. 12 адв.

[24] Жучкевич, В.А. Дороги и водные пути Белоруссии / В.А. Жучкевич. Минск, 1977. С. 45.

[25] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі (канец XVIII – першая трэць XIX ст.): Дыс. … канд. гіст. навук / М.М. Шаўчэня. Гродна, 2003. С. 88.

[26] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики… Ч.1. С. 203.

вялі да Свіслачы Вінцэнта Тышкевіча: "Хто добра натросся і не раз выкуліўся на самых горшых дарогах у нашым краі, хто пазнаёміўся з мясцінамі, дзе развальваюцца дамы, якія так мала розняцца ад мужыцкіх халупаў (...) той будзе вельмі здзіўлены, апынуўшыся на Свіслацкай зямлі. А едучы па роўным гасцінцы, абсаджаным дрэвамі, забяспечаным бар'ерамі, і ўязджаючы ў акуратна і прыгожа збудаваны горад, які ўтрымліваюць чыста і ахайна, забудзе на хвіліну, дзе знаходзіцца, і перанясецца ў думках на берагі Эльбы альбо Рэйна ..."[27]

Паралельна з афіцыйным падзелам дарог на класы складваліся і народныя вызначэнні рознага тыпу дарог: тракт, шлях, шаша, гасцінец і інш. Некаторыя дарогі традыцыйна называліся па імёнах манарха эпохі, падчас якой дарога будавалася: Кацярынінскі тракт, Аляксандраўскі шлях. Бывала, што ў назве адзначаўся напрамак, горад ці мястэчка, да якога вяла дарога: Свержанскі бальшак, Даўгінаўскі тракт, Ракаўскі тракт і г.д.[28]

Асноўную ролю ва ўнутраных гандлёвых зносінах адыгрывалі паштовыя дарогі, будаўніцтва якіх пачалося ў канцы XVIII ст. Ініцыятарам працягу мадэрнізацыі інфраструктуры краю, якая бярэ пачатак з 1764–1766 гг., з часоў рэфармавання Рэчы Паспалітай, быў беларускі генерал-губернатар граф Захар Чарнышоў. У 1773–1780 гг. была здзейснена пракладка сістэмы прамалінейных шырокіх дарог, з бярозамі паабапал (па 2 тыс. дрэваў на кожную вярсту), празваных "алеямі", пра якія Кацярына II пры наведванні Беларусі адзначыла: "Вашыя дарогі, як сады!" Адначасова ажыццяўлялася будаўніцтва паштовых (пераважна мураваных), а таксама станцыйных гасціных дамоў (як правіла, драўляных). Да 1784 г. у беларускіх губернях былі ўзведзены 94 драўляныя комплексы[29]. Паводле апісання М. Без-Карніловіча: "На новопроложенных дорогах построены деревянные почтовые станции, чрез реки поделаны мосты; чрез болота насыпаны плотины, гати; все дороги по бокам обсажены в два ряда березами составившими впоследствии прекрасную, густую, длинную, зеленую аллею поныне существующую"[30]. Прыкладам можа служыць выява Кацярынінскага тракту ў раёне *Рэчыца – Лоеў*[31], аднесенага

[27] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі. Мінск, 1997. С. 24–8.

[28] Жучкевич, В.А. Дороги и водные пути Белоруссии... С. 68–69.

[29] Слюнькова, И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII – середины XIX в. / И.Н. Слюнькова. Минск, 1992. С. 96.

[30] Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах... С. 266–267.

[31] *Малюнак 5.*

П. Шпілеўскім да ліку "столбовых". Так у народзе называлі важнейшыя дарогі, якія мелі верставыя стаўпы і ўказальнікі напрамкаў.

Прыклад комплекснага дарожнага будаўніцтва ў беларускіх губернях у канцы XVIII ст. быў выключны для тагачаснай Расіі. Ён быў здзейснены пры дапамозе воінскіх каманд, буйных падаткаў, сістэмы штрафаў, з'яўляўся ўзорам для іншых губерняў. Агульныя правілы дарог у дзяржаве, якія ўстанаўліваліся ў 1817–1818 гг., а затым ў 1830–1860-я гг., замацоўвалі тыя параметры, якія былі прыняты пры дарожным будаўніцтве ў Беларусі ў 1770-я гг.[32] Пракладзеная сетка добраўпарадкаваных дарог арганізавала рух па асноўных гандлёвых міжнародных і ўнутрырасійскіх шляхах. Яна пранізвала цэнтры гарадоў, звязвала іх са шматлікімі мястэчкамі, забяспечвала падаткаабкладанне на карысць дзяржавы.

У 1840-я гг. агульная працягласць паштовых дарог склала каля 4 тыс. вёрст. Была арганізавана паштовая служба з сістэмай змены коней, адпачынку ў спецыяльных дамах – паштовых станцыях, якія будаваліся як па тыпавых, так і па індывідуальных праектах. Для зручнасці карыстання дарогамі ў першай палове XIX ст. выдаваліся паштовыя дарожнікі – даведнікі з указаннем маршрутаў паштовых дарог, назваў паштовых станцый, колькасці коней на іх[33]. Аб тым, як гэтая сістэма функцыяніравала ў сярэдзіне XIX ст., можна ўявіць праз апісанні сваіх вандровак П. Шпілеўскім і У. Сыракомлем.

У мястэчках, праз якія прайшлі паштовыя дарогі, узніклі паштовыя станцыі. Так, у Мінскай губерні ў пачатку XIX ст. яны існавалі ў мястэчках Койданава, Новы Свержань, Смілавічы, Свіслач, Паболаў, Урэчча, Глуск, Горваль, Холмеч, Лоеў, Ельск, Лагішын, Любяшоў, Клецк, Цімкавічы, Раманава, Нясвіж, Радашковічы, Маладзечна, Зацкевічы, Касцяневічы, Даўгінава, Смалявічы, Жодзіна, Докшыцы, Юхноўка[34]. У некаторых мястэчках былі не толькі паштовыя станцыі, але і канторы. Так, у Магілёўскай губерні ў 1788 г. паштовыя канторы былі адкрыты ў Шклове, Дуброўне, Чачэрску. Аднак апошнія дзве хутка зачыніліся, бо грашовыя зборы, якія збіраліся на іх утрыманне, не пакрывалі выдаткаў[35].

У Гродзенскай губерні налічвалася 9 паштовых дарог. Да найбольш значных з іх адносіліся: Аўгустоўская шаша, Слонімскі тракт, Навагрудска-Лідскі тракт, Пружанская дарога, Пінская дарога, якія

---

32 Слюнькова, И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья... С. 97.

33 Сардаров, А.С. История и архитектура дорог Белоруссии. Минск, 1978. С. 29.

34 РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 35–158.

35 Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах... С. 269–270.

ахоплівалі па сваіх маршрутах амаль усе гарады і мястэчкі Гродзенскай губерні. На ўсіх паштовых дарогах гэтай губерні ў 1853 г. было 42 станцыі, дзе змяшчалася каля 730 коней; на адну паштовую станцыю прыходзілася ў сярэднім 17 коней. Многія з іх былі ў мястэчках: Высока-Літоўску (16 коней, 5 ямшчыкоў ці фурманаў), Падароску (адпаведна 12 і 4), Ружанах (12 і 4), Дзятлаве (16 і 5), Бярозе-Картузскай (25 і 8), Антопалі (8 і 4) і інш. Паштовыя экіпажы складаліся з так званых брычак (зімой – сані). Фурманы наймаліся штомесяц, з умовай платы ад 2 да 4 руб. і знаходжання "на харчах" пошт-утрымальнікаў. Дадатковы прыбытак ад праезжых складаў каля 3 руб.[36]

Да найбольш буйных гандлёвых дарог Гродзенскай губерні, колькасць якіх складала 17, адносіўся Свіслацкі гандлёвы тракт, у маршрут якога ўваходзілі мястэчкі Гродзенскага (Алекшыцы, Малая Бераставіца, Вялікая Бераставіца), Ваўкавыскага (Свіслач, Рудня), Пружанскага (Белавеж, Каменнікі), Брэсцкага (Камянец-Літоўск, Чарняўчыцы) уездаў. Мінскі тракт уяўляў сабой гандлёвую дарогу ад Масквы на Мінск, Нясвіж, Слонім, Зэльву, Беласток. Гандлёвыя функцыі выконвалі ўезная Мастоўская дарога, Пінска-Пружанская дарога, уезная дарога Гродна – Індура – Ваўкавыск – Ружаны[37].

З 1817 г. у Расійскай імперыі пачалося будаўніцтва шашэйных дарог з дакладна спланаваным папярэчным профілем, вылучанымі яго элементамі – дарожным палатном, абочынамі, кюветамі. Да 60-х гг. XIX ст. праз Беларусь прайшлі такія важныя сухапутныя шляхі, як шаша Брэст – Варшава, Масква – Брэст, Бабруйская шаша. Шаша з Пецярбурга ў Кіеў, што прайшла праз беларускія землі, атрымала назву Беларускага тракту.

Па трапным выразе П. Баброўскага, па стане шляхоў зносін мяркуюць аб развіцці народа[38]. У сярэдзіне XIX ст. ён ацэньваў стан беларускіх дарог невысока: "Все торговые и другие коммуникационные пути содержатся дурно. Дороги проезжи только летом. Зимою проезд возможен только по почтовым дорогам, и то с большим затруднением". Аднак усё ж беларускія губерні ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі мелі больш развітую сістэму шляхоў зносін.

К сярэдзіне XIX ст. склаліся тры асноўныя віды праезду па дарогах: 1) на сваіх экіпажах са сваімі фурманамі; 2) на вольнанаёмных экіпажах; 3) "на перакладных", ці "паштовых": на экіпажах з фурма-

[36] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики… Ч. 1. С. 209–215, 218, 226.
[37] Там жа. С. 233, 235.
[38] Там жа. С. 197.

намі паштовых станцый з выдачаю “падарожных”, дзе ўказвалася колькасць коней і маршрут. Вольнанаёмныя “ездавыя” падзяляліся на дзве групы: легкавыя і грузавыя (карочнікі, балаголы). Апошнія нярэдка аб’ядноўваліся ў арцелі па 15–20 гаспадароў. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. большая частка грузаў перавозілася гужавым транспартам, які не меў яшчэ значных канкурэнтаў. За гэты час хуткасць грузавых перавозак па дарогах Беларусі асноўных напрамкаў узрасла на 20–25%[39].

У залежнасці ад транспартуемага грузу выкарыстоўваліся розныя тыпы павозак (вазоў): чатырохколавая павозка (панарад) без бартоў для цяжкавагавых грузаў, скрыні для перавозкі буракоў і бульбы, двухскладовыя павозкі для транспарціроўкі бярвенняў і іншых доўгіх грузаў, спецыяльныя вазы (клеткі) для дастаўкі сена і саломы. Асноўнай цяглавай сілай былі коні, аднак выкарыстоўваліся і валы, асабліва на поўдні Беларусі (у раёнах Століна, Лельчыц, Дывіна і інш.).

У пабудове і даглядзе за дарогамі, абслугоўванні камунікацыйнага руху ўдзельнічалі і местачкоўцы. Формы гэтага ўдзелу можна вызначыць наступным чынам: дарожна-будаўнічыя работы (адыходныя промыслы), дарожная натуральная павіннасць (*шарваркі*, найбольш пашыраная інвентарная норма якіх у першай палове XIX ст. складала 12 рабочых дзён з сялянскага двара[40]), дарожная грашовая павіннасць. Напрыклад, на ўтрыманне паштовай сувязі з 1784 г. з кожнай душы збіралі па 12 кап., а з габрэяў – па 24 кап.[41] На ўтрыманне дарог часткова ішлі кірмашовыя зборы. У Бярозе і Малечы Пружанскага ўезда на гэтыя патрэбы бралася па 1 кап. з кожнага возу тавараў, прывезенага на кірмаш[42]. На ўтрыманне паштовых станцый і коней, на рамонт дарог, мастоў часткова ішоў *земскі збор*. Напрыклад, мяшчане-хрысціяне м. Глуск у 1831 г. плацілі земскі збор у памеры 95 руб. 1/2 кап. з душы[43]. Жыхары Новага Свержаня паводле інвентару 1840 г. плацілі “на дарогі” 39 руб. 63 кап.[44] У

---

39 Жучкевич, В.А. Дороги и водные пути Белоруссии… С. 65, 66, 72.

40 У маёнтку Скідзель, згодна з інвентаром 1845 г., для вяскоўцаў устанаўліваліся шарваркі ў памеры 12 дзён у год, а для жыхароў мястэчак гэтая норма была вышэй – 20: Токць, С. Скідзель у складзе Расійскай імперыі // Скідзель. 500 год гісторыі. Гродна, 2008. С. 35.

41 Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах... С. 265.

42 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 917. Арк. 9–10.

43 НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 872. Арк. 5 адв.

44 Там жа. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 809. Арк. 7 адв. – 8.

1849 г. рамонт маста ў Свержані за кошт земскага збору абышоўся ў 1200 руб., а будаўніцтва мастоў у Свіслачы – 6150 руб.[45] На жыхароў ускладвалася таксама задача ствараць і падтрымліваць алеі на паштовых дарогах.

У тых мястэчках, якія ляжалі на буйных камунікацыйных шляхах, як водных, так і сухапутных, найбольшае распаўсюджанне атрымлівалі спецыяльнасці, звязаныя з забеспячэннем умоў пражывання праезджым і абслугоўваннем камунікацыйнага руху. Напрыклад, інвентар Новага Свержаня 1828 г. фіксуе наяўнасць сярод 63 габрэйскіх двароў – 2 "рамесных", 47 "шынковых", 14 "заезных"[46]. Колькасць іх павялічвалася: у інвентары 1840 г. зафіксаваны 10 "масцеравых", 53 "шынковых", 18 "пастаялых" двароў[47]. П. Шпілеўскі адзначаў, што "Свержень замечателен одной оригинальной улицей, которая почти вся состоит из корчем (заездных дворов)". Тое ж самае ён бачыў і ў Смалявічах, дзе існавалі "четыре огромные корчмы в разных пунктах, превращенные теперь в заезные дома, и составляют как бы кварталы местечка, расположенного в прямой линии на протяжении целой версты почтовой дороги"[48]. Да ліку лепшых местачковых будынкаў Лагойска падарожнік адносіў тры вялікія, непазбаўленыя зручнасцей заезныя дамы[49]. На рыначнай плошчы Валожына свае паслугі прапаноўвала аўстэрыя (назва карчмы для знаці)[50].

Жыхары мястэчак займаліся вырабам транспартных сродкаў і дарожнага інвентару. Шэраг мястэчак былі даволі значнымі цэнтрамі такой вытворчасці. Павозкі выраблялі ў Гомелі, Крычаве, Чашніках, Уздзе, Сіняўцы і г.д. Рымарска-сядзельныя прыстасаванні рабілі ў Ракаве, Смаргоні[51]. На патрэбы транспарту працавалі местачковыя кавалі, рымары, карэтнікі, стальмахі.

Частка местачкоўцаў займалася возніцтвам (рамізніцтвам). Часткова гэтыя функцыі выконвалі сяляне, асабліва зімой. Так, сяляне мястэчак Рось і Скідзель у 1846 г. наймаліся для сухапутнай транспарціроўкі розных тавараў, атрымліваючы за кожныя 7 вёрст ад 15 да 20 кап. серабром за аднаконную падводу. Некаторыя сяляне, якія мелі лепшую запрэжку, наймаліся для прывозу соладу з Пінска,

---

45 НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 1000. Арк. 68.
46 AGAD. Sygn. 4307/1. S. 66–67.
47 НГАБ. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 809. Арк. 7 адв. – 8.
48 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю... С. 91, 161.
49 Лакотка, А.І. Пад стрэхамі прашчураў... С. 86.
50 АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. 9368. Арк. 6 адв.
51 Жучкевич, В.А. Дороги и водные пути Белоруссии… С. 71.

за што атрымлівалі звычайна за аднаконную падводу ад 2 да 3 руб. серабром[52]. Трэба ўзгадаць і так званую падводную павіннасць сялян. Напрыклад, норма яе для сялян м. Рось згодна з інвентаром 1846 г. складала 18 *міляў*[53] ці 6 рабочых дзён у год[54]. Падводная павіннасць для жыхароў Валожына (акрамя габрэяў) заключалася ў абавязку 2 разы на год адвезці панскія грузы да Вільні[55].

Фурманствам займаліся таксама татары, у некаторай ступені – прадстаўнікі былой шляхты. Аднак галоўную ролю ў транспартных паслугах выконвалі местачковыя габрэі. Як адзначаў П. Баброўскі, возніцкі промысел утварыў асобнае саслоўе фурманаў[56]. У кожным горадзе і мястэчку некалькі габрэйскіх сем'яў існавалі выключна за кошт фурманства, утрымліваючы па 4–8 коней і па 2–3 фуры (вялікія фургоны з палатняным пакрыццём, якія маглі змясціць 60–100 *пудоў*[57] грузу), а таксама пасажырскія фургоны (на 10–15 чалавек). У сярэдзіне XIX ст. у Гродзенскай губерні дзякуючы гэтаму віду эканамічнай дзейнасці існавалі некалькі сотняў габрэйскіх сем'яў[58].

Адзначым, што пераважна габрэі выступалі і ў ролі арандатараў паштовых станцый і перавозаў праз рэкі. Габрэі ўтрымлівалі, напрыклад, два паромы ў м. Беліца Лідскага ўезда: "адзін насупраць двару, пабудаваны ў 1848 г., другі насупраць мястэчка, з канатам, лодкаю і ўсім абсталяваннем; паромы старыя, дрэва гнілое, патрабуюць перабудовы"[59].

Цана за перавоз грузу залежала ад пары года, ураджаю, а таксама ад цаны на збожжа і сена. Так, у 1849 г. за 100 вёрст плата вагалася ад 10 да 12 кап. з пуда; а ў 1855 г. – ад 30 да 35 кап. з пуда. У перыяд дарагоўлі 1855 г. *чвэрць*[60] аўса каштавала 7 руб., за яе перавозку на 100-вёрставую адлегласць плацілі 1 руб. 60 кап.[61] Гужавы транспарт (колавы і санны) быў у той час адзіным сродкам перамяшчэння на грунтовых і шашэйных дарогах. Таму і цэны за перавозку былі дастаткова высокімі: у летні час прыкладна ў 6 разоў даражэйшымі,

---

[52] НГАБ у Гродне. Ф.96. Воп.1. Адз. зах. 201. Арк.5; Адз. зах. 239. Арк. 30; Адз. зах. 126. Арк. 26.

[53] *Міля* – мера адлегласці; расійская міля раўнялася 7 вёрстам (7, 468 км).

[54] НГАБ у Гродна. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 232.

[55] АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. 9368. Арк. 15.

[56] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики…Ч. 1. С. 244.

[57] *Пуд* – адзінка вымярэння масы, адпавядаў прыблізна 16,38 кг.

[58] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики…Ч. 1. С. 244.

[59] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 211. S. 4.

[60] *Чвэрць* – мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, галоўным чынам збожжа, роўная прыкладна 209 л.

[61] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики… Ч. 1. С. 204.

чым параходамі, і ў 12 разоў даражэйшымі за самасплаў. Самымі таннымі, а таму і больш шматлікімі былі гужавыя перавозкі зімой, а самымі дарагімі і малалікімі – вясной. Так, за перавоз тавараў на Зэльвенскі кірмаш летам 1856 г. плацілі з пуду грузу з Масквы ад 1 руб. 35 кап. да 1 руб. 65 кап.; Ноўгарада – ад 1 руб. 70 кап. да 2 руб.; Варшавы – ад 50 да 60 кап.; Слоніма – ад 15 да 20 кап.[62]

Адзначым, што пад уплывам шляхоў зносін развівалася планіроўка і забудова гарадоў і мястэчак. Па назвах вуліц гарадоў і мястэчак можна меркаваць аб напрамках асноўных дарог. Вывучэнне інвентароў, а таксама планаў гарадскіх паселішчаў пацвярджае арганічную сувязь сістэмы вуліц з дарогамі. Напрыклад, Мір, паводле інвентару 1830 г.[63] і плана 1831 г.[64], меў вуліцы Слонімскую, Віленскую, Нясвіжскую, Мінскую, а таксама прадмесці Мінскае і Слонімскае. У Дзяляцічах былі Віленская, Навагрудская, Усялюбская вуліцы[65], у Глыбокім – Докшыцкая, Віленская, Друйская[66]. Вуліца Віленская існавала ў Валожыне, Заслаўі, Іўі, Клецку, Маладзечне, Смаргоні і г.д. Геаграфічнае размяшчэнне асобных мястэчак абумоўлівала наяўнасць ў іх вуліц Мінскай, Гродзенскай, Навагрудскай, Пінскай, Ракаўскай, Слуцкай, Магілёўскай і г.д.

З камунікацыйнымі функцыямі звязана наяўнасць у мястэчках ці пры іх не толькі корчмаў (заезных і незаезных) і паштовых станцый, трэба ўзгадаць яшчэ прыдарожныя капліčкі і крыжы, ўязныя брамы. Напрыклад, у Свіслачы паводле апісання Л. Патоцкага, на рынку стаялі 5 пастаялых двароў, “кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезжых”, “пры ўездзе ў горад з кожнага боку – каменная брама, зверху скляпеністая, без варотаў ці, хутчэй, праёмам для ўваходу. Ці не было гэта жаданнем адкрытага і гасціннага сэрца мясцовага ўладальніка, які кожнаму быў рад, кожнага прымаў аднолькава добразычліва?”[67]

***

Прыведзеныя матэрыялы паказваюць значнае развіццё ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. водных і сухапутных шляхоў зносін Беларусі і ўзрастанне ролі мястэчак і местачкоўцаў у іх

[62] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики… С. 244.
[63] AGAD. AR. Dz.XXV. Sygn. 2466 a.
[64] Там жа. Zb. kart. R 452–31.
[65] Там жа. R 452–34.
[66] Там жа. R 452–28.
[67] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі. Мінск, 1997. С. 24–28; *Малюнак 7*.

функцыянiраваннi. З другога боку, шляхi зносiн вызначалi развiццё тых мястэчак, якiя былi з iмi звязаныя. Выгаднае геаграфiчнае становiшча (наяўнасць зручных камунiкацый) было неабходнай умовай для паспяховай гандлёва-прамысловай дзейнасцi i росту мястэчак. З транспартнай функцыяй мястэчак найбольш цесна быў звязаны iх гандлёвы патэнцыял.

## 3.2. Гандаль

Галоўным фактарам, якi ўплываў на фармiраванне аблiчча мястэчак як спецыфiчных, нятоесных вёсцы пасяленняў i наблiжаў iх да гарадоў, з'яўлялася функцыя сталых гандлёвых асяродкаў. Мястэчкi ўжо самiм фактам свайго ўзнiкнення былi абавязаны гандлю. Можна сцвярджаць, што гандаль адыгрываў вядучую ролю ў гаспадарчай дзейнасцi мястэчак.

У даследуемы перыяд тавараабмен у беларускiх губернях ажыццяўляўся не прамым шляхам: вытворца – спажывец цi вытворца – аптовы гандляр – спажывец, а праз вялiкую колькасць пасрэднiкаў (маклераў, камiсiянераў, markнага роду скупшчыкаў, дробных гандляроў, рознiчных i аптовых купцоў i г.д.). Таму на ўнутраным рынку тавар цыркуляваў па двух патоках: мабiлiзацыйным (зборным), калi ён, iдучы ад вытворца да аптовага гандляра, пастаянна павялiчваўся ў масе, i рэалiзацыйным (размеркавальным), калi ён пераходзiў ад аптовага купца да дробнага аптавiка, затым да рознiчнага i да спажыўца. Мабiлiзацыя i рэалiзацыя тавараў на ўнутраным рынку Беларусi ажыццяўлялася ў некалькiх формах: кiрмашовай, базарнай, развозна-разноснай i стацыянарнай.

Асноўнай арганiзацыйнай формай гандлёвых адносiн у канцы XVIII – першай палове XIX ст. заставалiся ***кiрмашы***. У дадзены перыяд яны адпавядалi ўсяму ладу грамадска-эканамiчнага жыцця, садзейнiчалi працэсу першапачатковага накаплення капiталаў, уцягвалi ў таварна-грашовыя адносiны памешчыкаў i сялян, мяшчан i гандлёва-купецкiя колы. Ф. Адашчык справядлiва заўважае, што ў першай палове XIX ст. стары тып кiрмашу, служачага транзiтным пунктам i не звязанага з мясцовай вытворчасцю i спажываннем, паступова адмiрае. Большасць кiрмашоў ператвараюцца ў цэнтры збыту вырабаў мясцовых прамысловых вытворцаў, сыравiны[68].

Мястэчковыя кiрмашы ў агульным таваразвароце ўнутранага рынку краю адыгрывалi вельмi значную ролю. На тэрыторыi

[68] Адащик, Ф.И. Ярмарочная торговля в городах и местечках Белоруссии в первой половине XIX в. / Ф.И. Адащик // Веснiк БДУ. Серыя III. 1983. № 1. С. 11–12.

Беларусі ў разглядаемы час існавала каля 30 буйнейшых кірмашоў, 19 з іх збіраліся ў мястэчках, а 11 у гарадах[69].

Цэласнае ўяўленне аб кірмашовым гандлі ў мястэчках дапамагае атрымаць аналіз кірмашоў Беларусі і іх абаротаў па тэрытарыяльным дзяленні, зроблены з дапамогай даследаванняў М. Шаўчэні і В. Шведа.

У беларускіх уездах *Віленскай губерні* існавала вялікая колькасць местачковых кірмашоў. Мястэчкі тут значна пераўзыходзілі гарады па ролі ў развіцці гандлю. У 1850 г. старшыня Віленскай казённай палаты адзначыў: "...в торговом отношении местечки Виленской губернии важнее уездных городов, ибо последние почти никакой торговли не производят"[70]. Гэта яшчэ раз пацвярджае штучнасць адміністрацыйнай рэформы царызму на беларускіх землях. Статус уезных гарадоў прысвойваўся тым населеным пунктам, якія атрымалася выкупіць у дзяржаўную казну, без уліку іх памераў і эканамічнага значэння.

У Вілейскім уездзе кірмашы праходзілі ў Даўгінаве (2), Куржанцы (1–2), Гарадку (толькі ў 1830-я гг.), Лебедзеве (1), Мядзелі (колькасць кірмашоў вагалася ад 8 да 1).

У Лідскім уездзе найбольш развітым гандаль быў у Шчучыне. Паводле прывілея на магдэбургскае права, падпісанага Аўгустам III ад 23 мая 1761 г., у Шчучыне зацвярджаліся 12 кірмашоў штогод (у дзень трох польскіх каралёў, у дзень ачышчэння Маці Божай, на св. Казіміра, на другім тыдні пасля Пасхі, на св. Духа – трохдзённы, на св. Кацярыны, на св. Іаана, у дзень св. Марыі Магдаліны – двухтыднёвы, на Узнясенне Маці Божай, на Раство Маці Божай, у дзень св. Сімона і Іуды – двухтыднёвы, у дзень Успення Маці Божай), а таксама два штотыднёвыя таргі (па нядзелях і чацвяргах)[71]. Што датычыць 12 кірмашоў у год, то гэта было хутчэй жаданне ўладальнікаў Шчучына Сцыпіёнаў, чым рэчаіснасць. Хутчэй за ўсё нават у "магдэбургскія часы" 1761–1776 гг. у мястэчку ладзіліся толькі 2 кірмашы, як гэта было на працягу XVIII–XIX стст.

Акрамя Шчучына ў Лідскім уездзе кірмашы збіраліся ў Жалудку (1). Па звестках на 1861 г., на Святадухаўскі кірмаш у Жалудку, які праходзіў 2 мая, было прывезена тавараў на 1500 руб., а прададзена на 800 руб. У Шчучыне адбыліся 4 кірмашы: 1) у дзень св. Марыі Магдаліны (з 15 ліпеня па 15 жніўня) – прывоз на 2200 руб., продаж

---

[69] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 105.
[70] РДГА. Ф. 18. Воп.4. Адз. зах. 739. Арк. 2.
[71] ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Адз. зах. 2765. Арк. 42.

на 1850 руб.; 2) св. Сімона і Іуды (з 16 кастрычніка па 16 лістапада) – прывоз на 2200 руб., продаж на 950 руб.; 3) Узнясенскі (12 мая) – прывоз на 1400 руб., продаж на 770 руб.; 4) Успенскі (15 жніўня) – прывоз на 2100 руб., продаж на 1100 руб.[72]

У Ашмянскім уездзе была найбольшая колькасць кірмашоў: у Жупранах (3), Смаргоні (3–4), Барунах (5), Крэве (2–3), Вішневе (3), Валожыне (3–4), Гальшанах (3–6), Трабах (3–4), Дудах (3), Ліпнішках (6), Іўі (7–8), Дзявенішках (3–4), Суботніках (2). Пастаянна яны збіраліся ў Жупранах, Барунах, Крэве, Іўі, Валожыне і Вішневе. Прыбывала на кожны з гэтых кірмашоў да 500 чалавек. Тавараабароты былі невялікія[73].

У Дзісенскім уездзе кірмашовае асяроддзе было прадстаўлена кірмашамі ў мястэчках Лужкі (2) і Глыбокае (2–3). Абарот кірмашоў у Лужках складаў каля 150 руб. Тры штогадовыя кірмашы ў Глыбокім былі заснаваны паводле прывілея Уладзіслава IV 1645 г.[74] У першай палове XIX ст. прывоз тавараў на кірмашы Глыбокага быў на суму ад 500 да 1000 руб., продаж – ад 250 да 500, а па даных за 1847 г. прывоз быў на суму каля 20 тыс. руб., а продаж – 12 тыс. руб. У Свянцянскім уездзе існавалі кірмашы ў мястэчках Гадуцішках (3), Кабыльніках (5), Жодзішках (9), Камаях (7). Абароты іх былі невялікія[75].

У *Віцебскай губерні* самым буйным быў Петрапаўлаўскі кірмаш у Бешанковічах Лепельскага ўезда, які спрыяў эканамічнаму росквіту мястэчка. У кнізе Я. Зяблоўскага "Землеапісанне Расійскай імперыі..." (1810) ён названы як "найлепшы ва ўсёй Беларусі"[76]. Кірмаш меў не толькі мясцовае значэнне, але і звязваў губерню з іншымі раёнамі Расіі. Гэта адбівалася на яе абаротах. Найбольш значны абарот Петрапаўлаўскага кірмашу крыніцы фіксуюць у 1838 г.: прывоз тавараў быў на суму 1 617 550 руб. асігнацыямі, продаж – на 463 410 руб. асігнацыямі (ці адпаведна серабром – 808 775 і 231 705 руб)[77]. Аб памерах гандлю на буйных кірмашах складаліся спецыяльныя ведамасці, у якіх давалася характарыстыка прывезеным таварам, паказваліся аб'ёмы іх продажу, колькасць удзельнікаў, прыбыткі

[72] Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 389, 385, 518.

[73] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии в период кризиса феодализма / В.В. Швед. Гродно, 1995. С. 20.

[74] АР НБ ПАУ і ПАН у Кракаве. Адз. зах. 9723.

[75] ДГА Літвы. Ф.388. Воп.1. Адз. зах. 107. Арк. 27. Адз. зах. 275. Арк. 31.

[76] Зябловский, Е. Землеописание Российской империи для всех состояний / Е. Зябловский. Ч.6. СПб., 1810. С. 136.

[77] НГАБ. Ф.1430. Воп.1. Адз. зах. 7247. Арк. 2–5.

ўладальніка і жыхароў. Прыкладам можа быць падобная ведамасць аб кірмашы ў Бешанковічах у 1853 г.[78]

У Суражскім уездзе ў беларускіх мястэчках кірмашы праходзілі ў Яновічах (1), у Дрысенскім уездзе – у Асвеі (1–2), Валынцах (1–2), у Полацкім уездзе – у Сіроціне (5). Гэта былі кароткачасовыя універсальныя кірмашы, галоўнымі ўдзельнікамі якіх з'яўляліся сяляне (да 3000 чалавек). Наведвалі іх купцы, якія прывозілі мануфактурныя і бакалейныя вырабы. Петрапаўлаўскі кірмаш у м. Асвея славіўся конным торгам. Абароты вышэйзгаданых кірмашоў вагаліся ад некалькі сотняў рублёў да некалькіх дзесяткаў тысяч рублёў.

Вельмі развітым быў кірмашовы гандаль у мястэчках *Гродзенскай губерні*. Найбольш вядомымі былі кірмашы ў Зэльве і Свіслачы. Акрамя іх у розныя гады ў мястэчках збіралася ад 30 да 55 мястэчковых кірмашоў. У справаздачы Гродзенскага губернатара за 1817 г. указвалася, што амаль у кожным мястэчку губерні заснаваны кірмашы[79].

Самы значны кірмаш – Ганненскі, збіраўся ў Зэльве Ваўкавыскага ўезда з 25 ліпеня да 25 жніўня. Заснаваны ён быў Сапегам па прывілеі караля Аўгуста II ад 20 мая 1721 г. Наведвальнікі з'язджаліся з суседніх Віленскай, Мінскай, Валынскай і Ковенскай губерняў. Частымі гасцямі былі купцы з Украіны (Кіеўскай, Харкаўскай, Чарнігаўскай і іншых губерняў), расійскіх гарадоў (Калугі, Масквы, Тулы, Смаленска, Курска). Сярод удзельнікаў кірмашу былі купцы з Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі, гандляры, сяляне і памешчыкі Каралеўства Польскага[80]. Такім чынам, Ганненскі кірмаш меў агульнарасійскае і міжнароднае значэнне і з'яўляўся звяном, якое звязвала велікарускія губерні і замежжа.

Абароты Ганненскага кірмашу былі значнымі. Найбольшы росквіт ён атрымаў у канцы XVIII – першай трэці XIX ст. М. Улашчык адзначаў, што ў 20–30-я гг. XIX ст. на кірмаш у Зэльву прывозілася штогод тавараў на суму 2–3 млн руб. [81]

Паводле падлікаў В. Шведа, у 1830–1840-я гг. абароты Зэльвенскага кірмашу мелі тэндэнцыю да ўзрастання: калі ў 1831–1835 гг. прывоз склаў суму у 731 806 руб., то ў 1846–1850 гг. – 6 511 227 руб. З 1852 г. абароты сталі змяншацца: 1851–1855 гг. – 3 812 454 руб., 1856–1860 гг. – 3 666 075 руб.[82] Гэта тэндэнцыя адбілася і на про-

[78] *Табліца 9.*
[79] НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп.1. Адз. зах. 931. Арк. 2.
[80] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 24.
[81] Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г.... С. 408.
[82] *Табліца 10.*

дажы тавару: за адпаведныя пяцігоддзі сума продажу ад сумы прывозу складала 48, 55, 53, 40, 40%[83]. Да памяншэння абароту гэтага самага буйнога ў дарэформеннай Беларусі кірмашу прывяла адмена ў красавіку 1850 г. мытнай мяжы паміж Каралеўствам Польскім і асноўнай часткай Расійскай імперыі. Уяўленне аб таварах, якія прывозіліся на кірмаш, коштах на іх, памерах даходу жыхароў даюць ведамасці, што складаліся мясцовымі чыноўнікамі[84].

Адзін з самых пладавітых пісьменнікаў свету, аўтар каля шасці сотняў раманаў і аповесцей, гісторык, грамадскі дзеяч, выхаванец Свіслацкай гімназіі Юзаф Крашэўскі ўганараваў Зэльву эксклюзіўнай кніжыцай, з якой адзін сказ набыў афарыстычнае гучанне. Сказ той тычыўся зэльвенскага кірмашу: “З вельмі даўніх часоў Зэльва і яе жыхары падпарадкоўваюцца дзіўнаму правілу – адзінаццаць месяцаў кожнага году марнеюць і толькі месяц жывуць”[85].

Другім буйным местачковым кірмашом быў Успенскі ў м. Свіслач Ваўкавыскага ўезда. Заснаваў яго ўладальнік мястэчка Тышкевіч, які атрымаў прывілей Станіслава Аўгуста ад 16 студзеня 1783 г. У Свіслач на кірмаш прыязджалі жыхары навакольных мясцін, суседніх губерняў, гандляры і сяляне велікарускіх гарадоў і Украіны, купцы з Аўстрыі, Прусіі, Францыі, Італіі, Даніі, Турцыі і іншых краін. Пастаяннымі наведвальнікамі былі гандлёвыя людзі з Каралеўства Польскага.

Абароты Успенскага кірмашу былі меншымі за абароты Ганненскага. У 1830–1844 гг. сума прывозу трымалася ў памеры 65–157 тыс. руб., але з 1846 г. стала пастаянна змяншацца і вышэй за 75 830 руб. не падымалася, а ніжняя мяжа складала 10 970 руб.[86] Продаж тавараў па пяцігоддзях складаў: у 1830–1835 гг. – 48% ад усей яго вартасці, 1836–1840 гг. – 34, у 1841–1845 гг. і 1846–1850 гг. – па 22%, 1851–1855 гг. – 17, 1856–1860 гг. – 35%. Такім чынам, з 1830 па 1855 збыт памяншаўся, а ў другой палове 1850-х гг. – у два разы павялічыўся[87]. Асартымент тавараў, памер даходу жыхароў ад кірмашу адлюстраваны ў ведамасцях уезнага спраўніка[88].

Аб зніжэнні ролі Успенскага кірмашу ў Свіслачы сведчыць не толькі паступовае скарачэнне яго абаротаў і колькасці ўдзельнікаў, але і факт пагаршэння стану гандлёвых памяшканняў. Так, у верасні

---

[83] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 23.
[84] *Табліца 11.*
[85] Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш / М. Скобла. Мінск, 1999. С. 31.
[86] *Табліца 12.*
[87] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 24.
[88] *Табліца 13.*

1850 г. ваўкавыскі ўезны спраўнік даносіў губернатару, што "каменные казенные лавки по своему прочному со всеми выгодами для купечества прежнему устройству, ныне приведены в такое состояние ветхости, что в прежних и нынешнем году некоторые купцы потерпели избыток от замочки товаров, ибо крыша на лавках совершенно ветха, в случае дождя лавки водою заливает"[89]. З 1855 г. іншагароднія купцы перасталі наведваць Свіслацкі кірмаш, у выніку чаго ў 1861 г. губернская адміністрацыя канстатавала, што "ярмарка здесь почти не существует, торг производится самыми мелочными товарами на весьма незначительную сумму местными и из окрестных местностей торговцами"[90]. На гандаль у мястэчку адмоўна паўплывала і закрыццё Свіслацкай гімназіі.

Адзначым, што на буйных кірмашах прымаліся строгія меры, накіраваныя на паляпшэнне парадку. На Ганненскі кірмаш у м. Зэльва і Успенскі ў м. Свіслач пасылаліся спецыяльныя пажарныя каманды. Для гаспадарчага кіравання Зэльвенскім кірмашом ствараўся часовы камітэт, у абавязкі якога ўваходзіла "мець неаслабны нагляд, каб гандаль не падвяргаўся ніякім абмежаванням, а тым больш незаконным зборам, і, увогуле, каб кірмаш ішоў з належным добраўпарадкаваннем на дакладнай аснове пастаноўленых правіл". Выкананню гэтых функцый садзейнічала наяўнасць узмоцненай ваеннай каманды і прысутнасць некалькіх жандараў[91].

У Брэсцкім уездзе існавалі кірмашы ў м. Высока-Літоўск (1), Камянец-Літоўск (1–3), Прыбарава (2). З 1852 г. быў адкрыты кірмаш у м. Расна. Агульная колькасць кірмашоў у мястэчках Брэсцкага ўезда дасягнула 7. Па значнасці абаротаў вылучалася Прыбарава. У 1834 г. на Успенскі і Пакроўскі кірмашы гэтага мястэчка было прывезена тавараў і жывёлы больш чым на 3 млн руб. Абароты іншых кірмашоў Брэсцкага ўезда ў сярэднім былі некалькі больш за 1 тыс. руб. на кожным[92].

Найбольшая колькасць кірмашоў праходзіла ў Слонімскім уездзе (18–25). У 1815 г. у 8 мястэчках гэтага ўезда адбывалася 18 кірмашоў [93]. У 1830–1850-х гг. яны збіраліся ў мястэчках Косава (6), Ружаны (2–3), Моўчадзь (4), Дварэц (3), Жыровічы (2), Быцень (2), Дзятлава (2), Дзевянтковічы (2). Усе кірмашы былі аднадзённымі, невялікімі па колькасці ўдзельнікаў і абаротам. У Косаве абарот не перавышаў

[89] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.28. Адз. зах. 332. Арк. 9.
[90] Там жа. Воп. 6. Адз. зах. 129. Арк. 499.
[91] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі... С. 65.
[92] Там жа. С. 67.
[93] Lachnicki, J. E. Statystyka gubernii Litewsko-Grodzieńskiey / J. E. Lachnicki. Wilno, 1817.

500 руб., у іншых мястэчках кірмашы мелі абарот да 1 тыс. руб. і некалькі болей[94].

Пасля Слонімскага ўезда па колькасці местачковых кірмашоў ішоў Гродзенскі. Тут іх было 14–15: у мястэчках Крынкі (3), Вялікая Бераставіца (2), Воўпа (4), Скідзель (4–5), Сапоцкін (1). Абароты гандлю былі маленькімі: агульная сума прывозу вагалася ў 1840–1850 гг. у межах 4–9 тыс. руб., продажу – 3–7 тыс. руб. (75–78%)[95]. Шэсць кірмашоў збіраліся ў Кобрынскім уездзе. У Пружанскім уездзе кірмашовае асяроддзе складалі кірмашы ў мястэчках Сяльцы (4), Бяроза (6), Мальч (3)[96]. Усе яны былі невялікімі як па ахопе насельніцтва, так і па абароце.

Вялікую ролю ва ўнутраным гандлі адыгрывалі кірмашы мястэчак *Магілёўскай губерні*. Сярод іх славіўся Хрышчанскі кірмаш у м. Любавічы Аршанскага ўезда. Штогодні прывоз тавараў у 1830–1835 гг. у сярэднім складаў 71 727 руб., а продаж – 17 348 руб. (24%), у 1850–1854 гг. адпаведна – 505 199 і 213 735 руб. (42%), у 1855–1859 гг. – 456 725 і 289 141 руб. (63%)[97]. У Любавічах быў яшчэ Петрапаўлаўскі кірмаш. Ён збіраў каля 100–200 чалавек, у асноўным сялян. Абароты яго не перавышалі некалькіх сотняў рублёў. У Аршанскім уездзе кірмашовы гандаль існаваў таксама ў мястэчках Ляды (2–3), Ліозна (2). Абароты іх былі невялікімі.

Сярод мястэчак Магілёўскага ўезда па ролі ў развіцці гандлю вылучаўся Шклоў. Тут існавалі два кірмашы: Зборніца ў сакавіку і Дзевятнік у чэрвені. Асартымент тавараў быў вельмі багаты. Як адзначаў М.В. Без-Карніловіч, "Шклов – кладовая товаров и житейских потребностей, ловушка на деньги помещиков, в губернском городе вы не найдете таких дамских товаров, какие достанете в простом местечке Шклове..."[98]. У 1842 г., напрыклад, на Зборніцкі кірмаш прывезена тавараў было на суму 22 290 руб.; прададзена – на 8 520 руб.; на Дзевятніцкі – адпаведна 23 910 і 9715. Было прыгнана коней на 20 тыс. руб., а прададзена – на 11 тыс. руб.[99] У 1850-я гг. сярэдні прывоз штогод складаў 23 231 руб., а продаж – 17 780 руб. (77%)[100]. У канцы 1850-х гг. абароты былі вышэй за сярэдні паказ-

---

[94] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 24.
[95] Там жа.
[96] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.1. Адз. зах. 917. Арк. 9.
[97] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 30.
[98] Без-Карнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии… С. 210.
[99] НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 188 адв.
[100] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 31.

чык. Шклоўскія кірмашы працягваліся па два тыдні. Прыязджалі на іх купцы з Масквы, Тулы, Вязьмы, Даргабужа, Смаленска, Тарапца, Чарнігава, Магілёва, Вільні, Мінска і розных мястэчак беларускіх губерняў[101]. Па звестках за 1824 г., у Магілёўскім уездзе існавалі кірмашы таксама ў мястэчках Бялынічы (2), Галоўчын (2), Цяцерына (1), Княжыцы (1)[102]. Відаць, пазней яны перасталі збірацца.

У Беліцкім уездзе значную ролю ў кірмашовым гандлі адыгрываў Гомель, які стаў перавалачным пунктам паміж Беларуссю і Украінай, буйным гандлёвым цэнтрам паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі. У мястэчку (з 1852 г. уезны горад) праходзілі тры кірмашы: Васільеўскі, Троіцкі, Узвіжанскі. Яны, па словах Без-Карніловіча, "уподобляют Гомель губернскому городу"[103]. У 1840-я гг. сярэдні прывоз на ўсе кірмашы мястэчка складаў 369 127 руб., продаж – 225 259 (61%). У 1850–1856 гг. ён упаў да 188 151 руб., а продаж – да 108 138 (57%). З 1857 па 1859 г. зноў назіраўся пад'ём: адпаведна 924 280 руб. і 540 347 руб. (58%)[104]. На гомельскіх кірмашах быў значны гандаль коньмі: у 1842 г. на ўсе тры кірмашы было прыгнана коней на 45 тыс. руб. Гамяльчане зарабілі падчас кірмашоў у гэтым годзе 6200 руб.[105] Адзначым, што вылучэнне Гомеля ў якасці цэнтра рэгіянальнага гандлю знізіла гандлёвыя функцыі ўезнага горада Беліцы. Чатыры кірмашы, якія былі прызначаны ў 1804 г. у Беліцы (6 снежня, 9 мая, 8 верасня, 2 лютага) па просьбе хрысціянскай і габрэйскай грамады, не праводзіліся[106].

У Беліцкім уездзе існавалі таксама кірмашы ў м. Ветка – Сырны (сакавік) і Спаскі (жнівень), м. Хальч – Пятроўскі (ліпень) і Міхайлаўскі (лістапад). У 1848–1849 гг. на гэтыя кірмашы прывозілі тавараў на суму 67 тыс. руб., а прадавалі на 40 тыс. руб. (60%), у 1850-я гг. прывоз у сярэднім штогод складаў суму 136 709 руб., а продаж – 82 621 руб. (60%)[107].

У Чэрыкаўскім уездзе кірмашы збіраліся ў Крычаве (1) і Краснаполлі (4). Яны працягваліся па два дні[108]. У 1842 г. прывоз на гэтыя кірмашы склаў 9 550 руб., а продаж – 7 270 (76%). У 1847–1849 гг. сярэдні прывоз штогод быў на 30 000 руб., а продаж – на

---

[101] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 159.

[102] РДГА. Ф. 560. Воп. 8. Адз. зах. 638. Арк. 46; НГАБ. Ф. 2001. Воп.1. Адз. зах. 62. Арк. 32.

[103] Без-Карнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии… С. 214.

[104] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 29.

[105] НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 52, 60, 72.

[106] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі... С. 73.

[107] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 31.

[108] НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 9 адв. 10.

28 000 руб. (93%), у 1850-я гг. прывоз знізіўся да 23 754 руб., а продаж – да 14 917 руб. (63%)[109]. Як бачым, паступова на гэтых кірмашах ішло скарачэнне гандлю.

У мястэчках Рагачоўскага ўезда, па звестках за 1824 г., існавала 13 кірмашоў: у Ціхінічах (3), Чачэрску (3), Корме (3), Жлобіне (4). Пазней (у 1840–1850-я гг.) збіраліся пяць кірмашоў: у Ціхінічах (1), Чачэрску (2), Гарадцы (1), Жлобіне (1). У канцы 1840-х гг. на ўсе гэтыя кірмашы штогод прывозілі тавараў на суму 25 тыс. руб., прадавалі – на 14 тыс. руб. (56%), у першай палове 1850-х абароты падымаліся, з 1855 г. скарачаліся, а ў 1859–1860 гг. зноў падняліся[110]. Кірмашы мястэчак Рагачоўшчыны збіралі ад 400 чалавек (Ціхінічы, Гарадзец) да 1200 (Жлобін, Чачэрск). Жыхары зараблялі ад найму дамоў да 80 руб. серабром[111].

У Быхаўскім уездзе было чатыры кірмашы. Усе яны збіраліся ў м. Журавічы: Масленіцкі, Праскоўеўскі, Дзевятнік і Ільінскі. У 1842 г. прывоз тавараў на ўсе кірмашы склаў суму 17 тыс. руб., а продаж – 13 200 руб. (77,6%). Прыбытак гандляроў склаў 3% ад сумы кошту тавараў, жыхары мястэчка ад найму дамоў, крамаў, хлявоў, свірнаў зарабілі каля 1500 руб. серабром[112]. З канца 1840-х гг. абароты кірмашоў Журавічаў скарачаліся[113].

Вялікая колькасць местачковых кірмашоў існавала ў першай трэці XIX ст. у Клімавіцкім уездзе: у Касцюковічах (3), Хоцімску (2), Мілаславічах (2), Лазовічах (2), Родні (2), Забычанні (1), Хатовіжы (1), Пятровічах (1). Нязначныя абароты гэтых кірмашоў праяўлялі тэндэнцыю да змяншэння. У Капыскім уездзе кірмашы збіраліся ў мястэчках Талачын (3–4), Смаляны (1–3), Бобр (1). Штогод было 6–7 кірмашоў. Продаж тавараў на іх даходзіў у 1840-я гг. да 4 тыс. руб., а ў 1850-я гг. упаў да 1601 руб.[114]

Ёсць звесткі аб існаванні двух кірмашоў у мястэчках Хаславічы і Шамава Мсціслаўскага ўезда. Кірмаш у Хаславічах пачынаўся 24 ліпеня і працягваўся два тыдні. У 1842 г. на яго было прывезена тавараў на суму 111 487 руб., а прададзена – на 34 072 руб (30,5%). Кірмаш прынёс уладальніку мястэчка прыбытак у 2500 руб., а жыхарам ад найму дамоў – да 280 руб., ад продажу прадуктаў – да 200

---

109 Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 31.
110 Там жа.
111 НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 16–18 адв.
112 Там жа. Арк. 196–199.
113 Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 32.
114 Там жа.

руб.[115] Галоўным прадметам гандлю на кірмашы м. Шамава былі коні. У сярэднім штогод прывоз складаў 3251 руб., а продаж – 1377 руб. (42%). У другой палове 1850-х гг. з’явіліся даныя аб існаванні двух кірмашоў у м. Расна Чавускага ўезда. Яны былі невялікімі: тавараў прывозілася ў сярэднім на 623 руб., прадавалася на 461 руб. (74%)[116].

Вялікая колькасць местачковых кірмашоў мелася ў *Мінскай губерні.* Згодна з “Тапаграфічным апісаннем Мінскай губерні”, на рубяжы XVIII–XIX стст. у мястэчках збіраліся 94 кірмашы: у Мінскім уездзе – 4 (Койданава – 1, Заслаўе – 1, Івянец – 1, Камень – 1), Ігуменскім – 7 (Беразіно – 1, Дукоры – 4, Пухавічы – 2), Бабруйскім – 6 (Глуск – 1, Азарычы – 2, Парычы – 2, Свіслач – 1), Рэчыцкім – 17 (Горваль – 3, Нароўля – 1, Брагін – 3, Холмеч – 4, Хойнікі – 3, Юрэвічы – 3), Мазырскім – 8 (Скрыгалава – 2, Капаткевічы – 1, Петрыкаў – 1, Лахва – 2, Кажан-Гарадок – 2), Пінскім – 6 (Лагішын – 2, Пагост – 1, Столін – 4), Слуцкім – 11 (Бабоўня – 2, Візна – 1, Клецк – 2, Ляхавічы – 1, Пагост – 4, Старобін – 1), Барысаўскім – 6 (Лагойск – 3, Плешчаніцы – 2, Халопенічы – 1), Дзісенскім – 4 (Паставы – 4), Вілейскім – 25 (Ст. Мядзель – 4, Новы Мядзель – 3, Лебедзева – 5, Даўгінава – 2, Ілія – 2, Будслаў – 3, Дунілавічы – 2, Куржанец –3, Маладзечна – 1)[117].

У другой трэці XIX ст. колькасць сталых местачковых кірмашоў Мінскай губерні вагалася ад 25 да 60 ў год.

У Мінскім уездзе з пачатку 1840-х гг. кірмашы сталі збірацца ў Койданаве (3–4), з 1847 г. да іх дадаліся яшчэ два і з’явіліся па адным кірмашы ў Стоўбцах і Свержані. З 1858 г. кірмаш адкрыўся ў м. Івянец. Абароты трох кірмашоў у Койданаве былі спачатку каля 2–3,6 тыс. руб. на кожным, але паступова яны знізіліся да 1,2–2,5 тыс. руб. Астатнія кірмашы ўезда па сваіх абаротах былі невялікімі і рэдка перавышалі 1 тыс. руб. Фактычна гэта былі свайго роду расшыраныя базары[118].

У Бабруйскім уездзе да 1845 г. збіраўся толькі адзін местачковы кірмаш у Парычах. У 1846–1847 гг. у губернатарскіх справаздачах называліся кірмашы ў Казіміраве, Паболаве, Любанічах. Аднак у далейшым звестак аб іх няма. З 1848 г. кірмашовы гандаль адбываўся ў Азарычах. Прывоз тавараў на ўсе кірмашы гэтага ўезда ў 1840-я гг. быў на суму 34 330 руб., продаж – 12 771 руб. (37%). Аналіз абаротаў

115 НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 27 адв.

116 НГАБ. Ф. 2001. Воп.1. Адз. зах. 62. Арк. 8–13; Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 32.

117 РДГА. Ф. 1350. Воп.312. Адз. зах. 90. Арк. 13–158.

118 Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 27.

кірмашоў Бабруйшчыны гаворыць аб іх скарачэнні з 1851 г. і часовым уздыме ў 1858–1859 гг.[119]

У Барысаўскім уездзе збіраўся невялікі кірмаш у Лагойску, затым ён перабраўся ў Халопенічы. У першыя гады абароты былі нязначнымі, потым яны ўзраслі да некалькіх тысяч рублёў. З 1859 г. намецілася скарачэнне гандлю. У Ігуменскім уездзе кірмашы праходзілі ў Лядах (1), Беразіне (1), Пухавічах (1–2). Асноўным быў кірмаш у Беразіне, дзе прывоз тавараў у 1842–1847 гг. складаў 5–6 тыс. руб., у 1849–1853 гг. – 10–12 тыс., у 1854–1856 гг. – 5–7 тыс., у 1857–1860 – 12–15 тыс. руб. Як бачым, абароты яго ўвесь час вагаліся, але заставаліся на дастаткова высокім узроўні. На іншыя кірмашы Ігуменскага ўезда прывоз тавараў быў усяго на некалькі сотняў рублёў[120].

Некалькі кірмашоў існавала ў мястэчках Мазырскага ўезда: у Тураве (2) і Петрыкаве (1–2). Разам узятыя абароты гэтых кірмашоў складалі некалькі тысяч рублёў. У 1840-я гг. яны былі ў 2–3 разы вышэй, чым у 1830-я гг., але ў 1850-я зноў знізіліся. У Навагрудскім уездзе кірмашовы гандаль праходзіў у Любчы (1), Карэлічах (1), Гарадзішчы (1–2), Стваловічах (2), Новай Мышы (1–2), Міры (8). У 1840-я гг. на гэтыя кірмашы прывозілася ў сярэднім тавараў на суму 14 735 руб., а прадавалася на 10 004 руб. (68%), у 1850-я прывоз павысіўся да 22 141 руб., продаж складаў у сярэднім 10 072 руб. (45%)[121].

У Пінскім уездзе агульная колькасць кірмашоў да 1850 г. складала 14, а з 1851 г. – 8. У Любяшове да 1842 г. іх было 3, затым 4. У Століне да 1849 г. існавала 4 кірмашы. У Лагішыне ўвесь час было 3 кірмашы. У Кажан-Гарадку ў 1833–1839 гг. іх было 4, а за 1842 г. – адзін. У 1844 г. пачаўся кірмашовы гандаль у Судчы, а ў 1858 г. адзін кірмаш збіраўся ў м. Вайнаўка. У 1830-я гг. прывоз на местачковыя кірмашы Піншчыны раўняўся ў сярэднім штогод 2425 руб., продаж – 1712 руб. (71%), у 1840-я – адпаведна 56 455 і 27 242 руб. (48%), у 1850-я – 19 598 і 12 470 руб. (60%). У Рэчыцкім уездзе па два кірмашы праходзіла ў Брагіне і Хойніках. Прывоз тавараў на іх у 1830–1850-я гг. нязначна ўзрастаў і складаў 6–7 тыс. руб., а рэалізацыя падала – ад 73 да 46 %.[122].

Такім чынам, большасць кірмашоў мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. мелі абароты не больш 2000–5000 руб., а нека-

[119] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии...

[120] Там жа.

[121] Там жа.

[122] Там жа. С. 28.

торыя і таго меней. Сфера іх гандлёвага ўплыву была невялікая. Яна ахоплівала вёскі і сёлы ў радыусе на 15–20 вёрстаў. Па абароце грашовых сум, па колькасці прывезеных і прададзеных тавараў вылучаліся Петрапаўлаўскі кірмаш у Бешанковічах Віцебскай губерні, Ганненскі ў Зэльве, Успенскі ў Свіслачы, Успенскі і Пакроўскі ў Прыбараве Гродзенскай губерні, Хрышчанскі ў Любавічах і Троіцкі ў Гомелі Магілёўскай губерні і інш.

Кірмашы прыносілі жыхарам і асабліва ўладальнікам мястэчак значныя прыбыткі. Так, інфраструктура Зэльвы (трактыр, буфет, більярд, тэатр, кандытарская зала, кабакі, шынкі, 174 крамы і склепы) разам з кірмашовымі зборамі ("брамавае" – за ўезд у мястэчка, "экспедыцыя" – за выезд з яго, "гандлёвае") давалі Сапегам ад 2 367 да 4 170 руб. серабром[123]. Зараблялі і местачкоўцы: у 1829 г., напрыклад, 370 руб. серабром[124].

Аб тым, што кірмашы спрыялі росту мястэчак, развіццю іх эканомікі, яскрава сведчаць аргументы, якія прыводзілі ўладальнікі ў сваіх прашэннях на дазвол заснавання кірмашоў. Так, у 1814 г. княгіня Чацвярцінская тлумачыла міністру ўнутраных спраў, што Скідзель вельмі пацярпеў падчас ваенных дзеянняў 1812 г. і што найлепшым сродкам паправіць яго "крайнее разорение" з'яўляецца заснаванне двух кірмашоў[125]. Памешчыца Каменская шляхам адкрыцця дадатковага кірмашу ў Даўгінаве імкнулася паправіць цяжкае становішча збяднелых местачкоўцаў пасля пажараў 1817 і 1818 гг.[126]

У вывучаемы перыяд местачковыя кірмашы на працягу года праходзілі нераўнамерна. Большая іх частка была з канца вясны да пачатку восені. Гэта тлумачылася нераўнамернасцю размеркавання рэлігійных свят, у дні якіх праходзілі ўсе беларускія кірмашы. Акрамя таго, на перыядычнасць склікання кірмашоў паўплывалі такія фактары, як кліматычныя ўмовы, ад якіх залежаў стан сухапутных і водных шляхоў зносін, а таксама наяўнасць таварных лішкаў і патрэбнасць у грошах і таварах у асноўнага ўдзельніка кірмашоў – селяніна. Па назіранні В. Шведа, нераўнамернасць склікання кірмашоў паступова зніжалася[127]. Гэтаму ў многім садзейнічала дзейнасць адміністрацыі. Для адкрыцця новых кірмашоў і таргоў патрабавалася, каб просьбіт паведамляў, ці ёсць ужо ў дадзенай мясцовасці ці па суседстве кірмашы, у які тэрмін яны праходзяць, якой працягласці. Гэта дазваляла выбраць найбольш аптымальны тэрмін і час пачатку

---

[123] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 4. Адз. зах. 233. Арк. 2 адв.
[124] Там жа. Воп. 3. Адз. зах. 428 Арк. 25–26 адв.
[125] Там жа. Воп. 1. Адз. зах. 408. Арк. 2.
[126] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 519. Арк. 1.
[127] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 12.

кірмашоў. Аналіз сезоннага размеркавання кірмашоў, такім чынам, дазваляе адзначыць наяўнасць гандлёвых сувязей паміж мястэчкамі, у якіх збіраліся кірмашы.

Працягласць кірмашу залежала галоўным чынам ад яго маштабаў: тавараабароту і колькасці народу. Чым вышэй быў абарот кірмашу, тым даўжэй ён працякаў. Найбольш працяглымі былі кірмашы ў мястэчках Зэльва (3–4 тыдні, звычайна з 26 ліпеня па 25 жніўня), Бешанковічы (3–4 тыдні, звычайна з 6 па 27 ліпеня), Свіслач (спачатку два тыдні, затым месяц, з 25 жніўня па 25 верасня), Любавічы (месяц, з 6 студзеня па 6 лютага), Хаславічы (два тыдні, з 24 ліпеня па 7 жніўня), Лагішын (два тыдні, з 24 ліпеня па 6 жніўня), Гомель (з 1 па 7 студзеня) і інш. Яны, як правіла, былі і найбольш прадстаўнічыя. Напрыклад, у 1837 г. на Бешанковіцкі кірмаш з’ехаліся “дваранства болей за 200 фамілій, купецтва расійскага – 50, рознага звання людзей – да 11000”. На Хрышчанскім кірмашу ў м. Любавічы у 1842 г. прысутнічалі 58 фамілій дваранства, каля 100 – купецтва, да 4000 чалавек “пасадскіх”. У 1842 г. на Троіцкі кірмаш у Гомель з’ехалася каля 14 000 чалавек, на Васільеўскі – каля 8000. На Шклоўскія кірмашы ў гэтым жа годзе з’ехалася каля 10 000 чалавек[128]. У разгар Зэльвенскага кірмашу яго штодзённа наведвала каля 3000 чалавек. Цікавыя суадносіны яго ўдзельнікаў: у 1860 г. 41% складалі гандляры, якія прыбылі з таварамі, 40% – пакупнікі, астатняя частка – абслуга (у тым ліку тэатральныя акцёры, музыканты, 12 публічных жанчын)[129].

Большасць местачковых кірмашоў былі кароткачасовымі (1–3 дні), асабліва вылучаліся ў гэтай групе аднадзённыя кірмашы. Характэрна, што з цягам часу доля адна-двухдзённых кірмашоў павялічвалася. Гэта адбывалася на фоне агульнага колькаснага росту дадзенай формы гандлю. Скарачэнне працягласці кірмашоў кампенсавалася павелічэннем іх агульнай колькасці, больш раўнамерным размеркаваннем на працягу года. Адзначаная тэндэнцыя садзейнічала паскарэнню абароту капіталаў, паколькі гандляр за той жа час паспяваў наведаць большую колькасць кірмашоў і базараў, чым раней. Скарачэнню працягласці кірмашоў садзейнічалі і такія фактары, як наладжванне больш моцных гандлёвых сувязей паміж пакупнікамі і прадаўцамі, усталяванне больш ці менш стабільных цэн на тавары. Адчувальнай была і сувязь паміж пра-

---

128 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп.4. Адз. зах. 50. Арк.1; НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 20241. Арк.10; Ф. 2001. Воп.1. Адз. зах. 167. Арк. 26; Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 610. Арк. 48.

129 Вайцешчык, Г.С. Развіццё гандлю ў мястэчках Гродзенскай губерні ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: Дыс. ... магістра гіст. навук / Г.С. Вайцешчык. Гродна, 2008. С. 35.

цягласцю кірмашу і шчыльнасцю насельніцтва, станам шляхоў зносін, перавагай рознічнага характару кірмашовага гандлю.

Паляпшалася камерцыйна-інфармацыйная дасведчанасць удзельнікаў гандлёвага працэсу. Інтэнсіўней пачало асвятляцца становішча гандлёвых спраў у друку. Шэраг артыкулаў аб буйных беларускіх кірмашах з'явіўся ў канцы 20-х – пачатку 30-х гг. XIX ст. на старонках "Журнала Министерства внутренних дел". У 1834 г. выйшаў "Спіс кірмашоў Расійскай імперыі". Інфармацыя аб кірмашах друкавалася на старонках мясцовых выданняў. Так, калі памешчыца Каменская ў 1819 г. дабілася права заснаваць дадатковы трохтыднёвы кірмаш у Даўгінаве, то для пашырэння гэтай інфармацыі было зроблена распараджэнне: "для повсеместного объявления предписать градским полициям и нижним земским судам указами, и сверх того припечатать об оном в Литовском курьере"[130].

Звычайнымі на кірмашах з'яўляліся тавары штодзённага масавага попыту. Самымі распаўсюджанымі з іх былі земляробча-раслінныя і мяса-рыба-птушыныя. Прывозіліся таксама мануфактурная прадукцыя, металы і металічныя вырабы.

Па таварнай спецыялізацыі кірмашы можна падзяліць на тры групы: сельскагаспадарчыя, мануфактурныя і універсальныя. У мястэчках пераважна адбываліся універсальныя кірмашы. На іх можна было набыць самыя разнастайныя па асартыменце тавары. Актыўнымі ўдзельнікамі на такіх кірмашах з'яўляліся земляробы, купцы, сяляне-гандляры, мяшчане. Яны былі і пакупнікамі, і прадаўцамі. Універсальнымі з'яўляліся ўсе буйныя местачковыя кірмашы. Другімі па значэнні былі сельскагаспадарчыя кірмашы. Тут галоўнымі былі земляробча-раслінныя і мяса-рыба-птушыныя тавары і вырабы сялянскіх промыслаў. Прадаўцамі на іх выступалі, як правіла, земляробы, пакупнікамі – гандляры, якія, скупіўшы прадукцыю, збывалі яе ў іншых месцах непасрэдна спажыўцам. Сельскагаспадарчымі, напрыклад, з'яўляліся Міхайлаўскі кірмаш у м. Ціхінічы і Успенскі ў Гарадцы Рагачоўскага ўезда Магілёўскай губерні. Мануфактурных кірмашоў у мястэчках не існавала. У цэлым па Беларусі яны складалі толькі 2% ад усёй колькасці кірмашоў у 1830-я гг.[131]

У 1830–1850-я гг. у Беларусі стала выяўляцца спецыялізацыя асобных кірмашоў на гандлі якім-небудзь пэўным таварам. Так, кірмаш

[130] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 519. Арк. 5.

[131] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии в период кризиса феодализма (1830–1850-е гг.) / В.В. Швед. Гродно, 1995. С. 31, 16.

у м. Парычы Бабруйскага ўезда спецыялізаваўся на гандлі грыбамі, якіх тут прадавалася на суму 20 тыс. руб.[132] Галоўным прадметам продажу на кірмашах Шклова і Шамава былі коні[133]. Буйнейшы гандаль коньмі ішоў і ў Бешанковічах. Пераважна коньмі і быдлам гандлявалі таксама на кірмашы ў Койданаве. Гэта нараджала і розныя адмысловыя прафесіі, такія як, напрыклад, “конскія дантысты”, якія шліфавалі зубы старому каню: пятнаццацігадовы каняка выходзіў з іх рук “пяцігадовым конікам”[134]. Конскімі кірмашамі славіліся таксама Мір, Гомель, Зэльва. Адначасова названыя мястэчкі мелі і сумную славу цэнтраў канакрадства. Асабліва вылучаўся ў гэтых адносінах Мір, гняздо выдатна арганізаваных конскіх злодзеяў. Паводле сведчання А. Ельскага, у мірскім фарным касцёле св. Мікалая быў абраз св. Антонія, апекуна згубленых рэчаў, і ўвесь ён быў абвешаны срэбнымі дарамі ў выглядзе коней: “Прычына з’яўлення гэтых адмысловых дароў была самая натуральная, бо Міршчына заўсёды вызначалася надзвычайнай прыгажосці табунамі і адначасна крадзяжамі, што ўчынялі мясцовыя цыганы”[135].

Па сваім прызначэнні местачковыя кірмашы можна падзяліць на групы на падставе трох асноўных функцый: мабілізацыі, рэалізацыі, перапродажу тавараў. Пераважала функцыя рэалізацыі. Прычына гэтага ў тым, што асноўныя ўдзельнікі кірмашовага гандлю – сяляне – выступалі тут у першую чаргу пакупнікамі разнародных тавараў і ў меншай ступені – прадаўцамі. Для іх галоўную ролю ў мабілізацыі ўласнай прадукцыі гаспадарак адыгрывалі базары. На вялікіх кірмашах (у Зэльве, Свіслачы) існаваў перапродаж тавараў[136]. Пераважная большасць местачковых кірмашоў абслугоўвалі пэўны мясцовы рынак. Аднак на шэраг кірмашоў мястэчак Беларусі траплялі і тавары з усёй Расійскай імперыі і са знешніх рынкаў.

Адзначым, што доля тавараў мясцовай вытворчасці на кірмашах паступова ўзрастала, што было абумоўлена развіццём прамысловасці. Удзельная вага мясцовых тавараў на кірмашах Беларусі, па падліках А. Лютага, павялічылася з 13% у канцы XVIII ст. да 29% у канцы 30-х гг.

---

[132] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 2. СПб., 1864. С. 379.

[133] НГАБ. Ф. 2001. Воп.1. Адз. зах. 167. Арк.188.

[134] Бядуля, З. Лірыка мястэчка Койданава / З. Бядуля // Наш край. 1930. № 1. С. 36.

[135] Ельскі, А. Гарады і мястэчкі / А. Ельскі // Выбранае / Аляксандр Ельскі; уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука. Мінск, 2004. С. 289.

[136] Якубоўскі, Я.А. Мястэчка / Я.А. Якубоўскі // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 7 Минск, 1973. С. 343.

XIX ст.[137] Па звестках В.В. Шведа, на 78% кірмашоў у 30-я гг. XIX ст. адбывалася рэалізацыя гандлярамі айчынных тавараў. Рэалізацыя імпартных тавараў зарэгістравана на 30% кірмашоў. Аб большым попыце на прадукцыю мясцовай вытворчасці яскрава сведчыць наступны прыклад. У 1830 г. на Зэльвенскі кірмаш сукна мясцовых прадпрыемстваў паступіла на суму 80 544 руб., а прададзена было на 60 000 руб. (74%), у той жа час як сукна замежнага было прывезена ўсяго на 10 080 руб., а прададзена толькі на 6000 руб. (59%)[138].

Аналіз местачковых кірмашоў і іх абаротаў прыводзіць да наступных высноў. Пераважная большасць кірмашоў Беларусі збіралася ў мястэчках, а не ў гарадах, агульная сума тавараў тут таксама была вышэй. Аднак у мястэчках пераважалі кірмашы з дробязным і рознічным характарам гандлю. Таму ў сярэднім абароты кожнага местачковага кірмашу былі меншымі за абароты гарадскога кірмашу. К сярэдзіне XIX ст. тавараабароты местачковых кірмашоў, за некалькімі выключэннямі, паступова падалі. Большая частка іх перарадзілася ў вялікія базары. Ужо ў 1842 г. мінскі губернатар пісаў у справаздачы, што амаль усе местачковыя кірмашы "в существе не что иное, как усиленные срочные базары, на коих поселяне выменивают произведения и изделия свои на необходимые в быту вещи, коих сами для себя изготовить не могут"[139]. Аб гэтым жа пісаў І. Зяленскі: "...все ярмарки большею частию имеют вид обширных базаров"[140]. Аднак у разглядаемы перыяд у некаторых мястэчках існавалі буйныя кірмашы са значным тавараабаротам (Зэльва, Бешанковічы, Гомель і інш.). А. Люты да ліку буйнейшых кірмашоў Беларусі ў 30–50-я гг. XIX ст. адносіць 19 местачковых. Па губернях яны размяркоўваліся наступным чынам: у Гродзенскай губерні буйных местачковых кірмашоў налічвалася 5, Магілёўскай – 4, Мінскай – 7, Віцебскай – 3[141]. Вакол буйных местачковых кірмашоў групаваліся кірмашы з меншай колькасцю ўдзельнікаў. У цэлым пераважалі ў мястэчках невялікія, кароткачасовыя кірмашы.

Такім чынам, мястэчкі адыгрывалі вельмі значную ролю ў развіцці кірмашовага гандлю Беларусі. У яго сетцы, якая ўяўляла стройную сістэму ўзаемазвязаных паміж сабой кірмашоў, мястэчкі займалі

---

137 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 107.

138 Адащик, Ф.И. Ярмарочная торговля в городах и местечках Белоруссии… С. 12.

139 Цыт. па: Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С. 33.

140 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И.Зеленский. Ч. 2. СПб., 1864. С. 379.

141 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 105–106.

галоўнае месца, пакідаючы гарадам другарадныя пазіцыі. Нягледзячы на пэўную тэндэнцыю скарачэння абаротаў местачковых кірмашоў, гэта форма гандлю ў першай палове XIX ст. утрымлівала дастаткова моцныя пазіцыі.

Акрамя непасрэдна гандлёвай ролі кірмаш адыгрываў і шэраг іншых. Надзвычай разнастайныя яго культурныя функцыі, што будзе паказана ў пятым раздзеле. Для габрэйскай супольнасці кірмаш – гэта яшчэ месца і час, дзе і калі дамаўляліся наконт сватаўства, а таксама рабілі наборы ў *ешывы*[142]. Былі перыяды, калі некаторыя мястэчкі ў час кірмашу выступалі своеасаблівымі "сталіцамі" габрэйскіх абшчын Вялікага Княства Літоўскага. У 1720 г. у Індуры падчас кірмашу збіраўся для раскладкі падаткаў *Літоўскі Ваад*[143]. Пасля яго скасавання ў 1764 г. рабіны галоўных абшчын для вырашэння розных пытанняў, галоўным чынам рэлігійных, збіраліся ў Зэльве.

Архіўныя матэрыялы дазваляюць вылучыць яшчэ і палітычную функцыю некаторых кірмашоў. У Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі ў фондзе "III адзялення канцылярыі Яго імператарскай вялікасці" захоўваецца данос "Аб з'ездах палякаў на кірмаш у Зэльву" (1832 г.). Аўтар яго – купец-габрэй з Беластока Гірш Гальперын, агент жандармаў – дакладваў: "...На ярмарки в Зельву и Свислочь приезжают большое число польских помещиков из Виленской, Гродненской, Минской, Волынской губерний, Белостокской области, и даже из Царства Польского. Я, бывши несколько раз на сих ярмарках, заметил, что большая часть вышеупомянутых помещиков не занимаются никакими делами, только единственно съезжаются с целью иметь с собою секретное свидание"[144].

Акрамя кірмашовай у мястэчках развіваліся і іншыя формы гандлю. Прасачыць ***развозна-разносны, базарны і стацыянарны гандаль*** уяўляецца даволі складаным з-за недахопу звестак. Існаваўшая сістэма падаткаабкладання не патрабавала ўліку гэтых форм гандлю. Таму наяўныя даныя ўрывачныя і эпізадычныя.

Развіццё дробнага, разноснага гандлю ў мястэчках адзначалі многія прыезджыя. Так, напрыклад, адзін з падарожнікаў Н. Шчукін успамінаў, што ў станцыйнай карчме м. Усвяты ў 1846 г. разносчыкі прапаноўвалі купіць "духи, помаду, часовые ключики, цепочки,

---

142 *Ешывы* – вышэйшыя рэлігійныя навучальныя ўстановы іудзеяў.

143 *Ваад* (у перакладзе з іўрыта азначае "савет", "з'езд") – выбарны орган габрэйскага абшчыннага самакіравання ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы.

144 ДАРФ. Ф. 109. Воп. 7. Адз. зах. 299. Арк. 2.

мыло..."[145]. Па звестках Без-Карніловіча, развозна-разносны гандаль актыўна адбываўся ў мястэчку Шклоў: "тамошние евреи держат заездныя домы: не успеете заехать во двор, еще лошади из экипажа не отложены, а уж купцы с товарами вас ожидают у дверей квартиры"[146]. У. Сыракомля занатаваў, што местачковыя габрэі абступалі ўсіх, хто праязджаў па вуліцы ці спыняўся каля карчмы, і наперабой расхвальвалі сваю якую-небудзь прызначаную на продаж драбязу[147].

Унутраны рынак Беларусі разглядаемага перыяду меў патрэбу ў мностве дробных гандлёвых пасрэднікаў: прасолах, карабейніках, фактарах, маклерах, камісіянерах і г.д. Яны адыгрывалі значную ролю ў развозна-разносным гандлі і ў гарадах, і ў мястэчках, і ў сельскай мясцовасці.

Неад'емнай часткай гандлёвай дзейнасці мястэчак з'яўляліся *базары* ці *таргі*, якія праводзіліся 1–2 разы на тыдзень. Асноўным базарным днём была нядзеля. У базарныя дні большасць тавараў прадавалася непасрэдна з вазоў ці прымітыўных часовых прылаўкаў. У крыніцах сустракаліся звесткі аб існаванні ў мястэчках сталых крам і складскіх пабудоў. Як пісаў І. Зяленскі, у гандлёвыя дні ў любым мястэчку Мінскай губерні "базарные площадки загромождены крестьянскими повозками с хлебом, сеном, дровами, домашнею птицею и другими продуктами сельского хозяйства"[148]. Вось як апісваў таргі м. Клецк П. Шпілеўскі: "...Кто везет рожь, пшеницу, гречиху, кто – полотно, лен, сохи, колеса и другие изделия сельской мануфактуры, а кто тащит кур, гусей, индеек, баранов и кабанов. Все это сбывают выгодно, а на вырученные деньги закупают у татар кожи, лук, картофель, горох, кукурузу, репу, морковь и прочее, а у евреев – главных представителей клецкого двора – красные галантерейные товары, а также табак и готовое платье"[149].

Функцыі базараў не абмяжоўваліся толькі забеспячэннем местачкоўцаў прадуктамі харчавання. На іх адбывалася закупка сельскагаспадарчых прадуктаў (хлеба, ільна і г.д.) для адпраўкі ў іншыя губерні і нават за мяжу; а сяляне пасля рэалізацыі прадукцыі атрымлівалі тут грашовыя сумы, неабходныя для выплаты падаткаў,

---

145 Цыт. па: Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С.36.

146 Без-Карнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии… С. 210.

147 Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах... С. 208.

148 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 2. СПб., 1864. С. 379.

149 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992. С. 61.

павіннасцей, даўгоў і для набыцця сельскагаспадарчых прылад, мануфактурных тавараў. Асноўнымі ўдзельнікамі базараў былі сяляне і дробныя гандляры, якія паходзілі з мяшчан, а таксама дробная шляхта, дробныя купцы-габрэі, рамеснікі. Заўважым, што базарны гандаль быў цесна звязаны з гаспадарчым жыццём сялянства. Ранняй восенню і ўзімку, калі сялянства ўжо скончыла палявыя работы, базары былі больш ажыўленымі і па асартыменце тавараў, і па колькасці ўдзельнікаў. А ўвесну і летам базарны гандаль заміраў па прычыне занятасці вяскоўцаў сельскагаспадарчай працай.

Такім чынам, базарная форма гандлю адыгрывала сваю пэўную ролю ва ўнутраным гандлі Беларусі, дапаўняючы кірмашовую і развозна-разносную форму. Мястэчкі займалі ў сістэме базарнага гандлю значнае месца, таму што штотыднёвыя таргі існавалі ў кожным мястэчку, і на іх ажыццяўлялася асноўная частка гандлёвых аперацый мястэчак.

Распаўсюджанне ў мястэчках атрымаў і стацыянарны гандаль. Нягледзячы на няпоўнасць звестак, у мястэчках магчыма прасачыць агульную для Беларусі вывучаемага перыяду тэндэнцыю да пашырэння сеткі стацыянарнага гандлю. Так, у м. Смаргонь у 1788 г. налічвалася 30 крам і 22 свірны, а ў 1835 г. – 46 крам і 43 свірны[150]. У інвентары Капыля пачатку XIX ст. значыліся 56 крам[151]. У 1819 г. у Даўгінаве было 44 крамы. У 1834 г. у Дзятлаве – 19[152]. У 1825 г. у мястэчках Шарашова і Бяроза налічвалася па 16 крам, у м. Ружаны – 10, а ўсяго ў мястэчках Гродзенскай губерні – 78[153]. У 1833 г. у мястэчках Гродзенскай губерні лічылася 269 крам, якія размяркоўваліся наступным чынам: Брэсцкі ўезд: Уладаўка – 3 крамы, Камянец-Літоўск – 10, Воўчын – 6, Высока-Літоўск – 8; Ваўкавыскі ўезд: Рось – 4, Мсцібава – 6, Воўпа – 25, Зэльва – 84, Свіслач – 48, Поразава – 6; Слонімскі ўезд: Ружаны – 6, Дзярэчын – 3, Дзятлава – 5, Косава – 2; Гродзенскі ўезд: Лунна – 3, Скідзель – 18, Вял. Бераставіца – 18, Індура – 8, Азёры – 6[154].

Значная колькасць крам была ў Шклове. Тут актыўна гандлявалі не толькі габрэі, але і сяляне мястэчка. Паводле інвентара 1776–1777 гг. у мястэчку налічвалася “49 хрысціянскіх крамаў, 44 – габрэйскіх, 15 – скарбовых, 12 – скарбовых на арэндзе; ад усіх крам

150 Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Сморгонь. Минск, 1977. С. 205; НГАБ у Гродна. Ф. 515. Воп. 2. Адз. зах. 1. Арк. 32, 106.

151 AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1757.

152 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп.4. Адз. зах. 242. Арк. 3.

153 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. / А.М. Лютый. Минск, 1987. С. 42.

154 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 252. Арк. 22, 23, 29, 29 адв., 37, 53–58

уладальнік атрымліваў чынш у памеры 2372 злотых 20 грошаў"[155]. У "Эканамічных заўвагах" да планаў Магілёўскай губерні канца XVIII ст. крамны гандаль Шклова апісваўся наступным чынам: "Вокруг гостинного двора в нижнем этаже находятся 120 торговых лавок, в которых торгуют евреи разными товарами, как то сукнами, шелковыми материями, фруктами, галантерейными, пушными и разными мелкими товарами. При гостином дворе имеется 70 лавок деревянных, в которых торгуют оного же местечка жители, т.е. крепостные г-на Зорича крестьяне железом, посудою, рыбою, съестными припасами и разными мелкими товарами"[156].

Крамны гандаль актыўна развіваўся і ў Гомелі. Паводле той жа крыніцы, у канцы XVIII ст. тут налічвалася: "8 лавок при каменной стене вокруг костёла для продажи разных мелочных товаров; 30 деревянных лавок, построенных в два ряда, в коих торгуют евреи и обыватели разными шелковыми материями и сукнами; сверх того по разным местам 58 деревянных лавок, в коих также жители местечка торгуют разными мелкими товарами, а всего в местечке 96 каменных и деревянных лавок"[157]. Па звестках В. Чапко, у 1861 г. у Гомелі было ўжо 195 крам[158].

Крамы, як правіла, адчыняліся ў перыяд кірмашоў, а пасля іх зачыняліся, такіх, якія дзейнічалі, заставалася нямнога – 2–3, у некаторых мястэчках больш. Так было, напрыклад, у мястэчках Свіслач і Зэльва. У Зэльве падчас кірмашу адчыняліся, згодна з інвентаром 1830 г., 200 крам, якія потым зачыняліся[159]. Колькасць крам у мястэчках Лідскага ўезда складала ў 1861 г. 96, з іх 20 мураваных і 76 драўляных. Аднак гэтыя крамы адчыняліся толькі падчас кірмашоў[160]. А вось у Дуброўне крамны гандаль вёўся пастаянна: у канцы XVIII ст. тут меліся "72 лавки деревянные изрядной архитектуры, торг в них ежедневный красными товарами; малых лавок – 25"[161].

Звесткі аб крамным гандлі ў мястэчках Мінскай губерні за 1860 г. адлюстроўваюць саслоўную і этнічную прыналежнасць

[155] АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Адз. зах. 9271. Арк. 18.
[156] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 155.
[157] Там жа. Адз. зах. 705. Арк. 7.
[158] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. ... С. 97.
[159] АР бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. F4 – 34397 (А – 1840). Арк. 18–27.
[160] Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния / А. Корева. СПб., 1861. С. 389, 385, 518.
[161] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 724. Арк. 130.

іх уладальнікаў: агульная колькасць крам складала 385, з іх купцам належалі 8, а мяшчанам – 377 (пры гэтым з усіх 385 крам 378 належалі габрэям)[162].

Местачковыя гандлёвыя ўстановы ў разглядаемы час прадстаўлены не толькі крамамі. Яны адрозніваліся па характары прапануемых імі паслуг. Асабліва вялікай была колькасць "піцейных дамоў", шынкоў, корчмаў, вінных магазінаў, дзе прадавалі спіртныя напоі і закускі. Напрыклад, у 1833 г. у 45 мястэчках Гродзенскага, Брэсцкага, Ваўкавыскага, Слонімскага, Пружанскага, Кобрынскага, Навагрудскага, Лідскага ўездаў Гродзенскай губерні налічвалася 523 "піцейных дамы": ад 1 у Галынцы да 35 у Высока-Літоўску, у сярэднім 12 на адно мястэчка. Найбольш значныя і прыбытковыя карчмы знаходзіліся ў мястэчках Слонімскага ўезда: Свіслачы (2), Косава (1)[163].

Спынімся больш падрабязна на стацыянарным гандлі м. Свіслач Ваўкавыскага ўезда. На рыначнай плошчы мястэчка знаходзіліся 40 крам, якія адчыняліся ў перыяд кірмашу. Акрамя таго, тут пастаянна гандлявалі крамы, якія існавалі непасрэдна пры жылых памяшканнях: "… по м. Свислочи находятся лавки во всяких домах фронтовых жилых и не отдельно построенных, а только из одной фронтовой комнаты составленные, и в оных по большей части из разной мелочи торг состоит"[164]. У 1835 г. жыхар мястэчка купец Броўда звярнуўся да міністра фінансаў з прашэннем аб дазволе яму пабудаваць 12 мураваных крам з уплатай на карысць казны 120 руб. серабром у год. Гродзенская казённая палата сабрала неабходныя звесткі аб крамным гандлі ў Свіслачы. З 40 казённых крам, якія здаваліся ў арэнду прыезжым купцам на час кірмашу, даход складаў ад 8 да 10 руб. за кожную. "Свислочское еврейское общество не имеет особо лавок, а только таковые устроены в их домах от фронту, за что они платят чинш сообразно занимаемой ими земли, а особо за постройку лавок, никаким оброком не обложены. …всякий хозяин дома из еврейского общества имеет выданную крепостную сделку от прежнего вотчинника им. Свислочи референдария В. Тышкевича, из коей видно, что им дозволено распоряжаться и перестраивать домы по своей воле и для собственной выгоды, с тем только дабы не портить фронта…" Гродзенская казённая палата пастановай ад 3 лютага 1836 г.

---

[162] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 2. СПб., 1864. С. 382.

[163] Падлічана па: НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 252. Арк. 21–58.

[164] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 4. Адз. зах. 494. Арк. 1–3.

паведаміла, што “чрез существование в еврейских домах лавок казна не лишается дохода с собственных лавок, ибо таковые чрез время до ярмарки никем не занимаются… Ежели кто из жителей пожелает вновь строить дом с лавкою, чтобы уплачивал казне чинша по 5 руб. сер. в год кроме поземельного”[165].

Акрамя крам у Свіслачы існавалі і іншыя гандлёвыя пункты – корчмы, “піцейныя дамы”. Згодна з апісаннем Л. Патоцкага, на самым рынку мястэчка мясціліся 5 заезных корчмаў, якія мелі назвы: пад “Арлом”, “Аленем”, “Валом”, “Аднарожцам”, “Лебедзем”. Тут жа знаходзіўся “кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезжых”[166]. Паводле звестак за 1833 г., у Свіслачы было 12 “піцейных дамоў”[167].

На жаль, адсутнасць даных не дазваляе вызначыць агульную колькасць стацыянарных гандлёвых кропак у мястэчках Беларусі. Немагчыма вызначыць і аб’ём абаротаў стацыянарнага гандлю ў мястэчках. Ёсць толькі звесткі па некаторых мястэчках Гродзенскай губерні за 1822 г. У 14 мястэчках (Антопаль, Воўчын, Высокае, Гарадзішча, Драгічын, Камянец, Карэлічы, Любча, Мір, Новая Мыш, Нягневічы, Стваловічы, Хомск, Янава) паказаны абароты 118 крамнікаў-габрэяў. Яны вагаліся ад 5 да 900 руб. асігнацыямі. Выдзяляліся на агульным фоне дробязнага гандлю толькі Мір, дзе 18 крамнікаў мелі абарот ад 100 да 900 руб., альбо 323 руб. у сярэднім, і Гарадзішча, дзе было 11 крамнікаў з абаротам ад 150 да 600 руб. (309 руб. у сярэднім)[168]. Цікавы факт, які пацвярджае невялікія памеры капіталаў габрэйскіх гандляроў, адлюстраваны ў архіўным дакуменце 1814 г., паводле якога ў мястэчках Камянец і Высокае налічвалася па аднаму купцу трэцяй гільдыі. Аднак адзначалася: “…каждый из них по собственному обороту капитала на 8000 руб. не имеет, но в тех местечках есть торговцы-евреи мелочных товаров, имеющие в оборотах малые капиталы, коим согласно повеления губернского правления запрещена была продажа, пока не запишутся в гильдию и не объявят капиталов для платежа купеческих процентов, почему торговцы мелочной продажи этих местечек сделали складку и под именем в каждом местечке одного купца 3-ей гильдии объявили капиталы и уплатили за 1813 г. купеческий процент. В самом деле никто из них

[165] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 4. Адз. зах. 494. Арк. 1–3.

[166] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі Мінск: Полымя, 1997. С. 26.

[167] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 252.

[168] Там жа. Воп. 1. Адз. зах. 2642. Арк. 49–98.

такового капитала по неимении оного и процентов уплатить не в состоянии”[169].

Асартымент тавараў крамнага гандлю быў разнастайным. Перш за ўсё можна было набыць прадметы першай неабходнасці і прадукты харчавання. Прадаваліся галоўным чынам вырабы мясцовай вытворчасці: скуры, абутак, сялянскае палатно, адзенне, мыла, свечкі, мяцёлкі, драўляны і гліняны посуд. У шматлікіх крамах вёўся гандаль дробнымі таварамі: цвікамі, вяроўкамі, глінянымі трубкамі, грэбнямі, стужкамі, шчоткамі, шнурамі. Расла колькасць буйных крам, у якіх ажыццяўляўся збыт шарсцяных, шаўковых, баваўняных тканін, галантарэі, вінаградных він, чаю, кавы. Апісваючы крамны гандаль у Міры, У. Сыракомля адзначаў, што тутэйшыя крамы былі поўныя добрых баваўняных ды шаўковых вырабаў, палатна, футраў і ўсякай драбязы: “У гэтых адносінах Мір меў шырокую вядомасць. Калі пра паненку, што збіралася хутка выходзіць замуж, казалі: “Паехала ўжо ў Мір”, то гэта азначала, што яна пачынае рыхтаваць сабе пасаг. Сэнс той фразы нават у досыць далёкіх адсюль мясцінах быў добра знаёмы”[170].

У цэлым можна канстатаваць, што ў мястэчках паступова адбывалася перарастанне перыядычнага гандлю ў стацыянарны. Па колькасці афіцыйна ўлічаных крам лідзіравалі гарады. Напрыклад, у канцы 1840-х гг. у Гродзенскай губерні налічвалася ў мястэчках 294 крамы, а ў гарадах – 1133[171]. Аднак на прыкладзе м. Свіслач было паказана, што колькасць местачковых крам і іншых гандлёвых пунктаў была на самай справе значна большай за тую, якая фігуравала ў статыстыцы губернскіх улад. Гэта дазваляе дапусціць, што колькасць гандлёвых пунктаў многіх мястэчак на душу іх насельніцтва была большай за такі ж паказчык у гарадах. Тое ж самае можна сказаць і пра долю занятых у гандлёвай сферы.

Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. з’яўляліся цэнтрамі не толькі ўнутранага, але і *міжрэгіянальнага і знешняга* гандлю. Беларусь у разглядаемы перыяд стала часткай усерасійскага рынку. Мястэчкі, асабліва тыя, дзе былі прыстані і значныя кірмашы, мелі сувязі са многімі эканамічнымі рэгіёнамі Расіі.

На буйныя местачковыя кірмашы прыязджалі рускія і ўкраінскія купцы. Напрыклад, на Ганненскі ў м. Зэльва яны прыбывалі з васьмі губерняў: Пецярбургскай, Маскоўскай, Ніжнегародскай, Калужскай,

---

169 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 398. Арк. 6 адв.

170 Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах... С. 207–208.

171 Швед, В.В. Торговля в Белоруссии... С.42.

Смаленскай, Уладзімірскай, Кіеўскай і Чарнігаўскай. Сума прывезеных адтуль тавараў складала ў 1857–1859 гг. 14,6% ад агульнага прывозу на кірмаш. Акрамя таго, тут гандлявалі рыжскія купцы (у 1857 г. іх тавары складалі 0,4% ), а таксама з Каралеўства Польскага: Варшаўскай, Аўгустоўскай, Люблінскай, Радамскай губерняў (прывоз тавараў у 1857–1859 гг. – 19,4%)[172].

Вядучую ролю ў міжрэгіянальных гандлёвых сувязях Магілёўскай губерні адыгрываў Шклоў, "карміцель" верхняга Падняпроўя і раёна Заходняй Дзвіны. Да 1850-х гг. ён лічыўся "одним из наиболее крупных торговых мест России", яго абароты дасягалі 50 млн руб. У Шклове была значная прыстань. Асабліва быў развіты хлебны і саляны гандаль. Купцы Шклова займаліся скупкай ва ўкраінскіх губернях хлеба – жыта, пшаніцы, аўсу, а таксама крупы, солі, адвозілі іх на суднах уверх па Дняпры ў Шклоў, куды з'язджаліся гандляры і скупшчыкі са Смаленскай, Мінскай, Віцебскай і іншых губерняў. Частка закупленых прадуктаў адвозілася непасрэдна ў Рыгу. У Шклове на прыстані было пабудавана каля 150 двух- і трохпавярховых свірнаў, у якіх працавала па 500–600 чалавек. Тут магло размясціцца хлеба на суму звыш 5 млн руб., солі – на 1 млн руб.[173] У другой чвэрці XIX ст. хлебны і саляны гандаль Шклова скараціўся. Часткова паток грузаў адцягваўся пінскай і бабруйскай прыстанямі. У 1860 г. на прыстань прывозілі хлеба на суму да 330 тыс. руб. і солі – на 40 тыс. Паменшылася і колькасць свірнаў: са 150 засталося 25[174].

Шклоў славіўся і гандлем гарбатай, быў своеасаблівай "чайнай сталіцай" Расіі. Гарбата кантрабандай дастаўлялася з Прусіі (у сярэдзіне 1830-х гг. прыблізна на 4 млн руб. штогод). Свае чайныя склады мелі ў Шклове гандляры Коўна і Вільна. Для яго закупак у горад прыбывалі купцы з усіх канцоў Расіі, у тым ліку з Пецярбурга, Масквы[175].

Мястэчкі-прыстані і буйныя кірмашовыя цэнтры ўдзельнічалі і ў замежным гандлі. Так, спісы наведвальнікаў кірмашу ў м. Зэльва паказваюць, што сюды прыязджалі гандляваць з Італіі, Францыі, Саксоніі, Даніі, Швецыі, Швейцарыі і іншых краін. Усяго іншаземцы складалі ад 0,5 да 3,5–4% ад агульнай колькасці прыезджых. Сярод іх пераважалі купцы з Аўстрыі, Прусіі (прыкладна 50–60%). Частымі гасцямі былі гандляры з Фінляндыі. У м. Свіслач на час Успенскага кірмашу таксама прыязджалі купцы з Аўстрыі, Прусіі, Францыі, Італіі,

[172] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии… С. 60.

[173] Дембавецкий, А.С. Опыт описания Могилёвской губернии /А.С. Дембовецкий. Могилёв, 1884. С. 46.

[174] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии… С. 64, 69.

[175] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі... С. 92.

Турцыі, Нідэрландаў і іншых краін. У 1838 г. іх было 14 чалавек, у 1846 г. – 7, у 1849 і 1850 па 3 чалавекі[176]. Міжнародны характар меў і кірмаш у м. Прыбарава. Так, у 1818 г. на яго прыгналі 6857 валоў, з іх за мяжу было накіравана 4000, прададзена ў іншыя губерні – 1837 жывёл[177].

Вялікую ролю ў замежным гандлі краю адыгрывалі таксама мястэчкі-прыстані. Возьмем для прыкладу Масты на Нёмане. У 1813 г. з мястэчка ў Прусію было адпраўлена 29 віцін з розным асартыментам тавараў: вэнджанае мяса, канаплянае масла, тмін, сала, паташ, тальк. На адваротным шляху з прускіх уладанняў дастаўляліся соль, селядцы, напіткі, дазволеныя да ўвозу ў Расію з уплатай адпаведных пошлін. У 1816 г. з Мастоўскай прыстані было адпраўлена 9 барак, 198 плытоў, 40 паўплытоў, гружаных хлебам, гарэлкай, канаплёй, мёдам, меддзю, лесам. У 1822 г. ад прыстані адыйшлі 20 суднаў, 454 плыта на суму 54 686 руб. серабром. Судны ішлі ў сакавіку, красавіку, маі і кастрычніку, плыты – усё лета. У 1836 г. прускую граніцу з Мастоў прайшлі 11 суднаў, 209 плытоў на суму 208 512 руб. серабром[178]. У 1855 г. былі загружаны і адпраўлены 25 суднаў, 106 плытоў і 63 паўплыта з таварамі на суму 90 530 руб. (пшаніца, рож, гарох, фасоль, лён, насенне льняное, пянька канапляная, лес, смала, воўна авечая, сена і інш.), а разгрузіліся 156 суднаў, 788 плытоў, 297 паўплытоў з таварамі на 30 539 руб. (соль, цукар, селядцы, ром, віно, партэр, шампанскае, англійскае піва, кава, карыца, міндаль, перац, чугун, свінец, фаянсавы посуд, сельскагаспадарчыя машыны (сячкарні), чугунныя цвікі, стальныя інструменты і інш.)[179].

Сваім міжнародным гандлёвым размахам славілася і Стоўбцаўская прыстань на Нёмане. Напрыклад, тут у 1827 г. грузілася 46 віцінаў, 136 плытоў, разгрузілася 20 віцінаў. Прадметы вывазу ў Кёнігсберг складалі хлеб, лён, каноплі, ільняное і канаплянае насенне, паташ, пянька, рагожы, скура, лес і лесаматэрыялы, цэгла, сала, шчаціна і інш. У абмен на пералічаныя тавары прывозілі соль, фабрычныя вырабы, замежнае віно і піва, мінеральную ваду, селядцы, фарбы, металічныя і папяровыя вырабы, галантарэйныя рэчы і каланіяльныя тавары. Аналіз тавараў, якія былі выгружаны ў Стоўбцах у 1827 г., выяўляе, што яны прадстаўлены пераважна прадметамі раскошы і спажывання памешчыкамі (французскае віно, шампанскае, партэр, селядцы, соль, зельцэрская вада). Але з цягам часу адбываюцца карэнныя змены ў структуры ўвоза. Абароты

---

[176] Швед, В.В. Торговля в Белоруссии… С. 70.
[177] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі... С. 94.
[178] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики… Ч. 2. С. 117, 120.
[179] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 28. Адз. зах. 708. Арк. 45 адв. 50.

прыстані паступова ўзрасталі, і сярод увозу павялічваецца колькасць рэчаў вытворчага спажывання, што сведчыла аб развіцці фабрычна-завадской вытворчасці[180].

Камунікацыйную, гандлёвую інфраструктуру мястэчак для рэалізацыі сваёй прадукцыі і набыцця неабходных тавараў актыўна выкарыстоўвалі як сялянскія гаспадаркі (кірмашы і асабліва базары), так і фальваркавыя гаспадаркі памешчыкаў (кірмашы, прыстані). Напрыклад, памешчыкі практыкавалі падчас "саннай дарогі" дастаўку ў Масты зернавога хлеба, які затым грузіўся на стругі для адпраўкі ў Кёнігсберг на продаж ці ў замен на іншыя тавары[181]. У інвентары Скідзеля 1846 г. адзначалася, што "экономия продает свои произведения или на месте, или посылает в Гродно и к берегу реки Неман для сплава в Кенигсберг. Крестьяне сбывают свои произведения без всякого ограничения со стороны экономии или на месте, или в окружных местечках Скидель, Езёрах и в г. Гродно"[182].

Такім чынам, гандлёвая дзейнасць мястэчак Беларусі ў разглядаемы перыяд была вельмі разнастайнай. Нельга не пагадзіцца з Ю. Боханам, які вылучыў чатыры накірункі ў ажыццяўленні местачковага гандлю.

1. Вёска – мястэчка. У рамках гэтага накірунку мястэчкі пастаўлялі ў вёску галоўным чынам прадукцыю ўласнага рамяства ў абмен на сельскагаспадарчыя артыкулы.

2. Вёска – мястэчка – вёска. У дадзеным выпадку рынкі мястэчак выступалі як пасрэднікі пры пераразмеркаванні сельскагаспадарчай прадукцыі на ўзроўні сельскіх рэгіёнаў.

3. Вёска – мястэчка – буйнейшы горад. Гандлёвае пасрэдніцтва паміж сельскім рэгіёнам і значным рамесніцкім асяродкам, вядучая роля ў ажыццяўленні якога належала купцам, з'яўлялася адной з галоўных функцый мястэчак. Мястэчкі Беларусі прымалі ўдзел не толькі ў рэгіянальным, але і ў агульнадзяржаўным і нават замежным гандлі, у асноўным па водных магістралях. З буйнейшых гарадоў Расіі, замежжа на местачковыя кірмашы завозіліся ў асноўным прамысловыя вырабы і экзатычныя артыкулы, прычым імпартныя тавары маглі таксама закупляцца купцамі мястэчак для правядзення транзітнага гандлю.

4. Мястэчка – буйнейшы горад. Падобны накірунак гандлю адрозніваўся ад папярэдняга галоўным чынам тым, што частка

---

[180] Шаўчэня, М.М. Развіццё гандлю ў Беларусі... С. 100.

[181] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 183. Арк. 20.

[182] Там жа. Ф.96. Воп. 1. Адз. зах. 1267.

прадукцыі, якая завозілася з буйнейшых гарадоў на местачковыя рынкі, асядала ў саміх мястэчках, дзе ішла на забеспячэнне спажывецкіх патрэб местачкоўцаў і тэхналагічных патрэб мясцовай прамысловасці[183].

Вынаходлівыя жыхары мястэчак развівалі і незаконны гандаль. Квітнела кантрабанда. Са звестак аб стане беларускіх правінцый, сабраных расійскімі ўладамі ў 1772 г., стала вядома, што жыхары шэрага мястэчак Мсціслаўскага ваяводства (Дрыбін, Пятровічы, Шумячы, Касцюковічы, Негін і інш.) жылі за кошт кантрабанднага гандлю: тайна ў Расію правозілі воск, а адтуль – тытунь, соль[184]. Многім мястэчкам на ўсходзе Беларусі ў сувязі з новымі дзяржаўнымі межамі прыходзілася змяняць сваю гаспадарчую дзейнасць. У той жа час падобныя новыя крыніцы даходаў з'явіліся для мястэчак заходняга рэгіёна Беларусі. Так, у верасні 1815 г. каля м. Ружаны былі затрыманы 6 габрэяў з 5 фурманкамі кантрабандных тавараў[185]. Асаблівую актыўнасць у кантрабандным гандлі праяўлялі менавіта габрэі памежных рэгіёнаў. У ананімнай сакрэтнай "Записке о евреях, живущих в России", пададзенай у III Аддзяленне канцылярыі імператара ў 1842 г., гаварылася: "Торговля контрабандами составляла значительную отрасль промышленности евреев, ныне она упала, но весьма далека от того, чтоб быть прекращенной… Правительство несколько раз предписывало удалить евреев от границы, но они находили всегда средства отклонить приведение в исполнение этой меры и продолжают гнездиться преимущественно в тех местах, где представляется более удобства к продолжению занятий своих. Хитрости в сем случае употребляемые не изчислимы"[186].

Габрэямі быў вельмі добра арганізаваны "піцейны промысел" (вытворчасць і продаж моцных напояў), які даваў шырокую прастору для выкарыстання камерцыйнай кемлівасці. У перапісцы чыноўнікаў гэтыя здольнасці габрэяў звычайна называліся "пронырливость", "изворотливость", "плутовская хитрость", "хитросплетенные козни", "ловкость на всякие проделки" і г.д. У "піцейных" справах сапраўды існавала многа "хітрыкаў". Некаторыя з іх апісаў Э. Коцік ва ўспамінах пра м. Камянец: "…привозили из Польши спирт и продавали вместе с водкой, за которую платили налог. У польского спирта был лучше запах, что было даже недостатком, выдававшим

[183] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. ... С. 128–139.

[184] РДАСА. Ф. 12. Воп. 1. Адз. зах. 159. Арк. 30–30 адв.

[185] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 558.

[186] ДАРФ. Ф. 109. Воп. 16. Адз. зах. 304. Арк. 29.

его присутствие. Чтобы себя обезопасить, распространяли слух, что в спирт добавляют такие душистые капли, от чего его ещё больше хотели пить…"; "…дед велел позвать к себе всех шинкарей и сказал им, что продажу спиртного следует организовать по-другому: "Выручать вы должны по три копейки за рюмку. Я вам привёз из Бриска (Брэст. – *Аўт.*) рюмки, которые кажутся большими, но в каждую вмещается совсем мало. Вы должны держать только эти рюмки, и никаких других, и будет вам прибыль"[187].

Менавіта ў гэтай сферы гандлю праварочваліся самыя складаныя афёры, над якімі "ламалі галовы" мясцовыя ўлады. Так, у 1855–1856 гг. гродзенскае губернскае начальства спрабавала разабрацца ў "тайнай стачцы" паміж трымаўцамі акцызнага і чарачнага водкупу: "Акцизные откупщики, хотя не имеют права заниматься ни покупкою, ни продажею вина в чертах своего откупа, но под другим именем привозят вино с других губерний и учреждают свои подвалы, и взяв таким же образом в содержание все казенные корчмы и шинки, учреждают посредством евреев раздробительную продажу на свой счет под чужим именем… Сим способом имеют в руках своих оптовую и раздробительную продажу вина...". Акрамя таго, віно прадавалася меншай моцнасці (замест 25–30º толькі 18º) і танней, што павялічыла прыбыткі "махінатараў" за кошт большага распродажу віна і абароту капітала. Хоць механізм гэтых злоўжыванняў стаў зразумелы, аднак следчым прыйшлося канстатаваць: "…при хорошо обдуманной и устроенной стачке нет возможности уличить виновных формальным следствием"[188].

Разнастайнасць гандлёвых заняткаў габрэйскага насельніцтва ўражвае. Напрыклад, габрэі м. Гарадок Віленскай губерні зараблялі продажам п'явак: улетку яны адпраўляліся ў Магілёўскую губерню, у наваколлі Гомеля, да зімы прыносілі некалькі дзясяткаў тысяч п'явак, якія распрадавалі ў Віленскай і суседніх губернях[189]. Нельга не згадаць аб такім тыповым занятку габрэяў, як факторства – адмысловая прафесія, прадстаўнікі якой гандлявалі інфармацыяй. П. Шпілеўскі, апісваючы сваё знаходжанне ў Свержані, занатаваў: "Вслед за лавочниками, как тучи, налетели с разных углов местечка бесчисленные факторы, и я едва упросил их оставить меня в покое".

[187] Котик, Е. Мои воспоминания / Е. Котик; пер. М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm. –Дата доступу: 05.05.2009.

[188] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 13. Адз. зах. 775. Арк. 24, 40, 71, 77–78.

[189] Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния / А. Корева. СПб., 1861. С. 530.

Ён параўноўваў: “Жид-фактор в западной России для проезжего то же, что для столичного жителя газета или для археолога архив редкостей. Он расскажет вам все достопримечательности… передаст вам все, что хотите, о своем городе и, вдобавок, возьмется исполнить все ваши поручения, как бы они не были трудны, и действительно исполнит. Но не думайте, чтоб это обошлось вам дорого: ничуть! За полтинник фактор будет бегать целый день”[190]. А. Кіркор сведчыў, што кожны заезны дом меў сваіх прывілеяваных фактараў, якія дзялілі паміж сабою прыезджых, нават разыгрывалі іх у латарэю[191].

***

Аналіз развіцця гандлю ў мястэчках Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. дазваляе зрабіць наступныя высновы. Гандаль адыгрываў вядучую ролю ў гаспадарчай дзейнасці мястэчак, з’яўляўся галоўным фактарам, які фарміраваў аблічча мястэчак як спецыфічных пасяленняў, блізкіх да гарадскіх. У мястэчках развіваліся ўсе формы ўнутранага гандлю: кірмашовая, базарная, развозна-разносная і стацыянарная. У сетцы кірмашовага гандлю Беларусі мястэчкі займалі галоўнае месца, пакідаючы гарадам другарадныя пазіцыі. Нягледзячы на пэўную тэндэнцыю скарачэння абаротаў местачковых кірмашоў, гэтая форма гандлю ў першай палове XIX ст. утрымлівала дастаткова моцныя пазіцыі. Асноўная частка гандлёвых аперацый мястэчка ажыццяўлялася на штотыднёвых базарах, найбольш важных для сялянства мястэчак і навакольных вёсак.

У мястэчках, як і ў цэлым па Беларусі, адбываўся паступовы пераход ад перыядычнага гандлю (кірмашы, базары) да стацыянарнага. Верагодна, што многія мястэчкі пераўзыходзілі гарады па колькасці стацыянарных гандлёвых пунктаў на душу насельніцтва, а таксама па ўдзельнай вазе занятых у сферы гандлю. Акрамя ўнутранага гандлю, мястэчкі актыўна ўдзельнічалі ў міжрэгіянальным і замежным, у тым ліку транзітным, гандлі Беларусі. Актывізацыя разнастайнай гандлёвай дзейнасці беларускіх мястэчак у разглядаемы перыяд звязана, галоўным чынам, з прадпрымальніцкай дзейнасцю габрэяў. Гандаль быў сканцэнтраваны пераважна і нават амаль выключна ў іх руках, аб чым сведчаць высокая ўдзельная вага габрэяў

---

[190] Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992. С. 43–44, 91.

[191] Живописная Россия. Т. 3: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизвед. изд. 1882 г. Минск, 1994. С. 17.

сярод купецтва мястэчак, прыналежнасць ім амаль усіх местачковых гандлёвых устаноў (крам, карчом, піцейных і заезных дамоў і г.д.).

### 3.3. Прамысловасць

Першай формай прамысловасці было ***рамяство***. Рамёствы – дробная вытворчасць, заснаваная на індывідуальнай ручной працы з выкарыстаннем механічных прылад і інструментаў, майстэрства ўмелых рук. Рамёствы прайшлі тры гістарычныя стадыі, якія адлюстроўваюць іх сацыяльныя формы – хатняга рамяства, рамяства на заказ і рамяства на рынак[192]. У мястэчках Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. былі прадстаўлены ўсе тры названыя формы рамёстваў. Можна канстатаваць, што рамёствы тут з’яўляліся асноўнай формай прамысловай вытворчасці.

Праблема рамесніцкіх заняткаў жыхароў беларускіх мястэчак распрацавана даволі слаба. У айчыннай гістарыяграфіі яна разглядаецца звычайна ў агульным рэчышчы эканамічнага развіцця гарадоў. Выключэнне складае дысертацыйнае даследаванне Ю. Бохана, у якім прааналізаваны рамесніцкія функцыі мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў канцы XV–XVIII стст.

Каштоўны фактычны матэрыял па рамесніцкіх занятках местачкоўцаў даюць інвентары. Так, у інвентары Стоўбцаў 1728–1729 гг. зафіксаваны “вольныя”: Ян Каваль, Томаш Столяр, Уладзіслаў Шкляр, Раман Швец[193]. У інвентары Валожына за 1786–1787 гг. узгадваюцца 2 краўцы, 2 ганчары, 2 муляры, 2 кавалі, 2 рымары, шавец, млынар, рыбак, бондар, прачка і інш.[194] Інвентар Беліцы за 1854 г. называе каваля Івана Місюкевіча, ганчароў Аўгустына і Пятра Кучынскіх, шаўца Якава Камароўскага, камінара Іосіфа Сасноўскага, цырульніка Ізраэля Герана[195]. Інвентарнае апісанне Новага Свержаня 1828 г. фіксуе наяўнасць сярод 127 хрысціянскіх двароў мястэчка 20 “рамесных”, а сярод 63 габрэйскіх двароў – 2 “рамесных”, 47 “шынковых”, 14 “заезных”[196]. Паводле інвентару Міра 1858 г., з 243 хрысціянскіх двароў 13 былі “рамеснымі” (30 мужчын і 22 жанчыны), астатнія 230 двароў займаліся земляробствам[197]. Аднак падобная інфармацыя носіць фрагментарны характар, інвентары мя-

[192] Цітоў, В. Рамёствы / В. Цітоў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 6. Кн. 1. Мінск, 2001. С. 95–96.

[193] АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn. 9188.

[194] Там жа. Sygn. 9401.

[195] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 206. S. 6–19.

[196] Там жа. Sygn. 4307/1. S. 66–67.

[197] Там жа. Sygn. 2472. S. 1–3.

стэчак не падаюць нават прыблізнай лічбы рамеснікаў і рамесніцкіх спецыяльнасцей. Таму на падставе гэтай крыніцы немагчыма адлюстраваць карціну рамесніцкіх заняткаў у мястэчках. "Вызначыць лічбай развіццё рамеснай прамысловасці немагчыма, – адзначаў І. Зяленскі, – ніякія законапалажэнні, ніякія народныя перапісы, ніякія рамесныя ўставы не паставяць рамесную вытворчасць у такое становішча, пры якім магчыма было б зрабіць яе аналіз"[198]. У сувязі з гэтым лічба местачковых рамеснікаў Беларусі, якую падае М. Болбас на 1858 г. – 16,4–17,4 тыс.[199], не можа лічыцца дакладнай.

Фрагментарнасць крыніцавай базы не дазваляе стварыць дастаткова поўную карціну развіцця местачковага рамяства ў разглядаемы перыяд. Аднак праведзенае даследаванне дапамагае зрабіць некаторыя высновы.

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што генетычна местачковае рамяство вырастала з рамяства сельскага і дворскага і цесна з ім было звязана. Па правільным назіранні Ю. Бохана, мястэчкі не з'яўляліся манапалістамі ў сферы рамесніцкай вытворчасці акруг. Сельскае рамяство магло запаўняць тую нішу, якая ўзнікала з-за недаразвітай спецыялізацыі местачковых рамеснікаў. Акрамя таго, далёка не ва ўсіх выпадках рамяство мястэчак было звязана выключна з рынкам, паколькі многія рамеснікі тут працавалі на патрэбы феадальных двароў. Гэтым местачковыя рамеснікі па сваім эканамічным становішчы былі падобныя на вясковых рамеснікаў, для якіх праца на панскія патрэбы замяняла зямельную рэнту[200]. У апісанні павіннасцей жыхароў Валожына 1786–1787 гг. адзначалася, што рамеснікі, якія жывуць у мястэчку, абслугоўваюць патрэбы дворскія, ад гвалтаў і іншых павіннасцей вызваленыя, чынш, аднак, плацяць[201].

А. Люты і В. Чапко сцвярджаюць, што характар местачковага рамяства істотна адрозніваўся ад гарадскога тым, што амаль усе мястэчкі належалі памешчыкам, і таму рамеснікі ў іх былі ў асноўным прыгоннымі. Гэтае сцвярджэнне правільнае толькі адносна рамеснікаў-хрысціян. У "Тапаграфічным апісанні Мінскай губерні" (1800) указвалася, што рамеснікі мястэчак "трудом своим вещей никуда не отвозят и не продают, поскольку будучи владельческими

[198] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 2. СПб., 1864. С. 276.

[199] Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861 гг.) / М.Ф. Болбас. Минск, 1966. С. 50, 51.

[200] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII стст. С. 106.

[201] АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn. 9401.

людьми, все материалы получают от помещиков". Такіх рамеснікаў у мястэчках Мінскай губерні налічвалася каля 300 чалавек па 14 спецыяльнасцях[202].

На працягу разглядаемага перыяду лічба местачковых рамеснікаў, звязаных выключна ці пераважна з рынкам, павялічвалася. Акрамя таго, можна сцвярджаць, што і тыя рамеснікі, якія былі звязаны з абслугай феадальных сядзіб, прыцягваліся да падобнай працы найчасцей толькі ў выпадках патрэбы, а ў астатні час працавалі на рынак, калі толькі там меўся попыт на прадукцыю іх рамяства.

Рамеснай вытворчасцю ў мястэчках у значнай ступені акрамя беларусаў займаліся татары, рускія-стараабрадцы і асабліва габрэі. Тыя гістарычныя і эканамічныя ўмовы, якія склаліся (рыса габрэйскай аселасці, забарона габрэям пражываць у сельскай мясцовасці, няхватка зямельных угоддзяў і інш.), стымулявалі рост іх рамесніцкіх заняткаў, высокі прафесіяналізм у шэрагу рамёстваў, з аднаго боку, і паралельнае валоданне некалькімі спецыяльнасцямі, з другога боку, што, як правіла, зніжала якасць вырабаў. Для многіх местачковых габрэяў рамяство было адзіным сродкам для існавання. Так, у сярэдзіне XIX ст. ад 40 да 50% габрэйскага насельніцтва Мінскай губерні існавалі выключна дзякуючы рамесніцкім заняткам[203].

Як вядома, у разглядаемы перыяд рамеснікі ў гарадах і некаторых мястэчках былі па-ранейшаму аб'яднаны ў цэхавую арганізацыю, якая, аднак, істотна змянялася ў сувязі з сацыяльна-эканамічным жыццём. У параўнанні з першай паловай XVIII ст. скарацілася колькасць цэхаў, новыя ўзнікалі рэдка. Ліквідацыя цэхаў адбывалася за кошт аб'яднання аднародных спецыяльнасцей у адзін цэх, што сведчыла аб тым, што колькасць рамеснікаў кожнай прафесіі паасобку была нязначнай. Цэхі паступова трацілі сваю ранейшую ролю і ўсё менш уплывалі на развіццё рамяства.

Ёсць звесткі аб існаванні ў разглядаемы перыяд цэхавай арганізацыі рамеснікаў у мястэчках Любяшоў, Койданава, Ракаў, Івянец, Клецк, Мір, Шчучын, Астрын, Васілішкі, Жалудок і інш.[204] У 1849 г. у мястэчках беларускіх уездаў Гродзенскай губерні налічвалася 1376 габрэяў мужчынскага полу, запісаных у рамесніцкія цэхі[205]. З інвентара Шклова 1772–1773 гг. відаць, што там былі 4 цэхі:

---

[202] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. (экономическое развитие) / В.В. Чепко. Минск, 1981. С. 20.

[203] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 2. СПб., 1864. С. 277.

[204] Там жа Ч. 1. СПб., 1864. С. 592; ДГА Літвы. Ф.381. Воп.17. Адз. зах. 2762. Арк. 279.

[205] *Табліца 14.*

рэзніцкі, пякарскі, рыбацкі, алейніцкі (два першыя з іх аб'ядноўвалі і габрэяў, і хрысціян)[206].

Даследчык габрэйскіх рамесных цэхаў Маўрыцы Хорн сцвярджае, што на землях былой Рэчы Паспалітай, якія адышлі да Расіі, амаль у кожным мястэчку існавалі асобныя габрэйскія рамесныя цэхі, якія вялі канкурэнтную барацьбу з хрысціянскімі рамеснымі карпарацыямі. Габрэйскія цэхі вырашалі важныя цэхавыя праблемы больш дэмакратычна ў параўнанні з хрысціянскімі, аднак адначасова яны былі занадта ліберальнымі ў пытаннях прысваення падмайстрам звання майстра. Гэта адмоўна паўплывала на прафесійны ўзровень шэрага габрэйскіх рамеснікаў. Назіралася такая супярэчнасць: габрэйскія майстры з вялікім майстэрствам выраблялі тавары для канкрэтных заказчыкаў. Аднак у барацьбе за рынкі збыту яны былі вымушаны ісці на вытворчасць танных і не заўсёды якасных тавараў для выпадковых пакупнікоў[207].

Як правіла, у большасці мястэчак рамеснікаў адной ці сумежных спецыяльнасцей было недастаткова для арганізацыі цэха. Таму ў цэлым у мястэчках няцэхавых рамеснікаў ("вольных") было значна больш, чым цэхавых. Так, у мястэчках Ашмянскага ўезда ў 1797 г. налічваўся 41 цэхавы і 143 няцэхавых рамеснікаў, а ў 1838 г. – адпаведна 272 і 637[208].

Няцэхавых рамеснікаў сярод габрэяў было значна больш, чым цэхавых. У. Антановіч адзначаў: "Между тем, как цехи падали под собственной тяжестью, подавленные излишней заботливостью об устранении конкуренции, последняя явилась в лице еврейского населения. Евреи стали заниматься промыслами, не подлежа ни цеховым стеснениям, ни тяжелым пошлинам, обременявшим христиан"[209].

"Вольныя" рамеснікі-габрэі былі сур'ёзнымі канкурэнтамі для цэхавых рамеснікаў-хрысціян. Гэта часам прыводзіла да канфліктаў, як, напрыклад, у Міры. Тут яшчэ з 1686 г. існаваў хрысціянскі ткацкі цэх. У 1824 г. габрэй Моўша Іцкавіч Шмухлер пачаў займацца ткацтвам, і ў хуткім часе да гэтага занятка далучыліся яшчэ 40 габрэйскіх сем'яў. Прыбыткі рамеснікаў-хрысціян сталі падаць. Справа дайшла да канфлікту. У 1825 г. габрэі-ткачы скардзіліся: "...ткацкий цех на-

[206] АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn. 9267. S. 23.

[207] Horn, Maurycy. Żydowskie bractwa rzemieślnicze na ziemiach polskich litewskich, białoruskich i ukraińskich w latach 1613–1850 / Maurycy Horn. Warszawa, 1998. S. 118.

[208] ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 27, 28.

[209] Цыт. па: Коробков, Х.Г. Экономическая роль евреев в Польше в конце 18 в. / Х.Г. Коробков // Еврейская старина. СПб., 1910. Вып. 3. С. 365.

чал воспрещать нам заниматься ткацким ремеслом и покупать на торгах тальки под сим предлогом, что будто бы евреям не позволено заниматься никакими промыслами, забрал у нас публично самовольным и насильственным образом материалы...". У 1827 г. цэхмайстар Трушынскі звярнуўся да Радзівілаўскай камісіі, створанай у Вільні, "домогаясь удаления евреев от ткаческого промысла в м. Мир". Камісія выканала гэтую просьбу. Гродзенскі губернатар быў не супраць: рашэннем ад 16 кастрычніка 1830 г. ён у рапарце міністру ўнутраных спраў адзначыў: "... судя по положению здешнего края, нельзя признать выгодным воспрещение в м. Мире евреям заниматься ткацким ремеслом по недостаточному количеству ремесленников и малому усовершенствованию их изделий, но так как местечко вотчинное, то надо предоставить собственному усмотрению князей Радзивилов все хозяйственные распоряжения..."[210].

Нягледзячы на зніжэнне гаспадарчай ролі цэхаў у другой палове 40-х гг. XIX ст., да іх заснавання імкнуліся многія рамеснікі-габрэі. Гэта можна патлумачыць не толькі жаданнем пазбегнуць канкурэнцыі, вызваліцца ад улады кагалу і рэкруцкай павіннасці (цэхавыя майстры яе не адбывалі). Справа ў тым, што ў 1845 г. з'явіўся праект аддзялення "карысных" габрэяў ад тых, якія не мелі ніякай вытворчай працы з тым, каб накласці на апошніх дадатковыя абмежаванні, у тым ліку ўзмоцнены рэкруцкі набор. Габрэяў планавалі падзяліць на 5 разрадаў: купцы, земляробы, рамеснікі, мяшчане аселыя і мяшчане неаселыя. У разрад рамеснікаў запісвалі толькі цэхавых. Каб трапіць у лік "карысных", габрэйскае рамеснае насельніцтва мястэчак звярталася ў адпаведныя органы з прашэннямі аб утварэнні рамесных цэхаў.

Дабіліся стварэння цэха краўцы м. Свіслач Ваўкавыскага ўезда. Аб гэтым крыніцы паведамляюць наступным чынам. У мястэчку развіваліся гарбарства (вырабам скур займаліся татары), ганчарства, сталярства, кавальства, кравецтва, бондарства і інш. Найбольш было краўцоў: у 1847 г. іх колькасць складала 65 чалавек (усе габрэі), з іх 38 майстроў і 27 "работнікаў". Майстры-краўцы захацелі стварыць рамесны цэх і звярнуліся з такой прапановай у Ваўкавыскі гарадавы магістрат, які, у сваю чаргу, хадайнічаў аб гэтым перад Гродзенскім губернскім праўленнем. Просьба не была задаволена, таму што, як адзначаецца ў дакуменце, "право на учреждение цехов служит соб-

[210] РДГА. Ф.1286. Воп.5. Адз. зах. 443. Арк. 4–12.

ственно только городам… закона на учреждение цехов по местечкам не существует”[211].

Аднак настойлівыя краўцы Свіслачы 30 красавіка 1847 г. звярнуліся з прашэннем да міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі, у якім прасілі “о даче разрешения в учреждении цеха, который вовсе не будет никому стеснительным, ибо и учрежденные с разрешения самого губернского правления по гораздо меньшим м. Свислочи городам как Суховоле, Янове, Корицине и проч., и таковые же цехи вовсе для жителей тех городов не стеснительны…”[212]. Дадзены ліст падпісалі 56 краўцоў-свіслаччан. Пасля збору адпаведных звестак сапраўды аказалася, што ў шэрагу заштатных гарадоў і мястэчак, якія мелі значна меншую канцэнтрацыю рамеснага насельніцтва ў параўнанні са Свіслаччу, існавалі цэхі. Так, у Сакольскім уездзе кравецкія цэхі існавалі ў Кузніцы (6 майстроў, 12 “работнікаў”), Навадворы (адпаведна 3 і 2), Дамброве (6 і 17), Сухаволі (37 і 6), Янаве (16 і 2); у Бельскім уездзе – у м. Орля (4 і 6), м. Цэханавец (24 і 19) і г.д. Відаць, улічваючы гэтыя факты, Міністэрства ўнутраных спраў 23 студзеня 1850 г. паведаміла віленскаму ваеннаму губернатару, гродзенскаму, мінскаму і ковенскаму генерал-губернатару, што не бачыць “препятствий к разрешению евреям м. Свислочь составить цех”[213].

Не ўдалося дабіцца заснавання цэхаў краўцам і шаўцам м. Свір Свянцянскага ўезда; краўцам, kавалям, шаўцам, сталярам м. Іўе, а таксама рамеснікам м. Смаргонь Ашмянскага ўезда, м. Радунь і м. Беліца Лідскага ўезда. Просьбы рамеснікаў-габрэяў не былі задаволены[214].

У выніку “разбору” многія рамеснікі-габрэі былі запісаны ў разрады мяшчан аселых і мяшчан неаселых (не меўшых нерухомай маёмасці), бо не былі ў складзе цэхаў. На падставе “Часовых правіл аб раздзяленні габрэяў на разрады” (23 лістапада 1851 г.) Мінская казённая палата ў 1857 г. склала падрабязную ведамасць, па якой на 100 душ габрэяў мужчынскага полу, якія жылі ў мястэчках, прыходзілася: купцоў – 1, земляробаў – 6, рамеснікаў – 17,7; мяшчан аселых – 48,6; мяшчан неаселых – 26,7[215].

---

211 РДГА. Ф.1287. Воп. 37. Адз. зах. 502. Арк. 5, 10, 11, 13, 15.

212 Там жа.

213 Там жа.

214 Там жа. Ф.1287. Воп.37. Адз. зах. 502. Арк. 2; ДГА Литвы. Ф.381. Воп.17. Адз. зах. 2747. Арк.1–3.

215 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния... Ч. 1. С. 659.

Аб значнай перавазе габрэяў сярод цэхавага рамеснага насельніцтва сведчаць наступныя звесткі. Па X рэвізіі (1858 г.) у некаторых уездах Мінскай губерні налічваліся цэхавыя рамеснікі-габрэі: у Мінскім уездзе – 207, Ігуменскім – 57, Бабруйскім – 395, Пінскім – 41, Навагрудскім – 284. Усяго – 984 чалавекі. Цэхавых хрысціян налічвалася толькі 200 чалавек (у Бабруйскім уездзе)[216].

Узмацненне канкурэнцыі паміж майстрамі аднаго цэха ці блізкіх спецыяльнасцей, цэхавымі і няцэхавымі рамеснікамі, мануфактурнай і рамеснай вытворчасцю значна паслабляла цэхавую арганізацыю. 16 красавіка 1852 г. сенат выдаў указ, па якім ліквідавалася цэхавая арганізацыя ў гарадах і мястэчках, дзе колькасць рамеснікаў была нязначнай. У такіх гарадах і мястэчках дазвалялася займацца рамяством, не ўваходзячы ў цэх, а толькі запісаўшыся ў рамеснае саслоўе. Рамесныя пастановы, выпрацаваныя ў адпаведнасці з гэтым указам, ліквідавалі адасобленасць і самастойнасць цэхаў у гаспадарчых і юрыдычных пытаннях, знішчалі манапольныя правы цэхаў на вытворчасць. Члены цэха атрымалі магчымасць наймацца на фабрыкі і заводы. Разам з тым у кожным горадзе і мястэчку ўтвараліся асобыя габрэйскія нерамесныя цэхі, у якія павінны былі запісацца: мастаўшчыкі, землякопы, муляры, каменячосы, цесляры, тынкоўшчыкі, возчыкі, фурманы, садоўнікі, рабочыя на фабрыках і заводах, чорнарабочыя, падзёншчыкі і хатнія слугі[217].

Ажыццяўленне гэтых пастаноў у мястэчках можна прасачыць на прыкладзе асобных уездаў Віленскай губерні. У мястэчках Лідскага, Вілейскага, Ашмянскага, Свянцянскага ўездаў было створана 9 складаных (ці змешаных) цэхаў (усе прыходзяцца на Лідскі ўезд), 27 спрошчаных рамесных упраў, 20 габрэйскіх нерамесных цэхаў. Спынімся больш падрабязна на рамеснай спецыялізацыі мястэчак Лідскага, Вілейскага і Ашмянскага ўездаў[218]. Рамесныя арганізацыі мястэчак гэтых трох уездаў аб'ядноўвалі 938 чалавек, якія размяркоўваліся па 41 прафесіі і родах заняткаў. Найбольш распаўсюджанымі былі краўцы (219), шаўцы (99), цесляры (100), кавалі (61), хатнія слугі (57), фурманы ці рамізнікі (34), гарбары (35). З другога боку, былі такія рэдкія спецыяльнасці, як майстар парасонаў (1), грэбеньшчык (1), цырульнік (3), бронзаўшчык (4), майстар гадзіннікаў (6).

---

216 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния... Ч. 1. С. 595.

217 Там жа. С. 593.

218 *Табліца 15.*

На працягу другой паловы 1852 г. – пачатку 1853 г. у 9 мястэчках Лідскага ўезда – Эйшышкі, Жалудок, Беліца, Астрына, Новы Двор, Шчучын, Васілішкі, Радунь, Воранава – былі ўтвораны складаныя (ці змешаныя) рамесныя цэхі, якія аб'ядналі 329 рамеснікаў розных спецыяльнасцей, колькасць якіх вагалася ад 4 (Радунь) да 15 (Эйшышкі). У Эйшышках налічвалася 40 цэхавых рамеснікаў і найбольшая сярод мястэчак Лідчыны колькасць рамесных спецыяльнасцей. На другім месцы па колькасці прафесій пасля Эйшышак і на першым па колькасці цэхавых рамеснікаў былі Васілішкі, дзе названых 14 рамесных спецыяльнасцей і 92 рамеснікі. У Беліцы налічвалася 26 цэхавых рамеснікаў і 13 рамесных спецыяльнасцей, Шчучыне – адпаведна 47 і 11, Жалудку – 26 і 10, Астрыне – 51 і 10, Новым Двары – 27 і 7, Воранаве – 9 і 6[219].

У мястэчках Вілейскага ўезда – Куржанец, Рэчкі, Крайск, Даўгінаў, Крывічы і Будслаў, Мядзель, Дунілавічы, Ілля і Вязынь, Лебедзева, Грудак, Краснае, Маладзечна – ствараліся спрошчаныя рамесныя ўправы, што аб'ядноўвалі 177 рамеснікаў. Колькасць рамесных спецыяльнасцей вагалася ад 2 (Рэчкі) да 11 (Даўгінаў).

У 7 мястэчках Ашмянскага ўезда – Смаргонь, Валожын, Вішнева, Гальшаны, Солы, Іўе, Крэва – былі ўведзены спрошчаныя рамесныя ўправы, якія аб'ядноўвалі 148 рамеснікаў. Узровень спецыялізацыі рамяства ў мястэчках гэтага ўезда быў меншым у параўнанні з Лідскім – ад 2 (Крэва) да 8 (Смаргонь) прафесій. Рамеснікі некаторых мястэчак, дзе іх колькасць была нязначнай, прыпісваліся да рамесных арганізацый суседніх мястэчак (Ліпнішкі – да Іўя, Трабы – да Гальшанаў і інш.). Дадзеная крыніца не адлюстроўвае нацыянальны склад местачковых рамеснікаў, аднак ускосныя звесткі дазваляюць сцвярджаць, што абсалютную большасць сярод іх складалі габрэі. А ў некаторых мястэчках габрэі з'яўляліся адзінымі рамеснікамі. У Іўі, напрыклад, на пасады старшыні рамеснай управы і двух яго "таварышаў" былі абраны габрэі па прычыне "ненахождения ремесленников из христиан"[220].

Акрамя таго, у Жалудку, Беліцы, Астрына, Новым Двары, Шчучыне, Васілішках, Смаргоні, Валожыне, Іўі, Рэчках, Крайску, Даўгінаве, Крывічах, Будславе, Мядзелі, Дунілавічах, Красным, Маладзечне былі створаны габрэйскія "нерамесныя" цэхі, куды запісаліся 287 чалавек: у Шчучыне – 6 муляроў, 8 цесляроў, 2 пільшчыкі; Астрыне – 20 цесляроў, 8 муляроў, 1 мастаўшчык; Новым Двары – 14 цесляроў, 2

---

219 ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Адз. зах. 2762. Арк. 124, 508–512 адв., 836, 945, 1070.

220 Там жа. Арк. 345.

пільшчыкі, 1 муляр, 4 цагельнікі; Жалудку – 10 цесляроў, 1 цагельнік; Беліцы – 9 цесляроў, 1 муляр; Васілішках – 14 цесляроў, 1 муляр, 4 тынкоўшчыкі, 2 падзённікі і г.д.[221] У габрэйскіх нерамесных цэхах найбольшая колькасць была цесляроў (98), што не пацвярджае распаўсюджанага ў літаратуры меркавання аб рэдкіх выпадках заняткаў габрэямі цяслярствам і кавальствам.

У ананімнай сакрэтнай "Записке о евреях, живущих в России", пададзенай у III Аддзяленне імператарскай канцэлярыі ў 1842 г., гаварылася, што "евреи способны к тяжелым работам, из них многие промышляют плотничеством, кузнечным и кирпичным мастерством, каменеломлею, находятся также много каменщиков"[222]. Таксама звярталася ўвага на тое, што нідзе няма столькі рамеснікаў, як сярод габрэяў. Амаль кожнае габрэйскае мястэчка ўтрымлівае разнастайных майстроў: гадзіншчыкаў, пераплётчыкаў, краўцоў, шаўцоў, фарбавальшчыкаў, маляроў, гарбароў, сталяроў, цесляроў і г.д. Вырабы рамесных майстроў у мястэчках вельмі танныя. У многіх мястэчках ёсць умелыя фельдшары, добрыя аптэкі. Аўтар рабіў выснову: "Так что каждое подобное местечко представляет в сем отношении гораздо более удобств, чем многие из губернских городов тех мест, которые не обитаемы евреями", а таксама прапаноўваў дазволіць габрэям перасяляцца ў рускія гарады без здачы тэарэтычнага экзамену ў рамесным вучылішчы[223].

Аналіз прыведзеных даных дазваляе заўважыць такую асаблівасць местачковага рамяства, як высокі працэнт майстроў, што ўказвае на шырокае распаўсюджванне тут рамеснікаў-адзіночак. Рамесныя майстэрні ў мястэчках былі дробнымі, на іх у мінімальным аб'ёме выкарыстоўвалася наёмная праца. Працэс капіталізацыі сферы паслуг, такім чынам, мястэчкі амаль не закрануў. Рамяство тут з'яўлялася адзіным сродкам існавання скучанай габрэйскай беднаты. "Означенные в сей ведомости ремесла, – чытаем у дадзеным архіўным дакуменце, – суть единственный источник к жизни и удовлетворению всех лежащих платежей ремесленников"[224].

Многія местачковыя рамеснікі не знаходзіліся на месцах свайго пастаяннага жыхарства. Напрыклад, летам 1852 г. амаль усе рамеснікі мястэчак Вілейскага ўезда знаходзіліся "по разным отдаленным городам в заработках и возвратятся едва в конце осени"; а рамеснікі

---

221 ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Адз. зах. 2762. Арк. 345,

222 ДАРФ. Ф. 109. Воп. 16. Адз. зах. 304. Арк. 24.

223 Там жа. Арк. 30–32.

224 ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Адз. зах. 2762. Арк. 345.

мястэчак Жупраны і Заскевічы Ашмянскага ўезда займаліся "работами по селениям и помещичьим дворам"[225].

Акрамя прыведзеных матэрыялаў статыстыкі віленскай губернскай адміністрацыі аб рамесніках мястэчак Лідскага, Вілейскага і Ашмянскага ўездаў, ступень рамесніцкай спецыялізацыі ў некаторых мястэчках дазваляюць высветліць "Эканамічныя заўвагі" да планаў Магілёўскай губерні канца XVIII ст. З гэтай крыніцы вядома, што ў Дуброўне сяляне акрамя земляробства займаліся "разным мастерством: харчевным, сапожным, кожевенным, кузнецким, гончарным, шаповальским, столярным, рещицким, слесарным"; жыхары Горак – "сапожным, портным, столярным, слесарным и кожевенным ремеслами"; у Чачэрску развіваліся "портное, сапожное, медных дел, кожевенное, столярное, слесарное ремесла"; сяляне м. Сухары займаліся сталярствам і кавальствам, а сярод габрэяў мястэчка былі шаўцы, краўцы, кавалі, "сярэбраннікі"; сярод сялян м. Расна ўзгаданыя кавалі, краўцы, шаўцы, гарбары, ганчары, сярод габрэяў – кавалі, шаўцы, краўцы, меднікі, фарбавальшчыкі; жанчыны м. Татарск "упражняются в обыкновенных домашних рукоделиях, прядут лен и шерсть, ткут холсты и сукна для своего обиходу, а частию и на продажу". Больш разнастайнай была рамесная спецыялізацыя Шклова: тут сярод габрэяў былі "разные мастеровые люди как то типографщики, бахромщики, серебряники, портные, сапожники, часовщики, переплетчики, жестянщики, цирюльники, музыканты, столяры, пивовары, мясники"[226].

Звернем увагу на тое, што рамесныя заняткі, у адрозненне ад гандлю, не лічыліся прэстыжнымі ў габрэйскім грамадстве, да іх ставіліся грэбліва. Праўда, тут трэба падыходзіць дыферэнцыравана: рамёствы, якімі займаліся габрэі, можна падзяліць на тры разрады: 1) мастацкія (майстры гадзіннікавых, залатых, срэбных спраў, рэзчыкі пячаткаў і інш.), якія карысталіся павагай у габрэйскім грамадстве; 2) рамёствы ў вузкім значэнні (краўцы, шапачнікі, фарбавальшчыкі, сталяры, кавалі і інш.), якімі займаліся людзі з ніжэйшай ступенню адукацыі; 3) промыслы (печнікі, цесляры, мастаўшчыкі, align візнікі і інш.), што не карысталіся павагай у габрэйскім грамадстве[227]. Асобна можна ўзгадаць і наяўнасць у габрэйскіх абшчынах "святога" рамяства, звязанага з выкананнем рэлігійных прадпісанняў.

225 Там жа. Адз. зах. 2762. Арк. 259.

226 РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 724. Арк. 130, 160; Адз. зах. 727. Арк. 90; Адз. зах. 732. Арк. 72, 87; Адз. зах. 719. Арк. 156.

227 Берлин, М. Очерк этнографии еврейского народонаселения в России / М. Берлин. СПб., 1861. С. 37.

Такімі прафесіямі лічыліся *шойхерт* (рэзнік), *сойфер* (перапісчык Торы), *моэль* (абразальнік), *хазан* (ці кантар, спявак у сінагозе, які вядзе сінагагальнае набажэнства). У 1834 г. у абшчынах Гродзенскай губерні, напрыклад, налічвалася 83 хазаны (як правіла, па адным у мястэчку, але ў буйных больш, напрыклад у Міры – 4), 107 рэзнікаў (як правіла, 1–2 у кожным мястэчку, у Міры – 3), 195 абразальнікаў (як правіла, адзін у кожным мястэчку, у Міры і Свіслачы – па 6)[228].

У Беларусі ў другой палове XVIII ст. налічвалася 78 рамесных спецыяльнасцей, к сярэдзіне XIX ст. іх колькасць узрасла да 100[229]. Высветліць ступень рамесніцкай спецыялізацыі ў мястэчках дакладна немагчыма, паколькі колькасць дакументаў, якія маглі б праліць святло на гэтыя пытанні, яўна недастатковая. Ёсць звесткі толькі па некаторых мястэчках.

Ю. Бохан выявіў у 27 мястэчках вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны XV–XVIII стст. 70 рамесніцкіх спецыяльнасцей, аб'яднаных умоўна ў 10 груп:

- апрацоўка металу (8);
- спажывецкі промысел (14);
- апрацоўка скуры (7);
- выраб адзення (5);
- будаўніцтва (10);
- апрацоўка дрэва (9);
- транспарт і камунікацыі (4);
- гігіена і ахова здароўя ( 4);
- культурныя патрэбы (3);
- сфера паслуг і абслугоўванне непасрэдна феадальных сядзіб (7).

Найбольш пашыранымі, па назіранні Ю. Бохана, былі прафесіі, звязаныя з апрацоўкай металу, спажывецкім промыслам, вырабам адзення, апрацоўкай скуры, дрэва, а таксама будаўніцтвам[230].

Такую ж заканамернасць можна заўважыць на прыкладзе мястэчак Лідскага, Вілейскага і Ашмянскага ўездаў Віленскай губерні: у сярэдзіне XIX ст. у 30 мястэчках названай тэрыторыі налічвалася 37 рамесных спецыяльнасцей, найбольш пашыранымі з іх былі спецыяльнасці першых 6 груп, пералічаных вышэй[231]. Падобнае

---

[228] Сабалеўская, В.А. Яўрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: лад жыцця і культура: Дыс. ... кандыдата культуралогіі / В.А. Сабалеўская. Гродна, 1999; *Табліца 24*.

[229] Лютая, А.Э. Ремесло в Беларуси во второй половине XVIII – первой половине XIX в.: Автореф. дис. … канд. ист. наук / А.Э. Лютая. Минск, 2003. С. 22.

[230] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны... С. 116.

[231] *Табліца 15.*

становішча назіралася таксама ў рамесніцкай спецыялізацыі ў мястэчках Гродзенскай губерні[232].

Можна сцвярджаць, што такое абмежаванае кола рамесніцкіх спецыяльнасцей, што забяспечвалі найбольш неабходныя, штодзённыя патрэбы як местачкоўцаў, так і навакольных жыхароў, пераважала ў большасці мястэчак Беларусі разглядаемага перыяду. Звернем увагу на значнае пашырэнне сярод рамеснікаў-габрэяў у мястэчках швейнай вытворчасці, што было звязана з неабходнасцю задавальнення попыту габрэйскай абшчыны на вопратку, пашытую ў адпаведнасці з патрабаваннямі *шаатнэза*[233]. Распаўсюджанасці такіх спецыяльнасцей, як шавецкага, дрэва- і металаапрацоўчага рамяства спрыяла і наяўнасць вялікай колькасці таннай сыравіны, значную долю якой дастаўлялі самі кліенты (скуру шаўцам, металічны лом меднікам, бляхарам і кавалям). Попыт на вырабы такіх майстроў, як, напрыклад, ювеліры, гадзіншчыкі, у мястэчках быў абмежаваны, таму тут яны сустракаюцца рэдка.

У цэлым можна адзначыць, што колькасць рамеснікаў і рамесных спецыяльнасцей была ў мястэчках ніжэйшай, чым у гарадах. Аднак і колькасць жыхароў у гарадах, як правіла, перавышала колькасць насельніцтва мястэчак. У шэрагу мястэчак удзельная вага рамеснага насельніцтва магла часам набліжацца да падобных параметраў некаторых гарадоў, а іншым часам і перавышаць іх. З улікам невялікіх памераў мястэчак ступень рамесніцкай спецыялізацыі ў некаторых з іх варта прызнаць дастаткова значнай.

На падставе тых крыніц, якія маюцца ў нашым распараджэнні, заўважыць далёка ідучую спецыялізацыю паміж асобнымі мястэчкамі немагчыма. Перавага ў большасці мястэчак адных і тых жа груп спецыяльнасцей і вельмі малая колькасць рамеснікаў "экзатычных" прафесій сведчаць аб тым, што рамесніцкая значнасць асобных мястэчак рэдка выходзіла за межы прылеглых сельскіх рэгіёнаў. Аднак у шэрагу мястэчак на працягу разглядаемага перыяду адбывалася паступовае пераадоленне лакальнага характару рамяства.

Умовы для гэтага, як адзначае Ю. Бохан, раней склаліся ў тых мястэчках, якія ляжалі на буйных камунікацыйных шляхах, як сухапутных, так і водных. Найбольшае распаўсюджанне тут атрымлівалі спецыяльнасці, звязаныя з забеспячэннем умоў пражывання прае-

232 *Табліца 16.*

233 *Шаатнэз* – уведзеная згодна з запаветам Торы забарона адначасова спалучаць у вопратцы валокны расліннага і жывёльнага паходжання.

зджым і абслугоўваннем камунікацыйнага руху[234]. Многія мястэчкі спецыялізаваліся на суднабудаўніцтве (Дуброўна, Лоеў, Крычаў, Стоўбцы, Новы Свержань, Любча, Тураў, Петрыкаў, Бешанковічы і інш.), і тым самым рабілі свой унёсак у складванне такой адметнасці Беларусі перыяду перавагі рачных камунікацый, як наяўнасць значнай колькасці суднабудаўнікоў.

Перадумовы для пераадольвання лакальнага характару мястэчковага рамяства існавалі таксама ў выглядзе прадпрыемстваў, якія адносіліся да дробнакапіталістычнага і асабліва мануфактурнага тыпу. Да катэгорыі дробнакапіталістычных прадпрыемстваў звычайна адносяць прадпрыемствы ручной працы з колькасцю рабочых ад 5 да 15, а да мануфактур – прадпрыемствы ручной працы з шырокім яе падзелам і з колькасцю рабочых 15 і болей. Аналіз ***дробнакапіталістычнай і мануфактурнай вытворчасці***, цэнтрамі якой у разглядаемы перыяд становіліся мястэчкі, дапаможа вызначыць спецыялізацыю паміж мястэчкамі.

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. крыніцы адзначаюць немалую колькасць прамысловых прадпрыемстваў у мястэчках Беларусі (зрэдку ўлічваліся і рамесныя майстэрні, але далёка не ў поўным аб’ёме). Па падліках А. Лютага, у Гродзенскай губерні “прамысловых” мястэчак налічвалася 26, у Мінскай і Магілёўскай – па 16, у беларускіх уездах Віленскай – 1, у Віцебскай губерні – не было[235]. Паводле колькаснай характарыстыкі местачковай прамысловасці, якую прывёў А. Люты[236], дынаміка прадпрыемстваў у мястэчках выглядала наступным чынам. Агульная колькасць прамысловых устаноў у мястэчках Беларусі амаль не змянілася. У сярэднім на кожныя 5 мястэчак прыходзілася адно прадпрыемства. К сярэдзіне XIX ст. павялічылася колькасць прадпрыемстваў у мястэчках Гродзенскай губерні: з 21 да 38, у мястэчках Магілёўскай губерні іх колькасць зменшылася з 32 да 15. Амаль не змянілася колькасць прамысловых устаноў у мястэчках Мінскай губерні.

Колькасная характарыстыка местачковай прамысловасці не дазваляе вызначыць тып прадпрыемстваў і ўзровень прамысловага развіцця мястэчак. У афіцыйных дакументах (у тым ліку і ў справаздачах губернатараў) пад назвамі “фабрыка” і “завод” фігуравалі ўсе без разбору прадпрыемствы, многія з якіх з’яўляліся раменснымі майстэрнямі. Таму неабходна прааналізаваць прамысловыя прад-

---

[234] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны... С. 116.
[235] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 148.
[236] *Табліца 17.*

прыемствы ў мястэчках з улікам колькасці рабочых, занятых на іх. Аднак такая інфармацыя ёсць не заўсёды, што не дазваляе дакладна аддзяліць рамесныя майстэрні, дробнакапіталістычныя прадпрыемствы і мануфактуры. Звесткі аб размеркаванні прамысловых прадпрыемстваў мястэчак у залежнасці ад колькасці рабочых, сабраныя А. Лютым[237], у параўнанні з аналагічнымі данымі па гарадах паказваюць, што ўдзельная вага прадпрыемстваў з колькасцю рабочых да 5 чалавек у мястэчках Беларусі была значна меншая, чым іх удзельная вага ў гарадах. Нават калі аднесці прамысловыя прадпрыемствы, па якіх няма звестак аб колькасці рабочых, да групы прадпрыемстваў з колькасцю занятых рабочых да 5 чалавек, то і тады іх удзельная вага ў мястэчках будзе меншай, чым у гарадах. Прадпрыемстваў мануфактурнага тыпу ў мястэчках у канцы XVIII – пачатку XIX ст. было 30%, а ў 50-я гг. XIX ст. больш за 35%[238]. Адна з галоўных прычын таго, што ў цэлым у мястэчках прамысловыя прадпрыемствы былі буйнейшыя ў параўнанні з гарадамі, заключаецца ў большых памерах дваранскага прадпрымальніцтва ў мястэчках, якое было прадстаўлена галоўным чынам уладальнікамі мястэчак.

Па галінах вытворчасці гэтыя размешчаныя ў мястэчках прадпрыемствы размяркоўваліся наступным чынам: пераважную групу складалі прадпрыемствы суконна-талеснай галіны (33 з 67 у канцы XVIII ст. і 36 з 70 у 30-я гг. XIX ст.). К канцу вывучаемага перыяду суконна-талесныя і палатняныя прадпрыемствы складалі каля 40% усіх прамысловых устаноў у мястэчках Беларусі. Колькасць прадпрыемстваў гарбарнай вытворчасці ўзрасла з 7 да 10. Колькасць папяровых прадпрыемстваў змянялася на працягу вывучаемага перыяду наступным чынам: у канцы XVIII ст. – 2, у 30-я гг. XIX ст. – 6, у 50-я гг. XIX ст. – 1; шкляных – адпаведна 5, 5 і 2 ; медзеапрацоўчых – 5, 4 і 1. У канцы 30-х гг. XIX ст. з’явілася новая галіна – цукровая (5 прадпрыемстваў), але зніклі 3 цагельныя “заводы”[239].

За межамі прыведзеных колькасных характарыстык засталіся шматлікія вінакурні, якія размяшчаліся ў мястэчках і знаходзіліся ў асноўным ва ўласнасці ці арэндным утрыманні габрэяў. Так, у 11 казённых і 67 памешчыцкіх мястэчках Гродзенскай губерні ў 1829 г. налічвалася 329 вінакурняў (315 з іх знаходзіліся ва ўласнасці і 14 у арэндным утрыманні габрэяў), на іх выкурвалася 93 797 вёдзер

[237] *Табліца 18.*
[238] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С. 148.
[239] Там жа. С. 148, 158.

віна[240]. Напрыклад, у мястэчках Гродзенскага ўезда налічвалася 42 вінакурні: у Скідзелі – 10, Азёрах – 9, Лунне – 6, Індуры – 5, Вялікай Бераставіцы і Камянцы – па 4, Крынках і Воўпе – па 3, Волі – 1. У мястэчках Лідскага ўезда ў гэтым годзе было 85 вінакурняў: у Астрыне – 25, Васілішках – 16, Эйшышках – 13, Радуні – 8, Новым Двары – 7, Жалудку – 6, Беліцы – 4, Орлі і Ражанцы – па 3. У дадзеным архіўным дакуменце змешчаны скаргі-прашэнні, якія падавалі гродзенскаму губернатару габрэі мястэчак Радунь, Астрына, Лунна, Крынкі, Індура, Вялікая Бераставіца і Азёры, дзе прасілі не забараняць ім займацца "піцейным промыслам"[241].

Некаторыя вінакурныя "заводы" былі буйнымі. Напрыклад, у Шклове ён уяўляў сабой двухпавярховы мураваны будынак, тут працавалі 25 рабочых, у год выраблялася 10 800 вёдзер віна[242]. Жалудок славіўся буйным піваварным "заводам", у сувязі з чым у наваколлі мястэчка амаль каля кожнай сялянскай хаты быў хмельнік, прадукцыя якога паступала на піваварню[243].

Асабліва багатыя традыцыі і прафесіяналізм у справе вытворчасці спіртовых напояў мелі габрэі. Іх традыцыйны набор у разглядаемы час: пеннае віно (16–20 градусаў), віно трохпробнае (не менш за 25 градусаў), розныя наліўкі, а таксама мёд і піва. Калі ў 1825 г. у піцейнай канторы г. Гродна праводзілася экспертыза моцных напояў, то было прадстаўлена 5 гатункаў гарэлкі і 9 гатункаў хлебнага віна[244]. Ёсць звесткі аб вырабе габрэямі рэдкіх, нават эксклюзіўных напояў. З успамінаў А. Паперны пра м. Капыль: "…р. Лейбке забот не имел. Он владел домом на базарной площади, притом жена его была замечательно дельная женщина, просто сокровище: она открыла способ производства "нектара", живительного напитка, неизвестного и олимпийским богам. Это была какая-то муть трудно определимого цвета и вкуса – не то пива, не то кваса, – которую копыльцы окрестили именем "Unter-Bier" (подпиво). Копыльцам этот напиток очень нравился, тем более, что он был весьма дешев…"[245]. Мешчанін м. Вялікая Бераставіца Абрам Рабіновіч у 1846 г. падаў прашэнне гродзенскаму губернатару аб дазволе яму адкрыць завод па вытворчасці рому, у якім "писал, что имеет около местечка собственной земли

---

240 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.3. Адз. зах. 536. Арк.137.

241 Там жа. Арк. 3–15, 105.

242 РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 156.

243 Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии / Н.Н. Улащик. М., 1965. С. 181.

244 Там жа. Ф. 2. Воп. 38. Адз. зах. 164. Арк. 757–764.

245 Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания... С.11.

45 моргов, а в самом местечке жилой дом и при оном фруктовый и овощной сад на 2-х моргах, землю обрабатывает в одну смену 30 сохами, из сего имеет пропитание с семейством, а с фруктов и разных мускательных растений даже ананасов сделав пробу рома из 5-летней старой водки, перегоняя оную 3 раза в кубке, от чего выходит хороший и душистый ром, просил исходатайствовать для него у Департамента мануфактур билета на завод рома А.Е. Рабиновича"[246]. На жаль, невядома, чым скончылася гэтая справа.

Звесткі аб местачковых прамысловых прадпрыемствах канца XVIII – першай паловы XIX ст. (уключна з найбольш значнымі рамеснымі майстэрнямі), якія фіксаваліся ў справаздачах губернатараў, дазваляюць выдзеліць тыя мястэчкі, што з'яўляліся даволі значнымі цэнтрамі развіцця прамысловасці Беларусі, а таксама ўбачыць вытворчую спецыялізацыю мястэчак[247]. Некаторыя мястэчкі, як, напрыклад, Бяроза, Азёры, Ізабелін, Косава, Ружаны, Хомск, Шарашова Гродзенскай губерні, Гомель, Горкі, Дуброўна, Канічы, Крычаў, Прапойск, Свяцілавічы, Хоцімск і Шклоў Магілёўскай губерні, стаялі ў прамысловых адносінах на ўзроўні многіх гарадоў Беларусі, а іншы раз і пераўзыходзілі іх[248]. Прывядзём канкрэтны матэрыял аб развіцці асноўных цэнтраў местачковай прамысловасці, пераважна мануфактурнай, у канцы XVIII – першай палове XIX ст.

Некаторыя прыватнаўласніцкія мястэчкі, асабліва ў Магілёўскай губерні, сталі значнымі цэнтрамі мануфактурнай вытворчасці яшчэ ў канцы XVIII ст. Паводле звестак М. Раманоўскага, з 1778 па 1800 г. было створана 12 мануфактур у мястэчках. Князь Р. Пацёмкін у Крычаве заснаваў парусінавую, канатную і шкляную мануфактуры, у Дуброўне – суконную і гадзіннікавую, адну з першых у Расійскай імперыі. Адзін з багацейшых дваран-вотчыннікаў Расіі Зорыч стварыў у Шклове суконную, парусінавую, шаўковую, канатную, гарбарную мануфактуры. Суконныя мануфактуры заснавалі ў м. Ізабелін Грабоўскі і ў м. Хомск Пуслоўскі. Галынскі адчыніў парусінавую мануфактуру ў Крычаве[249].

Буйнейшым прадпрыемствам з'яўлялася парусінавая мануфактура ў м. Крычаў, на якой выкарыстоўвалася 172 станы. У 1786 г. было выраблена 1190 пудоў парусінавага палатна. Акрамя непасрэдна

---

246 НГАБ у Гродна. Ф. 2. Воп. 11. Адз. зах. 577. Арк. 1.

247 *Табліца 19.*

248 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии... С.148–156.

249 Романовский, Н.П. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII – первая половина XIX в.) / Н.П. Романовский. Минск, 1966. С. 147.

занятых на мануфактуры ткачоў, “на баку” яшчэ працавала каля 1000 жанчын, якія займаліся вырабам пражы. Буйной з’яўлялася і канатная мануфактура ў Крычаве (300 рабочых), у тыдзень на ёй выраблялася 1000 пудоў канату[250].

Парусінавыя, канатныя прадпрыемствы Крычава, Шклова, а таксама Хоцімска і Горак працавалі па абслугоўванні патрэб чарнаморскага флоту. Прадукцыю на мясцовы рынак выраблялі суконныя прадпрыемствы Любамірскага ў Дуброўне, Зорыча ў Шклове, Салагуба ў Горках. На кожным з іх працавала ад 20 да 80 прыгонных і па 2–3 вольнанаёмныя майстры. Палатняныя і гарбарныя прадпрыемствы (у Хоцімску, Шклове і інш.) былі невялікімі мануфактурамі[251].

Значны поспех мелі эканамічныя ініцыятывы ўладальніка Гомеля графа М. Румянцава, англамана ў поглядах на эканоміку. Ён кіраваўся менавіта англійскімі ўзорамі, перабудоўваючы гомельскі маёнтак, які за некалькі гадоў пераўтварыўся ў перадавую шматгаліновую гаспадарку. Напрыклад, ткацкая “фабрыка” ў Гомелі мела сучаснае абсталяванне (самаходныя ткацкія станы), а баваўняную пражу атрымлівала з Англіі (расход да 25 пудоў штомесячна). У Амерыцы яе вырабамі гандлявала Расійска-Амерыканская кампанія. Акрамя таго, у мястэчку дзейнічалі свечачны і гарбарны “заводы”, апошні выробляў чырвоны і белы юхт, апрацоўвалася да 100 шкур штомесячна[252].

Працягвалі дзейнічаць у мястэчках заснаваныя ў часы Рэчы Паспалітай славутыя магнацкія мануфактуры: Урэчча і Налібокі (вырабы з хрустальнага шкла, люстэркі), Целяханы (фаянсавы посуд), Карэлічы, Мір (дываны і габелены). Напрыклад, на шкляным прадпрыемстве Радзівіла ў м. Урэчча ў 1795–1796 гг. было занята 52 рабочых, прыбытак склаў 23,5 тыс. злотых. Рабочыя размяркоўваліся па 11 спецыяльнасцях, атрымлівалі за сваю працу, за рэдкім выключэннем, грашовую плату з улікам стымулявання, што забяспечвалася галоўным чынам здзельнай зарплатай, а таксама ўлікам ступені кваліфікацыі рабочых[253]. Аднак скон палітычнай магутнасці магнатаў, заняпад іх гаспадаркі непазбежна вялі да закрыцця такіх “прыдворных” мануфактур, якія забяспечвалі вузкае кола спажыўцоў, пераважна саміх уладальнікаў, прадметамі раскошы.

---

[250] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. ... С. 43.

[251] Там жа. С. 44.

[252] Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П.Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 22.

[253] Карпачев, А.М. О социально-экономической сущности вотчинной мануфактуры / А.М. Карпачев // Вопросы истории. 1957. № 8. С. 103.

Шкляная мануфактура Радзівіла існавала таксама ў м. Ілія. На ёй у 1797 г. працавала 25 рабочых, у асноўным прыгонных. Работы, якія патрабавалі пэўнай кваліфікацыі, выконвалі "мастеровые посторонние по договорным ценам". За 1800 г. было выраблена прадукцыі на 8045 руб.[254]

З памешчыцкіх мануфактур, існаваўшых у мястэчках Віцебскай губерні ў канцы XVIII – пачатку XIX ст., вядома палатняная мануфактура графіні Зубавай у м. Усвят. На ёй выкарыстоўвалася 100 станаў, працавала каля 80 прыгонных, выраблялася звыш 2200 кускоў палатна. Прадукцыя збывалася ў Рызе, Пецярбургу і на мясцовым рынку[255].

У Гродзенскай губерні ў м. Ружаны знаходзіліся дзве значныя мануфактуры – суконная і палатняная, заснаваныя ў 1785 г. уладальнікам мястэчка князем Сапегам. На гэтых прадпрыемствах выкарыстоўваўся шырокі падзел працы. Напрыклад, на Ружанскай суконнай мануфактуры, згодна з яе "апісаннем" за 1796 г., працэс вытворчасці быў разбіты на 9 відаў работ, якія выконваліся асобнымі групамі рабочых пад кіраўніцтвам майстроў. Усе гэтыя віды работ выраблялiся ў розных памяшканнях, і відавочна, што пэўны падзел працы паміж рабочымі існаваў і ўнутры кожнага віда работ. Акрамя таго, даволі вялікая разнастайнасць назіралася ў абсталяванні Ружанскіх мануфактур: у "апісанні" указвалася каля 20 назваў розных "прыстасаванняў". На Ружанскіх мануфактурах выкарыстоўвалася толькі грашовая плата, прычым "майстар ткацкі" і "майстар суконны" атрымлівалі гадавы аклад па 800 злотых, астатнія майстры – здзельную плату. Рабочыя-чаляднікі атрымлівалі здзельную грашовую плату і ардынарый. Трэцяя, самая большая група рабочых – вучні ("хлопцы" і "дзяўчаты") – працавала пераважна "бясплатна, толькі з аднаго адзення і харчавання". Толькі тыя з вучняў, хто "сядзеў за станкамі", атрымлівалі здзельную грашовую плату[256].

У пачатку XIX ст. суконная і палатняная мануфактуры ў Ружанах насілі ўжо характар капіталістычных прадпрыемстваў. К гэтаму часу яны знаходзіліся на арэндным утрыманні ў мешчаніна Я. Лейбовіча з уплатаю 210 руб. у год. У 1801 г. на суконнай мануфактуры працавала 26 наёмных рабочых, было выраблена прадукцыі на 1500 руб.; на палатнянай – 15 наёмных рабочых, выраблена на

[254] РДГА. Ф.1350. Воп.312. Адз. зах. 90. Арк.127.

[255] Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распада феадалізма. Ч.1. Мінск, 1934. С.10.

[256] Карпачев, А.М. Мануфактура с принудительным трудом и ее значение в развитии капитализма / А.М. Карпачев // Вопросы истории. 1962. № 8. С. 60.

572 руб. 90 кап.[257] Такім жа шляхам і прыкладна ў гэты ж час адбывалася пераўтварэнне Дубровенскай суконнай мануфактуры князёў Любамірскіх з феадальнай у капіталістычную. Па звестках за 1809 г., яна паўстае ўжо як прадпрыемства, якое поўнасцю выкарыстоўвала працу вольнанаёмных рабочых[258].

Значным было прамысловае развіццё Вішнева. Тут існавалі шкляны, цагельна-ганчарны, спіртовы "заводы", сукнавальня. Але найбольш славілася буйная мануфактура па вытворчасці жалеза, заснаваная графам Іахімам Храптовічам. Менавіта тут у 1780 г. была пабудавана першая ў Беларусі доменная печ. Былі плавільня, кузня, плюшчыльная машына, ліцейня для плаўкі чыгуну, вадзяныя машыны, вадзяныя молаты, чыгунныя кавадлы і інш. Вырабляліся сашнікі, паласавое жалеза, адліўкі для сельскагаспадарчага інвентару і інш. У XIX ст. прыклад Вішнева паўплываў на стварэнне новых металургічных прадпрыемстваў ў Старынцы, Налібоках, Чарняўцы. Эканамічныя рэаліі ў першай палове XIX ст. садзейнічалі таму, што беларуская металургія перажывала ў гэты перыяд кароткачасовы ўздым[259].

У канцы XVIII ст. назіралася скарачэнне колькасці мануфактур у мястэчках: спынілі сваё існаванне шклоўскія, крычаўскія і іншыя мануфактуры. Аднак гэта яшчэ не азначала агульнага заняпаду мануфактурнай прамысловасці ў мястэчках. Мы і пазней назіраем такую з'яву, калі адны мануфактуры зачыняюцца, другія паспяхова развіваюцца, з'яўляюцца новыя. Часта мануфактуры зачыняліся пасля смерці іх уладальнікаў. Некаторыя мануфактуры ўзнікалі без уліку рэальнай глебы для свайго развіцця і, натуральна, доўга існаваць не маглі.

Такім чынам, па наяўнасці прамысловых прадпрыемстваў, як дробнатаварнага, так і мануфактурнага тыпу, мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. пераўзыходзілі гарады. У мястэчках з прычыны спрыяльнай рыначнай кан'юнктуры развівалася палатняна-парусінавая (Магілёўская губерня) і суконная (Гродзенская губерня) прамысловасць.

Вялікія страты гаспадарцы, у тым ліку і мануфактурнай прамысловасці Беларусі, нанесла вайна 1812 г. У той ці іншай ступені

---

[257] Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі... С.65.

[258] Карпачев, А.М. Мануфактура с принудительным трудом... С. 67.

[259] Киштымов, А.Л. Экономическое наследие Речи Посполитой в народном хозяйстве Беларуси /А.Л. Киштымов // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы: Міжнародная навук. канф. (2006, Гомель). Гомель, 2006. С. 27–33.

пацярпелі амаль усе прадпрыемствы. Вялікім разбурэннем, напрыклад, падверглася Дубровенская суконная мануфактура. Аб становішчы Урэчскага шклянога прадпрыемства ў “Журнале мануфактур и торговли” паведамлялася: “Когда же, по случаю неприятельского нашествия в 1812 г., сожжены мельница, рисовальня и шлифовня со всеми инструментами, к тому же еще выбыли искусные мастера и составщики хрустальной и зеркальной массы, то завод сей приведен в ошутительный упадок...”[260].

Вайна 1812 г. хоць і нанесла вялікі ўрон мануфактурнай прамысловасці Беларусі, але не выклікала працяглага яе застою.

Пасля вайны развіваліся прамысловыя цэнтры, якія намеціліся яшчэ ў першым дзесяцігоддзі XIX ст. У мястэчках Гродзенскай губерні (Ружаны, Ізабелін, Хомск, Пескі, Шарашова, Косава) развівалася суконная прамысловасць. Мястэчкі Ружаны, Ізабелін, Шарашова вызначаліся і як цэнтры гарбарнай вытворчасці.

Буйной з’яўлялася суконная мануфактура Пуслоўскага ў м. Хомск. У 1815 г. на ёй было выраблена 23 304 аршыны сукна, колькасць занятых складала 286 чалавек з уласных людзей Пуслоўскага. У 1820 г. майстроў і работнікаў налічвалася 359 чалавек, а ў 1828 г. – 550, выраблена сукна ў гэтым годзе 41 225 аршынаў[261].

На Ружанскіх суконных прадпрыемствах выкарыстоўвалася вольнанаёмная праца. Так, у 1822 г. на адным з іх, якое знаходзілася ў арэндным утрыманні ваўкавыскага і ружанскага мяшчан-габрэяў, было занята 138 чалавек, выраблена прадукцыі 44 760 аршынаў. Другая суконная мануфактура належала мешчаніну Л. Пінесу, у 1822 г. у ёй налічвалася 3 майстра і 95 рабочых: усе вольнанаёмныя; выраблена сукна 4634 аршыны. Прадпрыемства Пінеса хутка развівалася, і ўжо ў 1828 г. колькасць занятых склала 159 чалавек, а выраб прадукцыі – 28 600 аршынаў[262].

У арэндным утрыманні габрэяў знаходзілася суконная мануфактура ў м. Косава. На ёй у 1820 г. было занята 79 наёмных людзей[263]. У 1819 г. была заснавана купцом першай гільдыі Ш. Левіным суконная мануфактура ў м. Шарашова. У 1828 г. на ёй працаваў 41 вольнанаёмны[264].

---

260 Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі... С.188.
261 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.1. Адз. зах. 565. Арк. 19.
262 Там жа. Адз. зах. 2661. Арк. 52.
263 Там жа. Адз. зах. 1918. Арк. 40.
264 Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі... С. 201.

У мястэчках Ружаны і Ізабелін існавалі невялікія капялюшныя майстэрні. Дробнымі былі і гарбарныя прадпрыемствы Ружан, Ізабеліна, Шарашова.

Прамысловы патэнцыял м. Азёры вызначалі суконная (заснавана ў 1807 г.) і папяровая (1809 г.) фабрыкі. Абедзве належалі Міхалу Валіцкаму. У 1820 г. суконнае прадпрыемства было ў арэндным утрыманні немца Г. Гейзлера, за гэты год было выраблена 22 кускі, 550 аршынаў. Колькасць рабочых складала 23, з іх 1 майстар, 4 падмайстра, 3 вучня, 15 жанчын для прадзення воўны. Усе, акрамя майстра, былі з самога мястэчка з сялян графа Валіцкага[265]. Папяровая фабрыка Азёр, па звестках на 1815 г., знаходзілася ў арэндным утрыманні выхадца з Прусіі І. Рульфа, за гэты год выраблена 375 стоп паперы, якія былі прададзены ў Гродне. Майстрам з'яўляўся сам Рульф, памочнікамі яго былі 4 селяніна графа Валіцкага[266].

Прамысловы патэнцыял м. Васілішкі вызначаў гарбарны "завод", вытворчасць якога, па даных на 1815–1816 гг., складала 1310 скур. Неабходныя матэрыялы для гарбарні набываліся ў Лідскім уездзе, а таксама ў Вільні і Зэльве. У гадавым звароце было капіталу да 800 руб. серабром[267].

У Свіслачы існавала адносна буйное папяровае прадпрыемства – мануфактура капіталістычнага тыпу. Вядома, што належала яна іншаземцу, усе рабочыя былі вольнанаёмнымі. У 1815 г. аб'ем вытворчасці склаў 755 "стоп"[268].

Суконная вытворчасць мястэчак Магілёўскай губерні атрымала своеасаблівую спецыялізацыю: выраб габрэйскага адзення, неабходнага для выканання рэлігійных абрадаў (талесаў, арбаканфасаў). Суконнае прадпрыемства князёў Любамірскіх у м. Дуброўна было аддадзена ў арэнду мяшчанам-габрэям і стала спецыялізавацца на вытворчасці талесаў. У 1809 г. на ім працавала 312 наёмных рабочых, выраблялася каля 25 тыс. аршынаў. На вытворчасць талесаў перайшла і вотчынная мануфактура (86 рабочых) князёў Дандуковых-Корсакавых у м. Раманава[269]. Аднак к канцу першай чвэрці XIX ст. аб'ём талеснай вытворчасці скараціўся. У 1826 г. у м. Дуброўна існавала 6 дробных талесных прадпрыемстваў, якія належалі купцам-габрэям трэцяй гільдыі[270]. Талесныя прадпрыемствы існавалі так-

[265] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 1. Адз. зах. 1918. Арк. 12.
[266] Там жа. Адз. зах. 565. Арк. 6–7.
[267] Там жа. Адз. зах. 561. Арк. 53 адв.
[268] Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белорусии. (1795–1861 гг.)... С. 253.
[269] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. ... С. 54.
[270] НГАБ. Ф.2001. Воп. 1. Адз. зах. 83. Арк. 32.

сама ў мястэчках Ветка, Гомель Магілёўскай губерні, Глыбокае Мінскай губерні.

У другой чвэрці XIX ст. суконныя прадпрыемствы існавалі ў мястэчках Ружаны, Ізабелін, Косава, Бяроза, Мір, Высока-Літоўск, Азёры, Пескі, Хомск Гродзенскай губерні. Буйнымі з'яўляліся Косаўская і Ружанская мануфактуры. На першай у пачатку 1840-х гг. працавала каля 360 рабочых, на другой – 150[271]. Астатнія прадпрыемствы былі параўнальна невялікімі.

У Гродзенскай губерні працягвала развівацца і гарбарная вытворчасць, якая насіла дробнатаварны характар. На местачковых прадпрыемствах гэтай галіны працавала не болей за 4–5 чалавек, а на некаторых – па 1–2. Гарбарныя майстэрні дзейнічалі ў мястэчках Шарашова, Ружаны, Ізабелін, Свіслач, Бяроза. Невялікія папяровыя прадпрыемствы існавалі ў мястэчках Азёры (памешчыцкае, 8 прыгонных рабочых) і Арлін (купецкае, 6 наёмных рабочых)[272]. Медзеапрацоўчае прадпрыемства дзейнічала ў м. Антопаль.

У Магілёўскай губерні цэнтрам талеснай вытворчасці паранейшаму з'яўлялася м. Дуброўна. У 1851–1852 гг. дзейнічалі 4 прадпрыемствы: 18, 18, 27, 30 вольнанаёмных рабочых; аб'ем вытворчасці складаў: 2024 руб., 1956 руб., 3311 руб. 50 кап., 4198 руб. Гарбарныя прадпрыемствы існавалі ў мястэчках Любавічы (у 1851 г. – 5 рабочых, 1300 скур на суму 1080 руб.), Талочын (у 1851 г. выраб на 320 руб.), два – у Смалянах (у 1851 г. – на 315 руб.), Хоцімску (у 1859 г. 1400 скур). Шкляныя прадпрыемствы дзейнічалі ў Чачэрску, Прапойску, у Гомелі – цукровы "завод" князя Паскевіча, на якім у 1859 г. было занята 186 вольнанаёмных рабочых[273].

Значна менш прамысловых прадпрыемстваў было ў мястэчках Мінскай губерні. Адносна буйная ткацкая мануфактура існавала ў м. Лагойск. Заснаваная ў 1837 г. Канстанцінам Тышкевічам, яна мела 50 станкоў, каля 100 рабочых, вырабляла да 100 000 локцяў адборнага палатна, а гадавы абарот складаў 25 000 руб. Ільняная пража была мясцовая, а баваўняную прывозілі з Манчэстэра. У 1844 г. на лагойскай ткацкай мануфактуры было занята 67 рабочых (45 вольнанаёмных і 7 прыгонных), якія вырабілі прадукцыі

[271] Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. ... С. 54.

[272] Там жа. С. 55.

[273] НГАБ. Ф.2001. Воп. 1. Адз. зах. 535. Арк. 44–54; Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. / А.М. Лютый. Минск, 1987. С. 156; Вишневский, А.Ф. Мануфактурное производство городов Белоруссии в 30–50-е гг. XIX в. / А.Ф. Вишневский // Вопросы истории. Минск, 1975. Вып. 2. С. 7.

на 7735 руб. Яна спыніла сваё існаванне пасля скасавання мытных межаў з Каралеўствам Польскім, не вытрымаўшы канкурэнцыі з таварамі, якія паступалі адтуль. У Лагойску дзейнічала ліцейня, пры ёй невялікая “фабрыка” сельскагаспадарчага інвентару. Канстанцін Тышкевіч, дбаючы пра інтарэсы мястэчка, заснаваў банк для мяшчан і сялян, якія даваў пазыкі на вельмі прымальных умовах[274].

У м. Урэчча знаходзілася шкляная мануфактура Радзівіла, у 1834 г. на ёй было 114 рабочых, выраблена прадукцыі на 7850 руб. У 1830 г. заснавана суконная мануфактура ў м. Гарадок, памешчык Хмара перадаў яе пазней купцу трэцяй гільдыі. У 1834 г. на ёй было занята 32 “масцеравых”, выраб прадукцыі склаў 6250 аршынаў. На суконнай мануфактуры ў м. Смілавічы ў 1844 г. было занята 18 чалавек, выраблена тавараў на суму 1303 руб. 75 кап.[275] Невялікія суконныя прадпрыемствы існавалі ў мястэчках Самахвалавічы і Узда, цукровы “завод” быў у м. Парычы.

У Ракаве, што належаў Здзяхоўскім, якія славіліся на ўсю Міншчыну культурай гаспадарання, прымяненнем навейшых прылад і тэхналогій, у 1843 г. было заснавана прадпрыемства па вырабе сельскагаспадарчых машын: сячкарняў, млыноў, арфаў і малатарняў, якія мелі попыт не толькі ў наваколлі, але разыходзіліся у Пскоўскай, Пецярбургскай і іншых губернях. Гадавы абарот гэтай вытворчасці складаў да 40 000 руб.[276]

Па наяўнасці прамысловых прадпрыемстваў мануфактурнага тыпу мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. значна пераўзыходзілі гарады. Аднак развіццё мануфактур можа быць акрэслена як местачковая з’ява толькі ўмоўна, таму што заснавальнікамі іх былі памешчыкі, узнікалі яны на базе феадальнага двара і цесна з ім былі звязаны. Эксплуатацыя прыгоннай працы мела для местачковых вотчынных мануфактур рашаючае значэнне. Разам з тым местачковая вотчынная мануфактура ўсё ж не была простым прыдаткам да памешчыцкай гаспадаркі. Пры наяўнасці феадальнай асновы на гэтых прадпрыемствах існавалі некаторыя “капіталістычныя элементы”: частковае скарыстанне наёмнай працы, выдача рабочым грашовай заработнай платы з улікам стымулявання іх працы, адносна буйны памер саміх прадпрыемстваў і падзелу працы на іх, значнасць і разнастайнасць іх рынычных сувязей.

---

[274] Ельскі, А. Гарады і мястэчкі / А. Ельскі // Выбранае / Аляксандр Ельскі; уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука. Мінск, 2004. С. 296.
[275] НГАБ. Ф.295. Воп. 1. Адз. зах. 871. Арк.31; Адз. зах. 76. Арк. 42.
[276] Ельскі, А. Гарады і мястэчкі... С. 305.

Найбольш буйныя местачковыя мануфактуры былі галоўным чынам у суконнай прамысловасці, для развіцця якой выкарыстоўвалася мясцовая сыравіна. На гэтых прадпрыемствах прымяняліся машыны. Напрыклад, на мануфактуры Цэханавецкага ў м. Канічы ў 1829 г. знаходзілася скубальная машына, дзве фаршынныя, варсавальная, па шэсць прадзільных і часальных. Усе машыны прыводзіліся ў рух сілай вады. Мануфактура купца трэцяй гільдыі Файнзільберга ў м. Косава, заснаваная ў 1825 г., у 1828 г. налічвала 45 прадзільных машын, 8 часальных і 2 прэсы. На суконнай мануфактуры памешчыка Аржэшка ў м. Беліна дзейнічала 75 ткацкіх, 37 прадзільных, 15 часальных і 38 іншых машын. На Хомскім суконным прадпрыемстве ў 1828 г. налічвалася 62 розныя машыны, 54 ткацкіх і 12 стрыгальных станаў, 3 прэсы. На Ружанскай суконнай мануфактуры Л. Пінеса ў 1828 г. было 23 машыны, 27 ткацкіх станаў і 29 іншых "прыстасаванняў"[277]. Гэтыя прыклады сведчаць аб шырокім падзеле працы і прымяненні машын у суконнай прамысловасці. Невыпадкова, што менавіта ў суконнай прамысловасці ў 20-я гг. XIX ст. узніклі ***першыя фабрыкі*** з прымяненнем паравога рухавіка. Гэта былі вотчынныя суконныя фабрыкі ў мястэчках Хомск і Косава, якія належалі буйному памешчыку і прамыслоўцу Пуслоўскаму. Падкрэслім, што першыя фабрыкі ў мястэчках узніклі раней, чым у гарадах.

У 1845 г. мелася суконная фабрыка каля м. Даўгінава. Да 1860 г. з'явіліся смолашкіпідарная фабрыка ў м. Стараселле і металаапрацоўчая фабрыка ў Горках[278]. Але ў дарэформенны перыяд паравыя машыны не атрымалі масавага распаўсюджання. Прычынамі гэтага былі недахоп буйных капіталаў у большасці мясцовых памешчыкаў і купцоў і танная рабочая сіла прыгонных сялян. Акрамя таго, мануфактуры (ва ўмовах вузкасці ўнутранага рынку, таннасці ручной працы) часта былі больш прыбытковымі, чым фабрыкі.

Як адзначалася, сярод уладальнікаў местачковых прадпрыемстваў пераважалі прадстаўнікі дваранства. Гэтая тэндэнцыя тлумачылася не толькі тым, што дваране выкарыстоўвалі манапольнае права ўласнасці на зямлю, сыравіну і бясплатную працу прыгонных сялян, але і тым, што патэнцыяльныя ўладальнікі купецкіх прадпрыемстваў былі на 90% прадстаўнікамі габрэйскай нацыянальнасці. Магчымасці

---

[277] Люты, А.М. Мануфактуры ў гарадах і мястэчках Беларусі / А.М. Люты // Народная асвета. 1983. № 12. С. 66; НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.20. Адз. зах. 466. Арк.123; Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі... С. 188.

[278] Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии... С. 85–87.

займацца прамысловасцю абмяжоўваліся ў габрэяў двайным падатковым прыгнётам і немагчымасцю атрымання крэдытаў. Калі дваране маглі атрымаць пазыку пад заклад маёнтка, то купцы-габрэі – толькі пры ўмове паручыцельства ўсяго кагала, які пры гэтым нёс матэрыяльную адказнасць, таму кагалу такіх паручыцельстваў не рабілі. Так, напрыклад, у 1809 г. габрэй Ш. Бегараў звярнуўся ў Галоўнае праўленне мануфактур з прашэннем аб выдачы пазыкі ў памеры 30 тыс. руб. асігнацыямі для расшырэння заведзенага ім суконнага прадпрыемства ў м. Пескі Ваўкавыскага ўезда. Нягледзячы на паручыцельства графа Казіміра Грабоўскага, Бегараву было адмоўлена ў яго просьбе[279].

Перашкаджаў развіццю прамысловага прадпрымальніцтва габрэяў і недахоп вольнанаёмных рабочых. Так, беліцкі купец другой гільдыі Гецэль Лэйзеравіч, які валодаў капіталам у 25 тыс. руб., звяртаўся ў Пецярбург з просьбай дазволіць адкрыццё гарбарнага завода і пакупку 200 душ сялян, бо "вольных рабочых людзей крайне недастаткова". У сваім прашэнні купец спасылаўся на ўказ Паўла I 1798 г., якім дазвалялася набыццё сялян для ўтрымання заводаў. Аднак калегія дзяржаўных мануфактур рашэннем ад 14 лістапада 1799 г. адмовіла яму, спаслаўшыся на ўказ 1784 г., якім забаранялася нехрысціянам карыстацца правам пакупкі і валодання прыгоннымі хрысціянскага веравызнання[280].

У сувязі з гэтымі прычынамі большасць местачковых прамысловых прадпрыемстваў, уладальнікамі якіх з'яўляліся мяшчане і купцы, былі невялікімі і недаўгавечнымі.

Нягледзячы на адзначаныя акалічнасці, на працягу разглядаемага перыяду ўдзельная вага непамешчыцкіх прадпрыемстваў у мястэчках паступова ўзрастала. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. купецкія ці мяшчанскія прамысловыя ўстановы ў мястэчках сустракаліся рэдка. А ў 30-я гг. XIX ст., па падліках А. Лютага, з 57 уладальнікаў прамысловых прадпрыемстваў у мястэчках дваран было 27 (47,3%), купцоў – 16 (28%), мяшчан – 11 (20%). Акрамя таго, з 6 іншаземцаў (4,7% усіх уладальнікаў) 4 арандавалі ўстановы ў памешчыкаў, а 2 мелі ўласныя прамысловыя прадпрыемствы[281]. Калі скласці разам прадпрыемствы, што належалі купцам і мяшчанам, то іх колькасць ужо зраўнялася з колькасцю дваранскіх прадпрыемстваў. А ў Гро-

---

[279] РДГА. Ф.17. Воп. 1. Адз. зах. 181. Арк. 2.

[280] Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме. HM 2/7982.18.

[281] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. / А.М. Лютый. Минск, 1987. С. 156.

дзенскай губерні мяшчанскія і купецкія прамысловыя ўстановы ўжо пераважалі над дваранскімі. Паказальна, што ў “Спісе фабрыкантаў і заводчыкаў Расійскай імперыі” за 1832 г. названыя прозвішчы 21 уладальніка прамысловых прадпрыемстваў у мястэчках Гродзенскай губерні, 17 з іх – габрэі (5 купцоў трецяй гільдыі, адзін купец другой гільдыі, астатнія – мяшчане)[282]. Габрэйскія мануфактуры былі прадстаўлены ў асноўным суконнай галіной (мястэчкі Ружаны, Шарашова, Высока-Літоўск, Бяроза, Ізабеліна, Мір, Дуброўна і інш.). Тут канцэнтравалася найбольшая колькасць буйных прамысловых капіталаў габрэяў.

Увогуле габрэйскія прадпрымальнікі дамініравалі ў многіх галінах прамысловасці, іх можна было сустрэць на ўсіх “паверхах” эканомікі Беларусі. У асобе прадпрымальнікаў габрэйскае насельніцтва ўзяло своеасаблівы рэванш за ўсе абмежаванні ў палітычнай, прававой, культурнай і рэлігійнай сферах. Часта габрэйскі бізнес выйграваў у жорсткай канкурэнтнай барацьбе менавіта таму, што быў да яе падрыхтаваны, бо не разлічваў на “цяплічныя ўмовы”, за ім не стаяла дзяржаўная ўлада, ён рос не дзякуючы, а насуперак ёй. Сведчаннем устойлівага эканамічнага поспеху габрэяў з’яўляюцца прадпрымальніцкія дынастыі. Працэс іх станаўлення можна заўважыць і ў мястэчках. Напрыклад, у Ружанах і Косаве ў тэкстыльнай вытворчасці на мясцовых суконных мануфактурах на працягу XIX ст. дамініравала сямейства Пінесаў[283].

У сувязі з тым што ў мястэчках многія мануфактуры былі вотчыннымі і належалі ўладальнікам мястэчак, працэнт вольнанаёмных рабочых на іх быў ніжэйшы, чым у гарадах. Так, у канцы XVIII – пачатку XIX ст. з 2284 працуючых на прамысловых прадпрыемствах у мястэчках 620 чалавек былі вольнанаёмнымі (27%). У 50-х гг. XIX ст. доля вольнанаёмных узрасла да 44,2%: з 3100 рабочых іх быў 1371[284].

Прамысловае развіццё мястэчак мела свае рэгіянальныя асаблівасці. Больш паспяхова набывалі прамысловы характар мястэчкі Магілёўскай і Гродзенскай губерняў. Прычым у канцы XVIII ст. лідзіравала ў гэтых адносінах Магілёўшчына, дзе местачко-

---

[282] Матэрыялы да гісторыі мануфактуры... С. 201–203.

[283] Kistymau, Andrej. Jüdische Unternehmer in Weißrussland: Zeitgenössische Wahrnehmung, Sozialprofil und Wirtschaftsformen // Unternehmer im Russischen Reich Sozialprofil, Symbolwelten, Integrationsstrategien im 19. und frühen 20. Jahrhundert. Jörg Gebhard / Rainer Lindner / Bianka Pietrow-Ennker (Hrsg.) Osnabrück, 2006. S. 213–243.

[284] Матэрыялы да гісторыі мануфактуры... С. 201–203.

вая прамысловасць атрымала новыя імпульсы для развіцця, звязаныя з эканамічнымі ініцыятывамі новых уладальнікаў. К канцу вывучаемага перыяду на першае месца па прамысловай функцыі выйшлі мястэчкі Гродзеншчыны. Мястэчкі Міншчыны адставалі ў прамысловым развіцці ад мястэчак Гродзенскай і Магілёўскай губерняў, але значна пераўзыходзілі мястэчкі Віцебшчыны, дзе крыніцы не фіксуюць ніводнага прадпрыемства. Гэта не азначае, што мястэчкі Віцебскай губерні зусім не мелі прамысловасці, але яна была нязначнай і пераважна кустарна-рамеснай, а таму і не падлягала ўліку.

Не падлягалі ўліку такія прамысловыя ўстановы, як маслабойні, крупадзёрні, млыны і інш. А яны маглі часам мець важнае значэнне ў эканамічным жыцці местачкоўцаў. Так, у афіцыйнай статыстыцы на працягу першай паловы XIX ст. у Горках фігуруюць прадпрыемствы суконнай, парусінавай, палатнянай, гарбарнай, чыгуналіцейнай галін. Аднак у мястэчку былі яшчэ адзін гарэлачны, адзін піваварны "заводы", адна крупадзёрня, тры маслабойні, адзін вадзяны млын[285]. Краснаполле, якое ў губернскай прамысловай статыстыцы не значылася зусім, мела некалькі "трапальняў", дзе часалі пяньку, каля 15 маслабойняў, дзе выраблялі канаплянае масла, а яшчэ – крупадзёрні, сукнавальні, млыны. Значнае месца ў гаспадарцы мястэчка займаў лясны промысел: рубка лесу і сплаў плытоў на поўдзень – у Кіеў, Крамянчуг, Кацярынаслаўль, а таксама варка сасновай смалы, выраб рагож[286].

Па ўзроўні развіцця прадпрымальніцтва адрозніваліся паміж сабою не толькі рэгіёны, але і асобныя мястэчкі. Ступень эканамічнай актыўнасці іх насельніцтва была рознай. Багаты матэрыял для параўнання ўзроўню прадпрымальніцтва ў мястэчках усходняга рэгіёна Беларусі даюць так званыя "Эканамічныя заўвагі" да Генеральнага межавання гэтай тэрыторыі на рубяжы XVIII–XIX стст. Так, у Магілёўскім уездзе, з аднаго боку, быў такі буйны гандлёва-прамысловы цэнтр, як Шклоў. Стары і Новы Шклоў мелі 849 двароў: 575 хрысціянскіх і 274 габрэйскія, 2 "фабрыкі" (шаўковая, суконная), 6 "заводаў" (конны, цагляны, канатны, гарбарны, вінакурны, свечны), 2 млыны, 2 кірмашы штогод, два разы на тыдзень таргі, 120 габрэйскіх крамаў і 70 крам, у якіх гандлявалі прыгонныя Зорыча. З другога боку, м. Княжыцы налічвала 57 двароў, у тым ліку 26 габрэйскіх, 1 млын, 1 кірмаш[287]. У Беліцкім уездзе значны гандлёва-

[285] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 717. Арк. 1–2.
[286] Рохлин, Л.Л. Местечко Краснополье / Л.Л. Рохлин. СПб., 1908. С. 39.
[287] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 153, 23–23 адв.

прамысловы патэнцыял мела Ветка: 6 “заводаў” (1 мыльны і 5 гарбарных), 10 кузняў, 2 кірмашы, адзін раз на тыдзень таргі, 48 крам. Гомель меў 3 кірмашы, адзін раз на тыдзень таргі, 96 крам, 1 млын, 2 водачных, 2 свечных, 1 цукровы “завод”, 4 мёдаварні, 2 крупадзёрні, 2 маслабойні, шмат “масцеравых” – срэбранікі, меднікі, кавалі, сталяры, аконнікі, краўцы, шаўцы і інш. А м. Антонаўка налічвала 40 двароў (10 габрэйскіх), 5 крам, 4 кірмашы[288]. Такая разнастайнасць эканамічнага жыцця мястэчак была абумоўлена ўсім комплексам канкрэтна-гістарычных умоў (геаграфічным палажэннем мястэчак, дзейнасцю іх уладальнікаў, складам насельніцтва (напрыклад, схільнасць да прадпрымальніцтва характэрна для старавераў і асабліва габрэяў) і інш.).

***

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. мястэчкі адыгрывалі даволі значную ролю ў развіцці прамысловасці Беларусі. Асноўнай яе формай у мястэчках у гэты час было рамяство. На працягу разглядаемага перыяду ўзрасла таварнасць рамеснай вытворчасці, адбывалася паступовае пераадольванне лакальнага характару местачковага рамяства, істотныя змены зведала цэхавая сістэма, сярод местачковых рамеснікаў сталі пераважаць габрэі. Па колькасці рамеснікаў і ўзроўні іх спецыялізацыі мястэчкі адставалі ад гарадоў. Аднак па канцэнтрацыі рамеснага насельніцтва (удзельнай вазе сярод усіх жыхароў) многія мястэчкі маглі пераўзыходзіць гарады (з улікам значнай праслойкі ў гарадах чыноўнікаў і ваенных). Па колькасці прадпрыемстваў мануфактурнага тыпу адназначна лідзіравалі менавіта мястэчкі. У мястэчках раней, чым у гарадах, узнікла фабрычная вытворчасць. Асобныя мястэчкі ў прамысловых адносінах стаялі на ўзроўні многіх гарадоў Беларусі, а іншы раз і пераўзыходзілі іх. Шэраг мястэчак вылучаліся шматгаліновым прадпрымальніцтвам, якое надавала ім рысы эканамічнага жыцця, характэрныя для гарадоў. Хоць у разглядаемы час сярод местачковых прадпрыемстваў панавалі вотчынныя, многія новыя з’явы (рост колькасці прамысловых устаноў і долі купецкіх і мяшчанскіх прадпрыемстваў сярод іх; павелічэнне ўдзельнай вагі вольнанаёмных рабочых, з’яўленне першых фабрык) сведчылі аб фарміраванні ў местачковай прамысловасці капіталістычнага ўкладу. У прадпрыемстваў, пабудаваных на феадальнай аснове, не было будучыні. Яны знікалі з разбурэннем феадальнай эканомікі

[288] Там жа. Адз. зах. 705. Арк. 7, 80, 106 адв., 107; Адз. зах. 712. Арк. 1–2.

і правядзеннем чыгунак. Але мястэчкі, што сталі прамысловымі цэнтрамі ў апошняй фазе існавання феадальнай сістэмы, далі вопыт і падрыхтавалі кадры для капіталістычнай прамысловасці гарадоў.

## 3.4. Сельская гаспадарка

Сельская гаспадарка адыгрывала надзвычай важную ролю ў эканамічным жыцці мястэчак Беларусі. І менавіта ступень аграрнасці таго ці іншага пасялення традыцыйна разглядаецца ў якасці аднаго з галоўных адрозненняў мястэчка ад горада. Аднак аграрныя рысы ўласцівыя для любога феадальнага горада. У многіх гарадах, як беларускіх, так і замежных, у першай палове XIX ст., як і ў папярэднія часы, сельская гаспадарка займала важнае, а часам нават асноўнае месца ў дзейнасці жыхароў. У той жа час многія мястэчкі, як было паказана, былі даволі развітымі асяродкамі прамысловасці і гандлю. Таму нельга прымаць перавагу сельскагаспадарчых заняткаў у мястэчках у якасці аксіёмы. Канкрэтнае вывучэнне мястэчак дазваляе вылучыць тыя з іх, якія насілі выключна аграрны характар, і тыя, дзе сельская гаспадарка мела другараднае, дапаможнае значэнне.

Асноўнай крыніцай, прыдатнай да падліку сельскагаспадарчага насельніцтва мястэчак, з'яўляюцца інвентары, асабліва прыватных маёнткаў. Дзякуючы таму што жыхары большасці мястэчак абцяжарваліся падаткамі на карысць феадала ў залежнасці ад колькасці зямлі, якой яны валодалі, лічба ўладальнікаў ворных участкаў, а таксама памеры гэтых участкаў фіксаваліся надзвычай скрупулёзна. Апісанне мястэчак рабілася па вуліцах з указаннем прозвішча гаспадара, колькасці зямлі (прысядзібнай, ворыва, сенажацей) і памераў падаткаў, змяшчаліся звесткі пра рабочую жывёлу (коні, валы) у кожным сялянскім двары, радзей пералічвалася прадукцыйная жывёла, птушкі, вуллі. Аналіз даных інвентароў памешчыцкіх мястэчак, некаторыя з якіх змешчаны ў дадатку, дазваляе зрабіць выснову, што працэнт гаспадарак, якія мелі ворныя ўчасткі, быў у мястэчках высокі (ад 14% у Смаргоні 1835 г. да 68% у Мастах 1846 г.)[289]. Акрамя ворнай зямлі жыхары мястэчак валодалі агародамі, сенажацямі і пашамі. Значнае распаўсюджанне ў мястэчках атрымала жывёлагадоўля, а таксама птушкагадоўля і бортніцтва.

Прывядзём некалькі дадатковых прыкладаў. Так, згодна з данымі інвентара м. Беліца Лідскага ўезда за 1810 г., жыхары мястэчка апрацоўвалі 66 валокаў ворыва, мелі 35 коней, 142 валы, 3 быкі, 108

[289] *Табліца 20.*

кароў, 81 ялоўню, 136 авечак, 68 свіней[290]. Інвентар Беліцы 1854 г. больш дэтальна апісвае землі, што былі ў карыстанні местачкоўцаў: *землі пляцавыя* (у *прэнтах*[291]) – у хрысціян пад будынкамі 9294 і пад агародамі 171 734; у габрэяў пад будынкамі 3191,5 і пад агародамі 1231,5; *землі шнуравыя* – 59,5 валокі; *землі моргавыя* – 338 *моргаў*[292] ворыўных і 335 моргаў 249 прэнтаў сенакосных. Колькасць жывёлы ў хатняй гаспадарцы жыхароў Беліцы ў гэтым годзе была наступнай: 56 коней, 136 валоў, 90 кароў, 51 бык, 32 цяляты, 382 авечкі, 141 свіння, а таксама 40 пчаліных "калодаў"[293].

У 1816 г. у карыстанні жыхароў Свіслачы Ваўкавыскага ўезда знаходзілася $21^{1}/_{3}$ валокі ворыва, 102 моргі агароднай зямлі, рабочай жывёлы – 35 коней, 42 валы. Ворную зямлю мелі 34 "цяглыя" двары[294]. Усіх двароў у мястэчку ў гэтым годзе налічвалася 134. Такім чынам, гаспадаркі, меўшыя ворныя ўчасткі, складалі каля 25%.

Найбольш поўна сельскагаспадарчыя заняткі жыхароў Свіслачы адлюстраваны ў інвентары 1852 г. У гэты час тут было 9 "цяглых" двароў і 27 "паўцяглых" (колькасць іх насельнікаў – 427 чалавек, з іх працаздольных – 111 мужчын і 120 жанчын). Маёмасць гэтых сялянскіх гаспадарак складалася з 58 жылых і 88 гаспадарчых пабудоў, 32 коней, 55 валоў, 46 кароў, 159 авечак і коз, 130 свіней, 28 пчаліных вулляў, 25 дзесяцін 150 сажняў сядзібнай, 450 дзесяцін ворнай, 150 дзесяцін сенакоснай, 69 дзесяцін 740 сажняў пашавай зямлі[295].

Акрамя "цяглых" і "паўцяглых" сялян у Свіслачы існавала такая катэгорыя сялянскага насельніцтва, як "агароднікі". Так, у 1844 г. іх налічвалася 33 "працаздольныя душы", адзначалася, што яны маюць уласныя дамы і пляцы і акрамя агародніцтва займаюцца "рознымі заработкамі і рамёствамі"[296].

Агародніцтвам займаліся і іншыя катэгорыі местачковага насельніцтва. Так, у 1847 г. жыхары вуліцы Варшаўская ў Свіслачы, сярод якіх былі сяляне, мяшчане, адстаўны ваенны і аднадворац, скардзіліся кіраўніку Гродзенскай палаты дзяржаўных маёмасцей Кажэўнікаву, што ў іх забралі агародную зямлю ў памеры 1 дзесяціна

---

290 AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 194. S. 12–13.

291 *Прэнт* (прут) – адзінка вымярэння плошчы ў ВКЛ, раўнялася 1/10 морга.

292 *Морг* – адзінка вымярэння плошчы ў ВКЛ з часу правядзення валочнай памеры, раўнялася плошчы памерам 3 ´ 1 шнур, або 30 ´ 10 прутоў (0,71 га).

293 AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 206. S. 19.

294 НГАБ у Гродне. Ф.1143. Воп. 1. Адз. зах. 33. Арк. 6 адв. – 7.

295 Там жа. Ф.31. Воп. 2. Адз. зах. 509. Арк. 518–545, 145, 52 адв.

296 Там жа.

2283 сажняў: "Мы, старожилы и хозяева м. Свислочи имели огороды, которые достались нам в наследство не только по отцах и дедах, но и прадедах наших... Ныне господин люстратор Копец и землемер Петкевич таковые огороды отобрали...". Склаў і напісаў прашэнне ад імя ўсіх пакрыўджаных адстаўны ваенны Петр Іваноў, астатнія "по не знанию письма" падпісаліся (паставілі "крыжыкі") насупраць сваіх прозвішчаў: Казімір Вайцэхоўскі, Рыгор Маланчык, Іван Гаўрылік, Антон Мінко, Міхал Маневіч, Андрэй Курбат, Казімір Дзесятчык і інш.[297]

Сельскагаспадарчыя заняткі жыхароў Свіслачы таксама ўскосна характарызуе прашэнне, пададзенае імі 24 жніўня 1859 г. люстратару Рысінскаму. У ім сяляне мястэчка прасілі "о назначении дополнительных сенокосов в конце Брестской и Варшавской улиц, а также в урочищах Купово, Заросли, Березовик и др. ...татары просили о назначении им выгона ..."[298]. Ёсць звесткі аб тым, што яшчэ раней, у 1847 г., жыхарам Свіслачы, па іх настойлівых просьбах, дадаткова было выдзелена 56 дзесяцін 600 сажняў сенажацей[299]. Гэтыя факты, а таксама прыведзеныя вышэй лічбы пагалоўя жывёлы сведчаць аб значным развіцці жывёлагадоўлі ў мястэчку.

Сярэдні памер плошчы зямельнага надзелу на адну цяглую гаспадарку істотна розніўся паміж асобнымі мястэчкамі[300]. У Бачэйкаве, напрыклад, у 1847 г. кожны цяглы двор карыстаўся 6,8 дзесяціны зямлі, а ў Паўллі – 20 дзесяцінамі. У некаторых мястэчках (Рось, Скідзель, Стоўбцы, Паўлле і інш.) не існавала адрозненняў у землекарыстанні паміж цяглымі гаспадаркамі. У іншых мястэчках пазямельныя адрозненні ў большай ці меншай ступені існавалі і складалі адну з праяў расслаення местачковага сялянства. Так, у Мастах у 1845 г. цяглы надзел вагаўся паміж 11 і 15 дзесяцінамі. Значныя адрозненні ў землекарыстанні паміж сялянскімі гаспадаркамі былі ў Смаргоні: у 1835 г. 2 гаспадаркі мелі ворныя ўчасткі па 19 дзесяцін 2010 сажняў, 7 гаспадарак – па 14 дзесяцін 2107 сажняў, 16 – па 9 дзесяцін 2205 сажняў, 19 – па 4 дзесяціны 2302 сажня, астатнія 48 – менш за 4 дзесяціны[301]. У Стоўбцах у 1841 г. 45 цяглых двароў мелі па 9 дзесяцін ворыва і 1 дзесяціне 1200 сажняў сенажацей, а 24 паўцяглыя гаспадаркі карысталіся надзеламі ў 4 дзесяціны 1200 сажняў во-

---

297 НГАБ у Гродне. Ф.31. Воп. 2. Адз. зах. 509. Арк. 518–545, 145, 52 адв.

298 Там жа. Адз. зах. 1380. Арк. 1 адв.

299 Там жа. Адз. зах. 556. Арк. 890.

300 *Табліца 21.*

301 Там жа. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 37; Ф. 515. Воп. 2. Адз. зах. 1. Арк. 23.

рыва і 1800 сажняў сенажацей[302]. Згодна з інвентарным апісаннем Міра 1858 г., 243 сялянскія гаспадаркі мястэчка былі надзелены зямельнымі ўчасткамі ў памеры ад 5 да 30 дзесяцін, што складала 3122 дзесяціны[303]. Уявіць памеры землекарыстання жыхароў Міра дапамагае план "грунтаў шнуровых" гэтага мястэчка за 1847 г.[304] 106 сялянскіх двароў Карэлічаў у 1859 г. мелі ў карыстанні 353 дзесяціны ворыўнай зямлі, на адзін двор прыходзілася ў сярэднім 3,3 дзесяціны, памеры ворыўных участкаў вагаліся ад 3 да 7 дзесяцін[305].

Жыхары некаторых мястэчак не мелі ворыва, а былі надзелены толькі агародамі. Так, паводле інвентару Грозава 1845 г., у мястэчку было 19 сялянскіх двароў (52 мужчынскіх, 45 жаночых), якія мелі 4 моргі 140 прэнтаў пляцавай зямлі, памеры надзелаў розніліся: 100, 80, 60 і менш прэнтаў. Налічвалася 4 каровы і 20 свіней. Грозаўцы паншчыны не выконвалі, а плацілі чынш, неслі натуральную дарожную павіннасць і старажоўшчыну[306].

Акрамя цяглых гаспадарак, у інвентарах мястэчак часта фіксуюцца агароднікі і бабылі (ці кутнікі)[307]. У некаторых выпадках вага гэтых катэгорый сялянства сярод насельніцтва мястэчак была даволі прыкметнай. Агароднікі стала ўваходзілі ў гаспадарчае жыццё мястэчак, валодалі рамеснымі спецыяльнасцямі, а некаторыя мелі таксама і ворную зямлю. Бабылі, як правіла, займаліся рамёствамі, дробнымі промысламі, падзённымі работамі. Так, у 1840 г. у Новым Свержані было 44 двары бабылёў (каля 19% ад колькасці ўсіх двароў у мястэчку)[308]. Значнай колькасцю агароднікаў вылучаліся Стоўбцы: у 1841 г. 64 двары (усіх двароў у мястэчку было 278, а сялянскіх 135, агароднікі складалі 23% ад усіх двароў і 47% ад сялянскіх)[309]. Сялянства Койданава ў 1846 г. было прадстаўлена 189 дварамі: 25 цяглых і 80 паўцяглых, 40 агароднікаў і 44 бабыля; усіх двароў у мястэчку налічвалася 353[310].

Згодна з інвентарнымі апісаннямі, сістэма земляробства мястэчковых сялян была трохпольнай. Зямля апрацоўвалася сахою на двух валах і бараною на адным кані. Вырошчвалі жыта, пшаніцу, ячмень,

---

[302] НГАБ. Ф. 27. Воп. 5. Адз. зах. 177. Арк. 12 адв.
[303] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 2472. S. 3.
[304] *Малюнак 8.*
[305] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1816/2 . S. 32.
[306] Там жа. Sygn. 1318. S. 2–14.
[307] *Табліца 37.*
[308] НГАБ. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 809. Арк. 7 адв. – 8.
[309] Там жа. Ф. 27. Воп. 5. Адз. зах. 177. Арк. 12 адв.
[310] Там жа. Адз. зах. 142. Арк. 47 адв.

авёс, грэчку, гарох, бульбу, буракі, капусту, цыбулю і інш. Прадукты сваёй гаспадаркі сяляне прадавалі на месцы ці ў бліжэйшых гарадах і мястэчках. Напрыклад, сяляне Скідзеля гандлявалі ў сваім мястэчку, а таксама ў м. Азёры і г. Гродна, сяляне Росі – у м. Воўпа, м. Пескі і г. Ваўкавыск[311].

Даныя іншых архіўных дакументаў не адрозніваюцца такой паўнатой, як даныя інвентароў. Часцей за ўсё сустракаюцца звесткі аб колькасці зямлі, што належала мястэчкам.

Сельскагаспадарчыя заняткі былі для многіх местачкоўцаў адзіным сродкам да існавання. Яскрава сведчыць аб гэтым лёс мяшчан м. Пагост-Зарэчны Пінскага ўезда. У 1819 г. уладальнік мястэчка памешчык Філацьеў звярнуўся спачатку ў Пінскі земскі ўезны суд, потым у Мінскі галоўны суд 1-га Дэпартамента з мэтай спагнаць з пагосцкіх мяшчан (28 двароў) 8940 злотых 6 грошаў за невыкананне павіннасцей за карыстанне зямлёй. Калі судовы засядацель Неслухоўскі данёс, што мяшчане м. Пагост "к платежу упомянутой суммы не состоятельны", суд прыняў рашэнне перасяліць іх з уладальніцкіх зямель у іншыя месцы. Па распараджэнні Пінскага гарадавога магістрата ў 1821 г. пагосцкія мяшчане былі расселены ў г. Пінск (19 чалавек), м. Нобель (17), м. Гародная (25), м. Лагішын (15). Але потым, як адзначаецца ў архіўнай справе, "мещане сии, привыкшие к одному лишь хлебопашеству, не найдя свободной земли в новых сих местах, а на содержание семей других средств приобресть будучи не в состоянии, так как ни один из них не был ни ремесленником, ни промышленником, к чему и нужного капитала не имели, лишась способов к пропитанию себя, обратились на прежние свои жилища в м. Погост"[312].

Разам з тым, нягледзячы на ўсю сваю важнасць, сельская гаспадарка не магла забяспечыць местачкоўцаў сродкамі да існавання цалкам. Нават пры значнай колькасці насельніцтва, у той ці іншай ступені звязанага з земляробствам, мястэчка не заўсёды магло мець сельскагаспадарчы характар. Вельмі сціплыя ворныя надзелы многіх местачкоўцаў прымушалі іх шукаць іншыя заняткі. Шырокае распаўсюджванне атрымалі адыходныя промыслы: сплаўныя, возніцкія, дарожна-будаўнічыя работы. Паказальна, што жыхары нават такога ярка выражанага сельскагаспадарчага мястэчка, як Вілейка канца XVIII ст. (да ператварэння яе ў 1795 г. ва ўезны цэнтр),

[311] НГАБ у Гродне. Ф.96. Воп.1. Адз. зах. 201. Арк. 40; Адз. зах. 232. Арк. 44; Адз. зах. 1267. Арк. 40.

[312] НГАБ. Ф.299. Воп. 2. Адз. зах. 520. Арк. 17–142.

што не мела ні ўнутранага гандлю, ні крам, асновай дзейнасці якіх з'яўлялася земляробства, агародніцтва і рыбалоўства, не маглі цалкам забяспечыць сябе прадуктамі харчавання і мусілі займацца абслугоўваннем сплава па рацэ Віліі[313]. У інвентары Лахвы 1840 г. пры апісанні заняткаў сялян мястэчка пазначана: "Промышленность крестьян заключается в хлебопашестве, впрочем излишние в семействах рабочие нанимаются к выделке смолы, товарного лесу, порубке дров, для сплава по судоходным рекам, а все вообще занимаются торговлею грибами, рыбою, мёдом"[314]. А згодна з інвентаром 1845 г. сяляне м. Рось "кроме хлебопашества занимаются разведением скота для земледельческих работ и на продажу, разведением овец на продажу и для шерсти; разводят огородные растения для продажи в ближайших городах и местечках; нанимаются для транспортов, получая за каждые 7 вёрст от 15 до 20 коп. сер. на одну лошадь"[315].

Недахоп ворнай зямлі і немагчымасць існаваць толькі за кошт земляробства прыводзілі да таго, што частка земляробаў не толькі займалася жывёлагадоўляй, гандлем і адыходнымі промысламі, але і набывала рамесніцкія спецыяльнасці. Сярод сялян-местачкоўцаў былі, як правіла, "масцеравыя," якія выраблялі для ўласных патрэб і на продаж колы, драбіны, сані, дугі, бараны, сохі, посуд і іншыя рэчы з дрэва[316].

За карыстанне зямельнымі ўчасткамі жыхары мястэчак выконвалі на карысць уладальніка розныя павіннасці, што будзе падрабязна паказана ў наступным раздзеле. Сума чыншу, якую атрымлівалі ўладальнікі ад местачкоўцаў за ворныя і сенакосныя землі, магла быць досыць значнай. Таму у шэрагу выпадкаў феадалы былі зацікаўлены ў павелічэнні местачковых надзелаў і нейкім чынам нават стымулявалі яго. Напрыклад, цяглыя сяляне м. Масты мелі права браць дадаткова ў карыстанне парожнюю зямлю за самую ўмераную цану. Жадаючым давалі таксама на апрацоўку зарослыя лугі з выплатай невялікага чыншу. Уладальнік м. Рось у 1845 г. з мэтай "палепшыць становішча сялян" вызначыў для жадаючых дадаткова па 7 дзесяцін 543 сажня зямлі пад назвай "вольнанаёмнай" з плацяжом за яе чыншу[317].

---

[313] Бохан, М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): Дыс. … канд. гіст. навук / Ю.М. Бохан. Мінск, 1994. С. 98.

[314] AGAD. AR. Dz. XXV. S. 2192 a. S. 36.

[315] НГАБ у Гродне. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 232. Арк. 46 адв.

[316] Там жа. Адз. зах. 201. Арк. 45.

[317] Там жа. Адз. зах. 201. Арк.37; Адз. зах. 232. Арк. 26.

У мястэчках сельскай гаспадаркай займаліся не толькі сяляне, але і мяшчане-хрысціяне, а ў некаторых выпадках і іудзеі. Так, у Мінскай губерні ў 1809 г. з 1840 габрэйскіх сем’яў, пераселеных з сельскай мясцовасці ў мястэчкі, 70 займаліся сельскай гаспадаркай[318]. Заняткі габрэяў сельскай гаспадаркай адлюстроўваюць інвентары. Напрыклад, паводле інвентару Валожына 1740 г., у мястэчку было 103 хрысціянскіх і 36 габрэйскіх гаспадарак. 8 габрэйскіх сем’яў мелі “аромыя” моргі (усяго – 14¾ морга), а 6 – сенажатныя ($16^2/_3$ морга)[319]. Некаторыя габрэйскія сем’і мелі агароды, прадукцыя якіх ішла на ўласныя патрэбы. Занятак ворыўным земляробствам сярод габрэяў быў выключэннем. У 1849 г., калі збіраліся звесткі аб гаспадарчых занятках габрэяў, у мястэчках Гродзенскай губерні (без Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага ўездаў) “водворились для хлебопашества” 349 габрэяў мужчынскага полу (у Наварасійскім краі – 1, у Гродзенскай губерні на казённых землях – 44, на ўласных ці арандаваных – 304), што складала каля 2%. Нетыповая прафесійная структура габрэйскага насельніцтва была ў гэты час у м. Сялец Пружанскага ўезда: з 326 габрэйскіх мужчын 203 займаліся земляробствам (62%)[320].

Асноўнай і амаль адзінай сферай эканамічнай дзейнасці мястэчковых габрэяў было неземляробчае прадпрымальніцтва. Спроба прышчэплівання габрэям нетрадыцыйнага для іх віду дзейнасці – заняткаў сельскай гаспадаркай – скончылася няўдачай. Гаворка ідзе аб праекце аб’яднання габрэяў у земляробчыя калоніі. Аналізуючы прычыны няўдач у арганізацыі габрэйскіх земляробчых калоній, мінскі губернатар пісаў у справаздачы за 1839 г., што “ўсе гэтага роду пасяленні складаюцца з самабяднейшых сем’яў, якія пазбаўляючыся ўсіх сродкаў да ўтрымання свайго ў гарадах і мястэчках, рашаюцца па неабходнасці ўзяцца за плуг, каб пры першай магчымасці вярнуцца ў мяшчанскае саслоўе”[321]. Афіцыйныя асобы, каб пазбегнуць адказнасці за промахі ў арганізацыі пасяленняў, пастаянна спасылаліся на нібыта прыроджаную няздольнасць габрэйскага народа да земляробства. “Аднак усё гэта рашуча не так, – пярэчыў чыноўнік С. Славуцінскі, які служыў у міравых сялянскіх установах

[318] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие Белоруссии во второй половине XVIII – первой половине XIX в.: Дис. … д-ра ист. наук: 07.00.02. / А.М. Лютый. Минск, 1990. С. 259.

[319] АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn.9365.

[320] *Табліца 14.*

[321] Сосна, У.А. Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. / У.А. Сосна. Мінск, 2000. С. 99.

Ковенскай губерні. – Я сам бачыў габрэяў-земляробаў у Віленскім павеце, што аруць і апрацоўваюць свае землі не горш сапраўдных тамтэйшых сялян"[322].

Цікавыя згадкі аб адной габрэйскай земляробчай калоніі пад Смаргонню пакінуў У. Сыракомля. Яму кінулася ў вочы вёска, не падобная на іншыя: "Хаты акуратныя, выстраіліся ў шнур, як салдаты, гэтакія ж роўненька, адзін за адным, хлявы. Навокал не відаць ні дрэўца... Гэта ж – калонія габрэяў-земляробаў, якіх у колькасці 25 сем'яў пасяліў тут урад. Як відаць, каланістам палюбілася земляробства. На вуліцы не ўбачыш гразі, шуму ды гаму, як у габрэйскіх мястэчках, за вёскай шчыруюць з сохамі ды баронамі людзі..."[323]. А вось у архіўных дакументах 1853 г. сустракаецца нараканне на недахоп зямлі і дрэнную яе якасць у Смаргонскай земляробчай калоніі: "...в имении Сморгонь поселены 23 семейства евреев, в каждом из них состоит от 5 до 9 душ мужского пола. Они наделены участками в 111/2 десятин… Участки эти малы для многодушных семейств и плохи по качеству земли"[324]. Габрэі такіх калоній з цягам часу аддавалі перавагу жывёлагадоўлі. Пра гэта сведчаць прашэнні габрэяў-земляробаў аб надзяленні іх сенажацямі замест ворыва. Так, у 1859 г. на імя люстратара м. Свіслач Рысінскага паступіла прашэнне, у якім "евреи-земледельцы колонии "Израильской" просили о наделении их сенокосами в урочище Мостки и Богатое, евреи- земледельцы колонии "Галилейской" – о замене им пахотной земли при д. Лашевичах и наделении сенокосами в урочище Дзики"[325].

У пачатку 1850-х гг. уладальнік м. Краснаполле Бенкендорф даў 27 габрэйскім сем'ям па 7 дзесяцін зямлі для сельскагаспадарчага карыстання на вельмі льготных умовах. Аднак паступова на працягу 15 гадоў зямля перайшла назад да памешчыка[326]. У 1847 г. 12 габрэйскіх сем'яў з Быхава і Барысава заснавалі слабаду Давыдаўка на арандаванай зямлі (240 дзесяцін), большую частку якой паступова страцілі. Пры абследаванні Давыдаўкі аграномамі ў 1898 г. аказалася, што агульны лік габрэйскіх сем'яў складаў 30 (168 душ), у іх карыстанні было 57 дзесяцін. Пры такіх дробных зямельных надзелах Давыдаўка, зразумела, страціла земляробчы характар[327].

---

322 Сосна, У.А. Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. С. 100.

323 Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах... С. 430.

324 ДГА Літвы. Ф. 384. Воп. 5. Адз. зах. 1332. Арк. 1 адв.

325 НГАБ у Гродне. Ф.31. Воп. 2. Адз. зах. 1380. Арк. 1 адв.

326 Рохлин, Л.Л. Местечко Краснополье / Л.Л. Рохлин. СПб., 1908. С. 9.

327 Старавойтаў, М.С. Слабада Давыдаўка Азарыцкага раёну Мазырскай акругі /

Каля м. Шчучын на базе канфіскаванага фальварка Тур'я царскія ўлады стварылі 16 зямельных надзелаў для "габрэяў-земляробаў". Эксперымент пачаўся ў 1848 г. Рэвізія 1857 г. адзначала тут 26 мужчынскіх душ. У 1907 г. Тур'я займала толькі 4 надзелы, на якіх працавала 11 сем'яў. Фактычна земляробчае пасяленне Тур'я было формай выжывання для найбяднейшых шчучынскіх габрэяў. Вопыт гэты быў няўдалым[328]. Адна з прычын беспаспяховасці спроб пераводу габрэяў на земляробчую працу заключаецца ў тым, што ў габрэйскім грамадстве гэта азначала паніжэнне сацыяльнага статуса. Земляробства паступова амаль цалкам знікла з прафесійнай структуры габрэйскага насельніцтва.

Габрэі больш актыўна займаліся жывёлагадоўляй і птушкагадоўляй. Значную ролю ў гаспадарцы габрэйскіх сем'яў адыгрывалі каровы і козы. Каза ў параўнанні з каровай прыносіла меншую карысць, але была таннай і патрабавала мізэрных выдаткаў на ўтрыманне. Таму каза была вельмі папулярным відам хатняй жывёлы і з'яўлялася абавязковым атрыбутам местачковага жыцця[329]. Малочныя прадукты ішлі ў ежу, а таксама на продаж для пакрыцця выдаткаў на ўтрыманне жывёлы. У шэрагу мястэчак гэты від дзейнасці насіў арэндны характар. Так, рэчыцкія габрэі арандавалі ў памешчыкаў малочную жывёлу і забяспечвалі малочнымі прадуктамі не толькі Рэчыцу, але і іншыя мястэчкі[330]. Для прафесійных патрэб местачковыя габрэі разводзілі таксама коней, гэта было неабходна "тряпочникам, барышникам, коробейникам, арендаторам статей сельского хозяйства в окрестных имениях, некоторым мясникам, ломовым извозчикам и лесопромышленникам"[331]. Утрымлівалі габрэі і хатнюю птушку (гусей, індыкаў, курэй, качак) як для ўласных патрэб, так і для продажу[332]. Колькасць рагатай жывёлы і птушак рэзка павялічвалася ў мястэчках летам, калі іх утрыманне было танным.

Пэўную ролю ў гаспадарчай дзейнасці мястэчак займала садоўніцтва. Паводле сведчання П. Шпілеўскага, у Койданаве "летом почти весь передний фронтовой ряд лавок гостиного двора завален пресловутыми койдановскими грушами и яблоками весом в *фунт*[333]

---

М.С. Старавойтаў // Наш край. 1929. № 11. С. 30.

328 Данскіх, С.У. Наш Шчучын… С. 100.

329 *Малюнак 9.*

330 Каганович, А. Речица… С. 125.

331 Рохлин, Л. Местечко Краснополье… С. 38.

332 Смиловицкий, Л. Евреи в Турове… С. 64.

333 *Фунт* – адзінка масы; у Расіі гандлёвы фунт быў роўны прыблізна 400 г.

и больше”[334]. Ёсць звесткі аб арэндзе габрэямі садоў як у самім мястэчку, так і ў навакольных маёнтках[335]. Адзначым, што садоўніцтва, таксама як і агародніцтва, было для габрэяў дадатковым да асноўных заняткаў і насіла сезонны характар: “Как и огороды, сады снимают лица, лишённые обычного заработка в летнюю пору, как например портной, лавочник, шерсточёс, красильщик, музыканты, тряпочники, рыбак и т.д.”[336]

Традыцыйным заняткам татар, што жылі ў мястэчках, было агародніцтва, якое яны вялі адмыслова і славіліся сярод жыхароў мястэчак і наваколля сваёй гароднінай. П. Шпілеўскі пісаў пра гэты від эканамічнай дзейнасці клецкіх татараў: “...что касается до лука и чеснока и вообще всяких огородных овощей, то татарки владеют каким-то секретом выращивать их в гораздо большем виде, чем это бывает у русских (г.зн. беларускіх. – *Аўт.*) мещан клецких: их луковицы бывают величиной с порядочную репу, их картофель – красный, необыкновенно вкусный, рассыпчатый и не водянистый; их морковь и свекла – сочны и даже зимой имеют вкус такой же, как и летом. Все эти продукты, равно как и всякую зелень, вы найдете у них в самую жестокую зиму и к весне, и притом найдете без всякого повреждения и в большом количестве… Летом татарки как бы не существуют для местечка: все они с дочерьми проводят целые дни в огородах и на полях; зимой, по воскресеньям и пятницам, вывозят на рынок свой товар огромными возами и сбывают его приезжим помещикам и однодворцам. ...Очень редко удается кому-нибудь достать у них семян каких-либо овощей”[337].

***

Карціна сельскагаспадарчых заняткаў жыхароў мястэчак была досыць стракатай. У мястэчках развіваліся земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўля, птушкагадоўля, садоўніцтва, бортніцтва. Працэнт земляробчага насельніцтва быў у мястэчках Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. даволі высокім. Як правіла, ворнымі ўчасткамі, сенакоснымі землямі і агародамі валодала большасць жыхароў мястэчак (часткова і габрэі). Вызначыць колькасць чыста аграрных гаспадарак у мястэчках вельмі цяжка, таму што наяўнасць і памеры ворных надзелаў не заўсёды могуць быць крытэрыем залічэння

334 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю… С. 91.
335 Смиловицкий, Л. Евреи в Турове… С. 64; Рохлин, Л. Местечко Краснополье… С. 58.
336 Рохлин, Л. Местечко Краснополье… С. 58
337 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю… С. 60.

землеўладальніцкіх гаспадарак да чыста аграрных. Земляробства магло з'яўляцца асноўным сродкам існавання тых местачкоўцаў, якія валодалі невялікімі ўчасткамі, але не мелі гандлёвых ці рамесніцкіх спецыяльнасцей, у той час як уладальнікі значных надзелаў часта займаліся рамяством альбо гандлем і таму не належалі да чыста аграрнага насельніцтва. У шэрагу выпадкаў землеўладальнікі не мелі цяглавай жывёлы, што абцяжарвала апрацоўку зямлі.

Нягледзячы на надзвычай важную ролю сельскай гаспадаркі ў эканамічным жыцці мястэчак, нельга вылучаць аграрнасць у якасці іх адметнай рысы. Тут патрэбны дыферэнцыраваны падыход. Сельскагаспадарчыя заняткі з'яўляліся амаль што адзінай крыніцай існавання большасці насельніцтва ў тых мястэчках, якія мы адносім да "мястэчак-сёл". "Мястэчкі гарадскога тыпу" былі даволі буйнымі рамесна-прамысловымі і гандлёвымі асяродкамі, і сельская гаспадарка мела тут другараднае дапаможнае значэнне. "Уласна мястэчкі", дзякуючы таму што яны выдзяляліся на фоне сельскіх паселішчаў сваёй эканамічнай значнасцю і большай заселенасцю, не з'яўляліся чыста аграрнымі. Такім чынам, аграрнасць памяншалася ў накірунку: "мястэчкі-сёлы" – "уласна мястэчкі" – "мястэчкі гарадскога тыпу". Неабходна звярнуць увагу і на тое, што роля сельскай гаспадаркі ў эканамічнай дзейнасці мястэчак залежала ад нацыянальнага складу местачковага насельніцтва. Чым большая была ўдзельная вага габрэяў сярод жыхароў мястэчка, тым меншае значэнне мелі земляробчыя заняткі ў яго эканамічным жыцці. Ды і сяляне-беларусы мястэчак у шэрагу выпадкаў не былі чыста земляробчым насельніцтвам. Можна меркаваць, што яны ў большай ступені, чым вяскоўцы, займаліся адыходнымі промысламі, гандлем і рамёствамі.

Таварнасць сельскай гаспадаркі ў мястэчках, з улікам габрэйскай арэнднай жывёлагадоўлі і садоўніцтва, татарскага агародніцтва, была вышэйшай, чым у вёсках. Верагодна, што і гаспадарка местачковых сялян-беларусаў была больш звязана з рынкам, чым гаспадарка вяскоўцаў. Продаж сваёй прадукцыі для местачковых сялян аблягчаўся наяўнасцю такой магчымасці непасрэдна ў самім мястэчку. Камунікацыйную, гандлёвую інфраструктуру мястэчак для рэалізацыі сваёй прадукцыі актыўна выкарыстоўвалі не толькі сялянскія гаспадаркі мястэчак, але і навакольных вёсак, а таксама фальваркавыя гаспадаркі памешчыкаў. А таму мястэчкі ўносілі ўклад у працэс капіталізацыі (росту таварнасці) сельскай гаспадаркі.

Значную ролю ў ім адыгрывалі местачковыя габрэі. Пераважна яны ўтваралі неабходную для гэтага інфраструктуру.

***

Завяршаючы разгляд гаспадарчага жыцця мястэчак, неабходна адзначыць, што мястэчкі адыгрывалі значную ролю ў эканамічным развіцці Беларусі, у прыватнасці ў трансфармацыі памешчыцкай гаспадаркі і таварызацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ўвогуле. Пра гэта сведчыць канцэнтрацыя ў мястэчках вотчынных мануфактур, якія папярэднічалі буйной капіталістычнай прамысловасці, і кірмашовага гандлю, які папярэднічаў аптоваму капіталістычнаму гандлю. Па аб’ёме мануфактурнай вытворчасці і кірмашовых абаротаў, па з’яўленні першых фабрык некаторыя мястэчкі апярэджвалі гарады і тым мацавалі базу для індустрыялізацыі і урбанізацыі Беларусі. Наяўнасць у многіх мястэчках развітой дробнатаварнай вытворчасці ў форме рамяства і дробнакапіталістычных прадпрыемстваў, поўнага спектру вядомых на той час форм арганізацыі гандлю з’яўляецца сведчаннем шырокага распаўсюджвання прадпрымальніцкай ініцыятывы местачкоўцаў.

Важна звярнуць увагу на той факт, што калі местачковая сельская гаспадарка адрознівалася ад вясковай, то істотных адрозненняў паміж гандлёва-прамысловай дзейнасцю ў мястэчках у параўнанні з гарадамі не было. Больш за тое, мястэчкі па шэрагу паказчыкаў развіцця гандлю і прамысловасці нават пераўзыходзілі гарады.

Галоўную ролю ў прамысловым і гандлёвым прадпрымальніцтве займалі габрэі. Вынікам іх гвалтоўнага высялення з вёсак у гарады і мястэчкі стала пераарыентацыя эканамічнай дзейнасці, трансфармацыя прафесійнай структуры. У першым дзесяцігоддзі XIX ст. асноўны акцэнт эканамічнага жыцця габрэяў пераносіцца ў мястэчкі і гарады. Важнасць гандлёва-прамысловай дзейнасці для іх значна ўзрасла, а таму габрэйскія гандляры і прамыслоўцы рабілі ўсё, каб манапалізаваць яе. Прыярытэтнымі заняткамі габрэяў былі гандаль, асабліва дробны, вінакурэнне, карчмарства, прамысловая (рамесная і мануфактурная) вытворчасць. Прафесійная структура габрэйскай супольнасці на працягу першай паловы XIX ст. змянялася ў бок узрастання заняткаў, звязаных з вытворчасцю.

Фактычна габрэі ў разглядаемы перыяд выступалі ў мностве розных роляў. Іх заняткі былі надзвычай разнастайныя: многія стаялі на мяжы закона, а некаторыя і пераходзілі гэтую рысу (кантра-

бандны гандаль, фальшываманецтва[338]). Далёка не поўны пералік сфер іх гаспадарчай дзейнасці: гандаль, рамяство, мануфактурная і фабрычная вытворчасць, арэнда, возніцтва, розныя пасрэдніцкія аперацыі і г.д. В. Антановіч адзначаў: "В небольших местечках евреи являются единственными купцами, лавочниками, ремесленниками и бог весть еще чем"[339]. Яскравым прыкладам можа служыць лазнік Піньке, жыхар м. Капыль, вобраз якога малюе ў сваіх успамінах А. Паперна. Лазня ў Капылі ва ўсе дні, акрамя пятніцы і суботы, выконвала функцыю свечнага "заводу", дзе Піньке вырабляў танныя свечкі. Гэта былі не ўсе яго заняткі: "Он соединял в своей особе, кроме должностей баньщика и управляющего свечным заводом, также и две другие, уже совершенно противоположные по своему характеру должности: погребальщика и *бадхона* (шут-веселитель на свадьбах)"[340].

Такім чынам, у выніку гвалтоўнага высялення габрэяў з вёсак у гарады і мястэчкі адбываецца ўзрастанне іх ролі ў жыццядзейнасці мястэчках. Габрэйскія гандляры, рамеснікі і прамыслоўцы занялі манапольнае становішча ў "неземляробчым" прадпрымальніцтве. Змена эканамічнай сітуацыі прывяла да таго, што "хрысціянскае" насельніцтва мястэчак згубіла свае былыя пазіцыі ў рамястве і гандлі, займалася ў асноўным сельскай гаспадаркай. Сектар "хрысціянскага" прадпрымальніцтва істотна скараціўся, але не знік. Негабрэйская частка насельніцтва мястэчак больш актыўна займалася суднабудаваннем і так званымі "адыходнымі" промысламі. Прадпрымальнікамі ў мястэчках выступалі таксама дваране – уладальнікі прамысловых прадпрыемстваў. Прадпрымальнае мяшчанства мястэчак у асобных выпадках папаўнялася і за кошт шляхты ў выніку яе "разбору". Безумоўна, выпадкі канфліктаў на эканамічнай глебе паміж габрэйскім і негабрэйскім насельніцтвам мястэчак мелі месца. Як, напрыклад, згаданы канфлікт паміж габрэйскімі і "хрысціянскімі" ткачамі м. Мір у сярэдзіне 20-х гг. XIX ст. Аднак кожная этнічная група насельніцтва заняла сваю нішу ў эканамічнай сістэме беларускага краю, у тым ліку і мястэчак. Хрысціянскае насельніцтва (пераважна сяляне-беларусы) займалася, як правіла, земляробствам, татары – агародніцтвам і вырабам скур.

338 Прыкладам могуць служыць матэрыялы следства па абвінавачванні габрэяў Шклова ў фальшываманецтве: Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме. HMF/628 («Дело по показаниям Брянского купеческого сына Алексея Клягина относительно евреев, промышляющих в м. Шклов фальшивыми кредитными билетами. 1858 г.»).

339 Цыт. па: Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России… С. 378.

340 Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания… Т. 2. СПб., 1910. С. 22.

Габрэі занялі манапольнае становішча ў гандлёва-прамысловым прадпрымальніцтве мястэчак. Габрэйскія гандляры і рамеснікі жорстка канкуравалі паміж сабой, што прыносіла страты не хрысціянскаму, а менавіта габрэйскаму насельніцтву. Жорсткая канкурэнцыя паміж габрэйскімі гандлярамі і прамыслоўцамі зніжала цэны на тавары і паслугі, рабіла іх больш даступнымі для местачкоўцаў і сялян навакольных вёсак.

Падаецца слушным сцвярджэнне І. Зяленскага, што “на преобладание евреев в торговле и промышленности мы смотрим не как на зло, останавливающее в стране развитие торговой предприимчивости, а как на необходимое последствие тех исторических событий, под влиянием которых образовались здесь нынешние сословия и классы населения”[341]. Нягледзячы на пэўны этнічны перакос у сацыяльна-эканамічнай структуры грамадства, што яскрава праявілася і ў мястэчках, эканамічныя высілкі прадпрымальнікаў-габрэяў станоўча паўплывалі на развіццё эканомікі Беларусі.

Пад уплывам развіцця капіталістычных адносін строгая прывязка этнасаў да пэўных відаў эканамічнай дзейнасці, якую ў некаторая ступені можна лічыць спадчынай феадалізму, слабела.

341 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России… С. 378.

# 4. Сацыяльныя працэсы ў мястэчках

## 4.1. Саслоўная структура насельніцтва

Істотным фактарам грамадскага жыцця ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. з'яўлялася саслоўнасць. Расійскае грамадства ў гэты час падзялялася на чатыры саслоўі: *дваране, духавенства, гарадскія* і *сельскія абывацелі*. Аднак фактычна яно мела больш складаную структуру. Унутры кожнага саслоўя былі асобныя групы, якія адрозніваліся прававым становішчам і адносінамі да маёмасці. Акрамя таго, мелася мноства нешматлікіх асобных саслоўных груп і катэгорый насельніцтва. Гарадскімі саслоўямі ў Расіі лічыліся *купцы, мяшчане* і *ганаровыя грамадзяне*[1], да сельскіх адносіліся розныя катэгорыі *сялян*. Гэты падзел не адпавядаў рэчаіснасці, бо сяляне пражывалі і ў гарадах, а прадстаўнікі гарадскіх саслоўяў маглі сяліцца і ў вёсках.

Даволі стракатым быў і саслоўны склад насельніцтва мястэчак. На жаль, наяўныя крыніцы не даюць магчымасці зрабіць поўны яго аналіз. Пачнём разгляд сабраных звестак, якія прыведзены галоўным чынам у выглядзе табліц у дадатках.

Перыяд разлажэння феадалізму і зараджэння капіталістычных адносін ва ўсіх краінах характарызуецца ростам гандлёва-прамысловага насельніцтва, якое канцэнтравалася галоўным чынам у гарадах і мястэчках. Па тэмпах росту колькасці гарадскога насельніцтва ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Беларусь займала адно з першых месц у Расійскай імперыі. Так, з 1825 па 1856 г. насельніцтва гарадоў павялічылася ў сярэднім па Расіі на 62%, а ў беларускіх губернях – больш чым на 90%[2]. Адной з крыніц папаўнення

---

[1] *Ганаровыя грамадзяне* – прывілеяваная група гарадскога насельніцтва ў Расійскай імперыі ў 1832–1917 гг., падзяляліся на патомных (асабістыя дваране і духоўныя асобы, якія мелі адукацыйны цэнз, обер-афіцэры, чыноўнікі, якія мелі ордэн св. Ганны або св. Станіслава, купцы, якія прабылі ў першай гільдыі 10 год, у другой – 20 год, вучоныя і мастакі са ступенню і інш.) і асабістых (асобы, якія скончылі некаторыя ВНУ, і інш.)

[2] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии… С. 38.

гарадскога насельніцтва з'яўляліся жыхары мястэчак. Нягледзячы на тое што мястэчкі Беларусі ў асноўным былі прыватнаўласніцкімі, адна з галоўных частак іх жыхароў адносілася да мяшчан. У мястэчках пражывалі і іншыя гарадскія саслоўі – купцы, у рэдкіх выпадках ганаровыя грамадзяне.

Найбольшы ўплыў на дынаміку колькасці і структуры насельніцтва мястэчак аказала палітыка царызму адносна габрэяў. Калі яны сталі падданымі Расійскай імперыі, законы абавязалі кожнага з іх быць прыпісаным да аднаго з вызначаных дзяржавай станаў. "Палажэнне аб габрэях" 1804 г. падзяліла супольнасць на чатыры саслоўі: *земляробаў, фабрыкантаў і рамеснікаў, купцоў, мяшчан*[3]. Згодна з данымі афіцыйнай статыстыкі, на працягу апошняй чвэрці XVIII – першай паловы XIX ст. абсалютная большасць беларускіх габрэяў была ўключана ў лік мяшчанства. Найбольш заможныя слаі габрэйства належалі да купецтва. Статыстычныя крыніцы, што захаваліся, не дазваляюць дакладна меркаваць аб дынаміцы змен, якія адбываліся ў саслоўі фабрыкантаў і рамеснікаў, паколькі на працягу апошняй чвэрці XVIII – першай паловы XIX ст. не існавала выразнага размежавання паміж дадзенай групай насельніцтва і саслоўем мяшчан, многія з якіх рамеснічалі і ўтрымлівалі мануфактуры без запісу ў цэхі і атрымання гільдзейскіх пасведчанняў[4]. Саслоўе габрэяў-земляробаў узнікла на пачатку XIX ст. як вынік кампаніі ўрада па "асяляньванню" габрэйскага народа. Няўдача яе абумовіла малалікасць гэтага саслоўя. Мізэрная колькасць беларускіх габрэяў была далучана да ганаровых грамадзян.

Размеркаванне габрэяў паводле вызначаных законам катэгорый можна паказаць на прыкладзе Гродзенскай і Мінскай губерняў. Так, у 1807 г. сярод габрэйскага мужчынскага насельніцтва ўездаў (без гарадоў) Гродзенскай губерні 73,5% запісаліся ў мяшчанства, 0,4% – у купецтва, 9,3% – у групу рамеснікаў і фабрыкантаў, 16,8% – земляробаў[5]. Па звестках 1808 г., якія датычаць уездаў (без гарадоў) Мінскай губерні, атрымліваюцца трохі іншыя суадносіны: з 1840 габрэйскіх сем'яў 1732 (ці 94%) запісаліся ў мяшчане, 12 (ці 0,6%) – у купцы, 35 (1,9%) – у рамеснікі, 70 (ці 3,8%) – у земляробы[6]. У параўнанні з Мінскай губерняй прамысловасць Гродзенскай

[3] Леванда, В.О. Полный хронологический сборник законов и положений, касающихся евреев.... С. 55.

[4] Сабалеўская, В.А. Яўрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: лад жыцця і культура.... С. 65.

[5] *Табліца 22.*

[6] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 73. Арк. 131 адв.

развівалася інтэнсіўней, таму і колькасць рамеснікаў і фабрыкантаў сярод габрэяў тут была большая. Чамусьці і да земляробства гродзенскія габрэі праяўлялі большую прыхільнасць у параўнанні з мінскімі. Аднак па абедзвюх губернях бачна абсалютная перавага сярод габрэйскага насельніцтва прадстаўнікоў гарадскіх саслоўных груп.

Такім чынам, высокая ступень урбанізацыі габрэяў абумовіла прыналежнасць большасці з іх да гарадскіх саслоўяў, пры аналізе якіх неабходна ўлічваць дынаміку габрэйскай міграцыі.

Прасачыць рост колькасці як усяго насельніцтва мястэчак, так і асобных саслоўяў на працягу разглядаемага перыяду па прычыне недахопу звестак можна толькі ўскосным шляхам. Так, А. Люты, вызначыўшы розніцу паміж колькасцю мяшчан і купцоў па губернях і колькасцю гэтых саслоўяў у гарадах і ўлічыўшы пры гэтым перасяленні габрэяў з сельскай мясцовасці ў мястэчкі, а з мястэчак – у гарады, атрымаў прыблізную лічбу колькасці гэтых катэгорый насельніцтва ў мястэчках[7]. Аказалася, што з канца XVIII ст. да 20-х гг. XIX ст. свабоднае падатковае насельніцтва мястэчак амаль падвоілася (з 105 615 да 190 386), а за наступнае дзесяцігоддзе – павялічылася толькі на 2939 чалавек (на 1,5%). Высокія тэмпы росту колькасці насельніцтва з канца XVIII ст. да 20-х гг. XIX ст. А. Люты правільна тлумачыць перасяленнем габрэйскага насельніцтва з сельскай мясцовасці ў мястэчкі. Немагчымасць знайсці работу ў мястэчках, рост галечы вымушалі бедную частку габрэйскага насельніцтва перасяляцца далей з мястэчак у гарады ў пошуках сродкаў для існавання. Гэтым і тлумачыцца слабы рост насельніцтва мястэчак у 30-х гг. XIX ст. і адначасова вялікі рост гарадскога насельніцтва. Заставаліся нізкімі тэмпы росту колькасці мяшчан і купцоў у мястэчках і ў 40–50-х гг. XIX ст.: на 15 457 чалавек, ці на 8%. У цэлым на працягу вывучаемага перыяду колькасць “гарадскіх саслоўяў” у мястэчках павялічылася з 105 615 да 208 782 чалавек. Аднак трэба мець на ўвазе, што афіцыйная статыстыка далёка не заўсёды адлюстроўвае рэальную колькасць купцоў і мяшчан, што жылі ў мястэчках. Часта местачковыя габрэі былі прыпісаны да купцоў і мяшчанскіх грамад гарадоў.

Рост мяшчанства і купецтва ў мястэчках без уліку прычын гэтага росту не можа служыць паказчыкам інтэнсіўнасці эканамічнага развіцця мястэчак. Высокія тэмпы росту колькасці “гарадскіх саслоўяў” былі выкліканы менавіта гвалтоўнымі мерамі ўлад: пера-

---

7 *Табліца 23.*

сяленнем габрэйскага насельніцтва з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі. Разам з тым праяўлялася прагрэсіўная гістарычная тэндэнцыя адцягвання земляробчага насельніцтва ў гарады і мястэчкі, аднак яна ў чыстым выглядзе праяўлялася слаба.

Мяшчане складалі самую шматлікую частку местачковага насельніцтва. Пераважная колькасць мяшчан пражывала, як правіла, не ў гарадах, а мястэчках. Па звестках П. Баброўскага, у сярэдзіне XIX ст. 48% усіх мяшчан Гродзенскай губерні пражывала ў гарадах, а 52% – у мястэчках[8]. У 1857 г. у Мінскай губерні налічвалася 126 339 чалавек гарадскіх саслоўяў: з іх у 10 уезных і 2 заштатных гарадах пражывала 61 354 чалавекі (ці 48,6%), а ў мястэчках – 64 985 (ці 51,4%)[9].

У канцы XVIII ст. у 113 мястэчках Мінскай губерні налічвалася 24 493 душы мяшчанскага саслоўя[10]. У 1827 г. па ўездах Мінскай губерні жыло 53 770 мяшчан. А ў 1857 г. у 113 мястэчках і 2 заштатных гарадах налічвалася больш за 68 650 мяшчан[11]. Такім чынам, на працягу канца XVIII – першай паловы XIX ст. мяшчанскае насельніцтва мястэчак Мінскай губерні павялічылася на 44 157 (у 2,8 раза). Найбольш значны рост прыпадае на першую чвэрць XIX ст. па прычыне ненатуральнай канцэнтрацыі габрэйскага насельніцтва ў гарадах і мястэчках.

Значна павялічвалася на працягу першай паловы XIX ст. колькасць мяшчанства ў мястэчках Гродзенскай губерні. Выключэнне складае толькі перыяд з 1811 па 1815 г., што звязана з ваеннымі дзеяннямі 1812 г. і іх наступствамі. Па VI рэвізіі (1811 г.), у мястэчках налічвалася 6628 мяшчан і цэхавых мужчынскага полу, а па VII рэвізіі (1815 г.) – 5844 (скарачэнне склала 11,8%)[12]. У 1829–1830 гг. у мястэчках Гродзенскай губерні жыло толькі мяшчан-габрэяў мужчынскага полу 18 304 чалавекі (52,8% усіх жыхароў мястэчак)[13]. У 1861 г. у мястэчках Гродзенскага, Ваўкавыскага, Слонімскага, Пружанскага і Кобрынскага ўездаў Гродзенскай губерні налічвалася мяшчан і цэхавых мужчынскага полу 13 128 чалавек[14]. У параўнанні з 1811 г.

[8] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч. 1. СПб., 1863. С. 698.

[9] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 1. СПб., 1864. С.586.

[10] *Табліца 24.*

[11] *Табліца 25.*

[12] *Табліца 26.*

[13] *Табліца 27.*

[14] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.6. Адз. зах. 129. Арк. 72.

колькасць гэтых груп местачковага насельніцтва ў згаданых уездах Гродзенскай губерні павялічылася ў 3,3 раза.

Па іншых губернях Беларусі параўнальных даных аб колькасці мяшчанста ў мястэчках разглядаемага перыяду не дастаткова. Ёсць звесткі, што ў мястэчках Ашмянскага ўезда Віленскай губерні ў 1838 г. налічваўся 5091 чалавек мяшчанскага звання[15]. У гэтым жа годзе ў беларускіх мястэчках Віцебскай губерні налічвалася 9380 мяшчан, што складала 59,8% колькасці ўсіх жыхароў мястэчак[16]. Параўнальныя даныя, якія паказваюць рост мяшчанства, ёсць толькі па некаторых мястэчках. Напрыклад, за 20 гадоў (з 1838 па 1957 г.) у Бешанковічах колькасць мяшчан павялічылася толькі на 13,5%, а вось у Янавічах – на 95%.[17] У 1846 г. з 56 680 жыхароў гэтых паселішчаў Магілёўскай губерні мяшчан было 35 630 чалавек (60%)[18].

Як правіла, мяшчанства мястэчак складалася пераважна ці толькі з габрэяў. Былі і выключэнні. Паводле звестак на 1837–1838 гг., у Бярозе-Картузскай Пружанскага ўезда налічвалася 1398 мяшчан (52,4% ад усіх жыхароў), з іх 417 былі уніятамі, 554 – каталікамі, 427 – іудзеямі (30,5%). Яшчэ больш нетыповай была структура м. Новая Мыш Навагрудскага ўезда: 822 мешчаніна (68,3% ад усіх жыхароў), з іх 20 – уніяты, 710 – каталікі, 93 – іудзеі (11%)[19].

Мяшчане з'яўляліся не толькі самай шматлікай, але і найбольш складанай па сацыяльным складзе групай местачкоўцаў. Стракатасць мяшчан праяўлялася ў занятках: дробныя гандляры, уладальнікі рамесных майстэрняў, часам дробнакапіталістычных і мануфактурных прадпрыемстваў, рамеснікі, людзі, якія займаліся адыходнымі промысламі, возніцтвам, агародніцтвам, услужэннем і рознымі работамі.

Неаднародным было мяшчанства і па маёмасным становішчы. Значная частка мяшчан трымалася выпадковымі заробкамі, жыла ў беднасці, некаторыя не мелі свайго жылля. Так, паводле адной з архіўных крыніц, у 1841 г. у Магілёўскай губерні не мелі свайго жылля ў мястэчках Капыскага ўезда 235 мяшчан (4,5% колькасці ўсіх мяшчан), Магілёўскага – 200 (3,3%), Клімавіцкага – 121 (4%), Беліцкага – 308 (6,8%), Аршанскага – 3341 (52,8%), Рагачоўскага – 2590 мяшчан (55,7%)[20]. Аднак наяўнасць нерухомай маёмасці не заўсёды свед-

---

15 ДГА Літвы. Ф. 388. Воп.1. Адз. зах. 6. Арк. 27.

16 *Табліца 28.*

17 *Табліца 29.*

18 Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в.… С. 124.

19 *Табліца 30.*

20 НГАБ. Ф.2001. Воп. 1. Адз. зах.159. Арк. 97–181.

чыла аб заможнасці мешчаніна: часта "домаўладальнікі" мелі ўбогія хібаркі. У той жа час мяшчанскія вярхі некаторых буйных мястэчак валодалі адносна значным капіталам: утрымлівалі прамысловыя прадпрыемствы. Заможная частка мяшчан складала нешматлікую групу насельніцтва мястэчак. З яе рэкрутаваліся прадстаўнікі буржуазіі. Большасць мяшчанскага насельніцтва беларускіх мястэчак была той групай, якая з'явілася крыніцай папаўнення пралетарыяту ў другой палове XIX ст.

Паколькі мястэчкі з'яўляліся асяродкамі гандлю, то мелі ў складзе свайго насельніцтва *купецтва*. Па "Грамаце на правы і выгады гарадам Расійскай імперыі" 1785 г., устанаўліваліся тры купецкія гільдыі: у першую запісваліся аб'явіўшыя капітал больш за 10 тыс. руб., у другую – ад 5 тыс. да 10 тыс., і ў трэцюю – ад 1 тыс. да 5 тыс. руб. У 1807 г. сума капіталу, неабходнага для ўступлення ў гільдзейскае купецтва, павялічылася і складала: для першай гільдыі – 50 тыс. руб., для другой – 20 тыс., для трэцяй – 8 тыс. руб.[21] У 1775 г. мінімальная цана пасведчання купца першай гільдыі складала 100 руб., другой – 10 руб., трэцяй – 5 руб. У 1812 г. кошт гільдзейскіх пасведчанняў павысілі: адпаведна 2375, 950 і 380 руб. Паніжэнне цаны гільдзейскіх пасведчанняў адбылося па "Дадатковым пастанаўленні аб гільдыях" 1824 г. Да 1839 г. цэны пасведчанняў усталяваны ў срэбнай манеце і былі наступнымі: для першай гільдыі – 660 руб., другой – 264 руб., трэцяй – ад 30 да 66 руб.[22]

Асноўную масу купецтва ўвогуле, а тым больш у мястэчках, складалі купцы трэцяй гільдыі. Гэта тлумачыцца не столькі недахопам буйных капіталаў, колькі тымі канкрэтнымі ўмовамі вядзення гандлю, якія давалі купецкія гільдыі. Купцы трэцяй гільдыі мелі права весці рознічны гандаль на тэрыторыі таго ўезда, дзе было атрымана пасведчанне. Купцы другой гільдыі атрымлівалі права ўнутранага гандлю на тэрыторыі ўсёй краіны. Першагільдзейскія купцы мелі права на аптовы і замежны гандаль. Умовам местачковага гандлю найбольш адпавядалі пасведчанні купцоў трэцяй гільдыі.

Прасачыць дынаміку колькасці купецтва ў мястэчках з-за адсутнасці неабходных звестак складана. Наяўныя даныя дазваляюць стварыць наступную карціну.

Згодна з "Тапаграфічным апісаннем Мінскай губерні", на рубяжы XVIII–XIX стст. у мястэчках пражывала 144 купцы (разам з членамі

---

21 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов… С. 62.

22 Рындзюнский, П.Г. Городское гражданство дореформенной России / П.Г. Рындзюнский. М., 1958. С. 293.

іх сем'яў)[23]. Па звестках за 1808 г., у 48 мястэчках Мінскай губерні колькасць купецтва (з членамі сем'яў) складала 154 чалавекі: у Давыд-Гарадку – 10, Друі – 14, Глыбокім – 7, Парычах – 29, Глуску – 90, Лоеве – 3[24]. Большасць жа мястэчак не мела купецкага насельніцтва. Па Віцебскай губерні падобныя звесткі ёсць за 1825 г.: у мястэчках беларускіх уездаў налічвалася 104 купцы, у тым ліку ў двух мястэчках Полацкага ўезда 25 купцоў (1 – першай гільдыі, 2 – другой гільдыі, 22 – трэцяй гільдыі), у трох мястэчках Суражскага ўезда – 13 (без указання гільдый), у 15 мястэчках Лепельскага ўезда – 66 (9 – першай гільдыі, 57 – трэцяй), у 7 мястэчках Дрысенскага ўезда купецтва не было[25].

Найбольш поўныя звесткі аб колькасці купецтва ў мястэчках пяці заходніх губерняў Расіі маюцца за 1833 г. Купецтва складала ў сярэднім 0,74% местачковага насельніцтва. Гэты паказчык быў вышэйшы ў Віцебскай (1,27%) і Магілёўскай (1,14%) губернях[26].

У 1838 г. у беларускіх уездах Віцебскай губерні ў мястэчках пражывала 208 чалавек купецкага саслоўя, што складала 1,3% усяго местачковага насельніцтва, удзельная вага габрэяў сярод іх была 83%[27].

Паводле архіўнай крыніцы 1841–1842 гг., сярод местачковых жыхароў Магілёўскай губерні быў 1741 чалавек купецкага стану (верагодна, тут узятыя купцы разам з сем'ямі)[28]. Значны рост колькасці купецтва адбываўся ў Гомелі: з 32 у 1833 г. да 597 у 1861 г. (у 18,6 разоў!)[29]. Гомель да 1850-х гг. заставаўся прыватнаўласніцкім, і яго ўладальнікі, на думку В. Чапко, развівалі мясцовую эканоміку эфектыўней, чым гэта магла зрабіць дзяржава[30].

У Гродзенскай губерні ў 1838 г. гільдзейскае купецтва лічылася ў мястэчках Ружаны (69 чалавек, ці 2,6% усяго насельніцтва), Дзятлава (19 чалавек, ці 0,5%), Шарашова (3 купцы), Бяроза (13 чалавек, ці 0,5%)[31]. Паводле звестак аб гаспадарчых занятках габрэяў Гродзенскай губерні за 1849 г., у мястэчках Ваўкавыскага, Слонімскага, Гро-

---

23 РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 35–159.
24 НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 74. Арк. 26–43.
25 Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в.... С. 68.
26 *Табліца 31.*
27 *Табліца 28.*
28 НГАБ . Ф.2001. Воп.1. Адз. зах. 159. Арк. 97–181.
29 Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в.... С. 63.
30 Там жа. С. 45.
31 *Табліца 30.*

дзенскага, Кобрынскага, Пружанскага, Брэсцкага ўездаў налічвалася 40 купцоў-габрэяў трэцяй гільдыі[32].

У мястэчках Ашмянскага ўезда Віленскай губерні ў 1838 г. налічвалася купцоў трэцяй гільдыі 21 чалавек[33]. У 1840 г. у м. Брагін Рэчыцкага ўезда Мінскай губерні было 16 купцоў трэцяй гільдыі і адзін купец першай гільдыі[34]. У 1861 г. у мястэчках Гродзенскага, Пружанскага, Ваўкавыскага, Слонімскага ўездаў Гродзенскай губерні жылі 255 купцоў[35]. У сярэдзіне XIX ст. у мястэчках беларускіх уездаў Віленскай губерні налічвалася прадстаўнікоў купецкага саслоўя: у 21 мястэчку Ашмянскага ўезда 50 чалавек абодвух полаў; 17 мястэчках Вілейскага ўезда – 35; 19 мястэчках Дзісенскага ўезда – 45; 14 мястэчках Лідскага ўезда – каля 30[36]. Напрыклад, паводле ведамасці 1856 г., аб колькасці купецкіх капіталаў у Лідскім уездзе, у Жалудку было 2 купцы трэцяй гільдыі, у Воранаве і Васілішках – па адным. Усе яны былі габрэямі і абвясцілі капіталы ў памеры 2400 руб.[37]

Такім чынам, у разглядаемы перыяд частка гільдзейскага купецтва пражывала ў мястэчках, асабліва там, дзе збіраліся значныя кірмашы. Мястэчкі, якія з'яўляліся дробнымі паселішчамі пераважна аграрнага характару і не адыгрывалі прыкметнай ролі ў развіцці гандлю, не мелі купецкага насельніцтва. Яшчэ раз нагадаем, што часта купцы, якія былі прыпісаны па рэвізіях да гарадоў, жылі і гандлявалі ў мястэчках. Таму афіцыйныя звесткі аб колькасці купцоў, якія рэальна пражывалі ў мястэчках, не поўныя. У якасці прыкладу можна прывесці Шклоў на рубяжы XVIII–XIX стст., дзе сярод габрэйскага насельніцтва было па тры сям'і купцоў першай і другой гільдыі, 15 сем'яў купцоў трэцяй гільдыі, а запісаны яны былі па розных гарадах (Віцебск, Мсціслаўль, Копысь, Бабінавічы, Крамянчуг)[38].

Шматлікай сацыяльнай групай насельніцтва мястэчак з'яўлялася *сялянства*. Крыніцы не даюць поўных звестак аб колькасці сялян ва ўсіх мястэчках Беларусі ў разглядаемы перыяд. Паводле звестак В. Чапко, у 1826 г. у Магілёўскай губерні было 82 мястэчкі, у якіх пражываў 74 791 чалавек, з гэтай лічбы падатковага свабоднага насельніцтва налічвалася 59 389 чалавек. Значыць, сялян у мястэч-

---

32 *Табліца 14.*
33 ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 27.
34 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов… С.116.
35 *Табліца 32.*
36 Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния / А. Корева. СПб., 1861. С. 309.
37 ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 17. Спр. 2871. Арк. 7.
38 РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 156.

ках было каля 15 тыс., што складала 20,6%. У 1846 г. у Магілёўскай губерні з 56 680 жыхароў сялян было 21 050 (ці 37,1%)[39]. У 1833 г. у мястэчках Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў пражывала 213 789 чалавек, у тым ліку свабоднага падатковага насельніцтва – 182 041 і сялян – 31 748 чалавек (ці 14,9%)[40]. У 1838 г. у мястэчках Віцебскай губерні налічвалася 5168 сялян (33% ад усёй колькасці жыхароў), з іх 4014 – памешчыцкія і 1154 – казённыя[41].

Па розных мястэчках удзельныя вага сялянства мянялася. У невялікіх мястэчках аграрнага характару яно складала асноўную масу насельніцтва. Так, у м. Уваравічы Магілёўскай губерні ў 1846 г. з 820 жыхароў сялян было 760, а ў Шапялевічах з 325 местачкоўцаў – 310 сялян[42]. Пераважалі сяляне і ў Мастах Гродзенскай губерні, дзе, паводле інвентару 1845 г., налічвалася 170 двароў: "115 цяглых сялянскіх гаспадарак, 8 сем'яў агароднікаў і кутнікаў, 47 сем'яў чыншавых габрэяў і вольнага стану людзей"[43].

Перавагай сялянства характарызавалася і сацыяльная структура Беліцы Лідскага ўезда. Паводле інвентару 1810 г., у мястэчку было 185 двароў, у тым ліку 52 габрэйскія, 5 татарскія, 128 хрысціянскіх: "*грунтовых*"– 89, "*агародных*" – 32, "*ляснічых*" – 7. Сярод сялян Беліцы найбольш было "*грунтовых*" ці "*цяглых*", якія выконвалі паншчыну, у інвентары 1854 г. яны фігуруюць ужо як "*чыншавыя*", што можна патлумачыць заменай паншчыны на чынш. Даволі значнай была група *агароднікаў* (у 1810 г., напрыклад, налічвалася 32 двары "агародных", а ў 1854 г. яны названы "*халупнымі*", іх засталося 28 двароў)[44]. У Беліцы інвентары першай паловы XIX ст. фіксуюць "*ляснічыя*" двары. Гэта была адна са спецыяльных асабіста незалежных катэгорый сельскага насельніцтва.

У буйных мястэчках са значна развітым гандлем і прамысловасцю колькасць сялян у параўнанні з іншымі сацыяльнымі групамі была невялікай. Напрыклад, у Гомелі ў 1846 г. з 2950 жыхароў было 2220 мяшчан, у Дуброўне з 3440 чалавек – 2240 мяшчан. У Шклове ў 1854 г. з 11 565 жыхароў-сялян было толькі 1464[45].

---

39 Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в.… С. 124.
40 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов… С. 45.
41 *Табліца 28.*
42 Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в.… С. 124.
43 НГАБ у Гродне. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 47.
44 AGAD. AR. Dz. XXV – Sygn. 194, 206.
45 НГАБ. Ф.2254. Воп. 1. Адз. зах. 284. Арк. 15.

Да сялянскага саслоўя прымыкаюць і такія групы местачковага насельніцтва, як *аднадворцы*[46] і *дваровыя людзі*[47]. Напрыклад, у 1838 г. у мястэчках Віцебскай губерні налічвалася 115 аднадворцаў (0,7% ад усёй колькасці насельніцтва мястэчак) і 256 дваровых (1,6%)[48]. У 1837 г. у м. Дзятлава Гродзенскай губерні налічвалася 10 аднадворцаў (0,3%). У 1824–1825 гг. у мястэчках Дзярэчын і Ружаны жыло адпаведна 25 і 31 дваровых[49]. У 1847 г. сярод жыхароў Свіслачы ўзгадваюцца аднадворцы Станіслаў Гіпольскі, Якаў Януш, Лядзінскі[50]. У 1846 г. у м. Круглае, якое належала памешчыку Крапоткіну, налічвалася дваровых людзей: 37 мужчын і 40 жанчын. У м. Хаславічы памешчыка Салтыкова дваровых было ў 1852 г. 62 мужчыны і 33 жанчыны[51].

Нагадаем, што колькасць местачковых мяшчан і сялян пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі была вельмі зменлівай з-за пераводу ў разрад прыгоннага сялянства жыхароў тых мястэчак, якія не атрымалі статуса горада. Як было паказана, у выніку ўпартай барацьбы некаторыя местачкоўцы здолелі вярнуць правы мяшчанства і выключаліся з катэгорыі сялян. Цікава адзначыць, што тыя местачкоўцы, каму расійскія ўлады адмовілі ў аднаўленні мяшчанскага звання, усё роўна працягвалі лічыць і адчуваць сябе менавіта мяшчанамі. Гэта добра адлюстравана ў гісторыка-этнаграфічным нарысе м. Крэва, напісаным мясцовым святаром Д. Плаўскім[52]. Ён сведчыў, што жыхары Крэва захавалі гонар за былую славу свайго паселішча і па-ранейшаму называлі яго "местам", сябе яны лічылі мяшчанамі і ўсяляк намагаліся адрозніваца ад сялян наваколля, пераўзысці іх па знешнім выглядзе. Мужчыны галілі бароды, пакідаючы невялікія вусы і бакенбарды. Для дзён святочных многія мелі сурдуты, камізэлькі, манішкі, каптаны. У той час як сяляне насілі шэрую вопратку, местачкоўцы фарбавалі сваё адзенне

46 *Аднадворцы* – падатковая катэгорыя асабіста вольнага сельскага насельніцтва ў Беларусі, утвораная на падставе закона ад 19 кастрычніка 1831 г. з дробнай сельскай шляхты.

47 *Дваровыя людзі* – катэгорыя прыгоннага насельніцтва без зямлі, становішча якога было блізкім да рабства; жылі пры панскіх дварах, займаліся іх абслугоўваннем, выкарыстоўваліся ў сельскагаспадарчых работах у маёнтку, працавалі на вотчынных прадпрыемствах.

48 *Табліца 28.*

49 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 4. Адз. зах. 646. Арк. 64; Воп. 2. Адз. зах. 506. Арк. 29.

50 Там жа. Ф. 31. Воп. 2. Адз. зах. 509. Арк. 518 – 545, 145, 52 адв.

51 НГАБ. Ф. 2221. Воп. 1. Адз. зах. 14. Арк. 12 адв.; Адз. зах. 32. Арк. 13 адв. – 14.

52 Плавский, Д. Местечко Крево. Историко-этнографический очерк / Д. Плавский. Вильно, 1871.

ў чорны колер. Жанчыны мелі стракатыя паркалёвыя і шаўковыя сукенкі, капоты з тонкага чорнага сукна, прыгожа аздобленыя светлымі гузічкамі, белыя кажушкі і стракатыя шарсцяныя хусткі. Местачкоўцы, адчуваючы сваю значнасць, любілі паказаць сябе перад вяскоўцамі гараджанамі. Сяляне ставіліся да іх з належнай пашанай, але за вочы – пасмейваліся. Пра тое, што жыхары мястэчак мелі своеасаблівую вопратку, якая доўгі час захоўвалася нават пасля пераводу мяшчан у сялянскае саслоўе, сведчаць і вынікі даследаванняў Л. Малчанавай[53].

*Дваране* ў разглядаемы перыяд падзяляліся на спадчынных і асабістых, на памешчыкаў і беспамесных. У 1829–1830 гг. у мястэчках Гродзенскай губерні пражывала 406 дваран (1,1% усяго насельніцтва мястэчак), з іх 161 памешчык і 245 беспамесных[54]. У 1861 г. у м. Уладаўка Брэсцкага ўезда пражывала 10 дваран: 5 спадчынных і 5 асабістых (1% жыхароў)[55]. У мястэчках Віцебскай губерні ў 1838 г. налічвалася 229 дваран (1,5% усіх местачкоўцаў). У некаторых мястэчках удзельная вага дваранства была значна вышэй за сярэдні паказчык: у Бешанковічах яна складала 3%, у Прыдруі – 8,3%, Валынцах – 4,1%, у Кахановічах нават 21,2%[56]. У Гродзенскай губерні ў 1838 г. дваране складалі ў м. Дзярэчын 2,5% насельніцтва, м. Новая Мыш – 5,9%, м. Мсцібава – 3,8%[57].

Удзельная вага *духавенства* сярод местачкоўцаў была яшчэ ніжэйшай за ўдзельную вагу дваранства. У 1808 г. у 50 прыватнаўладальніцкіх мястэчках Мінскай губерні было 294 чалавекі духоўнага звання[58]. У 1829–1830 гг. у мястэчках Гродзенскай губерні да духавенства адносілася 280 чалавек (ці 0,8%)[59]. У 1838 г. у мястэчках Віцебскай губерні налічвалася 197 духоўных асоб: 78 каталіцкіх і 119 праваслаўных (1,2% ад колькасці ўсіх местачковых жыхароў)[60]. Акрамя таго, у мястэчках жылі духоўныя асобы іудзейскага насельніцтва. У 1841–1844 гг. у мястэчках Магілёўскай

53 Малчанава, Л.А. Адзенне насельніцтва беларускіх мястэчак (XIX – пачатак XX ст.) / Л.А. Малчанава // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1981. № 2.
54 *Табліца 27.*
55 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 6. Адз. зах. 129. Арк. 308.
56 *Табліца 28.*
57 *Табліца 30.*
58 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов… С. 74.
59 *Табліца 27.*
60 *Табліца 28.*

губерні налічвалася 68 рабінаў[61]. У мястэчках беларускіх уездаў Віленскай губерні ў 1857 г. было 55 рабінаў[62].

Нязначную групу местачковага насельніцтва складалі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. былыя *ваенныя* і члены іх сем'яў. Так, у мястэчках Віцебскай губерні ў 1838 г. пражывала 102 адстаўных салдата разам з сем'ямі, што складала 0,7% местачковых жыхароў[63]. У сямі мястэчках Гродзенскай губерні – Косаве, Дзярэчыне, Моўчадзі, Шарашове, Сяльцы, Бярозе, Малечы ў 1824–1825 гг. пражываў 31 ваенны. У 1837–1838 гг. у Дзярэчыне налічвалася 4 ваенныя (0,3%), Ружанах – 11 (0,4%), Дзятлаве – 21 (0,6%), Новым Двары – 6 (0,8%), Мсцібаве – 6 (1,9%), Бярозе – 11(0,4%). У м. Уладаўка ў 1861 г. налічвалася 18 ваенных (1,8%)[64].

Колькасць ваеннаслужачых у мястэчках была мабільнай. Асобныя вайсковая адзінкі перадыслацыраваліся з мястэчак у гарады і наадварот. Павелічэнне колькасці ваенных было звязана з абвастрэннем сацыяльнага і грамадска-палітычнага руху (сярэдзіна 20-х гг., 30-я гг. XIX ст. і інш.). Ваенныя размяшчаліся галоўным чынам у тых мястэчках, жыхары якіх мелі магчымасць утрымліваць пастой. Асабліва вялікая колькасць войскаў кватаравала ў Гродзенскай губерні ў сувязі з важнасцю яе ў стратэгічных і палітычных адносін. У першай палове XIX ст. на тэрыторыі Гродзенскай губерні размяшчалася ў сярэднім каля 18 тыс. войскаў. У 1856 г. гэта лічба паднялася да 26 тыс.[65]. Па даных на 1826–1830 гг., у мястэчках Гродзенскай губерні "кватараваў" 31 штаб-афіцэр, 131 обер-афіцэр, 3366 салдат[66]. Напрыклад, толькі ў Гродзенскім уездзе ў 1834–1835 гг. батальённыя штабы размяшчаліся ў Скідзелі, Лунне, Індуры, Крынках, Азёрах; ратныя двары – у Камянцы, Мастах, Волі[67].

Па некаторых мястэчках у крыніцах ёсць звесткі аб наяўнасці ў складзе насельніцтва *разначынцаў*[68]. Так, у 1838 г. у Гродзенскай

---

[61] НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 161. Арк. 7 – 105.

[62] ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Адз. зах. 250. Арк. 19.

[63] *Табліца 28.*

[64] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 2. Адз. зах. 506. Арк. 27; Воп. 4. Адз. зах. 646. Арк. 6; Воп. 6. Адз. зах. 129. Арк. 308.

[65] Манассейн, В.С. Исторический очерк Гродненской губернии в военно-политическом отношении за первые сто лет ее существования (1802–1902) / В.С. Манассейн. Гродно, 1902. С. 6.

[66] НГАБ у Гродна. Ф.1. Воп. 2. Адз. зах. 1374. Арк. 88.

[67] Там жа. Воп. 4. Спр. 317. Арк. 34.

[68] *Разначынцы* ("людзі рознага чыну і звання") – міжсаслоўная катэгорыя насельніцтва ў Расійскай імперыі ў канцы XVIII–XIX ст., выхадцы з розных саслоўяў (духавенства, купецтва, мяшчанства, дробнага чыноўніцтва і г.д.); юрыдычна не

губерні яны жылі ў мястэчках Дзярэчын (6 чалавек, ці 0,4% жыхароў), Дзятлава (6 чалавек, ці 0,2%), Гарадзішча (3 чалавекі, ці 0,2%), Бяроза (6 чалавек, 0,2%)[69]. Разначынцы пражывалі таксама ў м. Асвея Віцебскай губерні (у 1838 г. – 12 чалавек, ці 1%)[70]. У 1841–1842 гг. у 77 мястэчках Магілёўскай губерні іх налічвалася 293[71].

У гістарычнай літаратуры часам сустракаецца думка, што мястэчкі адрозніваліся ад гарадоў тым, што, не з'яўляючыся адміністрацыйнымі цэнтрамі, яны не мелі ў складзе свайго насельніцтва *чыноўнікаў*, якія былі даволі прыкметнымі ў гарадах[72]. З гэтым сцвярджэннем нельга пагадзіцца, таму што многія мястэчкі ў разглядаемы перыяд з'яўляліся адміністрацыйнымі цэнтрамі акругі. Так, у 1857 г. у Гродзенскай губерні кватэры станавых прыставаў і валасныя ўправы знаходзіліся ў мястэчках Ізабелін, Лыскова, Свіслач, Рось, Пескі, Крынкі, Лунна, Высока-Літоўск, Гарадзец, Драгічын, Янаў, Сялец, Бяроза, Шарашова, Косава, Ружаны, Дзярэчын, Дзятлава, Быцень; толькі станавыя кватэры знаходзіліся ў мястэчках Індура і Чарняўчыцы; толькі валасныя ўправы – у мястэчках Зэльва, Поразава, Ялоўка, Мсцібава, Вялікая Бераставіца, Дубна, Воўпа, Масты, Воўчын, Антопаль, Бездзеж, Моталь, Малеч, Дворэц, Жыровічы[73]. У многіх мястэчках Беларусі існавалі чыноўнікі навучальных устаноў. Напрыклад, у штат Свіслацкай гімназіі ў 1849 г. уваходзілі 10 выкладчыкаў, адзін дырэктар, адзін "письмоводитель", два наглядальнікі[74]. Такім чынам, у складзе местачковага насельніцтва былі станавыя прыставы, валасныя і вучылішчныя чыноўнікі. Звесткі аб іх колькасці сустракаюцца вельмі рэдка. Архіўны дакумент 1824–1825 гг. называе сярод жыхароў мястэчак Гродзенскай губерні асоб "стацкага звання": у Косаве – 2 чалавекі, Бярозе – 3, Малечы – 2[75].

Крыніцы канца XVIII – пачатку XIX ст. часам называюць сярод местачкоўцаў групу асоб, "*временно пребывающих по торговым промыслам и для разных работ*". Напрыклад, у 1808 г. у мястэчках Бабруйскага ўезда Мінскай губерні налічвалася асоб, "временно

афармленая катэгорыя насельніцтва, якая займалася пераважна разумовай працай.

69 *Табліца 30.*

70 НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 5951. Арк. 355.

71 Там жа. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 159. Арк. 96.

72 Польский, С.А. Экономическое развитие городских поселений Гомельщины после ее воссоединения с Россией (1772–1800) / С.А. Польский // Материалы IX конференции молодых ученых. Общественные науки. Минск, 1964. С. 138.

73 РДГА. Ф. 1290. Воп. 4. Адз. зах. 77. Арк. 78–483.

74 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 766. Арк. 43.

75 Там жа. Воп. 2. Адз. зах. 506. Арк. 28–36.

пребывающих по торговым промыслам”: у м. Парычы – 40 купцоў (30 хрысціян і 10 іудзеяў), м. Свіслач – 8 купцоў (3 хрысціяніна і 5 іудзеяў); асоб, “временно пребывающих для разных работ”: у Парычах – 200 чалавек, Глуску – 25, Свіслачы – 30[76]. Як правіла, частка “временно пребывающих” вярталася на месцы свайго сталага пражывання, а частка заставалася жыць у мястэчках.

Малалікімі ў беларускіх мястэчках былі групы “*замежных паддачных*” і “*ганаровых грамадзян*”. Ёсць звесткі аб наяўнасці іншаземцаў у 1824–1825 гг. у Дзярэчыне (4 чалавекі) і Ружанах (31 чалавек). У 1861 г. сярод жыхароў м. Уладаўка называецца група “іншародцаў”: 106 мужчын і 116 жанчын. Шмат іншаземцаў было ў Шклове ў час валодання ім С. Зорычам і Гомелі пры М. Румянцаве. У 1861 г. у мястэчках Пружанскага ўезда налічвалася 6 “ганаровых грамадзян”, Слонімскага ўезда – 26[77].

Вельмі рэдка сустракаюцца звесткі аб местачковым насельніцтве, якое не было запісана да якога-небудзь саслоўя і фіксавалася як “*іншыя”*, сацыяльны статус якіх не быў вядомы. Напрыклад, архіўная крыніца 1861 г. у м. Уладаўка да гэтай катэгорыі адносіць тры чалавекі[78].

Ёсць выпадкі, калі ў архіўных дакументах сярод катэгорый местачковага насельніцтва называюцца “*жабракі*”. У 1829–1830 гг. толькі ў мястэчках Гродзенскай губерні іх налічвалася 168 чалавек[79]. Аднак крытэрыі залічэння жыхароў мястэчак да гэтай групы невядомыя.

У мястэчках, як паказана, пражывалі і гарадскія, і сельскія саслоўі. Агульная статыстыка па насельніцтве ўсіх мястэчак паўночна-заходніх губерняў Расійскай імперыі была сабрана ў канцы 1860-х гг., калі рыхтавалася новае “Гарадавое палажэнне”, прынятае ў 1870 г.[80] Нягледзячы на тое што гэтыя матэрыялы выходзяць за межы даследуемага перыяду, звернемся да іх аналізу, каб выявіць тэндэнцыю, характэрную для саслоўнай структуры мястэчак і дарэформеннага часу.

У мястэчках пяці беларускіх губерняў к 1870 г. пражывала 379 922 чалавекі, з іх 6956 прадстаўнікоў дваран і духавенства, 228 588 купцоў і мяшчан (у тым ліку 25 905 – хрысціянскага веравызнання,

---

76 НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 74. Арк. 33.

77 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах. 506. Арк. 29; Воп. 6. Адз зах. 129. Арк. 399.

78 Там жа. Воп. 6. Адз. зах. 129. Арк. 308.

79 *Табліца 27.*

80 Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. V. СПб., 1879. С. 82–102.

202 683, ці 88,7%, – іудзейскага ), 143 933 асобы сельскага стану (у тым ліку 142 690 – хрысціянскага веравызнання, 1243 – іудзейскага). Прадстаўнікі гарадскіх саслоўяў складалі 61,2% усяго насельніцтва, сельскага стану – 38,8%. Найбольшы працэнт гарадскіх саслоўяў мелі мястэчкі Магілёўскай губерні (63,8%), найменшы – Віленскай (56,5%)[81]. Гэта яшчэ адзін аргумент на карысць гарадской сутнасці мястэчак. Існаванне купцоў і мяшчан было самым непасрэдным чынам звязана з гарадскім жыццём і народжана ім. Менавіта яны вызначалі лад гарадскога жыцця і складалі той пласт гарадскога насельніцтва, які называўся “грамадзяне” або “гарадское грамадзянства”.

З. Шыбека пры дапамозе матэматычных метадаў паказаў, што па меры накаплення ў паселішчах гарадскіх адзнак узрастала і іх саслоўнасць. Склад жыхароў такіх населеных пунктаў станавіўся ўсё больш разнастайным, а верагоднасць узаемакантактаў і ўзаемаўплываў саслоўных груп (і не толькі саслоўных) – усё больш істотным. Працэс горадаўтварэння суправаджаўся структурным ускладненнем насельніцтва пераходных утварэнняў ад вёскі да горада[82].

***

Недахоп статыстычных звестак перашкаджае ўсебаковаму аналізу дынамікі структуры насельніцтва мястэчак. Наяўныя крыніцы дазваляюць заўважыць, што сацыяльны склад местачкоўцаў Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. ускладняўся. Насельніцтва мястэчак уяўляла сабой кангламерат розных саслоўных груп, характэрных для дакапіталістычнай эпохі. У мястэчках Беларусі можна было сустрэць прадстаўнікоў усіх тагачасных саслоўяў. Самымі шматлікімі сацыяльнымі групамі местачкоўцаў з’яўляліся *мяшчане* і *сяляне*. Аднак нельга пагадзіцца з распаўсюджанай у гістарычнай літаратуры думкай, што насельніцтва мястэчак складалася з сялян і мяшчан[83]. Акрамя іх архіўныя крыніцы ўзгадваюць у мястэчках: *купцоў, дваран, разначынцаў, духавенства, ваенных, стацкіх, аднадворцаў, дваровых людзей, замежных падданых, ганаровых грамадзян* і інш. Колькасць гэтых саслоўных груп была невялікая, за выключэннем ваенных. Адстаўныя ваенныя, што жылі ў мястэчках пастаянна, былі

81 *Табліца 33.*
82 Шыбека, З. Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX ст.)... С. 175.
83 Чепко, В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. С. 124.

малалікімі. Аднак колькасць ваенных часам была даволі прыкметнай з-за кватаравання войскаў у мястэчках.

Саслоўную дынаміку мястэчак узмацнялі змены ў размеркаванні габрэяў паміж населенымі пунктамі Беларусі. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. у мястэчках пераважна за кошт перасяленняў габрэяў, а часткова і ў выніку эканамічных чыннікаў адбываўся рост гарадскіх саслоўяў (мяшчан, купцоў). Пры гэтым саслоўная структура мястэчак вылучалася адноснай гармоніяй. У канцы вывучаемага перыяду сельскія і гарадскія саслоўныя групы суадносіліся тут як 1:1,5, што пацвярджае прамежкавае становішча мястэчак паміж вёскай і горадам, а таксама перавагу ў іх гарадскіх элементаў.

### *4.2. Этнаканфесійная сітуацыя*

Крыніцы канца XVIII – першай паловы XIX ст. не дазваляюць ахарактарызаваць насельніцтва мястэчак Беларусі па нацыянальнай прымеце, а толькі па веравызнанні, аднак і такія даныя сустракаюцца рэдка. Насельніцтва мястэчак падзялялася па веравызнанні на наступныя асноўныя групы: праваслаўныя, каталікі, уніяты, пратэстанты, іудзеі, евангелісты, мусульмане. У асноўным крыніцы канца XVIII – першай паловы XIX ст. даюць звесткі па дзвюх рэлігійных групах – *хрысціянах* і *іудзеях* (у крыніцах – *габрэях*). Часцей за ўсё такое дзяленне закранала толькі мяшчан і купцоў.

Найбольш ранніяя звесткі аб колькасці хрысціян і габрэяў у беларускіх мястэчках пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ўтрымліваюцца ў ведамасцях генерал-губернатара З. Чарнышова па Магілёўскай і беларускіх правінцыях Пскоўскай губерні за 1773 г. Па гэтых даных, у 75 мястэчках Магілёўскай губерні быў 22 791 чалавек хрысціянскага веравызнання і 9560 іудзеяў, у 17 мястэчках беларускіх правінцый Пскоўскай губерні – 5420 хрысціян і 1341 іудзей. Усяго ў мястэчках названай тэрыторыі хрысціян было 28 211, іудзеяў – 10 901[84], што складала каля 28% насельніцтва мястэчак.

Па ведамасці З. Чарнышова за 1777 г., у мястэчках Магілёўскай губерні паказана хрысціян 19 391, іудзеяў – 8675. У мястэчках Полацкай губерні, па ведамасцях 1780 г., налічвалася хрысціян 2633, іудзеяў – 921, а ў мястэчках Магілёўскай губерні – 20 340 хрысціян і 8981 іудзей. Усяго ў мястэчках дзвюх губерняў хрысціян – 22 973,

[84] Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II / П.Н. Жукович // Журнал Министерства народного просвещения. Петроград, 1915. Ч. IV. Февраль. С. 296.

іудзеяў – 9902[85]. Такім чынам, іудзеі (габрэі) складалі ў 1780 г. каля 30% насельніцтва мястэчак Магілёўскай і Полацкай губерняў. Змяншэнне колькасці жыхароў мястэчак у ведамасцях Чарнышова 1780 г. у параўнанні з ведамасцямі 1774 г. тлумачыцца пераўтварэннем у 1777 г. 14 мястэчак ва ўезныя гарады.

Дэтальны аналіз дынамікі габрэйскага насельніцтва мястэчак на ўсходзе Беларусі ў 1772–1801 гг. зрабіў Я. Анішчанка. Падлікі даследчыка сведчаць, што габрэі, атрымаўшы права запісу ў гарадское купецтва і мяшчанства і фармальна прыпісаўшыся да гарадскіх грамад, у большасці заставаліся ва ўездах (у мястэчках і вёсках). На працягу 1772–1785 гг. па мястэчках і вёсках Полацкай губерні пражывала каля 6300 мужчын (12,6–13 тыс. чалавек абодвух полаў), або 14% іх колькасці ва ўездах і каля 26% усіх местачковых жыхароў. У Магілёўскай губерні па ўездах знаходзілася 77% габрэяў (каля 14 тыс. мужчын, або 29 тыс. чалавек абодвух полаў). У мястэчках Магілёўшчыны было 8 тыс. мужчын, або 16 тыс. чалавек абодвух полаў, што складала 41% усіх габрэяў губерні, 43,2% уезных габрэяў і 31% местачковых жыхароў увогуле[86].

Такім чынам, доля габрэяў сярод жыхароў мястэчак усходнебеларускіх губерняў у канцы XVIII ст. даходзіла да 30%. Урадавая адміністрацыйная статыстыка не пацвярджае распаўсюджанага ў літаратуры меркавання аб тым, што ў канцы XVIII ст. усе беларускія гарады і мястэчкі насялялі пераважна габрэі. Праўда, аналіз урадавых крыніц уліку габрэйскага насельніцтва канца XVIII ст. паказвае, што царызм не меў дакладных даных аб колькасці габрэяў галоўным чынам з-за вольнасці пераходаў апошніх і магчымасцей схавацца ад падатковага абкладання, што павялічвалася пратэкцыянізмам прыватных уладальнікаў, на зямлі якіх у большасці і пражывалі габрэі.

Габрэйскае насельніцтва мястэчак у беларускіх губернях, якія ўваходзілі ў "мяжу габрэйскай аселасці", значна павялічылася ў выніку гвалтоўнага перасялення царскім урадам габрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі. У мястэчках Магілёўскай губерні, напрыклад, у апошняй чвэрці XVIII ст. было каля 16 тыс. габрэяў абодвух полаў, ці 31% жыхароў[87]. У 1833 г. у мястэчках Магілёўскай губерні налічваўся ўжо 35 191 габрэй-мужчына, што складала каля

[85] Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II. С. 299–301.

[86] Там жа. С. 63.

[87] Анішчанка, Я.К. Габрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVIII ст. паводле ўрадавага ўліку / Я.К. Анішчанка // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1993. № 4. С. 63, 67.

62% местачковага мужчынскага насельніцтва[88]. Па звестках губернскай адміністрацыі за 1841–1844 гг., у мястэчках Магілёўскай губерні налічвалася 74 кагала, 33 сінагогі, 183 малітоўныя дамы ці школы (бейт-мідрашы), 353 вучылішчы, 68 рабінаў, 135 старастаў сінагог ці малітоўных дамоў, 57 казначэяў і 58 828 габрэяў абодвух палоў[89].

Больш-менш параўнальныя даныя па мястэчках Мінскай губерні адлюстроўваюць этнаканфесійны склад “гарадскіх саслоўяў” (купцоў і мяшчан). На рубяжы XVIII–XIX стст. у 123 мястэчках Мінскай губерні налічвалася 24 637 купцоў і мяшчан абодвух полаў, з іх 16 642 габрэя, ці 67,5 %[90]. У 1857 г. у 113 мястэчках і двух заштатных гарадах Мінскай губерні быў 69 551 чалавек “гарадскіх саслоўяў”, з іх 58 165 габрэяў, ці 83,6% [91].

У мястэчках Гродзенскай губерні ў 1829 г. хрысціянскіх двароў налічвалася 4345 (ці 54%), іудзейскіх – 3700 (ці 46%), а колькасць душ абодвух полаў складала: хрысціян – 22 291 (46,7%), іудзеяў – 25 431 (53,3%)[92]. П. Баброўскі адзначаў, што габрэі ў мястэчках Гродзенскай губерні “амаль заўсёды пераважаюць колькасцю над іншымі жыхарамі”[93]. У мястэчках Лепельскага, Суражскага, Полацкага, Дрысенскага ўездаў Віцебскай губерні ў 1838 г. налічвалася 8017 габрэяў: 173 купцы і 7844 мешчаніна, што складала 51,2% ад усёй колькасці местачковых жыхароў пералічаных уездаў[94]. Па падліках Паўла Церашковіча, у сярэдзіне XIX ст. у мястэчках Беларусі габрэі складалі 78,6%, а ў гарадах – прыблізна 45%[95].

Тэндэнцыю павелічэння ўдзельнай вагі габрэяў сярод насельніцтва мястэчак адлюстроўваюць і дадзеныя інвентароў прыватнаўласніцкіх маёнткаў. Так, у м. Любча на працягу другой паловы XVII – першай паловы XIX ст. колькасць габрэйскіх двароў

---

88 Падлічана па дадзеных: НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 315. Арк. 7–44.

89 Падлічана па дадзеных: НГАБ. Ф. 2001. Воп. 1. Адз. зах. 161. Арк. 7–105; Адз. зах. 257. Арк. 25–73 адв.

90 Падлічана па дадзеных: РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Адз.зах. 90. Арк. 35–159.

91 Зеленский, И. Материалы для географии и статистики Российской империи. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 1. СПб., 1864. С. 587.

92 Падлічана па дадзеных: НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 536. Арк. 30–119.

93 Бобровский, П. Материалы для географии и статистики Российской империи. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч. 1. СПб., 1863. С. 685.

94 Падлічана па дадзеных: НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 4035. Арк. 18–48, 62 адв.; Адз. зах. 4460. Арк. 48–68; Адз. зах.. 7951. Арк. 3, 19 адв., 34 адв., 215–355, 600, 621; Адз. зах. 8317. Арк. 94 адв.

95 Церашковіч, П. Этнасацыяльная і канфесійная структура насельніцтва Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. / П. Церашковіч // Быт і культура беларусаў: Тэзісы дакладаў навук. канфер. Мінск, 1984. С. 10–12.

узрасла ў 22 разы (з 10 да 220), а хрысціянскіх – крыху паменшылася (з 99 да 82)[96]. У м. Глыбокае, паводле радзівілаўскіх інвентароў 1704–1820 гг., колькасць габрэйскіх двароў за гэты час павялічылася з 13 да 234, а хрысціянскіх паменшылася з 250 да 89[97].

Асабліва высокай была доля габрэяў сярод гарадскіх саслоўяў мястэчак. Пасля дазволенага ўказам ад 7 студзеня 1779 г. права запісу габрэяў у купецтва і мяшчанства статыстычны ўлік стаў адлюстроўваць канфесійны склад гэтых саслоўяў. Так, у канцы XVIII ст. у 123 мястэчках Мінскай губерні пражывала 16 504 мешчаніна-габрэя і 7989 мяшчан-хрысціян, 138 купцоў-габрэяў і 6 купцоў-хрысціян[98]. У 1808 г. у 48 прыватных мястэчках Мінскай губерні налічвалася 6066 мяшчан-габрэяў і 1646 мяшчан-хрысціян, 61 купец-габрэй і 93 купца-хрысціяніна[99]. У 1838 г. у мястэчках Віцебскай губерні было 7844 мешчаніна-габрэя, 1536 мяшчан-хрысціян, 173 купца-габрэя, 35 купцоў-хрысціян[100]. У мястэчках Ашмянскага ўезда Віленскай губерні ў 1838 г. гарадскія саслоўі размяркоўваліся наступным чынам: 17 купцоў-габрэяў, 4 купца-хрысціяніна, 5091 мешчанін-габрэй, мяшчан-хрысціян не было зусім; 152 цэхавых-габрэя, 120 цэхавых-хрысціян[101]. У 1846–1847 гг. у мястэчках Рагачоўскага ўезда Магілёўскай губерні пражывала 463 мешчаніна-хрысціяніна, 6596 мяшчан-габрэяў, Чавускага – 5537 мяшчан-габрэяў, Чэрыкаўскага – 3133 мешчаніна-габрэя (мяшчан-хрысціян у апошніх двух уездах не было). У 113 мястэчках і двух заштатных гарадах Мінскай губерні ў 1857 г. налічваўся 69 551 чалавек гарадскіх саслоўяў, габрэі сярод іх складалі 58 165 чалавек, ці 83,6%.[102] У канцы 1860-х гг. у мястэчках пяці беларускіх губерняў габрэі складалі сярод купцоў і мяшчан 88,7%.[103]

Такім чынам, у разглядаемы перыяд удзельная вага габрэяў сярод насельніцтва мястэчак Беларусі, асабліва гарадскіх саслоўяў, узрастала і была высокай у цэлым, хоць і не ў аднолькавай меры для ўсіх паселішчаў такога тыпу. З-за вялікай мабільнасці габрэяў статыстычныя звесткі аб іх колькасці ў мястэчках не адлюстроўваюць

[96] *Табліца 34.*
[97] *Табліца 35.*
[98] *Табліца 24.*
[99] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 74. Арк. 26–43.
[100] *Табліца 28.*
[101] ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 27.
[102] Зеленский, И. Материалы для географии и статистики... С. 587.
[103] Падлічана па: Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. V. СПб., 1879. С. 82–102.

рэальнай сітуацыі. Напрыклад, у 1849 г. у мястэчках Гродзенскай губерні (без Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага ўездаў) лічылася 14 434 рэвізскія душы габрэяў-мужчын, а ў сапраўднасці "состояло на лицо" 7502 (каля 52%)[104]. Такая неадпаведнасць тлумачылася наступным чынам: "Прочие же по совершенной бедности разошлись по разным местам для приискания себе пропитания"[105]. Трэба таксама мець на ўвазе, што габрэі-мужчыны маглі працяглы час адсутнічаць у сваіх мястэчках не толькі з эканамічных прычын, гэта абумоўлівалася і патрэбамі духоўнага жыцця габрэйскіх абшчын эпохі традыцыйнага грамадства.

Вераванні і жыццёвы ўклад габрэяў на працягу тысячагоддзяў вызначаў *іудаізм* – нацыянальная габрэйская рэлігія. У XVIII ст. з Валыні на Беларусь пачала пранікаць новая містычная рэлігійная плынь – *хасідызм*. Хасідскія лідэры – *цадзікі* – у адрозненне ад рабінаў лічыліся пасрэднікамі паміж вернікамі і Богам, цудатворцамі і празорцамі. У Беларусі хасідызм меў больш рацыянальны, чым ва Украіне, характар і атрымаў мясцовую самабытную форму – *хабад*. Буйныя цэнтры хасідызму ўзніклі ў мястэчках Столін, Ляхавічы, Койданава і інш.[106] У гісторыі хасідызму была таксама вядомая Індура: тут з 1770 па 1780 г. жыў знакаміты цадзік Хайкель (Хаім) Індурскі, да яго з'язджаліся хасіды з усіх канцоў ВКЛ[107].

Пасля выдання "Палажэння аб габрэях" 1804 г., у якім афіцыйна прызнавалася існаванне ў габрэйстве двух кірункаў, хасідызм заняў легальнае месца ў рэлігійным жыцці габрэяў Беларусі. Паміж хасідамі і прыхільнікамі артадаксальнага рабінскага іудаізму (іх хасіды называлі *міснагдым* – "апаненты") разгарнулася актыўная барацьба ў форме ўзаемных даносаў уладам, памфлетаў, адлучэння хасідаў ад сінагогі (*херэм*) і інш. Вядома, што калі ў 1781 г. у Вільні быў абвешчаны херэм хасідам, то ў Зэльве на гандлёвай плошчы падчас кірмашу, дзе сабраліся гродзенскі, брэсцкі, пінскі, слуцкі рабіны і вялікі натоўп людзей, быў прачытаны акт адлучэння[108]. Арыгінальнай па форме была барацьба паміж хасідамі і міснагдым у м. Капыль: "Из борьбы с хасидизмом копыльцы вышли вполне победоносно. И победили они не копьем и мечом… Против хасидов

---

104 Падлічана па: НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 13. Адз. зах. 352.

105 Там жа. Арк. 59 адв.

106 Басін, Я.З. Іудаізм // Рэлігія і царква на Беларусі: энцыкл. давед. / Я.З. Басін, Ю.В. Бажэнаў. Мінск, 2001. С. 134–136.

107 Еврейская энциклопедия: свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем / под ред. Л. Кацнельсона и Д. Гинцбурга. Т.VIII. СПб., 1903. С. 172.

108 Еврейская энциклопедия. Т.VII. СПб., ?. С. 729–730.

употреблено было самое мирное, безобидное средство: барабан. Стоило только адептам хасидской ереси собраться в свою "штибль" (молельня) для молитвы по новому обряду или для собеседования о чудесах своего цадика, как копыльцы являлись с барабанами и били в них с такою яростию, что ни о молитве, ни о каких-либо беседах и думать нельзя было. Так поступали копыльцы до тех пор, пока "штибль" не была закрыта навсегда…"[109].

Хасідскаму містыцызму міснагдым супрацьпастаўлялі рабінскую вучонасць, дзеля чаго была значна пашырана сетка вышэйшых рэлігійных устаноў – ешываў. Неафіцыйнае прымірэнне паміж бакамі адбылося на глебе агульнай барацьбы супраць габрэйскага асветніцкага руху – Гаскалы. Пераважная большасць іудзейскіх абшчын Беларусі заставалася пад уплывам рабінаў.

Такім чынам, відавочна, што габрэі Усходняй Еўропы не былі аднароднымі як па ўзроўні жыцця, так і па культурным статусе. Існавала дыферэнцыяцыя габрэйскіх абшчын па ступені рэлігійнай адукаванасці, успрыняцця ідэй Гаскалы, ментальнасці. У літаратуры прадстаўнікоў габрэйскай супольнасці Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Мінскай (часам таксама Магілёўскай і Віцебскай) губерняў прынята называць *літвакамі*. Іх культурная спецыфічнасць склалася яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта Вільня зрабілася фокусам фарміравання, крышталізацыі гэтай асобнай галіны еўрапейскага габрэйства. Як паказаў Віталь Зайка, гэта быў субэтнас, "племя" ашкеназскага габрэйства, з усімі атрыбутамі – сваёй сталіцай, тэрыторыяй, мовай, эпасам, кшталтам рэлігіі, асобным стэрэатыпам аб сабе ў вачах навакольных габрэйскіх субэтнасаў ("полакаў", "галіцыянераў", "валынцаў")[110]. Асновай, стрыжнем адмысловай літоўска-беларускай, "літвацкай" ідэнтычнасці стала супрацьстаянне хасідызму, а самая назва "місноґід" (міснагдым) часта ўспрымалася як сінонім да "літвака".

Рацыяналізм літвацкага тэалагічнага дыскурсу стварыў для літвакоў у вачах суседзяў – габрэяў польскіх і ўкраінскіх зямель – стэрэатып эмацыйна стрыманай, крытычнай, нават чэрствай асобы[111].

---

[109] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910. С. 4.

[110] Zajka, V. The Self-Perception of Lithuanian-Belarusian Jewry in the Eighteenth and Nienteenth Centuries / V. Zajka // POLIN: Studies in Polish Jewry. – Volume 14. Focusing on Jews in the Polish Borderlands. Oxford-Portland, 2001. P. 19–30.

[111] Зайка, В. Літоўскі Ерусалім: ужо нябачны простым вокам… / В. Зайка // ARCHE. 2003. № 5 (28). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2003-5/zajk503.html – Дата до-

Ізраэліс Лемпертас адзначыў, што ў літаратуры, як правіла, паказваецца, што літвакі славіліся сваёй набожнасцю, рэлігійнай вучонасцю і адначасова недахопам гумару: "В противоположность хасидам – благодушным, беспечным весельчакам, литваки изображаются сухими, угрюмыми существами". Даследчык на канкрэтным матэрыяле паказаў, што гэта не так, што літвакам была ўласціва любоў да жартаў і вострага слова[112]. Шмат цікавых назіранняў наконт ментальнасці, побытавага жыцця, асаблівасцей культуры літвакоў прыводзіцца на старонках даследавання В. Сабалеўскай і У. Ганчарова[113].

У завяршэнне характарыстыкі габрэйства адзначым, што яно, будучы ўнутрана неаднародным, выступала адзінай супольнасцю адносна хрысціянскага наваколля. Жыццё местачковых габрэяў віравала вакол сінагог (*шул* – ідыш), малітоўных дамоў (*шцібл* – у хасідаў, *клойз* – у міснагдым) і *бейт-мідрашэй* (дом вучэння – месца вывучэння Торы). Пад эгідай сінагогі існавала цэлая сістэма, якая задавальняла рэлігійныя, рэлігійна-адукацыйныя і сацыяльныя патрэбы насельніцтва. Яна ўключала праўленне сінагогі, рабіна, рэлігійны суд, старасту сінагогі (*габе*), кантара, рытуальных рэзнікаў скаціны і птушкі (*шойхетаў*), уладальнікаў мясных кашэрных[114] крам, трымальніка рытуальнай бані (*мікве*), пахавальнае брацтва (*хеўра кадзіша*), розныя дабрачынныя таварыствы (*хеўрос*)[115].

Аўтаномны свет іудзейскіх абшчын існаваў у атачэнні хрысціянскай цывілізацыі. Архіўныя крыніцы вельмі рэдка ўтрымліваюць звесткі аб колькасці ў мястэчках *праваслаўных, каталікоў, уніятаў, пратэстантаў*. Захаваліся такія даныя па некаторых мястэчках Гродзенскай губерні за 1837–1838 гг. Суадносіны паміж прадстаўнікамі розных веравызнанняў у працэнтах выглядалі наступным чынам. У Дзярэчыне праваслаўныя складалі 0,4% жыхароў, уніяты – 19,1, каталікі – 29,3, пратэстанты – 0,1, іудзеі – 51,1%. У Галынцы жылі уніяты (70,9%), каталікі (1,3%), іудзеі (27,8%). У Ружанах уніяты складалі 18,6%, каталікі – 22,8%, іудзеі –

ступу: 10.06.2009.

112 Лемпертас, И. О юморе Литваков / И. Лемпертас // Материалы Двенадцатой ежегодной междисциплинарной конференции по иудаике. Ч.1. Академическая серия. Выпуск 18. М., 2005. С. 421–431.

113 Соболевская, О. Евреи Гродненщины: жизнь до Катастрофы / О. Соболевская, В. Гончаров. Донецк, 2005.

114 *Кашэрны* – прыдатны да ўжывання габрэямі згодна з галахічнымі правіламі.

115 Бейзер, М. Жизнь в еврейском местечке конца XIX – начала XX века / М. Бейзер // Альманах "Еврейская старина", апрель–июнь 2009 г. Рэжым доступу: http://berkovich-ametki.com/2009/Starina/Nomer2/Bejzer1.php

58,5%, адзін чалавек быў праваслаўным і адзін – пратэстантам. Канфесійная структура насельніцтва Новай Мышы выглядала наступным чынам: уніятаў было 23,4%, каталікоў – 63, іудзеяў – 7,8, мусульман – 5,7%[116]. Зразумела, што пасля ліквідацыі уніяцкай царквы ў 1839 г. колькасць праваслаўных узрасла за кошт былых уніятаў. Канфесійная структура Койданава ў 1846 г. была наступнай: з 1889 чалавек 819 – праваслаўныя (каля 43%), 777 – іудзеі (каля 41%), 278 – каталікі (каля 15%), 10 – евангелікі (каля 0,5%), 5 – мусульмане (каля 0,3%)[117]. У Бешанковічах у 1852 г. было 1076 праваслаўных (43,1%), 81 каталік (3,2%), 1341 іудзей (53,7%)[118].

Даныя за 1857 г. з РДГА хоць і не поўныя, але цікавыя тым, што яны ўтрымліваюць звесткі аб насельніцтве мястэчак не толькі па веравызнанні, але і па нацыянальнай прымеце. Так, сярод праваслаўных местачкоўцаў называюцца прадстаўнікі "беларускага племені, маларасійскага, славянскага, славянска-рускага, літоўскага, літоўска-славянскага, яцвяжскага, літоўска-рускага"; сярод каталікоў – прадстаўнікі "племені польскага і літоўскага"; пратэстанты і асобы евангелісцка-рэфарматарскага веравызнання пазначаны "палякамі" ці "немцамі". Напрыклад, па Гродзенскай губерні ў Свіслачы паказаны 10 "евангелікаў" (палякі, немцы), у м. Расна – 67 (палякі, немцы). У мястэчках Мінскай губерні ўзгадваюцца прадстаўнікі евангелісцка-рэфарматарскага веравызнання ў Капылі – 28, Койданаве – 19 (палякі), Стоўбцах – 10 (немцаў), Уселюбе – 3 (палякі)[119]. Паводле гэтай крыніцы, канфесійная структура асобных мястэчак у 1857 г. была наступнай: Уселюб – 362 праваслаўных, 259 каталікоў, 233 іудзея, тры пратэстанта; Мір – 1274 праваслаўных, 258 каталікоў, 1553 іудзея; Клецк – 396 праваслаўных, 104 каталіка, 1837 іудзеяў; Капыль – 897 праваслаўных, 526 іудзеяў, 28 пратэстантаў; Стоўбцы – 504 праваслаўных, 342 каталіка, 1198 іудзеяў, 10 пратэстантаў і г.д.[120]

Каталіцкае насельніцтва мястэчак складалася галоўным чынам з *беларусаў*, *палякаў*, а таксама *ўкраінцаў*, *літоўцаў*. Праваслаўныя і уніяты былі пераважна *беларусамі*, маглі быць таксама *рускімі*, *украінцамі*.

Высокая ўдзельная вага каталікоў была характэрна для мястэчак заходніх раёнаў Беларусі. Так, у Гродзенскай губерні вялікая доля

---

[116] *Табліца 30.*
[117] Падлічана па: НГАБ. Ф. 27. Воп. 5. Адз. зах. 142. Арк. 47 адв.
[118] Падлічана па: НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 23752. Арк. 294.
[119] РДГА. Ф.1290. Воп. 4. Адз. зах. 79. Арк. 2–753.
[120] РДГА. Ф.1290. Воп. 4. Адз. зах. 77. Арк.77–538; Адз. зах. 79. Арк. 2–753.

каталікоў была ў мястэчках Дзятлава, Новая Мыш, Поразава, Ялоўка, Бяроза, Воўпа, Масты, Зэльва і інш. У мястэчках Мінскай губерні, як правіла, пераважалі праваслаўныя. Аднак былі і выключэнні. Напрыклад, у м. Цімкавічы ў 1857 г. налічваўся 591 праваслаўны, 401 іудзей і 4354 каталіка[121].

Згодна з "Атласам народанасельніцтва Заходне-рускага краю па веравызнанні", выдадзеным у 1864 г., у мястэчках Магілёўскай губерні налічвалася 107 праваслаўных цэркваў і прыходаў і 23 каталіцкіх; у беларускіх мястэчках Віцебскай губерні – 19 праваслаўных і 9 каталіцкіх цэркваў і прыходаў[122]. Адсюль вынікае, што ў цэлым у мястэчках Магілёўскай і Віцебскай губерняў праваслаўнае насельніцтва пераважала над каталіцкім.

Невялікую групу мястэчковага насельніцтва складалі *татары*, якія па веравызнанні былі *мусульмане* (у крыніцах – магаметане). Напрыклад, у 1814 г. у м. Мір налічвалася 19 двароў татар: 87 чалавек[123]. Паводле сведчання У. Сыракомлі: "Жыве ў Міры некалькі дзесяткаў татарскіх сем'яў, татары маюць тут свайго Молну (мулу. – *Аўт.*) і малую, прыцененую дрэвамі мячэць. Хто і калі іх тут пасяліў, яны не помняць"[124]. У 1788 г. у м. Смаргонь пражывала 11 татар. У м. Дзятлава у пачатку 30-х гг. XIX ст. існавалі два татарскія двары, у м. Новая Мыш 69 татар, у м. Гарадзішча – 30[125]. Паводле інвентароў у Карэлічах у 1834 г. было 9 татарскіх двароў[126], у Клецку – 13[127], у 1828 г. у Дзеляцічах – 6[128]. У канцы 1860-х гг. у Камянцы жылі 62 магаметаніна (1,6% ад усіх жыхароў мястэчка), у Песках – 11 (0,7%)[129]. Вядома, што татары жылі таксама ў Ляхавічах (у 1826 г. – 90 чалавек[130]), Капылі (у 1848 г. – 7 двароў[131]), Мядзелі, Смілавічах, Уздзе, Крэве і інш.

Паводле апісання генерала С.А. Тучкова, якога Павел І накіраваў у Беларусь і Украіну, мясцовыя татары "зусім страцілі свае мінулыя

---

[121] РДГА. Ф.1290. Воп. 4. Адз. зах. 79.

[122] Атлас народонаселения западно-русского края по исповеданиям. СПб., 1864.

[123] АР НБ Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. F4-36348 (A-849) Арк. 20.

[124] Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах / У. Сыракомля // Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка. Мінск, 1993. С. 208.

[125] РДГА. Ф. 1374. Воп. 1. Адз. зах. 1886. Арк. 51; НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 4. Адз. зах. 663. Арк. 5.

[126] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1814.

[127] Там жа. Sygn. 1688.

[128] Там жа. Sygn. 718.

[129] Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи... С. 89, 91.

[130] АР навуковай бібліятэкі АН Літвы. Ф. 18. Адз. зах. 228. Арк. 187.

[131] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1761.

звычаі за выключэннем магаметанскай рэлігіі... Хоць і маюць яны сваіх мул або святароў і мячэці, дзе моляцца Богу, але пазбавіліся ўжо многіх забабонаў магаметанскага закону, як тое ў вопратцы, ежы, піцці і зносінах з хрысціянамі"[132]. П. Шпілеўскі пакінуў апісанне клецкіх татар: "Теперь их в Клецке не более 100 человек: они включены в мещанское звание и живут в особой, отдельной улице, известной под именем Татарской слободы, имеют свою домашнюю молельню – мечеть и ведут жизнь трудолюбивую, опрятную и миролюбивую; в их слободе не слышно ни разгула, ни шума, ни игрищ, ни плясок; всегдашняя тишина и спокойствие… Мужчины приняли костюм белорусских мещан… Женщины сохранили свой национальный костюм…Главная, отличительная черта татар – честность, гостеприимство и аккуратность, татарок – скромность и неподкупная целомудренность…"[133].

У асобных мястэчках пражывалі *цыганы*. У гаспадарчых дакументах Міхала Казіміра Агінскага за 1752–1787 гг. сустракаюцца ведамасці штогадовага чыншу ад "цыганоў бешанковіцкіх"[134]. У Магілёўскай губерні ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. у м. Раманава было 28 цыганоў[135], у м. Прапойск – 11, у Крычаве – 36, Чачэрску – 6, Шклове (Задняпроўскім прадмесці) – 18[136]. Галоўным месцам збору вандроўных цыганоў у XVI–XVII стст. была Зэльва. У XVIII – пачатку XIX ст. славу "цыганскай сталіцы" меў *Мір*, дзе пражывалі аселыя цыганы. На полі каля Міра збіраліся цыганы з усіх канцоў краю для выбараў старэйшын, якіх называлі "цыганскімі каралямі". Найбольш вядомым з іх быў Ян Марцінкевіч, які ў 1778 г. атрымаў грамату ад Караля Станіслава Радзівіла, вядомага пад мянушкай "Пане Каханку". Марцінкевіч уладарыў да 1790 г. і жыў у м. Мір. Ён славіўся сваімі дзівацтвамі, жыў занадта раскошна і даваў шыкоўныя банкеты, на якіх прысутнічалі знаныя шляхціцы і нават сам Пане Каханку. Марцінкевіч пабудаваў у Міры палац і акружыў сябе шматлікай світай з цыганоў. Ён імкнуўся ва ўсім капіраваць свайго вяльможнага патрона Радзівіла. Цыганскі кароль ездзіў у пазалочанай карэце, запрэжанай 12 конямі. Калі ж ён ішоў пешшу, дык яго суправаджала багата апранутая світа, а прахожыя цыганы мусілі здымаць шапкі і пачціва чакаць у паклоне, пакуль ён пройдзе. Цы-

[132] Дзмін, С.У. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць / С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. Мінск, 1993. С. 119.

[133] Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю… С. 59–60.

[134] АР НБ ПАУ і ПАН у Кракаве. Адз. зах. 4457. Арк. 1.

[135] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 724. Арк. 152.

[136] Там жа. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 763. Арк. 61, 84 адв.

ганы заснавалі ў Міры папяровыя, суконныя, ткацкія і футравыя мануфактуры, якія квітнелі ў XVIII ст., а ў сярэдзіне XIX ст. пачалі занепадаць, але ткацкія вырабы мірскіх цыганоў па-ранейшаму мелі добры попыт[137]. П. Шпілеўскі, апісваючы мірскіх цыганоў, адзначаў, што па веравызнанні яны былі хрысціяне, паміж сабой выкарыстоўвалі сваю родную мову. Стаўшы аселымі, цыганы змянілі свой касцюм на адзенне мясцовых мяшчан ці сялян, чаго нельга было сказаць пра касцюм цыганак, якія трымаліся сваіх палатняных тогаў. Заняткамі мірскіх цыганоў у XIX ст. былі "кузнечество, слесарство, особенно коноление, по старой привычке коннозаводство и мена лошадей, токарство; их липовые и дубовые миски, тарелки, ложки, сита и решета известны своей красивой отделкой; холст мирских ткачей славится своей прочностью и чистотой отделки"[138].

Гарады і мястэчкі не абмінуў такі агульны для Беларусі працэс, як з'яўленне пласта *рускага* насельніцтва – чыноўніцтва, афіцэрства, часткі дваранства і асобных прадстаўнікоў купецтва. Але спробы царызму русіфікаваць беларускія гарадскія паселішчы асаблівага поспеху не мелі. Новыя ўладальнікі маёнткаў, у тым ліку і мястэчак, як правіла, не затрымліваліся доўга на беларускай зямлі. "Добранадзейных" рускіх чыноўнікаў катастрафічна не хапала. Вайскоўцы не з'яўляліся пастаянным гарадскім і местачковым насельніцтвам і перамяшчаліся разам з войскамі. Шэраг указаў, накіраваных на прыцягненне на беларускія землі рускага і ўкраінскага купецтва, таксама не меў поспеху[139].

Здаўна (з сярэдзіны XVII ст.) рускія ў асобных мястэчках Беларусі былі прадстаўлены *стараверамі* ці стараабраднікамі – рэлігійнай плынню, якая ўзнікла ў выніку расколу ў Рускай праваслаўнай царкве. Найбуйнейшым пасяленнем і цэнтрам старавераў у Беларусі было м. Ветка, заснаванае ў 1685 г., вакол якога ў хуткім часе вырасла шмат слабод (у 1722 г. – 23), якія разрасліся ў буйны гандлёвы цэнтр, дзе сканцэнтраваўся гандаль паміж Левабярэжнай Украінай і Беларуссю. Насельніцтва калоніі дасягнула 40 тыс. чалавек. Прапаганда староверства, што ішла з Веткі, непакоіла вярхі праваслаўнай царквы Расійскай імперыі. У Ветку двойчы пасылаліся карныя экспедыцыі: у 1735 і 1764 гг. адбыліся так званыя "выгонкі", пасля

---

137 Калінін, В. Цыганы на Беларусі // З гісторыяй на "Вы". Выпуск другі / В. Калінін; уклад. У. Арлова. Мінск, 1994. С. 336–338.

138 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю… С. 89–90.

139 Кіштымаў, А.Л. Гарады і мястэчкі / А. Кіштымаў // Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) . Мінск, 2005. С. 130.

чаго Ветка перастала быць буйным цэнтрам арганізацыі расколу, але захавала ў стараверстве гістарычны і культурны аўтарытэт. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. у Ветцы налічвалася "раскольников, положенных в двойной оклад" 172 мужчыны і 150 жанчын[140], 21 купецкі двор, 112 мяшчанскіх, 36 габрэйскіх; былі драўляныя стараверская царква Пакрова Багародзіцы і габрэйская малітоўная школа[141]. Па звестках на канец 1860-х гг., у мястэчку налічвалася 4506 жыхароў, сярод іх 1537 стараабраднікаў (што складала 34,1% насельніцтва) і 2025 іудзеяў-габрэяў (ці 44,9%)[142]. Стараверскае насельніцтва ў беларуска-літоўскіх губернях было, як правіла, рускім. Але час ад часу яно папаўнялася мясцовымі жыхарамі, беларусамі. Здараліся і рэдкія выпадкі пераходу ў яго габрэяў. Так, у 1838 г. два габрэя (мяшчане Беліцы) прынялі хрышчэнне ў стараверскім Лаўрэнцьевым манастыры. Але Мікалай I загадаў даручыць мясцоваму праваслаўнаму начальству ўгаварыць гэтых габрэяў прыняць праваслаўе. А калі яны адмовяцца, то не прадастаўляць ім ніякіх льгот, якімі карысталіся габрэі, прыняўшыя праваслаўную веру[143]. Неабходна заўважыць, што адносна перыяду канца XVIII – першай паловы XIX ст. факты хрышчэння іудзеяў сустракаюцца вельмі рэдка, яны, як правіла, здараліся ў гарадах[144]. Вернасць рэлігійнай і нацыянальнай традыцыі была мацнейшая за імкненне пазбавіцца дыскрымінацыі, з якой сутыкаліся габрэі амаль ва ўсіх сферах жыцця.

У некаторых мястэчках жылі *іншаземцы*. Так, у Шклове ў часы валодання ім Сямёна Зорыча мелі "жительство разных наций люди, как то немцы, французы, итальянцы, арабы, шведы и сербы, которые большею частию служат по наймам господину Зоричу"[145]. Шмат чужаземцаў служылі ў гомельскім маёнтку М. Румянцава. Больш за

[140] РДАСА. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 763. Арк. 94 адв.

[141] Там жа. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 705. Арк. 80.

[142] Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи... С. 99.

[143] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.) / В.В. Грыгор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі, А.М. Філатава; навук. рэд. У.І. Навіцкі. Мінск, 1998. С. 49, 55.

[144] НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 22. Адз. зах. 1332 (тут разглядаецца справа аб прыняцці праваслаўя ў 1862 г. жыхаркай Гродна Сарай Гольдштэйн, па меркаванні яе маці, да перамены веры Сару "падгаварыў" пісар палка Кляменцьеў, разам з дачкою з дому прапалі многія рэчы і грошы бацькоў); Адз. зах. 1082 (пасля таго, як жыхар Ваўкавыска Айзік Мікуніцкі ў 1860 г. праявіў жаданне прыняць праваслаўе, ён быў "захоплены" сваёй маці і братамі і пры дапамозе ваўкавыскіх габрэяў адвезены ў Пінск, дзе ўтрымліваўся ў доме габрэя Герцэля ў пакоі з зачыненымі аканіцамі, а калі збег адтуль, то звярнуўся ў паліцыю).

[145] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 155.

ўсіх было выхадцаў з Аўстрыі і Нямеччыны (аканомы, бухгалтар, дактары, аптэкары, ветэрынар, гадзіннікавы і булачны майстры, механік, садоўнікі, півавар, гутнік, меднік). Нямала было англічан і шатландцаў (аканомы, механікі, архітэктар, майстар на свечачным заводзе), сыравара запрасілі са Швейцарыі. Як правіла, у абавязкі іншаземных спецыялістаў уваходзіла і навучанне майстэрству мясцовых жыхароў (тыповы прыклад – дамова на 4 гады паміж механікам А. Смітам і графам М. Румянцавым)[146]. Такім чынам, іншаземцы, маючы кантакты са сталымі жыхарамі мястэчак, аказвалі ўплыў на іх штодзённае жыццё.

Стракатасць складу насельніцтва мястэчак пры іх невялікіх памерах і павольнасці штодзённага жыцця ва ўмовах традыцыйнага грамадства стварала непаўторную атмасферу сусвету мястэчка, вельмі адрозную як ад горада, так і ад вёскі.

Вялікую цікавасць уяўляе разгляд ***узаемаадносін паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп насельніцтва мястэчак***, перш за ўсё – паміж іудзеямі і хрысціянамі. Асобныя аспекты гэтай праблемы закраналіся ў публікацыях Вольгі Бяловай, Вікторыі Мачаловай, Вячаслава Рагойшы, Вольгі Сабалеўскай, Дарыуса Сталіунаса і інш.[147]

Паспрабуем на аснове пераважна мемуарнай літаратуры, некаторых дакументальных крыніц зрабіць аналіз характару і форм суіснавання розных этнаканфесійных груп насельніцтва мястэчак Беларусі ў першай палове XIX ст. з дапамогай своеасаблівага калейдаскопа сюжэтаў местачковага жыцця.

З гэтай мэтай намі выкарыстаны: мемуары паэта, публіцыста, літаратуразнаўца і педагога Абрама Паперны, у якіх асвятляецца жыццё м. Капыль Слуцкага ўезда 40-х гг. XIX ст.; успаміны аб тым жа мястэчку Мендэле Мойхер-Сфорым, заснавальніка новай габрэйскай літаратуры на мове ідыш; успаміны Эхезкеля Коціка аб м. Камянец-

---

[146] Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П. Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С.23.

[147] Белова, О. “Другие” и “чужие”: представления об этнических соседях в славянской народной культуре / О. Белова // Признаковое пространство культуры. М., 2003; Белова, О.В. Этнокультурные стереотипы в славянской народной традиции / О.В. Белова. М., 2005; Мочалова, В.В. Евреи в Польше: история в зеркале литературы / В.В. Мочалова // Славяне и их соседи. Вып. 5. М., 1994; Рагойша, В. Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава) / В. Рагойша // На шляхах да ўзаемаразумення. Беларусіка. Кн.15. Мінск, 2000; Staliunas, D. Anti-Jewish Disturbances in the North-Western Provinces in the Early 1880s // East European Jewish Affairs. Vol. 34. No. 2, Winter 2004.

Літоўск Брэсцкага ўезда той жа эпохі; мемуары Уладзіміра Гаркаві, у якіх гаворыцца аб Наваградку сярэдзіны XIX ст.; успаміны Ф. Воінава аб яго наведванні Мінскай губерні ў 1865 г. Асабліва "пашчасціла" на мемуары Капылю. Поліэтнічнасць і поліканфесійнасць яго насельніцтва ў апісваемы А. Папернам і Мендэле Мойхер-Сфорым час ілюструюць наступныя звесткі. Па звестках інвентару 1818 г., у Капылі было 309 двароў: 134 габрэйскія, 172 хрысціянскія і два татарскія. К 1848 г. колькасць татарскіх двароў павялічылася да 7, а габрэйскіх – да 172[148]. Паводле інвентару 1846 г., у мястэчку існавалі драўляныя праваслаўная царква, рымска-каталіцкі касцёл, кірха евангелічная, тры габрэйскія малітоўныя школы, адна з іх была мураваная[149]. У гадавой справаздачы па Мінскай губерні, накіраванай у Цэнтральны статыстычны камітэт у 1857 г., у м. Капыль значыліся 897 праваслаўных мяшчан (прыхаджане Уваскрасенскай царквы), 28 мяшчан і дваран евангеліцка-рэфармацкай веры (пазначаныя як палякі), 526 мяшчан-іудзеяў[150]. Гэтыя звесткі няпоўныя, бо ў Капылі жылі таксама каталікі, аб чым сведчаць факты пра існаванне з 1439 г. драўлянага касцёла, які згарэў у 1856 г., а новы парафіяне пабудавалі ў 1859 г.[151]

Мемуарная літаратура часта паказвае добразычлівыя адносіны паміж габрэямі і негабрэямі. З успамінаў Мендэле пра Капыль: "В местечке евреи и христиане жили между собой в ладу, дружно, не скрывая друг от друга ни своих радостей, ни горестей. Когда какой-нибудь еврей играл свадьбу, знакомые христиане присылали свадебные подарки: кто курицу, кто несколько десятков яиц, кто каравай хлеба, а кто кулич – каждый по состоянию своему. То же повторялось в случае торжества у кого-нибудь из христиан"[152].

У аснове ўзаемадзеяння этнасаў, якія насялялі мястэчкі, ляжалі непазбежныя эканамічныя інтарэсы. Унікальная атмасфера добразычлівых і даверлівых адносін паміж людзьмі была заснавана на эканамічным супрацоўніцтве прадстаўнікоў розных этнічных груп мястачковага насельніцтва. Гэта добра ілюструюць успаміны А. Паперны: "В описываемое время Копыль мог иметь около 3000 душ населения, состоявшего из трёх различных по народности и вероисповеданию групп: евреев, белорусов и татар. Эти три группы,

---

148 AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1759, 1761.

149 НГАБ. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 1601. Арк. 1 адв.

150 РДГА. Ф. 1290. Воп. 4. Адз. зах. 79. Арк. 728, 751, 753.

151 Nasze Kościoły. T. I. Cz. 2. Warszawa, 1912. S. 14.

152 Менделе Мойхер-Сфорим. История одной жизни: воспоминания писателя // Еврейский мир. 1909, май. С. 56.

объединенные одною территорией и одним, пекущимся о них начальством, были совершенно чужды одна другой по языку, обычаям, верованиям и историческим преданиям, были как по внешнему виду, так и по духу представителями трех различных миров и тем не менее жили между собой мирно. Сближали их неизбежные соседские и экономические интересы. Не было между ними зависти, потому что нечего было им друг другу завидовать: все с большим трудом снискивали себе скудное пропитание, а главное потому, что не было между ними конкуренции, ибо каждая из этих групп, как бы по уговору, отмежевала себе особое от других поле деятельности, таким образом они скорее дополняли друг друга, чем соперничали между собой". Габрэі Капыля займаліся гандлем, карчмарствам, возніцтвам, рамяством, настаўніцтвам. Беларусы ў Капылі акрамя земляробства займаліся ткацтвам. Габрэйскія гандляры і беларускія ткачы працавалі ў тандэме: "...мещане-белорусы ткали холст и тонкие белые покрывала, употреблявшиеся в то время еврейскими женщинами как часть головного убора. Работали они по заказам местных еврейских торговцев, которые давали им нужный сырой материал, платили еженедельно за исполненный труд и продавали этот товар на ярмарке в Зельве"[153].

Татары займаліся агародніцтвам і славіліся сваёй гароднінай. Традыцыйным заняткам местачковых татар былі і некаторыя рамёствы, асабліва апрацоўка скур, а таксама возніцтва. Па назіраннях Паперны, татары-магаметане ў Капылі былі ўсімі паважанымі за працавітасць, цвярозасць і ахайнасць. Яны трымаліся бліжэй да габрэяў, чым да хрысціян, што аўтар паспрабаваў патлумачыць так: "Сказывалась тут общая азиатская кровь и некоторое сходство религиозных понятий и традиций"[154]. Супрацьлеглае сцвярджаў П. Шпілеўскі, апісваючы клецкіх татар: "Они держатся своего общества, хотя не чуждаются знакомства с христианами, но всячески, по возможности, избегают сношений и столкновений с евреями"[155]. А. Мухлінскі пра татар адзначаў: "В нравственном отношении они честны, добры, ласковы, живут согласно с другими жителями, но не сливаются с ними"[156].

Сваю нішу ў эканамічным жыцці мястэчак усходніх рэгіёнаў Беларусі займалі прадпрымальныя рускія перасяленцы-

[153] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания... Т. 2. СПб., 1910. С. 5–6.
[154] Там жа. С. 6.
[155] Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю… С. 59.
[156] Мухлинский, А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар / А. Мухлинский. СПб., 1857. С. 46–49.

стараабрадцы. Паводле характарыстыкі М. Без-Карніловіча: "старообрядцы трезвы, расторопны, трудолюбивы... любят жить в довольствии, занимаются домостроительством, пчеловодством, извозами; по деревням скупают мёд, воск, сушёные белые грибы, полотна, нитки; у помещиков в садах закупают яблоки, груши, ягоды, развозят их по городам и местечкам вместе с огородными овощами из нанимаемых в предместьях огородов"[157]. А наступная цытата пралівае святло на ўзаемаадносіны старавераў і беларусаў: "В губерниях: Витебской и Могилёвской раскольники первоначально жили отдельными слободами, придерживаясь своих обычаев; время и любовь сроднили некоторых потомков давних выходцев с природными белорусами"[158].

Прафесійная структура насельніцтва мястэчак была ўладкавана так, што прадстаўнікі розных этнасаў не маглі абыйсціся без дзелавых кантактаў паміж сабой. Напрыклад, некаторыя прафесіі (у прыватнасці, лячэбная справа) былі прадстаўлены выключна габрэямі. Так, у Капылі "единственною акушеркою была еврейка, благочестивая старушка, обслуживавшая рожениц как еврейских, так и нееврейских, а единственным эскулапом был фельдшер и аптекарь Козляк, который лечил решительно все болезни с полною уверенностью в своём врачебном искусстве, о котором были высокого мнения и местные евреи, а также окрестная шляхта". Усё насельніцтва Капыля і яго наваколляў абслугоўваў таксама лекар з Нясвіжа Самуіл Кушалеўскі, першы габрэй-студэнт Віленскага універсітэта, які быў вядомым ва ўсёй Літве. А. Паперна з іроніяй адзначаў, што "порядочному копыльцу просто неприлично было умереть без Кушелевского"[159].

Аб'ядноўвалі свае намаганні прадстаўнікі розных этнаканфесійных груп насельніцтва мястэчак і ў такой незаконнай эканамічнай дзейнасці, як кантрабандны гандаль. Пра гэта сведчыць наступны прыклад. У 1841 г. у 14 вярстах ад мяжы з Беластоцкай вобласцю была затрымана фурманка з 8 таварнымі месцамі, пры ёй былі памешчык Яноўскі і два селяніна, якія паспелі ўцячы. Памежны вартавы Шкуратаў павёз затрыманы тавар у м. Сухаволя. Там на яго напалі каля 50 местачкоўцаў, сярод якіх былі і габрэі, і хрысціяне. Яны забралі тавар і схавалі яго ў доме Янкеля Рабіновіча.

---

[157] Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии... С. 240.

[158] Там жа.

[159] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания... С. 35–36.

Тысяцкі м. Сухаволя Станіслаў Ляткоўскі адмовіўся рабіць у яго вобыск. Па выніках следства чыноўнікі Фогель і Грыгор'еў дакладвалі віленскаму ваеннаму губернатару: "Оказались виновными в тайном провозе товаров дворянин Яновский и служащий при нем вольнонаемный обыватель Белостокской области Казимир Сенька, которые арестованы и отправлены в г. Сокольск. Жители м. Суховоли евреи разного состояния более 70 чел. по сделанной ими умышленной стачке не открывать виновных отданы под строгий надзор местной земской полиции"[160].

Досвед гарадскога жыцця, веданне эканамічных рэалій, дзелавыя і асабістыя сувязі, прадпрымальнасць рабілі габрэяў неабходным звяном у паўнавартасным функцыяніраванні эканомікі мястэчак і ўсяго беларускага краю. Змітрок Бядуля адзначаў: "Суседства гэтых двух нацый (габрэяў і беларусаў. – *Аўт.*) стварала такія жыццёвыя ўмовы і эканамічныя сувязі, у якіх адна нацыя без іншай не магла абыйсціся"[161]. Адносіны габрэяў і негабрэяў былі своеасаблівым эканамічным сімбіёзам. Нават у *Шабат*[162] габрэй меў патрэбу ў *шабес-гое* для таго, каб патушыць свечкі і распаліць печ у зімовую суботу. Аднак у сяброўства, культурныя ці сямейныя зносіны такія кантакты пераходзілі рэдка.

Цікава ўзгадаць, што З. Бядуля, характарызуючы хасідскага цадзіка Койданава, звярнуў увагу, што ўплыў "рэбэ" быў такі моцны, што да яго звярталіся і негабрэі (па пытаннях лячэння ад хвароб і інш.)[163]. Паперна, апісваючы функцыі рабінскага суда ў м. Капыль, адзначыў, што да рабіна "с полным доверием обращались и местные христиане в своих спорах с евреями"[164]. Такім чынам, аўтарытэт рабіна ці цадзіка часам быў высокі і сярод хрысціянскага насельніцтва мястэчак.

Паўсядзённыя кантакты паміж габрэямі і негабрэямі не абыходзіліся без хітрасцей, прычым з абодвух бакоў. Прадэманструем гэта з дапамогай успамінаў Ф. Воінава: "С хозяином, у которого мне пришлось прожить года полтора, случился казус. Живет у него один господин и кутит на прополую, приглашая нередко к себе старика хозяина, который любил иногда за беседой выпить стакан чаю с ромом. Хозяин еврей, без души от такого доброго жильца. Но

---

160 ДАРФ. Ф. 109. – Воп. 16. Адз. зах. 301. Арк. 8.

161 Бядуля, Зм. Жыды на Беларусі /Зм. Бядуля // ARCHE. 2000. № 3 (8). С. 24.

162 *Шабат* – "святая субота", згодна з Торай абавязковы дзень адпачынку, малітваў і вывучэння Святога Пісання, забаронена любая праца.

163 Наш край. 1930. № 1. С. 36.

164 Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания… С. 36.

господин, видя, что из долгов ему не выпутаться, потому что одному хозяину задолжал более тысячи руб., взял почтовых лошадей, да сто рублей у того же хозяина и в ночь с пятницы на субботу скрылся из Минска. Здесь это обыкновенная тактика должников – бегать от своих кредиторов с пятницы на субботу, потому что евреи, благодаря своему талмудическому вероучению, ни за что не сделают погони за беглецом в субботу".

Ф. Воінаў апісаў і наступную карціну: "Выйдя на Мозырский рынок, я заметил еврейку, торговавшую у крестьянки цыплят. Сторговала она трёх за 45 копеек. Рассчитываясь, она даёт крестьянке 15 коп. серебром и говорит: вот тебе сороковка, значит двугривенный. Потом даёт 20 коп. медью и старый двухкопеечник – за 5 коп. Значит, обсчитала её на 8 с половиною коп. Но баба не дура, и говорит еврейке: это не пятак, а полторы коп. Еврейка взяла обратно двухкопеечник и дала три коп. Опять ты врешь, говорит баба, давай ещё 2 коп. Еврейка прибавила ещё одну копейку, а по настоянию бабы отдала и последнюю. Когда таким образом расчёт был окончен, баба обращается ко мне: а что, паночек, это злот, или сороковка. Получив ответ, что не сороковка, а злот, баба догоняет еврейку и называет её воровкой; еврейка говорит и клянётся, что сама приняла злот за сороковку – и затем берет от неё деньги и возвращает бабе трёх цыплят из шести, бывших у неё в руках; но при этом успела худшего цыплёнка обменить на лучшего, но баба вступила в рукопашный бой и отняла своего цыплёнка. Один мой знакомый, бывший при такой сцене, заметил, что у евреев с крестьянами всегда идут подобные торги. Попадёт на бабу дуру, которая считать не умеет, ну и обманет. То же еврей делает и с мужиками… потому что плут и мастер обойти мужика неразвитого и необразованного"[165].

Такім чынам, хрысціяне і іудзеі ў штодзённым жыцці мястэчак знаходзіліся ў пастаянным кантакце паміж сабой. Не дзіўна, што габрэі добра засвоілі беларускую мову, а беларусы – габрэйскую. Многа сведчанняў гэтаму знаходзім на старонках "Нашай Нівы". Так, Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) у "Лістах з дарогі" занатаваў: "…надта добра гукаюць па беларуску тутэйшыя даўнейшыя жыды. Здарылася мне сустрэць у адным мейсцы старую жыдоўку, каторая з часоў яе маладосці аглухла. Ня чуючы здаўна новамоднага калецтва ў тутэйшай мове, у памяці яе засталася толькі даўнейшая – чыстая беларуская. Аж міла было слухаць: гутарка яе, як вада плыве; словы зыч-

[165] Путевые записки ст. сов. Ф.Д. Воинова или Воспоминания о пребывании его в Минской губернии с февраля 1865 по 1 мая 1866 г. СПб., 1891. С. 13, 64, 66.

ныя, і мяккія, і плывучыя, і спеўныя. З вялікай ахвотай доўгі час я з гэтай жыдоўкай прасядзеў і слухаў...”[166]. Падобнае ж паведамленне чытаем з Крынак: “Мова тут – ці то праваслаўны, ці каталік, а то і жыд – чыста беларуская прадзедоўская, ажно ўцеха бярэ!”[167].

Аб добрым валоданні беларускай мовай габрэямі сведчыць і паведамленне са Свянцян, дзе, як піша карэспандэнт “Тутэйшы”, насельніцтва аддае перавагу габрэйскай краме, таму што там гавораць “па-нашаму”: “А другая хрысціянская хаўрусная крама пад назвай “Польза” (па нашаму “Карысць”), але нашы беларусы баяцца гэтай “карысці”, бо там сядзяць такія паны, з мужыкоў, што ў паны выйшлі, і здзекуюцца над нашымі людзьмі, высмейваючы іх мову... Дык і добра робяць нашы, што не купляюць у гэтай краме”[168].

Факт прыхільнасці габрэяў да беларушчыны зафіксаваны ў паведамленні са Смаргоні: “... былі ў нас два беларускія прадстаўленні. Вельмі складна ігралі артысты... На ўсіх прадстаўленнях было найболей жыдоў, і яны-то так шчыра віталі беларускі тэатр. Як бачым, нашы местачковыя жыды, з каторымі беларусы заўсягды жылі ў добрай згодзе, пачалі разумець іх любоў да ўсяго роднага, і бадайшто ўсялякім “истинным” людзям не надта лёгка будзе сеяць паміж беларусамі нянавісць да жыдоў”[169].

З другога боку, беларусы ў мястэчках ведалі габрэйскую мову. Гэта ілюструе наступны ўрывак з успамінаў С. Грахоўскага: “На ганку Грышку сустракае Матрона і без асаблівай злосці лае яго па-габрэйску. Яны часта гавораць і лаюцца на мове Майсея, толькі мацюкі сыплюцца без перакладу”[170].

Выдатны ўзор жывой беларускай гаворкі з “ідышызмамі” прыводзіць Сакрат Яновіч з мястэчка Крынкі: “Крынкаўцы густа перакідваліся ў гутарцы жыдоўскімі словамі з ідыш. Юрлівага кавалера, шчыпайлу дзяўчат празывалі “маладым шванцам”. Сварлівы тып – гэта “фэкі чалавек”. Ненадзейны тавар – “шайс”. Камбінатар – “шанцоўнік”. Асобы з лёгкім языком – “мэхляр” або “фукс”. Байкі гарадзіць наіўным – гэта “дурыць майсамі”. Вось прыкладныя фразы: – Чаго гэты фукс ад цябе хоча, га? Які гэта шайс ён табе прынёс? Ой, фэкі чалавек! Майсамі дурыць галаву. Хай пільнуе лепей

[166] Наша Ніва. 1910. № 27.
[167] Там жа. № 20.
[168] Там жа. 1911. № 45.
[169] Там жа. № 34.
[170] Грахоўскі, С. Мястэчка... Мястэчка... Элегія // Полымя. 1992. № 2. С. 167.

свайго маладога шванца, якому салодкая Фэля зробіць гевалт, гешэфт поткаю... І будзе кіндрык на пацеху (кіндар кучаравы)"[171].

Заканамерным вынікам сумеснага пражывання двух народаў стала і ўзаемапранікненне беларускай мовы і ідыш. Мовы нашыя ўзаемаабагачаліся. Словы, як тыя птушкі, пераляталі з-пад адной страхі пад другую. Габрэі і беларусы не толькі навучыліся разумець адзін аднаго. Вопыт зносінаў прывёў да ўтварэння новага слоўнікавага запасу, зваротаў і выразаў, прыказак і прымавак, якія адлюстроўвалі ўвесь спектр іх узаемаадносін. Нормы і фанетыка беларускай мовы былі выкарыстаны Лэйзерам Бэн-Егудой з м. Лужкі і Мендэле Мойхер-Сфорымам з м. Капыль для адраджэння іўрыту, каб надаць яго кніжнаму варыянту размоўную версію і ўдыхнуць у яго новае жыццё[172].

Мястэчкі спрычыніліся і да працэсу моўных ўзаемаўплываў паміж беларусамі і татарамі. Сваю родную мову татары страцілі яшчэ ў XVI–XVII стст. У мемуарах генерала С. Тучкова наконт мінскіх татар пачатку XIX ст. адзначалася, што "рэдкія паміж імі ведаюць па-татарску"[173]. Адну з прычын гэтага Я. Карскі тлумачыў так: "Пасяліўшыся ў Літоўскай дзяржаве, татары хутка абеларусіліся; часткова гэта залежала ад таго, што яны бралі шлюб з беларускамі, бо сваіх жанчын з імі часта не было"[174]. На беларускай і польскай мовах арабскім пісьмом была створана багатая літаратура беларуска-літоўскіх татар. Згодна з высновай даследчыка Кітабаў В. Несцяровіча, беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, адлюстравалі беларускую лексіку, фразеалогію, сінтаксічныя асаблівасці мовы. У іх больш поўна, чым у кірылічных рукапісах, праявіліся фанетычныя асаблівасці беларускай мовы. Безупынныя зносіны татар з беларусамі паўплывалі на беларускую мову. Я. Карскі налічыў у беларускай мове каля 2 тыс. слоў цюркскага паходжання[175].

Можна меркаваць, што сумеснае пражыванне прадстаўнікоў розных этнасаў на адной сацыякультурнай і эканамічнай прасторы паўплывала на фарміраванне іх нацыянальнага характару. У габрэяў беларусы вучыліся выжыванню ў самых неспрыяльных жыццёвых

[171] Ідыш-беларускі слоўнік / сабраў і пераклаў на бел. мову А. Астравух. Мінск, 2008. С. 913.

[172] Смиловицкий, Л. Евреи в Турове... С. 68–71.

[173] Цыт. па: Думін, С.У. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць / С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. Мінск, 1993. С. 119.

[174] Цыт. па: Канапацкі, І.Б. Гісторыя і культура беларускіх татар / І.Б. Канапацкі, А.І. Смолік, Мінск, 2000. С. 98.

[175] Думін, С.У., Канапацкі, І.Б. Беларускія татары... С. 174.

і гістарычных умовах. А беларусы перадавалі тутэйшым габрэям частку сваёй славутай талерантнасці. Тут дарэчы прывесці сведчанне вядомага беларускага этнографа і гісторыка А. Кіркора, які пра беларуска-літоўскіх габрэяў адзначыў наступнае: "Мы знаем многих евреев в разных местах бывшей Польши и обижать их не намерены… но евреи в Литве лучше, теплее, благороднее других. Отношения их к местному населению ближе, искреннее, нежели в других странах"[176]. Падобнае канстатуецца ў апісанні літвакоў Саламона Бенэта: "...они общительны, гостеприимны и вежливы, особенно в сношениях с лицами других исповеданий"[177].

Карціна ўзаемаадносін паміж рознымі этнаканфесійнымі групамі насельніцтва ў мястэчках будзе няпоўнай і аднабаковай, калі не адзначыць і наяўнасці пэўных забабонаў і стэрэатыпаў, адчужанасці, падазронасці і нават варожасці. Гэта ілюструюць наступныя звесткі з мемуараў і дакументальных матэрыялаў.

У. Гаркаві, які ў сваіх успамінах апісвае Навагрудак сярэдзіны XIX ст., адзначаў: "Когда мне было 11 лет, во мне проявилось уже некоторое понимание и сознание окружающего мира. Жизнь представлялась мне строго разграниченною на две части: мир еврейский и мир христианский. Жизнь еврейская была ограждена от внешнего мира и, благодаря гетто, даже физически. Конечно, в жизни бывали соприкосновения между христианами и евреями, но они были чисто деловые и, конечно, по возможности чисто внешние. Христианский мир представлялся чуждым, враждебным, не столько по правовым стеснениям, оттуда истекавшим, сколько опасным для духовного мира…"[178].

Сацыякультурны ізаляцыянізм, адасобленасць этнічных груп зафіксаваны ўназіраннях польскага пісьменніка К. Шаняўскага, вядомага сваёй цікавасцю да габрэйскай культуры (ён стаў перакладчыкам класіка габрэйскай літаратуры Мендэле-Мойхер Сфорыма). Ён пісаў: "Живя на одной земле, мы должны были бы знать друг друга лучше, но так ли это? Наше общество знает еврейских арендаторов, торговцев, ремесленников, ростовщиков, но оно не знает

[176] Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении / под ред. П. Семенова. Т. 3: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизвед. изд. 1882 г. Минск, 1994. С. 17, 18.

[177] Беннет, С. К истории западно-русских евреев / С. Беннет // Еврейская библиотека. СПб., 1873. Т. 4. С. 9.

[178] Гаркави, В. Отрывки воспоминаний: Детство / В. Гаркави // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 5. СПб., 1913. С. 273–274.

еврея. Оно не знает, каков он дома, в школе, среди своих братьев в синагоге. Еврей и христианин встречаются на ярмарке, в лавке – и всегда по случаю совместного дела. Дело заканчивается и еврей опять исчезает в своем доме, отделенном от христианского общества Великой китайской стеной”[179].

Існаванне забабонаў у адносінах паміж хрысціянамі і іудзеямі ў мястэчках ілюструе следства па факту “найденных человеческих черепов и костей в доме жителей местечка Скидель Черни Берковой и Фейги Хаимовой”, якое праводзілася ў 1828 г. Габрэйскія жанчыны знайшлі на грэблі пасля паводкі чалавечыя косці невядомага тапельца і вырашылі выкарыстаць іх для лячэння маленькай дачкі Чэрні ад ліхаманкі. Гэта ўбачыла мяшчанка Анастасія Станкевіч і паведаміла царкоўным братчыкам. Апошнія разам са святаром прыйшлі ў дом Чэрні і зрабілі тамператрус. Справай заняўся Гродзенскі гарадскі суд. Былі апытаныя дастатковая колькасць хрысціян і габрэяў і “ничего худого за оговоренными еврейками не открыто”. Суд прыгаварыў іх да цялеснага пакарання 10 ударамі розгамі “за употребление человеческих костей к предпринятому ими непозволительному врачеванию сопряженному с суеверием”[180]. Але ў больш цяжкі час падобны выпадак мог хутка абрасці самымі неймавернымі дэталямі і спрычыніцца да больш сур’ёзнага канфлікту. Гэта характэрная для традыцыйнага грамадства з’ява, калі вобраз *чужога* ці *свайго-іншага* ў пэўных абставінах лёгка паддаецца містыфікацыі[181].

У архіўных фондах захаваліся звесткі пра распаўсюджанне ў пачатку 1860-х гг. у мястэчках “мяжы аселасці” чуткаў пра намеры хрысціянскага насельніцтва фізічна расправіцца з габрэямі. У нашым распараджэнні ёсць падобныя матэрыялы, якія датычаць мястэчак Віленскай (Глыбокае), Ковенскай (Дусяты, Ракішкі), Гродзенскай (Саколка) губерняў. Ва ўспамінах Э. Коціка, прысвечаных м. Камянец, таксама ёсць падобныя звесткі: “Откуда-то пошёл слух: после Нового года, появившись в Каменце, поляки перебьют всех евреев, как во времена Хмельницкого. Все очень перепугались”[182]. Крыніцы гэтых

---

[179] Цыт. па: Мочалова, В.В. Евреи в Польше: история в зеркале литературы / В.В. Мочалова // Славяне и их соседи. Вып. 5. М., 1994. С. 160.

[180] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 3. Адз. зах. 352. Арк. 14–32.

[181] Токць, С. Беларуская вёска ў эпоху зменаў: другая палова XIX – першая траціна XX ст. / С. Токць. Менск, 2007. С. 113.

[182] Котик, Е. Мои воспоминания / пер. М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm – Дата доступу: 05.05.2009.

чутак насілі, як правіла, побытавы характар. Так, у Саколцы "слухи о намерении жителей католического вероисповедания перерезать евреев" з'явіліся пасля таго, як "фельдшер мещанин Панцевич, покупая в лавке у еврейки Лейки Мерниковской сигары за недостачею у него нескольких грошей отозвался: отдай и за эту цену, ибо возьмут у тебя и без всякой платы"; "служащий в штате канцелярии Сокольского окружного управления дворянин Яцковский, находясь в харчевне еврейки Герли Лейбковой, требовал пива, и когда еврейка по случаю праздника отозвалась, что дать пива не может, то Яцковский сказал: придет такое время, что мы сами возьмем"; "в корчме мещанин Кухаревич, бывши совершенно пьяным, болтал нелепость, что в еврейский судный день чёрт передавит всех евреев"[183].

Такім чынам, прыходзіцца канстатаваць наяўнасць у мястэчках Беларусі праяў варожасці негабрэяў да габрэяў, характар якіх, як правіла, вызначаўся бытавым антысемітызмам. У сваіх крайніх формах ён выявіўся ў 1880-я гг. у пагромах (м. Зэльва Гродзенскай губерні, м. Воранава Віленскай губерні)[184]. Аднак, нягледзячы на наяўнасць такіх фактаў, мястэчкі Беларусі пазбеглі маштабнай хвалі габрэйскіх пагромаў, якая пракацілася па Украіне ў пачатку 1880-х гг.

Як вядома, шматлікія мястэчкі Беларусі былі прыватнаўласніцкімі. Як жа складваліся адносіны паміж габрэямі і ўладальнікамі мястэчак? Пазіцыя абшарнікаў у пытанні "супрацоўніцтва" з габрэямі не была адназначнай. Аднак большасць абшарнікаў ахвотна карысталіся пасрэдніцкімі паслугамі габрэяў, былі зацікаўлены ў пражыванні габрэяў у сваіх маёнтках. Захавалася шмат сведчанняў з XIX ст. аб шырокім выкарыстанні абшарнікамі пасрэдніцкіх паслуг габрэяў. Так, С. Лашкарев адзначаў: "...большая часть помещиков не только сделать что-нибудь, но, кажется, и подумать не может без еврея. Еврей у помещика в доме и в делах равный с ним, если не больший его хозяин. Помещик никогда почти дела не решит без своего евреяповеренного; напротив, поверенный-еврей всегда покончит с вами без своего доверителя"[185].

Неадназначнасць адносін местачковых габрэяў з уладальнікамі мястэчак ілюструюць наступныя прыклады. Уладальнік м. Чарнаўчыцы Брэсцкага ўезда князь Радзівіл не толькі быў добразычлівы да габрэяў, але "однажды захотел стать евреем: вы-

[183] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 22. Адз. зах. 1234. Арк. 17–18.

[184] Darius Staliunas, Anti-Jewish Disturbances in the North-Western Provinces in the Early 1880s // East European Jewish Affairs. Vol. 34. No. 2, Winter 2004.

[185] С.Л... Акцизный откуп и евреи-посредники в Минской губернии // Труды Имп. Вольного экономического общества. 1860, ноябрь. С. 279–289.

строил молитвенный дом, на шабаш к нему стали съезжаться из Бреста ученые евреи, с которыми князь, одетый в еврейскую одежду с крестом св. Гиберта молился, качаясь и издавая свойственные евреям звуки"[186]. Сустракаюцца і факты канфліктных адносін паміж габрэямі і памешчыкамі, якім належалі мястэчкі. Напрыклад, у 1810 г. граф Л. Салагуб выдаў распараджэнне аб высяленні з Горак усіх габрэяў, пра што падрабязней будзе сказана ў наступным падраздзеле.

Складаныя ўзаемадачыненні былі паміж габрэямі Шклова і ўладальнікам мястэчка С. Зорычам, які паставіў мэтай змяніць яго жыццё, наблізіць да ўзроўню сталічнага. У часы яго 20-гадовага валодання Шкловам эканоміка і культура мястэчка дасягнулі значных поспехаў. У гэты эксперымент аказалася ўцягнутым і габрэйскае насельніцтва. Шклоўскія габрэі значна ўзбагаціліся (сталі крэдыторамі імператарскага двара). Элітарная культурная прастора не магла не паўплываць на габрэяў. Яны былі не толькі назіральнікамі: напрыклад, у Шклоўскім балеце танцавала адна габрэйка. Менавіта тут, у Шклове, у апошняй чвэрці XVIII ст. узнік адзін з буйнейшых цэнтраў расійскай Гаскалы[187]. У той жа час Зорыч, які быў эгаістычным і грубым, прыносіў шэраг непрыемнасцей і бед сваім падначаленым і жыхарам мястэчка, як габрэям, так і негабрэям. Габрэі накіроўвалі тры прашэнні на імя беларускага генерал-губернатара і два – на імя імператара. Калі Зорыч даведаўся пра гэта, то сіламі сваіх сялян арганізаваў 27 мая 1798 г. сапраўдны габрэйскі пагром. Праводзілася следства па гэтай справе, адлюстраванае ў матэрыялах РДАСА ("Дело шкловских евреев по претензиям на генерал-лейтенанта С.Г. Зорича. 1798–1799 г.")[188].

Узаемаадносіны габрэяў і негабрэяў дапамагаюць паўней прадставіць фальклорныя матэрыялы, аналіз якіх можа скласці асобную тэму даследавання. Прывядзём толькі некаторыя назіранні.

Уяўляе цікавасць фальклорнае стаўленне славян да сваіх этнічных суседзяў – габрэяў. У народнай свядомасці славян габрэі звязаны з нячыстай сілай (чорны колер валасоў, традыцыйны чорны колер адзежы як прыкметы "сваяцтва" з чортам). Менавіта дзякуючы гэ-

[186] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики Российской империи. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч.2. СПб., 1863. С. 1051.

[187] Fishman, D. Russia's first Modern Jews: The Jews of Shklov. N.Y., 1995.

[188] Фельдман, Д. Из истории Шкловских евреев (по материалам Российского государственного архива древних актов) / Д. Фельдман // Вестник Еврейского университета в Москве. 1994. № 3 (7). С. 28–38.

таму "сваяцтву" габрэі здольныя наводзіць псуту і выклікаць непагадзь[189].

У вачах славян габрэі выступалі і ў ролі выратавальнікаў ад бедстваў (напрыклад, габрэй мог спыніць пажар). У абрадавай практыцы ўсходніх славян габрэй сустракаецца ў адмыслова значных сітуацыях. Калі сваты дамаўляліся аб вяселлі, добра было пазычыць які-небудзь прадмет у габрэяў і ўзяць яго з сабой на змову – гэта забяспечвала поспех прадпрыемства. Падчас вясельнага абраду нявесце добра было мець пры сабе (схаваць на целе) якую-небудзь рэч, пазычаную ў габрэйкі, – гэта забяспечвала шчаслівы і "ўрадлівы" шлюб. Калі першым госцем, прыйшоўшым наведаць дзіця, апынуўся габрэй, гэта абяцала шчаслівы лёс нованароджанаму. У крызісныя сітуацыі (засуха, эпідэмія) практыкаваліся магічныя рытуалы з удзелам "чужых". Падчас засухі жыхары Палесся кідалі ў студні чыгуны, выкрадзеныя ў суседзяў-габрэяў, або аблівалі габрэя вадой. Па паведамленнях з Магілёўскай губерні, у 1889 г. падчас эпідэміі воспы габрэйскія жанчыны ўдзельнічалі ў абрадзе ўзворвання зямлі вакол вёскі разам з беларускімі сялянкамі. У выпадку цяжкай хваробы, п'янства, жаночага бясплоддзя хрысціяне звярталіся да рабіна з просьбай "вымаліць" папраўку[190]. Такім чынам, штодзённасць утрымлівала комплекс уяўленняў аб "сваіх чужых", якія здольныя аказаць садзейнічанне і ў побыце, і ў магіі.

Цікава адзначыць, што ва ўяўленнях негабрэйскай часткі насельніцтва мястэчак габрэі былі багатымі. Да нашых дзён захаваліся шматлікія местачковыя аповеды аб таемных багаццях габрэяў, схаваных у бяздонных скляпах габрэйскіх хат, у патаемных пакоях – "сакрэтах", у замураваных сцянных нішах[191]. А вось сведчанне прадстаўніка габрэйскага насельніцтва мястэчак Э. Коціка, з якога бачна, што ў вачах габрэяў усе хрысціяне ў мястэчку былі багатымі: "Неевреи, жившие в городе вместе с евреями, не были крепостными. Численно они составляли примерно четверть от еврейского населения. Жили они в двух разных частях города в домах с крытыми соломой крышами. Большинство их были католики, православных было, может, несколько десятков. Каждый имел свою

[189] Белова, О. "Другие" и "чужие": представления об этнических соседях в славянской народной культуре / О. Белова // Признаковое пространство культуры. М., 2003. С. 72.

[190] Там жа. С. 80–83.

[191] Белова, О. Опыт комплексного исследования в регионе этнокультурных контактов / О. Белова //Актуальные проблемы полевой фольклористики. Вып. 2. М., 2003. С. 61.

землю и дом с гумнами и конюшнями, быками, коровами и птицами – и все были богатыми. Недостатка у них не было ни в чём. Бывали среди них даже отдельные богачи с состоянием до нескольких сотен рублей, посылавшие детей учиться в Бриск (Брэст. – *Аўт.*). И был некий Ермолович, состояния которого никто не знал. Говорили, что он торгует с чертями и они, черти, приносят ему много денег. Ермоловича все боялись и каждый выражал ему своё почтение из-за его чертей; в Каменце всем, от мала до велика, было известно, что Ермолович торгует с чертями. Люди боялись ходить мимо его дома, как боятся заходить в лес, полный злых зверей”[192].

Стома-Сініца ва ўспамінах пра м. Лужкі ўзгадвае пра свой дзіцячы страх перад габрэйскімі могілкамі і піша, што гэта пачуццё было характэрнае для многіх беларусаў як з мястэчка, так і з наваколля, што можна патлумачыць толькі тым, што ў іх разуменні “там былі пахаваныя людзі адметнага ад іх гатунку – нехрысці, і і дзеля таго яны маглі нават страшыць іншых ад сябе людзей”[193]. Аўтар таксама ўспамінаў, што ў дзяцінстве ён адважваўся выходзіць да рыначнай плошчы, нягледзячы на ўстрашэнні бабулі, што там яго габрэі схопяць “на мацу”[194].

Аб тым, што ў Беларусі ў XIX – пачатку XX ст. была распаўсюджаная вера ў рытуальныя забойствы хрысціян іудзеямі, сведчыць беларуская дзіцячая гульня “У жыда”, апісанне якой прыводзіцца ў “Могилёвской старине”: “На каго скажуць “выйдзі вон”, тэй і стане за жыда. Усі бягуць ат яго, а ён ганяіцца і ловя, і каго паймая, дык таму рэжыць *рукою па горлу* і яму трэба станавіцца жыдам”[195].

Не менш красамоўна аб укаранёнасці гэтага стэрэатыпу сведчаць і некаторыя публікацыі “Нашай Нівы”. Так, у 1908 г. у м. Буйвідзы Віленскага ўезда знайшлі зарэзанага хрысціянскага хлопчыка двух гадоў. Пакуль ішло следства, некаторыя людзі пачалі абвінавачваць габрэяў. Два мужыкі захацелі “ў мутнай вадзе рыбу лавіць…” Узялі ў габрэйскай краме штаны і шапку. Габрэйка ад страху перад пагромам маўчала. Усё гэта бачылі хлопцы-каталікі – яны і сказалі мужыкам вярнуць габрэйцы ўсё, што ўзялі. “Добра, што ёсць у нас у Беларусі

---

192 Котик, Е. Мои воспоминания… / Пер. М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm – Дата доступу: 05.05.2009.

193 Там жа. № 12. С. 202.

194 Стома-Сініца, В. Маё мястэчка / В. Стома-Сініца // Полымя. 1998. № 9. С. 182.

195 Марзалюк, І. Хрысціяне і габрэі Вялікага Княства Літоўскага / І. Марзалюк // ARCHE. 2000. № 3 (8). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/3-2000/marz300.html – Дата доступу: 10.06.2009.

справядлівыя людзі, якія не даюць волі ўсялякім "злыдням". Можа таму і пагромаў у нашым краі не бывае"[196]. Другі выпадак, у якім праглядаецца водгалас так званага "крывавага нагавору", меў месца ў м. Рэмігола Ковенскай губерні: згубіўся ў мястэчку сямігадовы хлопчык з суседняй вёскі. "Знайшліся цёмныя людзі, якія ўпэўнівалі маці, што яе сына зарэзалі жыды. Да пагрому справа не дайшла, таму што хлопчыка адшукалі. Пачалося следства аб 4-х мужыках, якія найбольш актыўна заклікалі да пагрому"[197].

Стэрэатыпізацыю вобраза габрэя адлюстроўваюць такія фальклорныя матэрыялы, як прымаўкі, анекдоты, песні і інш. Прыклады местачковага фальклору – анекдоты, запісаныя ў м. Хомск Кобрынскага ўезда ў 1910 г.[198], гумарэска, якую расказала В. Стоме-Сініцы яго бабуля ў Лужках[199], і інш. – ілюструюць такія традыцыйна замацаваныя за вобразам габрэя якасці, як слабасць, баязлівасць, скупасць і хітрасць. З другога боку, пэўны стэрэатып вобраза славяніна праглядаецца ў наступным эпізодзе, апісаным А. Папернам: "... в лексиконе р. Лейзерке (меламед у Капылі. – *Аўт.*) было только одно ругательство: "И-ва-ан!" что означало: "тупица"; хуже было – "И-ва-ан И-ва-нович!" ("тупица в квадрате"), но обиднее всего был окрик: "Иван Иванович И-ва-нов-ский!!!" ("тупица в превосходной степени, в кубе")"[200].

Прыходзіцца канстатаваць, як бачым, наяўнасць шматлікіх забабонаў і стэрэатыпаў у адносінах паміж габрэямі і негабрэямі ў мястэчках Беларусі ў XIX ст., характэрных для кожнага традыцыйнага аграрнага грамадства. На жаль, многае захавалася і да цяперашняга часу. Ні адзін чалавек сёння не ў стане самастойна, крытычна і творча рэагаваць на ўсе жыццёвыя сітуацыі. Не ў праве патрабаваць гэтага мы і ад насельніцтва мястэчак той гістарычнай эпохі.

Што падзяляла і што аб'ядноўвала габрэяў і негабрэяў у мястэчках? Падзяляла, перш за ўсё, рэлігія – істотная акалічнасць для чалавека традыцыйнай культуры. Антысеміцкія стэрэатыпы хрысціян былі вынікам царкоўнай антысеміцкай дактрыны. У пэўнай ступені мела месца эканамічная канкурэнцыя. Аб'ядноўвала, галоўным чынам, суседства, следствам якога з'яўляліся сталыя і шматлікія кантакты ў эканамічнай дзейнасці, а таксама ў адміністрацыйна-

[196] Наша Ніва. 1908. № 8.

[197] Наша Ніва. 1908. № 14.

[198] Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вып. 2 / под ред. Е.Р. Романова. Вильна, 1912. С. 380, 382.

[199] Стома-Сініца, В. Маё мястэчка / В. Стома-Сініца // Полымя. 1998. № 10. С. 260–262.

[200] Паперна, А. Из Николаевской эпохи. Воспоминания... С. 104–105.

фіскальнай і культурнай. Нельга не пагадзіцца з Дж. Кліерам, які вызначае "штэтл" як унікальную кантактную эканоміка-культурную зону, якая аб'ядноўвала не толькі габрэяў паміж сабой, але таксама габрэяў і хрысціян[201].

Цяжка пагадзіцца з тым, што ў Беларусі гістарычна ніколі не было антысемітызму, як сцвярджае Рыгор Барадулін у прадмове да "габрэйскага" нумару часопіса "ARCHE"[202]. Больш слушнай падаецца меркаванне Ігара Марзалюка аб тым, што для нашых зямель быў характэрны мяккі варыянт антысемітызму, які ўмоўна можна назваць "абарончым". З аднаго боку, для антысеміцкіх уяўленняў насельніцтва Беларусі характэрны практычна той жа самы набор негатыўных стэрэатыпных вобразаў габрэя, што бытаваў і ва ўсім хрысціянскім свеце. З другога боку, нейкія "прэвентыўныя" масавыя акцыі, самасуд супраць габрэяў без доказу іх віны не толькі амаль не праводзіліся, але і асуджаліся людзьмі, якія ў той самы час былі носьбітамі антысеміцкіх стэрэатыпаў. Такое стаўленне да сваіх суграмадзян іншай крыві і веры трывала як ў XVI–XVIII стст., так і ў пазнейшы час. Адмаўляючы гэта, мы ніколі не зразумеем матывацый учынкаў тых беларусаў, якія бралі ўдзел у габрэйскіх пагромах падчас першай і трэцяй расійскіх рэвалюцый, грамадзянскай і Другой сусветнай войнаў. А не ўлічваючы спецыфікі беларускага антысемітызму, мы не здолеем рацыянальна растлумачыць, чаму на беларускай зямлі падобныя ганебныя ўчынкі ніколі не дасягалі такіх маштабаў, як у нашых найбліжэйшых суседзяў[203].

***

Падвядзём вынікі разгляду этнаканфесійнай сітуацыі ў мястэчках Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Прыведзеныя матэрыялы паказваюць стракатасць этнаканфесійнай структуры насельніцтва мястэчак. Местачкоўцы складаліся пераважна з беларусаў і габрэяў. Удзельная вага апошніх значна ўзрасла ў выніку палітыкі ўлад, накіраванай на канцэнтрацыю габрэйскага насельніцтва ў гарадах і мястэчках. У многіх мястэчках пражывалі

201 Klier, John D.What exactly was a Shtetl? / John D. Klier // The Shtetl: Image and Reality Papers of the Second Mendel Friedman International Conference on Yiddish. University of Oxford, 2000. P.26.

202 Барадулін, Р. Толькі б яўрэі былі! / Р. Барадулін // ARCHE. 2000. № 3 (8). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/3-2000/barad300.html – Дата доступу: 10.06.2009.

203 Марзалюк, І. Хрысціяне і габрэі Вялікага Княства Літоўскага / І. Марзалюк // ARCHE. 2000. № 3 (8). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/3-2000/marz300.html – Дата доступу: 10.06.2009.

таксама палякі, рускія, украінцы, татары, літоўцы, немцы, цыганы і інш. У асобных мястэчках часова жылі, выконваючы свае прафесійныя абавязкі, запрошаныя ўладальнікамі іншаземцы: англічане, французы, італьянцы, шведы і інш. Істотным фактарам жыцця традыцыйнага грамадства была рэлігія. Па веравызнанні жыхары мястэчак былі пераважна хрысціянамі і іудзеямі. У мястэчках былі прадстаўлены ўсе хрысціянскія канфесіі Беларусі той эпохі: тут жылі уніяты (да 1839 г.), праваслаўныя, каталікі, пратэстанты. Іудзеі падзяляліся на дзве групы: хасіды і міснагдым. Іслам (мусульманства) вызнавалі татары.

Міжэтнічныя ўзаемаадносіны ў мястэчках Беларусі ў разглядаемы перыяд не былі адназначнымі. Мелі месца праявы ўсіх тыпаў гэтых адносін: дружалюбных, нейтральных, няроўных, непрыязных. Амплітуда іх вагалася паміж палюсамі зычлівасці, талерантнасці, супрацоўніцтва, міжкультурнага дыялогу – і ізаляцыянізму, нецярпімасці, падазронасці, адчужэння і нават варожасці. Але ўсё ж да гэтага негатыўнага полюса міжэтнічныя адносіны ў беларускіх мястэчках набліжаліся вельмі рэдка. Дзяржаўны антысемітызм часоў Расійскай імперыі меў мінімальны ўплыў на беларусаў. У мястэчках гэты ўплыў у параўнанні з гарадамі, дзе жыццё было значна больш дынамічным, адчуваўся слаба.

Істотным фактарам штодзённых міжэтнічных адносін у мястэчках было тое, што з-за невялікіх памераў усе местачковыя жыхары ведалі адзін аднаго, што было немагчымым у горадзе. Адсутнасць ананімнасці вялікага горада садзейнічала таму, што прыватнае жыццё ў мястэчку было на вачах ва ўсіх. Узаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп насельніцтва ў мястэчках характарызаваліся досыць высокай ступенню талерантнасці. Іх можна выразіць формулай “іншы свой”. Менавіта пачуццё “тутэйшай свойскасці”, “тутэйшасці” засцерагала ад канфліктаў. Ва ўмовах такой неталерантнай дзяржавы, якой была Расійская імперыя, мястэчкі дэманстравалі захаванне мясцовых традыцый самакіравання па прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэтнічнасці.

## 4.3. Сацыяльная дыферэнцыяцыя, падаткі і павіннасці местачкоўцаў

У канцы XVIII – першай палове XIX ст. доля непадатных саслоўяў сярод насельніцтва мястэчак была зусім нязначнай. Астатнія жыхары мястэчак выконвалі шэраг разнастайных павіннасцей на карысць дзяржавы, уладальніка, царквы, на грамадскія патрэбы.

Урад імператрыцы Кацярыны II параўнальна мала вагі ўдзяліў прававому і эканамічнаму становішчу беларускіх мястэчак і іх насельніцтва. Сяляне і мяшчане, з якіх складалася асноўнае насельніцтва мястэчак, цікавілі ўлады Расійскай імперыі перш за ўсё з пункту гледжання папаўнення даходаў казны. У Беларусі замест ранней існаваўшага падымнага падатку (з кожнага двара) быў уведзены *падушны падатак* (з кожнай мужчынскай душы).

13 верасня 1772 г. Кацярына II зацвердзіла "дакладныя пункты" Чарнышова, па якіх падушны падатак для жыхароў мястэчак хрысціянскага веравызнання ўстанаўліваўся ў памеры 70 кап., для габрэяў – 1 руб., для купцоў – 1 руб. 20 кап. Першапачатковы памер падушнага падатку з местачкоўцаў доўга не ўтрымаўся. З 1773 па 1779 г. ён паменшыўся: хрысціяне ўносілі па 25 кап., габрэі – 50 кап.[204]

Важнай храналагічнай мяжой у гісторыі падаткаабкладання насельніцтва ўсходнебеларускіх зямель стаў 1783 г. Указам ад 3 мая 1783 г. купцы Магілёўскай і Полацкай губерняў вызваляліся ад падушнага падатку. Замест яго яны павінны былі ўносіць у казну 1% з капіталаў, якія ім належалі. Падушны падатак з мяшчан павялічваўся да 1 руб. 20 кап. Жыхары памешчыцкіх мястэчак абкладзены былі сямігрывенным (70 кап.) падаткам (гэта значыць прыроўненыя ў падушным падаткаабкладанні з сялянамі). Габрэі вызваляліся ад асобай для іх установленай подаці і абкладаліся ў залежнасці ад таго, у якое саслоўе яны запішуцца: купецкае ці мяшчанскае[205].

Указам сената ад 23 чэрвеня 1794 г. падушны падатак з мяшчан павялічыўся да 2 руб. Мяшчане-габрэі абкладаліся подацямі ў двайным памеры ў параўнанні з хрысціянамі[206]. З 1798 г. падушны падатак з мяшчан-хрысціян збіраўся ў памеры 2,5 руб. з душы, з мяшчан-габрэяў – 4,5 руб., купцы-хрысціяне плацілі ў казну 1% з належачых ім капіталаў, купцы-габрэі – 2%[207].

Дзяржаўныя падаткі збіраліся ў Беларусі да 1811 г. не асігнацыямі, як гэта было ў рускіх губернях, а серабром. Па указе ад 26 студзеня 1811 г. усе подаці сталі збірацца асігнацыямі (2 руб. асігнацыямі = 1 руб. серабром). У 1811 г. падушная подаць з мяшчан складала 5 руб. асігнацыямі, у 1812 г. – 8 руб. У канцы 30-х гг. XIX ст. урад пайшоў на

---

204 Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II… С. 296–298; РДАСА. Ф. 16 Воп. 1. Адз. зах. 759. Арк. 6, 8.

205 Полное собрание законов Российской империи. Собрание 1-е. Т. 21. СПб., 1830. № 15724. С. 907–911.

206 Городовое положение с принадлежащими к оному узаконениями с 1785 г. по апрель 1817 г. СПб., 1817. С. 69.

207 РДГА. Ф.1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 72.

частковае змяншэнне падушнага збору з мяшчан: у 1839 г. падаткі сталі зноў збірацца серабром, але ўжо па 2 руб. 38 кап. з душы[208].

У 1794 г. падушны збор з сялян збіраўся ў памеры 1 руб. серабром з рэвізскай душы. На рубяжы XVIII–XIX стст. сяляне плацілі па 1 руб. 26 кап. Указ сената ад 31 ліпеня 1811 г. прадугледжваў павелічэнне падатку з удзельных сялян на 1 руб. з кожнай рэвізскай душы[209]. У 1846–1847 гг. падушная подаць з сялян складала 1 руб. 80 кап. серабром[210].

Жыхары мястэчак выплачвалі *вінакурную подаць*. У "дакладных пунктах" Чарнышова, зацверджаных Кацярынай II 13 верасня 1772 г., піцейны падатак вызначаўся ў памеры 1 руб. 50 кап. з душы ў гарадах і 75 кап. у мястэчках. Аднак вінная подаць у такіх памерах з жыхароў гарадоў і мястэчак ніколі не збіралася. Яна складала 1 руб. у гарадах і 50 кап. у мястэчках[211]. Згодна з "Тапаграфічным апісаннем Мінскай губерні", складзеным у канцы XVIII ст., з мястэчак збіралася піцейных збораў пад назвай чапавога 648 руб. 44 кап. серабром[212]. Вінакурная подаць з жыхароў м. Масты ў 1846 г. складала 58 кап. серабром з душы[213].

Акрамя падушнай подаці з насельніцтва мястэчак спаганяўся *земскі збор*, які ішоў на ўтрыманне паштовых станцый і коней, на рамонт дарог, мастоў, на ўтрыманне чыноўнікаў і г.д. Так, мяшчане-хрысціяне м. Глуск у 1831 г. плацілі земскі збор у памеры $95^1/_2$ кап. з душы[214]. Сяляне м. Масты ў 1846–1847 гг. выплочвалі земскую павіннасць у памеры $4^2/_3$ кап. серабром з душы. У гэтым жа годзе з кожнага сялянскага цяглага двара м. Скідзель земская павіннасць разам з вінакурнай пошлінай складала $68^2/_3$ серабром[215].

Спагнанне збораў з габрэяў было ўскладзена на *кагал*, існаванне якога было ўзаконена сенацкім указам 1776 г. У адпаведнасці з роляй, якую кагалы адыгрывалі ў габрэйскім грамадстве, іх можна назваць "талмудычна-муніцыпальнымі рэспублікамі"[216]. Адна з галоўных функцый кагалу – кіраванне габрэйскай супольнасцю. З гэ-

208 Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии… С. 75.

209 РДГА. Ф.1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 36; Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии…. С. 79.

210 НГАБ у Гродне. Ф.96. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 44.

211 Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II… С. 307.

212 РДГА. Ф.1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 36–160.

213 НГАБ у Гродне. Ф.96. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 44 адв.

214 НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 872. Арк. 5 адв.

215 НГАБ у Гродне. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 44; Адз. зах. 1267. Арк. 42 адв.

216 Сабалеўская, В.А. Яўрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.... С. 66.

тай мэтай абшчына абірала некалькіх старэйшын (*рошым*) і ганаровых асоб (*товім*). Іх колькасць адпавядала памерам абшчыны. Судовыя справы паміж габрэямі разбіраліся ў абшчынных судах рабінамі і суддзямі (*даянамі*), якія ў сваіх рашэннях кіраваліся талмудычным правам. Праз спецыяльных хадатаяў (*штадланаў*) кагал ажыццяўляў кантакты са знешнім светам. У сферу іх дзеяння ўваходзіла абарона інтарэсаў габрэяў, прадухіленне і ліквідацыя канфліктаў.

Кагал з’яўляўся судовай, фіскальнай і адміністрацыйнай установай, зручнай для расійскіх улад. Працягваючы традыцыю, узнікшую ў часы Рэчы Паспалітай, расійскі ўрад усклаў на кагал выкананне фіскальных абавязкаў і звязанага з гэтым уліку насельніцтва. Кагал карыстаўся правам раскладкі дзяржаўных падацей, грашовых земскіх павіннасцей і збораў на розныя габрэйскія грамадскія патрэбы. Абшчына была звязана кругавой парукай, заможныя вымушаны былі ўносіць падаткі за немаёмасных, што штурхала абшчыну на шлях утойвання сапраўднай колькасці падаткаплацельшчыкаў.

Кагальнае кіраўніцтва знаходзілася ў цесным кантакце з рабінамі. Свецкая і духоўная ўлады ўзаемна патрабавалі падтрымкі адна адной: першая ў пацвярджэнні легітымнасці і адпаведнасці сваіх рашэнняў нормам рэлігійнага закону, другая – у фінансаванні. Асэнсаваўшы адзінства сваіх мэт, галоўнай з якіх было непадзельнае панаванне над габрэйскімі масамі, яны сталі дзейнічаць супольна. Уплыў кагальна-рабінскай меншасці ў абшчыне быў велізарным. Ён грунтаваўся на аўтарытэце рэлігіі, якая прасяквала ўсе бакі грамадскага і асабістага жыцця і падтрымлівалася традыцыямі кругавой парукі ў справе ўнясення падаткаў. Жабрацкі стан большасці габрэяў цалкам аддаваў іх ва ўладу кагальна-рабінскай алігархіі, якая займала ключавыя пасады ў абшчыне[217].

Колькасць кагалаў не адпавядала колькасці гарадоў і мястэчак, таму што габрэйскае насельніцтва некалькіх суседніх мястэчак магло складаць адносна раскладкі падацей і земскага збору адно грамадства. Напрыклад, у Гродзенскі кагал уваходзілі Азёрскі і Крынкаўскі прыкагалкі[218]. 19 снежня 1844 г. выйшаў указ аб падпарадкаванні габрэяў у гарадах і ўездах агульнаму кіраванню з ліквідацыяй кагалаў[219]. Аднак не была адменена кагальная кругавая парука габрэйскіх грамадстваў за паступленне падацей у

---

[217] Сабалеўская, В.А. Яўрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.... С. 68.

[218] Соболевская, О. Евреи Гродненщины: жизнь до Катастрофы / О. Соболевская, В. Гончаров. Донецк, 2005. С. 83.

[219] Полное собрание законов Российской империи. Собрание 2-е. Т.19. Отделение 1-ое. СПб., 1845. № 18546. С. 887–890.

казну і за здачу рэкрутаў. “Габрэйскае грамадства” як фінансава-адміністрацыйная адзінка працягвала існаваць, і тыя асобы, якім былі даручаны функцыі па зборы падацей – зборшчыкі і старасты, замянілі былых кагальных старшын. Не было падарванае і панаванне алігархіі, яна працягвала ўладарыць над габрэйскай супольнасцю, выкарыстоўваючы старыя рычагі: грошы і рэлігійны аўтарытэт.

Неад’емнай часткай жыцця габрэйскай абшчыны з’яўляўся *каробачны збор*, уведзены ў другой палове XVII ст., калі ў выніку войнаў габрэйскія абшчыны збяднелі і запазычылі скарбу значныя падатковыя сумы. Фарміраванне і зборы каробак ажыццяўляліся самім кагалам. Да 20-х гг. XIX ст. кагал сам распараджаўся каробачным зборам, які браўся ў асноўным з продажу *кашэрнага* мяса (прыдатнага да ўжывання габрэямі згодна з галахічнымі правіламі). Паводле новых патрабаванняў расійскіх улад, “каробка” павінна была ісці не толькі на кагальныя патрэбы, але і на гарадскія (добраўпарадкаванне горада, выплату жалавання чыноўнікам і інш.). Таму сам падатак быў павялічаны[220]. Непасільнае абцяжарванне насельніцтва рознымі падаткамі прымушала кагалы прыбягаць да павялічвання каробачнага збору як сродку ліквідацыі кагальных даўгоў. Каробачны збор меў тую перавагу, што ён выплачваўся невялікімі сумамі, з’яўляючыся ўскосным, а не прамым падаткам. Ён падзяляўся на агульны і асобны. Агульны збіраўся з забіваемай скаціны, птушкі, продажу мяса, асобны – з даходаў ад габрэйскіх дамоў, крам, свіранаў і прамысловых установаў. Гэта асноўныя, найбольш распаўсюджаныя прадметы абкладання. Аднак нярэдка зборы былі больш разнастайнымі: з продажу гарэлкі, солі, хлеба, крупы, мукі, рыбы, сала, смалы, дзёгцю, сена і г.д. Збор спаганяўся і з прыезджых гандляроў за пакупку ці продаж тавараў. У большасці грамадстваў каробачны збор аддаваўся на водкуп. Напрыклад, з 1 ліпеня 1830 г. па 1 студзеня 1834 г. каробачны збор быў аддадзены на водкуп у 97 мястэчках Мінскай губерні[221]. У асобных абшчынах, дзе сума збору была нязначнай і не было жадаючых узяць яго на водкуп, зборы спаганяліся непасрэдна кагалам ці старшынамі, спецыяльна для гэтай мэты абранымі.

Падатковы цяжар, які падаў праз каробачныя зборы і на бяднейшыя колы насельніцтва, узмацняўся злоўжываннямі кагалаў. Значная частка збору заставалася ў руках старшын. Верагодна, у сувязі з кагальнымі крадзяжамі шклоўскія габрэі, наперакор жаданню ка-

---

[220] Каганович, А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии / А. Каганович. Иерусалим, 2007. С. 195–196.

[221] НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 879. Арк. 11–18.

галу, звярнуліся ў 1786 г. да ўладальніка мястэчка з просьбай узяць у сваё распараджэнне каробачныя зборы, вызваліўшы насельніцтва ўзамен таго ад падатку з дамоў[222]. А ў 1846 г. габрэі Шклова ў прашэнні, накіраваным у Пецярбург, сярод іншага прасілі "при учреждении новых коробочных сборов соразмерить таковые с силами тех, на коих оные возложутся"[223].

Каробачны збор ішоў на грамадскія патрэбы кагалу, галоўным чынам на пагашэнне нядоімак, утрыманне малітоўных дамоў, вучылішч, дабрачынныя справы. Часта каробачныя зборы не пакрывалі расходаў. Так, фінансавая рэвізія кагалаў Гродзенскай губерні ў пачатку XIX ст. паказала, што ўсе кагалы мелі бюджэтны дэфіцыт, які яны імкнуліся папоўніць дадатковымі паборамі за кошт ускоснага абкладання разнастайных і не ўлічваемых крыніц[224]. Менавіта пры недахопе каробак кагалы рабілі новыя складкі і за кошт вясковых аднаверцаў, і за кошт ускосных падаткаў на агульнаспажывецкія тавары. Шляхам ускоснага абкладання спажывецкіх прадуктаў і падаходных падаткаў з прафесій так або інакш кагальныя даўгі сплачвалі і хрысціяне. Гэта правакавала рэлігійна-этнічныя супярэчнасці паміж рознаверцамі.

Неабходна адзначыць, што царскі ўрад, зацікаўлены ў безнядоімкавым паступленні дзяржаўных падаткаў з габрэйскай грамады, дапамагаў ваеннымі сродкамі рабінату абіраць простых габрэяў і ўтрымліваць яго ўладу. Супольнічалі бакі і пры падтрымцы водкупнай сістэмы каробачных збораў.

Каробачны збор непазбежна нараджаў карупцыю і свавольства водкупшчыкаў. Гэта выклікала з'яўленне скаргаў. Так, у беларускіх уездах Віленскай губерні ў 1850 г. незаконныя гандлёвыя зборы былі выяўлены ў Жалудку (50 руб. серабром у год), Васілішках (480 руб. серабром), Куржанцы (500 руб. серабром), Даўгінаве, Паставах. Напрыклад, габрэі м. Васілішкі скардзіліся ў 1850 г., што па свавольстве грамадскіх дэпутатаў і зборшчыкаў быў уведзены збор з продажу розных прадуктаў. Было высветлена, што сапраўды існуюць у мястэчку, акрамя акладных, яшчэ і асобныя зборы на грамадскія патрэбы: на рамонт дахаў дзвюх сінагог – 140 руб., на грамадскія кнігі і друкаваныя бланкі з рэдакцыі губернскага праўлення – 5 руб. Гу-

[222] Гессен, Ю. История еврейского народа в России. М.; Иерусалим, 1993. С. 123.
[223] Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме. HM 2/9316.36. Арк. 14 адв.
[224] Анішчанка, Я.К. Фінансавая рэвізія кагалаў Гродзенскай губерні ў пачатку XIX ст. і яе вынікі / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гум. навук. 1995. № 1. С. 45–53.

бернскае начальства забараніла рабіць раскладкі на грамадскія патрэбы[225].

На ўтрыманне казённых габрэйскіх школ ішоў так званы *свечны збор*, які ўваходзіў у склад каробачных збораў. Падатак на свечы, якія запальваліся па пятніцах, быў некалі ўведзены самімі габрэйскімі грамадамі, але паступова ён амаль паўсюдна быў адменены. У 1839 г. царскі ўрад не толькі забараніў свечны збор, але і патрабаваў, каб і на будучае габрэі не ўводзілі падатку з прадметаў культу. Аднак у 1844 г., калі ўраду спатрэбіліся сродкі на казённыя габрэйскія навучальныя ўстановы, свечны збор зноў быў уведзены і паступаў у распараджэнне Міністэрства народнай асветы[226]. Свечны падатак быў вельмі непапулярны з-за непрыязнага стаўлення да казённых вучылішчаў, таму браць яго на водкуп было не выгадна. Аб памеры свечнага падатку можна меркаваць на прыкладзе Турава, дзе ў 1861 г. было сабрана 164,23 руб. (колькасць габрэяў у мястэчку складала 4390). Грошы са свечнага збору Турава ішлі на ўтрыманне казённага габрэйскага вучылішча ў Мазыры[227]. Свечны збор з'яўляўся не ўскосным, а прамым падаткам, які падаў цяжарам, галоўным чынам, на бяднейшыя колы габрэйскага насельніцтва, якія не маглі адмовіцца ад адпраўлення рэлігійнага абраду.

Цяжкімі для местачкоўцаў былі падаткі і павіннасці, звязаныя з забеспячэннем арміі. Памер іх вызначаўся ў залежнасці ад палітычных абставін. У 1794 г. пры ўвядзенні *рэкруцкай павіннасці* ў Полацкай і Магілёўскай губернях купцы былі вызвалены ад яе з выплатай за кожнага рэкрута па 500 руб., а мяшчане ў адбыванні рэкруцкай павіннасці былі прыроўнены з сялянамі (па аднаму рэкруту ад 250 чалавек мужчынскага полу). Вызвалены былі ад рэкруцкай павіннасці і габрэі з выплатай таксама 500 руб. за рэкрута[228].

Пасля заканчэння вайны 1812 г. выйшаў указ сената ад 14 верасня 1816 г., па якім адмяняўся рэкруцкі набор. Затым Указ ад 17 верасня 1820 г. прадугледжваў пастаўку аднаго рэкрута ад 125 чалавек мужчынскага полу. Акрамя таго, з местачкоўцаў спаганяліся рэкруцкія грашовыя зборы. У м. Шарашова ў 1819 г. яны складалі 2 руб. з душы[229].

---

225 ДГА Літвы. Ф. 381. Воп.17. Адз. зах. 2759. Арк. 31, 42, 65, 66, 105, 128, 134, 162.

226 Гессен, Ю. История еврейского народа в России… С. 90–91.

227 Смиловицкий, Л. Евреи в Турове... С. 143.

228 Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II… С.302

229 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.1. Адз. зах. 1537. Арк. 18.

У сярэдзіне 20-х гг. XIX ст. у кіруючых колах Расіі выспеў своеасаблівы план: знішчыць габрэйскі рэлігійна-нацыянальны тып шляхам мілітарызацыі маладога пакалення (прыцягвання габрэяў да асабістага адбывання воінскай павіннасці, якая раней замянялася грашовым падаткам). Указ ад 26 жніўня 1827 г. устанаўліваў павышаную норму ваеннага прызыву для габрэяў: па 10 рэкрутаў з 1000 чалавек штогод пры кожным наборы (у хрысціян бралі па 7 рэкрутаў з 1000 чалавек адзін раз у два гады і ў адзін з двух набораў). Габрэяў прызывалі не з 18 гарадоў, як іншых, а з 12. Малалетніх – з 12 да 18 гадоў – накіроўвалі ў батальёны і школы кантаністаў. Гады знаходжання ў кантаністах не залічваліся ў армейскі тэрмін. Ад рэкруцкай павіннасці вызваляліся толькі гільдзейскія купцы, цэхавыя майстры, механікі на фабрыках, земляробы-каланісты, рабіны і нешматлікія тады габрэі, скончыўшыя рускія навучальныя ўстановы. Вызваленыя ад асабістай павіннасці плацілі "рэкруцкіх" 1000 руб. з чалавека[230].

У сувязі з увядзеннем рэкруцкай павіннасці для габрэяў уладам прыйшлося весці следства адносна даносу па абвінавачванні шклоўскіх габрэяў у тым, што яны ў сваіх малітвах пасылаюць праклён на адрас імператара за выданне маніфеста аб наборы габрэяў у рэкруты. У Пецярбург мясцовыя ўлады паведамлялі, што з нагоды першага рэкруцкага набору габрэі сапраўды збіраюцца ў прызначаныя дні ў школы і на магілы продкаў і чытаюць "проклинательные и зложелательные молитвы из книги, названной Слахот, цензированной Виленской Академией, но молитвы сие не заключают в себе никаких проклятий именно на Высочайшую особу, а вообще только на врагов еврейских, на царство врагов сих, на начальников сего царства и на всех притеснителей евреев"[231]. Тэкст гэтай малітвы на іўрыце і па-руску дадаваўся.

Рэкруцкая павіннасць, па словах П. Баброўскага, з'яўлялася самай цяжкай з усіх, таму што адбірала з масы народу вельмі шмат здаровых і свежых сіл, найбольш працаздольных. А. Паперна звяртаў увагу, што да канца 1850-х гг. з усіх здадзеных у Капылі салдат не вярнуўся ніхто, "копыльцы считали каждого рекрута погибшим и оплакивали его, как умершего", гэта было звязана і з тым, што войска, асабліва атрады ваенных кантаністаў, сталі месцам масавага прымусовага хросту габряэў.

---

[230] Руководство к русским законам о евреях / сост. М.И. Мыш. СПб., 1914. С. 491; Иоффе, Э.Г. Страницы истории евреев Беларуси / Э.Г. Иоффе. Минск, 1996. С. 49.

[231] Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме. HMF/772.

Свайго апагея прыгнёт рэкрутчыны дасягнуў у 1854 г., калі было тры наборы за год. Каб аблегчыць задачу папаўнення рэкрутаў, быў выдадзены ўказ, які дазваляў кагалам аддаваць у салдаты бяспашпартных і бяздомных. Не толькі кагалы, але і прыватныя асобы маглі такога габрэя здаць у салдаты замест сваіх дзяцей альбо прадаць яго іншым для такой жа мэты. Гэты час названы часам "хапуноў". А. Паперна ахарактарызаваў яго як "печальную и позорную страницу в истории еврейства". Вось як апісвае мемуарыст "хапун": "Между евреями нашлись негодяи, использовавшие этот бесчеловечный закон для своих корыстных целей… Они рыскали по большим дорогам, захватывали попадавшихся евреев, без различия возраста и состояния, связывали их по рукам и ногам и увозили в город, где продавали за большие деньги. Не помогал и паспорт, у кого таковой был, он отбирался и уничтожался. Ужас охватил тогда всех – и бедных, и богатых, и купцов, и ремесленников, ученых и простолюдинов. Торговля совсем прекратилась; нужда достигла крайних пределов"[232].

Цяжкай павіннасцю для местачкоўцаў з'яўляўся *ваенны пастой*. Ён прадугледжваў не толькі прадстаўленне начлегу, але і харчаванне нізшых чыноў.

У якасці прыкладу разгледзім памеры воінскага пастою ў мястэчках Гродзенскай губерні ў 1826–1830 гг. Усяго кватаравала 3366 салдат, 31 штаб-афіцэр і 131 обер-афіцэр, у тым ліку па габрэйскіх дамах было размешчана 1417 салдат, 9 штаб-афіцэраў і 77 обер-афіцэраў[233].

У асобных мястэчках колькасць войск, размешчаных на пастой, была вялікай. У м. Азёры Гродзенскага ўезда кватаравала 200 салдат, 1 штаб-афіцэр і 8 обер-афіцэраў, з іх большая частка – у габрэйскіх дамах – 120 салдат і 5 обер-афіцэраў[234]. Гэта было сапраўдным спусташэннем для местачкоўцаў. Яны часта звярталіся да губернскага начальства з прашэннямі аб вызваленні іх ад воінскага пастою. Такое прашэнне, напрыклад, падавалі жыхары м. Воўпа Ваўкавыскага ўезда ў 1819 г.[235]

Акрамя натуральнай павіннасці існавалі і грашовыя зборы. Напрыклад, жыхары мястэчак Масты, Рось, Скідзель і інш. плацілі па 6 кап. серабром з душы на Брэсцкі кадэцкі корпус[236].

Асабліва цяжкім было становішча местачкоўцаў у час вайны 1812 г., калі ім прыходзілася ўтрымліваць і французскія войскі.

[232] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания... С. 42–45.
[233] *Табліца 36.*
[234] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах.1374. Арк. 12.
[235] Там жа. Воп. 1. Адз. зах. 1598.
[236] Там жа. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 1267. Арк. 42.

Французскія ўлады прымушалі беларускае насельніцтва збіраць прадукты харчавання і грошы. Такія зборы праводзіліся ў многіх мястэчках Беларусі.

Насельніцтва мястэчак выконвала *павіннасці на карысць царквы.* Так, напрыклад, сяляне м. Рось у 1846 г. па рашэнні Гродзенскага губернскага камітэта апрацоўвалі царкоўныя землі напалову за кошт паншчыны і напалову за кошт сваіх асабістых дзён[237]. У м. Скідзель у 1846 г. на апрацоўку царкоўнай зямлі быў вызначаны грашовы збор: сяляне ўносілі штогод 17 руб. 40 кап. серабром. Акрамя гэтага, сума у 22 руб. $22^1/_2$ кап. уносілася прыхаджанамі на ацяпленне царквы[238]. З даходаў м. Смаргонь у 1835 г. для рымска-каталіцкай царквы выдзялялася 220 злотых польскіх у год, а грэка-уніяцкай – 100 злотых польскіх, ці 15 руб. серабром (гэтая сума атрымлівалася ў выніку гандлёвых збораў у час трох гадавых кірмашоў)[239]. Цікавым з'яўляецца той факт, што габрэі м. Высока-Літоўск гандлявалі соллю на карысць мясцовага рымска-каталіцкага прыходскага касцёла[240].

Жыхары прыватнаўласніцкіх мястэчак выконвалі шэраг *феадальных павіннасцей на карысць уладальнікаў*. Найбольш поўную інфармацыю аб іх утрымліваюць інвентары[241]. У мястэчках існавалі тры формы феадальнай рэнты – адработачныя павіннасці (паншчына, гвалты, талокі, згоны, шарваркі, падводная павіннасць, старажоўшчына, начная варта і інш.), грашовая рэнта (чынш, грашовае, угайнае, гандлёвыя зборы і г.д.) і натуральны аброк (гусі, куры, яйкі, каплуны, грыбы, ягады, дровы, пража і інш.). Найбольш распаўсюджанай у мястэчках была змешаная рэнта, якая была прадстаўлена ўсімі трыма формамі. Аднак у некаторых мястэчках феадальныя павіннасці абмяжоўваліся толькі грашовай рэнтай. У цэлым можна канстатаваць, што формы і памеры феадальнай рэнты ў прыватнаўласніцкіх мястэчках у канцы XVIII – першай палове XIX ст. характарызаваліся вялікай разнастайнасцю. Аднак, па даных інвентароў маёнткаў, прасочваецца тэндэнцыя меншага памеру паншчыны для сялян мястэчка ў параўнанні з сялянамі вёсак. Напрыклад, паводле інвентару маёнтка Скідзель 1845 г., жыхары мястэчка мусілі адпрацоўваць адзін дзень з сялянскага двару ў тыдзень, а жыхары вёсак – па тры дні[242].

[237] НГАБ у Гродне. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 232. Арк. 81.
[238] Там жа. Адз. зах. 1267. Арк. 69 адв.
[239] Там жа. Ф. 515. Воп. 2. Адз. зах. 1. Арк. 121 адв.
[240] РДГА. Ф. 1287. Воп. 37. Адз. зах. 1298. Арк. 6.
[241] *Табліца 37.*
[242] Токць, С. Скідзель у складзе Расійскай імперыі... С. 35.

Паказаныя ў папярэднім раздзеле шматлікія факты барацьбы жыхароў мястэчак за вяртанне ім правоў мяшчанства, супраць выканання павіннасцей на карысць памешчыкаў нараўне з прыгоннымі сялянамі сведчаць аб тым, што местачкоўцы не былі ціхімі і пакорлівымі. Гэта была адна з самых значных праяў антыпрыгонніцкага руху ў Беларусі першай паловы XIX ст.

Жыхары шэрага дзяржаўных мястэчак, якія выплачвалі чынш у казну, таксама змагаліся за свае правы на зямлю. Так, жыхары Мсцібава адмовіліся ў пачатку 1850-х гг. плаціць чынш за зямлю, бо лічылі яе сваёй уласнасцю. Іх справа разглядалася ў Ваўкавыскім уезным судзе, які пастанавіў плаціць местачкоўцам чынш у памеры згодна інвентару 1798 г. Гродзенская палата дзяржаўных маёмасцей даносіла губернатару: "крестьяне м. Мстибова по объявлению им такового разрешения… упорствуют во взносе платежей, накопляя большую недоимку, каковому примеру последовали крестьяне местечек Порозова и Нового Двора, также не внеся в казну следуемого платежа…"[243]. Акрамя таго, жыхарам м. Новы Двор прыходзілася змагацца з суседнімі памешчыкамі Быхаўцамі і Сухадольскімі, што захапілі частку казённых зямель, якія новадворцы лічылі сваімі[244].

Габрэі прыватнаўласніцкіх мястэчак карысталіся зямлёй на чыншавым праве. Захаваўся дакумент аб чыншавых правах мястэчка Краснаполля, датаваны 1823 г. і выдадзены памешчыкам Д. Яншыным. Паводле яго, кожны, хто меў нерухомасць, быў вольны яе прадаць, залажыць, арандаваць. Але зямля павінна назаўсёды заставацца ўладальніцкай, за якую штогод выплачваецца за кожны квадратны сажань па 1 кап. асігнацыямі. Месца пад сінагогу і могілкі даецца бясплатна. За крамы патрабуецца асобная плата, якая канкрэтна ў акце не вызначалася. Для выпасу скаціны бясплатна выдзяляецца выган. Нягледзячы на існаванне гэтага дакумента, правы валодання зямлёй і крамамі служылі прадметам шматгадовай барацьбы паміж насельніцтвам і ўладальнікам мястэчка. У рэальнасці мелі месца значныя адступленні ад умоў, пра якія гаварылася ў дакуменце, выдадзеным Яншыным[245].

Габрэі Скідзеля ў 1827 г. скардзіліся на княгіню Чацвярцінскую, якая пазбавіла іх нададзеных былымі польскімі каралямі свабод

---

243 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 5. Адз. зах. 1164. Арк. 1 7 адв.
244 Там жа. Адз. зах. 2624.
245 Рохлин, Л.Л. Местечко Краснополье / Л.Л. Рохлин. СПб., 1908. С. 95–97, 31.

на розныя промыслы і ўтрыманне шынкоў, права арэнды млыну, павялічыла чынш і прысвойвае сабе каробачны збор[246].

З-за свавольстваў памешчыкаў жыхары мястэчак часам цярпелі значныя бедствы. Прыкладам можа служыць канфлікт паміж габрэямі Горак (у канцы XVIII ст. тут іх налічвалася 398, а хрысціян было 1076[247]) і графам Л. Салагубам, апісаны П. Марэкам у часопісе "Книжки Восхода". У 1806 г. былі перамежаваныя зямельныя ўчасткі і па новым плане ад габрэяў да хрысціян перайшло не мала зямлі. А праз 4 гады Салагуб увогуле распарадзіўся, каб усе горацкія габрэі разам з сем'ямі былі выселены з мястэчка. Цяжка дакладна вызначыць, быў гэты ўказ рэалізаваны цалкам ці толькі часткова. У *пінкасе*[248] горацкага кагала ў 1815 г. было запісана пра высяленне габрэяў з гандлёвых памяшканняў, а запіс 1822 г. сведчыў пра поўнае іх выгнанне з мястэчка. Бяда, якая здарылася з габрэямі Горак, стала вядомая і іншым абшчынам, пачаліся грашовыя зборы на карысць пацярпелых. Горацкія габрэі таксама не сядзелі склаўшы рукі: "Они неослабно работали целых 13 лет над процессом умилостивления своего грозного помещика. За это время надежда много раз сменялась разочарованием, счастье часто казалось близким, но опять скрывалось за черными тучами панской немилости. Борьба за существование поддерживала в Горецких жителях постоянную энергию". Салагуб у 1822 г. пайшоў на прымірэнне: значна падвысіў арэндныя артыкулы і дазволіў габрэям вярнуцца да сваіх ранейшых заняткаў. Даведаўшыся пра тое, што памешчык вярнуў габрэям іх правы, многія габрэі з іншых месц накіраваліся ў Горкі. З гэтага часу пачалася ўжо барацьба карэнных жыхароў Горак з новапасяленцамі з-за правоў на мясцовыя заробкі. П. Марэк адзначыў, што ў кожнай габрэйскай абшчыне ішла падобная падвойная эканамічная барацьба: з памешчыкам – за недатыкальнасць правоў па эксплуатацыі мясцовых заробкаў, з іншагароднімі габрэямі – за іх імкненне канкурыраваць у чужым раёне[249].

Дастаткова жорсткай была канкурэнцыя і паміж габрэямі адной абшчыны, што добра паказваюць занатоўкі З. Бядулі пра Койданава: "Кожны крамнік, гандляр, і нават рамеснік, меў 'свайго' пана, якога абслугоўваў, які даваў яму заробак. Кожны меў нават і 'сваіх' сялян,

---

[246] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах. 1825. Арк. 1 адв.

[247] РДАСА. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 382. Арк. 353 адв.

[248] *Пінкас* – кніга пратаколаў, пастаноў, рэгістрацыі падзей і службовых асоб у габрэйскіх абшчынах, дабрачынных установах і інш.

[249] Марек, П. Исторические сообщения: Страница из жизни Горецкой еврейской общины / П. Марек // Книжки Восхода. 1903. Кн. 5 (май). С. 83–91.

‘свае’ вёскі, з якімі вялі гандаль. Часта на вуліцы або нават у сінагозе сварыліся паміж сабой за ‘сваіх’ паноў, за ‘сваіх’ сялян. Вялася ў гэтым кірунку пастаянная барацьба за збыт тавараў і вырабаў, за заваёву сімпатыі сялян і навакольных памешчыкаў”[250].

У вывучаемы перыяд з мэтай прадухілення канкурэнцыі паміж габрэямі аднаго кагала практыкавалася замацаванне за вызначанымі асобамі пэўных эканамічных сфер дзейнасці. Дзеля гэтага існавалі такія прававыя інстытуты, як *мерапія* і *хазака.* Кагал негалосна прадаваў правы на выкарыстоўванне канкрэтнай асобы негабрэя (*мерапія)* ці яго нерухомай маёмасці *(хазака).* Г. Дзяржавін, які ў якасці сенатара ў 1799 г. быў накіраваны ў Беларусь дзеля следства па скарзе шклоўскіх габрэяў на ўладальніка мястэчка С. Зорыча, склаў запіску па габрэйскім пытанні, у якой пісаў: “В кагалах определяются и даются “хазаки”, т.е. вечное право на содержание какойлибо аренды или откупа в крае, в котором они (члены кагального управления) по своему произволению отдают чьи-бы то ни было чужие недвижимые (христианские) имения, как-то: деревни, корчмы, мельницы, луга и проч. Таким образом, ежели только раз настоящими владельцами отданы оные были какому-либо жиду на аренду, или на откуп, то другой жид не смеет уже, хотя бы и с прибавкой оброчной суммы, приступить к торгу и взять оных в свое содержание, отняв тем выгоду у первого”[251].

Хазака ў габрэяў-*ашкеназаў*[252] існавала з XI ст. (у нашым краі з канца XVI ст.). Яе паходжанне трактуецца наступным чынам: “В средние века евреи брали в аренду земли или предприятия у хозяев-христиан; последние имели обыкновение повышать плату за аренду (особенно в тех случаях, когда дела у арендаторов шли хорошо); если еврей-арендатор утверждал, что эта плата велика для него, то хозяин выгонял его и сдавал имущество другому еврею. Для того, чтобы бороться с этим явлением, Гершом бен Иехуда Меор ха-Гола ((960? – 1028?), талмудист средневековой Германии, духовный отец ашкеназского направления в Галахе) постановил, что у первого арендатора есть ХАЗАКА на арендуемое имущество, и другой еврей не может арендовать его без разрешения первого арендатора”[253].

Павіннасці і падаткі ў мястэчках не рэгламентаваліся, што давала магчымасць памешчыкам і адміністрацыі ўладальнікаў павялічваць

[250] Наш край. 1930. № 1. С. 37.

[251] Цыт. па: Брафман, Я. Книга кагала / под ред. А. Брафмана. СПб., 1882. С. 134–135.

[252] *Ашкеназы* – габрэі, выхадцы з Германіі, і іх нашчадкі, носьбіты ідыш.

[253] Хазака // Электронная еврейская энциклопедия. Рэжым доступу : http://www.eleven.co.il/?mode=article&id=14398&query – Дата доступу: 30.05. 2009.

іх і ўводзіць дадатковыя плацяжы. Яскравым прыкладам можа служыць становішча жыхароў м. Высока-Літоўск Брэсцкага ўезда і іх канфлікт з уладальнікам князем Сапегам, пра які ўзгадвалася вышэй. Нагадаем, што мяшчане-габрэі мястэчка скардзіліся ў вышэйшыя ўстановы на князя Сапегу за прысваенне сабе некаторых артыкулаў каробачнага збору, за абкладанне рознымі гандлёвымі падаткамі на сваю карысць, за павелічэнне чыншу за пляцы і крамы і г.д. Усяго ў скарзе пералічана 11 такіх пунктаў. Мяшчане падкрэслівалі, што гэтыя незаконныя зборы з'яўляюцца прамым падаткам на галоўныя прадметы жыццёвых патрэбнасцей, перашкаджаюць дробнай прамысловасці і гандлю і абцяжарваюць як мясцовых, так і навакольных жыхароў м. Высока-Літоўск. Па гэтай прычыне абшчына не ў стане выплачваць казённыя подаці, нядоімка якіх значна павялічылася. У 1853 г. указам сената ад 22 чэрвеня гэтыя незаконныя зборы былі адменены. У 1855 г. князь Сапега па новым інвентары зноў павялічыў чынш з габрэяў мястэчка, распарадзіўся ліквідаваць габрэйскія драўляныя крамы. Тады габрэі прад'явілі пазоў Сапегу аб выплаце ім сумы ў 46 тыс. руб. за пераплату незаконных збораў. Сапега, са свайго боку, прад'явіў пазоў габрэям на суму 9835 руб 20 кап. за нявыплачаны ў 1834 г. доўг. Рашэнне сената па гэтай справе было наступным: для пакрыцця выдаткаў высокалітоўскім габрэям за пераплату збораў спагнаць з уладальніка мястэчка ўсю суму, якая пераплачана з 1840 г., а з габрэяў спагнаць на карысць князя Сапегі 9835 руб. 20 кап.[254]

Некаторым мястэчкам (напрыклад, Свіслачы Ваўкавыскага ўезда) пашанцавала мець клапатлівых уладальнікаў, якія не павялічвалі павіннасцей, дбалі пра добры стан гаспадарак жыхароў. Па звестках Л. Патоцкага, В. Тышкевіч са свіслаччан “патрабаваў з двара ў тыдзень тры дні работы з канём і адзін пешы. Да гэтага прыбавіў “гвалты”, у час якіх усе, хто быў здольны працаваць, павінны былі выходзіць на сенажаць і жніво. Акрамя гэтага прызначаў шарваркі для рамонту дарог і мастоў”. В. Тышкевіч характарызуецца як “разважлівы гаспадар, які быў заняты адзіна ўпарадкаваннем сваіх уладанняў, забеспячэннем добрага быту падданым і паляпшэннем сваёй улюбёнай свіслацкай рэзідэнцыі... ён баяўся запрыгоньваць работнікаў павелічэннем працы”[255].

---

[254] РДГА. Ф. 1287. Воп. 37. Арк. 3, 6, 18 адв., 48, 48 адв.

[255] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі / укл., прадмова, камент. А.М. Філатавай; пер. з польск. І.У. Саламевіча. Мінск, 1997. С. 29, 41.

Асабліва пакутавалі местачкоўцы ад злоўжыванняў арандатараў. Віленскі губернатар адзначаў у 1850 г., што жыхары м. Глыбокае бесперапынна скардзяцца на арандатара Г. Шмідта за "неправильное взимание торговых сборов от всех хозяйственных произведений, чем жители так обеднели, что не в состоянии уплачивать казенных податей и столь значительные казенные недоимки"[256]. Казённыя сяляне м. Мсцібава Ваўкавыскага ўезда ў 1847 г. звярнуліся да гродзенскага губернатара са скаргай на арандатара, у якой адзначалі: "За время арендного содержания помещиком Ржосницким от злоупотреблений его приведены к совершенно крайнему разорению, разные убытки составили 4988 руб. $98^1/_2$ коп. серебром"[257].

На глебе злоўжыванняў часовых уладальнікаў узнікалі хваляванні. Найбольш значным было выступленне сялян маёнтка Смаргонь у 1842–1847 гг., размах і ўпарты характар якога вымушалі ўлады ўводзіць воінскія каманды і ажыццяўляць экзекуцыі. У красавіку 1847 г. тут быў распаўсюджаны ліст з заклікам да смаргонскіх сялян і мяшчан сумесна з салдатамі знішчаць афіцэраў расквартараваных воінскіх часцей, выразаць усіх памешчыкаў і ўпраўляючых, як зрабілі сяляне Галіцыі, каб здабыць сабе свабоду[258]. Аўтарам гэтых лістоў аказаўся дробны чыноўнік шляхціц Юльян Бакшанскі. У выніку смаргонскага выступлення памешчыкі ўбачылі для сябе небяспеку знішчэння ад рук уласных прыгонных, а царызм апынуўся перад пагрозай зліцця сялянскай барацьбы з агульнадэмакратычным рухам у краі[259].

Рост падаткаў і іншых плацяжоў і павіннасцей прыводзіў да таго, што местачкоўцы былі не ў стане іх выконваць, штогод павялічваліся сумы нядоімак. Так, напрыклад, у 1819 г. Пінскі земскі павятовы суд пастанавіў спагнаць з мяшчан м. Пагост на карысць уладальніка Філацьева 8940 злотых 6 грошаў за невыкананне павіннасцей за карыстанне зямлёй. У мястэчка быў камандзіраваны судзебны засядацель Неслухоўскі, які паведаміў, што "погостские мещане, кроме скота, хлеба и одеяния никакого более состояния не имеют и потому к платежу упомянутой суммы не состоятельны". Пінскі земскі павятовы суд заключыў выселіць мяшчан Пагоста (28 сем'яў, 138 душ) з

256 РДГА. Ф. 1287. Воп. 37. Адз. зах. 1298. Арк. 547.

257 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 5. Адз. зах. 1127. Арк. 1.

258 Заклік Ю. Бакшанскага "Да сялян смаргонскіх" // Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах. Хрэстаматыя / уклад., нав. рэд. А.Ф. Смалянчук. Вільня, ЕГУ, 2007. С. 87.

259 Сосна, У.А. Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. / У.А. Сосна. Мінск, 2000. С. 28.

уладальніцкіх зямель, а ўсю іх рухомую маёмасць прадаць для выплаты дзяржаўных падацей[260].

Цяжкае становішча асноўнай масы местачкоўцаў Беларусі пагоршыла вайна 1812 г. Так, напрыклад, ў 1819 г. у Шарашове было ўсяго толькі “5 или 6 человек, кои могут еще назваться хозяевами, имея старинные запасы, из коих обязаны удерживать почти целое местечко и сносить все общественные тяготы; прочие жители сего местечка поводом неприятельского в 1812 г. разорения и стеснения торговли доведены до самого беднейшего положения, так что бывшие пред сим примерного состояния хозяевами ныне нуждаются даже в дневном пропитании; остальные несколько человек хозяев, удовлетворяя более как за 1000 душ все повинности вскоре истощат свое достояние и доведены будут к подобному разорению наравне с прочими”[261].

У 1819 г. Ваўкавыскі ніжні земскі суд вызначыў, што ў мястэчках Воўпа, Зэльва, Свіслач, Мсцібава большасць мяшчан “крайне бедные и казенные подати платить несостоятельные”. У м. Камянец налічвалася “несостоятельных к уплате податей” 340 душ, у Шарашове – 897. На Шарашоўскім кагале налічвалася вялікая нядоімка: падушнага – 4762 руб., на уладкаванне дарог – 112 руб. $12^1/_2$ кап. асігнацыямі, земскіх павіннасцей – 305 руб. 14 кап. серабром. На Воўчынскім кагале – 7090 руб. асігнацыямі, 108 руб. 14 кап. серабром[262]. Значныя нядоімкі былі ў кагалаў мястэчак Ашмянскага ўезда: з 1816 г. па другую палову 1824 г. у м. Смаргонь – 1460 руб. 98 кап., м. Іўе – 1210 руб. 76 кап., м. Ліпнішкі – 566 руб. 84 кап., м. Заскевічы – 278 руб. 80 кап., м. Гальшаны – 385 руб. 2 кап., м. Трабы – 317 руб. 35 кап., м. Валожын – 194 руб. 14 кап., м. Крэва – 557 руб. 87 кап., м. Налібокі – 62 руб. 50 кап., м. Жупраны – 204 руб. 61 кап., м. Солы – 266 руб. 35 1/2 кап., і г.д. (усе сумы серабром)[263].

Пры ўнясенні падацей у казну са спазненнем нядоімшчык выплачваў пеню ў памеры 1% ад падатку за кожны месяц. Міністэрства фінансаў неаднаразова выдавала пастанаўленні аб прыняцці мер па спагнанні нядоімак. Аднак сума нядоімак у беларускіх губернях штогод павялічвалася. Не дапамагалі і так званыя “ваенныя экзэкуцыі”. Напрыклад, у 1819 г. у м. Камянец “была поставлена кагалу по домам строгая экзекуция до 30-ти солдат, которая стоит

260 НГАБ. Ф. 299. Воп. 2. Адз. зах. 520. Арк. 17.
261 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 1. Адз. зах. 1537. Арк. 17.
262 Там жа. Арк. 12, 14, 17,
263 ДГА Літвы. Ф.380. Воп. 68. Адз. зах. 1274. Арк. 11.

почти до 2000 руб. ассигнациями". У м. Шарашова "строжайшая военная экзекуция, состоя более 3-х месяцев, вместо выручки казне денег, доводит несчастных жителей местечка к величайшему разорению". У мястэчках Воўпа, Зэльва, Свіслач, Мсцібава "поставленная за невзнос казенных податей экзекуция еще более разоряет жителей..."[264].

Ва ўмовах празмернага падатковага і павіннаснага прыгнёту, збяднення местачкоўцаў ім на дапамогу прыходзіла дабрачыннасць, якая была найбольш развітай ў асяроддзі габрэйскай супольнасці. Дабрачыннасць – адна з асноўных запаведзей іудзейскай рэлігіі. Пры сінагогах меліся разнастайныя дабрачынныя таварыствы: для дапамогі немаёмным, збору пасагу беспасажніцам, забеспячэння бедных габрэяў *мацою*[265] ў *Песах*[266] і г.д. Больш заможныя абшчыны ўтрымлівалі багадзельні, сіроцкія дамы, начлежкі для бяздомных і вандроўнікаў. Грошы на ўсе дабрачынныя справы паступалі ад каробачнага збору, а таксама ад пастаяннага збору ахвяраванняў з усіх местачковых гаспадароў. На чале дабрачынных таварыстваў стаялі самыя багатыя жыхары мястэчак, якія ахвяравалі значныя сумы. Іх голас у абшчынных справах быў рашаючым. Дапамога тым, хто жыў у нястачы, з'яўлялася не толькі важнейшым абавязкам, але і неабходнасцю: многія жыхары мястэчак былі не ў стане без дапамогі выжыць, не мелі сродкаў на пахаванне сваякоў.

У выпадку, калі мемуарыст выхоўваўся ў заможнай сям'і (як, напрыклад, Паліна Вянгерава), то ён (яна) абавязкова ўспамінае пра развітую сістэму дабрачыннасці, аб тым, як яго (яе) сям'я ніколі не адмаўляла ў дапамозе бедным[267]. А вось як успамінае пра дабрачыннасць у Капылі А. Паперна: "Ежедневно, особенно в неурожайные годы, можно было видеть целые десятки нищих, обходивших все без исключения дома за подаянием. Отказать беднякам нельзя, тем более, что еврейский нищий не просит милостыни, подобно своему христианскому собрату, стоя за дверью или у окна и низко кланяясь, а входит смело в дом, требуя подаяния, как причитающегося ему долга, и в случае отказа ругается, проклинает. Но так как давать каждому, хотя бы по полушке (пол копейки), не всем было под силу, то копыльцы вынуждены были чеканить, или, выражаясь точнее, вырезывать из картонной бумаги особую, так сказать, нищенскую монету низшего достоинства, в 1/3 полушки. Эти монеты фабриковались

[264] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 1537. Арк. 12–17.

[265] *Маца* – ляпёшкі з неквашонага цеста, адзіны мучны выраб, дазволены для ўжывання ў перыяд пасхальнага тыдня.

[266] *Песах* – свята ў памяць аб выхадзе габрэяў з Егіпта і вызваленні з рабства.

[267] Венгерова, П. Воспоминания бабушки / П. Венгерова. Иерусалим; М., 2003.

*шамешом*[268] клауза Довид-Иоселем, и снабжались печатью клауза с обозначением их стоимости. Жители покупали у него эти монеты и раздавали бедным, которые затем по обходе города обменивали их у Довид-Иоселя на настоящие деньги”[269]. Такім чынам, у складаных палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах местачкоўцам дапамагалі выжываць традыцыі самакіравання і дабрачыннасці, узаемасалідарнасці і ўзаемадапамогі.

***

Падатковае і павіннаснае становішча местачковага насельніцтва Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. было вельмі цяжкім. Гэта было абумоўлена перш за ўсё тым, што мястэчкі пераважна былі прыватнаўласніцкімі. Насельніцтва іх было “поставлено лицом к лицу с грозной опастностью крепостного права”[270]. Прававое становішча местачковых жыхароў характарызавалася “ўсеўладдзем уладальніка пры фактычнай адсутнасці гарантый выканання саслоўных правоў амаль усіх разрадаў местачковага насельніцтва”[271]. Барацьба жыхароў мястэчак за вяртанне ім правоў мяшчанства, супраць выканання павіннасцей на карысць памешчыкаў нараўне з прыгоннымі сялянамі была адной з самых значных праяў антыпрыгонніцкага руху ў Беларусі першай паловы XIX ст. Местачкоўцы цярпелі і ад празмерных дзяржаўных падаткаў. Прыгнёт павіннасцей паглыбляў працэс паўперызацыі бяднейшага насельніцтва мястэчак, з’яўляўся тормазам для іх эканамічнага і культурнага развіцця. Так што важныя эканамічныя функцыі, што выконвалі мястэчкі, дасягаліся вялікай цаной – коштам празмернага прыгнёту местачкоўцаў. Іх ратавалі традыцыі самакіравання і дабрачыннасці, узаемасалідарнасці і ўзаемадапамогі.

Паглыбленне працэсу маёмаснай дыферэнцыяцыі паступова размывала рамкі сацыяльных груп. Сярод местачковых мяшчан вылучалася праслойка ліхвяроў, скупшчыкаў, адносна буйных гандляроў. Але працэс сацыяльнай дыферэнцыяцыі местачковага насельніцтва ішоў пераважна ў бок збяднення з выдзяленнем невялікай праслойкі багацеяў і велізарнай паўперызаванай масы. Архіўныя матэрыялы

---

[268] *Шамеш* – сінагогальны служка.

[269] Паперна, А. Из Николаевской эпохи…. Т. 2. СПб., 1910. С. 27.

[270] Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II… С.313.

[271] Рындзюнский, П.Г. Городское гражданство дореформенной России / П.Г. Рындзюнский. М., 1958. С. 310.

неаднаразова адзначаюць, што значная колькасць местачкоўцаў не мела сродкаў для існавання. Галоўным чынам мяшчане і сяляне, якія складалі падаўляючую большасць насельніцтва мястэчак, а таксама збяднелыя прадстаўнікі іншых сацыяльных груп былі тым патэнцыяльным рэзервам, з якога рэкрутаваліся кадры пралетарыяту Беларусі ў другой палове XIX ст. Невялікая па колькасці група гільдзейскага купецтва, багатых мяшчан і часткі дваран – уладальнікаў местачковых прамысловых прадпрыемстваў з'явілася асновай для фарміравання буржуазіі.

Усе адзначаныя вышэй сацыяльныя працэсы ў мястэчках Беларусі сведчаць аб тым, што ў разглядаемы перыяд на структуру насельніцтва, як і на іншыя бакі жыцця мястэчак, аказваў уплыў новы капіталістычны ўклад, які развіваўся ў нетрах феадалізму. Гэтыя паселішчы і іх жыхары зрабілі свой унёсак у прыспешванне адмены прыгоннага права, падрыхтоўка да якой пачалася менавіта з беларускіх губерняў.

***

Аналіз дэмаграфічных, сацыяльных працэсаў у мястэчках Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. выяўляе іх дынамізм. На працягу гэтага часу склалася стракатая мазаіка розных саслоўных, этна-канфесійных груп местачковага насельніцтва. Нават габрэйскія абшчыны мястэчак, выступаючы адзінай супольнасцю ў стасунку да хрысціянскага наваколля, сталі моцна стратыфікаваныя ў сацыяльным, маёмасным, а таксама рэлігійным (хасіды, міснагдым, прыхільнікі Гаскалы) планах. Таму немагчыма стварыць "абагульнены партрэт" жыхара мястэчка дадзенай эпохі. Ён "раскладваецца" на шэраг асобных "эскізаў". Не ўяўляла адзінага тыпу, накшталт традыцыйнай культуры вёскі, і культура мястэчка. Яна, як і гарадская культура, эклектычна спалучала ў сабе скібы рознай сацыяльнай, этнічнай, канфесійнай афарбоўкі[272]. Мазаіка культурнага жыцця мястэчак Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. прадстаўлена ў наступным раздзеле.

[272] Куль-Сяльверстава, С.Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII – 1820-я гады) / С.Я. Куль-Сяльверстава. Мінск, 2000. С. 113.

# 5. Мястэчкі на культурным ландшафце Беларусі

## 5.1. Адукацыйна-асветніцкая роля

Мястэчкі ўзвышаліся над звычайнымі сельскімі паселішчамі не толькі ў эканамічных, але і культурных адносінах. Яны з'яўляліся асветніцкімі цэнтрамі. Адукацыйна-асветніцкі патэнцыял мястэчак характарызуюць колькасць і тыпы размешчаных тут навучальных установ, бібліятэк, музейных збораў.

Якое месца займалі навучальныя ўстановы, што знаходзіліся ў мястэчках, у сістэме адукацыі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.? Якія мястэчкі ўвайшлі ў гісторыю бібліятэчнай і музейнай справы Беларусі? Якое значэнне мелі навучальныя ўстановы, бібліятэкі і музейныя зборы для саміх мястэчак? Якім чынам яны ўплывалі на паўсядзённае жыццё іх жыхароў? Адказаць на гэтыя пытанні можна праз разгляд развіцця асветы ў мястэчках на фоне асноўных працэсаў, якія працякалі ў дадзенай галіне культуры Беларусі ў гэты час.

Значнасць мястэчак як цэнтраў адукацыі асабліва ўзрасла ў эпоху Асветніцтва. Змены ў сістэме адукацыі былі найбольш радыкальнымі і давалі штуршок да развіцця іншым галінам культуры. Беларусь, падзеленая ў 1772 г. на дзве часткі, апынулася пад уздзеяннем дзвюх рэформ асветы: у Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі.

Па сваёй адукацыйна-асветніцкай значнасці мястэчкі Заходняй і Цэнтральнай Беларусі разглядаемага перыяду пераўзыходзілі такія ж паселішчы ўсходняга рэгіёна. Адна з галоўных прычын гэтага – стварэнне моцнага падмурка новай школы ў часы рэформы асветы Рэчы Паспалітай у выніку дзейнасці Камісіі народнай адукацыі (КНА) ці Адукацыйнай камісіі (1773–1794 гг.). Вынікі рэформы былі значнымі. Заходняя і Цэнтральная Беларусь мела разгалінаваную сетку свецкіх навучальных установ з пераемнасцю курсаў і строгай іх іерархіяй (акруговыя школы ў Брэсце, Гродна, Навагрудку;

падакруговыя школы ў Жыровічах, Пінску, Барунах, Ваўкавыску, Вішневе, Паставах, Бабруйску, Беразвеччы, Мазыры, Мінску, Нясвіжы, Слуцку, Халопенічах, Драгічыне, Лідзе, Лужках, Шчучыне; парафіяльныя вучылішчы ў многіх гарадах і мястэчках), перадавую для таго часу канцэпцыю навучання, настаўніцкія кадры. Такім чынам, з 20 акруговых і падакруговых школ, адкрытых ці пераўтвораных Адукацыйнай камісіяй на тэрыторыі Беларусі, 8 знаходзіліся ў мястэчках: Вішневе, Паставах, Барунах, Халопенічах, Беразвеччы, Жыровічах, Лужках і Шчучыне (апошнія дзве – піярскія).

Задачы, якія вырашала першае айчыннае Міністэрства асветы, датычыліся не толькі праблем удасканальвання вучэбна-выхаваўчага працэсу, але і вызначэння месца навучальных устаноў у паўсядзённым жыцці тагачаснага грамадства. Секулярызацыя школьнай справы павінна была зрабіць іх больш адкрытымі і мацней уцягнутымі ў сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё тых населеных пунктаў, дзе яны размяшчаліся. Гэты працэс толькі пачынаўся, але асноўныя напрамкі ўзаемадзеяння вучылішчаў з мясцовым грамадствам ужо прасочваліся. Адукацыйная камісія імкнулася пераўтварыць уласныя школы ў асветныя цэнтры для ўсяго тутэйшага насельніцтва. Рэктарам і прэфектам раілася запрашаць бацькоў вучняў, а таксама ўсіх жадаючых на пераводныя і выпускныя экзамены ды розныя школьныя святы. Вучэбныя бібліятэкі таксама былі адкрытыя для жыхароў тых паселішчаў, дзе яны месціліся. Вядома, напрыклад, што ў 1786 г. пачаў выдавацца "Дзённік гандлёвы", які змяшчаў карысную інфармацыю аб кірмашах, цэнах, розных гандлёвых аперацыях і мануфактурах. Адукацыйная камісія адразу ж выпісала яго для ўсіх навучальных устаноў і загадала школьным уладам даводзіць яго змест да шырокіх колаў грамадства[1].

Акрамя таго, менавіта настаўнікам было даручана збіраць каштоўную інфармацыю, неабходную для ўдасканальвання кіравання дзяржавай. Навучальныя ўстановы павінны былі праводзіць статыстычныя даследаванні, збіраць звесткі аб эканамічным патэнцыяле свайго рэгіёна, складаць падрабязныя геаграфічныя апісанні. У выніку гэтага настаўнікі разам з вучнямі сталі аглядаць навакольныя мануфактуры, наведваць кірмашы і г.д. У час летніх вакацый

[1] Самусік, А.Ф. Навучальныя ўстановы ў паўсядзённым жыцці гарадоў заходняй і цэнтральнай Беларусі ў апошняй трэці XVIII ст. / А.Ф. Самусік // Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі, культуры: зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: І.П. Крэнь [і інш.]. Гродна, 2007. С. 251.

яны здзяйснялі працяглыя вандроўкі па Беларусі, пашыраючы свае веды ў галіне геаграфіі, тапанімікі, біялогіі і мінералогіі[2].

На ўсходзе Беларусі, які з 1772 г. быў у складзе Расіі, рэформа асветы пачалася значна пазней, зацягнулася на доўгія гады і была завершана толькі пры Аляксандры І. Даследчыца культуры эпохі Асветніцтва С. Куль-Сяльверстава паказала, што запозненасць рэформы асветы на ўсходзе паглыбіла дэсінхранізацыю гісторыка-культурнага працэсу ў двух рэгіёнах Беларусі[3].

Неабходна падкрэсліць, што ў разглядаемы час адукацыя і асвета былі важным звяном у нацыянальнай палітыцы ўлад. Да сярэдзіны 20-х гг. ХІХ ст. у сувязі з ліберальным стаўленнем царызму да мясцовай шляхты асвета амаль цалкам была аддадзена ў рукі патрыётаў Рэчы Паспалітай на чале з Адамам Чартарыйскім. Школа займала значнае месца ў іх планах як сродак выхавання новых змагароў за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Гэта дасягалася праз выкладанне гісторыі Рэчы Паспалітай, польскай мовы, літаратуры. Руская мова не была абавязковым прадметам, яна вывучалася па жаданні вучняў. Пасля следства і суда над філарэтамі і філаматамі пачынаецца русіфікацыя адукацыі, якая ўзмацнілася пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гг. Беларуская мова, як і раней, не дапускалася ў школу. Такім чынам, узнікненне беларускай школы было немагчымым. Не ўсведамляла такой неабходнасці і насельніцтва. Рух за беларускую школу ў Беларусі, у тым ліку і ў мястэчках, разгарнуўся толькі ў пачатку ХХ ст. Напрыклад, "Наша Ніва" ў № 10 за 1913 г. паведамляла, што рабочыя-беларусы з Капыля звярнуліся ў Дзяржаўную думу з патрабаваннем прызнаць беларускую мову, дазволіць нацыянальныя таварыствы і падтрымаць прашэнне да ўрада аб адкрыцці ў Беларусі універсітэта[4].

У канцы XVIII – першай палове ХІХ ст. у мястэчках былі прадстаўлены разнастайныя тыпы навучальных устаноў, якія існавалі ў гэты час у Беларусі. Як і ў цэлым па Беларусі, у мястэчках прасочваецца барацьба за ўплыў на насельніцтва праз школу паміж

---

[2] Самусік, А.Ф. Навучальныя ўстановы ў паўсядзённым жыцці гарадоў заходняй і цэнтральнай Беларусі ў апошняй трэці XVIII ст. С. 251.

[3] Куль-Сяльверстава, С.Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII – 1820-я гады) / С.Я. Куль-Сяльверстава. Мінск, 2000. С. 33.

[4] Снапковская, С.В. Проблемы белорусской национальной школы в педагогической мысли конца ХІХ – начала ХХ в. / С.В. Снапковская // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX – начала ХХ в. / П.Т. Петриков, Д.В. Карев, А.А. Гусак и др. Минск: Наука и техника, 1996. С. 194.

мясцовымі землеўладальнікамі і дзяржавай, паміж духавенствам хрысціянскіх канфесій (у тым ліку паміж лацінянамі, з аднаго боку, і праваслаўнымі, з другога).

Да пачатку XIX ст. у Беларусі склалася даволі заблытаная сетка навучальных устаноў, пазбаўленых адзінага кіраўніцтва, не звязаных паміж сабой паслядоўнасцю школьных праграм і прынцыпаў навучання. Побач са школамі, створанымі Адукацыйнай камісіяй у Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, ва ўсходнім рэгіёне існавалі рускія народныя вучылішчы, заснаваныя ў канцы 1770-х – пачатку 1790-х гг., па ўсёй тэрыторыі Беларусі дзейнічалі манастырскія уніяцкія і каталіцкія навучальныя ўстановы. Паводле высновы У. Пасэ, дыяпазон разнастайных навучальных сістэм дазваляў пры жаданні і магчымасцях атрымаць адукацыю, адпаведную ўзроўню ведаў XVI, XVII ці XVIII ст. на польскай, рускай, габрэйскай, французскай, нямецкай мовах.

Значнае месца ў сістэме школьнай адукацыі ў Беларусі займалі манастырскія уніяцкія і каталіцкія ўстановы. У канцы XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі базыльяне, езуіты, дамініканцы, кармеліты і манахі іншых каталіцкіх ордэнаў мелі ў сваім распараджэнні 37 вучылішчаў[5]. Многія з іх размяшчаліся ў мястэчках. Напрыклад, езуіцкія вучылішчы знаходзіліся ў Чачэрку, Лазовічах і Расне Магілёўскай губерні; дамініканскія – у Бялынічах, канонікаў рэгулярных лютэранскіх – у Азеранах Магілёўскай губерні; місіянерскія – у Асвеі Віцебскай, Лыскаве Гродзенскай губерні і інш.

Аднымі з найбуйнейшых манастырскіх вучылішчаў з’яўляліся Талачынскае базыльянскае, Ушацкае і Забельскае дамініканскія[6]. Па вучэбным курсе яны стаялі вышэй за пачатковыя вучылішчы. Талачынскае 5-класнае вучылішча ўзнікла ў 1790 г. з дазволу беларускага генерал-губернатара графа Чарнышова па просьбе мясцовага дваранства[7]. Візітатар вучылішчаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў Васіль Севяргін адзначаў высокі ўзровень выкладання ў базыльянскім вучылішчы ў Талачыне і рэкамендаваў яго настаўнікаў Віленскаму універсітэту, як “весьма прилежных и усердных”. Вучылішча пакінула ў Севяргіна такое добрае ўражанне, што ён на-

[5] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мінск, 1968. С. 94.

[6] Колькасць настаўнікаў і вучняў сярэдніх навучальных устаноў паказана ў *табліцы 38*.

[7] Белецкий, А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования. 1803–1832 / А. Белецкий. Ч. 1. Отдел 3. Вильно, 1906. С. 28; РДГА. Ф.733. Воп.95. Адз.зах. 380. Арк.83.

ват хадайнічаў аб аказанні яму матэрыяльнай дапамогі[8]. У м. Ушачы Віцебскай губерні ў 1791 г. было адкрыта трохкласнае (з двухгадовым курсам навучання ў кожным класе) вучылішча. Забельскае дамініканскае вучылішча (пры дамініканскім кляштары ў фальварку Забелы каля м. Валынцы) было заснавана яшчэ ў 1716 г., у 1803 г. атрымала ступень уезнага, а ў 1809 г. – гімназіі. Навучанне працягвалася 6 гадоў[9]. Пры гэтай навучальнай установе існаваў школьны тэатр. Сярод вядомых педагогаў – доктар філасофіі, аўтар падручніка па фізіцы Фелікс Цяцерскі, гісторык і мемуарыст Фаўстын Цяцерскі, беларускія і польскія драматургі, выкладчыкі рыторыкі і паэтыкі Каятан Марашэўскі і Міхал Цяцерскі. Тут вучыўся беларускі пісьменнік Арцём Вярыга-Дарэўскі[10].

Манастырскія вучылішчы абавязаны былі сваім існаваннем не толькі традыцыі (некаторыя з іх узніклі яшчэ ў XVI–XVII стст.), але і маёмасці, што накапілі манастыры. Акрамя таго, значную матэрыяльную падтрымку аказвала каталіцкаму духавенству мясцовая шляхта і рускае дваранства. Напрыклад, у м. Асвея на сродкі графа Гільзена місіянеры ўтрымлівалі мужчынскае (23 вучні) і жаночае (13 вучаніц) прыходскія вучылішчы. Графіня Чарнышова ў Чачэрску адкрыла на свае сродкі пачатковае вучылішча для сялян і перадала яго езуітам. Князь Пацёмкін у 1786 г. ахвяраваў ордэну піяраў маёнтак Азоркава і 15 тыс. руб. "на ўтрыманне вучылішча высакароднага юнацтва": манахі адкрылі сваю школу ў м. Дуброўна, а затым у 1799 г. перавялі яе ў Віцебск[11].

Цікава адзначыць, што сама Кацярына ІІ, будучы ў 1780 г. у Магілёве, загадала даць архіепіскапу Георгію 2100 руб. для школьнай справы. Ён раздаў гэтыя грошы гарадскому і местачковаму духавенству. Такім чынам узніклі школы ў мястэчках Гомель і Чачэрск. Гомельская школа спачатку рыхтавала дзяцей духавенства для паступлення ў семінарыю. А потым уладальнік Гомеля граф Румянцаў пажадаў, каб у ёй вучыліся і дзеці яго сялян і пачаў субсідзіраваць школу. У 1803 г. у ёй вучыліся 40 хлопчыкаў, з іх 22 – дзеці духавенства і 18 – дзеці сялян. У канцы XVIII ст. за кошт духавенства ўзніклі

8 Белецкий, А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа... С. 105.

9 РДГА. Ф. 733. Воп.95. Адз.зах. 380. Арк. 79; НГАБ. Ф. 2507. Воп. 1. Адз.зах. 1. Арк. 86.

10 Мальдзіс, А. Забельскі дамініканскі калегіум / А. Мальдзіс // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996. С. 391.

11 Белецкий, А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа... С. 49; Нарысы гісторыі народнай асветы... С.94; РДГА. Ф. 733. Воп. 95. Адз.зах. 380. Арк. 18.

пачатковыя школы ў мястэчках Хоцімск, Студзянец, Дуброўна Магілёўскай губерні і інш.[12]

У некаторых мястэчках існавалі прыватныя навучальныя ўстановы. Напрыклад, *пансіён*[13] высакародных дзяўчын утрымлівала ў Чачэрску графіня Чарнышова. У ім у 1803 г. навучаліся 22 дзяўчыны. У канцы XVIII ст. былі адкрытыя немцам Цымерманам школа ў Шклове, Лінкам і яго жонкаю мужчынскі і жаночы пансіёны ў Дуброўне[14].

Заслугоўвае ўвагі навучальная ўстанова, якая ўвайшла ў гісторыю як Шклоўскі кадэцкі корпус. Вучэльню заснаваў С. Зорыч у 1778 г. Колькасць выхаванцаў імкліва павялічвалася: ад 30 у першыя гады да 300 к пачатку XIX ст. (у гэты час у вучылішчы працавалі адзін інспектар, адзін наглядальнік, чатыры паліцэйскія, адзін камісар, два камісіянеры, 29 настаўнікаў, адзін доктар, адзін лекар, адзін капельмайстар, 24 музыканты, 82 служкі з прыгонных сялян)[15]. Тэрмін навучання складаў 8 гадоў, праграма была шырокай[16]. Выхаванцы ўладкоўваліся на ваенную ці цывільную службу, адразу пасля заканчэння вучобы ўзводзіліся ў ранг афіцэраў. У 1788–1793 гг. для вучылішча ўзведзены мураваны будынак у стылі ранняга класіцызму. Вучылішча мела значную бібліятэку[17], музей, карцінную галерэю, прыгонны аркестр, тэатр з балетнай трупай, дзейнічаў шпіталь. Кадэцкі корпус знаходзіўся ў Шклове да 1800 г., а пазней пад рознымі назвамі (Гродзенскі, Смаленскі, Маскоўскі і інш.) праіснаваў да 1918 г.[18]

Рэформа асветы ў Расійскай імперыі пачалася ў 1803–1804 гг. Было ўтворана Міністэрства народнай асветы. Еўрапейскую частку краіны падзялілі на 6 вучэбных акруг. Беларускія губерні ўвайшлі ў склад Віленскай вучэбнай акругі. Папячыцелем яе прызначылі буйнога магната Адама Чартарыйскага. Вучэбным і адміністрацыйным цэнтрам акругі з'яўляўся Віленскі універсітэт. У імперыі склалася новая адзіная сістэма агульнаадукацыйных школ: прыходскія

[12] Белецкий, А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа… С. 54.

[13] *Пансіёны жаночыя* – манастырскія альбо прыватныя навучальныя ўстановы з агульнаадукацыйным курсам у канцы XVI – сярэдзіне XIX ст.

[14] РДГА. Ф.733. Воп.95. Адз. зах. 380. Арк. 18; Белецкий, А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа… С. 85.

[15] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 719. Арк. 155.

[16] *Табліца 39.*

[17] *Табліца 40.*

[18] Лукашэвіч, А. Шклоўскае шляхетнае вучылішча / А. Лукашэвіч, А. Самусік // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 2. Мінск, 2003. С. 206.

вучылішчы – уезныя вучылішчы – гімназіі – універсітэт. Мелася пераемнасць у курсах навучання паміж уезнымі вучылішчамі, гімназіямі і універсітэтам. Кіраўніцтва імі было строга цэнтралізаванае.

Даследчыкі падкрэсліваюць значны ўплыў спадчыны Адукацыйнай камісіі на праект расійскай рэформы. Такім чынам, у заходніх і цэнтральных землях Беларусі адукацыйныя пераўтварэнні пачатку XIX ст. не адрозніваліся радыкалізмам, тут патрэбны былі толькі ўдасканальванні існуючай сістэмы адукацыі, створанай у часы Рэчы Паспалітай. Неабходна адзначыць, што уезныя вучылішчы Віленскай навучальнай акругі мелі шэраг асаблівасцей у параўнанні з расійскімі аналагамі: у афіцыйным справаводстве для іх існаваў тэрмін "уезныя вучылішчы з гімназічным курсам навук", выпускнікі іх мелі права паступаць у ВНУ, тут захоўваліся праграмы Адукацыйнай камісіі, у большым аб'ёме вывучаліся прававыя навукі, фізіка, геаметрыя, прыродазнаўства, логіка, дадаткова выкладаліся польская мова (руская мова вывучалася як замежная), гісторыя Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага, каморніцтва, астраномія, хімія, садаводства, батаніка, тэорыя вакцынацыі, сельская гаспадарка і архітэктура. Пасля рэарганізацыі ў 1826 г. праграмы беларускіх уезных вучылішчаў былі набліжаны да агульнаімперскіх. У Віленскай акрузе ўезныя вучылішчы былі пазбаўлены права рыхтаваць да паступлення ў ВНУ. Толькі ўезныя вучылішчы дамініканцаў у Гродне і базыльянаў у Жыровічах атрымалі статус гімназіі[19].

У 1804 г. у Беларусі (2600 тыс. жыхароў) было 33 сярэднія (гімназіі) і няпоўныя сярэднія (уезныя) вучылішчы, каля 130 прыходскіх вучылішчаў (ніжэйшыя пачатковыя навучальныя ўстановы ў межах царкоўных праваслаўных прыходаў або каталіцкіх парафій). Улік пачатковых школ не быў у Расіі такім дасканалым, як сярэдніх. Афіцыйная статыстыка Віленскай навучальнай акругі абмяжоўвалася навучальнымі ўстановамі, якія падпарадкоўваліся Міністэрству народнай адукацыі (МНА). На кожныя 76 тыс. жыхароў прыходзілася адно ўезнае вучылішча ці гімназія, і на 20 тыс. – адно прыходскае вучылішча[20]. Такім чынам, сетка навучальных устаноў была вельмі рэдкай. Палажэнне мястэчак у ёй выглядала наступным чынам.

У 1804 г. з усёй колькасці прыходскіх вучылішчаў (130) у мястэчках размяшчаліся 72: у беларускіх уездах Віленскай губерні – 4, у Гродзенскай губерні – 35, Мінскай – 23, Магілёўскай – 8, у беларускіх

---

19 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 364.

20 Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. ...: Дис. ... канд. ист. наук / В.С. Поссе; АН БССР. Ин-т истории. Минск, 1963. С. 127.

уездах Віцебскай губерні – 2. Колькасць настаўнікаў у местачковых прыходскіх вучылішчах складала 76, вучняў – 929 (838 хлопчыкаў і 91 дзяўчынка)[21].

У залежнасці ад крыніцы матэрыяльнага забеспячэння пачатковыя вучылішчы ўмоўна можна падзяліць на тры асноўныя групы: памешчыцкія, абывацельскія (ці мяшчанскія) і манастырскія.

Арганізацыя памешчыкамі пачатковых школ у сваіх вотчынах для навучання дзяцей прыгонных сялян – з'ява даволі распаўсюджаная ў разглядаемы перыяд. Як правіла, такія школы адкрываліся ў мястэчках, якія з'яўляліся цэнтрамі маёнткаў. Ужо ўзгадвалася графіня Чарнышова, якая за свой кошт утрымлівала пачатковую школу для "бедных сялянскіх дзяцей" у м. Чачэрск. У 1804 г. у ёй вучыліся 35 чалавек. У 1784 г. у Гомелі была заснавана пачатковая школа, якая належала Румянцаву, у 1804 г. у ёй было 18 вучняў. У 1786 г. Чарнышовай у Чачэрску было адкрыта другое пачатковае вучылішча для "шляхецкіх дзяцей", запрошаны для выкладання езуіты, у 1804 г. у ім вучыліся 30 чалавек. Утрымліваў прыходскую школу ў м. Свержань князь Радзівіл (у 1803 г. было 50 вучняў). Вучылішча ў Косаве знаходзілася на ўтрыманні Сапегі, у Дзевяткавічах – Слізня. У 1811 г. Адам Храптовіч арганізаваў школу ў м. Нягневічы Навагрудскага ўезда. Разлічана яна была на 100 сялянскіх дзяцей. У першы год тут вучылася каля 50 дзяцей[22]. У Койданаве пры кальвінскім зборы, які з часу заснавання ў XVI ст. ніколі не быў заняты вернікамі іншых канфесій, да сярэдзіны XIX ст. існавала двухкласная школка, фундаваная ў 1641 г. Багуславам Радзівілам[23].

Абывацельскія ці мяшчанскія пачатковыя школы ўтвараліся ў мястэчках ці невялікіх гарадах з мэтай падрыхтоўкі элементарна пісьменных людзей для патрэб мясцовага гандлю і прамысловасці. Гэта былі найбольш прымітыўныя па арганізацыі і змесце навучання і даволі стракатыя па сваім сацыяльным складзе прыходскія школы. У выніку абыякавых адносін расійскага самадзяржаўя да пачатковай школы рамеснікі, дробныя гандляры, ніжэйшае праваслаўнае духавенства, разначынцы і іншыя прадстаўнікі местачковага насельніцтва, якія жадалі і мелі хоць якую-небудзь магчымасць даць элементарную адукацыю сваім дзецям, вымушаны

---

21 Падлічана па: РДГА. Ф.733. Воп.95. Адз. зах. 380. Арк. 121–126.

22 Сборник материалов для истории просвещения в России… Т. 2. СПб., 1897. Д. 202; РДГА. Ф. 733. Воп. 95. Адз. зах. 380. Арк. 2; Из истории народного образования на Гродненщине (конец XVIII – начало XX в.). Гродно, 1990. С. 3.

23 Ельскі, А. Гарады і мястэчкі / А. Ельскі // Выбранае / уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука. Мінск, 2004. С. 279.

былі на свае сродкі адкрываць і ўтрымліваць школы. Арганізацыя такіх вучылішчаў звычайна адбывалася ў выглядзе своеасаблівага дагавору паміж бацькамі вучняў і духавенствам адпаведнага веравызнання. Царква, духавенства давалі школе настаўніка, памяшканне для заняткаў, забяспечвалі навучэнцаў падручнікамі, а бацькі плацілі за ўсё гэта грашыма ці натуральнымі прадуктамі. "Складкай рамеснікаў евангеліцкага веравызнання" ўтрымлівалася прыходскае вучылішча ў м. Вішнева Ашмянскага ўезда Віленскай губерні, у 1804 г. у ім было 7 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. "Коштам абывацеляў" утрымлівалася пачатковая школа ў м. Свержань Мінскага ўезда, у 1803/1804 г. у ёй налічвалася 23 хлопчыкі і 11 дзяўчынак. У Магілёўскай губерні падобныя школы існавалі ў мястэчках Славені, Хоцімск, Касцюковічы[24], у Гродзенскай губерні – у Вялікай Бераставіцы, Крошыне, Дзярэчыне, Міры і інш.[25]

Прыходскія вучылішчы, утвораныя за кошт жыхароў мястэчак і невялікіх гарадоў, былі найбольш дэмакратычнымі па складзе навучэнцаў. У многіх з іх займаліся прадстаўнікі розных сацыяльных груп местачковага ці гарадскога насельніцтва – дзеці сялян, купцоў і мяшчан, духавенства і дваранства (напрыклад, у 1827 г. у Міры ў школе пры касцёле вучыліся дзеці аднаго селяніна, 24 мяшчан і трох дваран[26]), бацькі якіх маглі самі плаціць за навучанне ў школе, ці такія дзеці, якія атрымоўвалі элементарную адукацыю шляхам збірання міласціны, як гэта мела месца ў трох прыходскіх школах м. Дуброўна[27].

Да трэцяй групы прыходскіх вучылішчаў адносіліся элементарныя навучальныя ўстановы, якія знаходзіліся на ўтрыманні манастыроў базыльянскага і розных каталіцкіх ордэнаў. Напрыклад, у м. Глуск Бабруйскага ўезда і м. Будслаў Вілейскага ўезда ўтрымлівалі прыходскія вучылішчы бернардзінцы, у м. Дунілавічы Вілейскага ўезда, м. Стоўбцы Мінскага ўезда, м. Ушачы Лепельскага ўезда, м. Зембін Барысаўскага ўезда – дамінікане, у м. Мядзель Вілескага ўезда – кармеліты, у м. Асвея Дрысенскага ўезда – місіянеры, у м. Чарэі Сенненскага ўезда, м. Казіміраўка Бабруйскага

---

24 РДГА. Ф. 733. Воп. 95. Адз. Зах. 380. Арк. 121; Сборник материалов для истории просвещения в России… Т. 2. СПб.,1897. д.202.

25 ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 1878. Арк. 1–28.

26 Саслоўны склад навучэнцаў некаторых вучылішчаў мястэчак паказаны ў *табліцы 41*.

27 Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. … С. 137.

ўезда, м. Свержань Мінскага ўезда – базыльяне[28]. У Гродзенскай губерні базыльяне ўтрымлівалі пачатковыя школы ў Міры, Ружанах і Антопалі, піяры – у Зэльве, францысканцы – у Лапеніцы, бернардзінцы – у Ружанах[29]. Мэтай манастырскіх пачатковых школ, як правіла, з'яўлялася падрыхтоўка навучэнцаў да паступлення ў старэйшыя класы сярэдніх манастырскіх навучальных устаноў. Так, у Асвейскай пачатковай школе рыхтавалі да працягвання вучобы ў Забельскім дамініканскім і Полацкім езуіцкім калегіумах. Вучыліся ў манастырскіх прыходскіх вучылішчах у большасці выпадкаў дзеці духавенства і шляхты. Былі і выключэнні. Так, у 1820 г. манахі-картэзіянцы ў Бярозе заснавалі прыходскае вучылішча "для обучения детей бедного состояния обоего пола не только из крестьян, живущих в местечке, но из бедной шляхты, кто пожелает". Манахі выдзелілі дом пад вучылішча, дровы для яго ацяплення, прызначылі настаўніку заробак у 45 руб. серабром і харчовыя прыпасы. У першы год тут займаліся 30 хлопчыкаў і 20 дзяўчынак: "Дети сии в осени и зимою будут обучаться по-польски и по-российски моральности, читать и писать, арифметике, а при том девицы разных работ, на весну и лето будут отпускаться до своих родителей для нужных работ"[30].

У прыходскіх вучылішчах абавязковым было навучанне дзяцей чытанню, пісьму і лічэнню, але настаўнік па сваім жаданні мог пашырыць кола ведаў. У ведамасці аб навучальных установах Гродзенскай губерні за 1830 г. адзначаецца, што ў прыходскіх школах Вялікай Бераставіцы, Свіслачы, Зэльвы, Мілейчыц, Антопаля і інш. вучэбная праграма складалася з катэхізіса, чытання, чыстапісання, арыфметыкі, рускай і польскай моў. У Росі, акрамя таго, вывучалі "навуку маральную", Мсцібаве – геаграфію, Воўпе – лацінскую мову[31].

Адметныя рысы мела пачатковая прыходская школа ў Капылі. Яе асаблівасць заключалася ў тым, што яе нельга аднесці ні да адной з названых вышэй трох груп прыходскіх вучылішчаў. Як паказваюць матэрыялы візітацыі школ Мінскай губерні за 1819 г., школа ў Капылі была заснавана ў 1815 г. і ўтрымлівалася коштам прэлата Шантыра, які вызначыў для настаўніка заробак у 200 польскіх злотых. Размяшчалася школа ў доме, які належаў да касцёла. Вучні складаліся з дзяцей featureнага веравызнання: дзеці навакольных шляхецкіх

[28] РДГА. Ф. 733. Воп. 95. Адз. Зах. 380. Арк. 121–126.

[29] РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 200–205, 260–261; ДГА Літвы. Ф. 567. – Воп. 2. Адз. зах. 1878. Арк. 1–28.

[30] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2197. Арк. 1.

[31] РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Адз. зах. 1021. Арк. 92–103; Wołyniak. Z przesłości powiatu Wołkowyskiego. Kraków, 1905. S. 66, 67.

засценкаў – каталікі, дзеці капыльскіх мяшчан – грэка-расійскага вызнання. Візітатар Юзаф Твардоўскі быў здзіўлены наяўнасцю сярод вучняў татарына Аўгустына (Хусэйна) Байрашэўскага. Настаўнік капыльскай школы Цырылій Бабравіцкі вучыўся ва ўезным вучылішчы ў Сямяцічах Беластоцкай вобласці. Візітатар ахарактарызаваў настаўніка як "здольнага ў навуцы, з правільным пісьмом", а праграму навучання апісаў наступным чынам: "Вучыць дзяцей чытаць і пісаць па-польску і па-расійску, першым дзеям арыфметыкі, а вучняў каталікоў – навуцы хрысціянскай". Настаўнік скардзіўся на недахоп падручнікаў і кніжак. Большасць вучняў наведвала школу толькі зімой, а летам дзеці дапамагалі бацькам па гаспадарцы. Так, візітатар зафіксаваў, што ў чэрвені 1819 г. знайшоў у школе толькі 11 вучняў з 29. Вучні з наваколля размяшчаліся па розных дамах мястэчка, кошты кватаравання складалі 1 руб. серабром на квартал, а разам з харчаваннем – 6 руб. серабром. Некаторых вучняў прэлат размяшчаў па дамах, якія былі пад юрысдыкцыяй плябаніі, а гаспадароў за гэта вызваляў ад часткі чыншу. Верагодна, на вучылішча ўскладваліся абавязкі аказваць насельніцтву ветэрынарныя паслугі, бо візітатар адзначыў у сваёй справаздачы, што настаўнік не ведае спосабаў прышчэпак супраць каровінай воспы[32].

Такім чынам, амаль усе прыходскія вучылішчы Беларусі, у тым ліку і мястэчковыя, можна лічыць канфесійнымі навучальнымі ўстановамі, таму што кожнае з іх абслугоўвала дзяцей пераважна аднаго якога-небудзь веравызнання, навучанне і выхаванне ў іх насілі ў асноўным рэлігійны характар. Нельга ў поўнай меры назваць гэтыя вучылішчы бессаслоўнымі, агульнадаступнымі ўстановамі. Гэта была ў асноўным платная школа, недаступная бедным колам насельніцтва. Да таго ж далёка не ўсе ў той час разумелі неабходнасць асветы і мелі ў гэтым патрэбу. Таму колькасць вучняў была невялікай (у Капылі, напрыклад, колькасць насельніцтва ў 1821 г. складала каля 3000 чалавек, пачатковую школу наведвалі 36 дзяцей мяшчан і навакольнай шляхты[33]), наяўныя пачатковыя вучылішчы працавалі з перапынкамі (так, у 1820 г. з 55 школ Мінскай губерні функцыяніравалі толькі 30[34]). Станоўчае значэнне прыходскіх вучылішчаў заключалася ў тым, што яны давалі пачатковую адукацыю і адкрывалі доступ мястэчковаму насельніцтву ў сярэднія на-

---

32 Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. T. X. Kraków, 1904. S. 342–343.

33 Dzieje dobroczynności. 1821. Rok II. S. 818, 819.

34 Там жа. 1820. Rok I. S.171, 172.

вучальныя ўстановы. Акрамя таго, яны садзейнічалі эканамічнаму развіццю мястэчак.

Згодна з "Прадпісаннем арганізацыі вучылішчаў у акрузе Імператарскага Віленскага універсітэта", апублікаваным 20 жніўня 1804 г., ствараліся чатырохгадовыя ўезныя вучылішчы і сямігадовыя гімназіі. Гэтыя пераўтварэнні ў значнай ступені закранулі і сярэднія навучальныя ўстановы, што знаходзіліся ў мястэчках. У 1804 г. Жыровіцкае базыльянскае вучылішча было рэарганізавана ў гімназію. На вучэбны план уезных вучылішчаў пераводзіліся Барунскае базыльянскае, Відзскае лютэранскае, Шчучынскае піярскае, Беразвечскае базыльянскае, Лужацкае піярскае, Талачынскае базыльянскае, Ушацкае і Забельскае дамініканскія вучылішчы. Было ўзноўлена ўезнае вучылішча ў м. Паставы, якое было зачынена Мінскім губернскім праўленнем 27 жніўня 1798 г.[35] У 1805 г. была заснавана гімназія ў м. Свіслач, атрымаўшая афіцыйную назву Гродзенская губернская гімназія. Мястэчкі, такім чынам, занялі значнае месца ў сістэме сярэдняй адукацыі на Беларусі. З шасці гімназій і 17 уезных вучылішчаў, што былі адкрыты ў адпаведнасці з новым статутам на тэрыторыі Беларусі, у мястэчках знаходзіліся дзве гімназіі (Жыровічы, Свіслач) і 10 уезных вучылішчаў (Баруны, Шчучын, Беразвечча, Лужкі, Талачын, Ушачы, Валынцы (Забелы), Паставы, Лыскава, Любяшоў). У 1804–1805 гг. у местачковых сярэдніх навучальных установах вучылася 1414 чалавек[36]. Спынімся на некаторых з іх падрабязней.

Чаму менавіта м. Свіслач было абрана месцам для адкрыцця Гродзенскай губернскай гімназіі? Па-першае, Свіслач знаходзілася ў цэнтры Гродзенскай губерні. Па-другое, згодна з традыцыямі Асветніцтва, школа павінна была знаходзіцца бліжэй да прыроды і далей ад спакус гарадскога жыцця. Акрамя таго, уладальнік Свіслачы граф Вінцэнт Тышкевіч аказаў вялікую матэрыяльную дапамогу і падтрымку пры стварэнні гімназіі. Ён ахвяраваў гімназіі будынак і грошы на яго мураваную перабудову (архітэктар Шульц)[37], а таксама завяшчаў 20 тыс. руб. серабром. Паводле ўспамінаў Л. Патоцкага, "паліва для гімназіі дастаўлялася са свіслацкага двара, а для бяднейшых студэнтаў Тышкевіч наймаў пакоі з улас-

---

35 Сборник постановлений по Министерству народного просвещения. Т. 1. СПб., 1875. С. 246; Крачковский, Ю.Ф. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования. 1803–1832 / Ю.Ф. Крачковский. Отдел 1. Вильна, 1903. С. 265.

36 *Табліца 38.*

37 *Малюнак 10.*

най кішэні, а многіх з іх утрымліваў за свой кошт поўнасцю". Не толькі матэрыяльна падтрымліваў гімназію ўладальнік Свіслачы. "Ён дбаў пра маральнасць моладзі. З дапамогай заведзенай ім паліцыі яму былі вядомыя паводзіны кожнага студэнта, можа лепш, як школьнай уладзе. Ад інспектара гімназіі ён дамагаўся, каб вінаватага пакаралі за найменшую правіннасць. Часта нават прысутнічаў разам з настаўнікамі на студэнцкіх судах. Тых, што вучыліся добра і мелі прыкладныя паводзіны, умеў вылучаць сярод іншых, рабіў ім неспадзяванкі, малодшых абдорваў садавінаю або цукеркамі, старэйшых добрай і карыснай кніжкаю. Кожны год увесну наладжваў для студэнтаў маёўку, завітваў на экзамены і падчас урачыстага акту сам раздаваў узнагароды. Калі праз некалькі гадоў сустракаўся з былым вучнем свіслацкіх школаў, вітаўся з ім як са сваім і ніколі не адмовіў таму, хто меў патрэбу ў дапамозе і пратэкцыі"[38].

Выкладчыкі і навучэнцы Свіслацкай гімназіі складалі значную частку насельніцтва мястэчка. Для вызначэння ўдзельнай вагі выкладчыкаў і навучэнцаў сярод усіх жыхароў Свіслачы возьмем 1816–1818 гг. Сталае насельніцтва мястэчка складала 614 чалавек (у 1816 г.), выкладчыкі і вучні гімназіі – 328 (у 1818 г.), разам – 942 чалавекі[39]. Атрымліваецца, што 35% жыхароў былі звязаны з навукай і асветай.

Кіраўніцтва Віленскага універсітэта паклапацілася аб высокім узроўні выкладання ў Свіслацкай гімназіі. Першым яе дырэктарам стаў Яцэк Крусінскі, доктар філасофіі, аўтар прац па методыцы выкладання матэматыкі і правядзення метэаралагічных назіранняў. Штат настаўнікаў падбіраўся з лепшых выпускнікоў Віленскага і часткова Варшаўскага універсітэтаў. Таму ўзровень выкладання ў гімназіі быў высокім, а праграма – шырокай і разнастайнай[40]. Гімназія забяспечвалася ўсім неабходным для ўладкавання вучэбнага працэсу на грошы В. Тышкевіча. Тут былі добра абсталяваныя фізічны, матэматычны, нумізматычны і мінералагічны кабінеты, багатая бібліятэка[41].

У фондах ДАРФ у Маскве захоўваецца "Справа аб экзаменах у Свіслацкай гімназіі. 1840 г." Сутнасць яе заключалася ў разглядзе накіраванага на імя імператара даносу на дырэктара гімназіі Гра-

---

[38] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі; укл., прадмова, камент. А.М.Філатавай. Мінск, 1997. С. 40.

[39] РДГА. Ф.733. Воп. 62. Адз. зах. 694. Арк. 131–136.

[40] *Табліца 39.*

[41] *Табліца 40.*

цэрта, які нібыта быў невукам, чым карысталіся студэнты падчас экзаменаў, атрымоўваючы высокія адзнакі і медалі: "Во время экзаменов в Свислоцкой гимназии ученики до такой степени пользовались невежеством Директора, что один из них, не найдя условно предназначенного для него билета вынул случайно билет о географии Австралии и не имея об оной понятия начал говорить о Сахаре и получил 5 баллов. Таковым невежеством пользовались и многие ученики с помощью профессоров, а ученик Горбачевский, также обманывавший Директора, получил серебряную медаль"[42]. Звесткі, якія былі сабраныя з гэтай нагоды, сведчылі, што Грацэрт скончыў Віленскі універсітэт, меў ступень кандыдата, з 1838 г. займаў пасаду дырэктара гімназіі ў Свіслачы, а Гарбачэўскі належаў да лепшых яе выхаванцаў. Для агляду гімназіі быў накіраваны дырэктар Віленскага дваранскага інстытута Галер, які ў сваёй справаздачы адзначыў: "Обвинения Грацерта в невежестве и злоупотреблениях не имеют никакого основания, носят на себе в полной мере печать клеветы... и личной недоброжелательности сочинителя оной статьи к Директору... Касательно учебной части я при настоящем обозрении гимназии еще более прежнего убедился как в особенно похвальном усердии преподавателей, так и в прилежании учащихся..."[43].

Дзякуючы гімназіі м. Свіслач вядома ў гісторыі грамадска-палітычнага руху[44]. У 1819 г. тут узніклі таварыствы "Навуковае" і "Маральнае"[45]. З рапарту рэктара Віленскага універсітэта міністру духоўных спраў і народнай асветы ад 25 кастрычніка 1825 г. вынікае, што "в 1819 г. ученики VI класса, коих числилось 11, в свободных от лекций часах собирались в лекционном зале и составляя товарищество читывали между собою стихи и речи, между таковыми были весьма неприличного и хулы достойного содержания..."[46]. З 1822 г. у Свіслацкай гімназіі дзейнічала тайнае таварыства "Заране", якое было раскрыта ў кастрычніку 1823 г. 46 чалавек былі арыштаваны ці трапілі пад нагляд паліцыі, частка выкладчыкаў была пераведзена ў іншыя навучальныя ўстановы. Але гэтыя меры не зменшылі напружанасці ў Свіслачы. У студзені 1825 г. рэктар Віленскага

[42] ДАРФ. Ф. 109. Воп. 16. Адз. зах. 3. Арк. 1.

[43] Там жа. Арк. 5–7.

[44] Швед, В.В. Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.) /В.В. Швед. Гродна: ГрДУ, 2001. С. 222–225.

[45] Самусік, А. Свіслацкая гімназія / А. Самусік // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. І. С. 262–263.

[46] АР Бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Адз. зах. 6400. Карэспандэнцыя Юзафа Твардоўскага, рэктара Віленскага універсітэта. Арк. 456.

універсітэта загадаў дырэктару гімназіі забараніць сходы вучняў, а таксама і мясцовых жыхароў. Вайсковаму патрулю загадвалася бесперапынна сачыць за гімназіяй, што не перашкодзіла тайнаму гуртку “Ваенныя сябры” заснаваць у 1825 г. тут свой філіял. У час паўстання 1830–1831 гг. рабілася спроба падрыхтаваць у Свіслачы паўстанне з удзелам гімназістаў, але план не быў здзейснены[47].

Такім чынам, м. Свіслач стала адным з галоўных адукацыйных і культурных цэнтраў Гродзеншчыны. Тут атрымалі адукацыю вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі і Польшчы XIX ст., у тым ліку Напалеон Орда, Кастусь Каліноўскі і многія іншыя. Свіслацкая гімназія перажыла некалькі выпрабаванняў, звязаных з палітычнымі падзеямі. Першы моцны ўдар па ёй быў нанесены рэпрэсіямі ў сувязі з адкрыццём тайных таварыстваў, наступны – у 1830-я гг., калі ўлады перакройвалі ўсю сістэму навучання ў Літве і Беларусі. Неаднаразова разглядалася пытанне аб закрыцці Свіслацкай гімназіі. Канчаткова мястэчка “асірацела” ў 1851 г., калі гімназію перавялі ў Шаўлі.

Неабходна звярнуць увагу на тое, што знаходжанне гімназіі ў Свіслачы станоўча ўплывала на гаспадарчае жыццё мястэчка. Вельмі важнай прывілегіяй свіслаччан было вызваленне іх ад воінскага пастою. Калі ў 1823 г. у сувязі з барацьбой улад з тайнымі студэнцкімі таварыствамі прымалася рашэнне размясціць у Свіслачы роту салдат на чале са штаб-афіцэрам, каб мець нагляд за гімназістамі, то ў перапісцы паміж чыноўнікамі канстатавалася, што мястэчка “по нахождению в оном гимназии освобождено от постоя”[48].

Аб значнай ролі наяўнасці гімназіі ў эканоміцы Свіслачы яскрава сведчыць скарачэнне прыбыткаў ад корчмаў пасля яе закрыцця. Так, у жніўні 1850 г. на таргах піцейны продаж дастаўся на 4 гады, з 1 студзеня 1851 г., мяшчанам Ратнеру і Гольдбергу за плату ў дзяржаўны скарб па 1745 руб. серабром у год. Аднак у снежні 1850 г. яны нечакана перадалі свае правы на піцейны продаж купцу Булькаўштэйну з Беластока і мешчаніну Ахноху з Бераставіцы. Трэба адзначыць, што зрабілі яны гэта своечасова, бо з 1 верасня 1851 г. гімназія ў Свіслачы была закрыта, што рэзка змяншала прыбыткі ад утрымання піцейнага продажу. Натуральна, не з-за таго, што асноўны даход прыносілі гімназісты. Пасля страты гімназіі мястэчка стала менш бойкім. Магчыма, гэтыя змены і прадбачылі хітрамудрыя свіслацкія мяшчане. Расчараваныя Булькаўштэйн і Ахнох звярнуліся

---

47 Самусік, А. Свіслацкая гімназія... С. 262–263.

48 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах. 246. Арк. 154.

ў красавіку 1853 г. у сенат з прашэннем аб вызваленні іх ад утрымання піцейнага продажу ў Свіслачы, у якім яны скардзіліся на "ветхость корчем и убытки от сокращения продажи питей за уменьшением народонаселения по случаю вывода из м. Свислочи гимназии"[49]. Сенат не знайшоў законных падстаў для задавальнення хадайніцтва.

Наяўнасць гімназіі ў Свіслачы адкрывала перспектывы набыцця мястэчкам статуса горада. І такое пытанне ўздымалася. Так, у 1837 г., калі збіраліся звесткі аб канфіскаваных маёнтках, Гродзенская казённая палата знайшла магчымым пераўтварыць ў гарады мястэчкі Дзятлава, Ружаны і Свіслач. У даведцы адзначалася, што м. Свіслач можа быць пераўтворана ў горад з прычыны заснавання гімназіі, у якой збіраецца немалая колькасць вучняў. Ад гімназістаў і ад прыязджаючых бацькоў жыхары маюць немалыя выгады. Ад розных асоб паступала шмат просьб аб дазволе будаваць дамы нават на ўмовах павышанага чыншу за зямельныя пляцы. Усё гэта ўзмацняла прамысловасць і гандаль. Акрамя таго, вялікія прыбыткі прыносіў існуючы ў Свіслачы кірмаш. Іншымі словамі, мясцовыя жыхары праз казённую палату даводзілі, што яны ў стане ўтрымліваць органы гарадскога самакіравання. Аднак гродзенскі грамадзянскі губернатар не падтрымаў гэтай ініцыятывы, бо не бачыў патрэбы ў заснаванні новых гарадоў[50].

Спробай аднавіць у Свіслачы гімназічную адукацыю было стварэнне ў 1860 г. на базе мясцовага ўезнага вучылішча першай у Расійскай імперыі чатырохкласнай прагімназіі (разам з Маладзечанскай). Вучэбны курс яе адпавядаў першым чатыром класам поўнай гімназіі, куды потым выпускнікоў прагімназіі прымалі без экзаменаў у пяты клас. Прагімназія ў Свіслачы была зачыненая пасля задушэння паўстання 1863–1864 гг.[51] Замест яе прадпісвалася адчыніць двухкласнае народнае вучылішча[52].

НГАБ у Гродне захавала справу "Аб адкрыцці ў маёнтку Свіслач школы аграномаў", якая ўтрымлівае праект стварэння на базе свіслацкай гімназіі земляробчай школы па ўзоры Горы-Горацкай. У пастанове Гродзенскай палаты дзяржаўных маёмасцей ад 13 верасня 1844 г. адзначалася: "К устройству агрономической школы в м. Свислочи благоприятствует в особенности, что в означенном местечке находится гимназия; самое же имение Свислочь <…> с

49 НГАБ у Гродне. Ф. 2. Воп. 6. Адз. зах. 11. Арк. 1-2.

50 Там жа. Ф.1. Воп. 4. Адз. зах. 663. Арк. 3–5 адв, 11, 12.

51 Самусік, А. Свіслацкая гімназія... С. 262–263.

52 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 13. Адз. зах. 1478. Арк. 12.

удобностью может быть назначена на ферму для практических занятий и опытов усовершенствованного хозяйства". Планавалася поўны курс навучання падзяліць на тры гады, на першы год колькасць выхаванцаў абмяжоўвалася 12 чалавекамі, аднак адзначалася, што "по мере распространения института количество их может быть увеличено"[53]. Такім чынам, м. Свіслач магло стаць і цэнтрам спецыяльнай прафесійнай адукацыі – агранамічнай. На жаль, лёс не пакінуў часу і ўмоў для ажыццяўлення гэтага праекта.

Вялікую ролю ў культурным жыцці Беларусі адыгрывала таксама м. Шчучын. У працы М. Балінскага і Т. Ліпінскага "Старажытная Польшча" Шчучын вызначаецца як значны цэнтр асветы, навукі і дабрачыннасці ў краі[54]. Росквіт асветы і навукі ў Шчучыне быў звязаны з дзейнасцю тут калегіума піяраў, які належаў да найбольш значных у Беларусі[55]. Ён быў заснаваны ў 1726 г. (па іншых звестках – у 1718 г.)[56]. У гэтым заключаецца вялікая заслуга перад Шчучынам Юзафовічаў-Глябіцкіх, якія на пачатку эпохі Асветніцтва дальнабачна зразумелі асноўныя тэндэнцыі культурна-гістарычнага развіцця свайго часу і паклалі іх у падмурак росквіту Шчучына. У якасці культурна-асветніцкага і навуковага цэнтра ён пачаў уцягваць у арбіту свайго ўплыву вялікую тэрыторыю паміж Гродна і Лідай. Тэрмін навучання ў калегіуме быў разлічаны на 6 гадоў. Высокі ўзровень падрыхтоўкі гарантаваў моцны падбор выкладчыцкіх кадраў, багаты кніжны фонд: бібліятэка піяраў у пачатку XIX ст. налічвала 2751 кнігу. Акрамя таго, выкладчыкі і студэнты маглі карыстацца вялікай бібліятэкай Сцыпіёнаў, а потым Друцкіх-Любецкіх. У 1776 г. Адукацыйная камісія адчыніла ў Шчучыне падакруговае вучылішча, яно таксама належала піярам і было трохкласным. Пазней яно атрымала статус уезнага, было спачатку чатырохкласным, затым шасцікласным. Школа мела фізічны кабінет, хімічную лабараторыю, геаметрычныя інструменты, тры глобусы, тэлескоп, атласы па старажытнай і сучаснай геаграфіі[57].

---

53 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 5. Адз. зах. 418. Арк. 20–22 адв.

54 Baliński, M. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym / M. Baliński, T.Lipiński. T. III. Warszawa, 1846. S. 261.

55 *Табліца 38.*

56 Łukaszewicz, I. Historyz szkół w Koronie i Wielkim Księstwie Litewskim / I. Łukaszewicz. T. 4. Poznań, 1851. S. 241; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кніга II. Мінск, 2003. С. 242.

57 Крень, И.П. Щучин: историко-экономический очерк / И.П. Крень, Я.Н. Мараш. Минск, 1989. С. 8; Сборник материалов для истории просвещения в России… Т. 1. СПб.,1893. С. 250; РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 205; Данскіх, С.У. Наш Шчучын / С.У. Данскіх. Гродна, 2001. С. 46–47.

Са шчучынскімі піярскімі навучальнымі ўстановамі звязаны імёны такіх вядомых навукоўцаў XVIII–XIX ст., як гісторык-археограф Мацей Доўгель, філосаф Казімір Нарбут, філосаф, логік і псіхолаг Анёл Доўгірд, біёлаг Станіслаў Баніфацый Юндзіл, сусветна вядомы геолаг, біёлаг, фізік Ігнат Дамейка і інш. Дзейнасць піяраў у Шчучыне, такім чынам, цалкам змяніла гісторыю мястэчка, пераўтварыўшы яго ў значны цэнтр навукі і асветы.

На ніве жаночай адукацыі ў Шчучыне актыўна працавалі сёстры міласэрнасці, колькасць вучаніц "шляхецкага стану" ў 1828 г. дасягнула 72.

Шчучынская піяры і сёстры міласэрнасці адыгралі важную ролю не толькі ў развіцці адукацыі, але і ў медыцынскай справе. Вядома, што пры шчучынскім піярскім калегіуме працавала адна са старэйшых у Беларусі аптэк, якая адкрылася ў 1773 г., а ў 1832 г. мела 821 найменне розных лекаў, бібліятэку ў 70 тамоў. У 1785 г. па ініцыятыве прафесара Станіслава Юндзіла быў разбіты адзін з лепшых у Беларусі батанічных садоў, што дазволіла пашырыць асартымент прапанаваных насельніцтву лекаў. Сёстры міласэрнасці ўтрымлівалі шпіталь[58].

Адной з лепшых навучальных устаноў у Віленскай акрузе з'яўлялася ўезнае вучылішча ў м. Любяшоў Мінскай губерні (цяпер у Валынскай вобласці Украіны). Піярскі калегіум быў тут заснаваны яшчэ ў 1693 г. Адукацыйная камісія стварыла на яго базе падакруговую школу. У часы расійскай рэформы спачатку тут было шасцікласнае ўезнае вучылішча з гімназічным курсам навучання, а з 1826 г. – чатырохкласнае. Любяшоўскае вучылішча мела вялікую бібліятэку, батанічны сад, лабараторыі, аптэку. Было скасавана ў 1834 г. Сярод найбольш знакамітых выхаванцаў гэтай навучальнай установы вылучаецца імя Тадэвуша Касцюшкі[59].

У Лыскаве з 1751 г. існавала школа каталіцкага закону місіянераў. У 1797 г. яна была пераўтворана ва ўезнае шасцікласнае вучылішча. Гэта была адзіная ў Беларусі сярэдняя навучальная ўстанова, якую ўтрымліваў гэты каталіцкі закон. Доўгі час ганаровым наглядчыкам Лыскаўскага вучылішча быў памешчык Біспінг, які падтрымліваў вучылішча грашовымі субсідыямі. У Лыскаве ў розныя гады вучылася ад 75 (1805 г.) да 127 (1833 г.) чалавек[60]. За 1804 г. захаваліся

---

[58] Самусік, А.Ф. Навучальныя ўстановы ў паўсядзённым жыцці гарадоў... С. 252; Данскіх, С.У. Наш Шчучын... С. 53–55.

[59] Самусік, А.Ф. Любяшоўскі піярскі калегіум / А.Ф. Самусік // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 415.

[60] РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 201; ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 1878.

звесткі аб сацыяльным складзе навучэнцаў: тут вучыліся 80 дзяцей дваран, 2 – купцоў, 3 – мяшчан, 2 – духавенства, 1 – разначынцаў[61]. У 1835 г. Лыскаўскае вучылішча апошні раз узгадваецца ў справаздачах.

Буйнейшым базыльянскім асяродкам на Беларусі з'яўляліся Жыровічы. Тут яшчэ ў 1631 г. базыльяне заснавалі школу, якая атрымала прывілей караля Аўгуста II ад 11 жніўня 1710 г.[62] З гэтага часу ў мястэчку дзейнічалі ніжэйшая і філасофская базыльянскія школы, ператвораныя Адукацыйнай камісіяй у падакруговае вучылішча. У 1804 г. яно было рэарганізавана ў гімназію, але пазней ў справаздачах фігуруе як уезнае вучылішча. З 1826 г. яно зноў атрымала статус гімназіі[63]. У 1828 г. па ініцыятыве Іосіфа Сямашкі на яе аснове ў Жыровічах была заснавана уніяцкая Літоўская духоўная семінарыя, якая пасля скасавання уніі стала праваслаўнай. У справаздачы аб духоўных вучылішчах Гродзенскай губерні за 1839 г. прыведзены звесткі аб размешчаных у Жыровічах Літоўскай епархіяльнай семінарыі (8 выкладчыкаў, 141 навучэнец на казённым кошце, 65 – на ўласным) і ўезным прыходскім і дзячкоўскім вучылішчы (6 выкладчыкаў, 58 навучэнцаў на казённым кошце, 103 – на ўласным)[64]. У 1845 г. семінарыя была пераведзена ў Вільню, а ў Жыровічах дзейнічала духоўнае вучылішча (у 1858 г. – 16 выкладчыкаў, 130 навучэнцаў)[65]. Адзначым, што з-за вялікай колькасці навучэнцаў не ўсе з іх маглі размясціцца непасрэдна ў памяшканнях вучылішча, частка здымала кватэры ў мястэчку[66].

Адным з буйнейшых базыльянскіх цэнтраў у Беларусі ў XVII – першай трэці XIX ст. з'яўлялася і м. Баруны Ашмянскага ўезда. Барунскае вучылішча, падакруговае ў часы дзейнасці Адукацыйнай камісіі, уезнае ў першай трэці XIX ст., праіснавала да 1831 г. Тут займалася ад 140 да 200 юнакоў, найперш сыноў шляхты з Ашмянскага і суседняга ўездаў. Вучні жылі ў дамах мяшчан і знаходзіліся пад наглядам гувернёраў. Школа размяшчалася ў асобным будынку, мела бібліятэку (папаўнялася выданнямі Віленскіх прыватных друкарняў і кнігарняў Юзафа Завадскага і Францішка Марыца), матэматычныя

Арк. 9–10.

61 ДГА Літвы. Ф. 567.–Воп. 2. Адз. зах. 1876.

62 РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 204.

63 ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 1878. Арк. 3–4.

64 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 4. Арк. 65.

65 Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч.2. Приложения. СПб., 1863. С. 229, 254.

66 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 28. Адз. зах. 708. Арк. 15.

інструменты, шэсць прафесараў: лаціны, арыфметыкі, красамоўства, гісторыі, фізікі і матэматыкі, якія штодня па чарзе выкладалі свае прадметы ва ўсіх класах. Вучылі таксама геаграфіі, батаніцы, праву, эканоміцы, гісторыі Святога Пісання, сельскай гаспадарцы, французскай, нямецкай, а з 1800 г. – расійскай мове. Кожны вучэбны год завяршаўся публічнымі экзаменамі. Барунская базыльянская школа адыграла важную ролю ў развіцці асветы і праславілася сваімі выхаванцамі, якія пакінулі след ў навуцы, культуры, грамадскім жыцці Беларусі, Літвы і Польшчы (матэматык, прафесар Віленскага універсітэта Антоні Вырвіч, пісьменнік, філосаф Ігнат Ходзька, гісторык, публіцыст Леанард Ходзька, паэт, перакладчык, публіцыст Антон Адынец, паэт, перакладчык Юльян Корсак і інш.)[67].

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю местачковых школ у 1812 г. Школьныя будынкі ператвараліся захопнікамі ў казармы, лазарэты, турмы або зусім разбураліся. У Відзах, напрыклад, школьнае памяшканне разабралі на хлебныя печы. Беразвецкае вучылішча было занята французамі пад лазарэт, “бібліятэка значна пашкоджана, матэматычныя і фізічныя прылады зусім раскрадзены”. Асабліва заняпала пачатковая школа. У канцы 1813 г. папячыцель акругі Адам Чартарыйскі вымушаны быў напісаць дакладную запіску Аляксандру I аб “поўным разладзе Віленскага ўніверсітэта і іншых навучальных установаў” гэтай акругі[68].

У другім дзесяцігоддзі XIX ст. у Беларусі пачаў распаўсюджвацца метад узаемнага навучання ў пачатковай школе. Упершыню яго выкарысталі ў м. Столін у вучылішчы, адкрытым магнатам Пацеем у 1816 г. К канцу першай чвэрці XIX ст. у Беларусі налічвалася 13 школ узаемнага навучання, з іх пяць знаходзіліся ў мястэчках Гомель, Стоўбцы, Воўпа, Шарашова, Столін (усе яны належалі буйным землеўладальнікам)[69]. Дзякуючы старанням графа М. Румянцава ў гомельскім маёнтку склалася цэлая сетка гэтых навучальных установаў – 10 школ з 273 вучнямі. У 1818 г. яго выбралі ў ганаровыя члены Лонданскага таварыства па распаўсюджванні навучання

---

[67] Палуцкая, С.В. Барунская базыльянская школа і яе выхаванцы / С.В. Палуцкая // Матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай Ашмяншчыне. Гродна; Ашмяны, 1995. С. 25–33; Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гады) / С.В. Марозава. Гродна: ГрДУ, 2001. С. 111.

[68] Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. ... С. 190; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі... С. 140.

[69] Там жа.

па ланкастэрскай методыцы[70]. У справаздачах 1826–1830 гг. у Гродзенскай губерні ўзгадваюцца вучылішчы ўзаемнага навучання ў мястэчках Воўпа, Свіслач, Крошын, Шарашова, Бездзеж[71]. Школы ўзаемнага навучання мелі шэраг станоўчых бакоў. Перш за ўсё гэта былі найбольш буйныя па колькасці навучэнцаў пачатковыя школы. Па-другое, у той час гэтыя школы з'яўляліся адзінымі ў Беларусі, дзе сялянскія дзеці побач з элементарнымі ведамі набывалі і некаторыя навыкі вытворчай, рамесніцкай працы. Асаблівасцю Столінскай пачатковай школы з'яўлялася тое, што яна рыхтавала сялянскіх дзяцей да настаўніцкай працы ў вёсках маёнтка Пацея[72].

Карціна местачковых сярэдніх навучальных установаў у 1817–1818 гг. выглядала наступным чынам. У дзвюх гімназіях і 13 уезных вучылішчах налічваўся 171 настаўнік і 2219 вучняў[73]. Жыровіцкае вучылішча пераведзена на вучэбны план уезнага, а Забельскае з 19 верасня 1814 г. атрымала статус гімназіі. 1 верасня 1809 г. адкрылася ўезнае вучылішча ў м. Ляды Ігуменскага ўезда. У верасні 1811 г. Бабруйскае ўезнае вучылішча было пераведзена ў м. Маладзечна, а 1 верасня 1817 г. Барысаўскае – у м. Халопенічы[74].

На прыкладзе Гродзенскай губерні параўнаем колькасць вучняў у сярэдніх навучальных установах мястэчак і гарадоў. У 1817 г. з васьмі ўезных вучылішчаў Гродзенскай губерні тры месціліся ў мястэчках (Жыровічы, Лыскава, Шчучын) і пяць – у гарадах (Гродна, Брэст, Слонім, Ліда, Навагрудак). Адзіная на той час у губерні свецкая сярэдняя навучальная ўстанова – Свіслацкая гімназія. Ва ўсіх гэтых вучэльнях налічвалася 1609 навучэнцаў, з іх у мястэчках – 825, у гарадах – 784[75]. Такім чынам, мястэчкі часам пераўзыходзілі гарады па ролі ў развіцці сярэдняй адукацыі.

У 1818 г. у 69 прыходскіх вучылішчах, што знаходзіліся ў мястэчках Беларусі, вучыліся 940 дзяцей (854 хлопчыкі і 86 дзяўчынак). У сярэднім на адно вучылішча прыходзілася 13–14 вучняў. Найбольш буйнымі, дзе было некалькі дзесяткаў навучэнцаў, з'яўляліся па-

[70] Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П. Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 25.

[71] ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 1878. Арк. 1–28; РДГА. Ф. 733. Воп. 62. Адз. зах. 1021. Арк. 92–103; РДГА.–Ф. 733. Воп. 95. Адз. зах. 380. Арк. 57–64, 123.

[72] Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. ... С. 218, 221.

[73] *Табліца 38.*

[74] РДГА. Ф.733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 194–256; Beauvois D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. 1803–1832. T. 2. Rzym–Lublin, 1991.–S. 131.

[75] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. Ч. 2. СПб., 1863. С. 182–183, 216–217, 490–491, 499, 791.

чатковыя вучылішчы ў мястэчках Столін, Крошын, Гомель, Асвея, Мілейчыцы і інш.[76]

У 1818 г. у мястэчках знаходзілася 10 прыватных мужчынскіх і жаночых навучальных устаноў: у Жыровічах, Шчучыне, Любяшове, Мядзелі, Лужках, Караліне, Забелах, Асвеі, Антопалі, Глуску. У іх утрымлівалася 180 вучняў і вучаніц[77].

У 1813 г. пасля пажару ў Барысаве ў м. Халопенічы было перанесена гарадское вучылішча, якое праіснавала тут да 1831 г. і адыграла важную ролю ў росце мястэчка. Гэта добра паказаў П. Шпілеўскі: “Училище возвысило местечко: народонаселение увеличилось; оказалась нужда в помещениях для воспитанников и наставников; мещане стали промышлять квартирами; евреи сбывали лавочные товары наставникам, приезжавшим родителям учащихся и самим учащимся. Словом, быт холопеничских жителей улучшился. С закрытием училища местечко почувствовало значительную потерю в коммерческом отношении и с тех пор стало почти на степени деревни”[78].

Ператварэнне ў асветніцкі цэнтр змяніла і гісторыю м. Касцюковічы Клімавіцкага ўезда Магілёўскай губерні. Тут на сродкі ўладальніка мястэчка Івана Цэханавецкага 19 кастрычніка 1826 г. было адкрыта ўезнае вучылішча, 13 студзеня 1827 г. – прыходскае. З 1833 па 1838 г. дзейнічала прыватная ўстанова для выхавання дзяўчын Лапушынскай. У 1846 г. Кіслоўскай быў адкрыты прыватны жаночы пансіён на правах уезнага вучылішча. У 1854 г. была заснавана прыватная жаночая школа Бараноўскай (у ёй у 1861 г. было 9 вучаніц). З 1826 па 1856 г. Касцюковіцкае ўезнае вучылішча падрыхтавала 1782 вучня (3/4 з іх – дваранскія дзеці), а прыходскае – 1004. Установа Лапушынскай за 4 гады (з 1833 па 1838) выхавала 72 дзяўчыны, столькі ж налічвалася і ў пансіёне Кіслоўскай з 1846 па 1852 г. Па звестках за 1852 г., з ліку выпускнікоў навучальных устаноў м. Касцюковічы ў вышэйшыя ўстановы паступіла 94 чалавекі. Фундаментальная бібліятэка Касцюковіцкага ўезнага вучылішча ў 1856 г. складалася з 391 назвы кніг ці 1646 тамоў. Разам з перыядычнымі выданнямі бібліятэка ацэньвалася ў 2518 руб. 11 кап. Пры вучылішчы існавала кніжная крама для продажу вучэбных кніг для навучэнцаў. Большая частка кніг бібліятэкі была ахвяравана І. Цэханавецкім. Увогуле высокі ўзровень касцюковіцкіх

---

76 РДГА. Ф.733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 258–278.

77 РДГА. Ф.733. Воп. 62. Адз. зах. 389. Арк. 268, 272.

78 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992. С. 169.

вучылішчаў забяспечваўся матэрыяльнай падтрымкай уладальніка мястэчка. Яго ахвяраванні на школьную справу ў м. Касцюковічы к 1842 г. склалі 19423 руб. 64 кап. серабром[79].

Значныя змены ў сістэме адукацыі краю выклікала паўстанне 1830–1831 гг. Пасля ліквідацыі Віленскага універсітэта і яго вучэбнай акругі (1832 г.) навучальныя ўстановы Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў увайшлі ў склад Беларускай вучэбнай акругі (да 1850 г.). Пачалася рэформа навучальных устаноў згодна са Статутам 1828 г., які даволі рэзка праводзіў саслоўны прынцып у адукацыі. Ліквідавалася пераемнасць вучэбных планаў прыходскага і ўезнага вучылішчаў і гімназіі. Кожны тып навучальных устаноў быў ператвораны ў самастойнае цэлае, пры гэтым кожны закончаны круг навучання прызначаўся для пэўных сацыяльных груп насельніцтва. З вучэбных планаў былі зняты амаль усе прыродазнаўчыя і палітычныя дысцыпліны.

У пачатку 30-х гг. XIX ст. былі ліквідаваны манастырскія уніяцкія і каталіцкія вучылішчы. Напрыклад, 6 лістапада 1831 г. было зачынена вучылішча базыльян у Барунах, у яго будынку была размешчана малая ўезная семінарыя для 20 сыноў уніяцкага духавенства. 1 мая 1832 г. закрылі піярскае вучылішча ў Лужках. Дамініканскае ўезнае вучылішча ў м. Ушачы ўказам ад 17 студзеня 1829 г. было перанесена ў г. Лепель. Ліквідаваліся прыходскія вучылішчы дамініканаў у Бялынічах і Шклове. За ўдзел манахаў у паўстанні былі закрыты кляштар картэзіянцаў і школа пры ім ў Бярозе-Картузскай. Перасталі існаваць уезныя вучылішчы базыльян у Жыровічах і піяраў у Шчучыне, разам з кляштарам[80]. У снежні 1833 г. царскія ўлады ўзяліся за шчучынскую жаночую школу сясцёр міласэрнасці: манашак прымусілі даць падпіску не вучыць дзяўчынак рукадзеллю. Царскія чыноўнікі спадзяваліся такім чынам падарваць цікавасць дробнай шляхты да жаночай адукацыі. У 1842 г. да дзяржавы адышоў шпіталь сясцёр міласэрнасці, у выніку чаго ён прыйшоў у заняпад. У 1843 г. жаночая школа ў Шчучыне была зачыненая, а Ф.К. Друцкі-Любецкі насуперак жаданню манашак "выкупіў" іх фальварак Мажалёўцы-Мацейкаўцы. Сёстры выказалі нежаночую ўпартасць. Амаль без сродкаў да існавання яны засталіся ў мястэчку і працягвалі патаемна

[79] НГАБ. Ф. 2254. Воп.1. Адз. зах. 206. Арк. 8–13; Адз. зах. 243. Арк. 11–18.

[80] Beauvois, D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. 1803–1832. T. 2. Rzym–Lublin, 1991. S. 430; НГАБ. Ф. 3157. Воп.1. Адз. зах. 70. Арк. 33.

вучыць дзяўчынак[81]. Царскія ўлады, такім чынам, свядома разбуралі тую інфраструктуру, якая склалася да канца XVIII ст.

Ліквідацыя манастырскіх каталіцкіх вучылішчаў і значнае аслабленне ўплыву каталіцкага духавенства на выхаванне юнацтва ў агульнаадукацыйных школах суправаджалася стварэннем рускай свецкай школы, якая ў другой чвэрці XIX ст. стала пануючай у Беларусі. Гэты працэс ахапіў, безумоўна, і мястэчкі. Так, архіўныя крыніцы сведчаць, што "вслед за закрытием бывшего пиарского духовного училища в м. Щучин положено открыть светское двухклассное училище по методу Ланкастера". Шчучынскае рускае вучылішча пачало працу толькі напрыканцы 1830-х гг., узроўню піярскай школы яно не дасягнула. 18 студзеня 1832 г. адкрылася прыходскае вучылішча для дзяцей шляхты і разначынцаў у м. Ушачы. У 1831 г. у м. Бешанковічы графам Храптовічам было арганізавана прыходскае вучылішча для сялянскіх дзяцей пад назвай школы сельскай прамысловасці, у якім прадугледжвалася выкладанне чытання, правапісу, чыстапісання і арыфметыкі па ланкастарскім метадзе на рускай мове. У 1834 г. было створана прыходскае вучылішча ў м. Дуброўна. У 1835 г. адкрылася ланкастарскае вучылішча ў м. Маладзечна. У 1833 г. было арганізавана прыходскае вучылішча ў Дзятлаве[82].

У выцясняемых са сферы адукацыі базыльянскіх колах каля 1833 г. узнік праект адкрыцця ў мястэчках і вялікіх вёсках для дзяцей мяшчан і сялян сеткі парафіяльных школ, якія б навучылі іх чытаць, пісаць, лічыць, маляваць, далі веды па расійскай мове і геаграфіі з элементамі краязнаўства, святой гісторыі і катэхізіса, сельскай гаспадарцы і агародніцтву і дапамаглі б ім "з найбольшым пажыткам займацца абавязкамі свайго стану"[83]. Але добрым намерам уніяцкай царквы ахапіць ніжэйшыя слаі адукацыяй, прыстасаванай да іх патрэб, даць асвету народу, не суджана было здзейсніцца. Гэтыя праекты былі рэалізаваны пазней у праваслаўным асяроддзі.

Папячыцель беларускай вучэбнай акругі Рыгор Карташэўскі 8 сакавіка 1834 г. у лісце да генерал-губернатара віцебскага, магілёўскага і смаленскага князя Хаванскага прапаноўваў стварыць пачатковыя вучылішчы ў буйных мястэчках Віцебскай і Магілёўскай губерняў: Крычаве, Гомелі, Прапойску, Чачэрску, Бешанковічах, Усвятах, Шклове, Бялынічах і інш., пры гэтым адзначаў, што яны "едва ли

81 Данскіх, С.У. Наш Шчучын / С.У. Данскіх. Гродна, 2001. С. 106–107.

82 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 375. Арк. 1; НГАБ. Ф. 3157. Воп. 1. Адз. зах. 85. Арк. 136; ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 3735. Арк. 311.

83 Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады) / С.В. Марозава. Гродна: ГрДУ, 2001. С. 102.

не важнее малых уездных городов". Аднак віцебскі губернатар данёс князю Хаванскаму, што свецкія рускія вучылішчы неабходна ствараць пераважна ў гарадах, таму што ў мястэчках няма магчымасці начальству наглядаць за імі і што, акрамя таго, мястэчкі населены ў асноўным габрэямі і людзьмі, якія рамёствамі і промысламі займаюцца і "не весьма нуждаются в образовании". У выніку перапіскі з віцебскім і магілёўскім губернатарамі Хаванскі хадайнічаў аб утварэнні прыходскіх вучылішчаў толькі ў мястэчках Гомель, Шклоў, Бялынічы і Чачэрск Магілёўскай губерні[84].

Сустракаюцца ў архіўных дакументах і хадайніцтвы жыхароў мястэчак аб арганізацыі навучальных установ. Напрыклад, дваране і мяшчане м. Парычы Бабруйскага ўезда ў канцы 1861 г. звярталіся да мінскага губернатара з прашэннем аб стварэнні ў мястэчку прыходскага вучылішча, адзначалі, што ў Парычах колькасць вучняў будзе дасягаць 40 і больш. Папячыцель Віленскай навучальнай акругі, спаслаўшыся на недахоп сродкаў, прызнаў немагчымым выканаць гэтую просьбу[85].

Шмат пачатковых школ было арганізавана ў мястэчках пры праваслаўных цэрквах на працягу канца 30–40-х гг. XIX ст. Так, пры цэрквах у мястэчках Магілёўскай епархіі з 1837 па 1849 г. было створана 35 вучылішчаў: тры ў м. Шклоў, па адным ў мястэчках Чачэрск, Касцюковічы, Расна, Крычаў, Кадзін, Насовічы, Любавічы, Хоцімск, Чарэя, Прапойск, Горкі, Бялынічы, Гомель і інш.[86]

Былі факты ігнаравання насельніцтвам мястэчак пачатковых школ пры праваслаўных прыходах па прычыне русіфікатарскіх мэт, якія ўскладваліся на гэтыя навучальныя ўстановы. Напрыклад, восенню 1862 г. канфлікт на гэтай глебе ўзнік паміж настаўнікам народнага вучылішча святаром Хамічэўскім і валасным праўленнем у Скідзеле. Хамічэўскі скардзіўся папячыцелю Віленскай навучальнай акругі, што мясцовае валасное праўленне не аказвае садзейнічанне ў адкрыцці вучылішча: "Крестьяне здешней местности, особенно живущие в м. Скиделе и ближних деревнях, еще слишком пропитаны польским духом, так что не считают большим для себя благодеянием заведенное здесь училище, когда в нем не учат польскому языку, а потому в следующем учебном году еще нельзя надеяться, чтобы они согласились нанять дом под училище и отапливать его за свой счет.

---

[84] НГАБ. Ф.3157. Воп.1. Адз. зах. 85. Арк. 200; Адз. зах. 86. Арк. 355; Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 4460. Арк. 23.

[85] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 1452. Арк. 2–5.

[86] Там жа. Ф. 2254. Воп. 1. Адз. зах. 75. Арк. 5–76.

(...) Мне гораздо легче было бы действовать на народ и доказывать ему пользу обучения русской грамоте и в духе православном, если бы мировые посредники, волостные писари не были католики или псевдо-православные, каков местный старшина Мозолевский, и если бы дела в волостных управлениях производились не на польском, а на русском языке"[87]. Рэакцыяй на гэты рапарт Хамічэўскага было звальненне старшыны Скідзельскай воласці Мазалеўскага як "неблагонадежного".

Часам узнікалі канфліктныя сітуацыі з прычыны выкарыстання мясцовымі ўладамі памяшканняў навучальных устаноў ва ўласных інтарэсах, у прыватнасці для размяшчэння воінскага пастою. Такія факты мелі месца ў 1821 г. у Бярозе-Картузскай, калі Пружанскі земскі спраўнік у доме, які манахі-картэзіянцы адвялі пад вучылішча, вырашыў размясціць падпалкоўніка Жыткова[88], а таксама ў 1862 г. у Індуры, дзе прыстаў 1-га стана Гродзенскага ўезда Мірбах з мэтай пасялення маёра Хазбіевіча гвалтоўна захапіў дом купца Штэйна, які быў здадзены ў наём для размяшчэння вучылішча настаўніку Маркоўскаму з пляцяжом гадавой арэнды 48 руб. серабром[89].

К 1860 г. у Беларусі было адкрыта звыш 100 школ для дзяржаўных сялян. Многія з іх размяшчаліся ў мястэчках. Так, у 1843 г. сельскія прыходскія вучылішчы ведамства Міністэрства дзяржаўнай маёмасці былі створаны ў мястэчках Дудакавічы, Белая Царква, Горы-Горкі Магілёўскай губерні. У 1850 г. у іх налічвалася адпаведна 12, 12, 16 і 10 вучняў[90]. У беларускіх уездах Віленскай губерні такія вучылішчы былі адкрыты ў мястэчках Смаргонь, Крэва, Бакшты, Трабы, Радунь, Астрына, Васілішкі, Гадуцішкі, Жэлядзь, Мядзель, Ваўкалата, Рэчкі, Краснае, Пліса, Глыбокае, Перaброддзе. У 1860 г. у названых вучылішчах налічвалася 763 вучня, 1610 кніг і 357 прапісаў[91]. У Гродзенскай губерні сельскія прыходскія вучылішчы існавалі ў мястэчках Воўпа, Ялоўка, Свіслач, Поразава, Дзятлава, Дзярэчын, Ружаны, Здзітаў, Шарашова, Бяроза, Моталь, Бездзеж. У 1857 г. у іх вучыліся 357 хлопцаў і 60 дзяўчат[92].

Звесткі аб узроўні пісьменнасці жыхароў мястэчак сустракаюцца ў адзінкавых выпадках. Напрыклад, у інвентарным апісанні Міра

[87] НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 1637. Арк. 9–11.
[88] Там жа. Воп. 1. Адз. зах. 1801. Арк. 162.
[89] Там жа. Воп. 27. Адз. зах. 1640. Арк. 12–14.
[90] НГАБ. Ф. 2254. Воп. 1. Адз. зах. 75.–Арк. 79.
[91] ДГА Літвы. Ф. 388. Воп. 1. Адз. зах. 175. Арк. 22.
[92] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч. 2. СПб., 1863. С. 216–217.

1858 г. пазначана, што з 1337 сялян мястэчка былі пісьменнымі 628 чалавек (ці 47%), якія атрымалі адукацыю ў прыходскіх вучылішчах, пры царкоўнаслужыцелях, пры бацьках[93].

Істотна змянілася жыццё м. Горкі Магілёўскай губерні пасля адкрыцця там у 1840 г. першай не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі земляробчай школы, пераўтворанай у 1848 г. у земляробчы інстытут. На працягу 1837–1840 гг. пад кіраўніцтвам італьянскага архітэктара Капміёні для школы было пастаўлена 35 будынкаў. У Горы-Горацкім інстытуце і ў "земляробчым пры ім вучылішчы" рыхтавалі аграномаў і кіраўнікоў для маёнткаў (у 1854 г. тут вучылася 500 чалавек)[94]. Паралельна з вучэбнымі заняткамі праводзіліся навуковыя даследаванні ў галіне раслінаводства, жывёлагадоўлі, канструяванні сельскагаспадарчых машын, вынікі публікаваліся ў "Записках Горы-Горецкого земледельческого института" і іншых навуковых выданнях. З мэтай вывучэння практычнага вопыту вядзення сельскай гаспадаркі наладжваліся агранамічныя падарожжы. Студэнты і выкладчыкі прымалі ўдзел у сельскагаспадарчых з'ездах і выстаўках. Пры інстытуце дзейнічаў завод па вырабе цэглы і дрэнажных труб, майстэрня сельскагаспадарчых машын, сыраварня, вучэбны пчальнік, музеі (заалагічны, анатамічны і сельскагаспадарчых машын), батанічны сад (больш за 3870 раслін), бібліятэка (больш за 7 тыс. тамоў). У сувязі з адкрыццём агранамічных навучальных устаноў у Горках былі заснаваны таксама паштовая станцыя, аптэка, народнае вучылішча, метэастанцыя[95]. У 1861 г. мястэчка Горкі было пераведзена на ступень горада, уезнага цэнтра. Былы ўезны горад Копысь апынуўся ў разрадзе пазаштатных гарадоў. У новы адміністрацыйны асяродак пераехалі ўрадавыя ўстановы, было арганізавана гарадское самакіраванне. Новы горад даў і новую назву ўезду. А навучальная ўстанова, што так кардынальна паўплывала на жыццё Горак і яго насельніцтва, праіснавала тут толькі да паўстання 1863 г. За ўдзел у ім студэнтаў і выкладчыкаў земляробчы інстытут перавялі ў 1864 г. у Пецярбург.

Аўтаномнасцю і кансерватыўнасцю характарызавалася ***сістэма адукацыі габрэяў*** мястэчак Беларусі, накіраваная на захоўванне габрэйскай традыцыі. Менавіта мястэчкі (на ідыш "штэтл") у выніку комплексу гістарычных фактараў сталі для габрэяў асяродкам за-

[93] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 2472. S.7.

[94] НГАБ. Ф. 2254. Воп. 1. Адз. зах. 75. Арк. 64.

[95] Ліўшыц, У. Горкі. Горы-Горацкая земляробчая школа. Горы-Горацкі земляробчы інстытут / У. Ліўшыц // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996. С. 90, 93.

хавання традыцыйнага ладу жыцця і культуры. У кожным штэтле была арганізавана абшчына са сваімі традыцыйнымі інстытуцыямі, рэгуляваўшымі штодзённае жыццё. Важнейшую ролю сярод іх адыгрывалі адукацыйныя ўстановы.

У першай палове XIX ст. многія дзяржаўныя розумы Расіі працавалі над праектамі рэформ габрэйскага жыцця, і гэтыя праекты ажыццяўляліся як гвалтоўнымі мерамі, так і мерамі заахвочвання (у залежнасці ад духу часу). Але замкнутае габрэйскае грамадства вельмі мала паддавалася знешняму ўздзеянню. Адначасова з гэтым у нетрах расійскага габрэйства паступова і непрыкметна адбываўся рух да свецкай адукацыі, які атрымаў назву Гаскала. Габрэі рысы аселасці жылі адасоблена, і слабыя павевы Гаскалы да іх практычна не даносіліся. І хоць “Палажэнне аб габрэях” 1804 г. дазволіла габрэйскім дзецям паступаць ва ўсе расійскія навучальныя ўстановы “без усякага адрознення ад іншых дзяцей”, іх бацькі не спяшаліся выкарыстаць гэта права. Навучальныя ўстановы пачатку XIX ст. існавалі амаль выключна пры кляштарах і цэрквах, навучанне ў іх было прасякнутае хрысціянскім духам. Менавіта па гэтай прычыне габрэі байкатавалі агульныя школы: у Магілёўскай губерні ў 1808 г. вучыліся ў іх 9 габрэяў, у Віцебскай – адзін, у Мінскай – ні аднаго[96].

Сістэма адукацыі габрэяў заставалася нязменнай з даўніх часоў. Існавалі наступныя тыпы навучальных устаноў: *Талмуд-Торы* – рэлігійныя пачатковыя вучылішчы для бедных і сірот, якія ўтрымліваліся за кошт добраахвотных міласцінаў; *хедары* – рэлігійныя пачатковыя вучылішчы, якія адкрывалі *меламеды* (настаўнікі) для вольнапрыходзячых; *ешыботы, ці ешывы,* якія мелі мэтай вышэйшую талмудзічную адукацыю. Існавалі таксама *бейт-мідрашы ці клаўзы (клойзы)*, куды габрэі прыходзілі ў вольны час для малітваў, вывучэння рэлігійнай літаратуры і для размоў на рэлігійныя і іншыя тэмы. У кожным бейт-мідрашы знаходзілася бібліятэка габрэйскіх рэлігійных і іншых кніг[97].

Адукацыя і веды, як вядома, мелі велізарнае значэнне ў габрэйскім жыцці Усходняй Еўропы. Часткова гэта адбывалася дзякуючы ўласна рэлігійным фактарам, часткова дзякуючы цеснай сувязі паміж узроўнем адукацыі і прыналежнасцю да вышэйшых грамадскіх слаёў. Сацыяльны статус быў абумоўлены ведамі, атрыманымі з Торы. У та-

---

96 Кандель, Ф. Очерки времен и событий: из истории российских евреев / Ф. Кандель: В 3 ч. Ч. 2. Иерусалим, 1990. С. 115.

97 НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 928. Арк. 140–148.

кой сітуацыі работа адукацыйных устаноў адыгрывала важную ролю ў стабілізацыі грамадскага жыцця і вызначэнні месца, якое чалавек займаў у грамадстве. Важную ролю не толькі ў сістэме габрэйскай адукацыі, але і ў выкананні спецыфічных функцый падтрымання сацыяльнай структуры габрэйскага грамадства адыгрываў хедар. Эфектыўнасць хедарнай адукацыі ў справе забеспячэння трываласці габрэйскай абшчыны была страчана толькі ў пачатку XX ст., калі ўзніклі новыя адукацыйныя запатрабаванні: не толькі ўменне чытаць і рэлігійныя веды, але і свецкія навукі[98].

Хедары існавалі ў любым, нават дробным мястэчку, дзе жылі габрэі. Па традыцыі ўсе без выключэння габрэйскія хлопчыкі з 3–4 да 13 гадоў вучыліся ў хедарах. Хедары падзяляліся на тры групы: у першай з іх дзеці з трох гадоў навучаліся азбуцы і чытанню, у другой – з пяці гадоў вывучалі Пяцікніжжа (Тору) з каментарамі Рашы, у трэцяй – з васьмі гадоў Талмуд і яго каментары[99]. За навучанне бацькі плацілі меламеду ўстаноўленую суму, за бедных плаціў кагал[100].

Пры наяўнасці жадання і магчымасці хедары наведвалі і дзяўчынкі. Аднак паколькі ў габрэяў Усходняй Еўропы мужчыны і жанчыны жылі ў двух сумежных, але зусім адрозных адзін ад аднаго сусветах, мужчынская і жаночая адукацыя адбывалася ў рамках абсалютна розных сістэм, галоўнае адрозненне паміж якімі заключалася ў тым, што адукацыя дзяўчынак насіла выключна практычны характар, а адукацыя хлопчыкаў была цалкам прысвечана вывучэнню Торы[101]. Як правіла, у мужчын і жанчын рознымі былі літаратурныя (пісьмовыя) мовы: адпаведна іўрыт і ідыш. Можна канстатаваць, што ў габрэйскіх абшчынах практычна адсутнічалі непісьменныя людзі.

Колькасць хедараў у мястэчках залежала ад колькасці габрэйскага насельніцтва. Напрыклад, па няпоўных звестках губернскай адміністрацыі, у 1848 г. у Тураве іх было 4, у Любчы – 3, у Століне – 2, у Новай Мышы і Турцэ – па адным. Многія меламеды займаліся навучаннем габрэйскіх дзяцей па прыватных хатах. Так, у 1850 г. у Клецку такіх меламедаў было 6; у Тураве і Міры – па 4; у Карэлічах –

98 Штампфер, Ш. Хедерное образование, знание Торы и поддержание социального расслоения в традиционном еврейском обществе восточно-европейской диаспоры / Ш. Штампфер // Еврейская школа. 1993. январь март. С. 53–64.

99 Герасімава, І.П. Хедар // Рэлігія і царква на Беларусі: Энцыкл. давед. Мінск, 2001. С. 344.

100 *Малюнак 11.*

101 Штампфер, Ш. Дифференциация по половому принципу и женское еврейское образование в Восточной Европе в XIX в. / Ш. Штампфер // Еврейское образование. 2001. № 2. С. 119–146.

3; у Капылі, Давыд-Гарадку, Століне, Гарадзішчы – па 2; у Старобіне, Цімкавічах, Кажан-Гарадку, Сталавічах – па адным[102]. У 1836 г. Лепельская гарадская дума даносіла Віцебскаму губернатару, што габрэйскае купецтва, што пражывае ў мястэчках, утрымлівае для сваіх дзяцей дамашніх настаўнікаў[103].

Захавалася нямала сведчанняў невысокага прафесійнага ўзроўню меламедаў: "За дело берутся по большей части люди, выбирающие эту профессию не по склонности или из любви и знания дела, а по нужде и необходимости, в поисках заработка. Нередко это люди, потерпевшие неудачу на других поприщах. У подобных педагогов приходится констатировать не только отсутствие профессионального опыта, но, вообще, скудость познаний и неспособность к ведению дела"[104]. Паводле абагульняючых назіранняў М. Берліна, габрэй становіцца меламедам у выпадку няўдачы ў гандлёвым прадпрымальніцтве[105].

Пра хедары сярэдзіны XIX ст. у м. Капыль успамінае А. Паперна[106]. У гэты час тут існавала каля 20 гэтых навучальных устаноў. У яго мемуарах змешчана шматбаковая характарыстыка хедара, паказана галерэя трапна намаляваных партрэтаў настаўнікаў-меламедаў, у якіх вучыўся аўтар. А. Паперна апісаў знешняе аблічча хедара, узаемаадносіны паміж вучнямі і настаўнікамі, методыку навучання. Як прыхільнік Асветніцтва, аўтар крытычна ставіўся да хедара, адзначаў яго недахопы, але падкрэсліваў і станоўчыя бакі традыцыйнага рэлігійнага выхавання.

У хедарах, як адзначалася, пасля засваення чытання вывучаліся Тора і Талмуд. Уменню пісаць меламеды не вучылі. А. Паперна патлумачыў гэта так: "Во-первых, потому что не все меламеды сами знали это искусство, и во-вторых, потому что предмет этот считался маловажным и легким, так что желающие ученики могут сами научиться ему в свободное от серьезного учения время". Калі ў Капыль прыехаў "странствующий каллиграф" з прапановай адкрыць за вызначаную плату школу чыстапісання для навучання дзяцей абодвух

---

[102] Штампфер, Ш. Дифференциация по половому принципу и женское еврейское образование в Восточной Европе в XIX в. С. 119–146.

[103] НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 6150. Арк. 14.

[104] Рохлин, Л.Л. Местечко Краснополье / Л.Л. Рохлин. СПб., 1908. С. 23.

[105] Берлин, М. Очерк этнографии еврейского народонаселения в России / М. Берлин. СПб., 1861. С. 36.

[106] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910; Т. 3. СПб., 1911.

полаў пісьму габрэйскаму, а для жадаючых таксама рускаму і польскаму, габрэі ахвотна згадзіліся. У школе заняткі ішлі ў восем змен, і на працягу года амаль усё юнацтва навучылася пісаць. Каліграф перакачаваў у іншы горад[107].

У мястэчках існавалі і Талмуд-Торы – школы для бедных дзяцей, бацькі якіх не маглі плаціць меламеду. Талмуд-Тора знаходзілася звычайна пад кантролем мясцовых улад. Акрамя рэлігійных прадметаў тут навучалі рускай мове і агульнаадукацыйным прадметам. Аддаваць свайго сына ў Талмуд-Тору лічылася сорамам[108].

У кожным габрэйскім мястэчку існавалі бейт-мідрашы ці клаўзы (клойзы) (абшчынныя чытальныя залы). Вось як вызначае сутнасць гэтай установы А. Паперна: "Копыльский клауз был высшею школою, где местные подростки, получившие достаточную подготовку в хедерах, сами дополняли свои сведения в Талмуде и раввинской письменности"[109]. У Капыльскім клаўзе была даволі багатая бібліятэка: "Рядом с Талмудом, кодексами и раввинскими респонсами в ней находились и книги содержания каббалистического, философского, философско-богословского, нравоучительного, исторического и проч."[110]. Акрамя мясцовых юнакоў у капыльскім клаўзе навучаліся і іншагароднія: *бахурым* (халастыя) і *порушым* (жанатыя). Капыляне прыхільна ставіліся да іх, забяспечвалі "днямі": складаўся спіс сямі абывацелей, якія былі абавязаныя карміць юнака па аднаму дню на тыдзень, жыллём служыў непасрэдна клаўз. Студэнты бейт-мідраша карысталіся амаль поўнай незалежнасцю, яны маглі самі выбіраць стыль аналізу тэкстаў Талмуда, тут адсутнічалі афіцыйныя заняткі і экзамены (недасяжная мара для сучасных студэнтаў), не існавала ніякай платы за навучанне, абшчына задавальняла матэрыяльныя патрэбы студэнтаў, хаця і на мінімальным узроўні. Такое бесклапотнае жыццё дазваляла цалкам прысвяціць сябе вывучэнню Торы: "В клаузе стоял постоянный гул десятков голосов молодых людей, местных и приезжих, громко читавших лежащие перед ними фолианты Талмуда и соперничавших между собою в прилежании и успехах". Часам у клаўзе адбываліся гарачыя спрэчкі наконт тлумачэння сэнсу таго ці іншага месца ў Талмудзе: "Победитель в таком турнире, правда, лаврового венка не получал, но всеобщим почетом он воз-

107 Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи.... // Пережитое. Т. 2. СПб., 1910. С. 32.

108 Бейзер, М. Жизнь в еврейском местечке конца XIX – начала XX века / М. Бейзер // Еврейская старина. Апрель-июнь 2009 г. С. 7. Рэжым доступу: http://berkovich-zametki.com/2009/Starina/Nomer2/Bejzer1.php

109 Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи... Т. 2. СПб., 1910. С. 13.

110 Там жа. С.17.

награждался не менее победителя на олимпийских играх; когда же победитель бывал холостой, то после такого триумфа он мог быть уверен, что если не сегодня, то завтра сделается зятем какого-либо знатного копыльца"[111].

Іншагароднія клаўзнікі адыгрывалі важную ролю ў жыцці мястэчка. Акрамя таго што яны служылі пастаяннымі кадрамі вучоных абывацелей, яны яшчэ мелі важнае матрыманіяльнае значэнне: станавіліся жаніхамі для дзяўчат з бедных сем'яў, бацькі якіх былі не ў стане даваць пасаг: "В таких случаях из беды выручали бедные бахуры. Это – народ не только невзыскательный насчет красоты невесты, но и легко мирившийся и с теласными недостатками ея; сходили с рук и хромые, и горбатые; не было необходимости в приданом, отцу невесты нужно было только дать письменное обязательство в том, что он будет давать в течение известного числа лет "*кест*", т.е. полное содержание новобрачным и могущим родиться у них детям". У выніку перавытворчасці ў Капылі талмудзістаў, маладыя вучоныя па заканчэнні свайго "кеста" часта былі вымушаны для ўтрымання сваіх сем'яў шукаць пасад рабінаў, меламедаў і іншых духоўных прафесій у далёкіх краях (Падоліі, Валыні, Наварасійскім краі), і такім чынам Капыль быў "разсадником талмудического знания далеко за своими пределами"[112].

З 13 гадоў самыя здольныя з вучняў пераходзілі ў ешывы, якія ўтрымліваліся на ахвяраванні габрэйскіх абшчын і прыватных асоб. Тэрмін навучання ў ешывах дакладна не быў вызначаны. Невялікія ешывы размяшчаліся ў сінагогах і запаўняліся юнакамі з навакольных мястэчак. Вучні жылі ў малітоўных дамах, харчаваліся ў мясцовых жыхароў. Буйныя ешывы ў разглядаемы перыяд існавалі ў мястэчках Валожын, Мір і інш. Гэта былі сапраўдныя цэнтры габрэйскай вучонасці, месцы выхавання духоўнай і інтэлектуальнай эліты габрэйства. Сюды з'язджаліся найбольш здольныя юнакі не толькі еўрапейскай часткі Расіі, але і іншых краін[113].

Ва Усходняй Еўропе існавалі два тыпы ешываў: гарадскія, што былі ў кожным горадзе, і так званыя "літоўскія", што фарміраваліся не па тэрытарыяльным прынцыпе, а ствараліся таленавітымі вучонымі-талмудзістамі, як правіла, у невялікіх гарадах і мястэчках. У аснову выкладання "літоўскіх" ешываў быў пакладзены метад найвялікшага талмудзіста р. Эліяху Залмана бэн Шлома

[111] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи... Т. 2. СПб., 1910. С. 15

[112] Там жа. С. 16.

[113] *Малюнак 12.*

(Віленскага Гаона). Метадалогія вывучэння Талмуда (*пілпул* і *мусар*) спрычынілася да ўмацавання адмысловасці беларуска-літоўскага габрэйства, мела вялікі ўплыў на стыль мыслення эліты грамадства і праточвалася на самы ніз, дзе ваданошы ці шаўцы вечарамі збіраліся ў сінагогах ці малітоўных дамах дзеля вывучэння Талмуда або каментараў да Святога Пісання. Дарэчы, такія таварыствы мелі назву *хаўрусэ* (найбольш верагодная крыніца паходжання беларускага слова "хаўрус"). Павага да пісанага і друкаванага слова, наогул вялікая сярод габрэяў, дайшла ў выпадку літвакоў да абсалюту[114].

Росквіт "літоўскіх" ешываў прыпадае на XIX ст. Найбольш буйнымі з іх былі Валожынская і Мірская ешывы[115]. Узніклі яны на пачатку XIX ст. і праіснавалі да халакоста.

Знакамітая Валожынская ешыва стала прататыпам і ўзорам талмудзічных навучальных установаў не толькі ва Усходняй Еўропе ў XIX–XX стст., але і ЗША, Ізраіля і інш. Валожынская ешыва фарміравала рэлігійна-духоўнае аблічча ўсходнееўрапейскага габрэйства. Яна была заснавана ў 1802 г. р. Хаімам бэн Іцхакам Валожынерам (Валожынскім) і названа ў яго гонар "Эц Хаім" (Дрэва Хаіма). Наступныя кіраўнікі ешывы з'яўляліся яго нашчадкамі ці сваякамі (р. Нафталі Цві Егуда Берлін, р. Іосеф Бер Салавейчык, р. Хаім Салавейчык) і лічыліся буйнымі рабінскімі аўтарытэтамі, адыгралі значную ролю ў развіцці габрэйскай рэлігійнай думкі новага часу. Ужо з 20-х гг. XIX ст. улады Расійскай імперыі сталі лічыць галаву Валожынскай ешывы адным з кіраўнікоў расійскага габрэйства. Нягледзячы на гэта, ешыва ў адказ на адмову яе кіраўніцтва ўвесці ў навучальную праграму такія свецкія дысцыпліны, як матэматыка і расійская мова, а таксама адукацыйны цэнз для кіраўніцтва і выкладчыкаў, неаднаразова (1824 г., 1858 г. і інш.) афіцыйна зачынялася ўладамі, што заўсёды заставалася фармальна абвешчаным, але не здзейсненым актам[116]. Ешыва працягвала дзейнічаць. Навучанне ў ёй не спынялася ні на хвіліну (у тым ліку і ноччу). У Валожынскай ешыве колькасць вучняў даходзіла да 300–400 (для параўнання: у гарадскіх ешывах – каля 20). Тут вучылася моладзь з Беларусі, Украіны, Польшчы і іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі, а таксама з Германіі, Аўстрыі, Англіі і Амерыкі[117]. Шэраг ешываў у Літве і Беларусі (у Радуні, Лідзе,

---

[114] Зайка, В. Літоўскі Ерусалім: ужо нябачны простым вокам... / В. Зайка // ARCHE. 2003. № 5 (28). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2003-5/zajk503.html – Дата доступу: 10.06.2009.

[115] *Малюнак 13.*

[116] Краткая еврейская энциклопедия. Т.1. Иерусалим, 1976. С. 731–732.

[117] Иоффе, Э.Г. Страницы истории евреев Беларуси. Минск, 1996. С. 60.

Слуцку, Міры, Слоніме, Клецку і інш.) засноўваліся па прыкладзе Валожынскай ешывы або яе вучнямі. Адзіная сістэма і мова навучання ў "літоўскіх ешывах" стварала адзінства інтэлектуальнай прасторы.

Ешыва ў м. Мір была заснаваная ў 1815 г. буйным гандляром і талмудзістам Самуілам Цікцінскім. Сапраўдная сусветная слава прыйшла да ешывы "Мір" на пачатку XX ст., калі яе ўзначаліў знакаміты талмудзіст р. Эліэзэр Егуда Фінкель, які здолеў сабраць пад адным дахам найбуйнейшых габрэйскіх рэлігійных аўтарытэтаў свайго часу. У перыяд росквіту Мірскай ешывы ў ёй вучылася каля 300 чалавек з розных краін свету: з Амерыкі, Германіі, Англіі, Аўстрыі, Бельгіі, Францыі, Ірландыі, Канады, Швецыі, Даніі і інш.[118]

Ешыва з'яўлялася цэнтрам духоўнага жыцця штэтла. На заняткі маглі прыходзіць не толькі вучні ешывы, але і жыхары горада ці мястэчка. Пасля ўрокаў арганізоўваліся дыскусіі. Навучэнцы ешываў, якія "сталаваліся" ў заможных жыхароў мястэчак, абавязаныя былі весці "вучоныя" размовы.

Як паказаў Шауль Штампфер, поспехі ў вывучэнні Торы маглі забяспечыць юнаку з беднай сям'і хуткі "шлях наверх" праз жаніцьбу на дачцэ багача, і гэта было дадатковым стымулам да навучання. Сярод багатых, але неадукаваных гандляроў лічылася прэстыжным атрымаць *ілуя* (здольнага вучня) у якасці зяця[119].

Неабходна звярнуць увагу на значную ролю ешываў у эканоміцы тых мястэчак, якім пашчасціла іх мець. Ешыботнікі ўтваралі асноўную кліентуру маленькіх крамак ды рамесных лавак, дазвалялі местачкоўцам зарабляць на самых розных відах паслуг (прадастаўленне жылля, харчавання, мыццё адзення, паднос вады і г.д.).

Архіўныя крыніцы часцей за ўсё ўтрымліваюць звесткі аб агульнай колькасці габрэйскіх вучылішчаў і малітоўных школ у мястэчках. Так, у 1849 г. у мястэчках Мінскай губерні (без Барысаўскага і Рэчыцкага ўездаў) налічвалася 114 малітоўных школ, 111 вучылішчаў. У мястэчках Магілёўскай губерні ў 1841–1844 гг. налічвалася 183 малітоўныя школы і 353 вучылішчы. Па колькасці навучальных устаноў вылучаліся мястэчкі Крычаў (19 вучылішчаў), Краснаполле (11), Шумячы (9), Хоцімск (9), Пятровічы (8), Касцюковічы (8), Бялынічы (8), Прапойск (8), Чарэя (7) і інш. Даныя па Мсціслаўскаму ўезду за 1852 г. больш падрабязныя: у мястэчках разам з г. Мсціславам

---

118 Фрыдман, А. Лёс мірскай ешывы // ARCHE. № 3 (8). 2000. С. 201–205.

119 Stampfer, S. Ha-yeshiva ha-litayit be-hitvata. Lithuanaian Yeshiva / S. Stampfer. Zalman Shazar Center: Jerusalem, 2005.

налічвалася 130 вучылішчаў, 12 меламедаў, 23 бейт-мідрашы, 6 Талмуд-Тораў[120].

У 1836 г. у мястэчках Полацкага, Дрысенскага і Суражскага ўездаў Віцебскай губерні налічвалася 37 габрэйскіх вучылішчаў: у м. Сіроціна – 5, м. Асвея – 3, м. Кахановічы – 1, астатнія 28 – у мястэчках Суражскага ўезда[121].

Не ўсе хедары і меламеды былі зарэгістраваныя, на самай справе іх было больш. Настаўнікі імкнуліся пазбегнуць падаткаў і заводзілі тайныя школы. Таму інфармацыя аб колькасці габрэйскіх навучальных устаноў, якая захавалася ў НГАБ у Мінску і Гродне, не можа лічыцца поўнай. Найбольш падрабязныя звесткі аб габрэйскай адукацыі ў Гродзенскай губерні былі сабраны ў 1846 г. Па звестках Паўла Баброўскага, у гэтым годзе аказалася бейт-мідрашаў і клойзаў – 152, ешыботаў – 9, хедараў другаразрадных (дзе вучыліся дзеці, старэйшыя за 8 гадоў) – 339, хедараў першаразрадных (дзе вучыліся дзеці да 8 гадоў) – 255, меламедаў – 900, вучняў абодвух полаў – 6662. Афіцыйныя крыніцы ў той час лічылі ў губерні 102 396 габрэяў: адзін настаўнік, такім чынам, прыходзіўся на 114 душ, адзін вучань на 15 душ. П. Баброўскі адзначае, што “такого выгодного содержания не представляло и не представляет ни одно сословие ни здесь в губернии, ни вообще в России”[122].

Дзейнасць габрэйскіх навучальных устаноў немагчыма ацаніць адназначна. З аднаго боку, яны ўносілі ў яўрэйскае асяроддзе пісьменнасць, прывівалі любоў да рэлігійных і нацыянальных традыцый, а з другога – нельга не заўважыць аднабаковасць гэтай асветы (адсутнасць свецкіх прадметаў) і невысокі ўзровень адукацыі настаўнікаў.

Сустракаюцца ў архіўных дакументах звесткі аб наяўнасці габрэйскіх дзяцей сярод вучняў местачковых навучальных устаноў, падначаленых Міністэрству народнай асветы. Так, напрыклад, у прыходскім вучылішчы ў м. Зэльва ў 1827 г. вучыліся шэсць габрэяў, у м. Воўпа – адзін. У 1835 г. у Азеранскім прыходскім вучылішчы налічвалася чатыры габрэі, у ланкастарскім вучылішчы ў м. Маладзечна – тры[123]. Аднак гэта былі адзінкавыя выпадкі.

---

[120] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 1009. Арк. 2–30; Ф. 2001. Воп.1. Адз. зах. 161. Арк. 7–88; Ф. 2254. Воп.1. Адз. зах. 206. Арк. 54.

[121] НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Адз. зах. 7023. Арк. 69–88.

[122] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. Ч. 2. СПб., 1863. С. 182–183, 216–217, 490–491, 499.

[123] ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Адз. зах. 1878. Арк. 13; Адз. зах. 3735. Арк. 408; НГАБ. Ф. 2254. Воп. 1. Адз. зах. 87. Арк. 8.

У 40-х гг. XIX ст. царскі ўрад, не жадаючы больш пакідаць без увагі прыватныя габрэйскія школы, прыступіў да рэформы канфесійнага (хедарскага і ешыбоцкага) выхавання. З 1847 г. пачалі адкрывацца казённыя габрэйскія вучылішчы. Па трапным выразе П.С. Марэка, з гэтага часу пачынаецца "эпоха принудительного просвещения, ознаменовавшаяся взаимным недоверием просвещаемых и просветителей"[124]. Паперна з гэтай нагоды адзначаў: "Евреи справедливо недоумевали, почему правительство так сильно вдруг озаботилось просвещением именно евреев, тогда как оно не обнаруживало ни малейшей заботливости о просвещении христианского населения того же края, которое в местечках и деревнях было поголовно безграмотно, не умело читать молитвы, – и естественно пришли к заключению, что это – новый подкоп под еврейскую веру". Паколькі ў Капылі казённага габрэйскага вучылішча не было адкрыта, то Паперна канстатаваў: "Буря пронеслась мимо нас"[125].

Адносіны габрэяў да новых школ добра ілюструе наступны эпізод з успамінаў Мендэле Мойхер-Сфорым пра Капыль: "Плач и суматоха среди евреев (з нагоды школьнай рэформы. – *Аўт.*) навели уныние и на христиан и они по-своему обсуждали это событие:

– Ой, Грицько каже, що наши жидки тамотко плачуть, кричать гвалт, як будто их режуть?

– Эвто вони хапуна пугаюцца, щоби хапун их ни похватав.

– А, ни! До хапуна ще далеко… Треба пытаци, що це таки… Бачить, от Хайка!

– Стоп, Хайка! Кажи-но, що евто ти так бигаешь и гирьке плачешь, а?

– Ой-вей, Микита, несчастье! Нима часу! Вот Берко! Пытай у Берки, нехай каже Берко!.. Ой-вей! – отвечает Хае-Грунэ, мчась во весь дух вниз, по направлению к кладбищу.

– Ой, Берко! Чуешь, а що так жидки хникают, а? – спрашивают опять христиане.

– Это, человече добрый.. ой лихо!.. Будут хапать хлопцив наших в школы! – начинает Берко по мере сил и умения объяснять христианам историю со школами.

Можно себе представить, в каком виде предстали школы перед христианами из рассказа Берки. Но христиане понимали его,

[124] Цыт. па: Дубнов, С.М. Отголоски минувшего века / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1909. Вып. 1–2. Т. 1. С. 304.

[125] Паперна, А. Из Николаевской эпохи… С. 32–33.

крестили и три раза сплёвывали в сторону, как отплёвываются от нечисти"[126].

У 1860 г. на тэрыторыі Беларусі было 30 габрэйскіх казённых вучылішчаў, у якіх вучылася звыш 750 чалавек[127]. Некаторыя з іх адкрываліся ў мястэчках. Так, напрыклад, казённыя габрэйскія вучылішчы I разраду існавалі ў мястэчках Шклоў, Гомель, Любавічы. У іх налічвалася адпаведна 20, 19, 16 вучняў. Шклоўскае казённае габрэйскае вучылішча было адкрыта 5 лістапада 1851 г., размяшчалася ў драўляным аднапавярховым будынку. У 1852 г. у ім вучылася 45 чалавек, у 1861 г. – 43 (1 – купецкага звання, 42 – мяшчанскага)[128].

Гэтыя першыя свецкія агульнаадукацыйныя школы для габрэйскага насельніцтва Беларусі былі кропляй у моры дробных прыватных рэлігійных вучылішчаў. Яны ахоплівалі навучаннем зусім мізэрную частку габрэйскага юнацтва. У Віцебскай і Магілёўскай губернях, напрыклад, колькасць навучэнцаў у 1853 г. у прыватных установах (3380) больш як у дзесяць разоў пераўзыходзіла колькасць навучэнцаў у казённых габрэйскіх школах (312)[129]. Яшчэ большая розніца паміж лічбай вучняў у габрэйскіх прыватных і казённых вучылішчах была ў Гродзенскай губерні[130].

Разам з тым факт з'яўлення новых школ, дававшых агульнаадукацыйную падрыхтоўку, з'яўляўся паказчыкам пачатку разлажэння традыцыйнай сістэмы адукацыі габрэйскага насельніцтва. Пры ўсіх сваіх недахопах новыя школы садзейнічалі таму, што габрэйская моладзь стала знаёміцца з рускай мовай і навукамі, многія з выхаванцаў казённых вучылішчаў пацягнуліся да ведаў і, закончыўшы сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, павялічылі сабой кадры расійскай інтэлігенцыі.

Паводле звестак І. Канапацкага і А. Смоліка, у кожным населеным пункце, дзе жыла значная колькасць татар, ствараліся мусульманскія школкі. Навучаннем дзяцей займаліся або сам кіраўнік мусульманскай абшчыны – *імам*, або яго памочнік – *мязім* (*муэдзін*), або спецы-

---

126 Менделе Мойхер Сфорим. История одной жизни: воспоминания писателя // "Еврейский мир". 1909, май. С. 56.

127 Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. ... С. 368.

128 НГАБ. Ф. 2254. Воп. 1. Адз. зах. 243. Арк. 19; Адз. зах. 284. Арк. 14; Адз. зах. 181. Арк. 25–30; Адз. зах. 206. Арк. 31.

129 Поссе, В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в. ... С. 370.

130 Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния... С. 521.

яльна прызначаная для гэтага асоба – *годжый* (настаўнік). Вучылі ў асноўным мужчыны, але былі і жанчыны (*гаджыні*). У невялікіх мястэчках, дзе не было ні мячэці, ні мулы, запрашалі вучыць дзяцей мусульманскай рэлігіі добра падрыхтаваных старых людзей. Нярэдка настаўнікамі мусульманскай рэлігіі былі хлопчыкі і дзяўчынкі, якія добра ведалі асновы рэлігіі. Такія "дарэктары" таксама паважаліся ў татар. Навучанне ў меншых паселішчах вялося па пятніцах, у большых – штодзённа[131].

У афіцыйнай статыстыцы ўлічваліся толькі магаметанскія вучылішчы ў значных татарскіх паселішчах. Так, у 1840 г. у Гродзенскай губерні было 6 мячэцяў, 7 святароў, 1141 прыхаджанін і толькі адно вучылішча ў Навагрудку (20 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак). Змест навучання характарызаваўся наступным чынам: "Учением оных, а именно преподаванием только первоначальных правил веры, занимается сам мулла, который, как равно и все прочие обитающие в здешних губерниях магометане, кроме догматов своей веры ничего более на магометанском языке не знают"[132]. Навучанне татар насіла ў большасці нефармальны характар і абмяжоўвалася асновамі мусульманскай веры, арабскага пісьма, неабходных для чытання Карана.

Разнастайныя навучальныя ўстановы, што знаходзіліся ў мястэчках, не былі вонкавай з'явай, яны аказвалі *значны ўплыў на паўсядзённае жыццё* іх жыхароў. Гэтаму, па-першае, спрыяла сама эпоха Асветніцтва з характэрным для яе працэсам секулярызацыі адукацыі, калі навучальныя ўстановы рабіліся больш адкрытымі і мацней уцягнутымі ў гаспадарчае, сацыяльнае і культурнае развіццё тых населеных пунктаў, дзе яны размяшчаліся. Па-другое, уплыў навучальных устаноў на паўсядзённасць мястэчак вызначалі канкрэтныя людзі (уладальнікі мястэчак, манахі, святары, настаўнікі), якія клапаціліся аб развіцці школьнай справы. Асобным кірункам узаемадачынення навучальных устаноў з мясцовым насельніцтвам з'яўлялася справа ахвяравання на асвету капіталаў і іншыя формы іх падтрымкі заможнымі прадстаўнікамі мясцовага грамадства, духавенствам.

Навучальныя ўстановы акрамя непасрэдна адукацыйнай выконвалі і іншыя важныя функцыі. На іх ускладвалася ажыццяўленне пэўных мерапрыемстваў па ахове здароўя як уласных выхаванцаў, так і па магчымасці мясцовага насельніцтва. Пры

---

131 Канапацкі, І.Б. Гісторыя і культура беларускіх татар / І.Б. Канапацкі, А.І. Смолік. Мінск, 2000. С. 138–139.

132 НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 432. Арк. 7, 7 адв., 24.

шэрагу сярэдніх навучальных устаноў дзейнічалі батанічныя сады, аптэкі. Захаваліся сведчанні аказання настаўнікамі некаторых мястэчковых вучылішчаў ветэрынарных паслуг. Будынкі навучальных устаноў часам складалі важны элемент архітэктурнага аблічча мястэчак (Свіслач, Горкі, Касцюковічы і інш.).

Адчувалася дзейнасць навучальных устаноў у непасрэдным эканамічным жыцці мястэчак. Свіслач, напрыклад, з нагоды знаходжання гімназіі была вызваленая ад воінскага пастою, што было значнай палёгкай для жыхароў. Навучэнцы ды настаўнікі папаўнялі местачковае насельніцтва і стваралі для мястэчка дадатковы рынак тавараў і паслуг. Прыбытак мяшчанам прыносіла здача кватэр і асобных пакояў выкладчыкам, а таксама заможным выхаванцам. Часта жыхары мястэчак забяспечвалі харчаванне навучэнцаў. Пашыранай справай было і харчаванне ўсяго педагагічнага складу школы ў бліжэйшай карчме альбо заказ у ім ежы з дастаўкай (Паставы)[133]. Зараблялі местачкоўцы і з іншых відаў паслуг, якія аказваліся навучэнцам. Можна канстатаваць, што наяўнасць вучэльні ў мястэчку актывізавала развіццё прамысловасці і гандлю, сферы паслуг. У некаторых выпадках эканамічнае ажыўленне пасля адкрыцця навучальнай установы было настолькі моцным, што мястэчка пачынала прэтэндаваць на атрыманне статуса горада (Свіслач) і нават яго атрымлівала (Горкі). І наадварот, часам закрыццё навучальных устаноў садзейнічала заняпаду мястэчак, набліжэнню іх да ўзроўню звычайных сельскіх паселішчаў (Халопенічы).

Габрэйскія адукацыйныя ўстановы ў мястэчках адыгрывалі спецыфічныя функцыі забеспячэння трываласці габрэйскай абшчыны, стабілізацыі грамадскага жыцця і вызначэння месца, якое чалавек займаў у грамадстве. Габрэйскія школы ў значнай ступені актывізавалі духоўнае жыццё жыхароў штэтла (напрыклад, наведваць клаўзы, ешывы і ўдзельнічаць там у абмеркаваннях рэлігійных і іншых пытанняў маглі ўсе местачкоўцы, а навучэнцы падчас харчавання ў мясцовых жыхароў былі абавязаны весці "вучоныя" размовы). На прыкладзе Капыля можна заўважыць важнае матрыманіяльнае значэнне габрэйскіх школ: іх навучэнцы станавіліся жаніхамі для дзяўчат з бедных сем'яў.

Мясцовае насельніцтва вельмі ганарылася тым фактам, што ў іх горадзе ці мястэчку дзейнічае школа. Аб гэтым сведчаць і клопаты грамадства аб паляпшэнні іх матэрыяльнай базы, хадайніцтвы аб недапушчэнні закрыцця ці пераводу асобных вучылішчаў, звароты

133 Самусік, А. Навучальныя ўстановы ў паўсядзённым жыцці гарадоў... С. 251.

аб адкрыцці новых навучальных устаноў (Парычы, Паставы, Ушачы) альбо наданні ім афіцыйнага статуса (Бяроза, Беразвеч)[134].

Роля мястэчак як асветніцкіх цэнтраў не абмяжоўвалася толькі наяўнасцю ў іх навучальных устаноў. Акрамя вучылішчных бібліятэк, у многіх мястэчках існавалі царкоўныя, манастырскія і прыватныя ***бібліятэкі***[135].

Царкоўныя і манастырскія бібліятэкі, размешчаныя ў мястэчках, захоўвалі на працягу стагоддзяў багатыя рукапісныя і кніжныя фонды, у тым ліку і выдатныя помнікі пісьменства і культуры беларускага народа. Так, Праабражэнская царква ў м. Тураў захоўвала такі старажытны помнік гісторыі Беларусі, як рукапіснае Евангелле XVII ст.[136] У кальвінскім зборы м. Койданава была славутая Брэсцкая біблія выдання Радзівіла Мікалая Чорнага, яе стан у пачатку XX ст. характарызаваўся наступным чынам: "Ня гледзячы на тое, што яна праслужыла некалькі вякоў пратэстантам, усё-ж добра захавалася ў бронзавай цяжкай аправе, з пазалочанымі вугольнікамі, клямарамі і гербамі Радзівілаў"[137]. Кожны храм меў абавязковы набор служэбных і чэцціх кніг. У царкоўных бібліятэках захоўваліся і кнігі свецкага зместу. У XVIII–XIX стст., па звестках М. Нікалаева, царкоўны кнігазбор у сярэднім складаўся з 10–30 кнігадрукаў і рукапісаў[138].

Асноўны масіў кніг захоўваўся ў бібліятэках манастырскіх (кляштарных). Звесткі пра базыльянскія бібліятэкі, у тым ліку і тыя, што месціліся ў мястэчках, прыводзіць Святлана Марозава[139]. Да пачатку XIX ст. налічвалася больш за 60 бібліятэк ордэна базыльянаў. Адной з цэнтральных была бібліятэка Жыровіцкага манастыра. Яна налічвала некалькі тысяч кніг, а таксама нот, карт, эстампаў. У 1895 г. многія кнігі былі пераведзены ў Вільню ў Троіцкі манастыр, яшчэ частка кніг і рукапісаў – у Віленскую публічную бібліятэку. Сярод перададзеных рукапісаў былі: "Апостал" (XV ст.), "Евангелле напрастольнае" (XV ст.), "Пацярык Пячорскі з дадаткамі" (XVI ст.), беларускія "Хранограф", складзены з рукапісаў XVI–XVII стст., "Зборнік навучанняў"

---

[134] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Адз. зах. 1452. Арк. 2–3; Самусік, А. Навучальныя ўстановы ў паўсядзённым жыцці гарадоў... С. 254.

[135] *Табліца 40.*

[136] Цыбуля, В.А. Манастырскія і царкоўныя бібліятэкі ў Беларусі / В.А. Цыбуля // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970. № 3. С. 50–51.

[137] Шпілеўскі, І.Т. Мястэчка Койданава / І.Т. Шпілеўскі, Л.А. Бабровіч // Наш край. 1929. № 2. С. 32.

[138] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 42.

[139] Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады) / С.В. Марозава. Гродна: ГрДУ, 2001.

(XVII ст.) і г.д. Трэцяя частка кніг трапіла ў бібліятэку духоўнага вучылішча ў Жыровічах. Тут былі такія каштоўныя выданні, як надрукаваная ў Пачаеве "Навука хрысціянска, альбо Катэхізіс"[140].

Невялікія бібліятэкі былі практычна ва ўсіх базыльянскіх манастырах: у Быцені (у 1834 г. 1601 кніга), Талачыне (у 1820 г. 572 кнігі), Барунах (у 1804 г. 285 кніг), Міры (у 1822–1824 гг. 34 тамы), Лядах, Антопалі, Беразвеччы, Свержані, Вярбілаве і інш.[141]

Бібліятэка піярскага кляштара ў Шчучыне налічвала больш за 2000 кніг, пераважна прыродазнаўчых, медыцынскіх, матэматычных. Былі тут творы Гамера, Гарацыя, Плутарха, Ціта Лівія, Вальтэра, Мантэск'е[142]. Піярскія бібліятэкі існавалі таксама ў Лужках, Драгічыне. Вялікія кнігазборы мелі кляштары кармелітаў у Глыбокім, дамінікан у Валынцах і Шклове.

У другой трэці XIX ст. базыльянскія кнігазборы разам з кніжнымі фондамі скасаваных каталіцкіх ордэнаў былі мэтанакіравана распатрошаныя, рассеяныя, знішчаныя. Яны сталі асновай бібліятэк шэрага навучальных устаноў этнічнай Беларусі, а таксама прыватных і дзяржаўных збораў Расіі.

Поўнай статыстыкі прыватных бібліятэк і музейных збораў не існуе. Таму даныя аб іх вельмі фрагментарныя. Культурныя каштоўнасці захоўваліся практычна ў кожнага больш-менш значнага абшарніка. Музейныя калекцыі, сямейныя архівы, карцінныя галерэі і бібліятэкі мелі каля 400 маёнткаў (у межах сучаснай Беларусі). З іх каля 54 знаходзіліся ў мястэчках і толькі 4 – у гарадах[143].

Адзначым, што ў эпоху Асветніцтва прыватныя магнацкія бібліятэкі выконвалі функцыю публічных бібліятэк. Уласнікі кнігазбораў лічылі сваім абавязкам дазваляць імі карыстацца ўсім ахвотным, дапамагаць у пошуках крыніц, збіранні матэрыялаў для даследчыцкіх прац. У гэтых адносінах найбольш славіліся бібліятэкі Храптовічаў у Шчорсах, Валіцкіх у Азёрах, а таксама кнігазборы Сапегаў[144].

Самымі вялікімі прыватнымі бібліятэкамі ў мястэчках былі бібліятэкі магнатаў Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне. Пачатак кнігазбору дала ружанская бібліятэка. Ёсць звесткі, што князь Аляк-

---

140 Цыбуля, В.А. Манастырскія і царкоўныя бібліятэкі ў Беларусі...

141 НГАБ. Ф. 2254. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 80; Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі... С. 115; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т.2. С. 42.

142 Цыбуля, В.А. Манастырскія і царкоўныя бібліятэкі ў Беларусі... С. 50.

143 Шыбека, З.В. Гарады Беларусі... С. 193.

144 Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX wieku / L. Kowkiel // Przegląd Wschodni. T. VII. Zeszyt 4 (28). S. 1230.

сандр Сапега 12 верасня 1784 г. прымаў у Ружанах караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які "с любопытством рассматривал богатую библиотеку, в которой было много библиографических редкостей, а также фамильный Сапежинский архив"[145]. У 1786 г. ружанская бібліятэка была перанесена ў Дзярэчын. Па звестках В. Цыбулі, у дзярэчынскім архіве было 232 назвы рукапісаў і кніг XV–XVII стст.[146] У сапегаўскім кнігазборы меліся кнігі на любы густ і розум на французскай, нямецкай, італьянскай, іспанскай, англійскай, рускай, польскай, лацінскай, грэчаскай і нават арабскай мовах. Шмат якія кнігі мелі гравюры-ілюстрацыі. Калі разглядаць іх паслядоўна, можна падрабязна пазнаёміцца з развіццём еўрапейскай гравюры на вялікім прамежку часу, знайсці яскравыя ўзоры работ вядомых майстроў. Адчуваецца, як адзначае М. Нікалаеў, бібліяфільскае стаўленне да кнігазбору: шматлікія экслібрысы, спецыяльныя і рэдкія выданні, для большасці кніг – уніфікаваны пераплёт з залатым цісненнем[147].

За ўдзел Яўстаха Каятана Сапегі ў паўстанні 1830–1831 гг. маёмасць гэтага славутага роду была канфіскаваная і перайшла ў казну. Супрацоўнікі Гродзенскай казённай палаты атрымалі з Пецярбурга распараджэнне: кнігі з бібліятэкі Сапегаў перагледзець, найбольш каштоўныя з іх этапаваць у Пецярбург. У сталіцу Расійскай імперыі была адпраўлена 2151 кніга, 287 кодэксаў архіва, там яны былі расцярушаны па прыватных, адукацыйных, публічных і ведамасных бібліятэках. Большая частка дзярэчынскага архіва і бібліятэкі трапіла ў імператарскую публічную бібліятэку ў Пецярбургу, частка – у музей старажытнасцей у Вільні. У 1838 г. загадчык бібліятэкі Гродзенскай губернскай гімназіі Яўстах Арлоўскі прыняў 279 тамоў, сканфіскаваных у Сапегаў[148].

У вырашэнні лёсу дзярэчынскіх каштоўнасцей прымаў удзел сам Мікалай I. Па яго непасрэдным загадзе найбольш каштоўная частка калекцыі Сапегаў была накіраваная ў Царскае Сяло (25 скрыняў, у тым ліку 22 статуі, 287 карцін і інш.). Імператар асабіста адбіраў мастацкія творы для Эрмітажа і Акадэміі мастацтваў, а 23 карціны прызначыў для знішчэння (галоўным чынам партрэты)[149]. Анты-

145 Живописная Росия: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизведение изд. 1882 г. Мінск, 1994. С. 199.

146 Цыбуля, В.А. Прыватныя бібліятэкі, архівы і музеі Беларусі / В.А. Цыбуля // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 3. С. 36–38.

147 Нікалаеў, М.В. Аблічча сярэдневяковай бібліятэкі: кнігазборы Сапегаў / М.В. Нікалаеў // Мастацтва Беларусі. 1985. № 7. С. 64–67.

148 Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш / М. Скобла. Мінск, 1999. С. 78.

149 Aftanazy, R. Dzieje Rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy.

кварная зброя паступіла ў Анічкін палац, розныя ўзнагароды – у капітул расійскіх ордэнаў, асобныя рэчы Мікалай I пакінуў сабе[150].

У Вялікай Бераставіцы "старая" бібліятэка Касакоўскіх налічвала 3000 тамоў кніг на лацінскай, польскай, французскай, рускай, нямецкай мовах пераважна па гісторыі, праве, геральдыцы, філасофіі. Даволі багаты сямейны архіў размяшчаўся ў спецыяльным памяшканні. Ён складаўся з дакументаў, якія кранялі часы гетмана Хадкевіча. Тут захоўваўся развітальны ліст Напалеона да генерала Юзафа Касакоўскага. Гэтыя багацці перажылі Першую сусветную вайну. У міжваенны час бібліятэка папоўнілася яшчэ 1500 тамамі. Некаторыя дакументы з архіва былі падараваны Гродзенскаму музею. Аднак большая частка кніг, архіўных збораў і калекцыя мастацкіх твораў былі разрабаваны і спалены разам з палацам на пачатку Другой сусветнай вайны[151].

У Шчучыне, у асобным мураваным будынку сярод парку, захоўваліся багатая бібліятэка і сямейны архіў Друцкіх-Любецкіх, прывезены з радавых маёнткаў з Піншчыны. Частку дакументаў на пачатку XX ст. перадалі ў Кракаў у музей Чартарыйскіх. А тое, што разам з кнігазборам захоўвалася на месцы, у Шчучыне, было знішчана ў Першую сусветную вайну.

У Скідзелі захоўваліся архіў і бібліятэка князёў Чацвярцінскіх. Архіў налічваў каля 8000 спраў[152]. У 1915 г. усё гэта было часткова знішчана ў час пажару Скідзеля, а часткова разрабавана.

Багатыя бібліятэкі ў некалькі тысяч тамоў мелі Чартарыйскія ў Воўчыне, Адам Солтан у Дзятлаве, Слізні ў Дзевяткавічах. У Дзевяткаўскім палацы захоўваўся і багаты фамільны архіў Слізняў, дакументы яго пачыналіся з 1432 г. У Азёрах у памешчыка Валіцкага было 2820 кніг, а таксама старажытныя рукапісы, прывілеі. Былі тут і кнігі, набытыя Міхалам Валіцкім у Парыжы са збораў Людовіка XVI і Марыі Антуанэты. Сучаснікі ўражваліся унікальнасцю бібліятэкі, а таксама адзначалі, што мастацкая калекцыя Валіцкіх у Азёрах магла б выклікаць зайздрасць многіх музеяў. У 1867 г. канфіскаваныя кнігі некаторы час былі звалены без надзору ў адрыне, а потым перададзены Віленскай публічнай бібліятэцы[153].

---

T. II. Warszawa, 1987. S. 197–201.

[150] Радзюк, А.Р. Канфіскацыя прыватнай уласнасці на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: Дыс. ... канд. гіст. навук / А.Р. Радзюк. Мінск, 2006. С. 68.

[151] Коўкель, Л.І. Прыватныя бібліятэкі Гродзеншчыны (канец 18 – пачатак 20 ст. ) // Шлях у навуку: Матэрыялы навук. канфер. Мінск, 1997. С. 80–84.

[152] Там жа.

[153] Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX

У палацы Росі знаходзіліся збор партрэтаў роду Патоцкіх, багаты гістарычны архіў і бібліятэка. Архіўны дакумент 1836 г. сведчыць, што пасля смерці Ф. Патоцкага засталося 1324 кнігі, з іх на польскай мове – 378, французскай – 302, італьянскай – 93, англійскай – 28, лацінскай – 382, нямецкай – 141[154]. Мелі Патоцкія багаты кнігазбор і ў Высока-Літоўску (каля 5000 тамоў), які ўтрымліваў цудоўную калекцыю апісанняў падарожжаў і мемуараў з канца XVIII – пачатку XIX ст. пераважна на французскай мове[155].

Багатую бібліятэку і калекцыю мастацкіх твораў мелі Тышкевічы ў Лагойску[156]. Паводле сведчання П. Шпілеўскага, у бібліятэцы налічвалася да 3000 тамоў сачыненняў пераважна на польскай і французскай мовах, з якіх каля 500 старажытных, мноства старадаўніх рукапісаў, карт, грамат. У тагачаснай Лагойскай галерэі было больш за 200 карцін італьянскага жывапісу, вялікі збор этрускіх ваз, больш за 1000 медалёў і манет, старажытныя крыжы, кальчугі, шчыты, мячы, коп'і, бердышы, калекцыя льняных вырабаў Лагойскай фабрыкі[157]. Браты Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы пératварылі ў 1842 г. гэты своеасаблівы цэнтр гістарычнай і археалагічнай навукі ў Лагойскі археалагічны музей – першы ў Беларусі музей старажытнасцей. Ён размяшчаўся ў дзвюх спецыяльна адведзеных для гэтай мэты залах палаца. Прадметы групаваліся наступным чынам: археалагічная калекцыя; калекцыя гравюр; манеты, медалі, пячаткі; зброя, даспехі і рыштунак (у тым ліку два старых мяча з пазалочанымі малюнкамі Стэфана Баторыя, сцяг, які быў узяты ў шведаў, шабля Пятра I)[158]. Упершыню прыватнае збіральніцтва было пастаўлена на сур'ёзную навуковую глебу. На працягу 1830–1850-х гг. пры ўдзеле вучоных у Лагойску ішла праца па фарміраванні калекцый, іх навуковай апрацоўцы, складанні каталогаў і будаўніцтве экспазіцый. А. Ельскі адзначаў, што лагойскі збор уяўляў сабой навуковы матэрыял найвышэйшай каштоўнасці, асабліва таму, што ўсё гэта было каталагізаванае і знаходзілася ва ўзорным парадку, і заключаў: "Нам толькі застаецца пажадаць, каб гэты Храм захоўваўся нераз-

wieku... S.1233

[154] НГАБ у Гродне. Ф.1143. Воп. 2. Адз. зах. 1. Арк. 59–78.

[155] Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX wieku... S. 1232.

[156] *Малюнак 14.*

[157] Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992. С. 174

[158] Самцэвіч, В. Мястэчка Лагойск (Менскай акругі) / В. Самцэвіч // Наш край. 1928. № 4. С. 28.

дроблены з думкай пра нашчадкаў"[159]. Аднак лёс калекцыі склаўся па-іншаму. Усведамляючы важнасць лагойскага збору для развіцця навукі, К. Тышкевіч ахвяраваў большую яго частку для стварэння музея старажытнасцей у Вільні, частку археалагічных знаходак перадаў у Кракаўскі музей археалогіі, Маскоўскае археалагічнае таварыства, калекцыю шкла эпохі Рымскай імперыі – у Музей Нарадовы ў Варшаву[160]. Частку лагойскага збору ў 1905 г. купіў археолаг Татур, а астатнюю частку музея і бібліятэку Юзаф Тышкевіч у 1910–1911 гг. перавёз у Вільню. Найменш каштоўныя рэчы і кнігі былі знішчаны ў 1917–1920 гг.[161]

Значным культурна-асветніцкім і навуковым цэнтрам з'яўлялася м. Паставы. Канстанцін Тызенгаўз меў тут карцінную галерэю, стварыў арніталагічны музей, у якім было некалькі тысяч узораў птушак з Беларусі, Літвы і Украіны. Пры музеі была значная бібліятэка, якая складалася з кніг па арніталогіі, а таксама рэдкіх помнікаў польскага пісьменства, каштоўнага збору гравюр і сямейнага архіва, дакументы якога пачыналіся ад XIII ст. У парку побач з палацам у звярынцы ўтрымліваліся жывыя птушкі і млекакормячыя. Палац у Паставах нагадваў сапраўдную навукова-даследчую станцыю, дзе дваровыя выконвалі абавязкі птушкаловаў, паляўнічых, прэпаратараў. Збор К. Тызенгаўза аглядалі вучоныя і ўсе зацікаўленыя. У 1851 г. ён перадаў у дар Дрэздэнскаму прыродазнаўчаму музею спецыяльна падабраную калекцыю птушак Беларусі[162]. Пасля смерці К. Тызенгаўза справу па падтрыманні музея і бібліятэкі і іх папаўненні працягваў яго сын Рэўнольд. У 1856 г. экспанаты арніталагічнага музея адышлі Віленскай археалагічнай камісіі, пры якой быў створаны арніталагічны кабінет. Бібліятэка засталася ў Паставах у нашчадкаў. У час Першай сусветнай вайны бібліятэка Тызенгаўзаў была перавезена з Паставаў у Смаленск. Далейшы яе лёс невядомы[163].

Заслугоўвае ўвагі бібліятэка графа М. Румянцава ў Гомелі, якая разам з творамі мастацтва, нумізматычнай, археалагічнай і этнаграфічнай калекцыямі з'явіліся асновай Румянцаўскага музея і бібліятэкі ў Пецярбургу (з 1861 г. у Маскве). У Гомелі для

---

[159] Ельскі, А. Гарады і мястэчкі / А. Ельскі // Выбранае / Аляксандр Ельскі; уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука. Мінск, 2004. С. 296.

[160] Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X–XIX ст.: энцыкл. даведнік. Мінск, 1995. С. 575–576; Гужалоўскі, А.А. Нараджэнне беларускага музея / А.А. Гужалоўскі. Мінск, 2001. С. 28–29.

[161] Самцэвіч, В.М. Лагойск (Менскай акругі) / В. Самцэвіч // Наш край. 1928. № 4. С. 28.

[162] Гужалоўскі, А.А. Нараджэнне беларускага музея... С. 28.

[163] Мысліцелі і асветнікі Беларусі... С. 574.

бібліятэкі і мастацкай галерэі быў пабудаваны палац над Сожам[164]. Збіральніцкая дзейнасць М. Румянцава была звязана з археаграфічнай і крыніцазнаўчай працай. У рукапісным аддзеле Гомельскай бібліятэкі знаходзіліся не толькі арыгінальныя матэрыялы, але і копіі, выпіскі, што тычыліся беларускай гісторыі, зробленыя самім уладальнікам. Плённым было супрацоўніцтва графа з гомельскім протаіерэем Іванам Грыгаровічам, які ў 1824 г. сабраў і выдаў на сродкі свайго патрона "Беларускі архіў старажытных грамат" – першы археаграфічны зборнік, прысвечаны выключна Беларусі[165].

Ёсць звесткі аб існаванні бібліятэк Ашторпаў у Дукоры, ксяндза Геніюша ў Луніне (захоўваў рэшткі кнігазбору картэзіянскага кляштара ў Бярозе), П. Гаховіча ў Тураве і інш.[166] Каштоўную бібліятэку ў 1000 тамоў меў у Шарашове Міхал Баброўскі, былы уніяцкі святар і прафесар Віленскага універсітэта[167].

Адукаваныя жыхары мястэчак маглі задаволіць свае патрэбы ў набыцці кніг падчас кірмашоў. Сярод прывозімых на іх тавараў былі і кнігі. Напрыклад, на кірмаш у Зэльву траплялі ў асноўным французскія і польскія выданні, "духоўнага зместу і з адлюстраваннем святых угоднікаў". Віленскі кнігар Рафаловіч прывозіў кніг і эстампаў 100 пудоў[168] (каля 1600 кг). Кнігамі ў Зэльве гандлявалі слонімскія, гродзенскія, віленскія, індурскія, варшаўскія купцы[169].

Прыватныя бібліятэкі мелі і прадстаўнікі габрэйскай супольнасці ў мястэчках. З успамінаў А. Паперны даведваемся: "Кроме библиотеки при клаузе, в Копыле было много частных библиотек меньшего размера. Каждый зажиточный и уважающий себя обыватель имел у себя на дому те книги, которые были ему доступны и которые отвечали его вкусу. Шкаф с книгами, с полным комплектом Талмуда в красном кожаном переплете, был лучшим украшением для еврейского обывателя, как жемчуг и бриллиантовые серьги для жены его. И книги, и ожерелье придавали дому важность, аристократический

[164] Цыбуля, В.А. Прыватныя бібліятэкі, архівы і музеі Беларусі... С. 38.

[165] Гужалоўскі, А.А. Нараджэнне беларускага музея / А.А. Гужалоўскі. Мінск, 2001. С. 30.

[166] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т.2. С. 42.

[167] Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX wieku... S. 1238.

[168] Шаўчэня, М. Культурныя аспекты функцыянавання беларускага кірмаша ў XIX ст. (па матэрыялах Гродзенскай губерні) / М. Шаўчэня // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: Зб. навук. пр. / адк. рэд. А.М. Пяткевіч. Гродна, 2003. С. 79; Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш... С. 35.

[169] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики… Ч. 1. С. 149.

колорит"[170]. Свае бібліятэчкі мелі і габрэйскія жанчыны. Паколькі жанчыны не ведалі старажытнагабрэйскай мовы, то гэта былі кнігі на ідыш рэлігійнага і свецкага характару. Іх змест падрабязна апісвае А. Паперна[171]. Габрэйскія кнігі featureнага тыпу можна было набываць непасрэдна ў мястэчку. Кніжных крам яшчэ не было. Попыт на кнігі задавальняўся "странствующим книгопродавцом ("мойхерсфорим"), несколько раз в году приезжавшим на своей тощей кляченке, запряженной в кое-как сколоченную повозку, наполненную до краев книгами… Повозку окружают со всех сторон. Тут и старцы, и юноши, ученые и простолюдины, мужчины и женщины. Всякому что-нибудь нужно. А он, как человек опытный, догадывается по лицам, что кому предлагать, хотя потребности и вкусы в этом отношении у копыльцев весьма разнообразны"[172]. Менавіта ў гэтага "кніганошы" А. Паперна набываў літаратуру асветніцкага характару: "От него мы получали все новые произведения по мере их появления в России и заграницею, так что мы были вполне в курсе новоеврейской литературы"[173].

У габрэйскіх бібліятэках былі і кнігі, выдадзеныя ў мястэчках Беларусі. У разглядаемы перыяд у некаторых мястэчках з'явіліся габрэйскія друкарні: у Шклове (1783 г.), Дуброўне (1802 г.), Лядах (1805 г.), Азёрах (1830 г.). У Азёрскай тыпаграфіі ў 1835–1836 гг. былі выдадзеныя 4 тамы Талмуда з дадаткамі Альфонса[174]. Найбольш працяглай была дзейнасць Шклоўскай друкарні: 133 выдання[175]. Належала яна Боруху Еліовічу, які ў 1800 г., пасля забароны яму створанай у Рызе цэнзурай мець друкарню, звярнуўся ў Пецярбург з прашэннем аб пераносе яе са Шклова ў Дуброўну. Паколькі Борух меў падтрымку ўладальніка Дуброўны князя Любамірскага, які таксама паслаў у Пецярбург сваё хадайніцтва, то яму было дазволена выдаваць там габрэйскія кнігі пад наглядам рускай цэнзуры[176]. У Дуброўне было надрукавана 6 выданняў, у Лядах – адно[177]. У 1837 г. усе габрэйскія друкарні, акрамя Віленскай і Кіеўскай, былі зачыненыя. Захаваліся

170 Паперна, А. Из Николаевской эпохи…// Пережитое. Т. 2. СПб., 1910. С. 17.
171 Там жа. С. 17–19.
172 Там жа. Т. 3. СПб., 1911. С. 330–331.
173 Там жа.
174 Сабалеўская, В.А. Яўрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.: лад жыцця і культура: Дыс. ... кандыдата культуралогіі / В.А. Сабалеўская. Гродна, 1999. С. 84.
175 Галенчанка, Г. Кнігадрукаванне / Г. Галенчанка, В. Герасімаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 210.
176 РДГА. Ф. 1374. Воп. 7. Адз. зах. 315. Арк. 1–7.
177 Перлін, Г. Да гісторыі яўрэйскага друку ў Беларусі / Г. Перлін // Наш край. 1927. № 8–9. С. 11–15.

дакументальныя матэрыялы аб пошуку ўладамі па гарадах і мястэчках забароненых цэнзурай габрэйскіх кніг. У 1846 г. у Ашмянскім уездзе пасля "произведения во всех местечках формальных обысков в еврейской школе в Сморгони было найдено 26 старинных еврейских книг, непропущенных цензурою, в м. Креве – 3"[178].

Часам сустракаюцца звесткі аб рукапіснай кніжнай прадукцыі мястэчак. Цікавы факт прыводзіцца ў часопісе "Наш край": рэдакцыя ў 1928 г. атрымала дасланую кнігу па народнай медыцыне, складзеную ў м. Койданава ў 1811 г.[179]

***

Прыведзены матэрыял паказвае, што ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. у Беларусі мястэчкі займалі даволі значнае месца ў сістэме адукацыі, у тым ліку і габрэйскай. У мястэчках былі прадстаўлены ўсе тыпы навучальных устаноў, якія існавалі ў Беларусі на працягу разглядаемага перыяду. Многія ўезныя вучылішчы і некаторыя гімназіі размяшчаліся не ва уезных гарадах, а ў мястэчках. Таму такія мястэчкі, як Свіслач, Шчучын, Жыровічы, Лыскава, Лужкі, Беразвечча, Валынцы, Ушачы, Талачын, Маладзечна, Ляды, Халопенічы, Касцюковічы, з'яўляліся важнымі адукацыйнымі і асветніцкімі цэнтрамі і ў гэтых адносінах пераўзыходзілі некаторыя ўезныя гарады. Мястэчка Горкі на нядоўгі час стала адзіным у Расіі цэнтрам вышэйшай агранамічнай адукацыі.

Беларусь атрымала вядомасць як тэрыторыя выбітных ешываў, габрэйскіх вышэйшых рэлігійных устаноў, дзе канцэнтравалася інтэлектуальнае жыццё габрэйства. Размяшчаліся яны, як правіла, у мястэчках. У першай палове XIX ст. асноўнымі цэнтрамі выхавання духоўнай і інтэлектуальнай эліты габрэйства былі ешывы Валожына і Міра.

У многіх мястэчках існавалі вучылішчныя, царкоўныя, манастырскія і прыватныя бібліятэкі, а таксама музейныя зборы, габрэйскія друкарні. Своеасаблівым цэнтрам гістарычнай і археалагічнай навукі з'яўляўся Лагойск, дзе браты Тышкевічы стварылі археалагічны музей. К. Тызенгаўзам быў арганізаваны арніталагічны музей у Паставах. На жаль, гэтыя некалі шматтысячныя зборы рэдкіх кніг, старадаўніх актаў, мастацкіх твораў, музейныя калекцыі расцярушаны па свеце і знаходзяцца за межамі Беларусі – у Пецярбургу, Маскве, Кіеве, Вільні, Варшаве і інш.

---

[178] ДГА Літвы. Ф. 381. Воп. 19. Адз. зах. 990. Арк. 2 адв.

[179] Хроніка // Наш край. 1928. №5 (32). С. 61.

Калі навучальныя ўстановы, што знаходзіліся ў мястэчках, аказвалі значны ўплыў на паўсядзённае жыццё іх жыхароў, то гэтага нельга сказаць пра прыватныя кнігазборы і музейныя калекцыі, што належалі арыстакратыі. Яны былі даступныя пераважна вузкаму колу – іх сем'ям, гасцям, прадстаўнікам таго ж самага саслоўя, а з жыццём местачкоўцаў не мелі амаль ніякай повязі. Аднак матэрыял аб іх наяўнасці ў мястэчках рэпрэзентуе гэтыя паселішчы як асяродкі элітарнай культуры.

Такім чынам, мястэчкі адыгрывалі важную ролю ў развіцці адукацыі, бібліятэчнай і музейнай справы Беларусі разглядаемага перыяду. Яны не засталіся ў баку ад Асветніцтва, станавіліся яго праваднікамі ў шырокія масы правінцыйнага насельніцтва. І Асветніцтва ў сваю чаргу паспрыяла росквіту шэрага мястэчак.

## 5.2. Тэатральнае і музычнае жыццё

Тэатральнае жыццё Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. было надзвычай стракатым. Прафесійныя віды тэатральнага мастацтва – школьны і прыгонны тэатр, драматычныя і оперныя антрэпрызы – адлюстроўвалі культуру горада і прыватнаўласніцкага мястэчка. Народныя віды тэатра – скамарохі, батлейка, кірмашовы тэатр, народная драма – мелі больш шырокі арэал сваёй дзейнасці: абслугоўвалі і вёску, і мястэчка, і горад.

Пад назвай школьнага тэатра ў гісторыі беларускага сцэнічнага мастацтва канца XVI–XVIII ст. увайшла сукупнасць тэатральных паказаў, якія ставіліся паводле п'ес, напісаных пераважна выкладчыкамі тагачасных устаноў (калегіумаў, семінарый, акадэмій) для пазнавальна-дыдактычных і прапагандысцка-выхаваўчых мэт. Дзейнасць школьнага тэатра характарызавала тэатральную культуру не толькі беларускіх гарадоў, але і мястэчак. Так, у першай чвэрці XVIII ст. узнік школьны тэатр пры езуіцкім калегіуме ў м. Жодзішкі. Вядомы праграмы трох драм, пастаўленых у мястэчку[180]. З уніяцкіх тэатраў Рэчы Паспалітай найбольшай вядомасцю карыстаўся базыльянскі тэатр у Жыровічах. На жаль, звестак пра яго мала. Тут ставіліся драмы на лацінскай і польскай мовах з беларускімі інтэрмедыямі. Адзіная вядомая нам сёння польска-беларуская уніяцкая інтэрмедыя "Сляпы, кульгавы, потым пан і селянін" выканана ў 1751 г.[181]

---

180 Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т.1. Мінск, 1983. С.138.

181 Мальдзіс, А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палова XVII–XVIII ст. / А.І Мальдзіс. Мінск, 1980.

У канцы XVIII ст. школьныя тэатры спыняюць сваё існаванне. Апошні з іх дзейнічаў у Забельскім дамініканскім калегіуме, які знаходзіўся ў фальварку Забелы каля м. Валынцы на Полаччыне. Адам Мальдзіс адзначае, што "Забельскі школьны тэатр – з'ява выключная, унікальная ў розных адносінах, па-першае, гэта быў адзіны школьны тэатр Беларусі ў 80–90-я гг. XVIII ст., а па-другое, ён здзіўляе разнастайнасцю рэпертуару: тут ставіліся трагедыі, камедыі, арыгінальныя "оперы", аперэты, выконваліся "судовыя дыялогі". Урэшце, амаль усе творы, якія ўзніклі ў забельскім асяроддзі, з'яўляюцца асветніцкімі па свайму ідэйнаму гучанню і класіцысцкімі па стылю"[182]. Росквіт Забельскага школьнага тэатра прыпадае на 1787–1791 гг. За пяць год тут былі пастаўлены 4 трагедыі, 5 камедый, камічная опера. Аўтарамі гэтых твораў з'яўляліся Каятан Марашэўскі, Міхал Цяцерскі, Ігнат Юрэвіч і іншыя мясцовыя драматургі. Для рэпертуару Забельскага школьнага тэатра было характэрна моўнае "раздваенне": побач з творамі, дзе гучала беларуская мова, тут ставіліся таксама трагедыі і камедыі на польскай мове. Менавіта тут на інтэрмедыйнай аснове нарадзілася першая беларуская "Камедыя" К. Марашэўскага. Тут М. Цяцерскім была зроблена і першая пераробка на беларускую мову твора іншамоўнага драматурга Мальера "Доктар па прымусу", дзе былі ўведзены арыгінальныя вобразы беларускіх сялян, мальераўскі сюжэт быў напоўнены мясцовым беларускім каларытам. І. Юрэвічам былі напісаны польскамоўныя, але насычаныя беларусізмамі трагедыя "Крэз" і камедыя "Пышнагельскі". Такім чынам, Забельская навучальная ўстанова дамініканцаў каля м. Валынцы стала значным цэнтрам літаратурна-тэатральнага жыцця Беларусі канца XVIII ст.

Спецыфічнай пераходнай формай ад пастановак школьных тэатраў да прафесійнага прыватнага тэатра з'яўляўся прыгонны тэатр XVIII – пачатку XIX ст. Тэатры ўзнікалі ў прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках, якія з'яўляліся цэнтрамі як буйных латыфундый, так і больш дробных маёнткаў. Маёнткавы тэатр Беларусі меў, як правіла, лакальны, закрыты характар, трупы яго не вызначаліся высокім прафесіяналізмам, паказы былі дамарослыя па форме. Тэатры ў гарадах і мястэчках – цэнтрах магнацкіх латыфундый – былі блізкія па сваім прафесійным узроўні да сталічных, мелі характар публічных тэатраў.

На працягу канца XVIII – пачатку XIX ст. спектаклі і канцэрты наладжваліся ў цэнтрах адносна невялікіх дваранскіх памесцяў – мя-

[182] Мальдзіс, А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый... С. 60.

стэчках Глуск, Дзярэчын, Дуброўна, Горы-Горкі, Чачэрск, Прапойск, Мір, Лагойск і інш. Буйныя магнацкія тэатры і капэлы высокага мастацкага ўзроўню існавалі ў мястэчках Шклоў і Ружаны.

Капэлы і аркестры займалі вялікае месца ў музычным жыцці магнацкіх мястэчак. Нацыянальны склад аркестрантаў і спевакоў быў вельмі разнастайны: немцы, італьянцы, французы, чэхі, галандцы, палякі, беларусы. Разнастайныя былі і рэпертуар, і абавязкі самога аркестра: аркестранты суправаджалі спектаклі, ігралі на балях і ў час палявання. Беларускія прыгонныя музыканты былі ў аркестрах і капэлах Масальскага ў Ружанах (1752), у Юдзіцкіх у Глуску (90-я гг. XVIII ст.), Сапегаў у Дзярэчыне (1762–1765 гг.), Любамірскіх у Дуброўне (1783 г.) і інш.[183]

Захапленне музыкай у Ружанах мела даўнія традыцыі: яшчэ у 1752 г. у замку выступала капэла, якая належала М. Масальскаму. Але першыя звесткі пра ружанскую капэлу Сапегаў адносяцца да 1765 г. Музыкантаў было 40 чалавек "пры бубнах і трубах". З 1775 г. у Ружанах працаваў у якасці капельмайстра і кампазітара К. Чыпрыяна (Кіпрыяні). Вядома, што ў Ружанах існавала музычная оперная школа і што "тэатр у Ружанах налічваў 60 артыстаў і танцоўшчыкаў". Адзін з іх, а менавіта М. Пранчынскі, пазней быў кіраўніком балета ў Вільні (на ружанскай сцэне працаваў з 1780 да 1785 г.)[184]. Уражанні ад ружанскага тэатра ў 1778 г. пакінуў у сваім дзённіку літаратар Юльян Нямцэвіч: "Запрасіў нас князь А. Сапега ў тэатр. Заля была новая, чыстая, дэкарацыі свежыя. Акторы, падрыхтаваныя з юных сялянаў і сялянак, сыгралі па-французску аперэтку Русо "La devin village", як мне падалося, няблага"[185]. Застаўся вельмі задаволеным, пачуўшы ружанскую капэлу ў 1784 г., кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі: ён загадаў шчодра ўзнагародзіць музыкаў.

Філіяламі ружанскай сцэны лічыліся тэатры Сапегаў ў Дзярэчыне і Зэльве. У гэтых мястэчках працавалі таксама і капэлы. Тэатральныя будынкі ў Ружанах і Дзярэчыне былі пабудаваны па праектах прыдворнага архітэктара Іагана Самуэля Бекера. Магчыма, што ён быў аўтарам і дэкарацый да спектакляў[186]. Спецыяльна размаляваная мастаком К. Отэльсанам заслона на сюжэт купання Дыяны-паляўнічай у далейшым аддзяляла сцэну тэатра ў Вільні[187].

---

[183] Барышаў, Г.І. Прыгонныя аркестры / Г.І. Барышаў // Помнікі гісторыі і культуры беларусі. 1972. № 4. С. 52.

[184] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т.1. С. 209, 211.

[185] Цыт. па: Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш / М. Скобла. Мінск, 1999. С. 23.

[186] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т.1. С. 209, 211.

[187] Страчаная спадчына / Т.В. Габрусь, А.М. Кулагін, Ю. Чантурыя і інш.; уклад. Т.В. Га-

Паступова тэатральнае жыццё ў Ружанах заціхае. Князь А. Сапега пераехаў у 1786 г. у Дзярэчын, дзе тэатральныя і музычныя забавы працягваліся да 1791 г. (па іншых звестках, тэатр праіснаваў да 1795 г., а капэла – да 1820 г.)[188], але хутка яны спыніліся і там.

Буйным асяродкам жыцця правінцыі ў другой палове XVIII ст. называе Р. Афтаназы Воўчын, які з 1721 г. належаў Панятоўскім (тут у 1738 г. нарадзіўся Станіслаў Антоні – будучы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі), а з 1738 г. – Чартарыйскім. Тут наладжваліся шматлікія балі, тэатральныя паказы, гонкі на лодках па канале ("марскія бітвы")[189].

Захаваліся звесткі пра тэатр Тышкевіча ў Свіслачы. Вядома, што кіраўніком капэлы быў К. Чыпрыяна, які служыў "прыдворным кампаністам" у 1788 г. У свіслацкім тэатры, які фактычна быў пры гімназіі, паказы даваліся самымі рознымі сіламі. Былі паказы аматараў – вучняў гімназіі, запрашаліся праезджыя "вольныя" трупы Я. Шыманскага (1803), віленскага тэатра пад дырэкцыяй М. Кажынскага (1817–1819). Усе прафесійныя трупы Тышкевіч браў на сваё ўтрыманне, плаціў ім грошы і даваў некаторыя каштоўныя прэзенты, за што яны павінны былі ставіць п'есы і нічога не патрабаваць ад публікі. Прыцягваліся да паказаў таксама артысты з сялян і жыхароў мястэчка. Музычны рэпертуар быў самы разнастайны, складаўся з твораў кампазітараў Дж. Паізіэла, І.С. Баха, Л. Бакерыні і інш. Вядома, што ў пачатку XIX ст. у свіслацкім парку быў пастаўлены аднапавярховы драўляны будынак пад гонтавым дахам, прызначаны спецыяльна для тэатра: мелася вялікая тэатральная зала (212 м$^2$) і дзве танцавальныя залы (83,5 м$^2$)[190].

Асабліва актывізавалася тэатральнае і музычнае жыццё мястэчак, у тым ліку і Свіслачы, у час кірмашоў. Акрамя непасрэдна гандлёвай, яны выконвалі і культурную функцыю: адыгрывалі вялікую ролю ў грамадскім і духоўным жыцці мястэчак. У "культурнай праграме" кірмашоў былі танцавальныя вечары, прафесійныя і народныя тэатральныя прадстаўленні, выступленні ансамбляў музыкаў і цыркавых артыстаў. Маляўніча апісвае кірмашовую Свіслач Л. Патоцкі. З яго слоў, кірмаш быў важнай падзеяй, якую з найвялікшай нецярплівасцю чакалі гандляры, маладыя і старыя. Першыя спадзяваліся на ім шмат утаргаваць, другія – натанцавацца,

брусь, Мінск, 1998. С. 196.

188 Скобла, М. Дзярэчынскі дыярыюш. Мінск, 1999. С. 23, 25.

189 Aftanazy, R. Dzieje Rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. T. II. Warszawa, 1987. S. 157–162.

190 Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993. С. 432.

трэція – нагаварыцца. Нічога так не нагадвала “замежныя воды”, як свіслацкі кірмаш. Назіраўся вялікі збор мясцовых паноў. Яны жылі ў асобных дворыках, адведвалі адзін аднаго, рабілі прагулкі конна, пешшу, у вазках, штодня збіраліся на абеды, балі, публічныя маскарады, у тэатр. У кірмашовыя дні самадзейныя артысты інсцэніравалі асобныя песні Асіяна, урыўкі з сервантэсаўскага “Дон-Кіхота”, сюжэты са Старога Запавету, грэчаскай і рымскай міфалогіі, а таксама з айчыннай гісторыі. Аўтар апісвае такі эпізод: “Як толькі ўсталі з-за стала, усе прысутныя паселі на баркі і пры водгуках музыкі пачалі плаваць па ставе. Калі наблізіліся да аднае з выспаў, пад расцягнутым багатым шатром убачылі Канстанціна Астрожскага, які спачываў на ложы. Ён быў накрыты буркаю, навокал быў развешаны вайсковы рыштунак: зброя, шчыт, меч, коп’і, булава, харугвы – гетманская і здабытая ў непрыяцеля. Побач сядзела дачка. Малады збраяносец каля ног, падыгрываючы на ліры, спяваў вядомую думу Ю. Нямцэвіча пра перамогу пад Оршаю”[191].

Успаміны Л. Патоцкага праліваюць святло на мову, якая выкарыстоўвалася ў тэатральных пастаноўках у Свіслачы. Паведамляецца, што жонка Тышкевіча арганізавала ў Свіслачы “прыгожы і элегантны тэатрык”, у якім з падабранай групай аматараў разыгрывала французскія п’есы. Далей Л. Патоцкі адзначае: “Народная мова, у тую эпоху выгнаная з модных салонаў, захоўвалася толькі па шляхецкіх дамах. Адчыніў ёй свае дзверы нанова муж, пакінуты жонкаю, бо тая, ад’язджаючы ад яго, забрала з сабою тое, што было моднае, чужое, нясвойскае”[192]. Пад назвай “народная” фігуруе, напэўна, польская мова. Але можна дапусціць, што яна мела шмат беларусізмаў.

Актыўным было тэатральнае і музычнае жыццё мястэчка Дуброўна, якое з 1783 г. належала князям Любамірскім. Паводле сведчання Адама Кіркора, за часамі валодання Любамірскімі “Дубровна закипела жизнью и сделалась центром съездов дворянства и чиновного люда с целой губернии”[193]. Ёсць кароткія звесткі аб канцэртах у Дуброўне. Там на святкаваннях у 1783 г. выступала ўласная капэла князя, прывезеная ім з Роўна. Відаць былі і тэатральныя паказы. Пра гэта сведчаць ускосныя даныя: у вопісу архіва дубровенскіх

---

[191] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану. Мінск, 1997. С. 69.

[192] Там жа. С 34.

[193] Живописная Россия: Литов. и Белорус. Полесье: Репринт. воспроиздедение изд. 1882 г. Мінск, 1994. С. 415.

князёў Любамірскіх захавалася ўспамінанне: “П’есы, камедыі, жарты ў рукапісах”[194].

Вядома, што ў Глуску ў 1795 г. існавала капэла. Ф. Булгарын у сваіх успамінах пра Маковішчы пісаў: “Прывезлі з Глуска музыку графа Юдзіцкага... Тут я ўбачыў у першы раз так званую “Лодку”, якую прадстаўлялі рускія песельнікі, убачыў рускія скокі”[195].

Найбольшая колькасць “тэатральных гнёздаў” у канцы XVIII – пачатку XIX ст. знаходзілася на тэрыторыі Магілёўскай губерні.

Выдатнай з’явай у тэатральным жыцці Беларусі канца XVIII ст. быў тэатр у Шклове, які можа быць пастаўлены ў адзіны рад з такімі вядомымі тэатрамі Беларусі і Расіі XVIII ст., як тэатр А. Тызенгаўза ў Гродне і М. Шарамецева ў Маскве. Узнік шклоўскі тэатр у 1778 г. Стваральнікам яго з’яўляўся вядомы фаварыт Кацярыны II генерал-маёр граф С. Зорыч. Трупа тэатра была набрана з прыгонных беларусаў, якія жылі ў блізкіх да Шклова маёнтках. Артысты тэатра Зорыча атрымалі высокую прафесійную падрыхтоўку – яны вучыліся ў лепшых педагогаў таго часу. У далейшым многія з прыгонных артыстаў, выхадцаў са шклоўскага тэатра, служылі рускаму мастацтву ў тэатрах Санкт-Пецярбурга і Масквы. Ужо праз два гады ў Зорыча былі дзве сталыя трупы – балетная і драматычная, хор і тры аркестры: так званая “хатняя музыка” (складалася з іншаземцаў), вялікі аркестр з прыгонных і “рогавая музыка”. Рэпертуар тэатра складаўся з алегарычных балетаў з хорамі, міфалагічных пантамім, камічных опер і феерый. На яго сцэне не раз даваліся рускія камедыі і гераічныя трагедыі. Але пераважалі творы, як правіла, італьянскіх, нямецкіх і французскіх аўтараў, што атрымалі шырокае распаўсюджанне ў канцы XVIII ст. у Расіі.

Самую вялікую нагрузку ў тэатральна-музычным жыцці Шклова нёс балет. Зорыч запрашаў для выхавання сваіх “дансераў” і “дансерак” умелых настаўнікаў. Першымі з іх былі італьянцы Барцанці і Марыедзіні. Вялікая ўвага надавалася мастацкаму афармленню балетаў, розным эфектам і ператварэнням. У шклоўскім тэатры працавалі выдатныя жывапісцы, дэкаратары, архітэктары П. Барцанці, Я. Канціеры, Р.Х. Зомер, А. Главацкі і інш. З 1782 да 1783 г. асноўным кіраўніком шклоўскага тэатра быў вучань Вальтэра Салмаран. Ён пісаў камедыі і вершаваныя лібрэта для опер, а таксама музыку для іх.

[194] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 1. С. 211.
[195] Там жа. С. 212.

На сцэне шклоўскага тэатра выступалі прыгонныя акцёры, кадэты шклоўскага корпуса, велікасвецкія аматары, а таксама і артысты прафесійных антрэпрыз. Так, у 1795 г. у Шклове амаль увесь год працавала трупа А. Жукоўскага, якая давала паказы на рускай і польскай мовах[196].

24 чалавекі ўваходзілі ў склад "музыкі шклоўскага корпуса", якая абслугоўвала парады і конныя "каруселі". У спісах "рэчаў, што знаходзяцца ў музыкантскай", пералічваюцца самыя разнастайныя музычныя інструменты: 25 "скрыпіц", 6 "альтовак са смычкамі", 3 віяланчэлі, 3 кантрабасы, 7 труб "на розныя таны", 6 кларнетаў, 3 габоі, 10 "флейтверсаў", 4 фаготы "чорнага дрэва", "барабанчык са званочкамі, адна пара медных талерак, трохвугольнік сталёвы", адзін "барабан малы, медны" і "літаўраў чырвонай медзі пара". Акрамя таго, прыгадвалася "нот друкаваных і рукапісных розных аўтараў на 704 руб. 92 кап."[197].

Разгульнае жыццё Зорыча прывяло ў заняпад маёнтак. Шклоўскі тэатр скончыў сваё існаванне. У Гродна быў пераведзены кадэцкі корпус, з ім паехалі 24 музыканты. А ў 1800 г. пасля смерці Зорыча ў Шклоў быў пасланы першы рускі балетмайстар І.І. Вальберг. Ён выбраў з балета 14 чалавек і павёз іх у Санкт-Пецярбург[198]. Увайшоўшы ў балет санкт-пецярбургскіх імператарскіх тэатраў, цудоўныя шклоўскія танцоры і балерыны не толькі самі служылі рускаму мастацтву, але і далі цэлую плеяду выдатных артыстаў, танцораў і музыкантаў, якія з поспехам працавалі на сцэнах абедзвюх расійскіх сталіц на працягу ўсяго XIX ст.

Акрамя Зорыча, у мястэчках Магілёўскай губерні ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. тэатральныя паказы наладжвалі З. Чарнышоў, Л. Салагуб, П. Румянцаў-Задунайскі. Часцей за ўсё актывізацыя тэатральнага жыцця супадала з прыездам высокіх асоб. Вяртаючыся да шклоўскага тэатра, адзначым, што асабліва грандыёзны спектакль адбыўся ў Шклове 30 мая 1780 г., калі прысутнічалі Кацярына ІІ, аўстрыйскі імператар Іосіф ІІ і ўвесь рускі двор[199]. У 1788 г. граф З. Чарнышоў, уладальнік трупы прыгонных у Чачэрску, прымаў Паўла І, тады наследніка трона. Быў наладжаны вялікі спектакль, у якім разам з прыгоннымі акцёрамі ўдзельнічалі велікасвецкія аматары. Навучанне прыгонных акцёрскаму мастацтву і асабліва му-

[196] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 1. С. 213–215.

[197] Барышаў, Г.І. Прыгонныя аркестры / Г.І. Барышаў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 4. С. 52–53.

[198] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 1. С. 218.

[199] Живописная Россия: Литов. и Белорус. Полесье… С. 410.

зыцы працягвалася і пазней, калі ўладальніцай Чачэрска ў 1802 г. стала графіня А. Чарнышова. З. Чарнышоў меў цудоўны прыгонны тэатр, які складаўся ў асноўным з рускіх музыкантаў, вывезеных, відаць, з іншых маёнткаў графа. Гэты аркестр быў шырока вядомы пад назвай "чарнышоўскіх музыкантаў", у 1828 г. прададзены ў Санкт-Пецярбург у Дырэкцыю імператарскіх тэатраў.

Акрамя "чарнышоўскіх музыкантаў" у Санкт-Пецярбург трапіў прыгонны аркестр Л. Салагуба з Горы-Горак. Маёнтак Салагуба быў прызначаны на продаж за даўгі, музыканты ў 1829 г. перавезены ў сталіцу: "10 чалавек, што ігралі на скрыпках, віяланчэлях, альтах і кантрабасах, былі прызначаны ў тэатральную Дырэкцыю, астатнія 19, якія ігралі на духавых інструментах, – у палкі лейб-гвардыі"[200].

Тэатральныя паказы наладжваліся ў Гомелі, што належаў графу П. Румянцаву-Задунайскаму. У крыніцах зафіксаваны факт існавання ў Гомелі тэатральнага памяшкання. Сярод апісання разнастайных будынкаў Гомеля В. Шабякіным прыгадваецца "тэатр, які заразператвораны ў гаўптвахту". Акрамя таго, ў справах вотчыннага ўпраўлення Гомельскага маёнтка зберaглася ведамасць прыходу і расходу грошай за чэрвень 1818 г., дзе пазначана сума, выдадзеная на ўзнагароду музыкантам[201]. У першай палове XIX ст. прыгонны тэатр спыніў сваё існаванне. На яго месца прыйшлі прыватныя антрэпрызы.

У канцы XVIII – пачатку XIX ст. вольныя камерцыйныя антрэпрызы фарміраваліся ў Мінску, Гродне, Магілёве, Віцебску і іншых буйных гарадах Беларусі. Але, як правіла, антрэпрэнёры змяняліся ў тым ці іншым горадзе штогод, калі не кожны сезон. Характэрна, што безграшоваму, маламаёмаснаму антрэпрэнёру, каб неяк існаваць, было неабходна акупіць папярэднія затраты ў самы кароткі тэрмін, бо "справа" часцей за ўсё вялася толькі на сродкі, атрыманыя ад спектакля. Матэрыяльная залежнасць ад попыту гледача гнала вольных акцёраў з аднаго месца ў другое, дзе яны знаходзілі новага гледача. У сферу ахопу творчай дзейнасцю вольных вандроўных труп, тэатральных калектываў паступова ўцягваліся малыя гарады, уезныя цэнтры і таксама мястэчкі Беларусі.

Тэатральныя паказы ў мястэчках насілі гастрольны, спарадычны характар: адбываліся ў дні кірмашоў, народных святкаванняў. У гэты час культурнае жыццё мястэчак прыкметна актывізавалася. Па апісанні Без-Карніловіча, Гомель у дні кірмашоў "совершенно

[200] Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 1. С. 222.
[201] Там жа. С. 223.

оживляется, выходит из своей дремоты; во время ярмарки собрание разнохарактерных народов между собою, их кипучая деятельность, обмен идей, мнений, взглядов; наконец средства повеселиться и с приятностью провести время, уподобляют Гомель губернскому городу”[202]. Першыя тэатральныя гастролі ў Гомелі прайшлі падчас кірмашу ў маі 1824 г. у будынку ланкастэрскага вучылішча, калі да гамяльчан завіталі прафесійныя акцёры з Магілёва[203].

Для тэатральных пастановак прыватныя антрэпрызы выкарыстоўвалі памяшканні колішніх прыгонных тэатраў (Ружаны, Шклоў). У большасці мястэчак не было спецыяльных памяшканняў, прызначаных для тэатральных паказаў. Спектаклі іграліся на летніх сцэнах садоў альбо ў часовых прыстасаваных залах прыватных дамоў.

Улетку 1805 г. мінская трупа шырокавядомага ў свой час акцёра, спевака, тэатральнага дзеяча М. Кажынскага наведала мястэчкі Хотаў і Бешанковічы[204]. У пачатку XIX ст. у Гродне працавала ўстойлівая доўгачасовая антрэпрыза пад кіраўніцтвам шырока тады вядомай польскай актрысы драматычных і музычных тэатраў С. Дэшнер. Яе трупа таксама вымушана была выязджаць на гастролі. 12 чэрвеня 1803 г. С. Дэшнер звярнулася да імператара Аляксандра I з прашэннем аб дазволе паказваць спектаклі на кірмашах у м. Зэльве. У выніку яна атрымала манапольнае права на гастролі на 6 гадоў не толькі ў Зэльве, але і ў іншых месцах Гродзенскай губерні “преимущественно пред прочими актёрами, приезжающими из других губерний”[205].

Каб паправіць свае фінансавыя справы, аб’язджалі мястэчкі і выступалі на кірмашах і іншыя буйныя тэатральныя прадпрымальнікі: К. Скібінскі, К. Шмідгоф, Д. Мараўскі, С. Навакоўскі[206].

Тэатральная дзейнасць з часам набірала ўсё больш шырокі размах. У першай палове XIX ст. на сцэнах Бешанковічаў, Асвеі, Шклова, Гомеля, Зэльвы, Ружан і іншых буйных мястэчак Беларусі ігралі ўжо многія творча моцныя тэатральныя калектывы. У іх шэрагу – трупы

202 Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. Справочное издание факсимильного типа / М.О. Без-Корнилович. Мінск, 1995. С. 214.

203 Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П. Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 25.

204 Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 1. С.228.

205 ДГА Літвы. Ф. 378. Агульны аддзел, 1803 г. Адз. зах. 266. Арк. 12.

206 Сельверстова, С.Е. Развитие культуры Белоруссии в первой половине XIX в. (изобразительное и театральное искусство). Дис. … канд. ист. наук.: 07.00.02. Гродно, 1989. С. 109.

пад кіраўніцтвам А. Руткоўскага, К. Камінскага, Ш. Нядзельскага, В. Рашэўскага, Ю. Мілеўскага, Ф. Петжыкоўскага, Я. Хелмікоўскага, Я. Чэховіча, І. Лютомскага, І. Гатавіцкага і інш. Вядомы імёны больш пяцідзесяці антрэпрэнёраў, чые калектывы выступалі на сцэнічных пляцоўках Беларусі да 1861 г.[207] Некалькі прыкладаў. Улетку 1847 г. трупа Я. Хелмікоўскага зрабіла чарговае турнэ па Магілёўскай губерні, наведала мястэчкі Гомель і Хаславічы. У 1852 г. калектыў драматычных артыстаў пад кіраўніцтвам астраханскага памешчыка І. Гатавіцкага атрымаў дазвол на гастролі па ўезных гарадах і мястэчках Віцебскай губерні[208].

Улетку 1856 г. трупа акцёра І. Лютомскага наладжвала тэатральныя паказы ў час кірмашоў у мястэчках Бешанковічы і Асвея[209].

З 26 па 29 чэрвеня 1854 г. у м. Асвея ў час кірмашу былі наладжаны чатыры тэатральныя паказы калектывам пад кіраўніцтвам Я. Чаховіча[210]. Местачкоўцы і прыезджыя мелі магчымасць паглядзець наступныя спектаклі: камедыі-вадэвілі на рускай мове “Бенгальскі тыгр”, “Аз і Ферт”; камедыі-оперы “Аброчны капялюш” на польскай мове, “Дзяўчына-гусар” на рускай мове (твор Ф. Коні, адзін з лепшых са “звычайных” дэмакратычных рускіх вадэвілей), “Барабаншчык”, “Сымон-Сірацінка”; вершаваную камедыю на польскай мове “Старая рамантычка”, вадэвіль на рускай мове “Досыць!!!” і драму на польскай мове выдатнага польскага драматурга Ю. Кажанеўскага “Пані Кашталянава”. Пасля спектакляў некаторыя акцёры танцавалі для гледачоў “Венгерку”, “Мазурку”. Кошт білетаў вагаўся ў залежнасці ад месца ад 15 кап. да 1 руб.[211]

У маі 1855 г. Я. Чаховіч дамагаўся ад генерал-губернатара Віцебскага, Магілёўскага і Смаленскага дазволу наладжваць тэатральныя паказы ў м. Шклоў[212].

На бешанковіцкім кірмашы ў 1859 г. выступаў тэатральны калектыў пад кіраўніцтвам Ф. Петжыкоўскага. Акрамя таго, былі наладжаны акрабатычныя і гімнастычныя паказы саксонскіх артыстаў з Веймара Вільгельма Шумана, Тэадора Тэйлера і яго жонкі Альберціны. У спісе іншаземцаў, якія прыбылі ў м. Бешанковічы

---

207 Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т.1. С.230.

208 НГАБ. Ф. 1297. Воп. 1. Адз. зах.17415. Арк. 107 адв., 137; Ф.1430. Воп. 1. Адз. зах. 23102. Арк. 1,2.

209 НГАБ. Ф.1430. Воп. 1. Адз. зах. 28988. Арк. 1.

210 Там жа. Адз. зах. 26684. Арк. 10–13.

211 *Малюнак 16.*

212 НГАБ. Ф.1430. Воп. 1. Адз. зах. 24853. Арк. 1.

на час кірмашу, значацца таксама музыканты: Джакома Даміані з Мілана, Франц Бертані, Эдуард Фіц з жонкай Паўлінай[213].

У многіх мястэчках адбываліся музыкальныя вечары з танцамі. Так, у Асвеі ў 1854 г. у час кірмашу такіх вечароў было тры: 27, 28 і 29 чэрвеня. На іх прысутнічалі дваране: на першым – 25 мужчын і 20 жанчын, на другім адпаведна – 20 і 13; на трэцім – 34 і 25. Начальнік Магілёўскай губерні 26 студзеня 1851 г. даносіў генерал-губернатару Віцебскаму, Магілёўскаму і Смаленскаму, што ён дазволіў адкрыць танцавальныя вечары ў м. Шклоў[214].

Падчас Зэльвенскага кірмашу танцавальныя вечары ладзіліся ў начной карчме, празванай "Сабачай горкай", тут да самай раніцы танцы "абслугоўваў" аркестр скрыпак у складзе 15 музыкаў[215].

У разглядаемы перыяд у мястэчках Беларусі працягваў сваё развіццё і народны тэатр[216]. Шырокае распаўсюджанне мела батлейка. У гэты час яна вядома пад рознымі назвамі. На местачковых кірмашах паказваюць "ягорыя", выступаюць народныя штукары-фокуснікі, канатаходцы і мядзведнікі, дэманструюцца скамарошныя сцэнкі. Ёсць агульныя звесткі аб тым, што ў некаторых мястэчках Беларусі былі своеасаблівыя народныя цыркавыя школы, дзе з пакалення ў пакаленне перадавалася мастацтва беларускіх штукароў[217].

Вельмі папулярнымі былі скамарохі з дрэсіраванымі мядзведзямі (скамарохі-мядзведнікі). Па некаторых звестках, у першай палове XIX ст. яшчэ працягвала існаваць галоўная ў Беларусі школа дрэсіроўкі адлоўленых мядзведзяў у м. Смаргонь, якая ўзнікла ў XVII ст. па ініцыятыве Радзівілаў[218]. Яна атрымала ў народзе назву "Смаргонская акадэмія"[219]. Яе выхаванцы пастаўляліся як на ўнутраны, так і на знешні рынак. Са сваімі важакамі яны хадзілі ў краіны Заходняй Еўропы, ва Украіну і ў Расію. Пра школу дрэсіроўкі мядзведзяў захаваліся сведчанні шведскіх жаўнераў пачатку XVIII ст.: "Тут у Смургонях дрэсавалі мядзведзяў для публічнага паказу. Кажуць, што ўсе скамарохі-павадыры мядзведзяў, з якімі яны вандруюць па свеце,

213 НГАБ. Ф.1297. Воп. 1. Адз. зах. 30605. Арк. 3–4.

214 НГАБ. Ф. 1430. Воп.1. Адз. зах. 26684. Арк. 5; Ф.1297. Воп.1. Адз. зах. 22373. Арк. 3.

215 Гуд, П.А. Беларускі кірмаш / П.А. Гуд, Н.І. Гуд. Мінск, 1996. С. 90.

216 Нават у 1920-я гг. у мястэчках можна было сустрэць творы народнага тэатра, аб чым сведчыць паведамленне 1928 г. у Інбелкульт аб тым, што ў м. Нароўля Мазырскай акругі была запісана народна-рэлігійная драма "Продаж Ёсіфа" (Наш край. 1928. № 5. С. 61).

217 Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т. 1. С. 18.

218 Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гродзенская вобласць. Мінск, 1986. С. 320.

219 *Малюнак 17.*

маюць у Смургонях сваю Вышэйшую Школу, таму гэтае мястэчка для іх "зямля запаветная". Усе скамарохі, як і іншыя рамеснікі, плацяць падаткі"[220]. Школа была арыентаваная на заходнееўрапейскага спажыўца. Увесну скамарохі разыходзіліся па свеце. Узімку яны вярталіся ў Смаргонь, плацілі падатак Радзівілам і заставаліся тут да вясны. Апрача скокаў, смаргонскія мядзведзі круцілі жорны, лавілі рыбу, насілі ваду. Смаргонскі настаўнік з "наравістым вучнем" былі ў XVIII–XIX ст. папулярным персанажам народнага лялечнага тэатра "батлейка". Захавалася нават іранічная прыказка: "вучань Смургонскай акадэміі". Пасля заняпаду Смаргонскай акадэміі сама прафесія перайшла да цыганоў[221].

Такім чынам, вялікую ролю ў грамадскім і духоўным жыцці мястэчак адыгрывалі кірмашы, якія ўяўлялі сабой не толькі гандаль, але і вясёлае, яскравае народнае свята. У іх "культурнай праграме" былі танцавальныя вечары, прафесійныя і народныя тэатральныя прадстаўленні, выступленні ансамбляў музыкаў і цыркавых артыстаў, азартныя гульні і інш.[222]

Для местачкоўцаў простага саслоўя, апрача кірмашу, як трапна заўважыў А. Кіркор, "карчма складала і клуб, і раут"[223]. Па выхадных днях жыхары мястэчак збіраліся ў карчму, каб пагуляць і патанцаваць. Вось як, паводле даных П. Шпілеўскага, адбывалася "арганізацыя" гуляння ў святочны дзень каля карчмы ў Сіняўцы: "один из хлопцев явился со скрипкой, дернул дугообразным смычком, и охотницы до плясок мигом сбежались: возле музыканта образовался огромный хоровод девушек, которые стали танцевать й петь. Между плясками я заметил два танца, вовсе не похожие на пляски великорусского простонародья: мяцелицу (метель) и пацеруху (трясучка) вроде так называемой польки – tremblante"[224]. Архіўны дакумент 1835 г. адзначае, што ў м. Касцюковічы "музыка, танцы, песни составляют увеселения здешних обитателей"[225].

Своеасаблівымі асяродкамі музычнага мастацтва ў мястэчках выступалі размешчаныя тут культавыя ўстановы. Музыка ў местач-

---

220 Катлярчук, А. Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў / А. Катлярчук. Мінск, 2002. С. 153.

221 Там жа. С. 154.

222 Больш падрабязна пра гандлёва-гульневыя дзеі, кірмашовыя тэатр, пацехі і забавы: Гуд, П.А., Гуд, Н.І. Беларускі кірмаш.

223 Живописная Россия: Литов. и Белорус. Полесье… С. 25.

224 Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992. С. 55.

225 НГАБ. Ф. 254. Воп. 1. Адз. зах. 87. Арк. 17.

ковае асяроддзе трапляла таксама пры пасрэдніцтве святарства. Праваслаўная царква развівала галоўным чынам мастацтва спеваў, каталіцкая – інструментальную музыку. Напрыклад, у Глыбоцкім касцёле і кляштары кармелітаў меўся вялікі арган і 40 музыкантаў, якія "играли не только в костеле, но в праздничное время и на балконе, устороенном над входными дверями костела"[226]. Адмысловую музычную традыцыю на беларускіх землях сфарміравала уніяцкая царква, спалучыўшы набыткі ў гэтай галіне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. У базыльянскіх школах вывучаліся навука царкоўных спеваў і музыка. Ва уніяцкіх храмах існавалі арганы, іншыя музычныя інструменты. Яны былі своеасаблівымі канцэртнымі заламі, дзе людзі далучаліся да прафесійнай музычнай культуры. Царква ў Барунах, напрыклад, валодала наборам музычных інструментаў: басэтля, альт, габой, скрыпкі і інш. Яе фундатар М. Песляк завяшчаў праводзіць богаслужэнне са спевамі і музыкай. Захаваўся кантракт 1794 г. мясцовых базыльян з капельмайстрам Міхалам Хеткевічам, жыхаром мястэчка, які абавязваўся за пэўную плату "граць на аргане імшу, гадзінкі, літуанію, акафісты; раніцай і вечарам, паводле даўняга звычаю, граць на трубе, суправаджаць музыкай адкрыццё абраза Божай маці"[227]. У Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыры меўся аркестр, у якім у 1821 г. было 2 фартэпіяна, 11 скрыпак, 5 труб, басэтля і інш.[228]

Тэатральнае мастацтва габрэйскага насельніцтва разглядаемага перыяду прадстаўлена ў форме традыцыйных хатніх пастановак на рэлігійныя сюжэты. Сцэнкі са Святога Пісання, у якіх ролі Маісея, рымлян, Амана, ратаваўшыхся з егіпецкага палону габрэяў ігралі члены сям'і, ставіліся ў дні рэлігійных свят (у *Песах*, *Хануку*[229]). Спецыфічнай формай карнавала, пры якой вясёлае шэсце пераапранутых у традыцыйныя сатырычныя персанажы папа, бабы, розных жывёл праходзіць па вуліцах мястэчка, з'яўляецца святкаванне *Пурыма*[230]. Вясёлыя спевы і карагоды пад гукі духавых і ўдарных му-

[226] Сапунов, А. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А. Сапунов, В. Друцкий-Любецкий. Витебск, 1896. С. 103.

[227] Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці беларусі... С. 139.

[228] Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993. С. 385.

[229] *Ханука* – свята перамогі габрэяў над грэка-сірыйскімі захопнікамі Іудзеі (164 г. да н.э.), вызвалення Іерусаліма і ачышчэння Храма.

[230] *Пурым* – свята ў гонар выратавання габрэяў Персідскай імперыі ад пагібелі ў выніку інтрыг персідскага дарадцы Амана (паводле біблейскай Кнігі Эсфір (Эстэр)), у час святкавання праводзяцца маскарады.

зычных інструментаў адбываюцца ў час свята Сімхат Тора, прысвечанага заканчэнню гадавога цыкла чытання Торы[231].

Жыццё габрэяў у мястэчках, нягледзячы на цяжкасці і пакуты, было насычана музыкай. Вядомы этнограф З. Кісельгоф пісаў: "Еврейский народ чрезвычайно музыкален. Он поёт всегда: в радости и печали, в синагоге и дома, в праздники и в будни"[232]. Габрэйская музыка мястэчак прадстаўлена трымя пластамі: літургічнай музычнай традыцыяй – *хазанутам* (музычная творчасць, звязаная з функцыяй *хазана* – габрэйскага кантара, спевака ў сінагозе, які вядзе сінагагальнае набажэнства), побытавай народнай песняй, а таксама клезмерскім музіцыраваннем (*клезмеры* – габрэйскія народныя музыканты, якія гралі ў складзе месцачковых ці вандроўных ансамбляў на вяселлях, святочных гуляннях, кірмашах). У хасідскіх абшчынах да гэтых трохскладовых дабаўляецца і паралітургічны пласт – сольныя і харавыя *нігуны* (хасідскія застольныя мелодыі) і песні *цадзікаў* (духоўных лідэраў хасідскіх абшчын). Тыповай з'явай жыцця штэтла быў скрыпач, які сядзеў у пэўным месцы вуліцы ці двара і найграваў пранікліваю мелодыі, якія стваралі важны кампанент гукасферы габрэйскай вуліцы.

Цікава адзначыць, што ў традыцыйным габрэйскім грамадстве прафесіі акцёра і музыканта ацэньваліся як "некашэрныя", іх прадстаўнікі не былі "сапраўднымі габрэямі". Аднак аматар, які добра спяваў і граў на музычным інструменце, шырока славіўся. Струнныя інструменты габрэі любілі слухаць, а духавыя ці ўдарныя – ні ў якім разе. Кантар (хазан) не лічыўся музыкантам, таму што ён – спявак, які прысвячае сваё мастацтва сінагозе, дзе займае пасаду як "святы рамеснік"[233].

Вядомая даследчыца габрэйскай музыкі Н. Сцяпанская адзначала, што цэнтральная зона габрэйскай музычнай традыцыі ўключала ў сябе стыль канкрэтнай абшчыны, у якім літургічны і побытавы пласты абменьваліся сваімі элементамі і стваралі адзіную стылёвую дамінанту. Вельмі слушным і цікавым з'яўляецца параўнальны аналіз беларускай і габрэйскай музычных традыцый, зроблены даследчыцай. На яе думку, нягледзячы на працяглае кантактнае пражыванне беларусаў і габрэяў у адной прасторы, кантрастнасць генетычных

---

231 Сабалеўская, В.А. Яўрэі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. ... С. 77.

232 Степанская, Н. Структура еврейской музыкальной традиции в Белоруссии в конце XIX – начале XX в. / Н. Степанская // Материалы Десятой Ежегодной международной конференции по иудаике. Ч. 2. М., 2003. С. 184.

233 Zborowski Mark, Herzog Elizabeth. Das Stetl. Die untergangene Welt. München, 1992. S. 195.

вытокаў і цэнтральных зон традыцый гэтых народаў праяўляюцца на розных узроўнях, сярод якіх найбольш значныя: па-першае, кардынальна розная этнаграфія слыху; па-другое, адрозненне артыкуляцыйнага інтаніравання. Калі дамінуючай якасцю музіцыравання ў беларусаў выступае "весялосць", то для габрэя эмацыйныя перавагі выражаюцца ў экспрэсіі амбівалентнага стану, які можна акрэсліць як "смех скрозь слёзы". Аднак відавочныя адрозненні дзвюх музычных традыцый нельга абсалютызаваць. Адбываліся і пэўныя ўзаемаўплывы, у выніку якіх габрэйскі музычны матэрыял у беларускім рэгіёне аказаўся адрозным ад падобнага на землях Украіны, Малдовы ці Польшчы[234].

Да праблемы музычнага жыцця габрэйскіх мястэчак, узаемадзеяння ў гэтай сферы паміж габрэямі і негабрэямі звярталіся і іншыя даследчыкі. Так, З. Столяр прыйшоў да высновы, што сведчаннем жыцця габрэяў у іншанацыянальным асяроддзі выступаюць двухмоўныя і полімаtыўныя песні і інструментальныя мелодыі, у якіх "ужываюцца" прыкметы фальклору розных народаў[235]. Дз. Сляповіч паказаў узаемадзеянне паміж музычнымі культурамі габрэяў і славян у самых розных аспектах: мелодыцы, рытміцы, жанрах, інструментарыі і выканаўчай манеры. Паводле абгрунтаванай высновы даследчыка, можна канстатаваць адкрытасць габрэйскай музычнай традыцыі для ўплываў музыкі суседзяў-славян. Запазычванне элементаў кантактнай культуры ніколі не адбывалася механічна. Падобна таму як славянская лексіка, акультаваная ў ідыш, была адаптаваная да ідышскай фанетычнай і марфалагічнай асновы, музыка славянскіх народаў цесна інтэгравалася з габрэйскай музыкай, карэнным чынам пераінтаніравалася і пераартыкуліравалася, набываючы спецыфічнае ашкеназскае габрэйскае гучанне[236].

***

Такім чынам, тэатральнае і музычнае жыццё мястэчак Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. было разнастайным. У мястэчках развіваліся і прафесійныя віды тэатральнага мастацтва, і народ-

[234] Степанская, Н. Еврейская музыка в исполнении белорусских народных музыкантов: к проблеме переинтонирования / Н. Степанская // Свой или чужой? Евреи и славяне глазами друг друга. Сборник статей. М., 2003. С. 423–433.

[235] Столяр, З. Музыка еврейского местечка / З. Столяр // Материалы Восьмой ежегодной междунар. междисциплин. конференции по иудаике. Ч. 2. М., 2002. С. 243–247.

[236] Слепович, Д. Славянские влияния на еврейскую музыкальную традицию в Восточной Европе в XVIII–XX вв. / Д. Слепович // Свой или чужой? Евреи и славяне глазами друг друга. Сборник статей. М., 2003. С. 404–421.

ныя. У канцы XVIII ст. адзіным на Беларусі цэнтрам школьнага тэатра з'яўлялася мястэчка Валынцы (тэатр дзейнічаў пры Забельскім дамініканскім калегіуме). Прыгонныя тэатры і аркестры існавалі ў мястэчках Шклоў, Ружаны, Дзярэчын, Зэльва, Свіслач, Глуск, Гомель, Дуброўна, Горы-Горкі, Чачэрск, Прапойск і інш. Буйнейшыя з магнацкіх тэатраў і капэл – у Шклове і Ружанах – адрозніваліся высокім мастацкім узроўнем. Шклоўскі тэатр Зорыча па сваім прафесійным узроўні нават быў блізкі да сталічных, меў характар публічнага тэатра: на спектаклях прысутнічалі не толькі дваране і дробная шляхта, але і прадстаўнікі гарадскіх саслоўяў. Мястэчкі ўваходзілі ў сферу творчай дзейнасці прыватных антрэпрыз. Многія нават буйныя шырокавядомыя тэатральныя прадпрымальнікі са сваімі трупамі аб'язджалі беларускія мястэчкі і наладжвалі ў іх тэатральныя паказы ў час кірмашоў. У кірмашовыя дні і народныя святкаванні актывізавалася і музычнае жыццё мястэчак: прыязджалі музыканты, арганізоўваліся канцэрты і танцавальныя вечары. Працягваў сваё развіццё ў мястэчках беларускі і габрэйскі народны тэатр. Насычаным і разнастайным было музычнае жыццё габрэйскіх абшчын. Можна канстатаваць, што тэатр і музыка былі неад'емнай часткай паўсядзённага жыцця местачкоўцаў.

## 5.3. Архітэктурнае аблічча

Планіроўка і забудова мястэчак Беларусі мелі свае асаблівасці ў параўнанні з іншымі тыпамі паселішчаў. Выклікае інтарэс не толькі выразнасць забудовы мястэчак у цэлым, але і архітэктурнае рашэнне асобных будынкаў, якое было абумоўлена сацыяльнымі, гістарычнымі і эканамічнымі фактарамі. Феномен арыгінальнага архітэктурнага аблічча мястэчак выклікаў здзіўленне і нават збянтэжанасць у рускіх падарожнікаў і краязнаўцаў XIX – пачатку XX ст.[237] Аднак гэтая галіна архітэктуры доўгі час заставалася на перыферыі інтарэсаў даследчыкаў. У айчыннай гістарыяграфіі яе найбольш актыўна вывучае А. Лакотка. Архітэктуру штэтла Усходняй Еўропы даследуе А. Сакалова з Пецярбурга.

У межах развіцця мястэчак як пэўнай мадэлі урбанізацыі назіраецца вялікая разнастайнасць планіровачных тыпаў. Тыя мястэчкі, колькасць дымоў у якіх не перавышала 2–3 дзесяткаў, часам маглі адрозніваецца ад вёсак толькі наяўнасцю рыначнай плошчы. У той жа час, у шэрагу буйнейшых мястэчак, якія мелі больш за сотню

[237] Напрыклад: Глаголев, А. Записки русского путешественника / А. Глаголев. СПб., 1837. Т. 1. С. 130–131.

двароў, прысутнічалі ўсе адзнакі планіровачнай структуры значнага горада. Прыкладам можа служыць планіроўка Крынак[238]. На гэтай падставе Ю. Бохан зрабіў выснову аб тым, што на планіровачную эвалюцыю мястэчак уплываў працэс пераходу ад вёскі да горада з яго плошчамі і разгалінаванай сеткай вуліц[239].

На думку А. Лакоткі, мястэчкі Беларусі запазычылі заходнееўрапейскую горадабудаўнічую аснову[240]. Менавіта гандлёвая плошча з'яўлялася планіровачным ядром забудовы мястэчак, што было характэрна для еўрапейскіх гарадоў XIII–XV стст. У сярэднявечным усходнеславянскім горадзе плошча займала другое пасля замка (дзядзінца, крамля) месца. Акрамя наяўнасці рынку, які меў першаснае значэнне, для мястэчак былі ўласцівыя і іншыя рысы планіровачнай структуры горада: пляцавая забудова, досыць разгалінаваная сетка вуліц. У меншай ступені праявілася тут тэндэнцыя да кампактнага размяшчэння, асабліва гэта тычыцца невялікіх мястэчак. Больш вялікімі былі ў мястэчках і памеры пляцаў і двароў нагул. Гэта тлумачыцца пара ўнальна нязначнай ступенню заселенасці мястэчак, што давала магчымасць лягчэй прыстасоўвацца да ландшафту мясцовасці і камунікацыйнай сітуацыі, не аддаляючыся адначасова ад рынку на значныя адлегласці. Аднак па меры павелічэння колькасці дымоў у мястэчках узмацняецца і агульная для ўсіх гарадоў тэндэнцыя да стварэння радыяльна-веернай сістэмы планіроўкі.

Пры разглядзе заканамернасцей планіровачнага развіцця беларускіх гарадоў і мястэчак В. Рэвеньская падзяляе іх на тыя, якія развіваліся стыхійна, павольна і нераўнамерна, і на рэгулярныя пасяленні, што былі забудаваны аднамомантна паводле існуючых праектаў[241]. Больш зручнай падаецца думка Ю. Бохана аб тым, што практычна кожнае мястэчка мела ў сабе рысы як свядомага праектавання, так і выпадковасці[242]. Любыя мястэчкі, у тым ліку і забудаваныя аднамомантна, мусілі развівацца, папаўняцца новымі жыхарамі альбо, наадварот, прыходзіць у заняпад, што непазбежна павінна было адбівацца на зменах першапачатковай планіровачнай сітуацыі. У той жа час існаванне стыхійна ўзнікшай забудовы таго ці іншага

[238] *Малюнкі 18, 18 А, 18 Б.*

[239] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. С. 46.

[240] Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры / А.І. Лакотка. Мінск, 1999. С. 137.

[241] Reweńska, W. Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. Położenie topograficzne, rozplanowanie / W. Reweńska. Wilno, 1938. С. 39.

[242] Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. С. 52.

пасялення не заўсёды перашкаджала свядомаму планіровачнаму ўздзеянню ў далейшым.

У канцы XVIII ст. пачаліся работы па перапланіроўцы гарадоў Беларусі адпаведна горадабудаўнічым прынцыпам рускага класіцызму. Гарадскія планы прыводзіліся да дакладнай рэгулярнай схемы, звычайна надавалі ім форму прамавугольнікаў. Праекты канца XVIII – пачатку XIX ст. у галоўных рысах былі ажыццёўлены да сярэдзіны XIX ст. Істотна змянілася аблічча губернскіх гарадоў, многіх уезных. Гэтыя наваўводзіны амаль не закранулі заштатныя гарады і мястэчкі. Аднак некаторыя мястэчкі ўсе ж такі сталі аб’ектамі дзейнасці па перапланіроўцы. Гэта датычыць перш за ўсё тых паселішчаў, якія апынуліся ва ўласнасці расійскага набілітэту ў выніку шчодрых падараванняў Кацярыны ІІ: Крычаў (Г. Пацёмкін), Шклоў (С. Зорыч), Гомель (П. Румянцаў), Чачэрск (З. Чарнышоў), Прапойск (А. Галіцын) і інш. Найбольш радыкальныя змены адбыліся ў забудове Гомеля паводле плана 1800 г. (архітэктар Кларк). Прыкладамі свядомага планіровачнага ўздзеяння на структуру мястэчак могуць служыць таксама перапланіроўка забудовы м. Чачэрск, а таксама карэнная перабудова А. Тызенгаўзам м. Паставы на падставе рэгулярнага плана ў другой палове XVIII ст. У выніку рэканструкцыі пад уплывам класіцызму на працягу першай паловы XIX ст. рэгулярная сістэма планіроўкі з узаемна перпендыкулярнымі вуліцамі, якія ўтваралі прамавугольныя кварталы, склалася таксама ў мястэчках Валожын, Любань, Шчучын[243].

Часам мястэчкі, пацярпелыя ад пажараў, адбудоўваліся нанова паводле рэгулярных планаў. Так, пасля пажару 1798 г. м. Любавічы “на том же месте вновь построено по плану”[244]. У 1832 г. згарэла амаль усё Краснаполле. Апісваючы яго знешні выгляд у пачатку XX ст., Л. Рохлін занатаваў: “Отстраиваясь после этого пожара, жители местечка строго придерживались планов, выдававшихся экономией владельца местечка, благодаря чему правильное распределение улиц по строгим линиям сохранилось еще и до настоящего времени”[245].

Планіроўка мястэчак залежала ад шляхоў іх фарміравання. Мястэчкі, якія ствараліся на месцы ранейшых вёсак, успрымалі іх планіроўку (Станькава, Мікалаеўшчына, Івянец). Новай рысай

[243] Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993. С. 103, 270, 492, 381.

[244] РДАСА. Ф. 1355. Воп. 1. Адз. зах. 702. Арк. 41.

[245] Рохлин, Л. Местечко Краснополье / Л.Л. Рохлин. СПб., 1908. С. 32.

планіроўкі такіх паселішчаў было з'яўленне рыначнай плошчы, якая ўтваралася звычайна ў выніку пашырэння ў адпаведным месцы вясковай вуліцы. Для мястэчак, якія ўзніклі на новых месцах, была ўласціва рэгулярная планіроўка, такія мястэчкі забудоўваліся па загадзя створаным плане (Дзяляцічы, Любча, Стоўбцы)[246].

Безумоўна, для абсалютнай большасці мястэчак элементам свядомага распланавання з'яўляўся сфарміраваны і дакладна лакалізаваны рынак. У некаторых мястэчках гэтым праектаванне планіроўкі і абмяжоўвалася. Існавала тэндэнцыя да фарміравання чатырохвугольнага, найчасцей прамавугольнага ці квадратнага рынку. Рэдка сустракаліся іншыя формы рынкаў: трохвугольныя, шматгранныя. Напрыклад, трохвугольны рынак быў у Поразаве, што выразна бачна на плане мястэчка 1868 г.[247] Рынак формы трохкутніка быў таксама ў Рубяжэвічах, Івянцы, неакрэсленую форму мела м. Гавязна[248]. Цэнтрам м. Глуск з'яўлялася 12-вугольная ў плане гандлёвая плошча[249].

Рынак мястэчак забудоўваўся па перыметры жылымі дамамі. Паколькі рыначная плошча была цэнтрам гандлёвай дзейнасці мястэчак, тут жа размяшчаліся крамы і складскія будынкі, якія ў некаторых мястэчках аб'ядноўваліся ў гандлёвыя рады, гасціныя двары. Напрыклад, у цэнтры гандлёвай плошчы м. Бешанковічы стаяў гасціны двор з 60 крамамі[250]. Гасціны двор размяшчаўся на рынку м. Крывічы. Гандлёвыя рады ўтваралі крамы і каморы на рынках мястэчак Глуск, Драгічын, Мір, Свіслач, Шклоў і інш.

Цікавасць у архітэктурных адносінах уяўлялі гандлёвыя рады ў Свіслачы і Шклове. Свіслацкія рады былі пабудаваны ў пачатку XIX ст. і мелі рысы стылю класіцызму. Замкнёная кампазіцыя чатырох аднапавярховых крылаў пад двухсхільнымі гонтавымі дахамі ўтварала прамавугольны ў плане ўнутраны двор. Рады складаліся з 40 аднатыпных ячэек-крам і трох складскіх памяшканняў (вуглавых). У цэнтры двух даўжэйшых крылаў былі зроблены арачныя праезды ў двор. Над адным з праездаў размяшчалася зала купецкага сходу, аформленая па дваровым фасадзе драўлянай балюстраднай гале-

---

246 Шаблюк, В. Гістарычная тапаграфія і планіроўка мястэчак Верхняга Панямоння / В. Шаблюк // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 3. Мінск, 1994. С.238.

247 *Малюнак 19.*

248 Шаблюк, В. Забудова прынёманскіх мястэчак у 16–18 ст. / В. Шаблюк // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 6. Мінск, 1995. С. 242.

249 Там жа. С. 147.

250 Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии... С. 115.

рэяй на мураваных слупах. Гандлёвыя рады Шклова ўтваралі разам з ратушай адзіны ансамбль[251]. Аднапавярховыя з двухпавярховымі квадратнымі аб'ёмамі па вуглах гандлёвыя рады разам з ратушай складалі прамавугольны двор. У цэнтры падоўжаных бакоў былі праезды. Крамы мелі двухбаковую арыентацыю[252].

Існавала тэндэнцыя да размяшчэння на рынку корчмаў, калі колькасць іх у асобных пасяленнях была нязначнай. Напрыклад, корчмы на гандлёвых плошчах размяшчаліся ў мястэчках Драгічын, Капыль, Любань, Свіслач і інш.[253]

Акрамя таго, на рынках размяшчаліся галоўныя парафіяльныя касцёлы альбо цэрквы, а часам і цэрквы, і касцёлы. Так, на гандлёвай плошчы Глуска стаялі драўляныя Васкрасенская і Троіцкая цэрквы, мураваны Троіцкі касцёл. У Чачэрску на гандлёвай плошчы размяшчаліся чатыры храмы-ратонды, якія ўтваралі адзіны ансамбль. На плошчы м. Шчучын былі размешчаны будынкі касцёла Тэрэзы з кляштарам піяраў, Міхайлаўскай царквы[254].

У магдэбургскіх мястэчках на рынку будаваліся таксама ратушы (Койданава, Стоўбцы, Мікалаеўшчына, Ракаў, Драгічын, Клецк, Вялікая Бераставіца, Чачэрск, Шклоў і інш.). Ратушам надаваліся адметныя архітэктурныя рысы. Ратуша ў Стоўбцах уяўляла сабой пакрыты гонтам[255] драўляны будынак у форме крыжа, у кожнай частцы якога размяшчаліся "белая" хата з кафельнай печкай і камора з каморкай. У кожнае памяшканне вялі асобныя дзверы[256]. Драгічынская ратуша была таксама драўлянай, завяршалася альтанкай, увенчанай металічным купалам з гербам мястэчка. Вежа Клецкай ратушы завяршалася адкрытай галерэяй і купалам. Ратуша ў Вялікай Бераставіцы ўяўляла сабой прамавугольны аднапавярховы будынак, цэнтральная частка якога была вылучана самастойным двухсхільным гонтавым дахам з трохвугольным франтонам, аформленым авальным акном. Бакавыя часткі былі аформлены *аркаднымі*[257] галерэямі. Выдатным помнікам архітэктуры класіцызму з элементамі псеўдаготыкі з'яўляецца ратуша ў Чачэрску, пабудаваная ў другой палове XVIII ст.

---

[251] *Малюнак 20.*

[252] Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік... С. 431,490.

[253] Там жа. С. 432, 202, 236, 270.

[254] Там жа. С. 492, 147, 482.

[255] *Гонт, гонта* – матэрыял для пакрыцця даху ў форме невялікіх дошчачак, востра саструганых з аднаго боку і з пазам з другога.

[256] Шаблюк, В. Забудова прынёманскіх мястэчак у 16–18 ст. ... С. 251.

[257] *Аркада* – шэраг аднолькавых па велічыні і абрысах арак, якія абапіраюцца на слупы ці калоны.

на гандлёвай плошчы, – мураваны двухпавярховы квадратны ў плане цэнтрычны будынак, завершаны пяццю драўлянымі вежамі, чатыры з якіх увянчаны шпілямі, размешчанымі па вуглах асноўнага аб'ёму, пятая, больш высокая і звужаная ўверсе, – пасярэдзіне на масіўным чацверыковым барабане[258]. Шклоўская ратуша пабудавана ў канцы XVIII ст. у стылі класіцызму. Двухпавярховы амаль квадратны ў плане мураваны будынак завяршаўся стройнай васьміграннай вежай, увянчанай гранёным купалам са шпілем[259].

Структура беларускіх мястэчак фарміравалася мэтанакіраванай дзейнасцю чалавека ва ўмовах розных гістарычных і культурных эпох. У сувязі з гэтым у працах А. Лакоткі мястэчкі Беларусі ўмоўна падзяляюцца на гатычныя, барочныя, ампірныя. Эпоха Рэнесансу ў структуры беларускіх мястэчак адбілася пераважна на архітэктуры асобных будынкаў і ансамбляў і не аказала істотнага ўплыву на планіроўку[260].

У планіроўцы гатычных мястэчак пераважаў лінейны характар. Вуліцы прымыкалі да плошчы па датычнай; сыходзіліся да рагоў прамавугольных ці квадратных рынкаў такім чынам, што працягам аднаго з бакоў вуліцы з'яўлялася адна з ліній забудовы рынку. Рысы гатычнай планіроўкі мелі Косава[261], Маладзечна, Лебедзева, Ілья, Стары Мядзель, Скідзель, Астрына, Беліца і г.д. Элементы плошчаў "гатычнай" планіроўкі добра бачны ў Іўі, Ракаве, Івянцы, Свіслачы і іншых мястэчках заходняга рэгіёна Беларусі[262].

Эпоха Рэнесансу ўнесла ў горадабудаўнічыя сістэмы Еўропы многія рысы, запазычаныя з антычнасці. У дробных гарадах і мястэчках адраджаецца цэнтрычна-прамянёвы план. Плошчы і кварталы імкнуцца да правільных, гарманічных форм. У забудове мястэчак Беларусі рэнесансныя ўплывы праявіліся ў змене стылявога аблічча будынкаў. Сярод прыкладаў мястэчак з рэнесанснай забудовай варта вылучыць Жыровічы, Мір, Гальшаны[263].

У эпоху барока ў Беларусі ўзнікае большасць прыватнаўласніцкіх мястэчак. Многія з іх становяцца цэнтрамі магнацкіх латыфундый ці шляхецкіх маёнткаў. Іх архітэктурную адметнасць вызначалі замка-

[258] *Малюнак 21.*

[259] *Малюнак 20.*

[260] Локотко, А. И. Белорусское народное зодчество: середина XIX–XX вв. / А.И. Локотко. Минск, 1991. С. 63–65; Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры... С. 138–142.

[261] *Малюнак 22.*

[262] Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры.... С. 139.

[263] Там жа. С. 140.

выя і палацава-паркавыя комплексы. Калі ў гатычных і рэнесансных мястэчках існаваў адзіны кампазіцыйны цэнтр – рынак, то барочныя мястэчкі мелі два кампазіцыйныя ядры: ансамбль забудовы плошчы і ансамбль палацава-замкавага комплексу. У рэдкіх выпадках абодва цэнтры зліваліся (Паставы, Лужкі), але, як правіла, яны падзяляліся рэкрэацыйнымі прасторамі. Былі і рашэнні, калі абодва цэнтры звязвала кампазіцыйная вось забудовы (Варняны). Прыкладаў барочных мястэчак, дзе кампазіцыйным звяном з'яўлялася магнацкая сядзіба – размяшчэнне панскага двара на рынку альбо стварэнне галоўнай планіровачна-камунікацыйнай восі, якая звязвала маёнтак з цэнтрам мястэчка, шмат. Мястэчак, у якіх двары ўладальнікаў знаходзіліся непасрэдна на рыначных плошчах, няшмат. А вось вуліцы, што звязвалі рынак з феадальнай сядзібай, у мястэчках сустракаліся даволі часта. Падобныя вуліцы мелі назву “Дворская” альбо “Замкавая”.

У Паставах у выніку будаўніцтва А. Тызенгаўза былі створаны кампазіцыйна звязаныя палацава-паркавы комплекс і архітэктурны ансамбль на рыначнай плошчы: гандлёвыя рады, будынкі канцылярыі суда, дамоў рамеснікаў, урача, школы, гасцініц, аўстэрыі, карчмы[264].

Помнікам горадабудаўніцтва барока з'яўляецца архітэктурны ансамль м. Варняны, узведзены па праекце А. Касакоўскага ў другой палове XVIII ст. (захаваўся часткова). Ён арганізаваны па рэгулярнай планіровачнай схеме вакол вялікай выцягнутай прамавугольнай у плане плошчы. Дамінанта ансамбля – Георгіеўскі касцёл, які замыкае плошчу з усходняга боку. На заходнім баку плошчы быў палацава-паркавы комплекс з вялікай воднай сістэмай (26 вадаёмаў). Паўднёвы і паўночны бакі плошчы фарміруюць два рады тыпавой жылой забудовы, аб'яднанай у адзіны фронт каменнымі прасценкамі з арачнымі праездамі (16 тыпавых дамоў). У забудову плошчы ўваходзілі таксама дом аптэкара, плябанія, карчма і гандлёвыя рады[265].

У Маладзечне фарміраванне планіровачнай структуры адбывалася пад уплывам дзвюх вядучых дамінант – двара (замка) і гандлёвай плошчы: дамініраванне рынку праявілася ў складанні радыяльна-веернай сістэмы планіроўкі, у той час як існаванне двара абумовіла ўзнікненне галоўнай Замкавай вуліцы[266].

---

264 Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік... С. 381.

265 Там жа. С. 105–106.

266 Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. С. 68.

Замак і плошча, якія аб'ядноўваліся галоўнай вуліцай, з'яўляліся кампазіцыйнымі цэнтрамі і м. Ружаны. Магнацкая рэзідэнцыя Сапегаў у Ружанах з'яўлялася адным з буйнейшых палацавых комплексаў XVII–XVIII стст. Беларусі. Першапачатковы палац меў абарончы характар. У 1784–1788 гг. прыдворны архітэктар Сапегаў Ян Самуэль Бекер перабудоўвае яго. Адначасова дойлід узводзіць у нізіне перад палацам парафіяльны касцёл і кляштар базыльян, а таксама могілкавую капліцу і заезны двор. За сваю творчасць Бекер атрымаў ад Сапегаў пажыццёвую пенсію ў 2160 злотых. Архітэктура новага палаца з'явілася сімбіёзам барока і класіцызму. У элементах субархітэктуры і ў дэкоры сустракаліся элементы стылю ракако. Галоўны корпус набыў выгляд кампактнага двухпавярховага прамавугольнага ў плане будынка пад высокім мансардавым "французскім дахам". Тут размяшчаліся бальная зала, вестыбюль, парадная двухбаковая лесвіца, парадныя памяшканні, археалагічны кабінет-музей, бібліятэка. Усходні корпус складаўся з тэатра і манежа. Заходні корпус прызначаўся для карціннай галерэі. Я. Бекер праектуе і рэгулярны праменісты парк з каналамі, вадаёмамі, стрыжанымі шпалерамі. Перспектыва кожнай са стрыжаных ліпавых алей замыкалася павільёнам. Да пейзажнай зоны далучаўся звярынец у выглядзе прабітага прасекамі ляснога масіву. У 1784 г. канцлер Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр Сапега прымаў у Ружанах караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Аднак у 1786 г. па іроніі лёсу манументальна-рэпрэзентацыйны палацавы ансамбль выкарыстоўваецца пад суконную фабрыку: А. Сапега аддаў палац у арэнду габрэйскаму прадпрымальніку Пінасу. З прыстасаваннем палаца пад ткацкую фабрыку да 1834 г. перастаў фактычна існаваць і парк[267]. Палацавы комплекс моцна разбураны падчас Першай і Другой сусветных войнаў. І зараз фрагменты палацавага ансамбля ў Ружанах выклікаюць незабыўнае ўражанне, горда і велічна ўзнімаюцца над паселішчам, якое распасціраецца каля падножжа палацавага дзядзінца.

Тыповую для барочнага горадабудаўніцтва планіроўку атрымала м. Жалудок пасля пераходу ў XVIII ст. ва ўладанне роду Тызенгаўзаў. Паселішча складалася з палацава-паркавага ансамбля і сялібнага раёна, якія знаходзіліся ў адлегласці 1 км і звязваліся прамалінейнай магістраллю. План Жалудка першай паловы XIX ст. рэканструяваны

[267] Страчаная спадчына / Т.В. Габрусь, А.М. Кулагін, Ю. Чантурыя і інш.; уклад. Габрусь Т.В. Мінск, 1998. С. 216–221.

таксама Ю. Чантурыя[268]. Цэнтр мястэчка меў эліпсавідную плошчу з гандлёвымі радамі пасярэдзіне, раскошнай мураванай паўкруглай карчмой на лініі авала, шасцю вуліцамі-лучамі. Перыферыйная акружная траса Жалудка ўтварала выразны васьмівугольнік. На думку Ю. Чантурыя, аўтар планіровачнага рашэння Жалудка (ім, верагодна, быў стваральнік ансамбляў Гарадніцы італьянскі архітэктар Дж. Сака) творча выкарыстаў дасягненні англійскага і французскага горадабудаўнічага мыслення, а таксама разнастайны еўрапейскі вопыт дадзенага перыяду[269].

Да ліку барочных мястэчак можна аднесці таксама Шчучын, хаця ў XIX ст. у мястэчку склалася рэгулярная сістэма планіроўкі. Сфарміраваўся ансамбль забудовы цэнтра з плошчай, на якой размясціліся будынкі касцёла Тэрэзы з кляштарам піяраў, Міхайлаўскай царквы, пошты, заезных дамоў, жылых дамоў рамеснікаў і гандляроў. Плошча раскрывалася ў бок палацава-паркавага комплексу Друцкіх–Любецкіх, які быў пабудаваны ў другой палове XVIII ст. па праекце дэ Фленерса ў архітэктурных формах, пераходных ад барока да класіцызму. У стварэнні парку рэгулярнай планіроўкі прымаў удзел С. Юндзіл[270]. Рэканструкцыю плана Шчучына на канец XVIII – першую палову XIX ст. зрабіў Ю. Чантурыя[271].

Да ліку ампірных (ці класіцыстычных) адносяць тыя мястэчкі, у якіх склаўся квартальны характар забудовы ў выніку рэканструкцыі канца XVIII – XIX ст. Сетка прамавугольных кварталаў сфарміравалася ў гэты час у мястэчках, стаўшых уезнымі цэнтрамі (Вілейка, Сенна, Чавусы, Клімавічы, Быхаў і інш.), а таксама ў Валожыне, Маладзечне, Любані. Квартальную планіроўку меў Шклоў[272].

Найбольш яркімі прыкладамі перапланіроўкі могуць служыць Гомель і Чачэрск. Адміністрацыйнае, прававое і сацыяльнае перапрафіліраванне свабодных гандлёвых гарадоў у прыватнаўласніцкія мястэчкі адбілася на змене іх функцыянальнай і прасторавай структуры. Галоўным градаўтваральным элементам становіцца рэзідэнцыя ўладальніка. Цэнтральным аб’ектам

---

[268] *Малюнак 23.*

[269] Страчаная спадчына... С. 216–221.

[270] Чантурия, Ю.В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI – первой половины XIX в. / Ю.В. Чантурия. Мінск, 2005. С. 151, 161–164; Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993. С. 210, 491–492.

[271] *Малюнак 24.*

[272] Локотко, А. И. Белорусское народное зодчество... С. 271; Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры... С. 141–142.

архітэктурных пераўтварэнняў робіцца стварэнне палацава-сядзібнага комплексу[273].

Планіровачная структура Гомеля да ажыццяўлення буйных горадабудаўнічых мерапрыемстваў уяўляла сабой тыповы прыклад радыяльна-дугавой планіроўкі сярэдневяковага паходжання. Пасля перадачы Кацярынай II м. Гомель ва ўладанне князю П. Румянцаву на ўчастку замка ў 1777 г. пачалося будаўніцтва палацавага ансамбля, якое ішло ў некалькі этапаў да 1856 г. Палац стаяў сярод маляўнічага парку, у паўночнай частцы якога ў 1804–1824 гг. на месцы Мікалаеўскай царквы пабудаваны Петрапаўлаўскі сабор. Сярэдневяковая структура горада была цалкам заменена новай рэгулярнай. Двухпрамянёвая сістэма планіроўкі прадугледжвала арыентацыю галоўных магістралей – вуліц Румянцаўскай і Замкавай – на цэнтральную частку палаца з купалам. Румянцаўская вуліца была асноўнай воссю кампазіцыі плана горада, усе пабудовы на ёй былі выкананыя ў стылі класіцызму (будынак Гомельскай ланкастарскай школы і інш.). У процілеглы бок ад палаца адкрывалася трохпрамянёвая перспектыва вуліц, якія выходзілі на галоўную гандлёвую плошчу перад палацам. На адной з іх (вул. Мільённай) размяшчаліся класіцыстычныя "паляўнічы домік", летні дом Румянцава, які ў 1819 г. перабудаваны ў будынак духоўнага вучылішча, "руская карчма". Большасць астатніх вуліц пралягала паралельна альбо перпендыкулярна асноўным напрамкам. У першай трэці XIX ст. у забудову плошчы таксама ўваходзілі Кацярынінскі касцёл 1831 г., двухпавярховыя гандлёвыя рады з вежай і гадзіннікам, другі корпус крам, вучылішча, ратуша, нямецкая карчма, іншыя збудаванні. Ад ансамбля галоўнай плошчы да сёння захаваліся палац Румянцава – Паскевіча і Петрапаўлаўскі сабор[274].

Яшчэ адзін выдатны архітэктурны ансамбль быў створаны ў Чачэрску. У 1774 г. Кацярына II падаравала яго графу З. Чарнышову. У 1787 г. на месцы старога замка пабудаваны палац. Па праекце рэгулярнай перапланіроўкі карэнным чынам рэканструяваны горад атрымаў прастакутную структуру вуліц. Класічная канцэпцыя стварэння "ідэальнага" паселішча выявілася тут у арганізацыі вялізнай плошчы, абкружанай сіметрычнай адносна восі поўнач – поўдзень сістэмай квадратных кварталаў. Усе вуліцы запраектаваныя шыры-

[273] Слюнькова, И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII – середины XIX в. / И.Н. Слюнькова. Минск, 1992. С. 74.

[274] Харэўскі, С. Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі / С. Харэўскі. Вільня, 2007. С. 123; Архітэктура Беларусі... С. 150.

нёй 21,3 м. У цэнтры плошчы ў 1780 г. пабудавана ратуша, галоўны элемент у прасторы горада. Строга на яе арыентаваліся асноўныя гарадскія магістралі. Вакол ратушы, на перакрыжаваннях вуліц былі семітрычна пабудаваны чатыры храмы-ратонды: тры царквы і касцёл. На плошчы сіметрычна размяшчаліся Г-падобныя карпусы гандлёвых будынкаў, якія ўключалі 76 крам. Перыметр плошчы акаймлялі ліпавыя алеі, такія ж рэгулярныя ліпавыя пасадкі праходзілі ўздоўж гарадскіх вуліц[275].

Неабходна адзначыць, што падзел мястэчак у залежнасці ад структуры планіроўкі на гатычныя, барочныя і ампірныя з'яўляецца ўмоўным. У многіх мястэчках гатычныя, барочныя і ампірныя элементы ў планіроўцы спалучаліся.

Паводле А. Лакоткі, камунікацыі (шляхі зносін) вызначалі такія планіровачныя тыпы мястэчак, як *аднавулічныя* (Сяліба), *шматвулічныя* (Івянец, Узда), *пазакласіфікацыйныя*. Да апошніх адносяцца тыя шматвулічныя мястэчкі, чыя планіроўка ў выніку развіцця не набыла акрэсленага геаметрычнага плана (Лявонпаль, Астрына).[276] В. Шаблюк выдзяляў тры тыпы гістарычнай планіроўкі мястэчак Верхняга Панямоння: *аднавосевая* (Рубяжэвічы, Лоск), *двухвосевая* (Станькава, Валожын, Івянец і інш.), *радыяльная* (Койданава, Мір)[277].

Найбольш простую планіровачную структуру мелі аднавулічныя мястэчкі, якія варта разглядаць як самыя архаічныя, узнікшыя на базе існаваўшых раней вёсак, што ляжалі абапал дарог да ўладальніцкіх двароў. Найбольш прымітыўныя аднавулічныя мястэчкі не мелі сфарміраванай рыначнай плошчы, ролю якой выконвала ўся вуліца, пасярод якой часам мог знаходзіцца храм.

Далейшае развіццё аднавулічных мястэчак магло праходзіць, на думку Ю. Бохана, двума шляхамі. У шэрагу выпадкаў па меры разрастання мястэчка і падаўжэння вуліцы рынак звужаўся да пэўнага яе адрэзку, дзе стаяў культавы будынак. У іншых мястэчках да галоўнай вуліцы, якая выконвала ролю рынку, прыразаліся іншыя, якія на першапачатковым этапе ляжалі на камунікацыйных шляхах. Далейшай стадыяй росту такіх мястэчак з'яўлялася закладанне ў месцы перакрыжавання вуліц-дарог рэгулярнага рынку[278].

275 Харэўскі, С. Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі. С. 124.
276 Лакотко, А.И. Белорусское народное зодчество… С. 271.
277 Шаблюк, В. Гістарычная тапаграфія і планіроўка мястэчак Верхняга Панямоння... С. 238.
278 Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. … С. 56.

Іншым шляхам развіваліся мястэчкі, якія першапачатковай планіровачнай адзінкай мелі рэгулярную рыначную плошчу. У адрозненне ад аднавулічных мястэчак, у забудове якіх пераважалі лінейныя формы, тут існавала значна больш умоў для складання радыяльна-веернай планіроўкі. У такіх мястэчках складанне рынкава-вулічнай структуры магло праходзіць у адваротным накірунку – праз адгалінаванне вуліц ад існуючага рынка.

Тыповым прыкладам аднавулічнага мястэчка, якое ў першай палове XIX ст. развілася ў шматвулічнае, з'яўляюцца Рубяжэвічы, якія працяглы час (XVI – да пачатку XIX ст.) развіваліся ўздоўж старажытнага шляху Слуцк – Мінск, у напрамку дарог на Койданава і Навагрудак. Паводле інвентару 1620 г., мястэчка складалася з рынка (трохкутнага), вуліц Навагрудскай і Койданаўскай, якія адыходзілі ад рынка па адной восі і ўяўлялі сабой, па сутнасці, адну вуліцу[279]. Новым у інвентары 1788 г. было з'яўленне двух завулкаў у бок р. Сулы[280]. Паводле плана 1803 г.[281] і інвентару 1818 г.[282], у мястэчку з'яўляюцца дзве новыя вуліцы – Ракаўская і Жабрацкая, а інвентар 1844 г. называе новую Стоўпецкую вуліцу[283].

Шматвулічныя мястэчкі былі найбольш распаўсюджанымі, асабліва ў заходнім рэгіёне Беларусі. Некалькі прыкладаў. У канцы XVIII ст. у мястэчках Драгічын і Маладзечна было па чатыры вуліцы, у Дуброўне – 17. У м. Капыль у 1815 г. налічвалася 11 вуліц і завулкаў, у Міры ў 1821 г. – пяць[284]. Паводле інвентару 1826 г., у Дзярэчыне налічвалася 7 вуліц, інвентар Зэльвы 1830 г. называе 10 вуліц[285]. Па інвентарным апісанні Смаргоні 1835 г., у мястэчку існавала 12 вуліц[286]. У 1847 г. у Валожыне іх было шэсць[287].

У шматвулічных мястэчках ролю вядучай планіровачнай дамінанты заўсёды выконваў рынак, да якога сыходзіліся ўсе альбо большасць вуліц. У асобных мястэчках частка вуліц магла далучацца да большых вуліц. Як адзначалася, найчасцей вуліцы выходзілі да дарог, што адбівалася на іх назвах. У адрозненне ад буйнейшых

279 Шаблюк, В. Гістарычная тапаграфія і планіроўка мястэчак Верхняга Панямоння... С. 245.

280 AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 3579.

281 Там жа. Zb. kart. R 438-33.

282 Там жа. AR. Dz. XXV. Sygn. 3582.

283 Там жа. Sygn. 3584.

284 Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік... С. 202, 204, 296, 236, 346.

285 АР бібліятэкі Вільнюскага універсітэта. Р-4. 34120 (А-1519). Арк. 3–7; 34397 (А-1840). Арк. 18–27.

286 НГАБ у Гродне. Ф. 515. Воп. 2. Адз. зах.1. Арк. 15–32.

287 НГАБ. Ф. 394. Воп. 5. Адз. зах. 622. Арк. 3.

гарадоў, дзе нярэдкімі былі вуліцы, атрымаўшыя назву ў залежнасці ад заняткаў жыхароў, у мястэчках гэта не знайшло шырокага распаўсюджвання, што тлумачыцца недастатковай канцэнтрацыяй у іх рамеснікаў адной спецыяльнасці. Згодна з інвентаром 1835 г., у Смаргоні існавала вуліца Гарбарская[288]. Такая ж вуліца была і ў м. Ілля ў 1805 г.[289] У інвентарах м. Лахвы сярэдзіны XIX ст. фігуруе вуліца Кавальская (11 пляцаў: два вольных, тры сялянскіх, шэсць габрэйскіх)[290].

Часам назвы вуліцы адлюстроўвалі этнічны склад яе жыхароў: інвентар м. Новая Мыш 1730 г. сярод пяці вуліц называе Татарскую (10 татарскіх двароў) і Жыдоўскую (13 габрэйскіх двароў)[291]. Вуліца Татарская існавала ў м. Бялынічы[292]. У назвах некаторых вуліц знаходзіла адлюстраванне спецыфіка іх размяшчэння: Тыльная, Над выпустам, Зарэчная, Над выганам і г.д. Часта сустракаюцца такія назвы местачковых вуліц, як Замкавая, Дворная, Млыновая, Броварная, Рыначная, Базарная, Касцёльная, Царкоўная, Школьная і інш.

На вялікі жаль, сёння пераважная большасць былых мястэчак згубіла свае старадаўнія назвы вуліц. Так, славутае м. Мір, паводле інвентару 1830 г.[293] і плана 1831 г., мела Рынак, вуліцы Слонімскую, Віленскую, Нясвіжскую, Высокую, Царкоўную, Мінскую, Глухую, Гуменную, Завальную, Татарскую, За броварам, прадмесці Мінскае і Слонімскае[294]. А сёння у Міры побач з цудоўным гатычна-рэнесансавым замкам XVI ст. – плошча 17 верасня, вуліцы Чырвонаармейская, Піянерская, Танкістаў, Кірава, 1 Мая, Маскоўская і г.д. А вось у сучасным Нова-Свержані захавалася не толькі старадаўняя планіроўка, але і гістарычныя назвы некаторых вуліц – Мірская, Румовая, Нясвіжская, Менская-Замкавая.

У планіровачна найбольш развітых мястэчках маглі ўзнікаць прадмесці альбо двухчастковая структура. Генезіс прадмесця варта шукаць, як адзначае Ю. Бохан, у засценках, якія існавалі побач з многімі мястэчкамі, і, магчыма, слабодах. У прадмесці Машкова і Казлова да 1784 г. перараслі засценкі, фігуруючыя пад тымі ж назвамі ў інвентары Маладзечна за 1750 г.[295] Згодна з інвентаром 1788 г., прад-

---

288 НГАБ у Гродне. Ф. 515. Воп. 2. Адз. зах.1. Арк. 15.
289 Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. С.82.
290 AGAD. AR. Dz.XXV. Sygn. 2196a. Str.2; Sygn. 2199. Str.4; Sygn. 2198.
291 АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn. 9167. Арк. 6–15.
292 AGAD. AR. Dz.XXV. Sygn. 149.
293 Там жа. Sygn. 2466 a.
294 Там жа. Zb. Kart. R 452–31.
295 Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. .... С. 58.

месце Перавоз існавала ў м. Смаргонь[296]. У склад м. Драгічын у канцы XVIII ст. уваходзіла прадмесце Зарэчча. Інвентар Шклова 1773 г. называе тры прадмесці: Рыжкоўскае, Задняпроўскае, за брамай Аршанскай, а таксама прыгарад (przygrodek) Замкавы[297]. Пасля таго як пажар знішчыў у Шклове 290 дамоў, з 1769 г. пачаў паўставаць Новы Горад на выкарчаных лясных абшарах (каля 2,5 км на поўнач ад Шклова)[298]. Мястэчка Дуброўна яшчэ з другой паловы XVII ст. мела два пасады: Задняпроўскі і Задубровенскі. З'яўленне падзелу на Старое і Новае Месца адбывалася пры закладанні альтэрнатыўнага рынку. Напрыклад, м. Масты падзялялася на старую і новую часткі, фарміраванне якіх праходзіла вакол асобных гандлёвых плошчаў[299].

Планіровачнае развіццё кожнага мястэчка праходзіла сваім асобным шляхам, прасачыць які магчыма далёка не ва ўсіх выпадках. Не ўсе мястэчкі прагрэсіравалі ў сваім развіцці, некаторыя закансерваваліся на пэўным этапе. Разам з тым неабходна канстатаваць, што многія мястэчкі, асабліва ў Заходняй Беларусі, мелі досыць складаную планіроўку, якая ў той ці іншай ступені была падобная на гарадскую.

Забудова мястэчка любога тыпу вызначалася комплексным размяшчэннем шэрага будынкаў: гандлёвых радоў, храмаў, ратушы, валаснай управы, школы, карчмы, майстэрняў, жылых дамоў і г.д. Агульнай асаблівасцю беларускіх мястэчак з'яўлялася шчыльнасць забудовы. У сувязі з гэтым уяўляла асаблівую цікавасць менавіта вуліца мястэчка – адзіны арганізм, які ўключаў у сябе жыццё дамоў, што на яе выходзілі. Местачковыя вуліцы мелі камерны, "інрэр'ерны" характар[300]. Яны былі ўтвораны двума радамі цесна пастаўленых выцягнутых дамоў, звернутых тарцамі да праезджай часткі. Дзякуючы вузкасці такой вуліцы, прастора паміж супрацьлеглымі яе бакамі ўспрымалася не як транзітная магістраль, а як знешняя рэкрэацыя дамоў, якія стаяць насупраць. Такому ўражанню садзейнічаў і побыт насельніцтва гандлёвых кварталаў, дзе з-за шчыльнасці забудовы вуліца ў некаторай ступені выконвала ролю двара. У вулічную прастору пранікалі ўсякія элементы пабудоў, якія выдаваліся:

---

296 Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Сморгонь. Минск, 1977. С. 8.

297 АР бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве. Sygn. 9267.

298 Topolska, M.B. Dobra Szkłowskie na Białorusi Wschodniej w 17 i 18 w. / M.B.Topolska. Warszawa, 1969. S. 34.

299 Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік... С. 202, 204, 302.

300 *Малюнак 25.*

часткі падвалаў, лесвіц, галерэй і г.д., што ўзмацняла ўражанне “інтэр’ернасці” вуліцы[301].

Шчыльнасцю забудовы цэнтральных частак мястэчак тлумачыцца тэндэнцыя да стварэння архітэктурных сістэм, адкрытых да развіцця, якую можна прасачыць амаль ва ўсіх тыпах местачковых дамоў. Кампазіцыя будынкаў з самага пачатку была арганізавана такім чынам, што прадугледжвала развіццё ў залежнасці ад новых патрэб уладальнікаў. У цэнтральнай частцы мястэчак не было месца для бакавых прыбудоў: правулкі паміж дамамі былі вельмі вузкімі, да аднаго метра ў шырыню. Гэта кампенсавалася самымі разнастайнымі зацеямі на фасадах. Дзякуючы элементам фасадаў, якія выступалі, а таксама цесна пасаджаным вокнам і дзвярам, адчыненым брамам заезных двароў, якія быццам бы ўцягвалі прастору ўнутр, дасягалася адчуванне адзінства знешняй прасторы вуліцы і ўнутраных прастораў будынкаў[302].

Для будаўніцтва жылых і гаспадарчых памяшканняў ва ўсіх мястэчках Беларусі выкарыстоўваліся мясцовыя матэрыялы, што характэрна для народнага дойлідства. Гэта пераважна драўніна і гліна, радзей мясцовы камень. Дахі крыліся чаротам, дранкай, гонтай ці саломай. Мураваных дамоў у мястэчках было мала, іх забудова была пераважна драўлянай, да таго ж шчыльнай, што рабіла мястэчкі ахвярай частых пажараў. Вобраз тыповага мястэчка “мяжы аселасці” бліскуча падае Шолам Алейхем: апісваючы Касрылаўку, ён параўноўвае яе з “подсолнухом, густо усаженным семечками, доской, покрытой мелко накрошенной лапшой. ‹...› Скучилось множество лачужек, одна на другой, как могилы на старом кладбище, как ветхие чёрные накренившиеся памятники”[303]. З апісання м. Краснаполля: “Большинство домиков тесно ютятся друг возле друга и представляют, благодаря своей скученности и ветхости, крайне опасный, горючий материал”[304]. А. Паперна ўспамінае, што пажар 1845 г. знішчыў палову Капыля, а ў 1865 г. мястэчка згарэла датла: “Копыль с его тесно построенными изсохшими и сгнившими бревенчатыми домами, при отсутствии всяких колодцев, как бы сам напрашивался на пожар, то обстоятельство, то за 20 летний промежуток времени

---

[301] Гудченко, З.С. Некоторые особенности архитектуры местечек Украины (конец XVIII – начало XX в.) / З.С. Гудченко // Советская этнографія. 1978. № 5. С. 109–118.

[302] Соколова, А. Архитектура местечек Восточной Подолии / А. Соколова // История евреев на Украине и в Белоруссии. Сборник научн. трудов. СПб., 1994. С. 63–64.

[303] Шолом Алейхем. Город маленьких людей // Собрание сочин.: в 6 т. Т. 2. М., 1988. С. 250–251.

[304] Рохлин, Л. Местечко Краснополье / Л.Л. Рохлин. СПб., 1908. С. 32.

он все-таки избежал разрушительного действия огня, надо считать чудом...”[305]. У 1801 г. пажар знішчыў дамы і ўсю маёмасць купцоў і мяшчан Гомеля, пасля чаго яны прасілі ў казны 50 тыс. руб. на 20-гадовы тэрмін без працэнтаў[306].

У шараговай местачковай забудове пераважалі адна, палутарапавярховыя, радзей двухпавярховыя будынкі. Большасць іх уяўлялі сабой камбінацыю жылых, гаспадарчых, рамесных і гандлёвых памяшканняў (Трабы, Ракаў, Даўгінава, Сітцы і інш.). Апошнія абавязкова непасрэдна звязваліся з вуліцай, размяшчаліся ў цокалеці на першым паверсе. Амаль пад усімі дамамі ствараліся падвалы. Такім чынам, тып жылога дома, характэрны для мястэчак, – шматфункцыянальны будынак.

Аднак пры ўсім сваім рацыяналізме архітэктура шараговай забудовы мястэчак была не пазбаўлена дэкаратыўнай трактоўкі, на якой адбіліся сельскія традыцыі. Асноўную эстэтычную нагрузку ў забудове мястэчак неслі вулічныя кароткія фасады дамоў, доўгія ж бакі заставаліся аскетычна простымі, без якіх-небудзь элементаў дэкору. Паколькі гандлёвыя памяшканні дамоў выходзілі непасрэдна на вуліцу, то фасады павінны былі мець “уласны твар”, каб прыцягнуць пакупнікоў. Адсюль – адмова ад стварэння сістэмы аднастайных мастацкіх форм. Характэрнай рысай местачковых пабудоў былі разнастайныя навесы, галерэйкі, мансарды, балкончыкі (Гальшаны, Беліца[307] і інш.). У выпадку пабудовы навеса вынас даху падтрымліваўся драўлянымі кансолямі. Пры пабудове галерэй край вынасу даху абапіраўся на калоны. Узровень полу галерэй мог узвышацца над вулічным узроўнем, што патрабавала пабудовы лесвіцы. Часам жа навесы і галерэі ніяк не аддзяляліся ад вуліцы, складаючы яе частку. Галерэі і балконы агароджваліся драўлянымі разнымі балюстрадамі.

У склад мястэчак уваходзіў шэраг грамадскіх і культавых збудаванняў, вытворчых пабудоў.

Як адзначалася, у некаторых мястэчках, якія мелі магдэбургскае права, на плошчы будавалася ратуша (Шклоў, Чачэрск, Вялікая Бераставіца, Драгічын, Клецк і інш.).

Многія мястэчкі з’яўляліся цэнтрамі валасцей, у іх існавалі валасныя ўправы. Валасная ўправа нагадвала традыцыйную хату на дзве палавіны: ганак на слупах, сені, злева і справа пакоі, дзе размяшчаліся

[305] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания ... Т. 2. СПб., 1910. С. 4.
[306] Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме. НМ/2 7779.39.
[307] *Малюнак 25.*

прысутнасці валасных чыноўнікаў, канцылярыя, архіў. У мястэчках – цэнтрах сельскіх абшчын будаваліся грамадскія магазіны. Пасля адпаведнага ўказа Кацярыны ІІ іх пачынаюць узводзіць па ўзорных праектах. “Тыповыя” запасныя магазіны мелі скразны праезд, паабапал якога размяшчаліся засекі. У некаторых мястэчках яшчэ былі вядомыя запасныя магазіны двухпавярховыя ў выглядзе замкнёнага двара[308].

Мястэчкі, якія знаходзіліся на буйных транзітных шляхах, мелі паштовыя станцыі. Напрыклад, у Мінскай губерні ў пачатку XIX ст. паштовыя станцыі існавалі ў мястэчках Койданава, Новы Свержань, Смілавічы, Свіслач, Паболаў, Урэчча, Глуск, Горваль, Холмеч, Лоеў, Ельск, Лагішын, Любяшоў, Клецк, Цімкавічы, Раманава, Нясвіж, Радашковічы, Маладзечна, Зацкевічы, Касцяневічы, Даўгінава, Смалявічы, Жодзіна, Докшыцы, Юхноўка[309]. Паштовыя станцыі ўяўлялі сабой будаўнічы комплекс, які складаўся са станцыйнага дома, дзе жыў станцыйны наглядчык з сям’ёй, пакояў для падарожных людзей, гасцёўні. Станцыйны дом стаяў фасадам да дарогі. Збоку ад яго знаходзіліся вароты для праезду на двор і флігелі для варты. Размешчаныя на брукаваным двары канюшні, паветка для фурманаў, домік для ямшчыкоў утваралі замкнёны двор. З канца XVIII ст. паштовыя станцыі робяцца па ўзорных праектах паводле падзелу на класы. Ад класа залежала колькасць зменных экіпажаў, наяўнасць пры станцыі гасцініцы і карчмы[310]. Да сённяшняга дня, напрыклад, захавалася паштовая станцыя ў Мілавідах, пабудаваная ў 1846 г. па узорным праекце ў стылі класіцызму. Яна складаецца з трох мураваных прамавугольных, накрытых *вальмавымі*[311] дахамі будынкаў, якія ўтвараюць цэласную сіметрычную П-падобную ў плане кампазіцыю. Цэнтральны будынак павернуты да шашы (Івацэвічы – Слуцк) галоўным падоўжаным фасадам, тут знаходзіліся жылыя памяшканні для праезджых, кухня, кватэра наглядчыка. Бакавыя будынкі пастаўлены да шашы тарцамі, у іх размяшчаліся карэтная і пуня[312].

Даволі распаўсюджаны і своеасаблівы тып мястэчковых будынкаў складалі корчмы і заезныя двары. У мястэчку карчма ставілася не-

---

[308] Лакотка, А.І. Пад стрэхамі прашчураў / А.І. Лакотка. Мінск, 1995. С. 84.

[309] РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Адз. зах. 90. Арк. 35–158.

[310] Лакотка А.І. Пад стрэхамі прашчураў. С. 84.

[311] *Вальмавы дах* – чатырохсхільны дах з трохкутнымі схіламі (вальмамі) у тарцах будынка.

[312] Архітэктура Беларусі... С. 306.

пасрэдна на гандлёвай плошчы ці каля яе, а таксама на галоўных вуліцах.

У Беларусі былі вядомы два тыпы корчмаў: незаезныя і заезныя. Першыя мелі шынок-харчэўню, жытло карчмара, адзін ці некалькі пакояў для пастаяльцаў. У комплекс карчомнага двара ўваходзілі асобная стайня, дрывотня, пуня, калодзеж і іншыя будынкі, згрупаваныя вакол агульнага двара.

Вонкавае аблічча карчмы залежала ад будаўнічых матэрыялаў і мясцовых традыцый пластычнага аздаблення драўляных дамоў. Падмурак з камення, сцены з кругляку ці брусоў, дах з дранкі ці саламяная страха ўносілі ў пабудову пэўны каларыт. У местачковых корчмах Панямоння галоўны фасад часта меў слупавую галерэю – падсені, што надавала архітэктуры багацце святлоценявых суадносін. Манументальны выгляд мелі мураваныя корчмы са складанай планіроўкай, багатым вонкавым аздабленнем, насычаным пластыкай інтэр’ерам.

Наогул, традыцыйная беларуская карчма – гэта цікавы і самабытны элемент народнай культуры, у якім адлюстраваны і традыцыі грамадскіх і калектыўных зносін, і шматлікія бакі разнастайных сфер жыцця і дзейнасці людзей. Уявіць сабе мястэчка без карчмы ці заезнага двара немагчыма.

Як адзначалася, многія мястэчкі былі цэнтрамі магнацкіх латыфундый ці шляхецкіх маёнткаў, іх архітэктурную адметнасць вызначалі замкавыя і палацава-паркавыя комплексы. Палацава-паркавыя комплексы ў мястэчках разглядаемага перыяду прадстаўлены пераважна барока і класіцызмам. Прыклады барочных палацавых ансамбляў прыводзіліся вышэй (Паставы, Варняны, Ружаны, Жалудок). У канцы XVIII – пачатку XIX ст. у архітэктуру местачковых маёнткаў і сядзіб прыходзіць класіцызм. Класіцыстычныя палацы канца XVIII – першай паловы XIX ст. мелі шырокую тыпалогію: ад невялікага палаца-сядзібы да гарадскога палацавага комплексу, які займаў важнае месца ў планіровачнай структуры горада ці мястэчка (напрыклад, Гомельскі палацава-паркавы ансамбль). Але рысы класіцызму найбольш выразна ўвасобіліся пераважна ў буйных планах. Сярэднія і дробныя маёнткі ўжо ў першай трэці XIX ст. будуюцца ў стылі так званага гістарызму альбо рамантызму.

Сярод першых значных класіцыстычных пабудоў у мястэчках вылучаюцца цэнтральны корпус Гомельскага палацава-паркавага ансамбля (1777–1796, архітэктар Я. Аляксееў з удзелам Дж. Кларка), сядзібны дом і гасціны двор у Дуброўне (1787, архітэктар І. Староў), Крычаўскі палац (1778–1787) і інш. Адзначым, што Гомельскі

палац з’яўляецца адным з лепшых прыкладаў класіцыстычнай паладзіянскай пабудовы з кампактным планам і купальным завяршэннем не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі і Польшчы. Ён з’явіўся своеасаблівым помнікам перамогі Расіі над Турцыяй, помнікам рускаму палкаводцу П. Румянцаву, а таксама маніфестам новай архітэктуры, новага еўрапейскага цывілізаванага густу[313].

Уладальнік Лагойска Пій Тышкевіч, бацька вядомых калекцыянераў Канстанціна і Яўстафія, пабудаваў тут у 1815 г. двухпавярховы мураваны палац у стылі класіцызму, які быў вядомы сваёй багацейшай археалагічнай калекцыяй, размешчанай у дзвюх вялізных залах, а таксама бібліятэкай, галерэяй жывапісу. Палац стаяў на невялікім узвышшы сярод пейзажнага парку, выцягнутага ўздоўж правага берага р. Гайны[314].

Прыкладам палацавай архітэктуры класіцызму ў мястэчках можа служыць Дзярэчынскі палац, пабудаваны ў 1786 г. паводле праекта Я. Бекера і Л. Гуцэвіча як ваенная навучальная ўстанова (фундатар – Аляксандр Сапега)[315]. У пачатку XIX ст. Францішак Сапега перарабіў будынак на палац і абкружыў яго паркам рэгулярна-тэраснага тыпу з сістэмай ставоў. Сярод памяшканняў палаца вызначаліся карцінная галерэя, археалагічны кабінет і бібліятэка. Адасоблена стаяў драўляны тэатральны будынак, унутраная прастора якога была падзеленая прыкладна папалам на сцэну і партэр. Парк, што акаймляў палац, меў рэгулярную планіровачную структуру, якую складалі прамыя каштанавыя і таполевыя шырокія алеі, сажалкі. Парк змяшчаў шэраг павільёнаў, аранжарэю, стайню, капліцу, свіран. “Малым Версалем” называлі палацава-паркавы ансамбль у Дзярэчыне[316].

У ансамбль рыначнай плошчы Валожына ўваходзіў палац, пабудаваны ў 1806 г. уладальнікам мястэчка графам Ю. Тышкевічам у стылі класіцызму (архітэктар А. Касакоўскі) на ўзвышаным беразе р. Валожынкі. Перад палацам быў разбіты рэгулярны парк, які спускаўся да ракі. Помнікам палацава-паркавай архітэктуры класіцызму з’яўляецца таксама сядзіба Патоцкіх у м. Высокае, палац пабудаваны ў 1816 г., парк – пейзажнага тыпу[317].

Уладальнікі мястэчак паўплывалі на іх знешні выгляд не толькі праз будаўніцтва палацава-паркавых комплексаў. Яны клапаціліся

---

313 Харэўскі, С. Гісторыя мастацтва і дойлідства Беларусі... С. 126–127.

314 *Малюнак 14.*

315 *Малюнак 15.*

316 Кулагин, А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII – начало XIX в. / А.Н. Кулагин. Мінск, 1981 С. 47.

317 Архітэктура Беларусі... С. 104, 137.

пра фарміраванне іх планіроўкі і забудовы ў цэлым. Яркім прыкладам з'яўляецца Свіслач у часы валодання В. Тышкевічам. Заглянём у Тышкевічаву Свіслач праз позірк сучасніка таго перыяду графа Л. Патоцкага: "Вінцэнт Тышкевіч атрымаў Свіслач ад бацькі. Малы, бясформенны і брудны гарадок перабудаваў зусім нанова, заклаў галандскага кшталту парк, перарэзаў яго каналамі і заснаваў вялікі заасад. (…) У самай сярэдзіне горада быў квадратны рынак, аздоблены спічастаю пірамідаю, што завяршалася доўгім пазалочаным шпілем. Вялі да яго шырокія, пад шнур выцягнутыя вуліцы, забудаваныя ладнымі дамамі, пакрытымі гонтай, – Гродзенская, Рудаўская, Мсцібаўская, Брэсцкая і Варшаўская. Вуліца Гродзенская і рынак заселены былі габрэямі, Варшаўская – татарамі, якія займаліся вырабамі шкураў, па іншых мясціліся студэнты". Вуліцы былі брукаваныя, па баках абсаджаныя дрэвамі. У цэнтры рыначнай плошчы ў пачатку XIX ст. былі ўзведзены гандлёвыя рады з 48 крамамі. На рынку стаялі пяць пастаялых двароў, якія мелі назвы: пад "Арлом", "Аленем", "Валом", "Аднарожцам", "Лебедзем". Тут жа знаходзіўся "кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезджых", аптэка. Каля плошчы знаходзіліся фарны касцёл, пры ім – вежа з гадзіннікам, непадалёк – уніяцкая царква са званіцай. У парку мясціліся палац, будынак тэатра, аранжарэя, звярынец (у якім "трымалі да ста ланяў і больш за дзесятак аленяў"), а таксама альтанкі, гаспадарчыя пабудовы. Л. Патоцкі пісаў, што госці Свіслацкай зямлі здзіўляліся яе добраўпарадкаванасці: "...Едучы па роўным гасцінцы, абсаджаным дрэвамі, забяспечаным бар'ерамі, і ўязджаючы ў акуратна і прыгожа збудаваны горад, які ўтрымліваюць чыста і ахайна, забывалі на хвіліну, дзе знаходзіліся, і пераносіліся ў думках на берагі Эльбы альбо Рэйна …"[318]

Дзякуючы ўладальніку ўражвала сваёй забудовай і м. Ліпнішкі. У працы А. Карэвы адзначаецца: "Стараниями владельца помещика Вольского в местечке построены каменные гостиный двор, корчма и красивое здание для продажи и склада пива. Постройки эти обращают на себя внимание потому, что резко отличаются изяществом своей архитектуры от всех построек, какие можно встретить не только в местечках, но даже и уездных городах Виленской губернии"[319]. Такім чынам, наяўнасць рэзідэнцыі ўладальніка ў мястэчку істотна паўплывала на яго архітэктурнае аблічча.

[318] Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі. Мінск, 1997. С. 24–28.

[319] Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния /

Мястэчкі з'яўляліся рэлігійнымі цэнтрамі акругі, таму ў іх структуры абавязкова існавалі культавыя пабудовы: праваслаўныя, уніяцкія, каталіцкія, пратэстанцкія, мусульманскія, іудзейскія храмы. Важнае грамадска-сацыяльнае значэнне мястэчка вымушала надаваць абліччу сакральных збудаванняў асаблівую выразнасць. Нездарма многія шэдэўры беларускай сакральнай архітэктуры былі ўзведзены менавіта ў мястэчках. Напрыклад, у канцы XVIII – першай палове XIX ст. былі ўзведзены ў стылі класіцызму Астравецкі Казьмадзям'янаўскі касцёл, Валожынскі касцёл св. Юзафа, Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор, Жалудоцкі касцёл Ушэсця, Роскі Троіцкі касцёл, Чачэрская Спаса-Праабражэнская царква, Мядзельская царква, Шчучынскі касцёл Тэрэзы і інш.; у стылі барока: Будслаўскі касцёл бернардзінцаў, Васілішкаўскі і Воўпаўскі касцёлы Іаана Хрысціцеля, Глыбоцкі і Дунілавіцкі Троіцкія касцёлы і інш. Многія мястэчкі былі універсальнымі рэлігійнымі цэнтрамі, дзе касцёлы і цэрквы побач узносілі да неба свае крыжы і малітвы. Шэраг местачковых помнікаў культавай архітэктуры адлюстраваны і ўвекавечаны на малюнках Напалеона Орды і фотаздымках Яна Балзункевіча[320].

У некаторых мястэчках сярод дынамічных сілуэтаў сакральных збудаванняў пэўнае месца займалі татарскія мячэці. Напрыклад, у Ляхавічах мячэць была пабудавана ў 1815 г., у Міры – да 1795 г. (адноўленая ў 1840 г.), у Мядзелі – у 1840 г. Існавалі мячэці ў Смілавічах, Уздзе, Капылі, Клецку і інш., малітоўныя дамы – у Глыбокім, Докшыцах і інш. [321] Да нашых дзён захавалася мячэць у Іўі. У выпадку Іўя замест найбольш распаўсюджанага ў беларускіх мястэчках класічнага "трохкутніка" – *царква-касцёл-сінагога*[322] – меў месца іншы варыянт – *касцёл-сінагога-мячэць*[323].

Габрэйскія абшчыны мястэчак мелі свае культавыя збудаванні. Так, паводле даных на 1861 г., у 11 мястэчках Гродзенскага ўезда налічвалася дзве каменныя і восем драўляных сінагог, 20 драўляных малітоўных школ[324]. Сінагогі з'яўляліся вельмі выразнымі і

А. Корева. СПб., 1861. С. 733.

320 *Малюнак 26*; а таксама: Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX ст. Мінск, 2001; Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак XX ст. Мінск, 2001.

321 Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры.... С. 190–191; Думін, С.У., Канапацкі, І.Б. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць. Мінск, 1993. С. 164.

322 *Малюнак 27* адлюстроўвае нямецкую паштоўку часоў Першай сусветнай вайны, на якой паказаны трохкутнік "касцёл-царква-сінагога", а таксама шараговая забудова м. Стваловічы (Сталовічы) Навагрудскага ўезда.

323 *Малюнак 28.*

324 НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп. 6. Адз. зах. 129. Арк. 88–89.

арыгінальнымі пабудовамі ў мястэчках. Для іх характэрна вялікая разнастайнасць архітэктурных тыпаў. Прыкладам мураванай сінагогі можа служыць Дзярэчынская, якая мела тыповы воблік мураваных местачковых сінагог – кампактны прамавугольны аб'ём, мінімальны дэкор фасадаў, двух'ярусны вальмавы дах[325]. У 90-х гг. XVIII ст. мураваныя сінагогі былі ўзведзены ў Клецку[326], Століне. Апошняя захавалася да нашых дзён, на яе абліччы адбілася спалучэнне традыцыйных элементаў сінагагальнага будаўніцтва з рысамі грамадзянскага дойлідства канца XVIII – пачатку XIX ст.[327] Мястэчка Мір можа пахваліцца захаваннем адзінага ў Беларусі комплексу будынкаў "сінагагальнага двара": "халодная" і "цёплая" сінагогі, школа, а таксама будынкі кагала і ешывы[328].

У XIX ст. была ўзведзена мураваная сінагога ў Індуры. Акрамя таго, тут існавалі чатыры драўляныя малітоўныя дамы. Пра мінулае штэтла Індура сёння сведчаць толькі запушчаныя будынак сінагогі і габрэйскія могілкі[329]. Самабытная габрэйская традыцыя застыла ў архітэктурных формах надмагілляў і сінагог і ў шэрагу іншых былых мястэчак Беларусі[330].

Найбольш арыгінальнай трэба прызнаць архітэктуру драўляных сінагог – бязвежавых збудаванняў прасторнага аб'ёму з высокай страхой складанай канфігурацыі. Сінагогу абкружалі галерэі і прыбудовы з асобнымі стрэхамі, ствараючы цікавыя суадносіны форм розных прапорцый. Цудоўнымі ўзорамі сінагагальнай архітэктуры з'яўляліся драўляныя сінагогі ў мястэчках Давыд-Гарадок (пабудавана ў пачатку XIX ст.), Камянец (XVIII ст.), Кажан-Гарадок (другая палова XVIIIст.), Лунна (рубеж XVIII–XIX ст.), Нароўля, Адэльск, Азёры (XVIII ст.), Пескі (другая палова XVIII ст.), Воўпа (пачатак XVIII ст.)[331] і інш.

Выдатным помнікам драўлянага дойлідства была сінагога ў Воўпе. На старонках "Нашай Нівы" занатавана: "Мястэчка Воўпа на кожнага беларуса павінна зрабіць прыемнае ўражанне. Тут захавалася нямала слядоў Беларусі ў будоўлях, – гэта жыдоўская бажніца, – пабудаваная яна, як кажуць, гадоў таму 300 у пекным беларускім стылі. Міма гэтай будоўлі, памятаючай лепшыя часы нашага народу,

[325] *Малюнак 29.*
[326] *Малюнак 30.*
[327] *Малюнак 31.*
[328] http://radzima.org/pub/pomnik.php?lang=by&nazva_id=hrkammir07&sng=1
[329] *Малюнак 32.*
[330] *Малюнкі 33, 34.*
[331] *Малюнак 35.*

нельга праехаць, не затрымаўшы вока і сэрца на ёй". Знакамітая сінагога, а таксама царква і значная частка жылой забудовы Воўпы згарэлі ў першыя дні нямецка-савецкай вайны. Гітлераўцы знішчылі ўсіх ваўпянскіх габрэяў, і сёння пра местачковае мінулае Воўпы нагадваюць нетрадыцыйная для вёскі планіроўка (вуліцы промнямі разыходзяцца ад плошчы са старым касцёлам) ды велізарныя запушчаныя габрэйскія могілкі.

Не захавалася і цудоўная сінагога м. Пагост, апісанне якой знаходзім у часопісе "Наш край" за 1925 г. (у мястэчку было на той час тры сінагогі, найстарэйшую з іх называлі "старой"): "У гэтай сінагозе – надзвычайна прыгожыя, рэзаныя нажом з дрэва "омэд" (месца, дзе стаіць кантар у час набажэнства) і "оран-койдэш" ("святая скрыня", дзе стаяць скруткі Торы). Разьба старая, вельмі прыгожая і арыгінальная. Арнамент багаты і разнастайны. Наверсе – двухгаловы арол і два буслы; з цэльнага кавалку дрэва зроблены доўгія ланцугі. Кажуць, што сінагога мае 190 год, але старыя дакументы, у якіх была зазначана ўся гісторыя сінагогі і Пагосту, у 1915 г. былі вывезены ў Ленінград"[332].

Увогуле, неабходна адзначыць, што архітэктура мястэчак мела непаўторны каларыт у многім дзякуючы таму, што яна ўвабрала ў сябе асаблівыя рысы габрэйскага жыцця, яго звычаі. Прыналежнасць да гэтай культуры забяспечыла ўспрыманне народнага дойлідства габрэйскіх мястэчак, раскіданых па ўсёй тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, як адзінай з'явы, нягледзячы на некаторыя асаблівасці, уласцівыя архітэктуры розных рэгіёнаў. Габрэйскія дамы мястэчак адрозніваліся ад беларускіх памерамі, планіроўкай, дэкорам. Менавіта для габрэйскай забудовы мястэчак былі ўласцівы такія названыя вышэй рысы, як шматфункцыянальнасць пабудоў, адкрытасць да далейшага развіцця ў залежнасці ад новых патрэб уладальнікаў, прынцып аб'яднання вуліцай прастораў розных будынкаў. Звярталі на сабе ўвагу выразныя сілуэты габрэйскіх дамоў з іх высокімі, масіўнымі стрэхамі, кампазіцыі фасадаў з варыяцыямі галерэй, балконаў, мансард.

Умоўна можна вылучыць два тыпы габрэйскіх мястэчак. Першы – своеасаблівы дзіполь, на адным канцы якога была засяроджана габрэйская частка мястэчка: дамы, рынкавая плошча з крамамі, рамесныя майстэрні; на другім – хрысціянская, цэнтрам якой з'яўлялася царква ці касцёл. У мястэчках другога тыпу можна вылучыць цэнтр,

---

[332] Азбукін, М. Нашы мястэчкі: Пагост, Княжычы, Бярэзынь / М. Азбукін // Наш край. 1925. № 2. С. 16.

дзе жылі габрэі і мяшчане-хрысціяне, і прадмесце, у якім жыло сельскае насельніцтва[333]. Прыкладам мястэчак першага тыпу можа служыць Тураў: "Даволі выразна Тураў падзяляецца на "места" – паўночную, габрэйскую частку і паўднёвую частку – беларускую, сялянскую. Цэнтр Турава лічыцца ў першай. Тут два пляцы і галоўная вуліца з лепшымі будынкамі і крамамі. Гэта – рынак. Сярод будынкаў гэтай часткі мястэчка можна сустрэць каменныя (...). Большасць жа дамоў драўляных, крытых гонтам, з ганкам на вуліцу, як правіла. У сялянскай частцы мястэчка Турава хаты выключна драўляныя, крытыя саломаю і па архітэктуры больш адпавядаючыя сельскагаспадарчаму прызначэнню – з сенцамі"[334]. Беларуская частка Турава ў сваю чаргу дзялілася на "казну" і "вашчату". На "казне" жылі дзяржаўныя (казённыя) сяляне, вуліцы тут былі прамыя, кварталы па плане ўяўлялі сабою квадраты. На "вашчаце", дзе размяшчаўся "завод" па вытворчасці васковых свечак, знаходзіліся прыгонныя двары сялян. Гэтая частка была пабудаваная без плана і ўяўляла сабой лабірынт з неагароджаных двароў і тупіковых завулкаў[335].

У Беларусі пераважалі габрэйскія мястэчкі другога тыпу. Вывучэнне шэрага інвентароў мястэчак Беларусі ў архівах Беларусі, Літвы і Польшчы[336] дазваляе заўважыць, што і ў беларускім рэгіёне выяўляецца наступная заканамернасць: "Габрэі сяліліся канцэнтравана вакол гандлёвай плошчы і болей рассеяна па меры аддалення ад яе"[337]. Акрамя інвентароў гэта прасочваецца паводле картаграфічных матэрыялаў. Напрыклад, на плане м. Койданава 1835 г. пляцы габрэйскія і хрысціянскія пазначаны розным колерам: зеленаватыя габрэйскія сканцэнтраваны менавіта вакол рынку[338]. Паводле сведчання У. Сыракомлі, габрэйскія крамы і бажніцы на рынку Койданава сталі "сэрцам горада, бо хрысціянскае насельніцтва знаходзіцца

---

[333] История евреев на Украине и в Белоруссии. Сборник научных трудов. СПб., 1994. С. 22.

[334] Бруй, М.Е. Сучасны Тураў / М.Е. Бруй // Наш край. 1930. № 5-6. С. 59.

[335] Смиловицкий, Л. Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья / Л. Смиловицкий. Иерусалим, 2008. С. 25–26.

[336] Гэта пацвярджаюць, напрыклад, інвентары Беліцы:AGAD, AR, dz. XXV, sygn. 182, 190; Грозава: AGAD, AR, dz. XXV, sygn.1320; Валожына: AP бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве, sygn.9368. і многія іншыя.

[337] Соколова, А. Архитектура штетла в контексте традиционной культуры / А. Соколова // Лукин В., Соколова А., Хаймович Б. Сто еврейских местечек Украины. Исторический путеводитель. Вып. 2.: Подолия. СПб., 2000. С.57.

[338] *Малюнак 36.*

тут, як і ва ўсіх нашых мястэчках, на другім плане”[339]. Тое ж самае адлюстроўвае і план м. Старобін 1866 г.[340]

Па некаторых мястэчках крыніцы дазваляюць прасачыць тэндэнцыю росту габрэйскіх двароў на рыначнай плошчы. Так, паводле інвентароў м. Дзяляцічы ў 1652 г. на 19 рыначных пляцах жылі адныя хрысціяне, у 1807 г. на рынку былі 10 хрысціянскіх і 7 габрэйскіх пляцаў, у 1828 г. – 8 хрысціянскіх і 10 габрэйскіх, а ў 1869 г. рынак быў заселены толькі габрэямі – 22 пляцы. Габрэйскіх двароў ў 1869 г. у мястэчку было 62, яны знаходзіліся на ўсіх вуліцах: Навагрудскай – 5, Усялюбскай – 13, Віленскай – 15, Любчанскай – 3, на Юрыдыцы – 4. У гэты час у Дзяляцічах налічвалася 75 двароў сялян, якія к гэтаму часу сталі ўжо ўласнікамі сваіх зямель, а таксама 7 татарскіх двароў (5 з іх размяшчаліся на вуліцы Навагрудскай, 2 – на Юрыдыцы).[341] Тапаграфію і планіроўку м. Дзяляцічы адлюстроўвае план 1870 г.[342]

Падобны характар рассялення этнічных груп быў і ў м. Капыль, што прасочваецца па інвентарах[343], плане пачатку XIX ст.[344], а таксама мемуарнай літаратуры. А. Паперна апісвае, што Капыль размяшчаўся на высокай гары і што “христиане и магометане расселились в боковых улицах по уступам горы и под горой, евреи же занимали самую лучшую часть города на вершинах горы, где находились базарная площадь с примыкающими к ней улицами и синагогальный двор, или площадь, на которой концентрировались все специально-еврейские духовные и общественные учреждения”[345].

Габрэі засялялі цэнтральную частку і ў Скідзелі, а беларусы жылі пераважна на ўскраінах мястэчка. Габрэйскія гандляры імкнуліся паставіць свае крамы менавіта на плошчы. З-за гэтага ў 1857 г. узнік канфлікт з праваслаўным духавенствам, якое скардзілася губернатару, што габрэйскія крамы перашкаджаюць богаслужэнню ў “таргова дні” і што закон не дазваляе ўзводзіць ніякія пабудовы каля царквы. Губернатар зрабіў распараджэнне аб пераносе крам у іншае

[339] Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах... С. 299.
[340] AGAD. Zb. kart. R. 452 – 13.
[341] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 696, 711, 718, 723.
[342] AGAD. Zb. kart. R. 452 – 34.
[343] AGAD. AR. Dz. XXV. Sygn. 1759.
[344] AGAD. Zb. kart. R 452-40.
[345] Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910. С. 6.

месца. Але невядома, ці было гэта зроблена, паколькі габрэі ўмелі вельмі добра абараняць свае інтарэсы[346].

Габрэйскія кварталы мястэчак мелі менавіта гарадскі характар забудовы: кампактны, шчыльны і неперарыўны[347]. Менавіта гэтыя якасці мелі пэўнае значэнне паводле *Галахі* і здаўна з'яўляліся важнымі характарыстыкамі камфортнага жыццёвага асяроддзя для традыцыйнай габрэйскай свядомасці. Ступень кампактнасці забудовы падтрымлівалася практыкай *эрува*: нацягванне вяроўкі ўздоўж мяжы *штэтла* і наладжванне драўляных канструкцый у выглядзе сімвалічных дзвярэй. Гэтыя мерапрыемствы аблягчалі выконванне рэлігійных прадпісанняў, што датычылі Суботы[348].

Шчыльнасць забудовы рэзка падала ў перыферыйных раёнах мястэчка, дзе ў асноўным жылі сяляне. Іх двары стаялі свабадней, мелі вялікі набор гаспадарчых пабудоў. Такім чынам, забудова перыферыйных раёнаў мястэчак мела іншы характар: сядзібны, разрэджаны, па сутнасці – сельскі. Аб'ёмы пабудоў тут былі маляўніча ўпісаны ў ландшафт, не мелі такіх падоўжаных планаў, як на цэнтральных вуліцах. Гэта тлумачыцца і тым, што кошт участка на ўскраінах залежаў толькі ад яго плошчы, а не ад працягласці ўздоўж вуліцы[349].

А. Сакалова адзначае, што тэрмін "штэтл" незамяняльны для апісання архітэктуры габрэйскіх мястэчак, ён лаканічны і больш дакладны ў параўнанні з вызначэннем "урбанізацыйнае ядро з кустарнай забудовай, традыцыйнай для кампактна заселеных габрэямі кварталаў". Ключавымі паняццямі пры апісанні архітэктуры штэтла з'яўляюцца: ізаляванасць (адмежаванасць тэрыторыі штэтла), самадастатковасць (замкнутасць прасторава-планіровачнай структуры штэтла на ўнутраную сістэму палюсоў), аднароднасць (звязнасць унутраных прастораў дамоў і адкрытых прастораў вуліц)[350].

---

[346] Токць, С. Скідзель у складзе Расійскай імперыі (1795 – 1915) / С. Токць // Скідзель. 500 год гісторыі / І. Барысаў, М. Дзелянкоўскі, А. Вашкевіч і інш. Гродна, 2008. С. 97.

[347] А. Шашалевіч, апісваючы м. Уваравічы, адзначыў, што яны не падобныя на мястэчка, бо "габрэяў вельмі мала, няма цеснаты, збітасьці ў адну кучу, як у іншых мястэчках. Уваравічы – вялікая, ва ўсе бакі расцягнутая вёска…" (Наш край. 1928. № 11 (38). С. 44).

[348] Соколова, А. Архитектура штетла в контексте традиционной культуры... С. 59–60; Bergman, E. The rewir or Jewish district and the eyruv / E. Bergman // Studia Judaica 5. 2002. №1 (9).

[349] Соколова, А. Архитектура местечек Восточной Подолии / А. Соколова // История евреев на Украине и в Белоруссии… С. 64.

[350] Соколова, А. Архитектура штетла в контексте традиционной культуры... С. 618–619.

Напрыканцы разгляду архітэктуры мястэчак адзначым адрозненні паміж мястэчкамі ўсходніх і заходніх рэгіёнаў Беларусі. Паводле высноў А. Лакоткі, заходнебеларускія мястэчкі былі пераважна мнагавулічнымі, з цэнтрычнай планіроўкай (плошча ў цэнтры), кампактнымі па забудове. На местачковай плошчы меўся развіты набор культавых, адміністрацыйных, гандлёвых, забаўляльных, гасцінічных і іншых будынкаў. Дамы-крамы вуліц, што прымыкалі да рынку, мелі агульны архітэктурны стыль, планіроўку (галерэі, балкончыкі і мансарды, дахі складанай формы, разная пластыка і г.д.). У мястэчках знаходзіліся розныя вытворчыя збудаванні. Адносна высокім быў працэнт мураванай забудовы. Вуліцы нярэдка былі брукаванымі.

Мястэчкі Усходняй Беларусі былі іншага тыпу. Іх планіровачная эвалюцыя застыла, як правіла, на аднавулічнай стадыі. Плошчу часта замяняла пашырэнне вуліцы. Шчыльнасць забудовы была нераўнамернай, характар – лінейны. Адсутнічаў развіты грамадска-гандлёвы цэнтр: набор пабудоў цэнтральнай часткі мястэчак быў абмежаваным. Дамы-крамы па планіроўцы і архітэктуры былі падобнымі на сельскае жыллё; пераважалі аднапавярховыя будынкі; галерэі, балконы, мансарды адсутнічалі. Вытворчы сектар абмяжоўваўся “крупадзернямі” і млынамі. Забудова ўсходнебеларускіх мястэчак у асноўным была драўлянай, брукаванне вуліц сустракалася рэдка. Усе адзначаныя рысы сведчаць аб тым, што агульнай асаблівасцю ўсходнебеларускіх мястэчак з’яўляўся іх структурна-планіровачны характар сельскага тыпу[351].

Цікавым таксама падаецца назіранне А. Лакоткі наконт наяўнасці агульных рыс у мястэчках Беларусі, Літвы і Паўночна-Усходняй Польшчы. Па планіровачнай структуры даследчык аб’яднаў іх у тры групы: цэнтрычныя, цэнтрычна-восевыя і восевыя. Першая група, якая ўключала мястэчкі Панямоння, літоўскай Жэмайціі, Беласточчыны, развівалася на аснове гаспадарча-эканамічных фактараў – камунікацый, гандлёвых шляхоў. Мястэчкі другой і трэцяй груп залежалі ад прыродна-кліматычных умоў. Калі трэцяя група ў большай ступені была характэрна для Усходняй Беларусі, то другая спарадычна была распаўсюджана па ўсёй тэрыторыі, спалучаючы элементы местачковай забудовы з элементамі сельскай. У развіцці мястэчак выразна прасочваецца накіраванасць урбанізаванасці з усходу на захад. Чым далей на захад, тым менш сельскіх элементаў у местачковай забудове[352].

---

351 Локотко, А. И. Белорусское народное зодчество... С. 68.

352 Там жа. С. 69.

***

Такім чынам, архітэктуру мястэчак канца XVIII – першай паловы XIX ст. можна разглядаць як своеасаблівую з’яву, якая сфарміравалася пад уплывам комплексу гістарычных, сацыяльных і эканамічных умоў. Планіроўка і забудова мястэчак мелі сваю характэрную структуру і эстэтыку, хаця ў мястэчках спалучаліся архітэктурна-планіровачныя рысы і горада, і вёскі. Большая урбанізаваная накіраванасць была ўласціва заходнебеларускім мястэчкам. Асаблівасцю ўсходнебеларускіх мястэчак з’яўляўся іх структурна-планіровачны характар сельскага тыпу.

Архітэктура мястэчак Беларусі ўвабрала ў сябе асаблівасці габрэйскай культуры, што таксама ўзмацніла арыгінальнасць, надало непаўторны каларыт іх знешняму выгляду.

У разглядаемы перыяд мястэчкі Беларусі захоўвалі аўтахтоннае архітэктурнае аблічча. Хваля расійскай універсалізацыі не паспела да мястэчак дакаціцца. Перапланіроўку і перабудову зведалі толькі губернскія і некаторыя ўезныя гарады. Новаўвядзенні амаль не закранулі пазаштатныя гарады і мястэчкі.

Гісторыя архітэктуры мястэчак заслугоўвае ўвагі не толькі гісторыкаў, у некаторых аспектах (арганізацыя вулічнай прасторы, маляўнічасць і вобразнасць забудовы, арганічнае ўпісванне будынкаў у навакольны ландшафт) яна можа паслужыць прыкладам для сучаснага праектавання малых і сярэдніх гарадоў.

***

Прыведзеныя матэрыялы аб развіцці ў мястэчках адукацыі, тэатральнага і музычнага мастацтва, архітэктуры дазваляюць убачыць featurecolored рознакаляровы “калейдаскоп” культурных працэсаў, з’яў і падзей, якія паўплывалі на паўсядзённае жыццё местачкоўцаў. Культурная прастора мястэчка Беларусі шматмерная, шматузроўневая, шматукладная. З аднаго боку, відавочны поліэтнічны, поліканфесійны, полілінгвістычны характар местачковай культуры. З другога боку, культурнай сітуацыі ў мястэчках было ўласціва суіснаванне субкультур розных сацыяльных слаёў – традыцыйнай, элітарнай.

У разглядаемы перыяд у мястэчках, як і ў цэлым у Беларусі, ішоў паступовы працэс навязвання своеасаблівых культурных “мосцікаў” паміж рознымі слаямі грамадства на шляху фарміравання адзінай культурнай прасторы Новага часу. Традыцыйная культура была “донарам”, які аддаваў назапашаныя стагоддзямі каштоўнасці ў

агульны фонд новай культуры[353]. Гэта назіралася і ў мястэчках. Тут прафесійнае мастацтва кантактавала з народнай творчасцю, чэрпала для сябе таленты з народа. Адначасова жыхары мястэчак мелі магчымасць далучыцца да некаторых галін элітарнай культуры праз пасрэдніцтва настаўнікаў, святароў, уладальнікаў мястэчак, якія прытрымліваліся асветніцкіх ідэалаў. Найбольш адчувальна гэта было ў галіне асветы, паколькі ў мястэчках былі сканцэнтраваны навучальныя ўстановы. Культурныя "масцікі" паміж жыхарамі мястэчак (сялянствам, мяшчанствам) і адукаванай элітай былі таксама ў тэатральным і музычным мастацтве. Архітэктура фарміравала ўяўленні месьачкоўцаў аб новых стылях і тыпах пабудоў.

Неабходна падкрэсліць, што наяўнасць рэзідэнцыі ўладальніка ў мястэчках істотна паўплывала на розныя бакі іх жыцця і функцыяніравання: знешні выгляд, эканоміку і культуру. Яскравыя прыклады – росквіт Ружан, Дзярэчына, Гальшанаў за часамі Сапегаў, Свіслачы ў часы ўладання ім Вінцэнта Тышкевіча[354]. Палацава-паркавыя комплексы ўздзейнічалі на фарміраванне планіроўкі і забудовы мястэчак, надавалі адметнасць іх архітэктурнаму абліччу. Уладальнікі нярэдка спрыялі адукацыйна-асветніцкаму развіццю мястэчак, актывізацыі іх тэатральнага і музычнага жыцця. Менавіта цераз шляхецкую сядзібу мястэчка (а таксама вёска) атрымлівала большасць ведаў аб новых павевах у культурным жыцці, адбіраючы з іх тое, што найбольш адпавядала сялянскаму ці мяшчанскаму светаўспрыманню. У шэрагу выпадкаў канфіскацый маёнткаў, у тым ліку і мястэчак, і перадачы іх у дзяржаўную ўласнасць адбывалася паступовае спусташэнне не толькі сядзіб, але і гаспадарчых комплексаў, пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча жыхароў, збядненне іх культурнага жыцця[355].

Важнейшую ролю ў культурным жыцці жыхароў мястэчак, у фарміраванні іх ментальнасці па-ранейшаму выконвалі рэлігійныя ўстановы. Касцёл, царква, сінагога, кірха, мячэць – менавіта тут месьачкоўцы сустракаліся з тэатралізацыяй абрадаў, прыгожым мастацтвам, прадстаўленым жывапісам, скульптурай, далучаліся да прафесійнай музычнай культуры. Мястэчка, такім чынам, было "мастком" паміж народнай і прафесійнай культурай.

353 Куль-Сяльверстава, С.Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях ... С. 92, 106.
354 Соркіна, І. Асаблівы сусвет м. Свіслач / І. Соркіна // Спадчына. 2002. № 2–3. С. 102–118.
355 Радзюк, А.Р. Канфіскацыя прыватнай уласнасці на Беларусі... С. 84.

# Заключэнне

Аналіз развіцця сацыяльна-эканамічных і культурных працэсаў у мястэчках Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. высвятляе іх складанасць і супярэчлівасць. Знайсці адназначныя і вычарпальныя адказы на шэраг пытанняў аказалася немагчыма і з прычыны фрагментарнасці крыніц. Таму некаторыя высновы носяць верагоднасны характар.

На працягу разглядаемага перыяду на функцыяніраванне мястэчак аказвалі ўплыў змены ў палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краі. Мястэчкі ўяўлялі новую з'яву для Расіі, лічыліся "чужымі рускаму жыццю", і гэта было неспрыяльным для іх развіцця. У часы Расійскай імперыі функцыяніраванне мястэчак знаходзілася пад моцным прэсінгам палітыкі царызму. Прававое становішча насельніцтва мястэчак пагоршылася ў выніку ўвядзення абмежавальных законаў адносна габрэяў і запрыгоньвання местачковых мяшчан, выключэння мястэчак з горадаўтваральных працэсаў. Найбольш моцна на жыццё мястэчак і іх насельніцтва паўплывалі мерапрыемствы расійскага ўрада ў дачыненні да габрэяў, у прыватнасці высяленні іх з вёсак у гарадскія паселішчы. Гэта асноўны фактар дынамікі многіх бакоў развіцця мястэчак (дэмаграфічнага, эканамічнага, сацыяльнага, культурнага).

Аналіз палітычных і сацыяльна-эканамічных умоў развіцця мястэчак у канцы XVIII – першай палове XIX ст. паказвае, што яны істотна ўскладніліся. Аднак гэтыя унікальныя паселішчы нашага краю, нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасці, дэманстравалі сваю незвычайную жыццяздольнасць, іх развіццё не стрымалася.

На працягу разглядаемага перыяду адбываўся рост колькасці мястэчак на беларускіх землях. Пры гэтым часткова нівеліравалася нераўнамернасць размяшчэння сеткі мястэчак, што склалася ў папярэднюю эпоху. Найбольшая дынаміка павялічвання мястэчак была на Магілёўшчыне. Гэтым кампенсавалася мізэрнасць колькасці гэтых паселішчаў ва ўсходнім рэгіёне Беларусі ў мінулым. Мястэчкі працягвалі быць эканамічна запатрабаванымі, выконваць важную

камунікацыйную ролю на мясцовым рынку. Іх рост стымуляваўся рачным гандлем, неабходнасцю абслугоўваць экспарт збожжа на Захад.

У разглядаемы час пад уплывам сацыяльна-эканамічных чыннікаў і асабліва палітыкі царызму (перасяленні габрэяў) адбываўся працэс паступовага "размывання" сярэднявечных мястэчак. Яны гублялі сваю аднатыповасць. Адныя з іх станавіліся звычайнымі сельскімі паселішчамі. Іншыя захоўвалі сваю класічную функцыю эканамічнага абслугоўвання на лакальных рынках пераважна тых панскіх і сялянскіх гаспадарак, якія з цяжкасцю пераходзілі на прадпрымальніцкі лад. Частка мястэчак здолела ўзняцца на ўзровень гарадоў, аднак узнікалі цяжкасці з набыццём афіцыйнага гарадскога статуса. Працэс "размывання" мястэчак ішоў у бок росту колькасці маленькіх мястэчак, якія былі на службе аграрнага сектара эканомікі. У той жа час адрознасць мястэчак ад вёсак узрасла за кошт павялічвання габрэяў у мястэчках.

Падлікі сярэднестатыстычнай колькасці мястэчковага насельніцтва паказваюць, што тыповае мястэчка Беларусі разглядаемага перыяду мела ад 630 да 1000 жыхароў. Урбаністычныя працэсы рэалізоўваліся ў "малых" формах, у выглядзе невялікіх мястэчак, якія не здолелі эвалюцыяніраваць не толькі ў гарады, але і буйныя мястэчкі. Адной з прычын гэтага з'яўлялася імкненне землеўладальнікаў ва ўмовах пашырэння таварна-грашовых адносін да заснавання ўласнага "места" як прыдатку маёнтка, механізму атрымання ад яго найбольшага прыбытку. Акрамя таго, актывізацыя ўтварэння памешчыкамі мястэчак была выклікана забаронай габрэям пражывання па-за гарадамі і мястэчкамі. Павышаная шчыльнасць гарадскіх паселішчаў звужала сферу іх гаспадарчага ўплыву і патэнцыял для росту. Другой прычынай густой сеткі дробных мястэчак на беларускіх землях было моцнае гаспадарчае ўздзеянне буйных гарадоў, дзейнасць якіх патрабавала найбольшай уключанасці сельскага насельніцтва ў рыначны абарот. А гэта забяспечвалася максімальнай шчыльнасцю пасрэднікаў-мястэчак.

Паколькі мястэчкі Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. характарызаваліся вялікай разнастайнасцю тыпаў, немагчыма даць адназначную трактоўку такой складанай і шматграннай з'явы, якая абазначаецца тэрмінам "мястэчка". Мястэчкі мэтазгодна разглядаць як асобны тып паселішчаў, нятоесных ні вёсцы, ні гораду, які выконваў функцыі эканамічнага, адміністрацыйнага, камунікацыйнага, культурнага цэнтра параўнальна невялікіх

сельскіх раёнаў, што, як правіла, не мелі гарадоў. Мястэчкі арганічна спалучалі рысы і сельскіх, і гарадскіх паселішчаў, што шмат у чым вызначала іх спецыфіку. А "твар" кожнага канкрэтнага мястэчка залежаў ад камбінацыі самых разнастайных фактараў – ад геаграфічных і эканамічных да этнаканфесійных і культурна-асветніцкіх.

Наяўнасць шэрага гарадскіх элементаў у сваім развіцці набліжае многія мястэчкі да гарадскіх паселішчаў. Некаторыя мястэчкі па сваім значэнні ў эканамічным і культурным развіцці Беларусі стаялі на ўзроўні гарадоў, нават буйных, а іншы раз і пераўзыходзілі іх. Такія мястэчкі правамерна адносіць да катэгорыі "гарадскіх паселішчаў". Мястэчак гарадскога тыпу ў першай палове XIX ст. было прыблізна каля 100. Урбанізаванасць мястэчак Беларусі (у сэнсе іх набліжанасці да гарадоў) павялічвалася ад цэнтра ў двух накірунках – на захад і на ўсход, дзе мястэчкі абслугоўвалі міжрэгіянальны і міжнародны гандаль. У той жа час існавалі мястэчкі, якія амаль што не адрозніваліся ад сельскіх паселішчаў, іх доля даходзіла прыкладна да трацiны.

Надзвычай разнастайнай была гаспадарчая дзейнасць мястэчак Беларусі. Вядучую ролю ў ёй адыгрываў гандаль, які з'яўляўся галоўным фактарам, што фарміраваў іх аблічча як спецыфічных паселішчаў, блізкіх да гарадскіх. У мястэчках развіваліся ўсе формы ўнутранага гандлю: кірмашовая, развозна-разносная, базарная і стацыянарная. У сетцы кірмашовага гандлю Беларусі мястэчкі займалі галоўнае месца, пакідаючы гарадам другарадныя пазіцыі. У мястэчках, як і ў цэлым па Беларусі, прасочваецца паступовы пераход ад перыядычнага гандлю (кірмашы, базары) да стацыянарнага. Ускосныя звесткі дазваляюць дапусціць, што многія мястэчкі пераўзыходзілі гарады па колькасці стацыянарных гандлёвых пунктаў на душу насельніцтва, а таксама па ўдзельнай вазе занятых у сферы гандлю. Акрамя ўнутранага мястэчкі актыўна ўдзельнічалі ў міжрэгіянальным і замежным, у тым ліку транзітным, гандлі Беларусі.

Колькасць рамеснікаў і рамесных спецыяльнасцей у мястэчках была ніжэйшай, чым у гарадах. Аднак і колькасць жыхароў у мястэчках, як правіла, была меншай. Па канцэнтрацыі рамеснага насельніцтва (удзельнай вазе сярод усіх жыхароў) многія мястэчкі маглі пераўзыходзіць гарады (з-за больш значнай праслойкі ў гарадах чыноўнікаў і ваенных). З улікам невялікіх памераў мястэчак варта прызнаць дастаткова высокім і ўзровень рамесніцкай спецыялізацыі ў некаторых з іх. На працягу канца XVIII – першай паловы XIX ст. узрасла таварнасць рамеснай вытворчасці, адбыва-

лася паступовае пераадольванне лакальнага характару местачковага рамяства. Мястэчкі станавіліся значнымі цэнтрамі развіцця прамысловасці Беларусі. Асобныя мястэчкі ў гэтых адносінах стаялі на ўзроўні гарадоў, а іншы раз і пераўзыходзілі іх, у прыватнасці мястэчкі ішлі наперадзе гарадоў па колькасці прадпрыемстваў мануфактурнага тыпу. У мястэчках раней, чым у гарадах, узнікла фабрычная вытворчасць. Аднак структура прамысловасці ў мястэчках была менш складанай у параўнанні з гарадамі.

Значнае месца ў эканамічным жыцці мястэчак займалі сельскагаспадарчыя заняткі: земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўля, птушкагадоўля, бортніцтва. Працэнт гаспадарак, якія мелі ворныя ўчасткі, сенакосныя землі і агароды, быў у мястэчках даволі высокім. Аднак нельга прымаць перавагу сельскагаспадарчых заняткаў у мястэчках у якасці аксіёмы. Канкрэтнае вывучэнне мястэчак дазваляе вылучыць тыя з іх, якія насілі выключна аграрны характар, і тыя, якія з'яўляліся даволі буйнымі рамесна-прамысловымі і гандлёвымі цэнтрамі, дзе сельская гаспадарка мела другараднае, дапаможнае значэнне. Аграрнасць памяншалася ў накірунку: "мястэчкі-сёлы – уласна мястэчкі – "мястэчкі гарадскога тыпу".

У разглядаемы перыяд узрастала таварнасць сельскай гаспадаркі ў мястэчках, якая, з улікам габрэйскай арэнднай жывёлагадоўлі і садоўніцтва, татарскага агародніцтва, была вышэйшай, чым у вёсках. Верагодна, што і гаспадарка местачковых сялян-беларусаў была больш звязана з рынкам, чым гаспадарка вяскоўцаў. Продаж сваёй прадукцыі для местачковых сялян аблягчаўся наяўнасцю такой магчымасці непасрэдна ў самім мястэчку. Местачковыя сяляне ў большай ступені, чым вясковыя, займаліся гандлем і адыходнымі промысламі, набывалі рамесніцкія спецыяльнасці. Камунікацыйную, гандлёвую інфраструктуру мястэчак для рэалізацыі сваёй прадукцыі актыўна выкарыстоўвалі сялянскія гаспадаркі не толькі мястэчак, але і навакольных вёсак, а таксама фальваркавыя гаспадаркі памешчыкаў. Актывізацыя тавараабмену паміж вёскай і мястэчкам уцягвала ў таварна-грашовыя адносіны вясковыя сялянскія гаспадаркі. А значыць, мястэчкі ўносілі ўклад у працэс капіталізацыі (росту таварнасці) сельскай гаспадаркі. Значную ролю ў ім адыгрывалі местачковыя габрэі. Пераважна яны ўтваралі неабходную для гэтага інфраструктуру.

Неабходна звярнуць увагу на той факт, што калі местачковая сельская гаспадарка адрознівалася ад вясковай, то істотных адрозненняў паміж гандлёва-прамысловай дзейнасцю ў мястэчках у параўнанні

з гарадамі не было. Больш за тое, мястэчкі па шэрагу паказчыкаў развіцця гандлю і прамысловасці нават пераўзыходзілі гарады.

Эканамічная ініцыятыва ў мястэчках была сканцэнтравана ў руках іх уладальнікаў, а таксама прадпрымальных габрэяў. Вынікам гвалтоўнага высялення габрэяў з вёсак у гарады і мястэчкі стала пераарыентацыя іх эканамічнай дзейнасці, трансфармацыя прафесійнай структуры. У першым дзесяцігоддзі XIX ст. асноўны акцэнт эканамічнага жыцця габрэяў пераносіцца ў мястэчкі і гарады. Важнасць гандлёва-прамысловай дзейнасці для іх значна ўзрасла, а таму габрэйскія гандляры і прамыслоўцы рабілі ўсё, каб манапалізаваць яе. Прыярытэтнымі заняткамі габрэяў былі гандаль, асабліва дробны, вінакурэнне, карчмарства, прамысловая (рамесная і мануфактурная) вытворчасць. Увесь гандаль у мястэчках быў сканцэнтраваны пераважна і амаль выключна ў руках габрэяў. Прафесійная структура габрэйскай супольнасці на працягу першай паловы XIX ст. змянялася ў бок узрастання заняткаў, звязаных з вытворчасцю. Паспяховыя прадпрымальнікі-габрэі выступалі ў ролі арганізатараў прамысловай вытворчасці. Габрэйская бедната стварыла рэзерв рабочай сілы для мануфактур і фабрык.

Габрэі, такім чынам, занялі манапольнае становішча ў "неземляробчым" прадпрымальніцтве, праяўляючы тут неверагодны спрыт і кемлівасць. Менавіта яны ўтваралі тую сетку паслуг, якая звязвала мястэчкі з навакольным сялянскім светам. Негабрэйскае насельніцтва гарадскіх паселішчаў страчвала свае былыя пазіцыі ў гандлёва-прамысловай дзейнасці. Часам узнікалі канфлікты на эканамічнай глебе паміж прадстаўнікамі габрэйскага і "хрысціянскага" сектараў прадпрымальніцтва. Аднак у цэлым паміж прадстаўнікамі розных этнасаў існаваў своеасаблівы падзел працы, і гаспадарчае жыццё мястэчка працякала на аснове ўзаемнага супрацоўніцтва. Мястэчкі яскрава дэманстравалі сацыяльна-эканамічную "спецыялізацыю" этнасаў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі. Аднак пад уплывам развіцця капіталістычных адносін строгая прывязка этнасаў да пэўных відаў эканамічнай дзейнасці паступова слабела.

Такім чынам, эканамічная палітра мястэчак была надзвычай разнастайнай. Тут суіснавалі, спалучаліся і узаемадапаўнялі адна адну розныя формы арганізацыі вытворчасці і гандлю, забяспечваючы гэтым паселішчам надзвычай важную ролю ў эканамічным развіцці Беларусі. Мястэчкі здолелі заняць сваю нішу ў эканоміцы краю. У прыватнасці, яны садзейнічалі трансфармацыі памешчыцкай гаспадаркі і таварызацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ўвогуле.

Пра гэта сведчыць канцэнтрацыя ў мястэчках вотчынных мануфактур, якія папярэднічалі буйной капіталістычнай прамысловасці, і кірмашовага гандлю, які папярэднічаў аптоваму капіталістычнаму гандлю. Па аб'ёме мануфактурнай вытворчасці і кірмашовых абаротаў, узнікненні фабрык некаторыя мястэчкі апярэджвалі гарады і тым мацавалі базу для індустрыялізацыі і урбанізацыі Беларусі. Наяўнасць у многіх мястэчках развітой дробнатаварнай вытворчасці ў форме рамяства і дробнакапіталістычных прадпрыемстваў, поўнага спектру вядомых на той час форм арганізацыі гандлю з'яўляецца сведчаннем шырокага распаўсюджвання прадпрымальніцкай ініцыятывы местачкоўцаў, значнай ролі мястэчак у захаванні эканамічнай самадастатковасці Беларусі. Мястэчкі паказалі прыклад выжывання і эканамічнай арганізацыі ва ўмовах істотнай палітычнай (змена дзяржаўнасці) і сацыяльна-эканамічнай (фарміраванне індустрыяльнага грамадства) трансфармацыі.

Недахоп статыстычных звестак перашкаджае ўсебаковаму аналізу дынамікі структуры насельніцтва мястэчак. Наяўныя крыніцы дазваляюць заўважыць, што сацыяльны склад местачкоўцаў Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. ускладняўся. Насельніцтва мястэчак уяўляла сабой кангламерат розных саслоўных груп, характэрных для дакапіталістычнай эпохі. Самымі шматлікімі групамі местачкоўцаў былі сяляне і мяшчане. Акрамя іх у мястэчках жылі купцы, дваране, чыноўнікі, разначынцы, духоўныя асобы, ваенныя, аднадворцы, дваровыя людзі, ганаровыя грамадзяне і інш. У мястэчках пражывалі і гарадскія (мяшчане, купцы, ганаровыя грамадзяне), і сельскія саслоўі (розныя катэгорыі сялян). Саслоўную дынаміку мястэчак узмацнялі змены ў размеркаванні габрэяў паміж населенымі пунктамі Беларусі. Пераважна за кошт перасяленняў габрэяў, а часткова і ў выніку эканамічных чыннікаў, адбываўся рост гарадскіх саслоўяў (мяшчан, купцоў). Пры гэтым саслоўная структура мястэчак вылучалася адноснай гармоніяй. У сярэдзіне XIX ст. у мястэчках прадстаўнікі сельскіх саслоўяў складалі каля 40%, гарадскіх – каля 60%, яны суадносіліся як 1:1,5, што пацвярджае прамежкавае становішча мястэчак паміж вёскай і горадам, а таксама перавагу ў іх гарадскіх элементаў.

Эканамічныя высілкі жыхароў мястэчак па забеспячэнні надзвычай важных гаспадарчых функцый гэтых паселішчаў дасягаліся вялікай цаной, коштам празмернага прыгнёту местачкоўцаў. Падатковае і павіннаснае становішча насельніцтва мястэчак было

вельмі цяжкім. Гэта было абумоўлена перш за ўсё тым, што мястэчкі пераважна былі прыватнаўласніцкімі. Шматлікія факты барацьбы жыхароў мястэчак за вяртанне ім правоў мяшчанства, супраць выканання павіннасцей на карысць памешчыкаў нараўне з прыгоннымі сялянамі сведчаць аб тым, што местачкоўцы не былі ціхімі і пакорлівымі, добра ведалі сваю гісторыю і ранейшыя правы, старанна захоўвалі прывілей манархаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай і выкарыстоўвалі іх у змаганні за волю і зямлю. Гэта была адна з самых значных праяў антыпрыгонніцкага руху ў Беларусі першай паловы XIX ст. Местачкоўцы цярпелі не толькі ад прыгнёту феадальных падаткаў і павіннасцей, але і ад празмерных дзяржаўных. У выніку паглыбляўся працэс паўперызацыі бяднейшага насельніцтва мястэчак, тармазілася іх эканамічнае і культурнае развіццё. Працэс сацыяльнай дыферэнцыяцыі местачковага насельніцтва ішоў пераважна ў бок збяднення з выдзяленнем невялікай праслойкі багацеяў і велізарнай паўперызаванай масы. Сацыяльныя працэсы, што адбываліся ў мястэчках на працягу даследуемага перыяду, сведчаць аб тым, што на структуру і становішча местачковага насельніцтва аказваў уплыў новы капіталістычны ўклад. Тэндэнцыі сацыяльна-эканамічнага развіцця мястэчак у канцы XVIII – першай палове XIX ст. паказваюць, што гэтыя паселішчы і іх жыхары зрабілі свой унёсак у прыспешванне адмены прыгоннага права, падрыхтоўка да чаго пачалася менавіта з беларускіх губерняў.

За вывучаемы час адбыліся значныя змены ў этнаканфесійным складзе насельніцтва мястэчак: вырасла колькасць і ўдзельная вага габрэяў, яны сталі пераважаць над прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей. Гэта было выклікана гвалтоўнымі мерамі ўлад, накіраванымі на канцэнтрацыю габрэяў у гарадах і мястэчках. Пабочным рэзультатам праводзімай уладамі палітыкі урбанізацыі было ператварэнне мястэчак у асяродкі габрэйскай гісторыі і культуры рэгіёна. Своеасаблівая габрэйская субкультура была значна адасоблена ад навакольнага культурнага асяроддзя. Наяўнасць гэтай рэлігійна-культурнай і духоўна-сацыяльнай аўтаноміі габрэйскіх абшчын у мястэчках выклікае неабходнасць ужывання паняцця “штэтл”, пад якім трэба разумець габрэйскую фізічную і духоўную прастору ў беларускім мястэчку. Паняцці “штэтл” і “мястэчка” не павінны атаясамлівацца. Яны суадносяцца паміж сабой як частка адносна цэлага. Наяўнасць штэтла выступае галоўнай асаблівасцю беларускага мястэчка канца XVIII – першай паловы XIX ст. У адзіным працэсе функцыяніравання гэтых паселішчаў узаемадзейнічалі прадстаўнікі

розных этнасаў і веравызнанняў. Гэта стварала своеасаблівасць гаспадарчага і сацыяльна-культурнага жыцця, унікальныя формы зносін паміж людзьмі ў мястэчках.

Дакументальныя матэрыялы і мемуарная літаратура дазваляюць заўважыць парадаксальнае спалучэнне напружанай штодзённай барацьбы за існаванне скучанай местачковай беднаты і атмасферы пераважна добразычлівых і даверлівых адносін паміж людзьмі, у аснове якіх ляжалі непазбежныя эканамічныя інтарэсы. Міжэтнічныя ўзаемаадносіны ў мястэчках не заўсёды былі адназначнымі. Мелі месца праявы ўсіх тыпаў гэтых адносін: сяброўскіх, нейтральных, непрыязных. Амплітуда іх вагалася паміж палюсамі добразычлівасці, талерантнасці, эканамічнага супрацоўніцтва, міжкультурнага дыялогу – і ізаляцыянізму, нецярпімасці, падазронасці і нават варожасці. Аднак да гэтага негатыўнага полюса міжэтнічныя адносіны ў мястэчках Беларусі набліжаліся рэдка. Дзяржаўны антысемітызм часоў Расійскай імперыі меў мінімальны ўплыў на беларусаў. У мястэчках гэты ўплыў у параўнанні з гарадамі, дзе жыццё было значна больш дынамічным, адчуваўся слаба. Істотным фактарам штодзённых міжэтнічных адносінаў у мястэчках было тое, што з-за невялікіх памераў усе местачковыя жыхары ведалі адзін аднаго, што было немагчымым у горадзе. Узаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп насельніцтва ў мястэчках характарызаваліся досыць высокай ступенню талерантнасці. Іх можна выразіць формулай "іншы свой". Менавіта пачуццё "тутэйшай свойскасці", "тутэйшасці" засцерагала ад канфліктаў. Ва ўмовах такой неталерантнай дзяржавы, якой была Расійская імперыя, мястэчкі дэманстравалі захаванне мясцовых традыцый самакіравання па прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэнічнасці.

Аналіз дэмаграфічных, сацыяльных працэсаў ў мястэчках Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. выяўляе іх дынамізм. На працягу гэтага часу склалася стракатая мазаіка розных саслоўных, этнаканфесійных груп местачковага насельніцтва. Нават габрэйскія абшчыны мястэчак, выступаючы адзінай супольнасцю ў стасунку да хрысціянскага наваколля, сталі моцна стратыфікаваныя ў сацыяльным, маёмасным, а таксама рэлігійным (хасіды, міснагдым, прыхільнікі Гаскалы) планах. Таму немагчыма стварыць "абагулены партрэт" жыхара мястэчка дадзенай эпохі. Ён "раскладваецца" на шэраг асобных "эскізаў". Не ўяўляла адзінага тыпу, накшталт традыцыйнай культуры вёскі, і культура мястэчка. Яна, як і гарадская культура, эклектычна спалучала ў сабе скібы球 рознай сацыяльнай, этнічнай,

канфесійнай афарбоўкі. Феномен поліэтнічнай, поліканфесійнай, полілінгвістычнай местачковай культуры прасочваецца ў фальклоры, музычным і тэатральным жыцці, адукацыі, архітэктуры і інш.

Культурная прастора мястэчка Беларусі шматмерная, шматузроўневая, шматукладная яшчэ і таму, што ёй было ўласціва суіснаванне субкультур розных сацыяльных слаёў – традыцыйнай, элітарнай. У разглядаемы перыяд паміж імі паступова навязваліся своеасаблівыя культурныя "мосцікі". Прафесійнае мастацтва кантактавала з народнай творчасцю, чэрпала для сябе таленты з народа, знаходзіла крыніцы натхнення. З другога боку, местачкоўцы мелі магчымасць далучацца да высокай культуры праз адукацыю, тэатральнае і музычнае мастацтва, архітэктуру, дзякуючы пасрэдніцтву уладальнікаў мястэчак, настаўнікаў, святароў. Мястэчка, такім чынам, было своеасаблівым "мастком" паміж народнай і прафесійнай культурай.

Нягледзячы на палітыку царскіх улад, накіраваную на разбурэнне культурнай інфраструктуры, якая склалася да канца XVIII ст., у мястэчках назіралася актывізацыя культурнага жыцця і яны працягвалі адыгрываць важную ролю ў развіцці культуры Беларусі, у першую чаргу адукацыі, у тым ліку габрэйскай. Яны выступалі значнымі адукацыйна-асветніцкімі цэнтрамі, тут знаходзіліся навучальныя ўстановы, бібліятэкі і музейныя зборы. У мястэчках былі прадстаўлены ўсе тыпы навучальных устаноў, якія існавалі ў краі на працягу разглядаемага перыяду. Многія ўезныя вучылішчы і некаторыя гімназіі размяшчаліся не ва ўезных гарадах, а ў мястэчках, што паспрыяла ператварэнню іх у значныя асветніцкія цэнтры. Мястэчка Горкі на нядоўгі час стала адзіным у Расіі цэнтрам вышэйшай агранамічнай адукацыі, што паспрыяла набыццю гэтым паселішчам статуса горада. Мястэчкі, дзе знаходзіліся ешывы, былі асноўнымі цэнтрамі выхавання духоўнай і інтэлектуальнай эліты габрэйства. У многіх мястэчках, акрамя вучылішчных бібліятэк, існавалі бібліятэкі пры цэрквах і манастырах, у прыватных асоб. Асобныя з гэтых паселішчаў увайшлі ў гісторыю музейнай справы і навукі: асяродкам гістарычнай і археалагічнай навукі з'яўляўся Лагойск, дзе браты Тышкевічы стварылі археалагічны музей – першы на Беларусі музей старажытнасцей; вядомым культурна-асветніцкім цэнтрам выступалі Паставы, дзе Канстанцін Тызенгаўз арганізаваў арніталагічны музей. Па асветніцка-адукацыйным патэнцыяле, такім чынам, некаторыя мястэчкі стаялі на ўзроўні ўезных гарадоў і нават пераўзыходзілі іх.

Мястэчкі выступалі таксама і цэнтрамі разнастайнага тэатральнага і музычнага мастацтва Беларусі канца XVIII – першай паловы XIX ст. Тут развіваліся ўсе вядомыя на той час віды тэатра: школьны (Валынцы), прыгонны (Шклоў, Ружаны, Свіслач, Чачэрск і інш.), прыватныя антрэпрызы. У кірмашовыя дні і народныя святкаванні актывізавалася музычнае жыццё мястэчак: прыязджалі музыканты, арганізоўваліся канцэрты і танцавальныя вечары. Працягваў сваё развіццё ў мястэчках беларускі і габрэйскі народны тэатр. Насычаным было музычнае жыццё габрэйскіх абшчын. Тэатр і музыка былі неад’емнай часткай паўсядзённага жыцця местачкоўцаў.

Як своеасаблівую з’яву, якая сфарміравалася пад уплывам комплексу гістарычных, сацыяльных і эканамічных умоў, як феномен можна разглядаць архітэктурнае аблічча мястэчак канца XVIII – першай паловы XIX ст. Планіроўка і забудова мястэчак мелі сваю характэрную структуру і эстэтыку, хаця ў мястэчках спалучаліся архітэктурна-планіровачныя рысы і горада і вёскі. Большая урбаністычная накіраванасць была ўласціва архітэктурнаму абліччу заходнебеларускіх мястэчак. Асаблівасцю ўсходнебеларускіх мястэчак з’яўляўся іх структурна-планіровачны характар сельскага тыпу. Архітэктура мястэчак Беларусі ў разглядаемы перыяд увабрала ў сябе асаблівасці габрэйскай культуры, што таксама ўзмацніла арыгінальнасць, прыдало непаўторны каларыт архітэктурнаму абліччу мястэчак.

Культурнае жыццё мястэчак у канцы XVIII – першай палове XIX ст. стала больш разнастайным і інтэнсіўным у параўнанні з папярэднім перыядам. Мястэчкі прыцягвалі значную колькасць навучальных устаноў, бібліятэк, музычных і тэатральных калектываў. Гэтаму спрыялі пераважна ўладальнікі мястэчак, якія прытрымліваліся асветніцкіх ідэалаў. Мястэчкі, такім чынам, не засталіся ў баку ад агульнаеўрапейскага Асветніцтва. Неабходна таксама адзначыць, што гэтыя паселішчы ў разглядаемы час выступалі захавальнікамі мясцовай культурнай традыцыі, і ў прыватнасці аўтахтоннай архітэктуры. Тут складвалася своеасаблівая культура урбанізаванага побыту, якая мела мясцовае паходжанне. Хваля расійскай універсалізацыі яшчэ не паспела дакаціцца да мястэчак.

На розныя бакі жыцця местачкоўцаў, асабліва на культуру, істотна паўплываў фактар наяўнасці рэзідэнцыі ўладальніка. Палацава-паркавыя і сядзібныя комплексы ўздзейнічалі на фарміраванне планіроўкі і забудовы мястэчак, надавалі адметнасць іх архітэктурнаму абліччу. Уладальнікі нярэдка спрыялі

адукацыйна-асветніцкаму развіццю мястэчак, актывізацыі іх тэатральнага і музычнага жыцця. Менавіта цераз шляхецкую сядзібу мястэчка (а таксама вёска) атрымлівала большасць ведаў аб новых павевах у культурным жыцці, адбіраючы з іх тое, што найбольш адпавядала сялянскаму ці мяшчанскаму светаўспрыманню. У арбіту культурных уплываў магнацкай ці шляхецкай сядзібы часткова ўцягвалася нават габрэйскае насельніцтва мястэчак.

Важнейшую ролю ў культурным жыцці жыхароў мястэчак, у фарміраванні іх ментальнасці па-ранейшаму выконвалі рэлігійныя ўстановы. Касцёл, царква, збор, сінагога, мячэць – менавіта тут местачкоўцы сустракаліся з тэатралізацыяй абрадаў, прыгожым мастацтвам, прадстаўленым жывапісам, скульптурай, далучаліся да прафесійнай музычнай культуры.

Такім чынам, нягледзячы на шэраг неспрыяльных фактараў, мястэчкі і пад царскай уладай не толькі не здавалі сваіх эканамічных і культурных пазіцый, якія яны мелі ў складзе ВКЛ, але па некаторых паказчыках нават узмацнілі іх. Новаўтвораныя ў Беларусі расійскім урадам гарады прызначаліся пераважна для адміністрацыйнага кіравання краем, а ў сферы прадпрымальніцтва і культурнай дзейнасці на першых парах не маглі канкурыраваць са старадаўнімі мястэчкамі. У складаных палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах местачкоўцам дапамагалі выжываць мясцовыя традыцыі эканамічнай, сацыяльнай і культурнай арганізацыі, самакіравання і дабрачыннасці, узаемасалідарнасці і ўзаемадапамогі. Увогуле варта падкрэсліць, што расійскія ўлады аказаліся бяссільнымі перарабіць беларускія губерні на ўзор рускіх галоўным чынам таму, што ім не ўдалося вынішчыць спецыфіку і традыцыі мясцовых гарадскіх паселішчаў, уключаючы мястэчкі.

Рэзюміруючы сказанае, адзначым, што мястэчкі дзякуючы сваёй шматлікасці і значнай ролі ў развіцці краю аказвалі велізарнае ўздзеянне на фарміраванне сацыяльна-эканамічнага і культурнага аблічча Беларусі, прычым не толькі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст., але на працягу ўсяго перыяду іх функцыяніравання. Стракатасць складу насельніцтва мястэчак пры іх невялікіх памерах і адсутнасці ананімнасці вялікага горада, павольнасць штодзённага жыцця ва ўмовах традыцыйнага грамадства, своеасаблівы эканамічны і культурна-побытавы ўклад гэтых паселішчаў стваралі непаўторную атмасферу сусвету мястэчка, вельмі адрозную як ад горада, так і ад вёскі.

У другой палове XIX – пачатку XX ст. працэс эвалюцыі мястэчак працягваўся, у іх функцыяніраванні адбываліся істотныя змены, але спецыфіка гэтых паселішчаў захоўвалася. Аналіз далейшых этапаў гісторыі беларускіх мястэчак знаходзіцца па-за рамкамі тых задач, якія ставіліся аўтарам. Адзначым толькі, што рост прамысловасці і транспарту, асабліва чыгуначнага, змяненне маштабаў міжгарадскіх эканамічных сувязей, рост саміх гарадскіх цэнтраў і павелічэнне іх арэалаў – усё гэта пазбавіла мястэчкі, асабліва тыя, што апынуліся па-за сеткай чыгунак, іх важнага функцыянальнага значэння. Неабходнасць у вялікай колькасці пасрэднікаў паміж гарадамі і сельскай мясцовасцю знікала. Колькасць мястэчак у цэлым скарачалася, але назіраўся рост тых з іх, якія атрымалі новыя імпульсы для развіцця. У мястэчак як пераходных паміж вёскай і горадам паселішчаў з’явіліся канкурэнты – чыгуначныя станцыі.

Пасля трагічных падзей Першай сусветнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны мястэчкі ўступілі ў апошнюю стадыю свайго развіцця. У 20–30-я гг. XX ст. мястэчкі і іх жыхары зведалі на сабе ўсе эксперыменты бальшавікоў і павароты іх палітыкі. Згубіўшы свае традыцыйныя сацыяльна-эканамічныя і культурныя функцыі, мястэчка паступова трансфармуецца, спрабуе прыстасавацца да новага жыцця, упісацца ў мадэль якой-небудзь з яго складаючых – калгас або горад. Аднак, страціўшы сваю ранейшую адметнасць, унікальнасць, мястэчка так і не стварыла новага феномену[1].

Гэтыя паселішчы і іх насельніцтва (“дробнабуржуазныя элементы”) не ўпісаліся ў структуру новага сацыялістычнага грамадства. Паколькі да канца 1930-х гг. прыватнікі былі ліквідаваныя і многія з іх падзялілі горкі лёс заможных сельскіх гаспадароў, то скасаванне самога паняцця “мястэчка” як асяродка прыватнаўласніцкай псіхалогіі было, на думку ўлад, лагічным акордам у велічным гімне калектыўнай працы. Паводле Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета

[1] Трансфармацыі мястэчак у міжваенны перыяд прысвечаны даследаванні: Зельцер, А. Евреи советской провинции: Витебск и местечки 1917–1941 / А. Зельцер. М., 2006; Школьникова, Э. Трансформация еврейского местечка в СССР в 1930-е гг. / Э. Школьникова. М., 1998 http://jhistory.nfurman.com/lessons9/1930.htm; Замойскі, А. Стасункі паміж жыхарамі мястэчак Беларусі і савецкай уладай у 1918–1928 гг. / А. Замойскі // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 29. Białystok, 2008. S. 91 114; Zamoiski, A. Transformation of shtetlekh of Soviet Belarus (1920 – 1939) in Belarusian historiography / A. Zamoiski //Studia Judaica. № 2 (22). 2008. S. 245–253. Смиловицкий, Л. Евреи в Турове: история еврейского местечка Мозырского Полесья / Л. Смиловицкий. Иерусалим, 2008. С. 255–593; Каганович, А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии / А. Каганович. Иерусалим, 2007. С. 207–285 і інш.

БССР ад 27 верасня 1938 г. "Аб класіфікацыі населеных пунктаў Беларускай ССР", мястэчкі як адміністрацыйныя адзінкі былі скасаваныя. У Заходняй Беларусі яны праіснавалі да падзей верасня 1939 г.

Беларускі паэт, карэнны палескі местачковец Сяргей Грахоўскі, маляўніча апісваючы сваё роднае мястэчка Глуск, яго непаўторны дух і каларыт побыту жыхароў, успамінаў: "Сярод мноства страт знікла дарагое мне слова "мястэчка", і самое мястэчка страціла свой непаўторны, вякамі складзены побыт, шчырыя адносіны сумлення і даверу, яскравы каларыт мудрых і прыгожых традыцый. Дакладнае і ёмістае слова замянілі калекамі абрэвіятур "гарпасёлак", "ПГТ" (пасёлак гарадскога тыпу), а найчасцей – "райцэнтр", з поўным наборам "раёў": райкам, райвыканкам, райваенкам, райаддзелы, райканторы ‹...› (якi там рай?). Гэты "рай", што ўжо не вёска і яшчэ не горад, спрадвеку звалі мястэчкам. І адразу ўзнікала ўяўленне пра ціхае, невялічкае, часта далёкае ад чыгункі паселішча з дзвюма-трыма брукаванымі вуліцамі, з вялікаю рыначнаю плошчаю пасярэдзіне, з доўгім шэрагам крамаў і крамак, з шумнымі восеньскімі кірмашамі, з адною або дзвюма цэрквамі, некалькімі сінагогамі ‹...› Усе местачкоўцы ведалі адзін аднаго, памяталі бацькоў і дзядоў, былі ў блізкім ці далёкім сваяцтве, давяралі не толькі суседу, а і чалавеку з другога канца мястэчка, жылі ў дружбе беларусы і габрэі, католікі і стараверы. Усё ў нашым мястэчку трымалася на сумленні, на даверы і спагадзе. ‹...› Была незвычайная атмасфера дабраты, павагі да кожнага чалавека, да старога і малога, да доктара і хлебароба"[2].

За чвэрць стагоддзя з 1917 да 1941 г. істотна змяніўся традыцыйны ўклад жыцця габрэяў мястэчак былой "мяжы аселасці". Гэтыя змены датычылі сферы занятасці, грамадскага, рэлігійнага, сямейнага жыцця. Аднак габрэйскае мястэчка як асяродак традыцыйнага ладу жыцця і як сацыякультурны феномен канчаткова знікла толькі ў гады халакоста разам са сваімі жыхарамі. Пасля Другой сусветнай вайны былыя мястэчкі ператварыліся ў звычайныя паселішчы з незвычайным гістарычным мінулым.

Польскі даследчык Пётр Эберхардт пісаў: "Перапляценне трох культур і трох рэлігіяў – артадаксальнай габрэйскай, шляхецкай польскай і сялянскай беларускай – стварылі разам непаўторную атмасферу і фальклор. Гэтыя тры разнастайныя культуры жылі ва ўзаемным сімбіёзе. Пазнейшыя гістарычныя падзеі знішчылі гэтую ўнікальную полікультурнасць. Вынішчэнне габрэйскага

[2] Грахоўскі, С. Мястэчка, мястэчка... Элегія / С. Грахоўскі // Полымя. 1992. № 2. С. 143, 144, 150, 163.

насельніцтва, а потым таксама ў вялікай ступені тое самае ў адносінах да польскай супольнасці прывяло да заняпаду шматкультурнасці. Пазнейшая саветызацыя і русіфікацыя таксама прынеслі ў поўнай меры знішчэнне культурных асаблівасцяў беларусаў. Беларускія мястэчкі, якія прадстаўлялі незвычайную з'яву ў гісторыі культуры, загінулі. У якасці слядоў тых далёкіх часоў засталіся толькі знішчаныя касцёлы, сінагогі і цэрквы, а таксама пакінутыя і спустошаныя рэшткі старых габрэйскіх і каталіцкіх могілак"[3].

Якія падставы даюць права сцвярджаць, што ***мястэчкі – культурна-гістарычны феномен нашага мінулага***? Унікальнасць гэтых паселішчаў заключаецца ў тым, што:

1) мястэчкі – скрыжаванне горада і вёскі;

2) мястэчкі – "памежжа" этнасаў, рэлігій, моў і культур;

3) мястэчкі – асяродкі габрэйскай гісторыі і культуры, асноўныя населеныя пункты на ментальнай карце страчанага габрэйскага свету Усходняй Еўропы;

4) мястэчкі – асяродкі захавання мясцовых традыцый самакіравання па прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэтнічнасці;

5) мястэчкі – мадэль эканамічнай, сацыяльнай і культурнай арганізацыі для жыхароў малых гарадскіх паселішчаў ва ўмовах палітычнай і эканамічнай трансфармацыі.

Кожны з гэтых аспектаў – асобная і вельмі цікавая навуковая праблема, якая можа стаць прадметам далейшых даследаванняў.

Самае важнае гістарычнае значэнне мястэчак у тым, што гэтыя паселішчы з'яўляліся прыкладам "сужыцця" ў згодзе пад "адным дахам" розных этнасаў, вер, моў і культур, своеасаблівай кантактнай зонай паміж імі. "Напрацоўкай" і заслугай мястэчак, прадуктам местачковага жыцця назваў В. Рагойша такія характэрныя для беларусаў якасці, як "нацыянальная, моўная, палітычная талерантнасць, пачуццё сужыцця "ў адной лодцы" і інш.[4] Можна сцвярджаць, што і мястэчкі прычыніліся да таго, што Беларусь зрабілася антыподам Вавілонскай вежы: тут Госпад даў паразумецца мноству моў[5].

---

[3] Эберхардт, П. Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі: 1897–1989 / П. Эберхард. Мінск, 1997. С. 97.

[4] Рагойша, В. Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава) / В. Рагойша // На шляхах да ўзаемаразумення. Беларусіка. Кн.15. Мінск, 2000. С. 62.

[5] Гэтае трапнае выказванне пра Беларусь належыць Паўлу Севярынцу: Севярынец, П. Люблю Беларусь / П. Севярынец. Вільня, 2008. С. 298.

Гістарычны вопыт развіцця мястэчак, гэтых пераходных паміж вёскай і горадам утварэнняў, якія стагоддзямі паказвалі прыклад талерантнага суіснавання прадстаўнікоў розных этнасаў на адной сацыякультурнай і эканамічнай прасторы, можа паўплываць на распрацоўку канцэпцыі паселішчаў будучага, паселішчаў, дзе б спалучалася ўсё лепшае не толькі гарадскіх, але і сельскіх населеных пунктаў, дзе б развіваліся традыцыі самакіравання і дабрачыннасці, узаемасалідарнасці і ўзаемадапамогі. Такія паселішчы варта і зараз называць мястэчкамі, узнавіўшы тым самым незаслужана забытую назву.

# Спіс крыніц і літаратуры

## I. Дакументальныя крыніцы

### *Апублікаваныя дакументальныя крыніцы*

1. Атлас народонаселения западно-русского края по исповеданиям. СПб., 1864.
2. Белоруссия в эпоху феодализма: сборник документов и материалов: в 4 т. Т. 3. Минск, 1961; Т. 4. Минск, 1979.
3. Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П. Бобровский. Ч. 1–2. СПб., 1863.
4. Военно-статистическое обозрение Российской империи: в 17 т. Т. 8, 9. СПб., 1848–1852.
5. Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах. Хрэстаматыя / уклад., навуковы рэдактар А.Ф. Смалянчук. Вільня, 2007.
6. Городовое положение с принадлежащими к оному узаконениями с 1785 по апрель 1817 г. СПб., 1817.
7. Городские поселения в Российской империи: в 3 т. СПб., 1860–1863.
8. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772–1903). Т. 2. Мінск, 1940.
9. Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния / И. Зеленский. Ч. 1–2. СПб., 1864.
10. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Сморгонь. Минск, 1977.
11. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Тимковичи. Минск, 1982.
12. Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния / А. Корева. СПб., 1861.
13. Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. V. СПб., 1879.
14. Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізма: у 2 ч. Мінск, 1934.
15. Полное собрание законов Российской империи. Собрание 1-е. Т. 19–43. СПб., 1830; Собрание 2-е. Т. 1–13. СПб., 1830–1862.
16. Полный хронологический сбор законов и положений, касающихся евреев. 1619 – 1863 / сост. В.О. Леванда. СПб., 1874.
17. Приложения к трудам редакционных комиссий для составления положений о крестьянах, выходящих из крепостной зависимости. СПб., 1860.

18. Руководство к русским законам о евреях / сост. М.И. Мыш. СПб., 1914.
19. Сборник историко-статистических материалов по Виленской губернии / ред. М. Гусев. Ч.1. Вильно, 1863.
20. Сборник материалов для истории просвещения в России: в 4 т. Т. 1, 2. СПб., 1893–1897.
21. Сборник документов, касающихся административного устройства северо-западного края при императрице Екатерине II. 1792–1796. Вильна, 1903.
22. Сборник постановлений по Министерству народного просвещения. Т. 1. СПб., 1875.
23. Статистическое изображение городов и посадов Российской империи по 1825 г. СПб., 1830.
24. Экономическое состояние городских поселений Европейской России в 1861–1862 гг. Ч. 1. СПб., 1863.
25. Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. T. X. Kraków, 1904.

### *Архіўныя дакументальныя крыніцы*

**Аддзел рукапісаў навуковай бібліятэкі (АР НБ) Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта:**

– Фонд.4, адзінкі захавання 849,1519,1840.

**Аддзел рукапісаў навуковай бібіліятэкі (АР НБ) АН Літвы:**

– Ф. 11, адз. зах. 23.
– Ф. 16, адз. зах. 127.
– Ф. 18, адз. зах. 228.

**Аддзел рукапісаў (АР) Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве:**

– Адз. зах. 6331, 6341, 6342, 6333, 6320, 6321, 6322.

**Аддзел рукапісаў (АР) бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве:**

– Адз. зах. 6400, 9167, 9188, 9236, 9267, 9271, 9365, 9368, 9401.

**Аддзел рукапісаў навуковай бібіліятэкі (АР НБ) ПАУ і ПАН у Кракаве:**

– Адз. зах. 706, 2220, 4327, 4391, 4412, 4457, 4474, 4517, 4519, 5760, 9162, 9541, 9576, 9722, 9723.

**Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (Archiwum Główne akt dawnych – AGAD):**

– Ф. Архіў Радзівілаў (AR), аддзел (Dz.) XXV, адз. зах. (sygn.) 149, 153, 182, 190, 194, 205, 206, 211, 682, 709 – 722, 750 – 753, 1045 – 1054, 1318, 1320, 1404, 1688, 1721, 1719, 1757, 1759, 1761,1762, 1811, 1812, 1814, 1816, 2103 – 2125, 2192, 2193, 2196, 2198, 2199, 2466 a, 2472, 2494, 2496, 2498, 2499, 2639, 3179, 3181, 3183, 3555, 3579, 3581, 3582, 3584, 3837, 3838, 3881, 3885, 4052, 4306, 4307/1, 4461, 4472.

**Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (ДАРФ) у Маскве:**

– Ф. 109, воп. 7, адз. зах. 299; воп. 16, адз. зах. 3, 14, 301, 304, 382; воп. 18., адз. зах. 127, 136.

**Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГА Літвы):**

– Ф. 378, a/a (агульны аддзел), 1802 г., адз. зах. 2; 1803 г., адз. зах. 266.

– Ф. 380, воп.68, адз. зах. 1274.

– Ф. 381, воп.17, адз. зах. 2747, 2759, 2762, 2765, 2870, 2871, 2894; воп.18, адз. зах. 1248; воп.19, адз. зах. 990.

– Ф. 388, воп.1, адз. зах. 6, 14, 37, 107, 191, 213, 275.

– Ф. 394, воп.5, адз. зах. 622; воп. 8, спр. 2394.

– Ф. 567, воп.2, адз. зах. 176, 675, 1878, 3735.

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ):**

– Ф. 27, воп.5, адз. зах. 142, 177; воп.6, адз. зах. 49, 54, 80.

– Ф. 142, воп.1, адз. зах. 321, 809, 1586, 1601.

– Ф. 175, воп. 1, адз. зах. 163.

– Ф. 295, воп.1, адз. зах. 5, 73, 74, 76, 153, 238, 249 б, 322, 357, 358, 359, 360, 361, 363, 453, 476, 477, 499, 512, 545, 609, 610, 652, 871, 926, 928, 1000, 1001, 1077, 1081, 1133, 1217,1275, 1280, 1409, 1452.

– Ф. 299, воп.2, адз. зах. 519, 520, 586, 588, 619**,** 634, 872, 879, 902, 921, 1114, 3679, 4074, 4075, 4081, 4199, 4216, 4379.

– Ф. 458, воп.1, адз. зах. 7, 8.

– Ф. 1297,воп.1, адз. зах. 460, 879, 884, 885, 1629, 9792, 11015, 14739, 16943, 17415, 18511, 22373, 24853, 30605.

– Ф. 1430, воп.1, адз. зах. 111, 422, 463, 535, 716, 717, 720, 1124, 1326, 1329, 1684, 1794, 1846, 2011, 2095, 2119, 2179, 2233, 2260, 2592, 2594, 2659, 2665, 2717, 2721, 2795, 2896, 2911, 2993, 3009, 3044, 3092, 3228, 3288, 3316, 3364, 3474, 3534, 3686, 3843, 3941, 3965, 4033, 4062, 4104, 4119, 4223, 4446, 4460, 4710, 4761, 4867, 4954, 5181, 5416, 5548, 5928, 5951, 6102, 6150, 6673, 7023, 7111, 7206, 7232, 7247, 7262, 7503, 7651, 7951, 8317, 8924, 9519, 9624, 13540, 14455, 16797, 16802, 16837, 11134, 17334, 18572, 20236, 20241, 20248, 20265, 23102, 23752, 23754, 23838, 24853, 25428, 25444, 25865, 26678, 26684, 27718, 28988, 29536, 29574, 30735.

– Ф. 2001,воп.1, адз. зах. 16, 36, 40, 48, 49, 61, 62, 75, 82, 83, 100, 101, 114, 116, 159, 161, 165, 166, 167, 192, 194, 257, 315, 317, 318, 382, 383, 535, 536, 538, 641, 671, 710.

– Ф. 2221, воп.1, адз. зах. 14, 17, 32, 65.

– Ф. 2254, воп.1, адз. зах. 6, 32, 75, 87, 135, 180, 181, 206, 243, 284, 317.

– Ф. 2507, воп.1, адз. зах. 1, 87, 184, 232, 472.

– Ф. 2514, воп.1, адз. зах. 910; воп.2, адз. зах. 43.

– Ф. 2635, воп.1, адз. зах. 642, 763, 764, 785, 825.

– Ф. 3157, воп.1, адз. зах. 19, 51, 70, 82, 85, 86, 97, 200, 237, 286, 451,452, 473, 504; воп.2, адз. зах. 23, 29; воп.3, адз. зах. 39.

– Ф. 3258, воп.1, адз. зах. 23, 45.

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (НГАБ у Гродне):**

**–** Ф. 1**,** воп. 1, адз. зах. 100, 115 а., 122, 161, 179, 398, 408, 460, 558, 561, 565, 714, 879, 900, 905, 915, 917, 931, 1157, 1355, 1360, 1381, 1420, 1422, 1537, 1539, 1598, 1800, 1801, 1884, 1918, 1997, 2078, 2197, 2237, 2259, 2294, 2316, 2924, 2642, 2661; воп. 2, адз. зах. 146, 246, 492, 506, 516, 518, 900, 926, 1374, 1377, 1677, 1697, 1703, 1825, 1883, 1884, 2040; воп. 3, адз. зах. 422, 428, 432,

536, 760, 1028; воп. 4, адз. зах. 49, 50, 233, 242, 317, 493, 494, 646, 663, 815, 859; воп. 5, адз. зах. 216, 418, 1127, 1164, 1658, 2624; воп. 6, адз. зах. 116, 129, 226; воп. 13, адз. зах. 352, 443, 775, 1478; воп.20, адз. зах. 4, 432, 466, 1497; воп. 22, адз. зах. 1082, 1234,1332; воп. 27, адз. зах. 375, 708, 1637, 1640; воп. 28, адз. зах. 332.

– Ф. 2, воп. 1, адз. зах. 218; воп. 2, адз. зах. 24, 246, 639; воп. 3, адз. зах. 821 а, 1735; воп. 5, адз. зах. 863; воп. 6, адз. зах. 11; воп. 13, адз. зах. 68; воп. 38, адз. зах. 164, 698, 705.

– Ф. 8, воп.1, адз. зах. 1500, 1639, 1663, 1759, 1816; воп.2, адз. зах. 246, 263; воп. 3, спр. 52.

– Ф. 31, .воп. 2, адз. зах. 202, 509, 556, 1380.

– Ф. 96, воп. 1, адз. зах. 201, 232, 1267.

– Ф. 515, воп. 2, адз. зах. 1; воп. 4, адз. зах. 1.

– Ф. 1143, воп. 1, адз. зах. 17, 33, 153; воп. 2, адз. зах.1.

**Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (РДАСА) у Маскве:**

– Ф. 12, воп. 1, адз. зах. 159, 163, 216.

– Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 382, 384, 758, 759, 763 а, 763, 768.

– Ф. 248, воп. 126, адз. зах. 5607, 5793.

– Ф. 1355, воп. 1, адз. зах. 12, 16, 702, 705, 709, 710, 712, 713, 715, 719, 721, 724, 727, 732, 735.

**Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА) у Санкт–Пецярбургу:**

– Ф. 17, воп. 1, адз. зах. 181.

– Ф. 18, воп. 2, адз. зах. 1000; воп. 4, адз. зах. 739, 409, 548.

– Ф. 560, воп. 8, адз. зах. 638.

– Ф. 733, воп. 62, адз. зах. 156, 181, 208, 340, 375, 389, 535, 597, 694, 1021, 1461; воп. 66, адз. зах. 24, 43, 141, 143, 145, 208, 210, 378; воп. 95, адз. зах. 380, 428, 434, 453, 476; воп. 97, спр.18, 102, 204.

– Ф. 821, воп. 8, адз. зах. 501; воп. 150, адз. зах. 362.

– Ф. 1263, воп. 1, адз. зах. 14, 241, 274, 320, 910.

– Ф. 1286, воп. 1, адз. зах. 60, 107; воп. 2, адз. зах. 164, 254; воп. 5, адз. зах. 443; воп. 6, адз. зах. 78.

– Ф. 1287, воп. 1, адз. зах. 2037; воп. 5, адз. зах. 1127; воп. 37, адз. зах. 502, 1298.

– Ф. 1290, воп. 4, адз. зах. 26, 56, 77, 79, 80, 85.

– Ф. 1350, воп. 312, справы 48, 49, 50, 51, 90, 91, 92, 93, 94, 95, 96, 97.

– Ф. 1374, воп. 1, адз. зах. 120, 188 б, 395; воп. 2, адз. зах. 1426; воп. 7, адз. зах. 22, 68, 315.

**Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме (The Central Archives for the History of the Jewish People – CAHJP):**

– Ф. HM2, адз. зах. 9316.36, 9051.21, 7920.3, 9024.16, 7945.3, 9412.26, 9412.34, 7982.18, 7779.39,

– Ф. HMF, адз. зах. 628, 772.

## II. Картаграфічныя крыніцы

**Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (Archiwum Główne akt dawnych – AGAD):**

– Ф. Збор картаграфічны (Zb. kart.), R. 452-31, R. 438-33, R. 429-30, R. 452-43, R. 452-25, R. 452-13, R. 419-23, R. 452-28, R. 452-34.

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (НГАБ у Гродне):**

– Ф. 8, воп.1, адз. зах. 1500, 1759, 1816; воп.2, адз. зах. 246, 263; воп. 3, адз. зах. 52.

– Ф. 31, воп. 1, адз. зах. 1533; воп. 2, адз. зах. 202

## III. Апавядальныя крыніцы

Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии / М.О. Без-Корнилович. СПб., 1855. Справочное издание факсимильного типа. Минск, 1995.

Бен-Ами. Поездка на Литву // Восход. 1894. Кн. 2–11.

Венгерова, П. Воспоминания бабушки / П. Венгерова. Иерусалим; Москва, 2003.

Гаркави, В. Отрывки воспоминаний: Детство / В. Гаркави // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 5. СПб., 1913.

Грахоўскі, С. Мястэчка, мястэчка… Элегія / С. Грахоўскі // Полымя. 1992. № 2.

Котик, Е. Мои воспоминания / пер. М. Улановской с изд.: Berlin: Klal-Verlag, 1922. Рэжым доступу: http://www.jewniverse.ru/RED/Ulanovskaya_Kotik/index.htm – Дата доступу: 05.05.2009.

Менделе Мойхер Сфорим. История одной жизни: воспоминания писателя // Еврейский мир. 1909, январь–май.

Паперна, А.И. Из Николаевской эпохи. Воспоминания / А.И. Паперна // Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России. Т. 2. СПб., 1910.

Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану / Л. Патоцкі; укл., прадмова, камент. А.М. Філатавай; пер. з польск. І.У. Саламевіча. Мінск, 1997.

Путевые записки ст. сов. Ф.Д. Воинова, или Воспоминания о пребывании его в Минской губернии с февраля 1865 по 1 мая 1866 г. СПб., 1891.

Стома-Сініца, В. Маё мястэчка / В. Стома-Сініца // Полымя. 1998. № 8, 9, 10, 12.

Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, аслед. гісторыі, звычаяў / У. Сыракомля; пер. з пол. мовы, прадм., камент. К. Цвіркі. Мінск, 2002.

Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. Минск, 1992.

## IV. Перыядычны друк

Dzieje dobroczynności. 1820. Rok I.
Dzieje dobroczynności. 1821. Rok II.
Восход. 1886. Кн. 10.
Восход. 1894. Кн. 2–11.
Еврейская старина. СПб., 1909. Вып. 1–2. Т. 6.
Еврейская старина. СПб., 1910. Вып.3.
Еврейская старина. СПб., 1912. Вып. 1. Т. 5.
Еврейская старина. СПб., 1912. Вып.3. Т.5.
Еврейская старина. Спб., 1913. Вып. 1. Т. 6.
Еврейский мир. 1909, январь – май.
Журнал Министерства народного просвещения. Петроград, 1915. Ч. IV. февраль.
Книжки Восхода. 1903. Кн. IV.
Наш край. 1925. № 2.
Наш край. 1927. № 1.
Наш край. 1927. № 8–9.
Наш край. 1927. № 11.
Наш край. 1928. № 2.
Наш край. 1928. № 4.
Наш край. 1928. № 5.
Наш край. 1929. № 2.
Наш край. 1929. № 11.
Наш край. 1930. № 1.
Наш край. 1930. № 5–6.
Наша Ніва. 1908. № 8.
Наша Ніва. 1908. № 14.
Наша Ніва. 1910. № 27.
Наша Ніва. 1910. № 20.
Наша Ніва. 1910. № 22.
Наша Ніва. 1911. № 45.
Наша Ніва. 1911. № 34.

## V. Даследаванні (кнігі, артыкулы, дысертацыі)

1. Aftanazy, R. Materiały do dziejów Rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. T. I–IV. Warszawa, 1987.
2. Aleksandrowicz, S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. / S. Aleksandrowicz // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7. S. 47–108.
3. Aleksandrowicz, S. Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) / S. Aleksandrowicz // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Adama Mickiewicza. Historia. Z. 6. Poznań, 1964. S. 23–54.

4. Aleksandrowicz, S. Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego Tomasza Makowskiego z 1613 r. tzw „radziwiłłowska" jako źródło do dziejów Litwy i Białorusi / S. Aleksandrowicz // Studia Źródłoznawcze. T. 10. 1965. S. 33–67.
5. Aleksandrowicz, S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII w. /S. Aleksandrowicz // Rocznik Białostocki. T.1. Białystok, 1961. S. 63–130.
6. Aleksandrowicz, S. Opis zabudowy miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1644 r. / S. Aleksandrowicz // Kwartalnik historji kultury materyalnej. 1962. № 3–4. S. 617–632.
7. Aleksandrowicz, S. Ordynacja miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1647 r. / S. Aleksandrowicz // Rocznik Białostocki. T. 3. Białystok, 1962. S. 439–449.
8. Aleksandrowicz, S. Rola miast i miasteczek w przemianach kulturalnych i językowych na ziemiach Białorusi w XVI–XVIII w. / S. Aleksandrowicz // Наш Радавод. Кн. 7. Гродна, 1996. С. 243–248.
9. Aleksandrowicz, S. Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i w I połowie XVII w. / S. Aleksandrowicz // Rocznik dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1966. S. 35–67.
10. Baliński, M., Lipiński, T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym / M. Baliński, T. Lipiński. T. III. Warszawa, 1846.
11. Beauvois, D. Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. 1803–1832 / D. Beauvois. T. 2. Rzym; Lublin, 1991.
12. Bergman, E. The rewir or Jewish district and the eyruv / E. Bergman // Studia Judaica 5. 2002. № 1 (9).
13. Fishman D. Russia's first Modern Jews: The Jews of Shklov. N.Y., 1995.
14. Haumann, H. Historia Żydów w Europie Środkowej i Wschodniej / H. Haumann. Warszawa, 2000.
15. Hensel, J. Żydowski arendarz i jego karczma / J. Hensel // Kultura Żydów polskich XIX–XX w. Kielce, 1992.
16. Horn, M. Żydowskie bractwa rzemieślnicze na ziemiach polskich litewskich, białoruskich i ukraińskich w latach 1613 – 1850 / M. Horn. Warszawa, 1998.
17. Jankowski, Cz. Powiat Oszmiański / Cz. Jankowski. Cz. 1–4. Peterburg, 1896–1900.
18. Jaroszewicz, I. Materiały do statystyki i etnografii gubernii Grodzieńskiey / I. Jaroszewicz. Wilno, 1848.
19. Kazimierski, J. Miasta i miasteczka na Podlasiu (1808 – 1914): Zabudowa – ludność – gospodarka / J. Kazimierski. Warszawa, 1994.
20. Kistymau, A. Jüdische Unternehmer in Weißrussland: Zeitgenössische Wahrnehmung, Sozialprofil und Wirtschaftsformen // Unternehmer im Russischen Reich Sozialprofil, Symbolwelten, Integrationsstrategien

im 19. und frühen 20. Jahrhundert. Jörg Gebhard / Rainer Lindner / Bianka Pietrow-Ennker (Hrsg.) Osnabrück, 2006. S. 213–243.
21. Klier, John D.What exactly was a Shtetl? / John D. Klier // The Shtetl: Image and Reality Papers of the Second Mendel Friedman International Conference on Yiddish. University of Oxford, 2000.
22. Kowkiel, L. Biblioteka dworu szlacheckiego na Grodzieńszczyżnie w 1 połowie XIX wieku / L. Kowkiel // Przegląd Wschodni. T. VII. Zeszyt 4 (28). S. 1229–1256.
23. Kulejewska-Topolska, Z. Nowe lokacje miejskie w Wielkopolsce od XVI do końca XVIII w. / Z. Kulejewska-Topolska. Poznań, 1964.
24. Kulejewska-Topolska, Z. Nowe lokacje miejskie w Wielkopolsce od XVI do końca XVIII w. / Z. Kulejewska-Topolska. Poznań, 1964.
25. Lachnicki, J. E. Statystyka gubernii Litewsko-Grodzieńskiey / J.E. Lachnicki. Wilno, 1817.
26. Levitats, I. The Jewish community in Russia, 1772–1844 / I. Levitats. New York, 1970.
27. Levitats, I. The Jewish community in Russia, 1844–1917 / I. Levitats. Jerusalem, 1981.
28. Łukaszewicz, J. Historia szkół w Koronie i w Wielkim Księstwie Litewskim / J. Łukaszewicz. T. 1–4. Poznań, 1849–51.
29. Miasteczka polskie: Z dziejów formowania się społeczności. Kielce, 1992; Miasteczko polskie w XIX–XX w. jako zjawisko kulrurowo-obyczajowe. Kielce, 1998.
30. Miron, D. The image of the Shtetl and other studies of modern Jewish literary imagination / D. Miron. New York, 2000.
31. Nasze Kościoły. T. I. Cz. 2. Warszawa, 1912.
32. Ochmański, J. W kwestii agrarnego charakteru miast Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI w. / J. Ochmański // Studia historica. W 35-lecie pracy naukowej Henryka Łowmańskiego. Warszawa, 1958.
33. Reweńska, W. Bereza Kartuska: Wybrane rozdziały z antropogeografii miasteczka / W. Reweńska. Wilno, 1934.
34. Reweńska, W. Z antropogeografii Brasławia / W. Reweńska. Kraków, 1934.
35. Reweńska, W. Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. Położenie topograficzne, rozpłanowanie / W. Reweńska. Wilno, 1938.
36. Roskes, Diane K., Roskes, David G. The shtetl book: An introduction to East European Jewish Life and Lore. INC, 1979.
37. Sorkina, Ina. Miasteczka powiatu grodzieńskiego w XIX i na początku XX w. / Ina Sorkina // Rocznik grodzieński. Nr 1. 2007. S. 9–33, http://www.rocznikgrodno.eu/pol/download.html.
38. Staliunas, D. Anti-Jewish Disturbances in the North-Western Provinces in the Early 1880s // East European Jewish Affairs. Vol. 34. No. 2, Winter 2004.

39. Stampfer, S. Ha-yeshiva ha-litayit be-hitvata. Lithuanaian Yeshiva /S. Stampfer. Zalman Shazar Center: Jerusalem, 2005.
40. Stanislawski, M. Tsar Nicholas I and the Jews: The transformation of Jewish Society in Russia: 1825–1855. / M. Stanislawski. Philadelphia, 1983.
41. Stępniewska-Holzer, B. Miasta i miasteczka na Witebszczyżnie w 19 w. / B.Stępniewska-Holzer // Biuletyń Historii Pogranicza. 2002. T. 3. і інш.
42. Sztetł – wspólne dziedzictwo: szkice z dziejów ludności żydowskiej Europy Środkowo-Wschodniej / red. Artur Markowski i Wojciech Śleszyński. Białystok, 2003.
43. The Shtetl: Image and Reality. Papers of the Second Mendel Friedman International Conference on Yiddish. University of Oxford, 2000.
44. The Shtetl: Myth and Reality // Polin. Studies in Polish jewry. Vol.17. / ed.by Antony Polonsky. Oxford 2004.
45. The Shtetl: New Evaluations / Ed. Steven T. Katz. New York, 2007.
46. Topolska, M.B. Dobra Szkłowskie na Białorusi Wschodniej w 17 i 18 w. / M.B.Topolska. Warszawa, 1969.
47. Tyszkiewicz, K. Wilija i jej brzegi / K. Tyszkiewicz. Drezno, 1871
48. Wołyniak. Z przesłości powiatu Wołkowyskiego / Wołyniak. Kraków, 1905.
49. Zajka, V. The Self-Perception of Lithuanian-Belarusian Jewry in the Eighteenth and Nienteenth Centuries / V. Zajka // POLIN: Studies in Polish Jewry. Volume 14. Focusing on Jews in the Polish Borderlands. Oxford-Portland, 2001. P.19–30.
50. Zamoiski, A. Transformation of shtetlekh of Soviet Belarus (1920 – 1939) in Belarusian historiography / A. Zamoiski // Studia Judaica. № 2 (22). 2008. S. 245–253.
51. Zasztowt, L. Kresy. 1832–1864. Szkolnictwo na ziemiach łitewskich i ruskich dawnej Rzeczypospolitej / L. Zasztowt. Warszawa, 1997.
52. Zborowski, M. Life is with people: The Culture of the Shtetl / M. Zborowski, E. Herzog. New York, 1952.
53. Адащик, Ф.И. Ярмарочная торговля в городах и местечках Белоруссии в первой половине XIX в. / Ф.И. Адащик // Веснік БДУ. Серыя III. 1983. № 1. С. 11–12.
54. Азбукін, М. Нашы мястэчкі: Пагост, Княжычы, Бярэзынь / М. Азбукін // Наш край. 1925. № 2.
55. Альтшулер, Л. Вишнёво: краеведческий очерк / Л. Альтшулер // Евреи Беларуси: История и культура. Минск, 1998. С. 163.
56. Аляксандраў, Г. Праграма вывучэння мястэчка / Г. Аляксандраў // Наш край. 1928. № 2 (29).
57. Анищенко, Е.К. Черта оседлости (Белорусская синагога в царствование Екатерины II / Е.К. Анищенко. Минск, 1998.

58. Анішчанка, Я.К. Камеральнае апісанне – крыніца па сацыяльна-эканамічнай гісторыі ўсходняй Беларусі (1772–1774) / Я.К. Анішчанка // Весці АН БССР. Сер. гум. навук. 1988. № 3. С. 71–78.
59. Анішчанка, Я.К. Падрыхтоўка да ўвядзення рысы аселасці ў Беларусі / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гуман. навук. 1993. № 1. С. 62–70.
60. Анішчанка, Я.К. Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Серыя гум. навук. 1994. № 2.
61. Анішчанка, Я.К. Фінансавая рэвізія кагалаў Гродзенскай губерні ў пачатку XIX ст. і яе вынікі / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гуман. навук. 1995. № 1.
62. Анішчанка, Я.К. Яўрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVШ ст. паводле ўрадавага ўліку (крыніцазнаўчыя аспекты) / Я.К. Анішчанка // Весці АН Беларусі. Сер. гум. навук. 1993. № 4. С. 59–68.
63. Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993.
64. Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажытных часоў да 1917 г. Минск, 1985.
65. Барадулін, Р. Толькі б яўрэі былі! / Р. Барадулін // ARCHE. 2000. № 3 (8). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/3-2000/barad300.html – Дата доступу: 10.06.2009.
66. Барышаў, Г.І. Прыгонныя аркестры / Г.І. Барышаў // Помнікі гісторыі і культуры беларусі. 1972. № 4.
67. Бейзер, М. Жизнь в еврейском местечке конца XIX – начала XX века / М. Бейзер //Альманах “Еврейская старина”, апрель-июнь 2009 г. Рэжым доступу: http://berkovich-zametki.com/2009/Starina/Nomer2/Bejzer1.php Дата доступу: 08.06. 2009.
68. Белецкий, А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования. 1803–1832 / А. Белецкий. Ч. 1 Отдел 3. Вильно, 1906.
69. Белова, О. Опыт комплексного исследования в регионе этнокультурных контактов / О. Белова //Актуальные проблемы полевой фольклористики. Вып. 2. М., 2003.
70. Белова, О. “Другие” и “чужие”: представления об этнических соседях в славянской народной культуре / О. Белова // Признаковое пространство культуры. М., 2003.
71. Белова, О.В. Этнокультурные стереотипы в славянской народной традиции / О.В. Белова. М., 2005.
72. Берлин, М. Очерк этнографии еврейского народонаселения в России / М. Берлин. СПб., 1861.
73. Бикерман, И. Черта еврейской оседлости / И. Бикерман. СПб., 1911.

74. Бобровский, П.В. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния / П.В. Бобровский. СПб, 1863.
75. Болбас, М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795–1861) / М.Ф. Болбас. Минск, 1966.
76. Бохан, Ю.М. Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны ў XV–XVIII ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): Дыс ... канд. гіст. навук / Ю.М. Бохан. Мінск, 1994.
77. Бруй, М.Е. Сучасны Тураў / М.Е. Бруй // Наш край. 1930. № 5-6.
78. Брэгер, Г. Хацюкова. Гісторыя невялікага паселішча / Г. Брэгер. Мінск, 2001.
79. Бураковская, Н.И. Промыслы и ремесла белорусов в период разложения феодализма и утверждения капитализма (конец XVIII–ХИХ ст.) Дис. ... канд. ист. наук / Н.И. Бураковская. Минск, 1982.
80. Бядуля, Зм. Жыды на Беларусі / Зм. Бядуля // ARCHE. 2000. № 3 (8).
81. Вишневский, А.Ф. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в период кризиса феодализма (30–50-е гг. XIX в.): Дис. ... канд. ист. наук: 07.00.02. / А.Ф. Вишневский. Минск,1973.
82. Вишневский, А.Ф. Мануфактурное производство городов Белоруссии в 30-50-е гг. XIX в. / А.Ф. Вишневский // Вопросы истории. Минск, 1975. Вып. 2.
83. Галенчанка, Г. Кнігадрукаванне / Г. Галенчанка, В. Герасімаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 210.
84. Ганжын, А. Мястэчка Чачэрск, Гомельскай акругі / А. Ганжын // Наш край. 1927. № 1.
85. Герасімава, І.П. Хедар // Рэлігія і царква на Беларусі: Энцыкл. давед. Мінск, 2001. С. 344.
86. Гессен, Ю. Евреи в России / Ю. Гессен. СПб., 1906.
87. Гессен, Ю. История еврейского народа в России / Ю. Гессен. М.; Иерусалим, 1993.
88. Гессен, Ю. К истории выселений евреев из сёл и деревень / Ю. Гессен // Книжки Восхода. 1903. Кн. IV.
89. Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. Т.1. Мінск, 1983.
90. Голицин, Н.Н. История русского законодательства о евреях: в 2 т. / Н.Н. Голицин. СПб., 1886.
91. Голубев, В.Ф. Источники по землевладению и землепользованию крестьян Белоруссии в XVI–XVIII вв. / В.Ф. Голубев // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1987. № 6.
92. Гончаров, В. Еврейские местечки юго-восточной Украины XIX – начала XX в.: социально-экономический аспект / В. Гончаров // Sztetł – wspólne dziedzictwo: szkice z dziejów ludności żydowskiej Europy Środkowo-Wschodniej / red. Artur Markowski i Wojciech Śleszyński. Białystok, 2003. S. 110–111.

93. Грицкевич, А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. / А.П. Грицкевич. Минск, 1975.
94. Гуд, П.А. Беларускі кірмаш / П.А. Гуд, Н.І. Гуд. Мінск, 1996.
95. Гудченко, З.С. Некоторые особенности архитектуры местечек Украины (конец XVIII – начало XX в.) / З.С. Гудченко // Советская этнографія. 1978. № 5. С. 109–118.
96. Гужалоўскі, А.А. Нараджэнне беларускага музея / А.А. Гужалоўскі. Мінск, 2001.
97. Гуркоў, У. Мястэчка / У. Гуркоў // Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя. Мінск, 1989. С. 332.
98. Данскіх, С.У. Наш Шчучын / С.У. Данскіх. Гродна, 2001.
99. Дембавецкий, А.С. Опыт описания Могилёвской губернии / А.С. Дембавецкий. Могилёв, 1884.
100. Доўнар-Запольскі, М. В. Гісторыя Беларусі / М.В. Доўнар-Запольскі. Мінск, 1994. С. 323.
101. Дубнов, С.М. Всеобщая история еврейского народа: в 5 т. / С.М. Дубнов. СПб., 1914.
102. Дубнов, С.М. Евреи в России в эпоху европейской реакции / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1912. Вып. 3. Т.5. С. 274–279; СПб., 1913. Вып. 1. Т.6. С. 23–50.
103. Дубнов, С.М. Отголоски минувшего века / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1909. Вып. 1–2. Т.1. С. 302–305.
104. Дубнов, С.М. Судьбы евреев в России в эпоху западной “первой эмансипации” (1789–1815) / С.М. Дубнов // Еврейская старина. СПб., 1912. Вып.1. Т. 5. С. 3–11.
105. Думін, С.У. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць / С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. Мінск, 1993.
106. Еврейское местечко в революции. Л., 1926.
107. Ельскі, А. Выбранае / А. Ельскі; уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука. Мінск, 2004.
108. Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении / под ред. П. Семенова. Т. 3: Литовское и Белорусское Полесье: Репринтное воспроизвед. изд. 1882 г. Минск, 1994.
109. Жукович, П.Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II / П.Н. Жукович // Журнал Министерства народного просвещения. Петроград, 1915. Ч. IV. Февраль.
110. Жучкевич, В.А. Дороги и водные пути Белоруссии / В.А. Жучкевич. Минск, 1977.
111. Зайка, В. Літоўскі Ерусалім: ужо нябачны простым вокам... / В. Зайка // ARCHE. 2003. № 5 (28). Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2003-5/zajk503.html – Дата доступу: 10.06.2009.
112. Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. Ч. 1–2. СПб., 1864.

113. Зельцер, А. Евреи советской провинции: Витебск и местечки 1917–1941. / А. Зельцер. М., 2006.
114. Зябловский, Е. Землеописание Российской империи для всех состояний. / Е. Зябловский. Ч. 6. СПб., 1810.
115. Игнатенко, А.П. Введение в историю БССР: периодизация, источники, историография / А.П. Игнатенко. Минск, 1965.
116. Из истории народного образования на Гродненщине (конец XVIII – начало XX вв.). Гродно, 1990.
117. Иоффе, Э. Историография евреев Беларуси досоветского периода / Э.Г. Иоффе // Материалы 10-й ежегодной Международной междисциплинарной конференции по иудаике. Ч.1. М., 2003. С. 391–402.
118. Иоффе, Э.Г. Страницы истории евреев Беларуси / Э.Г. Иоффе. Минск, 1996.
119. История евреев в России: труды по иудаике / отв. ред. Д.А. Эльяшевич. СПб., 1993.
120. История евреев на Украине и в Белоруссии: труды по иудаике / отв. ред. Д.А. Эльяшевич. СПб., 1994.
121. Каганович, А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии / А. Каганович. Иерусалим, 2007.
122. Калінін, В. Цыганы на Беларусі // З гісторыяй на “Вы”. Выпуск другі / В. Калінін; уклад. У. Арлова. Мінск, 1994.
123. Камінскі, А. Пад хвалямі Крэўскага мора / А. Камінскі. Маладэчна, 2002.
124. Канапацкі, І.Б. Гісторыя і культура беларускіх татар / І.Б. Канапацкі, А.І. Смолік. Мінск, 2000.
125. Кандель, Ф. Очерки времен и событий: из истории российских евреев: в 3 ч. Ч. 2.: 1772–1882. Иерусалим, 1990.
126. Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.) / В.В. Грыгор’ева [і інш.]; навук. рэд. У.І. Навіцкі. Мінск, 1998.
127. Карнялюк, В. З гісторыі барацьбы жыхароў мястэчка Крынкі за свае правы ў першай палове XIX ст. // Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2 (13–14). С. 29–34.
128. Карпачев, А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в.: Дис. … доктора ист. наук / А.М. Карпачев. Минск, 1970.
129. Карпачев, А.М. Мануфактура с принудительным трудом и ее значение в развитии капитализма / А.М. Карпачев // Вопросы истории. 1962. № 8.
130. Катлярчук, А. Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў / А. Катлярчук. Мінск, 2002.
131. Киштымов, А.Л. Украинский вектор белорусской экономики (конец XVIII – начало XX в). / А.Л. Киштымов // Беларусь-Украіна: гістарычны вопыт узаемаадносін: Матэрыялы міжнар. навук.

канф. (Мінск, 18–19 сакавіка 2003 г.). Мінск: Інстытут гісторыі НАНБ, 2004. С. 176–182.
132. Киштымов, А.Л. Экономика Белоруссии XIX – начала XX в.: государственная политика и частная инициатива / А.Л. Киштымов // Экономическая история России XIX–XX вв.: современный взгляд. М., 2000. С. 132–145.
133. Киштымов, А. Экономическая эволюция Беларуси в составе Российской империи: характеристика, тенденции, итоги / А. Киштымов // Наш Радавод. Кн. 8. Гродна, 1999. С. 247–255.
134. Киштымов, А.Л. Экономические достижения Беларуси в XIX – начале XX в. / А.Л. Киштымов // Гісторыя Беларусі ў еўрапейскім кантэксце. Мінск, 2002. С. 22–52.
135. Киштымов, А.Л. Экономическое наследие Речи Посполитой в народном хозяйстве Беларуси / А.Л. Киштымов // Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы, Міжнародная навук. канф. (2006, Гомель) / рэдкал.: Р.Р. Лазько (адк. рэд.) і інш. Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2006. С. 27–33.
136. Кітурка, І.Ф. Гісторыя Беларусі: дапаможнік / І.Ф. Кітурка. Гродна, 2007.
137. Кітурка, І.Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII – XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця / І.Ф. Кітурка; пад рэд. В.Ф. Голубева. Гродна, 2003.
138. Кіштымаў, А.Л. Гарады і мястэчкі / А. Кіштымаў // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIШ – пачатак XX ст.). Мінск, 2005. С.129, 128–137.
139. Кіштымаў, А. Гомельскі маёнтак графа М.П.Румянцава: вопыт гаспадарання / А. Кіштымаў // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 1. С. 20–27.
140. Кіштымаў, А. Прамысловасць. Шляхі зносін. Гандаль / А. Кіштымаў // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.). Мінск, 2005. С. 118–128.
141. Клиер, Дж. Д. Россия собирает своих евреев: Происхождение еврейского вопроса в России: 1772–1825. / Дж. Д. Клиер. М.; Иерусалим, 2000.
142. Козловский, П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. / П.Г. Козловский. Минск, 1982.
143. Козловский, П.Г., Инвентари и хозяйственные документы магнатских владений Белоруссии XVI–XVIII вв. и инвентари помещичьих имений первой половины XIX в. как исторический источник / П.Г. Козловский, В.В. Чепко // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Минск, 1964. С. 24–42.

144. Копысский, З.Ю. Сборники документов по истории Белоруссии, изданные в БССР (1921–1971) / З.Ю. Копысский // Археографический ежегодник за 1974 г. М., 1975.
145. Копысский, З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. / З.Ю. Копысский. Минск, 1975.
146. Копысский, З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI – XVII в.) / З.Ю. Копысский. Минск, 1966.
147. Корева, А. Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния / А. Коррева. СПб., 1861. С. 731–747.
148. Коробков, Х.Г. Экономическая роль евреев в Польше в конце XVIII в. / Х.Г. Коробков // Еврейская старина. СПб., 1910. Вып. 3. С. 346–377.
149. Коўкель, Л.І. Прыватныя бібліятэкі Гродзеншчыны (канец 18 – пачатак 20 ст. ) / Л.І. Коўкель // Шлях у навуку: Матэрыялы навук. канфер. Мінск, 1997. С. 80–84.
150. Крачковский, Ю.Ф. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования. 1803–1832 / Ю.Ф. Крачковский. Отдел 1. Вильна, 1903.
151. Крень, И.П. Щучин: историко-экономический очерк / И.П. Крень, Я.Н. Мараш. Минск, 1989.
152. Крук, У. Лагішынскае выступленне мяшчан 1874 г. / У. Крук // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Мінск, 1997.
153. Кузняева, С. Еврейские общины Беларуси в конце XVIII – начале XX в. / С. Кузняева. Минск, 1998.
154. Кулагин, А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII – начало XIX в. / А.Н. Кулагин. Минск, 1981.
155. Куль-Сяльверстава, С.Я. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII – 1820-я гады) / С.Я. Куль-Сяльверстава. Мінск, 2000.
156. Лакотка, А. Мястэчка / А. Лакотка // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 11. Мінск, 2000. С. 79–80.
157. Лакотка, А. Мястэчка / А. Лакотка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 251.
158. Лакотка, А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры / А.І. Лакотка. Мінск, 1999.
159. Лакотка, А.І. Пад стрэхамі прашчураў / А.І. Лакотка. Мінск, 1995.
160. Лемпертас, И. О юморе Литваков / И. Лемпертас // Материалы Двенадцатой ежегодной междисциплинарной конференции по иудаике. Ч. 1. Академическая серия. Вып. 18. М., 2005. С. 421–431.
161. Ліўшыц, У. Горкі. Горы-Горацкая земляробчая школа. Горы-Горацкі земляробчы інстытут / У. Ліўшыц // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996. С. 90, 93.

